# УСТУП

У гэтым томе «Археалогіі Беларусі» на аснове археалагічных крыніц з выкарыстаннем, дзе гэта магчыма, дадзеных іншых навук асвятляецца гістарычнае развіццё старажытнага насельніцтва, якое насяляла тэрыторыю Беларусі ў эпоху жалеза (VIII—VII стст. да н. э. — IV—V стст. н. э.) і ранняга сярэднявечча (V—VI стст. — VIII—IX стст. н. э.). Пачатак жалезнага веку звязваюць з распаўсюджаннем металургіі жалеза і вырабаў з яго. Навыкамі вытворчасці і апрацоўкі жалеза ў першую чаргу авалодала насельніцтва Паўднёвай Беларусі, што адбывалася ў другой чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э., і толькі ў яго другой палове жалеза стала асноўным матэрыялам для вырабу прылад працы і зброі ў плямёнаў, якія насялялі цэнтральную і паўночную частку яе тэрыторыі. Шырокае распаўсюджанне на Беларусі балотных і азёрных руд, адносная прастата здабычы жалеза ў сырадутных домніцах садзейнічалі яго паўсюднаму пашырэнню. З'яўленне жалеза ў старажытных плямёнаў на тэрыторыі нашай краіны стала важнай вехай у іх гісторыі, яно значна паўплывала на характар матэрыяльнай культуры і гаспадаркі, стварыла вялікія магчымасці для новых тэхналагічных ідэй, практычна зраўняла шанцы ўсіх рэгіёнаў Еўропы на прагрэс у галіне вытворчасці. Асновай комплекснай гаспадаркі насельніцтва жалезнага веку сталі земляробства і жывёлагадоўля, узровень якіх дазволіў забяспечваць не толькі пэўны пражытачны мінімум, але і ствараць запасы сельскагаспадарчай прадукцыі, што стымулявала развіццё рамеснай вытворчасці, абмену і гандлю. Рост маёмасці ў асноўных груп насельніцтва прыводзіў да войнаў з мэтаю грабяжу і заняволення. Каб абараніць накопленае дабро і жыццё суродзічаў ад прагных да лёгкай здабычы суседзяў, насельніцтва ўмацоўвае свае паселішчы, абносіць іх зямляныміваламі і равамі. Так узнікаюць гарадзішчы, якія становяцца асноўным тыпам паселішчаў на працягу амаль усёй эпохі жалеза. Сукупнасць археалагічных дадзеных дазваляе сцвярджаць, што старажытнае грамадства ў разглядаемы перыяд знаходзілася на стадыі разлажэння родавага ладу. Рост вытворчых магчымасцей комплекснай гаспадаркі, павелічэнне абмену, ваенная здабыча садзейнічалі ўзмацненню ролі асобных сем'яў і адасабленню родаплемянной вярхушкі. Нарастаючыя працэсы стратыфікацыі грамадства прыводзілі да ўскладнення сацыяльных адносін і сувязей. Эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча характарызуюцца складанымі этнакультурнымі працэсамі, якія адлюстраваліся ў значных перамяшчэннях плямёнаў, узаемадзеяннях розных этнічных груповак, знікненні адных і з'яўленні іншых археалагічных культур. Насельніцтва Беларусі не было ізаляваным, мела кантакты і сувязі з блізкімі і далёкімі народамі, адчувала і ўспрымала культурныя імпульсы, якія надыходзілі з боку Прычарнамор'я і Скіфіі, гальштацка-латэнскіх і правінцыяльна-рымскіх культур, Прыбалтыкі, Волга-Окскага рэгіёна і інш.

Жыццё чалавека эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча адбывалася ў шчыльным ўзаемадзеянні з акаляючым яго прыродным асяроддзем. Беларусь — гэта вялікая лясістая раўніна. Захад і поўнач яе вышэйшыя, з няроўным узгоркаватым ландшафтам, на поўдні прасціраецца роўная балоцістая Палеская нізіна. Найбольш высокім месцам Беларусі з'яўляецца Беларуская града, якая пачынаецца каля Гародні і цягнецца на ўсход за Оршу і на левабярэжжы Дняпра злучаецца са Смаленскім узвышшам. Стужкі вялікіх і малых рэк праразаюць краіну ва ўсіх накірунках і ад сярэдзіны Беларусі разбягаюцца ў два бакі — да Балтыйскага і Чорнага мораў. У межах краіны размешчана значная частка водападзелу паміж гэтымі марамі, які пралягае па паўночна-заходнім ускрайку Палесся, па Капыльскай градзе, Мінскім і Аршанскім узвышшах. Беларусь абдымае верхнія часткі вадазборнікаў некалькіх вялікіх рэк Еўропы: Дняпра, Нёмана, Заходняй Дзвіны, праз Заходні Буг адкрываецца шлях ў басейн Віслы. У цэлым гідраграфічная сетка Беларусі налічвае звыш 20 тысяч рэк і 10 тысяч азёр. Рэкі мелі вельмі важнае значэнне ў жыцці старажытнага насельніцтва. Яны адыгрывалі ролю галоўных шляхоў зносін як улетку, так і ўзімку. Па іх прасоўваліся групы людзей, асвойваючы новыя тэрыторыі, па іх пралягалі асноўныя накірункі ўнутрыплемянных і знешніх кантактаў і абмену. На багатых травамі абалонных паплавах пасвілі жывёлу і нарыхтоўвалі сена. У рэках і азёрах лавілі рыбу, а на іх берагах — баброў, вадаплаўную птушку і іншых звяроў, якія цягнуліся да вады. На берагавых тэрасах будавалі паселішчы і асвойвалі палі.

У межах Беларусі вылучаюць дзярнова-падзолістыя глебы, пашыраныя на ўзвышшах і плоскіх водападзелах. У ніжэйшых мясцінах, дзе назіраецца скапленне атмасферных ападкаў і блізка залягаюць грунтавыя воды, сфарміраваліся дзярнова-падзолістыя забалочаныя і тарфяна-балотныя глебы У далінах рэк, асабліва ў цэнтры і на поўдні краіны, пашыраны поймавыя глебы. На карбанатных і багатых вапнаю пародах утварыліся дзярновакарбанатныя глебы. Па механічнаму складу яны расчляняюцца на гліністыя, суглінкавыя, пясчаныя і супясчаныя. Больш высокай прыроднай урадлівасцю адзначаюцца гліністыя і суглінкавыя глебы, але ў цэлым глебы Беларусі не вельмі ўрадлівыя. Клімат краіны ўмерана-кантынентальны пры значным уздзеянні паветраных мас Атлантыкі, даволі цёплы і вільготны Вегетацыйны перыяд доўжыцца ад 180 сутак на поўначы да 208 сутак на поўдні. Прыродна-кліматычныя ўмовы Беларусі дастаткова добрыя для жыцця і дзейнасці чалавека.

Вучонымі вызначана, што прыродна-кліматычныя ўмовы Беларусі ў 1-м тысячагоддзі да н. э. — 1-м тысячагоддзі н. э. былі падвергнуты пэўным зменам. За апошнія гады назапашаны вялікі паліналагічны матэрыял па позналедавікоўю і галацэну Беларусі. Разгледжаны вынікі спорава-пылковых аналізаў 216 разрэзаў, што дазволіла даволі дробна расчляніць ападкавыя накапленні па зменах у складзе палінакоплексаў, скласці ўяўленне аб паслядоўнасці этапаў развіцця водна-балотнай і наземнай расліннасці, зрабіць палеакліматычныя рэканструкцыі і адзначыць наяўнасць слядоў антрапагеннага фактару (Горецкий, 1970; Величкевич, 1973; Богдель, 1983; Еловичева, 1993 і інш.). Па распрацаванай даследчыкамі схеме кліматычных ваганняў жалезнаму веку і ранняму сярэднявеччу адпавядае канец другога заключнага этапу суббарэальнага перыяду (SB-2 — XX — V стст. да н. э.), першы этап субатлантычнага перыяду (SA-1 — V ст. да н. э. — IV ст. н. э.), пачатак другога этапу субатлантычнага перыяду (SA-2 — IV — XIV стст. н. э.). У SB-2 клімат быў цёплым і крыху больш вільготным, чым сучасны, а ся-

рэднегадавыя тэмпературы практычна нагадвалі сучасныя. Гадавая тэмпература SA-1 была меншай за сучасную на 0,5—1,5°, а ападкаў выпадала на 25—50 мм меней, чым зараз. Клімат быў умерана халаднаваты і сухі, у спорава-пылковых спектрах пастаянна адзначалася зерне хлебных злакаў і элементы сінантрапічнай расліннасці. Пад час другой фазы SA-2 клімат быў умерана цёплым і вільготным, а сярэднегадавыя тэмпературы адпавядалі сучасным альбо былі вышэйшыя на 0,5—1,5°. Аднак на пераломе паміж этапамі SA-1 і SA-2 (абсалютная дата 1440 ± 70 гадоў назад) фіксуецца пахаладанне, калі тэмпература знізілася на 1—1,5°, а ападкаў выпадала на 50—75 мм менш. Павышэнне тэмпературных паказчыкаў і павялічэнне колькасці ападкаў назіраецца каля X ст. (Еловичева, 1993. С. 51—53). З другога этапу субатлантыкі ў паліналагічных комплексах узрастае доля пылку травяністых раслін і скарачаецца драўнінных. Гэты факт можна патлумачыць скарачэннем лясных масіваў і пашырэннем плошчаў выганаў і палёў. У гэты час у прэпаратах яскрава фіксуюцца мінеральныя часцінкі і мазолістыя целы, якія адлюстроўваюць моцнае развіццё ворнага земляробства, што вызвала эразійныя працэсы глебы.

Назапашванне ведаў аб гісторы насельніцтва Беларусі ў эпоху жалеза і ранняга сярэднявечча пачалося ў мінулым стагоддзі. У другой палове XIX — пачатку XX ст. гэты працэс абмяжоўваўся фактычна фіксацыяй археалагічных помнікаў (у першую чаргу гарадзішчаў) і іх картаграфаваннем. У выніку дыскусій сфарміравалася думка, што пэўная частка выяўленых умацаваных паселішчаў належыць насельніцтву дадзяржаўнага перыяду. Планамерныя і мэтанакіраваныя пошукі і раскопкі помнікаў VIII ст. да н. э. — VIII ст. н. э распачаліся ў Беларусі ў 1920-я гады. Вялікае значэнне для стварэння першых навуковых канцэпцый аб гісторыі плямёнаў эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча мелі вынікі палявых даследаванняў археолагаў і краязнаўцаў А. М. Ляўданскага, С. А. Дубінскага, А. Д. Кавалені, І. А. Сербава, І. Х. Юшчанкі, С. С. Шутава, В. Р. Тарасенкі, А. О. Рынейскага, І. Р. Калодкіна, А. Г. Немцава, М. Н. Канвісарава, М. М. Улашчыка і інш. Выяўленыя на той час матэрыялы падсумаваў і абагуліў А. М. Ляўданскі (Лявданский, 1932. С. 54—61) і распрацаваў першую навукова абгрунтаваную схему гістарычнага развіцця насельніцтва Беларусі ў дадзяржаўны перыяд. Ён адзначыў храналагічныя і тэрытарыяльныя асаблівасці ў матэрыяльнай культуры насельніцтва таго часу і на гэтай падставе вылучыў тры групы гарадзішчаў: са штрыхаванай керамікай у Цэнтральнай Беларусі, з гладкасценнай у басейнах Заходняй Дзвіны і Верхняга Дняпра і гладкасценнай, але іншых формаў, падобных да керамікі з помнікаў Паўночнай Украіны, на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі. Даследчык прасачыў тэндэнцыю развіцця структуры абарончых збудаванняў гарадзішчаў са штрыхаванай керамікай ад драўляных сцен па перыметру пляцоўкі на першапачатковым этапе іх існавання да ўзвядзення складаных земляных умацаванняў пад час піка іх функцыянавання. А. М. Ляўданскі заўважыў, што ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. у Сярэдняй і Паўночнай Беларусі з'яўляюцца селішчы, існуючыя раней гарадзішчы набываюць новыя абарончыя збудаванні, а іх культурныя напластаванні ўтрымліваюць выключна гладкасценную кераміку.

Значным укладам у разуменне характару сацыяльна-эканамічных працэсаў, якія адбываліся ў эпоху жалеза на Беларусі, сталі даследаванні па гісторыі чорнай металургіі і металаапрацоўкі (Ляўданскі, Палікарповіч, 1932; Ляўданскі, 1933). Выкарыстоўваючы дадзеныя археалогіі, этнаграфіі і прыродазнаўчых навук, А. М. Ляўданскі апісаў увесь комплекс тэхналагічных

прыёмаў ад моманту здабычы руды да вырабу жалезных прадметаў. Не менш значным вынікам гэтых даследаванняў стала аргументацыя мясцовага характару чорнай металургіі. У працах археолагаў міжваеннага перыяду абгрунтавана палажэнне, што плямёны эпохі жалеза — гэта добра адаптаванае да прыродных умоў лясной зоны аседлае насельніцтва, асновай гаспадаркі якога стала земляробства і жывёлагадоўля. У працэсе разгляду пытанняў этнічнай гісторыі выказаны меркаванні аб прыналежнасці помнікаў Паўночнай і Сярэдняй Беларусі літоўскаму (балцкаму) насельніцтву (Ляўданскі, 1930. С. 336; Дубінскі, 1927. С. 363), а славяне з'явіліся на гэтай тэрыторыі толькі ў канцы 1-га тысячагоддзя н. э. Вынікі прац невялікай групы даваеннага пакалення археолагаў у сэнсе назапашвання археалагічных матэрыялаў, іх гістарычнай інтэрпрэтацыі і ўводу ў навуковае абарачэнне ўражваюць. Безумоўна, з іх высокім прафесійным патэнцыялам яны маглі б зрабіць яшчэ вельмі і вельмі шмат, але лёс не спрыяў ім. Чырвонае кола палітычных рэпрэсій спыніла іх плённую працу ў самым росквіце. Усе археолагі, якія працавалі ў Акадэміі навук Беларусі і вывучалі праблемы эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча, загінулі ў 1937 г., а большасць краязнаўцаў былі падвергнуты пераследу і вымушаны спыніць сваю працу (Вяргей, 1992).

Пасля другой сусветнай вайны вывучэнне гісторыі насельніцтва эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча паступова аднаўляецца. У 1950—1960-я гады распачынаюць сістэматычныя палявыя даследаванні супрацоўнікі і аспіранты Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі А. Р. Мітрафанаў, Г. В. Штыхаў, Л. Д. Побаль, В. Б. Нікіціна (Караткевіч), К. П. Шут. У гэты ж час на тэрыторыі рэспублікі раскопкі і разведкі праводзілі навукоўцы з археалагічных устаноў Ленінграда і Масквы — П. М. Траццякоў, Ю. У. Кухарэнка, В. М. Мельнікоўская, Э. А. Сымановіч, К. В. Каспарава, І. П. Русанава, Ф. Д. Гурэвіч, Л. В. Аляксееў.

Пасляваенны час характарызуецца значным ростам маштабаў палявых даследаванняў, пашырэннем крыніцазнаўчай базы, удасканаленнем методыкі раскопачных прац. Сістэматызацыя выяўленых матэрыялаў адбывалася шляхам вылучэння і апісання археалагічных культур, якія разглядаліся як пэўны этап сацыяльна-эканамічнай і этнічнай гісторыі старажытнага насельніцтва. Здейснена археолага-культурная стратыфікацыя мноства крыніц, прасочаны змены і развіццё археалагічных культур на Беларусі ў 1-м тысячагоддзі да н. э. — 1-м тысячагоддзі н. э. Арэалы большасці даследуемых культур выходзілі за сучасныя межы Беларусі і разуменне іх спецыфікі стала магчымым толькі з улікам распрацовак археолагаў суседніх і больш далёкіх краін. У выніку інтэнсіўнай і плённай працы ў 1950—1970-х гадах былі вылучаны і ў рознай ступені ахарактарызаваны старажытнасці амаль усіх вядомых зараз на тэрыторыі Беларусі археалагічных культур жалезнага веку і ранняга сярэднявечча, а менавіта мілаградскай і зарубінецкай на поўдні Беларусі (Третьяков, 1959. С. 119—153; Кухаренко, 1961, 1964; Мельниковская, 1967; Поболь, 1971—1974; Каспарова, 1969. С. 131—168; Яна ж, 1976. С. 128—140; Яна ж, 1981), культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1955, 1978; Гуравич, 1962), днепра-дзвінскай (Митрофанов, 1955; Алексеев, 1959. С. 273—315; Шут, 1966. С. 168—182; Ён жа, 1969. С. 262—289; Штыхов, 1971; Шміт, 1963; Ён жа, 1972. С. 102—116; Ён жа, 1975), паморскай (Кухаренко, 1961; Никитина, 1964. С. 43—47; Яна ж, 1965. С. 194—205), кіеўскай (Поболь, 1969; Ён жа, 1974. С. 159—180), вельбарскай (Кухаренко, 1961, 1980), калочынскай (Сымонович, 1963. С. 97—137; Ён жа, 1975.

С. 17—28; Поболь, 1969. С. 89—117; Перхавко, 1978), банцараўскай (Митрофанов, 1978; 1980. С. 102—110; Перхавко, 1978), пражскай (Кухаренко, 1961, 1961 а; Русанова, 1973, 1976). Важную ролю ў разуменні этнакультурных працэсаў, што адбываліся на Беларусі ў VIII ст. да н. э. — VIII ст. н. э. мела калектыўная абагульняючая праца «Очерки по археологии Белоруссии», якая выйшла ў 1970 г., а таксама этапныя манаграфіі П. М. Траццякова (Третьяков, 1966), В. В. Сядова (Седов, 1970), Э. М. Загарульскага (Загорульский, 1977). У канцы 1970-х — 1990-я гады кола даследчыкаў, якія далучыліся да вывучэння помнікаў эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча, павялічылася. Увага была сканцэнтравана на маладаследаваных рэгіёнах і праблемах. На падставе новых матэрыялаў і новых інтэрпрэтацыйных падыходаў удакладняліся і дэталізаваліся характарыстыкі археалагічных культур. Выяўляліся іншыя лакальныя і храналагічныя комплексы помнікаў. Былі падсумаваны вынікі шматгадовых даследаванняў днепра-дзвінскіх старажытнасцей у Беларускім Падзвінні (Шадыро, 1985) і Верхнім Падняпроўі (Шмидт, 1992), пашыраны, удакладнены, а па асобных пазіцыях і зменены ўяўленні аб гістарычным развіцці плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі (Егорейченко, 1996; Медведев, 1996), дэталізаваны палеаэтнаграфічныя прыкметы мілаградскай культуры, яе рэгіянальныя асаблівасці, распрацоўваліся пытанні храналогіі, гаспадаркі, узаемаадносін і сувязей яе насельніцтва з іншымі тэрыторыямі (Рассадин, 1989; Лошенков, 1990; Егорейченко, 1996), вылучана і ахарактарызавана чачэрская група верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры (Обломский, 1983 а; Дробушевский, 1998), уведзены ў навуковае абарачэнне новыя матэрыялы зарубінецкіх паселішчаў Палесся (Бяліцкая, 1996. С. 94—118). Працягвалася накапленне і сістэматызацыя археалагічных матэрыялаў культур калочынскай (Макушников, 1987), пражскай (Егорейченко, 1991. С. 61—82; Гурын, 1994. С. 152—164; Вергей, 1994. С. 63—85; Яна ж, 1997. С. 28—38), ранніх доўгіх курганоў (Штыхаў, 1992), усходнелітоўскіх курганоў (Зверуго, 1989, Медведев, 1996). Этнакультурныя працэсы ў другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. у Днепра-Дзвінскім міжрэччы знайшлі сваё адлюстраванне ў працах В. І. Шадыры (Шадыро, 1993 а; Ён жа, 1995. С. 202—212), В. М. Ляўко і Ю. У. Каласоўскага (Левко, 1987. С. 157—163), А. А. Седзіна (Седин, 1997. С. 279—289), А. У. Ільюцік (Ильютик, 1995. С. 141—161). Вывучаліся тэхналагічныя асаблівасці вытворчасці і апрацоўкі жалеза (Гурын, 1982; Ён жа, 1997. С. 93—98) і старажытнага ганчарства (Дубицкая, 1998).

У гэтай працы падсумаваны вынікі даследаванняў многіх пакаленняў археолагаў. Сістэматызацыя і класіфікацыя выяўленых матэрыялаў дазволіла з усёй магчымай паўнатою ахарактарызаваць важнейшыя рысы культур жалезнага веку і ранняга сярэднявечча на тэрыторыі Беларусі, прасачыць дынаміку і тэндэнцыі развіцця, міжкультурныя кантакты, генетычныя сувязі, узаемаўплывы, звязаныя з абменам і гандлем, шляхі міграцыйных патокаў і перамяшчэння насельніцтва. Значная ўвага нададзена вызначэнню храналогіі культур як у цэлым, так і іх асобных этапаў і асобных помнікаў, што садзейнічае больш дакладным гістарычным рэканструкцыям. Аднак прадстаўленая да ўвагі чытачоў праца адлюстроўвае і тыя пытанні, якія яшчэ не маюць канчатковага вырашэння, у ёй маецца шэраг дыскусійных палажэнняў і высноў, асабліва гэта тычыцца праблем храналогіі і этнічнай гісторыі.

Раздзел 1

# УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ МЕТАЛУРГІІ І АПРАЦОЎКІ ЖАЛЕЗА

Адкрыццё прамога спосабу вытворчасці жалеза з руды і выкарыстанне яго для вырабу прылад працы прывялі да сапраўднага тэхнічнага прагрэсу і значна паскорылі развіццё чалавецтва. Асваенне новага металу даволі хутка пашыралася на поўдні Еўропы і дасягнула межаў нашай краіны. У VII—VI стст. да н. э. суседнія плямёны скіфаў і кельтаў добра валодалі тэхнікай і тэхналогіяй металургіі і апрацоўкі жалеза і сталі. Іх вытворчыя цэнтры выпускалі якасную прадукцыю, якая дасягала гандлёвымі шляхамі тэрыторыі рассялення плямёнаў мілаградскай культуры. Важна адзначыць, што неўзабаве сярод мясцовага насельніцтва знайшліся майстры, якія навучыліся самі здабываць жалеза і каваць з яго розныя вырабы. Сведчаннем таго, што жалеза ўжо на раннім этапе мілаградскай культуры стала адыгрываць важную ролю ў жыцці людзей, з'яўляюцца знаходкі ў час раскопак гарадзішчаў Мохаўскае-1, Гарошкаў і іншых дзесяткаў жалезных вырабаў і нават скарбу (тры сярпы, сякера і цясла) прылад працы, а таксама металургічных шлакаў у ніжніх слаях культурнага пласта (Мельниковская, 1967. С. 56, 140). Менавіта наяўнасць адходаў металургічнай вытворчасці на археалагічным помніку з'яўляецца бясспрэчным доказам мясцовай здабычы жалеза, паколькі кавальскія вырабы маглі быць і прывазнымі Напрыклад, наканечнікі дзідаў гальштацкага тыпу (VII—VI стст. да н. э.), што выяўлены каля в. Дубай Столінскага раёна (Кухаренко, 1961. С. 11), або аналагічны прадмет, знойдзены разам з бронзавымі сякерамі-кельтамі меларскага тыпу паблізу в. Урыцкае Гомельскага раёна (Палікарповіч, 1947. С. 45).

У VI—V стст. да н. э. з жалезам пазнаёміліся плямёны днепра-дзвінскай культуры і штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978. С. 9). На шматлікіх гарадзішчах сустракаюцца жалезныя вырабы і шлакі, а на некаторых выяўлены рэшткі сырадутных печаў (горнаў). У беларускім Падзвінні асваенне вытворчасці жалеза адбывалася марудна, шырокае ўкараненне ў побыт мясцовага насельніцтва прылад працы з новага матэрыялу адзначаецца бліжэй да рубяжа нашай эры (Шадыро, 1985. С. 51, 101). Яшчэ вельмі трывалай была традыцыя выраблядь патрэбныя ў гаспадарцы рэчы з каменя і косці. Але паступова жалеза заваёўвала сабе належныя пазіцыі. І прычынай для гэтага было не толькі паўсямеснае распаўсюджанне яго ў прыродзе, але і здольнасць сплаваў жалеза з вугляродам і іншымі хімічнымі элементамі ў выніку тэрмаапрацоўкі набываць высокую цвёрдасць і трываласць, чаго не маглі забяспечыць ні камень, ні бронза. Тым больш што для металургіі бронзы на нашых землях няма адпаведнай сыравіны.

Такім чынам, з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі наступіў век жалеза, сплавы якога (сталь, чыгун) і ў нашы дні складаюць звыш 90 % у агульнай здабычы і апрацоўцы металаў. Таму ў нейкай ступені маюць рацыю тыя даследчыкі, якія лічаць, што жалезны век працягваецца.

Праблема вывучэння металургіі і апрацоўкі жалеза ў Беларусі ўжо ў 20-я гады нашага стагоддзя цікавіла навукоўцаў. Высокай ацэнкі заслугоўваюць працы А. М. Ляўданскага і К. М. Палікарповіча, С. Баркоўскага і В. Скардзіса, у якіх на археалагічных і архіўных матэрыялах разгледжана развіццё гэтай вытворчасці на беларускіх землях (Ляўданскі, Палікарповіч, 1932; Ляўданскі, 1933; Баркоўскі, Скардзіс, 1931).

Зямля Беларусі мела ўсё неабходнае для металургіі жалеза. Хоць буйныя радовішчы жалезнай руды, выяўленыя геолагамі ў Стаўбцоўскім і Карэліцкім раёнах, па глыбіні залягання (155—220 м) старажытным гарнякам былі недаступныя, яны з поспехам скарыстоўвалі невялікія радовішчы так званых балотных рудаў (мал. 1), што залягаюць на глыбіні да 1,5 м і з'яўляюцца лёгка аднаўляльнымі злучэннямі. Толькі на поўдні рэспублікі вядома больш за 150 дробных радовішчаў ліманітаў, охры, сідэрыту, глаўканіту з запасамі да дзвюх тысяч тон кожнае (БелСЭ. Т. 12. С. 20). Некаторыя залежы выдзяляюцца больш значнымі запасамі руды ў сотні тысяч тон (Блиодухо, 1952. С. 243). Адкладанні бурых жалезнякоў нярэдка прасочваюцца на плошчы многіх гектараў у поймах рэк. Яны залягаюць у выглядзе пліт і кавалкаў розных памераў (мал. 3:1,2). Аналізы хімічнага складу паказалі, што руды ўтрымліваюць ад 21,5 да 35% жалеза (Праца... 1928. С. 33; Блиодухо, 1952. С. 178, 201, 227; Баркоўскі, Скардзіс, 1931. С. 60). Акрамя жалеза, руды ўтрымліваюць вокіслы алюмінію, марганцу, нікелю, кобальту, злучэнні медзі, фосфару, хрому, ванадыю, а таксама арганічныя рэчывы. Падрыхтоўка большасці гатункаў руд заключалася ў шматразовай прамыўцы, сушцы, здрабненні да памераў арэха і пракальванні на вогнішчы. Аднак для некаторых рудаў пракальванне было непажаданым, напрыклад з радовішчаў у пойме нёманскай Бярэзіны (Osiński, 1782. S. 63). Падкрэслім, што балотныя руды былі асноўнай сыравінай для металургіі жалеза не толькі ў Беларусі, але нават на Урале і ў Сібіры ў XVII—XVIII стст. (Де-Генин, 1937. С. 70—71).

Даволі прыдатным палівам для металургіі жалеза быў драўняны вугаль: у ім мала попелу і амаль няма серы і фосфару, якія з'яўляюцца шкоднымі дамешкамі і дрэнна ўплываюць на якасць металу. Выпальванне вугалю ў Беларусі праводзілася кучным спосабам, што дазваляла атрымліваць паліва з утрыманнем агульнага вугляроду да 95%. У залежнасці ад памераў кучы працягласць працэсу складала некалькі дзён і патрабавала пэўных ведаў і майстэрства. Недахопу ў драўніне не было, але важна было прытрымлівацца тэрмінаў нарыхтоўкі дроў, правільнага складання іх у кучу, пакрыцця яе слоем галінак, імху і саломы, а таксама зямлі, забеспячэння прытоку паветра і адводу газаў, каб не дапусціць выбухаў, якія маглі разбурыць кучу (Коробкин, 1948. С. 259—264).

Для паспяховага правядзення металургічнага працэсу патрэбна была таксама і вапна, хоць няма ўпэўненасці ў тым, што яна заўсёды выкарыстоўвалася старажытнымі майстрамі. Залежы вапны часта сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі ў выглядзе даламіту, мергельна-мелавых парод і інш. (Таранович, 1935. С. 556; БелСЭ. Т. 12. С. 18). Для будаўніцтва сырадутных печаў металургі скарыстоўвалі гліну, залежы якой сустракаюцца амаль паўсямесна.

Печы для атрымання жалеза з руды былі шахтнага тыпу. Яны выяўлены на некаторых гарадзішчах Цэнтральнай Беларусі: Кімія, Аздзяцічы, Свідна,

Цербахунь і інш. Фрагментарнасць даследаваных печаў не дазваляе зрабіць належную рэканструкцыю (мал. 2), хоць яе спроба можа быць рэальнай пры ўліку матэрыялаў з суседніх краін — Польшчы (Belenin, 1966. S. 39—50), Украіны (Бідзіля, 1970. С. 34—47; Паньков, 1982. С. 206—212; Пачкова, 1970. С. 142—150; Балагури, 1975. С. 274), Славакіі (Mihok, Miroššayova, 1994. S. 1), Чэхіі (Pleiner, 1958. S. 169). Трэба адзначыць, што названае А. М. Ляўданскім печчу скапленне гліны на гарадзішчы Лабеншчына было памылковае, таму не было прызнана спецыялістамі (Струмилин, 1954. С. 13). Можна меркаваць, што найбольш аптымальнымі памерамі печаў былі вышыня каля 0,7 м і дыяметр да 0,9 м пры таўшчыні сценак каля 10 см, аднак у залежнасці ад матэрыялаў, выкарыстаных для будаўніцтва печы, яны маглі мець і іншыя параметры (Pawłowski, 1979. S. 193; Gömöri, 1980. S. 318—319).

На жаль, для ранняга этапу развіцця металургіі ў нас няма звестак аб выкарыстанні соплаў для падачы паветра ў печ, а таксама аб форме мяхоў, якія былі неабходны і пры печы, і пры кавальскім горне.

Для правядзення металургічнага цыкла ў папярэдне падрыхтаваную і належна разагрэтую печ засыпаліся паслойна здробненая і пракаленая руда і драўняны вугаль, а таксама вапна. Пры гарэнні вугалю выдзяляецца вуглекіслата $CO_2$, якая адразу ж пераходзіць у вокіс вугляроду і ўступае ў рэакцыю з рудой. У выніку гэтай да канца яшчэ не вывучанай рэакцыі ўзнікаюць мікраскапічныя часцінкі адноўленага жалеза, а парода руды шлакуецца. Трэба адзначыць, што металургічны працэс адбываўся пры тэмпературах не вышэй за 1350 °С (Байков, 1948. С. 342; Колчин, 1953. С. 24). Гэта значыць, што расплаўленне жалеза не наступала, таму і выкарыстанне тэрміна «плаўка» не мэтазгодна. Такая тэмпература не пераводзіла і шлак у вадкі стан, што спрыяла нармальнаму працяканню працэсу крыцаўтварэння. Густацякучы стан шлаку (мал. 3:6), які з'яўляўся складаным хімічным злучэннем пустой пароды з дамешкамі жалеза, марганцу і іншых элементаў, што ўтрымліваюцца ў рудзе, паліве і флюсах, быў тым асяроддзем, дзе мікрачасцінкі адноўленага жалеза пасляхова злучаліся паміж сабой (Савельев, 1963. С. 39—40). Размешчаныя побач мікрачасцінкі спачатку наводзілі паміж сабой «масткі» (мал. 4:2), рост якіх ажыццяўляўся дыфузійным пераносам масы рэчыва. Гэта яскрава сведчыць аб цвёрдафазным спяканні (Гурин, 1988. С. 368). Злучаючыся далей у групы, мікрачасцінкі паступова аб'ядноўваліся ў канкрэцыі, а далейшае спяканне іх стварала крыцы (мал. 3:3,4), якія з'яўляюцца канчатковым металургічным прадуктам і зыходнай сыравінай для кавальства. Вага крыц першапачаткова была невялікай — 50—100 грамаў (Гурин, 1982. С. 27), а пазней майстры навучыліся атрымліваць крыцы масай у сотні грамаў.

Металаграфічны аналіз канкрэцый, выяўленых у шлаку, і крыц, яшчэ не апрацаваных кавалямі, праведзены на аптычных і электронных мікраскопах (мал. 4, 5), дазволіў не толькі глыбей пазнаць металургічны працэс, ацаніць якасць зыходнага жалеза, але і ўстанавіць, што спяканне мікрачасцінак у крыцы нярэдка адбывалася пры ўдзеле вадкай фазы (Gurin, 1996. P. 122). Калі звярнуцца да дыяграмы «жалеза — вуглярод», становіцца відавочным, што значная колькасць часцінак і дробных канкрэцый, трапіўшых у зону, абмежаваную лініямі солідус і ліквідус, пераходзіла ў вадкі стан. Пры залішняй наяўнасці вугляроду ў печы яго дыфузія ў мікрачасцінкі і іх скапленні адбывалася асабліва інтэнсіўна і навугляроджанне металу нават пры невысокіх тэмпературах дасягала значнай канцэнтрацыі, што прыводзіла да рас-

плаўлення некаторых часцінак. Наяўнасць вадкай фазы спрыяла лягчэйшаму перамяшчэнню цвёрдых часцінак, змочвала іх паверхні, паскарала дыфузію розных кампанентаў і сам працэс спякання. Вельмі важна, калі ў працэсе крыцаўтварэння вадкая фаза запаўняла поры і пустоты, што забяспечвала атрыманне крыц амаль тэарэтычнай шчыльнасці. Інакш пустоты заставаліся і ў горшым выпадку запаўняліся шлакам, што забруджвала метал. Дарэмна сцвярджаць, што шлакавыя ўключэнні можна было выціснуць з крыцы шляхам працяглай пластычнай апрацоўкі (Колчин, 1953. С. 42, 45). Гэта было магчыма толькі пры коўцы да вельмі тонкай пласціны. Часцей за ўсё ўключэнні шлаку застаюцца ў вырабах у больш ці менш дэфармаваным стане. На мал. 4:3 паказана запаўненне вадкай фазай (ледзебурыт) мікрапрасторы паміж перлітнымі часцінкамі, якое пры далейшых шматразовых нагрэвах для коўкі і звязаных з гэтым дыфузійных працэсах зменіць свой структурны выгляд.

Пры значнай ізатэрміі ў розных зонах сырадутнай печы нават на працягу аднаго металургічнага цыкла навугляроджанне асобных канкрэцый было нярэдка разнастайным. Далейшае спяканне іх у крыцы прыводзіла да таго, што размеркаванне вугляроду ў метале аказвалася неаднародным. У некаторых крыцах яго ўтрыманне ў розных месцах вагаецца ад 0 да 1,2% (Anteins, 1976. Lpp. 42), ды і самі крыцы па гэтым паказчыку значна адрозніваюцца (Stankus, 1996. S. 57—58). Металаграфічныя назіранні дазваляюць акрэсліць характэрныя асаблівасці крычнага металу — высокую порыстасць і мноства шлакавых уключэнняў, якія часцей за ўсё прадстаўлены фаялітам (70% FeO і 28% $SiO_2$). Бываюць таксама і двухфазныя ўключэнні, дзе на цёмным фоне фаяліту маюцца светлыя ўкрапленні віостыту (100% FeO). Выкарыстанне спецыяльных рэактываў наглядна паказала, што вуглярод, а таксама злучэнні фосфару і серы размеркаваны ў метале нераўнамерна. Часта сустракаюцца ферыта-перлітныя структуры, іншы раз з цэментытам (мал. 4:4). Ёсць высокавугляродзістыя крыцы, для якіх характэрны: перліт, цэментыт і ледзебурыт. Трапляюцца канкрэцыі са структурамі белага і нават шэрага чыгуну (мал. 4:5,6) (Гурин, 1982. С. 27—35; Ён жа, 1988. С. 370—373).

Адзначаныя характэрныя рысы зыходнага металу вывучалі і даследчыкі з суседніх краін. Напрыклад, у крыцы, знойдзенай пад Ковелем (Заходняя Украіна), якая датуецца познарымскім часам, побач з ферытам і перлітам маецца ледзебурыт (Mazur, Nosek, 1965. S. 113). Структуры ферыту, перліту, цэменціту, ледзебурыту і нават графіту выяўлены ў канкрэцыях і крыцах з тэрыторыі Польшчы (Nosek, 1964. S. 167). У некаторых выпадках крыцы маюць ферыта-перлітную структуру ў сярэдняй частцы і значна навугляроджаны прыпаверхневы слой, у якім назіраюцца структуры белага чыгуну ў выглядзе астраўкоў перліту на фоне цэменціту (Piaskowski, 1960. S. 576). Нераўнамернае і высокае навугляроджанне жалеза пры аднаўленні з руды і крыцаўтварэнні адзначаецца многімі даследчыкамі, якія праводзілі навуковыя эксперыменты па мадэляванню сырадутнага працэсу (Колчин, Круг, 1965. С. 198; Pleiner, Radwan, 1962. S. 315—318; Souchopová, 1995. S. 51).

У шматлікіх канкрэцыях, выяўленых у кавалках шлаку, ферыт і перліт набылі выгляд відманштэтавай структуры, што сведчыць аб хуткім ахаладжанні шлакаў, якія, напэўна, перыядычна выпускаліся з печы. Вывучэнне шлакаў дае важную навуковую інфармацыю па розных праблемах старажытнай металургіі жалеза. Напрыклад, вялікія глыбы шлака паказваюць, што майстры выкарыстоўвалі для аднаўлення жалеза печы са шлаказборнікам. Вугалькі ў шлаку і адбіткі на кавалках шлаку даюць магчымасць высветліць,

якія пароды дрэў былі найбольш пажаданымі для выпальвання вугалю, а іх аналіз на $C_{14}$ неабходны для датыроўкі. Расплаўленне кавалкаў шлаку з фіксацыяй тэмператур, пры якіх яны набываюць цякучасць, дапамагло ўстанавіць тэрмарэжым у сырадутных печах. Мінімальныя тэмпературы, пры якіх утвараліся шлакі з беларускіх помнікаў, знаходзяцца ў інтэрвапе 1260—1340 °С. Для атрымання якасных крыц тэмпературу падымалі да 1450 °С. У тым выпадку, калі атрымліваліся высокавугляродзістыя крыцы, практыкавалі тамленне з мэтай пазбавіцца ад лішкаў вугляроду.

Вынутую з печы крыцу папярэдне апрацоўвалі, каб адбіць прыліплы шлак і надаць бясформеннай масе некаторую форму (мал. 3:5). Калі майстры рыхтавалі метал для гандлю або абмену, яны надавалі паўфабрыкатам таварную форму. У Заходняй Еўропе паўфабрыкаты часта мелі выгляд ромба з выцягнутымі канцамі. Сотні іх знойдзены ў Прырэйнскай вобласці, сустракаюцца яны сярод мвтэрыялаў лужыцкай культуры і прызнаюцца за імпартаваныя прадметы (Krupkowski, Reyman, 1953. S. 56—58; Cabalska, Nosek, Mazur, 1971. S. 57, 71—72). Падобны паўфабрыкат ёсць у калекцыі з гарадзішча Мыслі Капыльскага раёна. Хутчэй за ўсё жалеза, атрыманае мясцовымі майстрамі, выкарыстоўвалася для вырабу прылад працы для свайго насельніцтва. У паўночнай частцы Беларусі выяўлены майстэрні па апрацоўцы чорнага металу на гарадзішчах Буракова, Кастрыца, Урагава. Яны размяшчаліся ў асобных пабудовах стаўбавой канструкцыі, дзе знойдзены рэшткі горнаў і каменныя кавадлы (Шут, 1966. С. 169—170). На гарадзішчы Малышкі выяўлены каменны молат, які выкарыстоўвалі для пракоўкі крыц (Митрофанов, 1978. С. 48). Безумоўна, кавалі мелі і жалезныя інструменты, бо без іх было немагчыма выканаць разнастайныя вырабы, асартымент якіх і на раннім этапе быў даволі значным. Гарантыяй выкарыстання належных інструментаў мясцовымі кавалямі з'яўляюцца знаходкі малаткоў і абцугоў у ваколіцах Варшавы (Kokowski, 1981. S. 194; Waluś, 1979. S. 120—125).

Па функцыянальнаму прызначэнню вырабы з жалеза і сталі, якія выяўлены на паселішчах ранняга жалезнага веку Беларусі, можна ўмоўна падзяліць на чатыры групы: прылады працы, прадметы гаспадарчага ўжытку, зброя, рыштунак конніка і каня. Пры гэтым значна пераважаюць рэчы, якія падкрэсліваюць шматгаліновы характар дзейнасці мясцовага насельніцтва з перавагай земляробства, палявання, рыбалоўства, апрацоўкі дрэва, косці, металаў і г. д. Сярод універсальных прылад працы на першае месца выходзяць нажы, найбольш распаўсюджаныя тыпы якіх прадстаўлены на мал. 6. Нажы мілаградскай культуры тыпалагічна блізкія да скіфскіх — аднalязовыя з гарбатай спінкай. Яны мелі драўляныя або касцяныя ручкі, якія набіваліся на дзяржанне, а іншы раз накладкі мацаваліся пры дапамозе заклёпак. У апошнія стагоддзі да н. э. выраблялiся нажы з прамой спінкай. Абодва тыпы нажоў былі ў карыстанні насельніцтва культур зарубінецкай, днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі. З пачатку н. э. нажы мелі прамую спінку, але так званыя нажы для жніва нагадвалі ў значнай ступені сярпы малых памераў. У раннім сярэднявеччы сустракаюцца нажы з волютападобным заканчэннем ручкі.

Металаграфічныя даследаванні дазволілі ўстанавіць тэхналагічныя схемы выканання нажоў. Часцей за ўсё яны выраблялiся з жалеза і нізкавугляродзістай сталі (мал. 9:1—3; 10:3). Пры гэтым жалеза іншы раз мае зоны з некаторай канцэнтрацыяй вугляроду, якія нельга тлумачыць цэментацыяй, таму што іх наяўнасць не адпавядае тэхналагічнай абгрунтаванасці:

вуглярод неназіраецца на рабочых частках прылад працы. Стальныя нажы нярэдка характарызуюцца нераўнамерным размеркаваннем вугляроду ў метале. Аднабаковая цэментацыя выяўлена ў нажах кіеўскай культуры. У некаторых экземплярах навугляроджана рэжучая частка ляза. Пры гэтым нярэдка назіраюцца сляды тэрмічнай апрацоўкі, у прыватнасці загартоўкі. У VI—VIII стст. часта для вырабу нажоў выкарыстоўваліся нарыхтоўкі са шматпалоснай псеўдапакетнай структурай (мал. 10:5), што атрымлівалася ў выніку коўкі крыц да тонкіх пласцін, складвання іх і зваркі паміж сабою. Падкрэслім, што ўласцівасці нажоў, зробленых з псеўдапакетнага металу, значна больш высокія, чым са звычайнага крычнага жалеза. Гэтаму спрыяла і дасканалае валоданне кавалямі метадамі і прыёмамі гарачай зваркі.

Жалезныя прылады для жніва збожжавых культур — сярпы — былі ў шырокім карыстанні насельніцтва мілаградскіх плямёнаў. Аналагічныя сярпы часта сустракаюцца пры раскопках паселішчаў культуры штрыхаванай керамікі. Большасць з іх мае малыя памеры, а па форме не вельмі значна адрозніваецца ад нажоў для жніва. Парадаксальна, што сярпы, якія выкарыстоўваліся людзьмі для працы толькі ў летнія месяцы, колькасна пераважаюць над нажамі, хоць тыя былі універсальнымі прыладамі і служылі на працягу ўсяго года. Для днепра-дзвінскай культуры быў характэрны свой тып сярпоў з шырокім лязом і амаль прамавугольнай спінкай (мал. 7:1,2). Пазней з'яўляюцца экземпляры з вельмі выгнутым лязом (Пруднікі). Калі на раннім этапе сярпы вялікіх памераў былі рэдкімі (Ліскі), то ў насельніцтва кіеўскай культуры сталі пастаяннай з'явай, што яшчэ больш датычыць пражскай культуры. Хоць і не часта, але выяўлены сярпы з насечкамі на рэжучым краі, напрыклад, у экземплярах з гарадзішча Хільчыцы. Па спосабу мацавання ручак сярпы пераважна чаранковыя, але іншы раз практыкаваліся другія варыянты нітавання накладак да дзяржання.

Тэхналогія выканання ляза сярпоў у большасці выпадкаў даволі простая: яны адкаваны з жалеза альбо сталі з нераўнамерным размеркаваннем вугляроду ў метале без дадатковых прыёмаў. У сярпах культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай выяўлена зварка «ўнахлёст», выкарыстанне якой, як і псеўдапакетаванне на раннім этапе, дыктавалася малой масай крыц. Сустракаюцца экземпляры са шматпалоснага псеўдапакетнага металу (мал. 10:4), а таксама цэментаваныя. Добрая захаванасць рэжучага краю ляза сярпоў з гарадзішча Івань стварыла магчымасць у выніку памераў мікрацвёрдасці на шліфах зафіксаваць павышаную цвёрдасць менавіта на рэжучым краі некаторых экземпляраў і на падставе гэтага гаварыць аб прымяненні наклёпу. Сярод сярпоў з селішча Абідня, якое ўваходзіць у арэал кіеўскай культуры, выяўлены суцэльнастальныя загартаваныя экземпляры. У сярпах банцараўскай культуры тэрмаапрацоўка пакуль што не назіралася, таму што яны выкананы з жалеза і нізкавугляродзістай сталі, а таксама з аналагічнай сыравіны, апрацаванай спосабам пакетавання. Па ўтрыманню вугляроду такі метал не можа набыць структуры загартоўкі нават тады, калі яе спрабавалі прымяніць.

Сякеры ў раннім жалезным веку былі пераважна вузкалязовыя з абухом і ўтульчатыя (мал. 8:1—6). Асобны тып інструмента прадстаўляе сабой правушная сякера-клін з гарадзішча Старое Краснае (мал. 8:7). Своеасаблівасць рабочай часткі гэтага прадмета стварае несумненную цяжкасць пры вызначэнні назначэння і сферы прымянення яго ў дзейнасці чалавека. Яшчэ адзін тып інструмента знойдзены на паселішчах культур штрыхаванай ке-

рамікі і днепра-дзвінскай (Кашчэлічы, Лабеншчына, Цясты і інш.) — гэта так званая сякера чаранковая фінскага тыпу. Аналогіі ёй маюцца ў археалагічных матэрыялах з тэрыторыі Латвіі (Anteins, 1976. Lpp. 14). Прылада працы нагадвае долата вялікіх памераў з тоўстым, круглым у сячэнні чаранком. Рабочая частка падобная на лязо сякеры (мал. 8:8). Арэал такіх прылад даволі абмежаваны: яны сустракаюцца толькі ў помніках на тэрыторыі Прыбалтыкі, таму і разглядаюцца як характэрныя для балцкага круга рэчы (Митрофанов, 1978. С. 35). Сякеры-кельты, выяўленыя на паселішчах культур мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі, уяўляюць сабой інструменты, у якіх утулка знаходзіцца ў абушковай частцы перпендыкулярна да ляза. Драўлянае дзяржанне было каленчатым. У Беларусі сякеры-кельты часцей за ўсё маюць прамавугольную ўтулку, хоць сустракаюцца і авальныя. Экземпляр з гарадзішча Старое Краснае каля вусця ўтулкі забяспечаны абоймай.

Аб тыпах сякер, ад якіх захаваліся толькі фрагменты ляза, гаварыць няма сэнсу, але металаграфічнае вывучэнне такіх знаходак вельмі неабходнае, таму што дае рэальнае ўяўленне аб якасці рабочых частак дрэваапрацоўчых інструментаў, якія служылі і для высечкі леса пры лядным земляробстве, і пры пабудове жылля, абарончых збудаванняў, і пры іншых занятках насельніцтва. Нашы даследаванні сякер тыпу кельтаў паказалі, што яны зроблены з крычнага жалеза ў наступнай паслядоўнасці. Шляхам папярэдняга нагрэву і пластычнай апрацоўкі крыцы пракоўваліся да пласцін і зварваліся для атрымання масіўнай нарыхтоўкі, якая скручвалася ў трубку. З аднаго канца ёй прыдавалі форму ўтулкі, а другі ператваралі ў лязо. Пры гэтым выкарыстоўвалася зварка і швы нярэдка назіраюцца на шліфах. Большасць сякер-кельтаў выкананы з нераўнамерна навугляроджанага жалеза. У экземпляры з гарадзішча Івань маецца падабенства цэментацыі ляза, што прасочваецца нават на макраструктуры. На жаль, рэжучы край гэтага кельта значна пашкоджаны, што не дае магчымасці меркаваць аб першапачатковай ступені насычэння ляза вугляродам. Падобная тэхналогія прымянялася кавалямі пры вырабе сякер-кельтаў у Закарпацці (Бидзиля, Вознесенская, Недопако, Паньков, 1983. С. 83).

Тэхналогія вырабу правушных сякер заключалася ў выцяжцы нарыхтоўкі ў доўгую пласціну, выгінанні яе ў сярэдняй частцы з мэтай выканання адтуліны для драўлянага дзяржання, зварцы канцоў паміж сабой і прыданні ім формы ляза. У такіх выпадках на шліфе заўсёды відно зварное шво. Іншы раз лязо адкоўвалася толькі з выкарыстаннем аднаго канца нарыхтоўкі, а другі прыварваўся да ляза на рознай адлегласці ад рабочай часткі. Для вытворчасці сякер ужываліся крычнае жалеза, сырцовая сталь (мал. 9:4,6), а іншы раз шматпалосны «пакетны» метал. Сустракаюцца сякеры з цэментаваным лязом (Падгор'е). Асабліва часта практыкавалі падрыхтоўку паўфабрыкатаў метадам пакетавання сыравіны для вырабу ляза майстры кіеўскай, калочынскай і пражскай культур. Так, амаль усе даследаваныя металаграфічна сякеры з селішча Тайманава маюць шматпалосную структуру пры невысокім утрыманні вугляроду ў метале. Маленькая сякера з селішча Чэрнічы, якая па форме нагадвае тып баявых, у лязе мае павышаную канцэнтрацыю вугляроду, што паказвае на спробу прымянення цэментацыі.

Разнастайныя кавальскія вырабы з жалеза і сталі адпавядалі свайму прызначэнню і былі выкананы па традыцыйных схемах свайго часу. Няма магчымасці расплавядаць аб усіх відах кавальскай прадукцыі, таму коратка

аб некаторых прадметах. Нажніцы выяўлены толькі спружынныя (Мыслі). Па форме яны блізкія да еўрапейскіх аналагаў. Долаты маюць невялікія памеры, адкаваны цалкам з крычнага жалеза. У экземпляры з Абідні адзначаецца падабенства цэментацыі. Рыбалоўныя кручкі знойдзены толькі вялікія і заўсёды маюць бародку і пятлю для прывязвання ніткі або шнура. Іх месцазнаходжанні нярэдка звязаны з луской і касцямі буйных рыбаў. Для вырабу кручкоў выкарыстана крычнае жалеза з нераўнамерным размеркаваннем вугляроду. Крэсівы ранняга перыяду не даследаваліся, а экземпляры кіеўскай культуры выкананы ў выглядзе пласцін з расшыраным рабочым краем і звужаным, загнутым пятлёй верхнім канцом. Крэсіва з Абідні зроблена з сырцовай сталі і загартавана. Фібулы латэнскіх тыпаў былі ў шырокім карыстанні насельніцтва Беларусі ў раннім жалезным веку. Бытавалі таксама падкоўападобныя фібулы (Чаплін, Васіліха, Кастрыца і інш.). Многія фібулы дасканала апрацаваны, а некаторыя пакрыты бронзаю. Як паказаў аналіз, часцей за ўсё фібулы выкананы з жалеза і сталі з невысокім утрыманнем вугляроду. Падобная структура латэнскіх фібул адзначаецца і польскімі даследчыкамі (Piaskowski, 1970. S. 395).

Кіяпадобныя шпількі — частыя знаходкі на паселішчах культур мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі. Звычайна іх даўжыня 6—8 см, але сустракаюцца шпількі даўжынёй 19 см, а на некаторых помніках Палесся — нават звыш 30 см. Выраблялiся як з каляровага, так і з чорнага металу, у прыватнасці з жалеза з нізкім утрыманнем і нераўнамерным размеркаваннем вугляроду. Шпількі цвікападобнай формы знойдзены на гарадзішчы Ліскі. Аналогіі ім ёсць у скіфскіх матэрыялах. Шляпкі цвікападобных шпілек дасягаюць 5 см. Адкаваны з сырцовай сталі з сярэднім і высокім утрыманнем вугляроду (мал. 9:5). З нізкавугляродзістага металу рабіліся і бранзалеты. Экземпляр з гарадзішча Ястрабка мае дробназярністую структуру і пакрыты бронзаю. Трэба падкрэсліць, што майстар дасканала валодаў тэхнікай нанясення каляровага металу на жалезную аснову, аб чым сведчыць запаўненне пакрываючым сплавам нават мікраскапічных пораў.

Зброя была ў шырокім карыстанні насельніцтва ранняга жалезнага веку, але найбольш грунтоўна яна прадстаўлена ў матэрыялах археалагічнага комплексу ў Чапліне. Тут знойдзены шматлікія і разнастайныя па тыпах наканечнікі коп'яў і стрэлаў, а таксама баявыя нажы. Адзін з іх мае бронзавую ручку, хоць сам выкананы з жалеза (Поболь, 1971. С. 122). Выраб утульчатых коп'яў патрабаваў ад майстроў не толькі валодання аперацыямі зваркі, але і прымянення спецыяльных кавальскіх прыстасаванняў і інструментаў. Аналіз наканечнікаў коп'яў з гарадзішчаў Ліпнякі, Аздзяцічы, з селішча Васіліха і іншых сведчыць, што яны выкананы з крычнага жалеза, сырцовай сталі і шляхам пакетавання металу. З улікам тагачаснага стану ахоўных даспехаў такая зброя адпавядала свайму прызначэнню. Трэба адзначыць, што, за выключэннем Чапліна, наканечнікі коп'яў пры раскопках археалагічных помнікаў ранняга жалезнага веку сустракаюцца не часта, а на некаторых і зусім пакуль што не выяўлены, гэта наводзіць на думку аб адносна мірным характары насельніцтва, якое выкарыстоўвала кап'ё ў першую чаргу для палявання на дзікіх жывёл.

Наканечнікі стрэлаў таксама прымяняліся і ў ваеннай справе, і на паляванні. Экземпляры з гарадзішча Хільчыцы значна пашкоджаны карозіяй і немагчыма гаварыць аб іх тыпах. Наканечнікі стрэлаў з гарадзішча Леніна і

селішча Чэрнічы маюць ромбападобную з выцягнутымі канцамі форму, сплюснутыя з папярочнікам у выглядзе лінзы. Сустракаюцца пераняты ад качэўнікаў трохлопасцевыя наканечнікі (Тайманава). І пазней форма, памеры пяра стрэлаў залежалі ад мэты прызначэння — мелі контуры ліста, ромба або трохвугольніка. З улікам аднаразовага выкарыстання наканечнікі стрэлаў выконваліся без высокіх тэхналагічных прыёмаў з крычнага жалеза, нізкавугляродзістай сталі, а іншы раз і з шматпалоснага псеўдапакетнага металу.

У рыштунку конніка таксама было шмат дэталяў з жалеза: кольцы і звёны цугляў, шпоры і інш. Раннія шпоры выконваліся ў выглядзе невялікай дужкі з вострым канічным шыпам і адагнутымі вонкі кручкамі на канцах. Шпоры рымскага часу (III—IV стст.) выяўлены ў Чапліне, на гарадзішчах Дзявічкі, Дзядзілавічы, Лабеншчына. Сустракаліся шпоры і на помніках банцараўскай культуры (Гарадзішча, Некасацк, Стары Шклоў), у самых ранніх доўгіх курганах (Дарахі). Пры вырабе дэталяў рыштунку кавалі ўжывалі крычнае жалеза з рознай ступенню навугляроджання, у якім нярэдка назіраецца шмат уключэнняў шлаку (мал. 10:1). Астатнія віды кавальскай прадукцыі якасцю металу або тэхналогіяй выканання асебліва не выдзяляюцца з агульнага асартыменту вырабаў.

Металаграфічныя даследаванні вырабаў з жалеза і сталі, знойдзеных на археалагічных помніках жалезнага веку, даюць падставу высока ацаніць майстэрства таленавітых людзей, якія ўмелі з руды атрымаць метал, а затым зрабіць з яго адпаведную, патрэбную ў штодзённым жыцці прыладу працы, зброю, побытавую рэч. На раннім этапе асваення жалеза майстры сумяшчалі ў адной асобе і металурга, і каваля. Гэтыя кемлівыя людзі валодалі вялікім аб'ёмам ведаў у галіне тэхналогіі апрацоўкі металаў. Нягледзячы на тое што сыравіна для кавалёў была нярэдка нізкаякаснай, спецыялісты, улічваючы функцыянальнае прызначэнне інструментаў, рацыянальна прымянялі разнастайныя аперацыі коўкі, зваркі, цэментацыі, а пазней і тэрмаапрацоўкі. Заўважана, што пры выкананні адказных прылад працы крычнае жалеза пракоўвалася больш старанна, чым пры вырабе прадметаў разавага карыстання. Сустракаюцца выпадкі, калі праводзілася коўка недастаткова нагрэтага або астываючага металу, аб чым сведчыць моцна дэфармаванае зерне (мал. 10:2). Гарачая зварка не заўсёды была ўдалай і зварныя швы іншы раз назіраюцца ў выглядзе «строчак» або нават адбывалася расслаенне прадмета. Аднак у большасці вырабаў адзначаюцца добрыя зварныя злучэнні. Асабліва паспяхова выкарыстоўвалася зварка пры пакетаванні сыравіны.

Цэментацыя ў класічным выглядзе фіксуецца не часта. Яе вызначэнне ўскладняецца нераўнамерным першасным навугляроджаннем, аднак можна лічыць яе прымяненне бясспрэчным. Часцей за ўсё праводзілася лакальная цэментацыя, пры якой вугляродам насычалася толькі рабочая частка або адна з паверхняў ляза. Можна меркаваць, што майстры кіеўскай культуры ўжо выкарыстоўвалі скразную цэментацыю для атрымання сталі. У вырабах мілаградскай і зарубінецкай культур структуры загартоўкі пакуль што не выяўлены. Магчыма, як і ў скіфаў, яна прымянялася не часта (Шрамко, Фомин, Солнцев, 1971. С. 152). Але кавалі кіеўскай культуры часта праводзілі тэрмічную апрацоўку стальных прылад працы і інструментаў (мал. 10:6). Практыкавалася нават мясцовая загартоўка рэжучага краю ляза. Абавязкова загартоўваліся цэментаваныя прадметы. На жаль, не вельмі часта адзна-

чаюцца загартаваныя вырабы сярод стальной прадукцыі, што была ў карыстанні насельніцтва калочынскай, банцараўскай і пражскай культур, хоць сустракаюцца тэрмаапрацаваныя экземпляры. Сярод іх назіраецца і лакальная загартоўка, і загартоўка ў мяккім асяроддзі, а магчыма, і водпуск загартаваных вырабаў.

Аб іншых відах металаапрацоўкі ўжо згадвалася вышэй. Наконт пакрыцця жалезных прадметаў меднымі сплавамі рызыкоўна сцвярджаць, што такая тэхналогія была даступна мясцовым майстрам. Хутчэй за ўсё вырабы з пакрыццямі з каляровых металаў з'яўляюцца імпартнымі.




*Мал. 1. Карта-схема Беларусі з нанясеннем радовішчаў балотных руд. Умоўныя абазначэнні: а — буры жалязняк (ліманіт), б — гематыт. Складзена на падставе няпоўных даных геалогіі (Блиодухо, 1952; Праца... 1928; Тарановіч, 1935), а таксама археалогіі, тапанімікі*




*Мал. 2. Рэканструкцыі сырадутных печаў жалезнага веку (а — культурны пласт; б — мацярык), выяўленых на тэрыторыі Беларусі і Польшчы: 1 — гарадзішча Кімія (па А. М. Ляўданскаму), 2 — свентакшыскі металургічны цэнтр (па К. Бяленіну)*




*Мал. 3. Кавалкі руды з Лісак і Кажан-Гарадка (1, 2), крыцы з Пятровіч і Тайманава (3, 4), паўфабрыкат з Крынічак (4), кавалкі шлаку з Тайманава (6, 7)*


















*Мал. 4 Мікрачасцінкі жалеза ў шлаку з Дзіўнага (x 100), «масткі» паміж мікрачасцінкамі (2, x 1000), ледзебурытнае запаўненне паміж перлітнымі часцінкамі (3, x 320), ферыт, перліт, цэменціт у крыцы з Тайманава (4, x 300), перліт, цэменціт, ледзебурыт (5, x 450), перліт пялёсткі графіту (6, x 160)*

1



2



3



*Мал 5. Фрактаграмы зломаў у крыцах з Тайманава зробленыя на электронным мікраскопе Павелічэнні. 1 — х 5000, 2 — х 2500, 3 — х 10000*




*Мал. 6. Нажы жалезнага веку і тэхналагічныя схемы іх выканання. Умоўныя абазначэнні (для мал. 6—8): А — жалеза, Б — сталь, В — тэрмаапрацаваная сталь, Г — псеўдапакетны метал. 1—4 — Ліскі; 5, 6 — Чаплін; 7—10 — Падгор'е, 11, 12 — Прысно; 13 — Івань; 14 — Кажан-Гарадок; 15 — Васіліха; 16, 17 — Абідня; 18—21 — Тайманава; 22 — Чэрнічы; 23, 24 — Нісімкавічы; 25 — Мыслі*







*Мал. 7. Сярпы жалезнага веку і тэхналагічныя схемы іх выканання: 1 — Барсукі; 2 — Бораўна; 3 — Мыслі; 4 — Івань; 5 — Абідня; 6 — Пруднікі; 7 — Цясты; 8 — Тайманава; 9 — Лужасна; 10 — Лясная; 11 — Рацюнкі; 12 — Барсукі; 13 — Ліскі*




*Мел. 8. Сякеры жалезнага веку і тэхналагічныя схемы іх выканання: 1 — Івань; 2, 3 — Чаплін; 4, 7 — Старое Краснае; 5 — Чэрнічы; 6 — Пруднікі; 8 — Цясты*




*Мал. 9. Мікраструктуры кавальскіх вырабаў: 1 — нож з селішча Абідня, ферыт, уключэнні шлаку, x 200, 2 — нож з гарадзішча Ліскі, ферыт, перліт, уключэнні шлаку, x 200, 3 — нож з селішча Чэрнічы, ферыт, перліт, нераўнамернае размеркаванне вугляроду, x 100; 4 — сякера-кельт з Чапліна, ферыт, перліт, уключэнні шлаку, відманштэтава структура, x 200; 5 — шпілька цвікападобная з гарадзішча Ліскі, ферыт, перліт, нераўнамернае размеркаванне вугляроду, месцамі відманштэтава структура, x 200; 6 — сякера са Старога Краснага, перліт, цэменціт на межах крысталітаў з аднаго боку ляза, x 500*

1



2



3



4



5



6



*Мал. 10. Мікраструктуры кавальскіх вырабаў: 1 — кальцо з гарадзішча Янава, ферыт, шмат буйных уключэнняў шлаку, х 100; 2 — нож з гарадзішча Падгор'е, дрэннае шво (у цэнтры), дэфармаваныя ферытныя крышталіты, х 200; 3 — нож з селішча Лемяшэвічы, ферыт, перліт, уключэнні шлаку, х 200; 4 — серп з гарадзішча Мыслі, псеўдапакетная структура, х 250; 5 — выраб невядомага прызначэння з гарадзішча Кажан-Гарадок, псеўдапакетная структура, х 100; 6 — фрагмент прылады з селішча Абідня, мартэнсіт, х 500*

Раздзел 2

# МІЛАГРАДСКАЯ І ПАМОРСКАЯ КУЛЬТУРЫ

## 1. АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ МІЛАГРАДСКАЙ КУЛЬТУРЫ

На тэрыторыю Беларусі прыпадае паўночная частка арэала мілаградскай культуры. У пачатку жалезнага веку (VII—VI стст. да н. э.) насельніцтва плямёнаў мілаградскай культуры рассялілася пераважна на Палессі і ў Верхнім Падняпроўі. У сучасных межах дзяржаў гэта тэрыторыя ахоплівае поўдзень Беларусі і паўночна-заходнюю частку Украіны. У нашай рэспубліцы археалагічныя помнікі гэтага насельніцтва распаўсюджаны ў Гомельскай, Брэсцкай і на поўдні Мінскай абласцей. Прадстаўлены яны паселішчамі (гарадзішчамі і селішчамі) і могільнікамі (грунтавымі і курганнымі). Па стане на канец 90-х гадоў вядома каля 300 помнікаў археалогіі мілаградскага насельніцтва (мал. 11). Акрамя таго, ёсць яшчэ шмат месцазнаходжанняў прадметаў матэрыяльнай культуры.

З гісторыі вывучэння адзначым, што мілаградская культура была адкрыта ў 50-х гадах. Дзякуючы разведкам і шырокім раскопкам помнікаў Паўднёва-Усходняй Беларусі, якія з 1951 г. праводзіліся Славянскай экспедыцыяй Інстытута археалогіі АН СССР пад кіраўніцтвам П. М. Траццякова, Ю. У. Кухарэнкі і В. М. Мельнікоўскай, быў атрыманы вялікі крыніцазнаўчы матэрыял. Яго асэнсаванне дазволіла вылучыць сярод ужо вядомых старажытнасцей новую археалагічную культуру — мілаградскую (назва па гарадзішчу каля вёскі Мілаград, што ў Рэчыцкім раёне).

У канцы XIX ст. на помнікі археалогіі Усходняй і Паўднёвай Беларусі звярталі ўвагу Е. Р. Раманаў, У. З. Завітневіч. Безумоўна, што сярод розных помнікаў даўніны былі і паселішчы з мілаградскімі адкладаннямі. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі вывучэннем іх у рознай ступені займаліся К. М. Палікарповіч, А. М. Ляўданскі, А. Д. Каваленя, С. А. Дубінскі, А. Рынейскі, І. Х. Юшчанка. Працы даваеннага часу зводзіліся галоўным чынам да пошукаў, удакладненняў звестак і ўліку ўсіх археалагічных помнікаў. Адначасова праводзіліся шурфоўкі і раскопкі іх невялікімі плошчамі. Так, А. М. Ляўданскі з С. А. Дубінскім даследавалі Шапатовіцкае (Чачэрскі раён) і Ворнаўскае (Кармянскі раён) гарадзішчы. І. Х. Юшчанка ў 1925, 1926 і 1929 гг. правёў вялікія працы на гарадзішчы Любны (цяпер паўднёва-заходняя ўскраіна Гомеля). У 1940-х гадах усе працы былі спынены ў сувязі з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны.

Палявыя даследаванні 50-х і пачатку 60-х гадоў абагульнены В. М. Мальнікоўскай у манаграфіі «Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке». У ёй выкладзена поўная характарыстыка плямёнаў мілаградскай культуры: вызначаны храналагічныя межы, тэрыторыя рассялення, разгледжаны звычаі пахавальных абрадаў, заняткі насельніцтва гаспадарчай дзейнасцю і рознымі відамі рамёстваў. Апісаны паселішчы, жылыя, гаспадарчыя і куль-

тавыя пабудовы. Аўтар выказала свой погляд на праблему паходжання і далейшага лёсу носьбітаў разглядаемай агульнасці. Яна атаясамлівае гэтае насельніцтва з Герадотавымі неўрамі. У дачыненні да славяна-балцкай праблематыкі зазначае, што калі ў нашым распараджэнні няма бясспрэчных дадзеных аб прыналежнасці гэтых (мілаградскіх. — *М. Л.*) плямёнаў старажытнейшым продкам сучасных усходнеславянскіх народаў, то і тыя звесткі, на падставе якіх іх злучаюць са старажытнабалцкімі плямёнамі, пакуль не дастаткова пераканаўчыя.

З другой паловы 70-х гадоў і да чарнобыльскіх падзей (1986 г.) беларускія археолагі правялі значныя расколкі на палескіх помніках. Г. М. Залашка даследаваў гарадзішчы на Правабярэжжы ніжняга цячэння Прыпяці. А. А. Егарэйчанка раскопваў паселішчы на поўначы цэнтральнай часткі Палесся. М. І. Лашанкоў вывучаў умацаваныя пасяленні ў міжрэччы Дняпра і ніжняга цячэння Прыпяці. На Левабярэжжы Дняпра, у басейне Ніжняга Пасожжа, помнікі мілаградскай культуры абследаваліся і раскопваліся С. Я. Расадзіным, В. І. Сычовым, А. І. Драбушэўскім. Н. М. Дубіцкая праводзіла працы на паселішчах у басейне ніжняга цячэння Бярэзіны. В. С. Вяргей вывучала селішчы ў Заходнім Палессі. У канцы 70 — пачатку 80-х гадоў археолагі рэспублікі займаліся суцэльным абследаваннем тэрыторыі ўсіх раёнаў у сувязі з выданнем «Збора помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ў сямі тамах. У выніку такой працы ў сярэдзіне 80-х гадоў была ўдакладнена колькасць помнікаў з мілаградскімі матэрыяламі. За два апошнія дзесяцігоддзі надрукавана шмат артыкулаў па старажытнасцях мілаградскай культуры. Апошнім часам выйшлі дзве кнігі, аўтары якіх у рознай ступені асвятляюць праблемы мілаградскай культуры. С. Я. Расадзін у працы «Землі амаль невядомыя» (1996 г.) выказвае свой погляд на звесткі Герадота аб неўрах і іх сувязь з мілаградскімі плямёнамі. А. А. Егарэйчанка ў кнізе «Древнейшие городища Белорусского Полесья» (1996 г.) падводзіць вынік вывучэнню помнікаў Паўночнага Палесся з матэрыяламі некалькіх археалагічных культур: мілаградскай, зарубінецкай і культурай штрыхаванай керамікі.

Адначасова з беларускімі і расійскімі археолагамі помнікі мілаградскай культуры на тэрыторыі паўночнай часткі Украінскага Палесся вывучалі іх калегі У. М. Даніленка, А. А. Пятроўская, І. К. Свешнікаў, М. П. Кучэра, А. У. Шэкун, В. Г. Жараў (Даниленко, 1953. С. 197—208; Ён жа, 1953. С. 5—16; Петровська, 1971. С. 9—22; Свєшников, 1971. С. 68—81; Кучера, 1976. С. 88—94; Шекун, 1995. С. 152—158; Жароа, 1991. С. 19—22; Ён жа, 1995. С. 45—50). Матэрыялы з украінскіх помнікаў дазваляюць прасачыць больш цесныя сувязі плямёнаў мілаградскай культуры з насельніцтвам Лесастэпу. Вылучаны падгорцаўскі варыянт у гэтай культуры.

## Паселішчы

Вывучэнне мілаградскай культуры паказала, што большую частку вядомых нам помнікаў складаюць паселішчы. Існуюць два іх віды: умацаваныя — гарадзішчы і неўмацаваныя — селішчы. З пункту гледжання тапаграфіі гарадзішчы будаваліся на высокіх берагах вялікіх рэк (Дняпра, Сажа, Прыпяці), на роўных пясчаных месцах у Палескай нізіне і на ўзвышшах ці на высокіх астанцах сярод багністых паплавоў. Цяпер устаноўлена, што ў насельніцтва мілаградскай культуры пераважаюць гарадзішчы, узведзеныя на раўніннай мясцовасці Палесся, так званыя балотныя. Гарадзішчы ж мысавага

тыпу складаюць прыкладна трэцюю частку ад вядомых. Натуральныя прыродныя перашкоды на подступах да разглядаемых паселішчаў удала спалучаюцца са спецыяльна ўзведзенымі штучнымі ўмацаваннямі. Апошнія складаюцца звычайна з землянога вала і рова са знешняга боку. У наш час шырыня вала ла падэшае дасягае 10—12 м (радзей — 16 м), а вышыня — 1,5—2 м і ў выключных выпадках да 3 м. На вяршынях насыпаных валоў меліся ў той час яшчэ і драўляныя агароджы ў выглядзе сцен. На жаль, яны не захаваліся. Роў, што праходзіў вакол вала, мае шырыню 3—5 м і глыбіню каля 1 м. На Палессі пляцоўкі гарадзішчаў умацоўваліся па ўсім перыметры (мал. 13:1,2,4), тады як у Падняпроўі — толькі з напольнага боку (мал. 12:1,2). З боку абрывістых берагоў рэк і глыбокіх яраў земляныя валы не насыпаліся, а схілы іх эскарпаваліся, каб надаць ім большую стромкасць. Варта адзначыць, што мілаградскія гарадзішчы маюць у большасці сваёй адну лінію ўмацаванняў (мал. 12, 13). У меншай ступені сустракаюцца паселішчы з дзвюма, трыма і больш лініямі абароны. Дадатковыя ўмацаванні ўзводзіліся толькі з боку больш небяспечных напрамкаў. Заўважана, што дадатковыя валы і равы маюць меншыя памеры ў параўнанні з галоўнымі. Так, валы былі шырынёй 5—6 м і вышынёй каля 1 м, а равы — шырынёй 2—3 м і глыбінёй 0,5—0,6 м. Формы гарадзішчаў, збудаваных у Падняпроўі па берагах рэк і прылягаючых да іх яраў, залежалі ў значнай ступені ад форм мысаў (мал. 12:2; 13:3). Менавіта гэты прыродны фактар вызначаў тую або іншую планіроўку паселішча. Такая ж залежнасць назіраецца і ў палескіх помнікаў, але ў тых, што знаходзяцца на высокіх астанцах. Формы пляцовак гарадзішчаў, пабудаваных на роўных нізкіх пясчаных месцах, не залежалі ад рэльефу мясцовасці, а вызначаліся меркаваннямі абарончага характару (Лошенков, 1990. С. 7). Знятыя планы сведчаць, што адны помнікі маюць правільныя геаметрычныя формы: круглыя, прамавугольныя, квадратныя, эліпсападобныя (мал. 13:1, 2,4). Другія аддалена нагадваюць трохвугольнік, ромб, пяцівугольнік, а трэція ўвогуле маюць абрысы няправільнага авала. Умацаваныя паселішчы насельніцтва мілаградскай культуры складаюцца, як правіла, з адной пляцоўкі і толькі нязначная іх колькасць мае дзве (мал. 12:2), тры і больш. Такая планіровачная структура ў плямён мілаградскай супольнасці не атрымала шырокага распаўсюджання. Вядома 16 помнікаў на ўсёй тэрыторыі пражывання «мілаградцаў». Складаная планіроўка паселішчаў з некалькіх пляцовак з'яўляецца з'явай, хутчэй за ўсё запазычанай у паўднёвых суседзяў: лесастэпавых плямён. Безумоўна, што гарадзішчы з адной пляцоўкай з'яўляліся месцамі пражывання і разнастайных заняткаў іх жыхароў. Наяўнасць жа дадатковых пляцовак тлумачыцца, відаць, большай функцыянальнай размежаванасцю паселішчаў. Дадатковыя пляцоўкі выкарыстоўваліся ў якасці могільнікаў (Гарошкаў) або для ўтрымання жывёлы ці заняткаў якімі-небудзь рамёствамі, а магчыма, і ў культавых мэтах. Памеры разглядаемых гарадзішчаў розныя. Іх плошчы вар'іруюць ад 1,3 да 90 тыс. кв. м. Самае вялікае ўмацаванае паселішча каля вёскі Бечы ў Жыткавіцкім раёне. Яго плошча больш за 90 тыс. кв. м.

Плошчы большасці помнікаў ад 2 да 10 тыс. кв. м, тады як памеры астатніх значна большыя. Разлікі паказваюць, што ў 50% мілаградскіх гарадзішчаў пляцоўкі складаюць толькі палову ад іх агульных памераў, таму што другая іх частка прыходзіцца на абарончыя збудаванні. Прыкладна ў трэцяй частцы даследаваных паселішчаў на пляцоўкі прыпадае 2/3 агульнай плошчы. У нязначнай колькасці помнікаў плошчы пляцовак складаюць толькі трэцюю іх частку. Параўноўваючы памеры гарадзішчаў мілаградскай куль-

туры з аналагічнымі помнікамі ў сінхронных плямён суседніх тэрыторый, варта адзначыць наступнае. Насельніцтва культур штрыхаванай керамікі, днепрадзвінскай і юхнаўскай будавала гарадзішчы меншых памераў, чым плямёны мілаградскай культуры. Паўднёвыя суседзі — плямёны лесастэпаў у адрозненне ад абшчын мілаградскіх будавалі ўмацаваныя паселішчы вельмі вялікіх памераў: іх плошчы складаюць дзесяткі гектараў. Падкрэслім, што самыя паўднёвыя мілаградскія гарадзішчы знаходзяцца ў Кіеўскім Палессі (Бовішча, Дзіброва, Радзінка) і маюць значныя памеры, а на Беларусі помнікі такіх памераў пакалізуюцца пераважна на поўдзень ад Прыпяці. Тым не менш з'ява будаваць умацаваныя паселішчы вялікіх памераў у насельніцтва мілаградскай культуры насіла абмежаваны характар.

Гарадзішчы ў мілаградскай культуры з'яўляюцца найбольш даследаванай катэгорыяй помнікаў. Культурны пласт на іх мае таўшчыню ў сярэднім 0,4—0,6 м. Максімальная магутнасць яго дасягае 0,8 м. У цэнтральнай частцы пляцовак слой мінімальнай таўшчыні, а каля вала ён заўсёды большы. Невялікая таўшчыня культурнага слоя тлумачыцца, з аднаго боку, аднаслойнасцю паселішчаў, а з другога — відаць, не працяглым іх функцыянiраваннем. Безумоўна, што пабудаваны разглядаемыя паселішчы менавіта мілаградскім насельніцтвам, таму гарызонт культурных адкладанняў папярэднікаў на іх адсутнічае. На гарадзішчах Усходнага Палесся пасля «мілаградцаў» ніхто не пражываў. У Падняпроўі і Пасожжы над мілаградскім пластом ёсць яшчэ слаі насельніцтва зарубінецкай культуры, а на некаторых з іх нават Кіеўскай Русі. Звычайна культурны пласт на гарадзішчах складаецца з супеску чорнага або шэрага колераў. Насычанасць слоя прадметамі матэрыяльнай культуры невысокая. Рэдка на якіх помніках культуры слой багаты на знаходкі. Пераважную большасць матэрыялаў складаюць абломкі посуду. Індывідуальныя вырабы сустракаюцца ў значна меншай колькасці, як і косці жывёл. Нягледзячы на невялікую магутнасць культурнага пласта, ён усё ж яшчэ захоўвае рэшткі пабудоў і іншых аб'ектаў старажытнасці. Даследчыкамі яны вынайдзены на такіх помніках, як Борхаў, Гарошкаў, Мілаград, Мохаў (першы і другі), Ліпнякі, Любны, Уваравічы, Чаплін. Галоўная даследчыца мілаградскіх старажытнасцей В. М. Мельнікоўская ўстанавіла два варыянты ўнутранай структуры пабудоў: скучанае размяшчэнне іх у цэнтральнай частцы пляцоўкі і размяшчэнне ўсіх пабудоў уздоўж вала (Мельниковская, 1967. С. 33). Пры апошняй планіроўцы ўтвараўся, такім чынам, агульны двор. Разгледжаныя дзве разнавіднасці ў планіроўцы пабудоў характэрны для гарадзішчаў Падняпроўя і Пасожжа. На ўсходнепалескіх помніках вядомы пакуль што адзін варыянт: размяшчэнне ўсіх збудаванняў уздоўж лініі абароны. Пабудовы на паселішчах мілаградскай культуры прадстаўлены некалькімі катэгорыямі: жытламі, збудаваннямі культавага і грамадскага прызначэння, падсобнымі памяшканнямі і ямамі гаспадарчага карыстання (скляпамі). В. М. Мельнікоўская вылучыла тры тыпы жытлаў у носьбітаў гэтай агульнасці: зямлянкі, паўзямлянкі і наземныя з незаглыбленай падлогай (мал. 14:3,4; 15:1) (Мельниковская, 1967. С. 35). Для гарадзішчаў, размешчаных на высокіх месцах у Пасожжы і Падняпроўі, былі характэрны паўзямлянкі (мал. 14:1,2). Іх аснаванні заглыблены ў глебу на 0,25—0,6 м. Вывучэнне аўтарам нізінных гарадзішчаў Усходняга Палесся паказала, што на іх будаваліся толькі наземныя жытлы з незаглыбленай падлогай (Лошенков, 1990. С. 12). Жылыя памяшканні «мілаградцаў» уяўляюць сабой аднакамерныя пабудовы, разлічаныя на адну невялікую сям'ю (мал. 14; 15:1). Іх плошчы вар'іруюць ад 10 да 50 кв. м, але ў большасці выпадкаў

роўныя 12—16 кв. м. Збудаванні мелі ў плане розныя формы, таму адны з іх нагадваюць квадрат, другія — прамавугольнік, а трэція — круг або авал (мал. 15:1). Як устаноўлена ў час раскопак помнікаў Падняпроўя і Пасожжа, жыхары паселішчаў выкарыстоўвалі два спосабы ўзвядзення сцен у наземных іх частках. Адны жытлы мелі плятнёвыя сцены, а канструкцыі другіх зводзіліся да таго, што тонкія бярвёны ўкладваліся гарызантальна паміж слупамі. З гэтага вынікае, што ў Падняпроўі і Пасожжы мілаградскае насельніцтва будавала калкова-слупавыя каркасы сцен у жытлах. На Палессі ж у той час выкарыстоўвалася, відаць, толькі зрубная канструкцыя сцен (Вергей, 1994 а. С. 133, 136. Рис. 2; Яна ж, 1995. С. 88). Нельга не адзначыць, што жытлы жыхароў мілаградскай культуры не абмазваліся глінай, таму пры рэштках збудаванняў абмазка адсутнічае. Плямёны суседніх культур штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, юхнаўскай выкарыстоўвалі гліну ў якасці абмазкі для жылых пабудоў, як і носьбіты зарубінецкай культуры. Раскопкі наземных жытлаў з заглыбленай падлогай і паўзямлянак паказалі, што яны ў адной са сцен ці ў кутку маюць характэрны выступ прамавугольнай, круглай або авальнай формы. На думку В. М. Мельнікоўскай, выступы не з'яўляюцца ўваходамі (выхадамі) і прыстасаваннямі да вогнішчаў, бо яны ўяўляюць сабой прыдаткі да разглядаемых пабудоў. Аб прызначэнні выступаў пакуль што няма адзінага меркавання, відаць, таму, што функцыі іх былі розныя, аб чым гавораць іх памеры і формы. Падлогі ў памяшканнях былі роўныя, добра ўтаптаныя, іншы раз з уключэннямі вугалькоў. У падлогах жытлаў меліся ямкі невялікіх памераў. Іх выкопвалі для нейкіх гаспадарчых патрэб. У мелкіх круглых і авальных ямках знаходзіліся вогнішчы. Яны ўяўлялі сабой скопішчы перапаленых камянёў з вуголлем і попелам. Заўважана, што ў мілаградскіх жытлах вогнішчы размяшчаліся звычайна воддаль ад увахода, паміж цэнтральным слупом і сцяной, у розных месцах памяшкання. Дахі ў жытлах былі двусхільныя або пірамідальныя (чатырохсхільныя). Мацаваліся яны на «сохах» — вялікіх слупах з развілкай на канцы.

Пакуль што толькі на адным з даследаваных помнікаў, што ў вёсцы Гарошкаў, зафіксаваны рэшткі пабудоў культавага прызначэння. Лепшую захаванасць мела збудаванне каля гарадзішча (мал. 15:2). Даўжыня яго 8,5 м. Шырыня ад 1,5 да 3 м. Ніжняя частка заглыблена на 0,5 м ад узроўня старажытнай дзённай паверхні. Ад жытлаў разглядаемыя пабудовы адрозніваюцца падоўжанымі прапорцыямі і запаўненнямі. Так, у запаўненні адной з іх былі абломкі касцей чалавека, цэлыя буйныя косткі жывёлы, кавалак вохры, 45 гліняных грузікаў, фігуркі жывёл і касцяны амулет. Усе рэчы канцэнтраваліся ў цэнтральнай частцы памяшкання, дзе ў падлозе меўся маленькі кольцападобны ровік. Пасярэдзіне гэтага ахвярніка мог знаходзіцца ідал. Другое культавае збудаванне ўтрымлівала пахаванне сабакі з гаршком у яме квадратнай формы.

Гаспадарчыя збудаванні ўяўлялі сабой невялікія надворныя будынкі ў выглядзе павецяў, хлявоў, скляпоў, ям розных форм, памераў і прызначэння. Надворныя будынкі тыпу хлявоў па прыёмах майстравання нагадваюць жытлы. Яны мелі слупавыя канструкцыі сцен і крыху паглыбленую падлогу. Павеці і хлявы былі прамавугольнай формы без вогнішчаў. Памеры іх малыя — 2 × 1,5 і 2,5 × 2 м. Асобныя з такіх пабудоў мелі аднасхільны дах. Ямы-скляпы мелі дыяметр 1,5 м або былі такой даўжыні. Глыбіня іх часцей за ўсё даходзіла да 0,6 м ад узроўню мацерыка. У скляпах адзначана наступная асаблівасць: розны ўзровень дна ямы, што забяспечвала зручнасць пры ўваходжанні ў яе. Вакол ям-скляпоў на жэрдках або невялікіх слупах

узводзіўся дах. Нахілы ям ад колікаў сведчаць, што над склепам быў лёгкі шалаш. Ямы для гаспадарчага выкарыстання ў адрозненне ад слупавых і склялоў утрымлівалі розныя прадметы і мелі запаўненні цёмнага колеру. Калі ямы-скляпы рабіліся для захавання прадуктаў харчавання, то гаспадарчыя маглі выкарыстоўвацца для вогнішчаў і вытворчых мэт: абпалу посуду, бронзаліцейнай справы, чорнай металургіі. Увогуле можна меркаваць, што выкарыстанне іх было шматпланавым і таму іх прызначэнне нельга абмяжоўваць толькі адной функцыяй.

Раскопкі вялікімі плошчамі шэрагу гарадзішчаў мілаградскай культуры дазволілі атрымаць выразную калекцыю матэрыялаў. Наяўнасць добра датаваных рэчаў, як і ўсіх калекцый, дае магчымасць вызначыць час з'яўлення гарадзішчаў у носьбітаў разглядаемай старажытнай агульнасці і працяглацсь іх функцыяніравання. Безумоўна, што сам факт з'яўлення ўмацаваных паселішчаў — з'ява заканамерная. Развіццё грамадства дасягнула такога ўзроўню, што ўзнікла аб'ектыўная неабходнасць ва ўмацаваннях паселішчвў. Нельга не ўлічваць у гэтым працэсе ролю такога паскаральніка, як знешняя пагроза або небяспека. Найбольш раннія гарадзішчы ўзніклі ў Палескім рэгіёне, што вынікае са знаходак добра датаваных рэчаў — бронзавых наканечнікаў скіфскіх стрэл. Да такіх паселішчаў адносяцца два Ясянецкія гврадзішчы (Мазырскі рвён) і гарадзішча Ліскі (Рэчыцкі раён). Час іх узнікнення можа быць вызначаны сярэдзінай ці другой паловай VII ст. да н. э. Такую датыроўку пацвярджаюць знаходкі шпількі з плоскай спіралеладобнай галоўкай і бронзавых люстэркаў. Заўважым, што працэс будаўніцтва гарадзішчаў адбываўся не імгненна і працягваўся некалькі стагоддзяў. Але найбольшая колькасць умацаваных паселішчаў узнікае прыкладна ў VI ст. да н. э. Калі зыходзіць з канкрэтных матэрыялаў атрыманых калекцый, то варта сказаць, што асобныя з іх умацоўваліся вбо будаваліся ў V і IV стст. да н. э. Напрыклад, гарадзішча Ястрабка Лоеўскага раёна ўзнікла ў V ст. да н. э., в такія помнікі, як Любны (пад Гомелем), Халоленічы Глускага і Шапатовічы Чачэрскага раёнаў, у IV ст. да н. э. Невялікая магутнасць культурнага пласта сведчыць аб непрацяглым жыцці на разглядаемых паселішчах. Большасць з іх функцыяніраваала да канца III ст. да н. э. Жыццё на асобных паселішчах у моцных калектывах працягвалася, відаць, і ў пачатку II ст. да н. э. Апошні час жыцця насельніцтва плямёнаў мілаградскай культуры на даследаваных гарадзішчах вызначыць дакладна досыць складана, паколькі сярод знаходак на даследаваных помніках амаль адсутнічаюць дакладна датаваныя рэчы другой палоаы III — першай паловы II ст. да н. э. Гэта добра паказалі матэрыялы аднаслойных усходнепалескіх гарадзішчаў Старое Краснае Рэчыцкага, Ястрабка Лоеўскага і Ясянец Мазырскага раёнаў На левабярэжных помніках Дняпра і ў Ніжнім Пасожжы позні мілаградскі гарызонт перакрываюць адкладанні рэшткаў зарубінецкіх плямёнаў з адпаведным наборам датаваных прадметаў: шклянымі пацеркамі, фібуламі з бронзы і жалеза, зброі. Увогуле час з'яўлення зарубінецкага насельніцтва на поўдні Беларусі вызначаецца як сярэдзіна II ст. да н. э. Бліжэй да сярэдзіны II ст да н. э. на тэрыторыю мілаградскай культуры па Дняпру і ў цэнтральную частку Прыпяцкага Палесся з поўдня пачалі пранікаць плямёны зарубінецкай культуры. У гэты ж час з поўначы праз Цэнтральную Беларусь па Бярэзіне і левых прытоках Прыпяці — Случы і Пцічы прыходзяць плямёны культуры штрыхаванай керамікі Сведчаннем таму — адкладанне гарызонту ранніх «штрыхавікоў» на гарадзішчах Пятровічы, Халопенічы, Іаань, Шчаткаў (Лашанкоў, 1994 а. С. 122—124; Ён жа, 1997. С. 147—155).

Картаграфаванне гарадзішчаў мілаградскай культуры паказала, што яны лакалізуюцца ў асноўным аа Усходнім Палессі Беларусі, Падняпроўі і Ніжнім Пасожжы (мал. 11). Адносна агульнай тэрыторыі мілаградскага насельніцтва яны знаходзяцца ў паўночна-ўсходнім арэале культуры. Асаблівая канцэнтрацыя іх назіраецца ў міжрэччы ніжняга цячэння Прыпяці і Дняпра. Тут даследчыкі налічваюць каля сотні ўмацаваных паселішчаў. У Ніжнім Пасожжы колькасць гарадзішчаў складае прыкладна трэцюю частку ад вядомых. Па-за межамі Беларусі налічваецца прыкладна 25 такіх гарадзішчаў у Чарнігаўскай і Кіеўскай абласцях Украіны (Кучера, 1971. С. 88—94; Жаров, Шекун, 1991. С. 19—22). Цікава адзначыць, што ў Заходнім Палессі разглядаемыя помнікі сустракаюцца вельмі рэдка, ды і то на тэрыторыі Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Такім чынам, варта падкрэсліць нераўнамернасць у размяшчэнні ўмацааных паселішчаў насельніцтва мілаградскай культуры У раёнах з аысокай шчыльнасцю насельніцтаа такія помнікі знаходзяцца на невялікай адлегласці адзін ад другога: ад 3—5 да 10—15 км. У той час як на большай частцы тэрыторыі яны размяшчаюцца на значнай адлегласці — да 25 км і больш (мал. 11). Сустракаюцца аыпадкі і парнага размяшчэння гарадзішчаў. Такія паселішчы маюцца ў шэрагу раёнаў: Буда (1, 2) Жыткавіцкага, Дуброаіца (1. 2) Хойніцкага, Юшкі (1, 2) Калінкавіцкага раёнаў.

Селішчы (неўмацаваныя пасяленні) мілаградскага насельніцтаа аыаучаны значна слабей за гарадзішчы. Даследааанне гарадзішчаў паказала, што ў Падняпроўі селішчы іншы раз знаходзяцца побач з імі, прымыкаюць да іх. Падобныя комплексы археалагічных помнікаў на Беларусі — з'яаа дааолі рэдкая. Яны ёсць у Гарошкаве, Мілаградах (Рэчыцкі раён) і Гарадку (Быаалькаўскі сельсавет Лоеўскага раёна). Але ў большасці аыпадкаў разглядаемы аід паселішчаў знаходзіцца воддаль ад гарадзішчаў, што сведчыць аб самастойным характары іх існааання. У Паласкай нізіна, напрыклад, няма ніаоднага аыпадку, калі б селішча было побач з гарадзішчам. Вядомыя даследчыкам селішчы мілаградскай культуры ў Палессі размяшчаюцца на значнай адлегласці ад умацааных пасяленняў.

Выаучэннем селішчаў мілаградскай культуры, што знаходзяцца побач з гарадзішчамі, займалася В. М. Мельнікоўская. Так, ёю ўскрыта 400 кв. м на Гарошкаўскім селішчы і 300 кв. м на Мілаградскім. Культурны пласт на іх аыражаны слаба. Ён утрымліаае неаялікую колькасць керамікі. На селішчы Гарошкаў знойдзены рэшткі падоўжанай пабудовы, якая мела заглыбленую ніжнюю частку. У запаўненні яе выяўлена раннемілаградская кераміка, што дало ладстааы даследчыцы датааацъ збудааанне IV ст. да н. э. Расколкі селішчаў паказалі, што адны з іх адпааядаюць апошнім этапам жыцця на гарадзішчах, другія — пачатку функцыяніраавання ўмацааных паселішчаў. Пры аыаучэнні абарончых збудааанняў на шэрагу гарадзішчаў аысветлілася, што іх узнікненню папярэднічалі селішчы. В. М. Мальнікоўская прыйшла да высноаы, што селішчы пры гарадзішчах утваралі адзіны гаспадарчаэканамічны комплекс (Мельникоаская, 1967. С. 22). Варта адзначыць, што ў Пасожжы разглядаемыя селішчы амаль неаядомы, гэта тлумачыцца хутчэй за ўсё слабай іх аыаучанасцю.

Заходнапалескія селішчы размяшчаюцца звычайна на пясчаных узаышшах, якія абкружаны поплаўнымі балотамі (хутар Бухлічы, Лемяшэвічы, Церабень-2), або па краю надпоплаўных тэрас (Гарадзішча, Курадааа, Струга, Сошна, Церабень-1). Па назіраннях В. С. Вяргей, якая аыаучала гэтыя помнікі ў Заходнім Палессі, мілаградскія абшчыны сяліліся на самых

высокіх месцах далей ад вады. Чысты мілаградскі гарызонт у тоўшчы культурнага пласта вылучыць немагчыма. Справа ў тым, што прыгодныя для жыцця ўзвышшы на Палессі ўвесь час засяляліся рознымі старажытнымі калектывамі, як у дамілаградскі час, так і пасля. Таму культурны слой на палескіх селішчах, як правіла, разначасовых, не стратыфікуецца. Таўшчыня слоя на разглядаемых помніках складае 0,2—0,4 м. Ён слаба гумусіраваны. Насычанасць яго знаходкамі невысокая. Звычайна ўтрымлівае абломкі посуду, бронзавыя ўпрыгожанні, жалезныя прылады працы і хатняга ўжытку, а таксама зброю і наканечнікі стрэл з бронзы і жалеза. На селішчы Лемяшэвічы, што ў Пінскім раёне, зафіксаваны рэшткі двух жытлаў. Іх наземныя збудаванні былі зрубнай канструкцыі, паколькі ям ад слупоў няма, а асянаванні заглыблены ў пясок на 0,18 і 0,25 м. Пабудовы мелі прамавугольную форму, а ў паглыбленых падлогах вуглы былі закруглены. Памеры памяшканняў 2,4 х 2,7 і 2,2 х 3,6 м. Рэшткі вогнішчаў акруглай формы ў выглядзе попельна-вугальных плям знаходзіліся на ўзроўні падлогі. У запаўненнях жытлаў выяўлена кераміка мілаградскай культуры (Вергей, 1994 а. С. 133—136; *Яна ж*, 1995. С. 63—100).

Для характарыстыкі разглядаемых помнікаў важнае значэнне маюць вынікі вывучэння іх украінскімі калегамі. На Чарнігаўшчыну прыпадае частка паўднёва-ўсходняга арэала мілаградскай культуры (Жаров, 1995. С. 45—50). Разведачнымі працамі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны зафіксавана каля 100 мілаградскіх помнікаў, сярод якіх 19 гарадзішчаў, пераважна балотнага тыпу, 3 могільнікі і 75 селішчаў (Жаров, Шекун, 1991. С. 19—22). Апошнія знаходзяцца як на высокіх пясчаных пагорках у акружэнні поплаўных балот, так і на высокіх дзюнах. Адметнасцю з'яўляецца тое, што селішчы канцэнтруюцца паблізу балотных гарадзішчаў, утвараючы як бы куст помнікаў на адлегласці 2—4 км ад іх. У асобных месцах абапал невялікіх рэчак селішчы размяшчаюцца даволі шчыльна. Так, на плошчы 16 кв. км пры даўжыні рэчкі Крукавы 10 км выяўлена 12 паселішчаў. Уражваюць і памеры разглядаемых помнікаў. Плошчы іх складаюць ад 1 да 5 га. Вылучаюцца два самыя вялікія: Пячоры — 7,5 га і Зарваншчына — 14 га. На большай частцы астатняй тэрыторыі яны ў межах 1—2 га і аддалены адно ад другога на 5—6 км. Вельмі незвычайным з'яўляецца і тое, што селішча Паўднёвы Замглай знаходзіцца пад адкладаннямі торфу таўшчынёй 0,4 м. Культурны пласт на большасці з гэтых помнікаў 0,4—0,6 м. Ён добра насычаны керамікай. Значную частку яе складаюць абломкі з жамчужным арнаментам. Найбольш даследаванымі з'яўляюцца 5 паселішчаў: Ульянаўка-1, Паўднёвы Замглай, Сініцына Гара, Пячоры, Зарваншчына. На апошнім ускрыта 1000 кв. м. Знойдзены 2 наземныя жытлы і больш за 100 гаспадарчых ям. З рэчаў індывідуальнага карыстання шмат гліняных грузікаў-праслічаў, жалезная цвікападобная шпілька, бронзавы трохгранны наканечнік стралы, 4 жалезныя двухлопасцевыя ўтульчатыя наканечнікі стрэл. На Паўднёвым Замглаі выяўлены бронзавыя пацеркі, 2 спіралепадобныя пранізкі, двухлопасцевы наканечнік стралы, 2 спражкі-пранізкі. Адна — у выглядзе галавы грыфона, а другая — пярсцёнкападобная з галавой аленяці (Жаров, 1995. Рис. 1: 21—22). Па сутнасці гэта бронзавыя вырабы скіфскага звярынага стылю. Яны сведчаць аб цесных сувязях мілаградскага насельніцтва з лесастэпавымі плямёнамі. Храналагічна селішчы Чарнігаўшчыны датуюцца VII—V стст. да н. э. Яны, як бачым, утрымліваюць багаты ранні матэрыял у параўнанні з такімі ж паселішчамі на Беларусі.

Мілаградскія селішчы ва Усходнім Палессі ў асобных раёнах (Петрыкаўскі) абследаваны вельмі добра. Вывучалася з іх толькі адно, што каля вёскі Хільчыцы Жыткавіцкага раёна (Залашка, 1985. С. 160). Яно знаходзіцца ва ўрочышчы Мураві на пясчаной высле сярод багністых балот. Культурны пласт з пяску цёмнага колеру таўшчынёй 0,3—0,4 м. Слой разбураецца ветравой эрозіяй. Паселішча ўтрымлівае кераміку мілаградскай і зарубінецкай культур. З рэчаў знойдзены шкляная сіняя пацерка, 3 жалезныя пласціністыя наканечнікі стрэл, бронзавы пярсцёнак, трапецападобная падвеска. На выдмах сабрана калекцыя 13 бронзавых наканечнікаў стрэл скіфскага тыпу. З іх 12 — двухлопасцевыя з шыпамі на выступаючых утулках і адзін — трохлопасцевы (Залашка, 1985. Мал. 1: 1—13). Бронзавыя стрэлы датуюцца VII—VI стст. да н. э.

Больш раскопкі мілаградскіх селішчаў ва Усходнім Палессі ніхто не праводзіў. Адзначым, што колькасць селішчаў на Палессі значна перавышае колькасць гарадзішчаў.

## Могільнікі

У плямён мілаградскай культуры яны вядомы двух відаў: грунтавыя і курганныя. Грунтавыя ў межах Беларусі знаходзяцца пры гарадзішчах, за іх валамі (Асарэвічы) або крыху воддаль ад паселішчаў на ўзвышшах сярод паплавоў ці на дзюнах. Іншы раз яны сустракаюцца і на пляцоўках паселішчаў (Гарошкаў, Любны, Махаўскае-1). Такія могільнікі ўяўляюць сабой палі пахаванняў па звычаю трупаспалення. Нябожчыка спальвалі на вогнішчы, а рэшткі ссыпалі ў ямку (мал. 16). Перапаленыя косці старанна ачышчалі ад вугалькоў і попелу, перад тым як змясціць іх у пахавальную яму. Колькасць кальцыніраваных костак была невялікая, што не дазваляе зрабіць антрапалагічныя вызначэнні. Адны пахаванні акрамя перапаленых касцей больш нічога не ўтрымлівалі, а другія мелі разам з імі абломкі посуду. На могільніках пахавальныя ямы звычайна вылучаюцца на ўзроўні старажытнага гарызонту плямамі цёмнага або шэрага колеру (мал. 17). Шчыльнасць пахаванняў на даследаваных помніках была не аднолькавай не толькі на розных могільніках, але і на адным і тым жа могільніку ў розных яго месцах (мал. 16). Зрэдку ямы знаходзяцца так блізка, што сутыкаюцца адна з другой, як бы ўтвараюць лічбу восем. Пахавальныя ямы на грунтавых могільніках мілаградскай культуры маюць розныя ў плане формы (мал. 16). Сярод іх пераважаюць круглыя. Дыяметры іх ад 0,4 да 1,6 м. Радзей хавалі ў авальных, авальнападоўжаных ямах і зусім рэдка — у прамавугольных. Вертыкальныя разрэзы сведчаць, што ямы мелі нахіленыя ў сярэдзіну сценкі і акруглае дно (мал. 17). Некаторыя з іх былі пашыраны ў прыдоннай частцы. Глыбіня ям, у якіх змяшчаліся рэшткі нябожчыкаў, вар'іравала ад 0,5 да 1 м ад узроўню сучаснай паверхні. Арыенціроўка авальных і падоўжаных ям на Гарошкаўскім могільніку была рознай: з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад, поўнач — поўдзень, усход — захад і з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Асобныя мілаградскія пахаванні ёсць і на Чаплінскім зарубінецкім могільніку (№ 5) (Поболь, 1973. С. 61).

Характэрнай рысай пахавальнага абраду «мілаградцаў» было тое, што з рэшткамі чалавека яны ніколі не ставілі цэлыя сасуды. Кавалкі пасудзін знаходзяцца крыху вышэй рэштак спалення. З іншых находак гліняных прадметаў у пахаваннях выяўлены кавалкі ліцейных форм, льячак, камы моцна

абпаленай гліны і соплы ад домніц. Апошнія з іх сведчаць аб сувязі пахааанага з такім аідам рамяства, як металургія жалеза. Сярод пахааальнага інаентару ёсць посахападобныя шпількі, наканечнікі стрэл, кольцы з выступамі, абломкі бранзалетаў, пацеркі, бронзааы бісер, крамянёвыя прылады працы або іх абломкі. Відаць, з асобым звычаем трэба звязваць наяўнасць у пахааанням камянёў і зубоў каня, саінні або буйной рагатай жывёлы. Хрона-налагічна матэрыялы грунтавых могільнікаў адпавядаюць часу функцыяніраавання паселішчаў, каля якіх яны знаходзяцца. Грунтааыя могільнікі Палесся выаучаны значна слабей у параўнанні з Гарошкаўскім. Яны аядомы паблізу вёсак Бараакі Мазырскага, Пагост Жыткавіцкага і Давыд-Гарадок Столінскага раёнаў (Археалогія і нумізматыка... 1993. С. 73—74, 206, 471). На іх выаучаны па аднаму-два пахаванні з рэшткамі спаленняў у ямах акруглай і падоўжанай формаў. Ва ўсіх выпадках побач з пахаваннямі ставіліся цэлыя, у адрозненне ад Падняпроўя, сасуды, якія захаааліся ў раструшчаным стане (Бараакі — 3 экз., Дааыд-Гарадок — 2 экз., Пагост — 1 экз.). У Бараакоўскім могільніку патрапіліся бранзалет і жалезны наральнік. Астатнія пахаванні рэчаў не мелі.

Курганных могільнікаў на тэрыторыі мілаградскай культуры ўвогуле вядома не шмат. У невялікай колькасці яны сустракаюцца на Жытоміршчыне, Чарнігаўшчыне. На Беларусі могільнікі такога тыпу аядомы і даследаваны Ю. У. Кухарэнкам, Г. М. Залашкам і С. Я. Расадзіным каля в. Дубай Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (мал. 18:1,2). У вусці ракі Гарыні ёсць тры групы курганоў мілаградскага насельніцтаа, якія знаходзяцца на пясчаных пагорках сярод нізін і балот. У групах налічваецца ад 20 да 60 насыпаў. У плане яны круглыя расплывістыя і маюць паўсферычны выгляд. Дыяметры іх ад 2 да 22 м, аышыня 0,2—1,5 м. Курганы насыпаны з гліны або суглінку і пяску. Пахааанні ў даследаааных курганах знаходзіліся на ўзроўні старажытнага гарызонту ў зрубах і ў неглыбокіх ямах прамавугольнай формы (мал. 18; 19:3,4). Падкурганныя ямы мелі глыбіню 0,3—0,8 м і памеры 0,8—2×2—4 м. У раскапаных насыпах зафіксаваны звычай трупапалажэння. У ямах і зрубах нябожчыкі ляжалі на спіне. Арыенціроўка пахаааных была рознай: у ямах — галааой на паўночны захад, а ў зрубах — галааой на паўночны ўсход. Пахаванні сустракаліся парааажна адзіночныя і зрэдку — групааыя. Вялікая роля ў пахавальным звычаі адводзілася агню. Усе тры зрубы абпалены, як і глеба пад нябожчыкамі ў астатніх аыпадках. Іншы раз вогнішчы былі прысыпаны белым пяском. Пясчаная падсыпка — дыяметрам 2—3 м. У пахааальных ямах дно падсцілалася тлустай глінай. Курганы насельніцтва мілаградскай культуры ўтрымліааюць разнастайныя рэчы. Каля ног нябожчыкаў стааілі адзін або тры-чатыры цэлыя сасуды. У пяці выпадках пры пахаваных былі знойдзены жалезныя наканечнікі коп'яў. Сярод пахавальных рэчаў сустрэты нож, бронзавыя завушніцы і адна залатая. Разгледжаны курганны могільнік каля в. Дубай Ю. У. Кухарэнка прадатаваў VI — пачаткам V ст. да н. э. (Кухарэнка, 1961. С. 21, 22, 24).

Гэтым жа часам датуецца і Дзяснінскі курганны могільнік, што на Чарнігаўшчыне. Адкрыты ён у 1980 г. каля аёскі Дзяснянка Чарнігаўскага раёна. Размешчаны на пясчаным узвышшы сярод забалочанай мясцовасці. У ім налічвалася 6 насыпаў дыяметрам 6—10,5 м і вышынёй 0,5—1,5 м. У 1980—1982 гг. А. В. Шэкун даследаваў 7 курганоў (Шекун, 1995. С. 152—158). Два насыпы змяшчалі рэшткі трупаспаленняў з рэчамі ў ніжніх частках курганоў, а ў пяці астатніх нябожчыкі пахаваны ў магільных ямах па звычаю трупа-

палажэння. Разам з пахаванымі было шмат упрыгожанняў і меўся посуд. З аасьмі сасудаў 5 цэлых і 2 узноўлены часткова. Памеры гліняных пасудзін невялікія. Яны маюць шурпатую, бугрыстую паверхню, яйкападобнае тулава, акруглае дно і жамчужны арнамент пад венчыкам. У пахаваннях сасуды знаходзіліся каля галавы, з боку ад нябожчыка і ў адным выпадку ў нішы. У калекцыі 4 пасудзіны маюць добра загладжаную паверхню, што зближае іх з керамікай лесастэпаавых скіфаў. Сярод упрыгожанняў наборы караляў, якія складаюцца пераважна се шкляных і бурштынавых пацерак і вельмі рэдка бронзаавых, каменных і жалезных. Усяго знойдзена каля 200 пацерак. Да таго ж меліся яшчэ жалезныя цвікападобныя шпількі, бронзавае люстэрка з жалезнай ручкай, залатая зааушніца з канічным шчытком і дзве залатыя шкарпупападобныя паўсферы (бляшкі) дыяметрам 0,5 см і вышынёй 0,25 см. На паўночным захадзе Чарнігаўшчыны, дзе канцэнтруецца вялікая колькасць мілаградскіх паселішчаў, пераважна неўмацаваных (Жаров, 1995. С. 45—50), аядомы яшчэ 3 пахааанні ў ямах. Адно — па абраду трупаспалення і даа — трупапалажэння з заходняй арыенціроўкай і супрааааджальным інаентаром. Яны сустрэты пры аыаучэнні шматслойных помнікаў іншых культур.

Выаучэнне курганных і грунтаавых могільнікаў паказала, што насельніцтву мілаградскай культуры быў уласцівы бірытуальны звычай пахаванняў. Нельга не адзначыць, што на тэрыторыі мілаградскай культуры грунтаавыя могільнікі колькасна перааажаюць над курганнымі. Па-за межамі Беларусі на Кіаўшчыне, Жытоміршчыне, Заходняй Валыні, Поўначы Падоліі і Чарнігаўшчыне грунтаавыя могільнікі ўтрымліааюць пахааанні не толькі па абраду трупаспалення, але і трупапалажэння. Нягладзячы на ўстойліаую традыцыйнасць пахааальнага заычая ў «мілаградцаў», ён, тым на менш, мае дробныя адрозненні, якія носяць лакальны характар. Напрыклад, пахаванні гэтага насельніцтва ў грунтаавых могільніках Заходняй Валыні супрааааджаюцца цэлымі пасудзінамі і аыключна крамянёвымі аырабамі пахааальных рэчаў. На тэрыторыі Беларусі мілаградская культура пакуль што адзіная сярод сінхронных культур лясной паласы (штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай), якая мае помнікі, заязаныя не толькі з пражыааннем старажытнага насельніцтва (гарадзішчы, селішчы), але і пахавальныя — могільнікі. І тыя і другія з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі для вывучэння гісторыі насельніцтва ў эпоху ранняга жалезнага веку — 1-м тысячагоддзі да н. э.

## 2. ТЭРЫТОРЫЯ І ВАРЫЯНТЫ КУЛЬТУРЫ

Як аядома, мілаградская археалагічная культура сааю назау атрымала па адным з помнікаў — гарадзішчу каля в. Мілаграды ў Рэчыцкім раёне, даследааанні якога пачаў Ю. У. Кухарэнка. Ім жа была прапанавана і назаа. Роднасныя старажытнасці на Украіне называюць падгорцаўскімі, ці мілаградска-падгорцаўскімі, падкрэсліааючы гэтак іх культурнае адзінстаа з беларускімі помнікамі.

Адносна межаў і велічыні арэала мілаградскай культуры ў Беларусі існуе тры розныя меркааанні. Згодна з аыснааамі В. М. Мельнікоўскай, мілаградскія старажытнасці цалкам займалі тэрыторыю на поўдзень ад умоўнай мяжы, якую даследчыца праводзіла ад аусця Гарыні, праз нізоўі Пцічы і Бярэзіны, далей да Дняпра ў раёне Рагачова і Сажа ў раёне Крычава (Мельникоаская, 1967. С. 17— 18). Па А. А. Егарэйчанку, мілаградскі арэал абдымаў нейкі час таксама і Сярэднюю Беларусь (Егорейченко, 1982 а; Ён жа,

1996 a. С. 66 і наст.). На думку Л. Д. Побаля, тэрыторыя гэтай культуры ўключала ўвесь басейн Бярэзіны і значнаю частку Панямоння, дасягаючы беларуска-літоўскага памежжа і днепра-дзвінскага водападзелу (Поболь, 1983. Карта 1). Аднак падставы для падобнага занадта шырокага тлумачэння тэрытарыяльнага аспекта вывучэння мілаградскай культуры, мусіць, вельмі ненадзейныя. У прыватнасці, Л. Д. Пабалю даводзілося рабіць свае вызначэнні таго ці іншага помніка ў якасці мілаградскага літаральна па адзінкавых, выпадковых знаходках: нейкага акруглага днішча (Чаркасоўскае гарадзішча каля Оршы) ці нават аднаго венчыка мілаградскай культуры (гарадзішча Бароўна на Лепельшчыне) (Поболь, 1983. С. 18). Але ж вядома, што круглаДоннасць ці выразная прафіляванасць венчыкаў не з'яўляюцца спецыфічнымі прыкметамі, уласцівымі выключна мілаградскай кераміцы. У эпоху жалеза падобныя рэчы былі даволі шырока распаўсюджаныя. Таму менавіта мілаградская прыналежнасць як вышэй названых, так і шмат якіх іншых цэнтральна- і паўночнабеларускіх гарадзішчаў даволі сумніўная. Між іншым Я. Г. Звяругам адзначалася, што сярод керамікі паўночнабеларускага гарадзішча Гарані таксама ёсць падобная на мілаградскую, але даследчык гаворыць толькі аб яе «мілагроіднасці», а зусім не аб мілаградскай прыналежнасці (Зверуго, 1981. С. 33). Аднясенне да мілаградскага арэала басейна Саіслачы і верхняй—сярэдняй Бярэзіны А. А. Егарэйчанкам таксама выглядае недастаткова абгрунтаваным. А. А. Егарэйчанка спасылаецца на наяўнасць на помніках дадзенай часткі Беларусі керамічных форм, тыпаў жытлаў і ўпрыгожванняў, падобных ці нават тоесных мілаградскім класічным. Мусіць, пытанне аб ступені гэтага падабенства варта будзе разглядзець ніжэй, калі размова пойдзе об лакальных варыянтах мілаградскіх старажытнасцей у межах Беларусі. А цяпер трэба толькі падкрэсліць, што матэрыялы тыпу ніжняга пласта гарадзішча Лабеншчыны маюць падабенства не толькі да мілаградскіх. З матэрыяламі другой, нянадта аддаленай тэрытарыяльна, днепра-дзвінскай культуры ў іх таксама назіраецца шмат агульнага. У прыватнасці, варта заярнуць увагу на Аўгустоўскае гарадзішча. Яно было вызначана А. А. Егарэйчанкам у якасці мілаградскага. Але, згодна з А. Р. Мітрафанавым, кераміка гэтага гарадзішча блізкая да днепрадзвінскай (Митрофанов, 1969. С. 77—79).

Такім чынам, адносна межаў распаўсюджання старажытнасцей мілаградскай культуры ў Беларусі болей за іншых даследчыкаў мела рацыю, верагодна, В. М. Мельнікоўская. Аднак яе меркаванні былі ўдакладнены вынікамі даследаванняў, праведзеных у 70—80-я гады. Высветлілася, што старажытнасці мілаградскай культуры сустракаюцца і на захадзе ад нізоўяў Гарыні. Дубай, адзначаны В. М. Мельнікоўскай у якасці самага заходняга мілаградскага помніка ў Беларусі, зараз лічыцца ім не павінны. Мілаградскія матэрыялы былі выяўлены і крыху на захад ад Дубая: у Гарадзішчы на ніжняй Ясельдзе, а таксама на Прыпяці вышэй вусця Ясельды, у Лемяшэвічах (Вергей, 1982. С. 343—344; Яна ж, 1994. С. 133—151; Яна ж, 1997. С. 83—100). Акрэсліваючы межы мілаградскай культуры, трэба, канешне, мець на ўвазе пэўнаю іх умоўнасць. У старажытнасці, у прыватнасці ў эпоху ранняга жалеза, падобныя рубяжы не заўсёды былі дакладнымі. Нярэдка адзначаюцца цэлыя зоны, дзе побач размяшчаюцца старажытнасці розных культур ці рознакультурныя напластаванні прысутнічаюць на адных і тых жа помніках. На наш погляд, у існаванні падобных зон змяшэння і кантактаў і адлюстраваліся перамяшчэнні «мілаградцаў», іх тэрытарыяльныя канфлікты з сусе-

дзямі, увогуле сам працэс узнікнення, пашырэння і заняпаду арэала мілаградскай культуры ў межах сучаснай Беларусі.

Мілаградская культура эпохі ранняга жалеза бярэ свой пачатак ад лебядоўскай культуры позняга бронзавага веку. Такім чынам, мілаградскі арэал паівнен быў скласціся на базе лебядоўскага. Асноўны раён распаўсюджання лебядоўскіх старажытнасцей, па меркаванню спецыялістаў, знаходзіўся на Кіеўшчыне і Чарнігаўшчыне, а паўночная мяжа распаўсюджання лебядоўскіх матэрыялаў вельмі няпэўная (Березанская, 1976. С. 190). Да следаванні паказалі, што «лебядоўцы» пражывалі і на верхнім Дняпры (паселішча Заспа), і на ніжняй Гарыні (хутар Бухлічы), і на Арэсе (Азярное) (Бычков, 1984. С. 351; Кривальцевич, 1987. С. 64; Ён жа, 1994. С. 127—129). Гэта значыць, яны насялялі тыя ж самыя тэрыторыі, дзе потым фіксуюцца помнікі «мілаградцаў», іх непасрэдных нашчадкаў. Па выніках даследаванняў на Украіне адзначаецца перамяшчэнне мілаградскага насельніцтва за межы былой лебядоўскай тэрыторыі. У прыватнасці, тут «мілаградцы» перасяліліся на верхнюю Гарынь, потым яшчэ паўднёвей, у вярхоўі Паўднёвага Буга. Дарэчы, на нашу думку, менавіта ў тым рэгіёне і трэба змяшчаць Герадотаву Няўрыду (Рассадин, 1986. С. 194; Ён жа, 1996. С. 18 і наст.). Для тэрыторыі ж Беларусі сляды падобных масавых міграцый мілаградскага насельніцтва і засваенне ім чужых зямель не адзначаюцца. Наадварот, выяўлена, што тут проста ў мілаградскі арэал былі скіраваны экспансіі носьбітаў зарубінецкай культуры, а таксама культуры штрыхаванай керамікі. Нельга выключаць, канешне, што і тут час ад часу адбываліся нейкія вандроўкі асобных дробных груп «мілаградцаў». Аб гэтым сведчыць, напрыклад, знаходка мілаградскіх матэрыялаў аж у басейне ракі Нараў на Беласточчыне (Gorska, 1976. S. 109—134). Увогуле, на захадзе мілаградскай тэрыторыі, у межах сучаснай Піншчыны, памежжа, відаць, было досыць стабільным. Верагодна, сітуацыя тут сапраўды адпавядала меркаваўшамуся Ю. У. Кухарэнкам трываламу падзелу Палесся на дзве розныя этнакультурныя зоны. З іх усходняя ў пачатковаю эпоху жалеза належала «мілаградцам» (Кухаренко, 1961). Але і тады мяжа паміж гэтымі зонамі была ўсё ж умоўнай для асобных груп мігрантаў як з усходу, так і з захаду. Так, каля в. Камень на рацэ Бобрык быў знойдзены могільнік паморскай культуры (Исаенко, 1984. С. 357). Гэта значна ўсходней мяжы, акрэсленай Ю. У. Кухарэнкам уздоўж Гарыні і Ясельды. Аднак асноўная паморская тэрыторыя даходзіла не далей Пінска, а суцэльная зона мілаградскіх помнікаў пачынаецца ўжо на ўсход ад яго.

Напэўна, мілаградскае насельніцтва Палесся нейкі час мела суседзямі таксама і носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Вельмі цікавыя дадзеныя былі атрыманы А. А. Егарэйчанкам пры вывучэнні гарадзішча Івань у паўночнай частцы Палесся. Грунтуючыся на іх, даследчык прыйшоў да высновы, што гэтае ўмацаванае паселішча было заснавана «мілаградцамі». Яны насялялі гарадзішча да II ст. да н. э. «Штрыхавікі» ж там пасяляюцца каля мяжы новай эры (Егорейченко, 1980. С. 360; Ён жа, 1996 а. С. 21 і наст.). Супастаўленне датыровак севераапалескіх комплексаў абедзвюх гэтых культур дазволіла А. А. Егарэйчанку сцвярджаць, што ў І ст. да н. э. – І ст. н. э. мясцовыя «мілаградцы» сутыкнуліся з экспансіяй не толькі з боку «зарубінцаў», але таксама і «штрыхавікоў» (Егорейченко, 1982. С. 60).

Носьбіты той жа культуры штрыхаванай керамікі, згодна з меркаваннямі П. М. Траццякова, жылі таксама і ў нізоўях Бярэзіны (Третьяков, 1966. С. 231). На думку В. В. Сядова, іх паселішчы распаўсюджваліся аж да Сожа (Седов,

1966). Але вынікі раскопак як на Правабярэжжы, так і на Левабярэжжы верхняга Дняпра (у Шчаткаае, Рагачоае, Збароае, Кісцянях, Яноае, Ворнаўцы) сведчаць, што там «мілаградцы» саступілі месца носьбітам зарубінецкай культуры, а зусім не «штрыхавікам». Характэрная зарубінецкая кераміка з расчосамі, а не са штрыхоўкаю складае значны працэнт ад выяўленай на гэтых помніках (Дубінскі, 1928. С. 280—281; Ляўданскі, 1932. С. 54—61; Поболь, 1969 а. С. 88—100; Ён жа, 1974. С. 222; Ільюцік, 1985. С. 78). Іншых элементаў, што хоць як-небудзь асацыіраваліся б з культурай штрыхаванай керамікі, тут зусім няма. У дадзенам рэгіёне паласа міжкультурнага змяшэння ўтварылася ў выніку экспансіі ў Верхняе Падняпроўе носьбітаў зарубінецкай культуры. Як было дакладна вызначана П. М. Траццяковым яшчэ ў 60-я гады, моцная хваля «зарубінцаў» дасягнула гэтай тэрыторыі не раней за II ст. да н. э. (Третьяков, 1966. С. 40).

Згодна з вынікамі даследаванняў Л Д. Побаля, у Магілёўскім Задняпроўі мілаградскія гарадзішчы дасягаюць Мсціслаўшчыны (Гарадок-3). Але што атрымліваецца, калі звярнуць ўвагу на матэрыялы з гэтага помніка, на падставе якіх даследчыкам і была вызначана нібыта мілаградская прыналежнасць Гарадка-3? Яны практычна тоесныя знаходкам з суседняга гарадзішча Гарадок-4, вызначанага тым жа аўтарам у якасці днепра-дзвінскага (Поболь, 1974. С. 237. Мал. 81:12—17). Да таго ж вынікі раскопак гарадзішча Дзявочая Гара ў Мсціслаўі пераконваюць у прыналежнасці і гэтага помніка таксама днепра-дзвінскай культуры (Алексеев, 1963. С. 76, 78). На думку П. М. Траццякова, уздоўж Сажа мілаградскія гарадзішчы распаўсюджаны толькі да Крычава (Третьяков, Шмидт, 1963. С. 21). Больш позніл даследаванні падмацавалі слушнасць дадзенага меркавання. Найбольш адсунутымі ўверх па Сажу гарадзішчамі з мілаградскімі матэрыяламі з'яўляюцца Крычаўскае і Воўчаскае (Ткачев, 1976. С. 427—428; Рассадин, 1988. С. 376—377).

Пакуль што дакладна не вядома, дзе ж сутыкаюцца тэрыторыі «мілаградцаў», іх паўночна-ўсходніх суседзяў «днепра-дзвінцаў» і ўсходніх, носьбітаў юхнаўскай культуры. З ліку гарадзішчаў міжрэчча Сажа і Бесядзі мілаградская культура добра прадстаўлена ў Нісімкавічах. Нісімкавіцкае гарадзішча, відаць, і трэба лічыць тут крайнім мілаградскім пунктам. З другога боку, высветлілася, што па левых яго прытоках да Сажа юхнаўская культура падыходзіла бліжэй, чым гэта раней лічылася. Юхнаўскія матэрыялы выяўлены намі на гарадзішчах Казацкія Балсуны, Свяцілавічы, Новыя Грамыкі на рацэ Бесядзь, Вылева на рацэ Іпуць і Янава ў іх міжрэччы. Калі меркаваць па выніках раскопак на гарадзішчы Падгор'е, дзе ўнізе культурнага пласта таксама залягаюць юхнаўскія матэрыялы, перакрытыя, аднак, пазнейшымі мілаградскімі напластаваннямі (Рассадин, 1982. С. 367—368), тут адбылася невялікая міграцыя ва ўсходнім напрамку. Мілаградскае насельніцтва заняло ўскраіну тэрыторыі сваіх юхнаўскіх суседзяў. Час гэтай падзеі дакладна вызначыць цяжка, але мы схіляемся звязваць яе з II ст. да н. э., калі пасожскія «мілаградцы» самі перажывалі з'яўленне зарубінецкіх плямёнаў. Магчыма, гэта і прымусіла адну з групаў мясцовага мілаградскага насельніцтва рушыць уверх па Іпуці і ўладкавацца на былым юхнаўскім Падгор'і. А «зарубінцы» захапілі і засвоілі шэраг першапачаткова мілаградскіх гарадзішчаў: Ворнаўку, Нісімкавічы, Воўчас і інш. Меркаваць аб гэтым можна, у прыватнасці, таму, што аднолькава на ўсіх згаданых гарадзішчах мілаградскі пласт быў скінуты з пляцовак на схілы, а ўмацаванні часам перабудаваны на новы лад. Але часткаю Пасожжа — на поўдзень ад Гомеля

зарубінецкія плямёны не авалодалі: мусіць, старое мілаградскае насельніцтаа тут здолела захавацца. На карысць таму сведчыць адсутнасць зарубінецкіх напластаванняў (пры наяўнасці едзінкавых знаходак) на мясцовых гарадзішчах, у тым ліку на вывучаўшыхся стацыянарна — Любенскім, Вузаўскім, Ленінскім.

Такім чынам, на заканчэнне разгляду пытання аб мілаградскім арэале ў Беларусі адзначым, што ягоныя контуры тут у асноўным адпавядалі межам распаўсюджання культуры-папярэдніцы, лебядоўскай. У адрозненне ад паўднёвай, украінскай, тут, у паўночнай частцы мілаградскага арэала, ніякіх сурёзных змен у яго канфігурацыі не назіралася звыш паловы тысячагоддзя. Працэс катастрафічнага характару пачаўся і працякаў даволі імкліва ў апошнія стагоддзі 1-га тысячагоддзя да н. э. Тады мілаградскую тэрыторыю захліснулі хвалі рухаўшыхся з паўночнага захаду «штрыхавікоў», а таксама «зарубінцаў», якія перасяляліся з поўдня. Вялікі арэал імкліва дэградуе: да канца перыяду экспансіі ад яго ацалелі толькі асобныя «астравы» – на поўдні Ніжняга Пасожжа, на Правабярэжжы Дняпра вышэй Рэчыцы (раён гарадзішча Мілаграды).

Зараз ні ў каго не выклікае сумнення, што мілаградская археалагічная культура складаецца з шэрагу лакальных варыянтаў, якія даволі істотна адрозніваюцца паміж сабою. На Украіне былі вызначаны сярэднедняпроўскі (падгорцаўскі), заходнеаалынскі (гарынскі) і жытомірскі, на Беларусі — верхнедняпроўскі, палескі (прыпяцкі) і сярэднебеларускі (Мельниковская, 1967. С. 164—166; Яна ж, 1970. С. 139; Петровська, 1967. С. 9—22; Свешников, 1971. С. 68—71; Егорайченко, 1982; Ён жа, 1996; Еременко, 1989. С. 77). Агульныя асабліаасці трох паўднёаых аарыянтаў і іх адметнасць ад паўночных найбольш яскраав бачныя ў пахавальным абрадзе. Спецыфіка пахавальнага рытуалу ў кожным з паўднёаых варыянтаў абумоўлена, мусіць, уплывам суседняга насельніцтва (высоцкага на захадзе Велыні, лесастэпавага з культурай скіфскага тылу на сярэднім Дняпры) (Рассадин, 1989. С. 13—15). У Верхнім жа Падняпроўі рытуал пахааання быў аельмі і аельмі кансерватыўны. Ён практычна ідэнтычны таму, што назіраецца і на лебядоўскіх могільніках. Як і іх лебядоўскія папярэднікі, мясцовыя «мілаградцы» крэміраалі цела нябожчыка недзе па-за месцам ягонай будучай магілы. Магіла, куды ссыпаліся потым аынікі крэмацыі, была проста аырытай у грунце неаялікай ямкай круглай ці авальнай у плане формы. Нярэдка пахавальны інвентар у такой магіле адсутнічаў ці быў вельмі просты: некалькі камянёў разам з асобнымі чарапкамі ад наўмысна разбітага посуду. Пахаванні зараз пазбаўлены якіх-небудзь прыкмет на паверхні грунту (Мельниковская, 1967. С. 41—47; Березанская, 1976. С. 202). Істотна, што практычна па гэтакім жа абрадзе было здзейснена і шмат пахаванняў кіеўскай культуры, у прыватнасці на Навабыхаўскім могільніку (Поболь, 1974 а. С. 159—180). Гэтае падабенства падкрэслівалася, напрыклад, Р. У. Церпілоўскім (Терпилоаский, 1984. С. 58). Мілаградскія могільнікі на Ніжняй і Сярэдняй Прыпяці вывучаны пакуль што недастаткова, але прынцыпоаыя адрозненні тут не заўважаны (Поболь, 1969. С. 15—17). Беларускае Палессе вызначаецца хіба што адсутнасцю пахаванняў непасрэдна на пляцоўках гарадзішчаў, як гэта было, напрыклад, на верхнедняпроўскім Гарошкаве, Янаае і інш. (Мельникоаская, 1967. С. 41—47; Ільюцік, 1985. С. 77). Трэба падкрэсліць, што адрозненні паміж мілаградскімі старажытнасцямі ў Беларускім Палессі і ў Беларускім Падняпроўі ўвогуле практычна не адчуваль-

ныя. Яны хутчэй за ўсё абумоўлены занальна-прыроднымі асаблівасцямі абодвух рэгёнаў. На самай справе, напрыклад, помнікам днепра-прыпяцкага міжрэчча зусім не ўласцівыя істотныя асаблівасці ў параўнанні са змешанымі на ўзбярэжжы самога Днялра. На гарадзішчы Ліскі адкрыта літаральна тая ж самая культура, што і ў Гарошкаве (Лошенков, 1990). Адрозненні ад дняпроўскіх помнікаў павялічваюцца па меры аддалення на захад. На Берасцейшчыне мілаградская культура ўжо мае нейкую адметнасць: селішчы, а не гарадзішчы ў якасці асноўнага тыпу пасялення, меншы працэнт арнаментаванай керамікі і інш. (Вергей, 1982. С. 343—344; Яна ж, 1994. С. 133—151). Увогуле адрозненні падобнага ўзроўню часам можна назіраць нават паміж двума суседнімі помнікамі аднаго і таго ж варыянта. У любым выпадку верхнедняпроўскім і палескім старажытнасцям мілаградскай культуры ўласціва значна большае ўзаемнае падабенства, чым помнікаў любога з іншых яе лакальных варыянтаў.

Але сярод мілаградскіх помнікаў Беларускага Палесся і ўвогуле Беларусі сваёй відавочнай арыгінальнасцю вызначаецца, напрыклад, Дубайскі курганны могільнік (Кухаренко, 1961. С. 22, 24. Рис. 11, 12). Больш таго, сама абраднасць вядомых дубайскіх пахаванняў у прынцыпе адрозніваецца ад класічна мілаградскай, якой мы яе ведаем хаця б па тым жа могільніку Гарошкаў. З другога боку, характэрныя для Дубая звычаі (не спальваць нябожчыка, а класці ў спецыяльную дамавіну і насыпаць потым курган, змяшчаць ў магіле даволі разнастайны, не кранутыя агнём і ўвогуле ніяк не пашкоджаны інвентар, у тым ліку вялікія пасудзіны характэрнай ігрушападобнай формы) уласцівыя могільнікам таго ж прыкладна часу, якія знаходзяцца крыху вышэй па рацэ Гарыні, ужо ў яе сярэднім цячэнні. Гэта комплексы як мілаградскай культуры — заходневалынскага яе варыянта (могільнік Гарадок), так і іншай, высоцкай (могільнік Дзеравяннае) (Кухаренко, 1966. С. 112; Свешников, 1971. С. 73—76). Менавіта высоцкім уплывам, на думку Ю. У. Кухарэнкі, вызначна спецыфіка мілаградскіх старажытнасцей Заходняй Валыні. Гэты ж уплыў даследчык адзначаў і па матэрыялах Дубая. Дадзены помнік, відаць, належыць менавіта да заходневалынскага, а не да палескага лакальнага варыянта мілаградскай культуры, нягледзячы на тое што знаходзіцца ён ужо ў Беларускім Палессі. Хутчэй за ўсё пакінуты гэты помнік нейкай групаю мігрантаў, якія здзейснілі сваю вандроўку не за межы мілаградскага арэала, а ўнутры яго, на тэрыторыю іншага лакальнага варыянта. Верагодна, да другога, таксама лаўднёвага лакальнага варыянта належыць яшчэ адзін мілаградскі комплекс Беларусі: гарадзішча і могільнік каля яго ў Асарэічах. Апрача Асерэвічаў, ніводнаму з астатніх верхнедняпроўскіх мілаградскіх помнікаў не ўласціва гэтакая ступень насычанасці скіфскімі лесастэпавымі культурнымі элементамі. А вось для сярэднедняпроўскіх — падгорцаўскіх — старажытнасцей падобная скіфізаванасць якраз тыповая.

Спынімся знарок, нарэшце, на так званым сярэднебеларускім варыянце мілаградскай культуры. За ягоную рэальнасць сведчаць, уласна кажучы, толькі тыя аргументы, якія былі выкарыстаны А. А. Егарэйчанкам у згаданых ужо публікацыях. Заўважым таксама, што меркаванне аб падабенстве старажытнасцей тыпу ніжніх пластоў Лабеншчыны з тыпова мілаградскімі выказвалася і раней. Але пры гэтым А. Р. Мітрафанавым было прапанавана разглядаць адпаведныя помнікі ў якасці асобнага варыянта зусім не мілаградскай, а культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978. С. 9—15). Згодна з А. А. Егарэйчанкам, даследаваныя ў свой час А. Р. Мітрафанавым

Аўгустова, Гатавічы, Гарадзішча, Кімія, Лабеншчына, Навасёлкі, Аздзяцічы далі прыкладна гэтакія ж формы керамікі, тыпы жытлаў, упрыгожанні, як і помнікі, чыя прыналежнасць да мілаградскай культуры бясспрэчная Варта адзначыць фрагментарнасць керамічных матэрыялаў, што былі ў распараджэнні даследчыка: верхнія часткі ад трох гаршкоў, астатняе дробныя венчыкі і (падкрэслім) пляскатыя донцы. Дарэчы, графічная рэканструкцыя ніжніх частак некалькіх экземпляраў посуду з гэтай калекцыі была прапанавана А. Р. Мітрафанавым. Але пры гэтым ніякіх меркаванняў наконт іх кругладоннасці не рабілася (Митрофанов, 1978. Рис. 2: 1; Рис. 12: 1, 3, 11). Падобныя рэканструкцыі выкарастоўваюцца і А. А. Егарэйчанкам (Егорейченко, 1982. Рис. 2). Такім чынам, разглядаемыя ім сасуды мелі, мусіць, не круглыя донцы, а менавіта пляскатыя. Гэта асаблівасць, канешне, змяншае значэнне падабенства прафілёўкі іх венчыкаў з тыпова мілаградскай. Далей адзначым, што тут вельмі шырока ўжывалася зусім не ўласцівая для мілаградскай керамікі штрыхоўка. А вось сасудаў з нібы зрэзаным венчыкам тут, наадварот, зусім няма. І гэта пры тым, што такія казанападобныя пасудзіны былі адной з асноўных групаў мілаградскага керамічнага комплексу. Увогуле, апрача керамікі тыпова мілаградскай, посуду з разглядаемых А. А. Егарэйчанкам помнікаў не ў меншай ступені ўласціва ладабенства таксама і да керамікі другой суседняй — днепра-дзвінскай — культуры. Напрыклад, профілі верхніх частак гладкасценных і штрыхаваных гаршкоў з сярэднебеларускіх гарадзішчаў маглі б, напэўна, згубіцца сярод масы тыповых гаршкоў паўночнабеларускіх — Кубліцкага, у прыватнасці (Шут, 1966. Рис. 4: 1 — 4, 6, 5:3 — 8). Звесткі наконт домабудавання, якія змог выкарыстаць А. А. Егарэйчанка, таксама вальмі абмежаваныя. Ён мае на ўвазе ўсяго два жытлы з Аздзяцічаў (Митрофанов, 1978. Рис. 3). З іх толькі даследаванае ў раскопе І, бясспрэчна, тоеснае тыпова мілаградскім. Другое аздзяціцкае жытло, з раскопу III, рэзка адрозніваецца сваёй зрубнай канструкцыяй. Да таго ж, безумоўна, трэба ўлічваць, што апрача гэтых раннія пласты сярэднебеларускіх гарадзішчаў утрымлівалі таксама і рэшткі ніколькі не падобных на мілаградскія жылых забудоў. У прыватнасці, на Лабеншчыне адзін з «мілаградскіх» гаршкоў быў знойдзены каля коміна ў вузкім (4,5 м) і «доўгім» (даследавана было 9,5 м) доме (Митрофанов, 1978. С. 10). Да таго ж адкрытыя, выкладзеныя каменнем вогнішчы Лабеншчыны былі ладкападобныя, г. зн. аналагічныя не мілаградскім, а днепра-дзвінскім (Митрофанов, 1967. С. 38; Шадыро, 1985. С. 27). Напэўна, значэнне жытла з раскопу І у Аздзяцічах не след перабольшваць: у домабудаванні сярэднебеларускіх гарадзішчаў яно выглядае хутчэй як выключэнне, што з'явілася тут дзякуючы нейкаму знешнему ўплыву. Згодна з А. А. Егарэйчанкам, падабенства да мілаградскіх маюць і некаторыя катэгорыі інвентару ранняга часу, прадстаўленыя ў тых жа комплексах Сярэдняй Беларусі. Даследчык мае на ўвазе касцяныя шпількі, бронзавыя пласцінчастыя бранзалеты і пярсцёнкі. Але ж немагчыма пераканацца ў менавіта мілаградскай спецыфічнасці ніводнай са згаданых вышэй катэгорый знаходак. Тым больш што касцяныя вырабы, у тым ліку шпількі, у мілаградскай культуры ўвогуле рэдкія. Затое яны вельмі шматлікія ў культуры днепра-дзвінскай, у якой прадстаўлены таксама і пласцінчастыя бранзалеты і пярсцёнкі з бронзы (Шадыро, 1985. Рис. 20—21; 42). Відаць, апрача згаданых у А. А. Егарэйчанкі варта звярнуць увагу таксама і на рэчы іншых катэгорый, якія трапляліся на сярэднебеларускіх

гарадзішчах разам з «мілаградскай» керамікай. Гэта долатападобная прылада з Лабеншчыны, сякера паўднёвапрыбалтыйскага тыпу з вузкім лязом, шматлікія грузікі дзякава тыпу. Гэтыя знаходкі маюць аналогіі на днепрадзвінскіх помніках (Митрофанов, 1978. С. 35; Шадыро, 1985. С. 52). Усё гэта арыентуе на днепра-дзвінскі, а не на мілаградскі стыль. Між іншым як і абсалютная адсутнасць хоць бы нейкіх слядоў пахаванняў. Сярэднебеларускія гарадзішчы з культураю тыпу ніжніх пластоў Лабеншчыны маюць падабенства да днепра-дзвінскіх помнікаў не меншае, чым да мілаградскіх. Таму і здаецца пазаўчасным сцвярджэнне аб наяўнасці на тэрыторыі нашай краіны апрача верхнедняпроўскага і палескага яшчэ і сярэднебеларускага лакальнага варыянта мілаградскай культуры (Егорейченко, 1996. С. 64 і наст.). Нарэшце, можа, мае сенс гаварыць аб адзіным верхнедняпроўскапалескім яе варыянце — з пазначэннем асобнай заходнепалескай групы помнікаў.

## 3. МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА І ЗАНЯТКІ НАСЕЛЬНІЦТВА

Самую вялікую групу матэрыялаў на паселішчах і могільніках мілаградскай культуры складае кераміка. Гліняны посуд найбольш выразна адлюстроўвае культурныя асаблівасці мілаградскага насельніцтва. Ён істотна адрозніваецца формамі, тэхналагічнымі рысамі вытворчасці і дэкорам ад посуду суседніх плямёнаў. Уся мілаградская кераміка на даследаваных помніках толькі ляпная. Майстры-керамісты ляпілі сасуды з мясцовых глін, радовішчы якіх меліся каля паселішчаў. У большасці сваёй гэта былі гідраслюдзістыя гліны азёрна-алювіяльнага паходжання. Вывучэнне керамікі з помнікаў Усходняга Палесся, Падняпроўя і Пасожжа петраграфічным метадам паказала, што глінянае цеста, прыгатаванае для лепкі, утрымлівала 15% спадарожных натуральных мінеральных уключэнняў, якія меліся ў сыравіне. З гэтага вынікае, што майстры аддавалі перавагу гліне эластычнай і не вельмі тлустай. Штучныя дамешкі ў фармовачнай масе складалі прыкладна 12—15%. Каб атрымаць фармовачную масу неабходнай якасці, у глінянае цеста падсыпалі яшчэ жарству — здробнены граніт (каля 10%) і шамот — керамічны бой (каля 2—5%). Заўважана, што гэтыя дзве штучныя дамешкі знаходзяцца ў пастаянна падпарадкаванай прапорцыі: жарствы ў два-тры разы больш, чым шамоту. Безумоўна, што абястлушчвальнікі не заўсёды якасна вымешваліся ў гліняной масе. Лепка сасудаў пачыналася са стварэння шарападобнага дна і прыдоннай часткі пасудзіны — донна-ёмісты пачатак. Затым шляхам стужкавага налепу канструяваліся тулава і верхнія часткі пасудзін. Апрацоўка паверхняў здзяйснялася яшчэ па сырых вырабах, як і іх аздабленне ямачнымі або пазногцевымі ўціскannямі па шыйках і венцах. Пасля высушвання сасуды абпальваліся на звычайных вогнішчах. У полымі вогнішчаў не вытрымліваліся пастаянныя тэмпературы і газавае асяроддзе: вокіснае або закіснае. Менавіта гэтыя акалічнасці істотна ўплывалі на афарбоўку посуду, у сувязі з чым сасуды набывалі чорны, буры або светлакарычневы ці бэжавы колер. Іншы раз гаршкі светлых адценняў мелі цёмныя плямы на паверхнях або, наадварот, на бурым фоне светлыя плямы. Увогуле ж мілаградскаму посуду ўласцівы нізкатэмпературны рэжым абпалу. Даследаваннямі зафіксаваны наступныя тэмпературы: 450—500 °С і максімальная 700—750 °С. Пры такім інтэрвале тэмператур у вогнішчах майстрыкерамісты мілаградскага насельніцтва абпальвалі гліняны посуд. Звычайна

сасуды мелі бугрыстыя і шурпатыя паверхні ад уключэнняў мінеральных дамешкаў — жарствы, шамоту і зрэдку балотнай руды. Паколькі паверхні іх добра не загладжаныя, то фактура была грубай (мал 22). Менавіта грубаляпныя гаршкі дамінуюць на помніках Пасожжа, Падняпроўя і Усходняга Палесся. А вось у Заходнім Палессі пераважала зусім іншая традыцыя. Посуд загладжваўся вельмі стваранна. Знешнія паверхні апрацоўваліся амаль да глянцу. Таму ў насельніцтва, якое пражывала ў Заходнім Палессі, ва ўжытку быў падглянцаваны посуд. Разам з тым заўважым, што майстры-керамісты мілаградскай культуры глянцаваннем посуду не займаліся, як і пакрыццём яго штрыхоўкай. У значнай ступені своеасаблівасць мілаградскай керамікі заключаецца ў формах посуду. Сасудам уласцівы акруглае або шарападобнае дно, яйкападобнае, шарападобнае і акруглабокае тулава, звужаная шыйка і адагнуты вонкі венчык (мал. 20:3—5). У калекцыі посуду мілаградскай культуры ёсць гаршкі без шыйкі і са сплошчаным дном. Апошнія, напрыклад, мелі распаўсюджанне па-за межамі Беларусі на Кіеўшчыне і ў басейне верхняга і ніжняга цячэння Гарыні (мал. 21:1, 3, 4). Памеры сасудаў розныя. Вялікія маюць дыяметр шыйкі ад 20 да 35—40 см. Але пераважаюць гаршкі сярэдняй велічыні з дыяметрам па венчыку 10—20 см. Сярэдняя вышыня вялікіх пасудзін каля 35 см, а сярэдніх — 15—20 см. Таўшчыня сценак у невялікіх сасудаў 0,4—0,5 см. Большасць абломкаў керамікі мае таўшчыню 0,6—0,7 см. У пасудзін вялікіх памераў сценкі таўшчынёю 0,8—1,2 см. Амаль на ўсіх паселішчах, на якіх праводзіліся раскопкі, знойдзены мініяцюрныя сасудзікі (мал. 20:1, 2). Вышыня іх часта не дасягае нават 5 см. На Беларусі найбольшае распаўсюджанне атрымалі сасуды з яйка- і шарападобным тулавам, круглым дном і адагнутым венцам, якое адхілена паволька або рэзка (мал. 20:3—5). Па прызначэнню посуд насельніцтва мілаградскай культуры падзяляецца на кухонны, сталовы і рытуальны. Да апошняга адносяцца мініяцюрныя сасудзікі і тыя гаршкі, якія скарыстоўваліся пры пахавальным звычаі. Пасудзіны вялікіх памераў прызначаліся галоўным чынам для захавання такіх прадуктаў харчавання, як збажына. Да сталовага посуду варта адносіць міскі і кубкі. Міскі былі прыземістыя з чашападобным нізам і без пазначанага венчыка. Формы краю венчыкаў афармляліся па-рознаму: закругленнем або ён быў зрэзаны гарызантальна ці ўхілам да ўнутранага або знешняга боку (мал. 22). Частка іх ад шыйкі паступова патанчалася да краю. Майстры-керамісты не толькі ляпілі але і ўпрыгожвалі посуд. Вынікі раскопак гарадзішчаў сведчаць, што на розных помніках колькасць упрыгожанага посуду была не аднолькавай. На паселішчах Падняпроўя аздобленыя сасуды пераважаюць над неарнаментаванымі, а вось на Усходнім Палессі наадварот: на гарадзішчы Ліскі — 11% арнаментаванага посуду, а на паселішчы Старое Краснае — 17,4% (Мельниковская, 1967. С. 101; Лошенков, 1990. С. 13). Аздаблялася толькі верхняя частка сасудаў: венчыкі, шыйкі і зрэдку плечыкі (мал. 21:2; 22). Па тэхніцы выканання малюнкі былі ў выглядзе ямачных уціскаў, скразных адтулін, адбіткаў пазногця і канцом пальца (мал. 20:2; 21:2; 22). На помніках Падняпроўя пераважае арнамент з уціскаў, выкананых канцом пальца, а на Палескіх — ямачных уціскаў, выкананых канцом палачкі. Скразныя праколы зафіксаваны на посудзе паселішчаў Усходняга і Заходняга Палесся. Сярод аздабленняў дамінуюць узоры, нанесеныя палачкай на знешнюю паверхню вырабаў. Жамчужыны — уціскі з унутранага боку часцей сустракаюцца на помніках Заходняга Палесся і Падняпроўя. Звычайна малюнак з уціскаў

выконваўся ў адзін рад, радзей у два і вельмі рэдка ў тры рады. Часцей за ўсё ўпрыгожаалася шыйка сасудаў. Верхнія часткі венчыкаў арнаментаваліся жамчужным узорам. Нягледзячы на вялікую колькасць керамікі з паселішчаў, дзе яе вынайдзена дзесяткі тысяч фрагментаў, развалы гаршкоў траплялііся даволі рэдка, таму цалкам адноўленыя формы посуду — з'ява не частая. Крыху больш цэлых сасудаў паходзіць з могільнікаў Дубай, Гарошкаў, Давыд-Гарадок. В. М. Мельнікоўская на матэрыялах Падняпроўя вылучыла тры храналагічныя групы керамікі. Падобныя адпааеднасці ўстойлівых форм сасудаў пэўнаму адрэзку часу (стагоддзю) на палескіх помніках не прасочваюцца. Індыкатарам ранняга жалезнага часу агульнапрынята лічыць жамчужны арнамент і скразныя праколы. Астатнія элементы дэкору, як і формы сасудаў, не маюць, на наш погляд, вузка абмежаванага часу іх выкарыстання.

На помніках мілаградскай культуры даволі часта сустракаюцца гліняныя вырабы, якія адпавядаюць розным відам дзейнасці жыхароў паселішчаў. Адны з іх маюць прамыя адносіны да светапоглядаў і вераванняў (культавыя фігуркі жывёл і асобныя грузікі), другія звязаны з бронзаліцейнай справай (тыглі, льячкі, ліцейныя формы), трэція — з заняткам жанчын прадзеннем і ткацтвам (грузікі). У апошняй справе іх галоўнае прызначэнне — нацягванне нітак у ткацкіх прыстасаваннях (станках) з гарызантальнай асновай. Вылепленыя з гліны грузікі маюць невялікія памеры. Вышыня або даўжыня іх ад 1,4 да 5,1 см. Пашырэнне ж ад 1,8 да 5 см. Каналы адтулін ад 0,3 да 0,7 см. Сярэдняя велічыня большасці з іх 2,5—3,5 см. М. І. Лашанкоў устанавіў у выніку вывучэння гэтых прадметаў, што існавала тры шляхі іх выраблення. Першы заключаўся ў тым, што нешырокая стужка гліны загіналася вакол восі — палачкі, круглай у сячэнні. Другі — калі камячку гліны спачатку надавалася адпаведная форма, а затым праціскалася адтуліна (мал. 23:29). Трэці спосаб зводзіўся да вытачвання іх з абломкаў посуду (мал. 23:48). Фрагмент сценкі абточваўся ў кружок патрэбнага дыяметра, пасля чаго ў ім пракручвалася адтуліна (Лашанкоў, 1989а. С. 189). За час раскопак мілаградскіх помнікаў аынайдзена каля паўтары тысячы разглядаемых грузікаў. Яны маюць разнастайныя формы. Сістэматызацыя іх па формах дазволіла вылучыць наступныя тыпы з варыянтамі. Тып ражковых мае чатыры варыянты: крыжападобныя (мал. 23:1—4; 24:3—5), пяцірогія, шасцірогія (мал. 23:5—10; 24:6) і сасудападобна-рагатыя (мал. 23:11—14; 24:1). Тып сасудападобных складаецца з трох варыянтаў: з акруглым тулавам і донцам (мал. 23:29, 43, 46—47), ігрушападобныя (мал. 23:28, 30, 31), з завостраным нізам (мал. 23:41, 42). Грузікі біканічнага тыпу ўключаюць такія варыянты, як сіметрычныя, асіметрычныя, усечаныя (мал. 32:25). У тып цыліндрычных уваходзіць чатыры варыянты: цыліндрападобныя (мал. 23:21), з увагнутай сярэдзінай (мал. 23:18—20), з выгінам пасярэдзіне (мал. 23:25, 37, 38), плоскія (мал. 23:22, 29). Тып акруглых мае толькі два варыянты: шарападобныя (мал. 23:24) і эліпсападобныя (мал. 23:26, 27). Грузікі канічнага тыпу таксама двух варыянтаў: канічнападобныя (мал. 23:39, 40) і ўсечаныя (мал. 23:36). І, нарэшце, тып шпулепадобных сярод вылучаных з'яўляецца аднастайным (мал 23:15—17). Прыблізна чацвёртая частка разглядаемых прадметаў аздоблена. Па тэхніцы выканання арнамент трох відаў: ямачны, кропкавы і наразны. Уціcканні ў выглядзе кропак і цыліндрычных ямачак упрыгожваюць верхнюю палову альбо ўвесь выраб. Нарэзы выкананы тонкімі лініямі, неглыбокімі раўчукамі і пазногцевымі ўціcканнямі. Ма-

люнкі з хаатычным узорам прысутнічаюць на невялікай колькасці грузікаў. Большасць з аздобленых маюць геаметрычны арнамент малюнка. Зрэдку на такіх прадметах ёсць выявы раслін.

Разнастайнасць арнаментаў на гліняных грузіках ёсць у нейкай ступені адлюстраванне рэлігійна-магічнага светапогляду насельніцтва мілаградскай культуры. Малюнкі-сімвалы (мал. 25) у выглядзе ідэаграм сонца, агню, урадлівасці абумоўлівалі ўстойлівасць тагачасных аздабленняў (Лашанкоў, 1989а. С. 193—194). Разам з тым разглядаемыя прадметы вельмі рэдка трапляліся ў пахаваннях.

Каменныя прылады працы на паселішчах і могільніках мілаградскай культуры сустракаюцца даволі часта. Асартымент іх не шырокі: зерняцёркі, таўкачы, ступкі, расціральнікі, сякеры, тачыльныя брускі і дробны крамянёвы інвентар. Наяўнасць невялікай колькасці крамянёвых вырабаў (скрабкоў, нажоў, разцоў, ножападобных пласцін, праколак, вастрый), як і прадметаў рашчаплення крэменя (лускі, адшчэпаў, сколаў і нуклеусаў), трэба разглядаць з аднаго боку як прысутнасць на гэтых месцах папярэднікаў эпохі бронзы ці больш ранняга часу, а з другога — як рэлікт, уласцівы мілаградскаму насельніцтву. Выкарыстанне крамянёвых прылад — прызнак архаізму, які страціў сваё значэнне ў паўсядзённым жыцці, але яшчэ захоўваўся у пахавальным звычаі. Менавіта з культавымі ўяўленнямі трэба звязваць прысутнасць каменных сякер у культурным слоі паселішчаў. Толькі зерняцёркі, расціральнікі, ступкі і таўкачы захавалі па-ранейшаму сваю практычную вартасць. У такіх прыладах працы з каменя патрэба мелася даволі доўгі час. Раскопкі паказалі, што насельніцтва карысталася аднаручнымі зерняцёркамі. Яны складаліся з ніжняга каменя і верхняга — расціральніка. У якасці ніжняга каменя зерняцёркі выкарыстоўваліся гранітныя валуны буйных памераў (у папярочніку да 50 см). Такія зерняцёркі маюць адну плоскую рабочую паверхню, якая ў плане круглай або авальнай формы ў залежнасці ад натуральнай формы валуна. Расціральнікамі служылі невялікія па памерах камяні, якія зручна было трымаць у адной руцэ. У адрозненне ад ніжніх зерняцёрак расціральнікі маюць адзін плоскі рабочы бок або два ці нават тры. У адных выпадках іх знешнія абрысы натуральнай формы, а ў другіх — папярэдне аббітыя. Плямёны мілаградскай культуры ўжывалі камень яшчэ ў якасці будаўнічага матэрыялу пры ўзвядзенні абарончых валоў на гарадзішчах, скарыстоўвалі яго ў ацяпляльных вогнішчах і як мінеральную сыравіну для лепкі посуду ў выглядзе штучнага дамешку жарствы, а таксама ў абарончых мэтах як зброю.

Рэчы з жалеза на мілаградскіх помніках пераважаюць у выглядзе прылад працы. Упрыгожанняў з яго выраблялася значна менш. Безумоўна, што з жалеза была і зброя, але яе знойдзена не так шмат. Жалезныя прылады працы мілаградскага насельніцтва прадстаўлены нешматлікім асартыментам: матыжкамі, сякерамі, нажамі, сярпамі, шыламі і іголкамі. Матыжкі маюць трапецападобную форму, а ў сярэдняй частцы іх вышыні, па тарцовых баках, ёсць рэльефныя выступы (мал. 26:1, 2). Вышыня разглядаемых прадметаў 14—17 см. На помніках Беларусі вядомы дзве такія прылады. Яны паходзяць з гарадзішчаў Гарошкаў, Мохаўскае-1. Па аналогіях гэтыя рэчы датуюцца VII—VI стст. да н. э. (Ковпаненко, Бессонова, Скорый, 1989. С. 60, 61. Рис. 11:11). Колькасць вынайдзеных сякер большая за колькасць матыжак: чатыры цэлыя і ад пяці ёсць пёзы. Абломкі лёзаў сустрэты на гарадзішчах Ліскі (3), Падгор'е (1), Ястрабка (1), Любны. Цэлыя сякеры па канструкцыйных асаблівасцях падзяляюцца на два віды: правушныя вузкалязовыя

(мал. 26:3, 5) і кельты (мал. 26:4). Правушныя знойдзены на паселішчах Гарошкаў І Старое Краснае. Формы іх клінападобныя, вышыня — 12 см, абухі шырокія, лёзы вузкія. Разглядаемыя сякеры варта аднесіць да катэгорыі рабочых. Аналогіі ім ёсць у плямён днепра-дзвінскай і юхнаўскай культур, на помніках Смаленшчыны і Лесастэпу. Сякера са Старога Краснага датуецца VI—V стст. да н. э. (Іллінська, 1961. С. 29—31. Рис. 2). Знаходкі сякер-кельтаў на мілаградскіх помніках — з'ява рэдкая. Вядомы адзін такі выпадак, калі рэч вынайдзена на аднаслойным гарадзішчы Старое Краснае, што ў Рэчыцкім раёне. У папярэдніх выпадках гэтыя прылады працы сустракаліся на паселішчах, дзе меліся адкладанні не толькі мілаградскай, але і зарубінецкай культур (Ворнаўка, Чаплін). Такія сякеры ёсць і ў зарубінецкіх пахаваннях Чаплінскага могільніка (Поболь, 1973. С. 174, 180. Рис. 60:21; 65:2). Відаць, таму большасць даследчыкаў звязвае разглядаемыя вырабы з зарубінецкім насельніцтвам. Кельт са Старога Краснага мае наступныя памеры: вышыня 10,4 см, даўжыня ляза 4,3 см, прамавугольная ўтулка 3,5 × 4,2 см і глыбіня ўтулкі 5 см. Гэты факт пацвярджае думку, выказаную раней В. М. Мельнікоўскай, аб выкарыстанні сякер-кельтаў насельніцтвам мілаградскей культуры (Мельниковская, 1967. С. 58). З такой думкай пагаджаецца і А. А. Егарэйчанка (Егорейченко, 1996 а. С. 39).

Сярпы — спецыялізаваныя прылады працы для жніва ў час уборкі ўраджаю. Яны былі вядомы насельніцтву мілаградскай культуры, але пры раскопках знойдзены не на ўсіх паселішчах: Гарошкаў — 14 экземпляраў, Мілаград — 2, Лiскі — 4, Ястрабка — 1 экземпляр (мал. 26:6—10). Частка рэчаў дайшла ў абломках. Даўжыня захаваўшыхся цэлых экземпляраў ад 10 да 20 см. Формы — сіметрычныя і асіметрычныя, што безумоўна неаднолькава ўплывае на іх рабочыя характарыстыкі. У адных сярпоў вяршыня дугі прыпадае на бліжэйшую да ручкі трэць даўжыні ляза, а ў другіх — найбольшы выгін прыходзіцца на яе сярэдзіну. У выніку вывучэння сярпоў з Гарошкаўскага гарадзішча Ю. А. Красноў сцвярджае, што яны маюць высокія рабочыя якасці ў параўнанні з аналагічнымі вырабамі ў насельніцтва іншых культур (Краснов, 1971. С. 72—73. Рис. 45:4—6; 46). Па спосвбу мацавання ручак мілаградскія сярпы падзяляюцца на тры тыпы. Першы тып мае кароткі чаранок з уступамі, які заканчваецца невялікім кручком, загнутым перпендыкулярна плоскасці ляза (мал. 26:6—8). Для другога характэрны падоўжвны чаранок, пераход якога ў яго не вызначаны (мал. 26:9, 10). Трэці тып — чаранковыя сярпы, у якіх лязо ўступам пераходзіць у насад. Сярпы першага тыпу дамінуюць на Падняпроўі (16 экз.), тады як на Палессі (1 экз.) яны амаль невядомы. Затое на палескіх помніках мелі раслаўсюджанне сярпы другога і трэцяга тыпаў (Ліскі — 3 экз., Ястрабка — 1, Івань — 15, Лемяшэвічы — 2 экз.). Гарадзішча Івань, з якога паходзіць найбольш багатая калекцыя, утрымлівае матэрыялы культур мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі (Егорейченко, 1996. С. 23). Таму зусім верагодна, што нейкая колькасць разглядаемых прылад знаходзілася ва ўжытку мілаградскага насельніцтва. Лёзы асобных экземплярвў маюць зазубіны ў бок ручкі. Гэта акалічнасць значна павялічвала каэфіцыент карыснага дзеяння сярпоў. Насечка зазубін рабілася не кожным кузняцом або яны знішчаны карозіяй. Канструкцыйныя асаблівасці сярпоў першага тыпу дазваляюць гаварыць аб запазычанні іх форм у леевстэпвых плямёнаў, на цесную сувязь з якімі звяртае ўвагу В. М. Мельнікоўская (Мельниковская, 1967. С. 56). Сярпы другога і трэцяга тыпаў адлюстроўваюць хутчэй за ўсё мясцовыя традыцыі кузняцоў «мілаградцаў». Цікава заўважыць, што сярпы трэцяга тыпу мелі

распаўсюджанне ў пляменаў культуры штрыхаванай керамікі, але ў першай палове 1-га тысячагоддзя н. э. у іх на канцах чаранкоў сталі з'яўляцца кручкі, загнутыя перпендыкулярна плоскасці ляза (Митрофанов, 1978. С. 35—36; Мадвадзеў, 1996. С. 32—33. Рис. 51:2; 52; 53:1). Сярпы на помніках мілаградскай культуры не маюць вузка абмежаванага часу ў іх выкарыстанні, таму датуюцца яны звычайна храналагічнымі рамкамі функцыяніравання паселішчаў.

Нажы з'яўляліся найбольш распаўсюджанымі жалезнымі прадметамі, якімі карысталіся жыхары пасалішчаў. Калекцыя гэтых вырабаў ужо налічвае звыш 50 прадметаў, як у цэлым выглядзе, так і ў абломках. Толькі ў Пасожжы на гарадзішчах Любны, Падгор'е, Прысна і Уза іх знойдзена 17 і прыкладна па столькі ж на помніках Палесся і Падняпроўя. Даўжыня нажоў, што меліся ва ўжытку «мілаградцаў», у межах 7—17 см, часцей — каля 10 см. Шырыня лёзаў клінкоў 1—1,5 см. Максімальнае пашырэнне клінкоў прыходзіцца звычайна на сярэдзіну даўжыні ляза або на яго край каля ручкі. Цэлыя экземпляры ў залежнасці ад форм дазваляюць вылучыць наступныя іх тыпы. Тып першы характарызуецца выгнутай (гарбатай) спінкай і прамым лязом (мал. 27:1). Чаранкі не вылучаны, але ў іх ёсць адтуліны для мацавання тронак, хутчэй за ўсё з дапамогай заклёпак. У нажоў гэтага тыпу пачаткі клінкоў, дзе знаходзяцца лініі ляза і спінкі, маюць востры вугал. Найбольш раннія экземпляры падобных нажоў ёсць у скіфскіх комплексах Дняпроўскага Правабярэжнага Лесастэпу, дзе яны датуюцца VII—VI стст. да н. э. (Ковпаненко, Бессонова, Скорый, 1989. С. 60. Рис. 11, 13). На помніках мілаградскай культуры Беларусі нажы разглядаемай формы — радкая з'ява. З усёй калекцыі вылучаецца адзін нож з гарадзішча Прысна (мал. 27:2). Яго форма адпавядае першаму тыпу, але ён мае надзвычай шырокае лязо. Агульная даўжыня 13,5 см, а шырыня ляза 2,7 см. Спінка ў яго выгнутая, а лязо амаль прамое. У чаранку, які не выдзелен, ёсць дзве адтуліны дыяметрам каля 3 мм. Пачатак клінка выдзеланы з боку спінкі і плаўна закруглены. Нажы з шырокім лязом раней не сустракаліся. Другі тып мае выгнутую спінку і ўвагнутае лязо (мал. 27:3, 4). У іх выгнутыя лінія спінкі і чаранок утвараюць правільную дугу. У насельніцтва мілаградскай культуры вырабы такой формы пераважалі. Варта падкрэсліць, што сярод іх ёсць дзве разнавіднасці. У адных нажоў чаранок не вылучаецца ад клінка ляза, а ў другіх — ён выдзелены ўступам з боку ляза. Нажы разглядаемага тыпу выкарыстоўваліся не толькі ў штодзённым жыцці, але і ў якасці пахавальнага інвентару. Адзін такі выпадак зафіксаваны ў кургане № 7 Дубайскага могільніка (Кухаренко, 1961. С. 11, 22, 24. Табл. 2:4). Тып трэці мае амаль прамы клінок даўжынёй больш за 11 см. Лязо іншы раз можа быць ледзь увагнута, в спінка крышачку выгнутвя (мал. 27:5, 6). Пачатак клінкоў закруглены. Нажы з доўгім клінком ляза сустракаюцца на помніках Палесся, Падняпроўя і Пасожжа, але ў невялікай колькасці. Доўгалязовыя нажы, відаць, можна адносіць не толькі да бытавых прадметаў, але і да зброі. У нажоў трэцяга тыпу кароткія чаранкі — 3,5—4 см. Яны выдзелены з боку ляза (мал 27:5), у аднаго экземпляра з гарадзішча Падгор'е — св спінкі (мал. 27:6). Звычайна чаранкі нажоў замацоўваліся ў драўляных або касцяных ручках. Драўляныя ручкі не захаваліся, а вось касцяных некалькі штук знойдзена. На гарадзішчы Ястрабка такая ручка зроблена з рабра жывёлы (мал. 27:8). На Любенскім і Гарошкаўскім — з трубчастых костак. Апошнія арнаментаваныя цыркульным узорам (мал. 27:7). Разгляд гэтай катэгорыі вырабаў паказвае, што нажы першага і трэцяга тыпаў былі абмежаванымі ў мілаградскага насельніцтва, в два іх ва-

рыянты другога тыпу мелі шырокае распаўсюджанне. Відаць, сапраўды нажы першага тыпу варта лічыць найбольш архаічнымі ў параўнанні з астатнімі. І нягледзячы на тое што яны знойдзены не ў закрытых комплексах, а на паселішчах, іх, на нашу думку, трэба датаваць VII—VI стст. да н. э. Два другія тыпы нажоў, улічваючы і экземпляр з пахавання ў кургане, датуюцца VI—III стст. да н. э.

Брытвы з'яўляюцца рэдкай знаходкай не толькі ў мілаградскага насельніцтва, але і ўвогуле на помніках ранняга жалезнага веку шэрагу культур. У межах разглядаемай культуры вядомы тры экземпляры. Адзін паходзіць з грунтавога могільніка Асарэвічы (мал. 28:2) (пад'ёмны матэрыял), другі — з культурнага пласта гарадзішча Падгор'е (мал. 28:1), трэці — з селішча Лемяшэвічы. Апошняя брытва дайшла да нас у выглядзе абломка яе задняй часткі. Захаваўся фрагмент ляза з чаранком. Спінка ў фрагмента прамая, лязо выгнутае. Шырыня лязв каля злома 1,7 см, а даўжыня 2,5 см. Чаранок выгнуты ў бок спінкі. Ад ляза ён вылучаны ўступам і да краю паступова звужаецца. Даўжыня яго каля 2,5 см. У брытве з Асарэвічаў абламаныя канцы ляза і чаранка (мал. 28:2). Экземпляр, які захаваўся, памерам 6 см. Спінка ўвагнутая, а лінія ляза паралельна спінцы. Па назіраннях В. М. Мельнікоўскай, разглядаемы экземпляр адносіцца да раннелатэнскіх брытваў і таму яна прадатавала яго канцом V — пачаткам III ст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 62. Рис. 23:3). Відаць брытву з Падгор'я варта датаваць IV—III стст. да н. э. У насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі такія рэчы знойдзены на гарадзішчах Банцараўшчына, Лабеншчына і Пятровічы (Митрофанов, 1978. С. 35. Рис. 20:24; Лашанкоў, 1994б. С. 123). Але часцей брытвы выходзіліся на помніках днепра-дзвінскай культуры Барсукі, Буракова, Дзямідаўка, Самсонцы, Халмец (Шадыро, 1985. С. 61, 62. Рис. 40:8, 9; Шмидт, 1992. С. 85. Табл. 29:7—12). В. М. Мельнікоўская згадвае аб рэдкіх знаходках гэтых прадметаў на тэрыторыі Украіны (Мельниковская, 1967. С. 62). Несумненна, што разглядаемыя вырабы трапілі да «мілаградцаў» ад кельтаў разам з іншымі латэнскімі рэчамі недзе ў IV ст. да н. э. (Монгайт, 1974. С. 255; Бидзиля, Щукин, 1993. С. 81, 82, 83).

Значную частку жалезных рэчаў складаюць шылы і вастрыі. Яны прысутнічаюць на большасці даследаваных помнікаў. Так, у Пасожжы на гарадзішчы Падгор'е С. Я. Расадзіным іх знойдзена больш за 6 экземпляраў. Захаваліся толькі металічныя стрыжні. Ручкі адсутнічаюць у асноўнай масы вырабаў. Яны былі як драўляныя, так і касцяныя. Адно шыла з касцяной ручкай вынайдзена ў яме на Гарошкаўскім гарадзішчы. Цэлыя стрыжні маюць памеры ў даўжыню ад 5 да 18 см. У стрыжняў адзін канец, які знаходзіўся ў тронцы, быў расклёпаны ў пласціну, прамавугольную ў сячэнні. Ён мог быць і гранёным — квадратным або круглым у сячэнні. Другая яго палова, як правіла, з круглага дроту, які да канца паступова патанчаўся і рабіўся вострым. Цікава, што зусім рэдка траплялiся іголкі. Адзін экземпляр знойдзены В. М. Мельнікоўскай, ды і той зроблены з бронзы. Даўжыня яго 6 см. Магчыма, частка тонкіх стрыжняў невялікіх памераў была іголкамі, але вушкі і канцы ў іх з'едзены каразіяй жалеза. У насельніцтва таго ж часу суседніх культур разглядаемыя прадметы ёсць, што не дае магчымасці выключаць іх наяўнасці і на мілаградскіх помніках.

Прадметаў убрання на помніках мілаградскага насельніцтва знойдзена значна менш у параўнанні з іншымі катэгорыямі вырабаў. Яны выяўлены даследчыкамі як на гарадзішчах, селішчах, так і на грунтавых і курганных

магільніках. У калекцыі іх налічваецца каля 95 адзінак. Па функцыянальнаму прызначэнню і колькасці перавышае зброя дальняга бою. Галоўным чынам наканечнікі стрэл, затым коп'яў і дроцікі. Зброя бліжняга бою прадстаўлена акінакамі. У гэтых мэтах «мілаградцамі» маглі выкарыстоўвацца доўгалязовыя нажы. В. М. Мельнікоўская згадвае аб знаходках на Асарэвіцкім комплексе помнікаў разам з акінакам яшчэ жалезнага мяча і бронзавага кінжала (Мельниковская, 1967. С. 72). Другі акінак з паселішча Казаровічы (мал. 28:3), што на тэрыторыі Украіны (Петровська, 1971. С. 14. Рис. 3, 7). Абодва акінакі У. Я. Яроменка прадатаваў VI—V стст. да н. э. (Еременко, 1969. С. 84). Вядомы нам экземпляр дроціка з Гарошкаўскага гарадзішча памерам 25 см. Пяро лістападобнай формы, даўжынёй 6 см, у папярэчным сячэнні лінза падобнае (мал. 28:5). В. М. Мельнікоўская датуе яго IV—III стст. да н. э., а У. Я. Яроменка — сярэдзінай IV — першымі дзесяцігоддзямі III ст. да н. э. (Мельнікоўская, 1967. С. 71; Еременко, 1989. С. 86). Касцяная ўтулка дроціка ці кап'я ёсць на Уваравіцкім гарадзішчы, а фрагмент жалезнай — на гарадзішчы Старое Краснае (Дробушевский, 1995. С. 93. Рис. 2:8). Дроцік з гарадзішча Уваравічы (мал. 28:4) адрозніваецца ад гарошкаўскага не толькі большай даўжынёй, але і формай пяра, якое ў яго з шыпамі.

Наканечнікаў коп'яў налічваецца 12 экземпляраў. 3 іх 5 паходзяць з Заходняга Палесся з курганнага могільніка Дубай. Яны маюць даўжыню ад 16 да 28 см. Пяро лістападобнай формы прыкладна аднолькавай даўжыні з утулкай. Стрыжань утулкі прадаўжаецца выступам праз пяро (мал. 28:6—8). Дзіды з Дубайскіх курганоў Ю. У. Кухарэнка прадатаваў VI — пачаткам V ст. да н. э., а С. Я. Расадзін — VIII—VII стст. да н. э. (Кухаренко, 1961. С. 11; Рассадин, 1989. С. 8). На нашу думку, з улікам апошніх датыровак іх можна датаваць часам не раней сярэдзіны VII ст. да н. э., а позні час абмяжоўваць VI ст. да н. э. уключна (Археология... 1986. С. 34, 36; Ковпаненко, Бессонова, Скорый, 1989. С. 63. Рис. 12:12, 13, 15). Астатнія коп'і знойдзены ва Усходнім Палессі. Два — на гарадзішчах Ліпнякі і Івань, а тры — выпадкова: з Урыцкага, Бечаў і Мокіша. Да таго ж фрагменты пер'яў трапляліся яшчэ на Іваньскім і Халопеніцкім гарадзішчах (Егорейченко, 1996. С. 40—41. Рис. 33: 1—3). Наканечнікі з Івані, Халопеніч і Мокіша ў роўнай ступені маглі належаць як «мілаградцам», так і іншаму насельніцтву. Кап'ё з Урыцкага кладу прадатаваў V ст. да н. э. яшчэ К. М. Палікарповіч (Палікарповіч, 1947. С. 65, 66). На падставе тыпалагічнага падабенства разглядаемыя дзіды датуюцца наступным чынам: з Ліпнякоў — VI—IV стст. да н. э., з гарадзішча Бечы — VI—V стст. да н. э. і з вёскі Мокіш — IV—III стст. да н. э. (Лошенков, 1990. С. 14).

Наканечнікі стрэл траплялiся часцей, чым астатнія віды зброі. Калі ў сярэдзіне 60-х гадоў В. М. Мельнікоўская налічвала іх каля 60 экземпляраў, то напрыканцы 90-х гадоў іх колькасць узрасла яшчэ прыкладна на 25 адзінак. Раней яны былі вядомы толькі на помніках Падняпроўя. Цяпер іх вынайшлі на гарадзішчах Пасожжа: Любны, Уваравічы, Уза, Шапатовічы. У палескім рэгіёне яны ёсць як на гарадзішчах (Ліскі, Ясянец-1), так і на селішчах (Лемяшэвічы, Хільчыцы). Уся калекцыя стрэл падзяляецца ў залежнасці ад матэрыялу на касцяныя, бронзавыя і жалезныя. Сярод улічаных аўтарам больш за ўсё бронзавых — 43 экземпляры, затым жалезных — 31 і касцяных — 6 экземпляраў.

Касцяныя наканечнікі кулепадобнай формы (мал. 29:1, 2). У папярэчным сячэнні яны круглыя. Аснаванне зрэзана прама, дыяметр яго каля 1 см. Дзве стралы маюць авальнае аснаванне (Уваравічы, Шапатовічы), а экземпляр з

Гарошкава — квадратнае (мал 29:1). Страла з Шапатовіцкага гарадзішча выразалася і праца над ёй не завершана: яна не адшліфавана (мал. 29:2). Па назіраннях А. І. Мелюковай у скіфскага насельніцтва кулепадобныя наканечнікі выточваліся (Мелюкова, 1964. С. 30). Разглядаемыя стрэлы маюць унутраныя ўтулкі, часта неглыбокія (каля 1 см). Даўжыня такіх стрэл 4,5—5,5 см. Касцяныя наканечнікі датуюцца па скіфскіх аналогіях даволі шырока VII—III стст. да н. э. (Мелюкова, 1989. С. 92). Гарошкаўскі наканечнік В. М. Мельнікоўская прадатавала канцом V — пачаткам IV ст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 71). Мяркуецца, што стрэлы з косці варта звязваць з архаічным перыядам у жыцці мілаградскіх плямёнаў. Дзве касцяныя стралы з Чаплінскага гарадзішча трэба адносіць да «мілаградцаў», якія і заснавалі гэта паселішча. Даследчыкам падобныя вырабы сярод старажытнасцей зарубінецкай культуры не вядомы.

Бронзавыя наканечнікі траплялiся на наступных помніках: Асарэвічы (22 экз.), Гарошкаў (1 экз.), Гарадок (Бывалькаўскі с/с) (1 экз.), Калочын-2 (1 экз.), Лемяшэвічы (2 экз.), Хільчыцы (13 экз.), Чаплін (3 экз.), Ясянец-1 (1 экз.). Па канструкцыйных асаблівасцях яны падзяляюцца на трохгранныя з унутранай або выступаючай утулкай (мал. 29:5); трохлопасцевыя э ледзь выступаючай утулкай і утульчатыя з шыпам на утулках (мал. 29:6). Апошнія наступных тыпаў: трохлопасцевыя (1) (мал. 29:6), двухлопасцевыя з пяром рамбічнай формы (7) (мал. 29:3, 7—11, 16) і лістападобнай (6) (мал. 29:12—15). Двух- і трохлопасцевыя наканечнікі з шыпамі на ўтулках, рамбічным і лістападобным пяром датуюцца VII—VI стст. да н. э. (Мелюкова, 1989. С. 92). З гэтага вынікае, што бронзавыя стрэлы з селішча Хільчыцы і Ясянецкага-1 гарадзішча з'яўляюцца найбольш раннімі ў калекцыі мілаградскіх, бо яны адпавядаюць ранняскіфскаму перыяду (Ковпаненко, Бессонова, Скорый, 1989. С. 5, 14, 27, 50—75). Па аналогіях з ранняскіфскімі наканечнікамі стрэлы з селішча Лемяшэвічы (мал. 29:4, 5) адносяцца да гэтага ж часу (Полін, 1987. Мел. 1; 5; 7; 13; 14; 24:2; 7; 9; Мелюкова, 1989. С. 92. Табл. 31: 6, ж, з; 7, г, д). Калекцыя разглядаемых стрэл з Асерэвічаў самая вялікая. В. М. Мельнікоўская вызначыла яе час IV—III стст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 71). Разам з тым наканечнікі з гэтага помніка маюць уласцівыя ім адметнасці, якія дазваляюць адносіць іх да больш ранняй пары. У іх трохвугольная галоўка вузкая ў аснаванні, яны маюць падоўжаныя прапорцыі, канцы граняў і лопасцей аформлены ў выглядзе вострых шыпоў (мал. 28:9—11). Адзначаныя акалічнасці адпавядаюць стрэлам у скіфаў з другой паловы V ст. да н. э. (Мелюкова, 1989. С. 92. Рис. 31; 9, г, д, е, ж). Чаплінскі наканечнік, знойдзены Л. Д. Побалем, — трохгранны і даследчык прадатаваў яго III ст. да н. э. (Поболь, 1971. С. 33). Такія бронзавыя стрэлы можна датаваць і IV ст. да н. з. Невялікія трохгранныя наканечнікі з унутранымі ўтулкамі, якія ёсць і ў Асарэвічах, датуюцца пераважна IV—III стст. да н. э., бо ў гэты час яны атрымліваюць найбольш шырокае распаўсюджанне у паўднёвых суседзяў. Нельга не звярнуць увагу на тое, што на большасці даследаваных помнікаў мілаградскай культуры стрэлы з бронзы сустракаюцца па адной, радзей — дзве, тры. Гэта, на нашу думку, сведчыць аб прыналежнасці іх мясцовым жыхарам. У той колькасці, у якой разглядаемыя наканечнікі прысутнічаюць на паселішчах, яны маглі быць набыты разам з іншымі бронзавымі вырабамі. А вось канцэнтрацыя іх у Асарэвічах і Хільчыцах — вынік агрэсіі, дзе яны былі пакінуты ў выніку набегаў з поўдня. М. І. Лашанкоў прытрымліваецца думкі В. М. Мельнікоўскай аб прыналежнасці бронзавых стрэл мілаградскаму насельніцтву і не згаджаецца з яе абвяржэннем У. Я. Яроменкам (Еременко, 1989. С. 84).

Жалезныя наканечнікі стрэл мілаградскім насельніцтвам выкарыстоўваліся разам з бронзавымі. Даследчыкі лічаць гэта адметнай рысай культуры. Сустракаліся яны зрэдку ў пахаваннях (Гарошкаў, Чаплін) і ў большасці на паселішчах: Асарэвічы (2 экз.), Лемяшэвічы (1 экз.), Ліскі (1 экз.), Любны (1 экз.), Уза (1 экз.), Хільчыцы (3 экз.), Чаплін (2 экз.). Звяртае на сябе ўвагу разнастайнасць разглядаемых стрэл. Яны падзяляюцца на пласціністыя (мал. 29:21—30) і ўтульчатыя (мал. 29:18—20). Першыя пераважаюць колькасна — 26 экземпляраў. Вядома 5 утульчатых наканечнікаў: па аднаму на гарадзішчах Асерэвічы, Ліскі, Уза і два на Чаплінскім могільніку, але не ў пахаваннях. Зарубінецкая прыналежнасць двух апошніх малаверагодна (Максимов, Русанова, 1993. С. 29. Табл. IX: 20, 21). Утульчатыя наканечнікі стрэл маюць плоскія пёры падоўжана-трохвугольнай формы і круглыя чаранкі з утулкамі. Агульная даўжыня іх 2,8—5 см. Адны маюць роўныя суадносіны памераў пяра і ўтулкі, другія — утулку, даўжэйшую за пяро (мал. 29:18—20). Па-за межамі Беларусі стрэлы, падобныя разглядаемым, ёсць на могільніку каля вёскі Залессе на тэрыторыі Украіны і на помніках Сярэдняга Дона (Мельниковская, 1967. С. 69, 71; Мелюкова, 1989. С. 92). Найбольш раннія экземпляры такіх стрэл з'яўляюцца ў VI ст. да н. з., але ў IV—III стст. да н. э. яны атрымліваюць шырокае распаўсюджанне ў лесестэпавага насельніцтва Сярэдняга Дона. Відаць, адсюль, з паўднёвага ўсходу, яны пранікаюць да плямёнаў мілаградскай культуры на тэрыторыю Беларусі недзе ў V—IV стст. да н. э. Пласціністыя стрэлы з жалеза ўражваюць не толькі колькасцю, але і разнастайнасцю (мал. 29:21—30). Сярод іх адна чарашковая з гарадзішча Любны (мал. 29:21—28). У яе лістападобнае пяро плаўна пераходзіць у чаранок, які на канцы раздвоены накшталт ластаўкіна хваста. Стрэлы падобнага тыпу з'явіліся ў «мілаградцаў» з левабярэжных лесестэпавых тэрыторый Дняпра і датуюцца яны адпаведна IV—III стст. да н. э. (Мелюкова, 1964. С. 29). Усе астатнія пласціністыя наканечнікі бесчаранковыя — 25 экземпляраў. З іх 7 улічана аўтарам і 18 зафіксавана В. М. Мельнікоўскай (Мельниковская, 1967. Рис. 29; 10—23; 25, 27—29). Такія стрэлы сустракаліся на селішчах Лемяшэвічы (1) і Хільчыцы (3), у пахаваннях Гарошкаўскага (1) і Чаплінскага (1) могільнікаў і на Асарэвіцкім комплексе (1). Яны ўяўляюць сабой пласцінкі таўшчынёй 1—3 мм і даўжынёй ад 1,8 да 4,3 см. Іх формы ў плане неаднастайныя: трохвугольная, рамбічная, лісталадобная (мал. 29:21—28). Адны з іх маюць даўжыню, роўную шырыне аснавання, а другія падоўжаныя. Аснаванне ва ўсіх экземпляраў зрэзана прама. Максімальнае пашырэнне пяра ў адных прыходзіцца на сярэдзіну даўжыні, а ў другіх — бліжэй да аснавання. Некаторыя маюць ледзь бачныя ўступы для выдзялення чаранкоў, якімі яны мацаваліся ў дрэўка. Такім спосабам замацоўваліся ўсе пласціністыя бесчаранковыя наканечнікі, зробленыя мясцовымі кузняцамі. У калекцыі вылучаецца страла з селішча Лемяшэвічы. Яна трохвугольнай формы, але аснаванне ў яе мае выемку (мал. 29:29). Аналогіі падобным стрэлам вядомы ў насельніцтва дзякаўскай культуры (Вергей, 1995. С. 91. Рис. 3.1; Дубынин, 1974. С. 228, 249), дзе яны лічацца найбольш ранніімі і датуюцца VII—VI стст. да н. э. Разглядаемыя наканечнікі знойдзены і на ўкраінскіх помніках гэтай жа культуры на Паўночным Палессі і пад Кіевам (Даниленко, 1953. С. 203. Табл. 1, 15; Петровська, 1971. С. 14. Рис. 3, 1). Паколькі пласціністыя стрэлы сустракаліся разам з бронзавымі ранняскіфскага часу, то іх ранні рубеж, відаць, трэба адносіць да VII—VI стст. да н. з., а позні абмяжоўваць III ст. да н. з.

Воіны плямёнаў мілаградскай культуры ўзбройваліся лукамі се стрэламі, коп'ямі, акінакамі, кінжаламі, баявымі нажамі і прашчой. Прамых дадзеных аб формах і памерах лукаў, стрэл, коп'яў мы не маем. Ускосныя сведчанні — добравядомыя рэчы ў суседзяў і пісьмовыя крыніцы. Апошнія ўтрымліваюць апісенні лукаў як у скіфаў, так і ў няскіфскага насельніцтва. «У той час, як лукі ва ўсіх народаў згіналіся з гнутых дрэў, лукі скіфаў... увагнуты з двух бакоў...» (Марцеллин, XXII, 8, 37). Даследчыкі адзначаюць складаную форму скіфскіх лукаў і даўжыню іх каля 0,7 м (Мелюкова, 1964. С. 14—15; Черненко, 1981. С. 7—28). Трэба думаць, што ў «мілаградцаў» лукі былі як мясцовыя, сагнутыя з дрэў, так і складаныя, скіфскія. Стрэлы да іх рабіліся з розных парод дрэва — арэшніка, граба, бярозы, таполі, ясеня. Даўжыня дасягала 0,6—0,7 м. На адным канцы іх замацоўваліся касцяныя, бронзавыя або жалезныя наканечнікі, а на другім мелася невялікае пашырэнне і ў тарцы — выемка для цецівы. Для дальняга бою мілаградскае нвсельніцтва выкарыстоўвала яшчэ прашчу. Прашчнікі кідалі камяні ў ворагаў. Камяні для прашчы знойдзены амаль на ўсіх даследаваных помніках. Эфектыўнай зброяй для бою на сярэдняй адлегласці з'яўляліся коп'і і дроцікі. Можна лічыць, што апошнія ўвогуле адсутнічаюць на мілаградскіх помніках, бо наяўнасць двух экземпляраў — факт выпадковасці. Невялікая колькасць наканечнікаў дзідаў сведчыць аб непапулярнасці такога віду зброі ў насельніцтва мілаградскай культуры. Коп'і ў суседніх плямёнаў мелі даўжыню ад 1,7 да 2,2 м (Мелюкова, 1989. С. 93). У бліжнім баі выкарыстоўваліся вкінакі, кінжалы, сякеры і нажы з падоўжаным лязом. Прадметы ўзбраення з помнікаў мілаградскай культуры даюць падставы гаварыць аб тым, што воіны разглядаемага насельніцтва былі лёгкаўзброенымі. Асноўным відам зброі ў іх з'яўляўся лук.

У культурным пласце мілаградскіх помнікаў сустракаецца і конская збруя. Рыштунак безумоўна не ў поўным наборы. Вядомы толькі асобныя прадметы. У невялікай па колькасці калекцыі ёсць ланцуг аброці, бляшкі з пяцелькамі, кольцы і вырабы ў выглядзе званочкаў. Жалезны ланцуг з аброці знойдзены ў 1957 г. на Гарошкаўскім гарадзішчы ў скарбе земляробчых прылад працы. Ім былі абгарнуты тры сярпы, сякера, матыжка і кальцо (Мельниковская, 1967. Рис. 20; 21). Ланцуг пашкоджаны карозіяй і таму разваліўся на часткі. Даўжыня яго прыкладна 50—60 см. Ён мае складанае сппяценне. Кожнае звяно ўяўляе сабой складзенае папалам кальцо з дроту, квадратнага ў сячэнні. Шырыня звёнаў 2—3 см. Розная шырыня звёнаў рабіла ланцуг гнуткім, рухомым. Адпаведная рэч ёсць у адным з урнавых пахаванняў Ніенбургскага могільніка Саксоніі. В. М. Мельнікоўская прадатавала разглядаемы ланцуг з Гарошкава IV—III стст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 73). Бронзавыя бляшкі з пяцелькамі аднесены да конскай збруі на падставе аналогій. На паселішчах мілаградскага насельніцтва іх вядома шэсць. Пяць з іх паходзяць з гарадзішчаў Асарэвічы, Гарошкаў, Мілаград. Яны маюць паўсферычны выгляд: круглыя, выпуклыя, тонкія. Памеры 1,7—3,7 см. Пяцелькі ў іх знаходзяцца на адваротным баку ў цэнтры або замацаваны да краёў. Такія предметы — незд'емныя спадарожнікі аброцевых набораў (Петренко, 1967. С. 38, 39. Табл. 27; Ильинская, 1968. С. 103—136. Табл. XVII: 14; LIII: 11). Лічыцца, што імі ўпрыгожваліся аброці, для чаго іх прышывалі да налобных, наносных і нашчочных рамянёў. Яшчэ ў V ст. да н. э. такія рамяні былі шырокімі, а бляшкі на іх дробнымі (Петранко, 1967 С. 38. Табл. 27, 34—37, 41). Колькасць іх была рознай. Выкарыстоўваліся яны, з аднаго боку, для

упрыгожанняў, а з другога — для прыкрыцця рамянёвых злучэнняў у скрыжаваннях. Змены, якія адбыліся ў IV ст. да н. э., прывялі да таго, што раз глядаемыя бляшкі выйшлі з выкарыстання, а на змену ім з'явіліся круглыя плоскія і большых памераў. Адзіны такі экземпляр ёсць на гарадзішчы Ліскі. Кольцы ў час раскопак траплялiся таксама нераўнамерна. Калі ў Падняпроўі яны сустракаліся часта, то ў іншых рэгіёнах — рэдка. Дыяметры жалезных кольцаў ад 2,5 да 4 см. У калекцыі ёсць вырабы не толькі з жалеза, але і бронзы. Знаходзіліся яны як па аднаму, так і па некалькі злучаных разам (2—3). Незвычайнасцю формы вылучаецца колца з Гарошкаўскага скарбу, васьмёркападобнае, але з павернутымі перпендыкулярна адна да другой паловамі. Двайныя кольцы крыху іншай формы служылі для мацавання павадоў да аброцяў. Колца самых вялікіх памераў з гарадзішча Ястрабка выкарыстоўвалася хутчэй за ўсё для злучэння падпружных рамянёў. Разглядаемыя кольцы меліся і на канцах цугляў. Нягледзячы на шырокае выкарыстанне такіх прадметаў у конскай збруі, прамых сведчанняў іх прыналежнасці да рыштунку каня ў нас няма. Скураныя рамяні ў слоі помнікаў не захоўваюцца. Таму можна меркаваць, што толькі некаторая частка са знойдзеных жалезных і бронзавых кольцаў можа належаць конскай збруі. Да такіх рэчаў адносяцца і прадметы ў выглядзе званочкаў. Іх на помніках Беларусі вядома няшмат: Мілаград — 2, Ліскі — 1, Падгор'е — 1, Чаплін — 1 (Третьяков, 1959. С. 142. Рис. 14, 9). Форма іх нагадвае ўсечаны конус. Памеры розныя. Экземпляр з Ліскаў мае вышыню 1,1 см, дыяметр уверсе — 0,7 см і ўнізе 2 см, а з Мілаградаў — адпаведна 4,2 см, 1 см, 2,5 см. Усе яны адліты з бронзы. Адзін званочак з гарадзішча Мілаград мае тры прарэзкі ў выглядзе трохкутнікаў. Па распрацаванай тыпалогіі У. Г. Пятрэнка, яны размяжоўваюцца наступным чынам: тып 1 — канічныя (дзве з Мілаграда); тып 2 — увагнутаканічныя (Падгор'е, Чаплін) і тып 3 — паўсферычныя (Ліскі). У насельніцтва Лесастэпавага Падняпроўя аналагічныя прадметы з'яўляюцца ў V ст. да н. э., дзе яны ёсць у пахавальных комплексах (Петренко, 1967. С. 41; Ильинская, 1968. С. 135). Разглядаемыя звонападобныя вырабы ў жыхароў мілаградскіх паселішчаў маглі выкарыстоўвацца не толькі ў якасці званочкаў, але і для злучэння раменных вузлоў у аброцях, упрыгожання збруі, мацавання канцавых вузлоў. Формы, памеры і абставіны, пры якіх іх вынаходзілі, гавораць аб неаднастайным іх выкарыстанні і не толькі ў конскай збруі. Разгляд прадметаў рыштунку каня будзе няпоўным, калі не прыгадаем аб іклах дзікоў са скразнымі адтулінамі з гарадзішча Уваравічы і Шапатовічы. Справа ў тым, што такія вырабы можна лічыць спражкамі-пранізамі (Ильинская, 1968. С. 108. Табл. 44VII: 44—47; XXXIV: 14; Дробушевский, Лошенков, 1995. С. 40. Рис. 2, 1). На думку даследчыкаў, іх скарыстоўвалі для злучэння перакрыжаваных рамянёў у вуздэчках.

Грунтуючыся на вышэйзгаданых матэрыялах, можна гаварыць аб тым, што «мілаградцам» аброці былі вядомы ўжо ў VI ст. да н. э. Калі ездакі кіравалі конямі з дапамогай аброцяў, а мы гэта ўстанавілі, аналізуючы знаходкі, то нельга не заўважыць і тое, што на помніках мілаградскай культуры няма пакуль прадметаў, якія б характарызавалі астатнюю вупраж.

Упрыгожанні складаюць семую вялікую групу прадметаў матэрыяльнай культуры ў насельніцтва мілаградскай агульнасці. Яны ёсць на ўсіх відах помнікаў. Іх вынаходзілі як пры расколках, так і выпадкова. Вырабы ўпрыгожанняў прадстаўлены вельмі разнастайнымі прадметамі мясцовай і не-

мясцовай вытворчасці. Пры раскопках даволі часта трапляліся бранзалеты, шпількі, завушніцы, пацеркі, падвескі, кольцы. Зроблены яны з золата, серабра, бронзы, жалеза, шкла, гліны, косці, каменя.

Бранзалеты сустракаліся амаль на ўсіх даследаваных помніках. На цяперашні час іх вядома 55 экземпляраў. Больш паловы з улічаных намі дайшлі да нас у выглядзе абломкаў. Цэлыя (26 экз.) трапляліся пераважна ў скарбах. Яшчэ ў 1925 г. І. Х. Юшчанка зафіксаваў скарб на гарадзішчы Любны пад Гомелем. Тры скарбы знайшла В. М. Мельнікоўская ў 1954, 1957, 1958 гг. на Гарошкаўскім гарадзішчы (мал. 30:1—11). З трох апошніх паходзяць 20 бранзалетаў (Мельниковская, 1967. С. 75—76). Ва ўсіх астатніх выпадках разглядаемыя рэчы знаходзілі па адной у культурных пластах паселішчаў. Іншы раз іх знаходзілі ў жытлах і гаспадарчых пабудовах. У басейне Сажа — на гарадзішчах Любны, Уваравічы, Шапатовічы, а на Палессі — Ліпнякі, Халопенічы, Ястрабка, Ясянец-1. Сістэматызацыя калекцыі бранзалетаў, зробленая В. М. Мельнікоўскай, дазволіла па памерах і месцу, дзе насілі такія прадметы, падзяліць іх на ручныя (з дыяметрам 6—8 см) і нажныя або плечавыя (з дыяметрам 11—13 см). Акрамя таго, яна вылучыла наступныя тыпы: з гладкім стрыжнем (мал. 30:2, 3); з вітым стрыжнем (мал. 30:13, 14); з арнаментаваным стрыжнем (мал. 30:4—9) і з пласціны спіралепадобныя (мал. 30:10) (Мельниковская, 1967. С. 75—80). Дададзім, што важнае значэнне для характарыстыкі разглядаемых рэчаў маюць формы канчаткаў і стрыжняў у папярочных сячэннях. Бранзалеты мілаградскага насельніцтва добра суадносяцца з адпаведнымі ўпрыгожаннямі ў лесастэпавых плямёнаў, якія аказвалі значны ўплыў на паўночных суседзяў, сярод якіх былі і «мілаградцы». Асноўнай сыравінай для бранзалетаў з'яўляліся бронза, жалеза і вельмі рэдка серабро. Зафіксаваны два сярэбраныя — адзін з іх у скарбе 1954 г. з Гарошкава. Жалезных вядома 10 экземпляраў (Ліскі — 2, Уваравічы — 2 і 6 з Гарошкаўскага скарбу 1958 г.). У разглядаемай калекцыі менш за ўсё нажных (плечавых) бранзалетаў — 4 экземпляры. Два з іх гладкастрыжневыя. Адрозніваюцца яны афармленнем канцоў. Бранзалет з Асарэвічаў з дроту круглага ў сячэнні дыяметрам 1 см, канцы зрэзаны прама і не злучаюцца (мал. 30:12). Гарошкаўскі — дыяметрам 9,8 см з круглага дроту таўшчынёй 1 см, канцы ў яго ледзь бачна патанчаюцца (мал. 30:11), зрэзаны прама і крыху заходзяць адзін за другі. Два другія — з аднолькава арнаментаванымі стрыжнямі, прадстаўлены паловамі з двух розных месцаў: гарадзішча Ліскі і выпадкова знойдзены ў Гомелі. Ліскаўскі бранзалет дыяметрам 11 см. Падтрохвугольны ў сячэнні стрыжань таўшчынёй 0,8 см. З унутранага боку ён сплошчаны, гладкі, а са знешніх — упрыгожаны дроцікамі, якія напаяны часта, папярэчна (мал. 24:2). Пасярэдзіне дугі малюнак іншы. На знешнім перыметры, па даўжыні дугі, — чатыры драцінкі. Ніжэй іх, па бакавінах, напаяны па два на кожным з бакоў эсападобнаспіральныя завіткі (мал. 24:2) у выглядзе лічбы восем, размешчанай гарызантальна. Матэрыялы сведчаць, што ў мілаградскага насельніцтва нажныя бранзалеты былі рэдкімі ўпрыгожаннямі. Больш распаўсюджанай з'явай было нашэнне падобных вырабаў на руках (51 экз.). Ручныя бранзалеты падзяляюцца на стрыжневыя (49 экз.) і пласцілістыя (2 экз.). Апошніх толькі два і яны паходзяць з Гарошкава і Халопенічаў. Гарошкаўскі экземпляр дыяметрам 6 см, закручаны спіралепадобна ў 5,5 абароту (мал. 30:10). Пласціна ў сячэнні сегментавідная. Адзін канец у яго зрэзаны прама, а другі — закручаны ў маленькае кольца. Бранзалет з Халопеніцкага гарадзішча прадстаўлены трэцяй часткай ад цэлага. Шырыня пласціны 0,5—0,6 см, таўшчыня — 0,2—0,3 см. У адрозненне ад папярэдняга ён закручаны ў 3 аба-

роты. Канцы ў яго пастулова звужаюцца. Пласціны спіралі шчыльна злучаны і прыпаяны з унутранага боку. Найбольш папулярнымі былі стрыжнёвыя бранзалеты (49 экз.). Сярод іх вылучаецца тып з вітым стрыжнем (3 экз., Асеравічы, Гарошкаў, Мохаўскае-1). Іх выраблялі з дроту, які ў гарачым стане спецыяльна перакручвалі вакол сваёй восі. На жаль, цэлыя экземпляры не знойдзены (мал. 30: 13, 14). На другім месцы па колькасці сярод ручных бранзалеты з арнаментаваным стрыжнем (19 экз.). Яны, як правіла, літыя і маюць стрыжні ў сячэнні сегменталадобныя, радзей круглыя, квадратныя, а знешнія паверхні ў іх упрыгожаны разнастайнымі выступамі, іншы раз з шарыкамі (мал. 30:5). У гэтым тыпе вылучаюцца наступныя варыянты. Першы — суцэльныя з арнаментам у выглядзе раўнамерных рэльефных хваляў (з гафрыраванай паверхняй. — *М. Л.*) (Гарошкаў — 3, Ліскі — 1) (мал. 30:4) Другі — суцэльныя частымі зубцамі на паверхні (накшталт шасцярэнькі), якія адпавядаюць таўшчыні квадратнага стрыжня (Гарошкаў — 2, Ліскі — 2) (мал. 30:7). Трэці — з прама зрэзанымі і разамкнутымі канцамі, упрыгожаныя адзіночнымі рэльефнымі выступамі на гладкім стрыжні праз невялікія прамежкі (Гарошкаў — 2) (мал. 30:8). Чацвёрты — суцэльныя з трыма рэльефнымі выступамі праз працяглыя прамежкі на гладкім стрыжні (Гарошкаў — 1, Уваравічы — 1, Чаплін — 1) (мал. 30: 6, 9). Пяты — стрыжань круглы з тонкімі і частымі зубцамі па знешнім перыметры, а бакавіны ўпрыгожаны касымі нарэзкамі (Ліскі — 1). Шосты — суцэльныя з папярочнай дробнай нарэзкай, сярод якой вылучаюцца прамежкі з шарыкамі (Гарошкаў — 1, Уваравічы — 1, Чаплін — 1). Сёмы — суцэльныя, з дробнай папярочнай нарэзкай і на тры рэльефныя валікі праз інтэрвалы (Гарошкаў — 1). Да ліку арнаментаваных варта аднесці і пусты рэльефны шырокі бранзалет з Гарошкава, паверхня якога ўпрыгожана эсепадобнаспіральнымі завіткамі.

Дамінавалі ў мілаградскага насельніцтва гладкастрыжнявыя бранзалеты (27 экз.). У дадзеным тыпе маюцца суцэльныя, з заходзячымі і замкнутымі канцамі. Шэсць суцэльных гладкастрыжнявых экземпляраў знойдзены ў Гарошкаўскім скарбе і 2 бронзавыя ў скарбе на Любенскім гарадзішчы. У калекцыі ёсць адзін бранзалет з прама зрэзанымі канцамі, якія злучаюцца (Гарошкаў). У экземпляраў з заходзячымі канцамі заканчэнні зрэзаны прама (Гарошкаў). Бранзалеты, у якіх канцы не злучаны, даволі разнастайныя. У адных яны патанчаюцца (Гарошкаў — 1, Ліскі — 2), у другіх — раскляпаны ў пласціны накшталт лапатачкі (Ліпнякі, Мохаўскае-1), а ў трэціх — заканчваюцца шышачкамі (Шапатовічы). Таўшчыня стрыжняў у разглядаемых прадметаў 0,3—0,5 см. У сячэннях яны круглыя і зрэдку авальныя і гранёныя. Апошніх вядома два з гарадзішча Уваравічы. Нельга не адзначыць і такую акалічнасць, як упрыгожанне гэтых бранзалетаў. Іншы раз на бакавых паверхнях іх маюцца ўзоры ў выглядзе касых нарэзаў або насечкі (Уваравічы). У бранзалета з гарадзішча Мохаўскае-1 лапатачкападобны канчатак утрымлівае арнаментаваны ўзор з двух радоў заштрыхаваных трохвугольніаў, пасярэдзіне якіх — змейка з пустых квадрацікаў.

Характарызуючы разглядаемыя ўпрыгожанні, нельга не адзначыць значную разнастайнасць іх ужывання. Безумоўна, што асобныя з іх былі прывезены, а нейкая частка адліта мясцовымі майстрамі на васковых мадэлях у гліняных формах. Апошнія трапляліся на паселішчах Ліскі, Уваравічы, Гарошкаў і аднойчы ў пахаванні на гарадзішчы Мохаўскае-1. Галоўнымі шляхамі паступлення як сыравіны, так і рэчаў былі поўдзень и паўднёвы захад (Лошенков, Барцева, 1995. С. 78—104). Бранзалеты насілі жанчыны, мужчыны і дзеці. Цікава, што ў пахаваннях «мілаградцаў» яны зафіксаваны толькі

аднойчы (Баравікі), тады як гэта было ўласціва іх паўднёвым суседзям (Петренко, 1978. С. 49—58).

Шпількі разам з бранзалетамі з'яўляліся характэрным відам упрыгожанняў у плямёнаў мілаградскай культуры. Іх выраблялі з бронзы і жалеза. Выкарыстоўваліся гэтыя прадметы для зашпільвання валасоў, галаўных убораў і верхняй вопраткі накшталт плашчоў. Па афармленню верхняй часткі (галоўкі) яны падзяляюцца на тыпы з цвікападобнымі, біканічнымі, кіяпадобнымі, кальцавымі і спіралепадобнымі навершшамі (мал. 31).

Тып цвікападобных налічвае 14 шпілек. Шляпкі ў іх плоскія, круглыя, дыяметрам 1,5—5 см. Шыйкі канічныя. Стрыжні круглыя, ў канцы патанчаюцца (мал. 31:1, 2). Даўжыня цэлых 12—14 см. Адзін экземпляр з Гарошкава дасягае 23 см. У межах Беларусі такія рэчы вынайдзены ў большасці сваёй на гарадзішчах Падняпроўя (Асарэвічы, Гарошкаў, Мілаград, Чаплін) і Усходняга Палесся (Ліскі, Ястрабка). Дзве сярод улічаных паходзяць з могільнікаў. Адна — з тэрыторыі Чаплінскага, але не з пахавання, другая — з 45-га пахавання на Веляміцкім-2. Адзначым, што апошнім часам шмат зафіксавана разглядаемых упрыгожанняў на левабярэжных помніках Дняпра, але па-за тэрыторыяй Беларусі. На Украіне, на паўночным захадзе Чарнігаўскай вобласці, іх вядома 12. З гэтай колькасці толькі адзін экземпляр зафіксаваны на паселішчы Зарваншчына, а ўсе астатнія — ў пахаваннях: у грунтавым каля в. Роішча — 2 экземпляры і курганным могільніку Дзяснянка — 9 (Жаров, 1995. С. 45—50; Шекун, 1995. С. 152—158). Варта падкрэсліць, што пры нябожчыках іх налічвалася па дзве і ў некалькіх выпадках яны ляжалі скрыжавана. Шырокія аналогіі гэтым вырабам ў скіфскага насельніцтва і лесастэпавых плямёнаў дазваляюць адносіць цвікападобныя шпількі «мілаградцаў» да V тыпу (па У. Г. Пятрэнка) і прадатаваць іх VI — першай паловай V ст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 13; Яна ж, 1989. С. 106).

Тып біканічных прадстаўлены трыма экземплярамі. Адна шпілька паходзіць з Гарошкаўскага гарадзішча, другая — з паселішча Старое Аднаполле (мал. 31:4) і трэцяя знойдзена на паселішчы Шарсцін. Дзве апошнія — пад'ёмны матэрыял. Усе яны жалезныя, даўжыня іх 10,4—15 см. Стрыжні круглыя, таўшчынёй 0,3—0,4 см. Дыяметры галовак (па біконусах) — 0,7—1,5 см. Вышыня конусаў 0,35 см. Шыйкі канічныя (мал. 31:3, 4). Гэта найбольш архаічная форма шпілек. Аналогіі ім ёсць на помніках высоцкай культуры і ў Сярэднім Падняпроўі (Крушельницкая, 1990. Рис. 38: 10, 11; Петренко, 1978. С. 15). Па тыпалогіі адпаведных скіфскіх упрыгожанняў разглядаемыя мілаградскія адносяцца да першага варыянта 16-га тыпу. Біканічныя шпількі з мілаградскіх помнікаў Беларусі трэба датаваць другой паловай VII — першай паловай VI ст. да н. э., што адпавядае ранняскіфскаму часу (Петренко, 1989. С. 106, Табл. 41: 2).

Тып кіяпадобных (посахападобных) шпілек у колькасных адносінах лічыцца самым вялікім. Толькі на левабярэжжы Дняпра, у Ніжнім Пасожжы іх вядома 12 штук (Борхаў — 1, Любны — 4, Падгор'е — 2, Прысна — 1, Старое Аднаполле — 2, Уваравічы — 2). Ёсць яны і на палескіх гарадзішчах Ліскі — 5, Старое Краснае — 1, Ясянец-1 — 1, Івань. Па назіраннях В. М. Мельнікоўскай экземпляры з бронзы больш характэрны для ранняга этапу культуры (VI—IV стст. да н. э.). Але ў калекцыі бронзавых вырабаў мала (Асарэвічы — 1, Гарошкаў — 1, Прысна — 1, Старое Аднаполле — 2, Ясянец-1 — 1). Разглядаемыя шпількі ў большасці сваёй маюць невялікія памеры. Даўжыня іх 10—15 см. Самыя малыя — 5,5 см, а доўгія — 20 см. Стрыжні круглыя

дыяметрам 0,3—0,5 см, канцы завостраны. Пятля ў верхняй частцы круглай, авальнай або трохвугольнай (рэдка) формы размешчана, як правіла, сіметрычна над стрыжнем (мал. 31:8—11). У навершшах петляў стрыжні пераважна круглыя і зрэдку квадратныя ці прамавугольныя. Такія вырабы часта сустракаюцца на мілаградскіх селішчах па-за межамі Беларусі (Блифельд, 1952. С. 54. Рис. 2:1; Гончаров, 1963. С. 290. Рис. 4:9; Даниленко, 1953. Табл. 1:11; Петровська, 1971. Рис. 7:10). У насельніцтва мілаградскай культуры гэты тып шпілек з'яўляецца хутчэй за ўсё не раней сярэдзіны VI ст. да н. э. Выкарыстоўваліся ж яны на працягу ўсяго астатняга часу, па III ст. да н. э. уключна.

Тып шпілек са спіралепадобным навершшам меў меншае распаўсюджанне ў параўнанні з цвіка- і кіяпадобнымі. У калекцыі разглядаемых налічваецца шэсць экземпляраў, якія прадстаўлены ў большасці сваёй верхнімі часткамі (мал. 31:12—14). Адрозніваюцца гэтыя шпількі ад папярэдніх тыпаў тым, што маюць галоўку ў выглядзе шасці—васьмівітковай спіралі, дыяметрам 2,8—3,4 см. У экземпляры з гарадзішча Ясянец-1 спіраль плоская (мал. 31:14), а ў двух з Асарэвіцкага комплексу помнікаў — канічная (мал. 31:13), як і з паселішча Лемяшэвічы. Нельга не заўважыць, што шпількі са спіралепадобнымі канічнымі навершшамі значна шырэй ўжываліся плямёнамі днепра-дзвінскай культуры ў Смаленскім Падняпроўі (Шмидт, 1992. Табл. 14: 2, 6). Разглядаемыя ўпрыгожанні ёсць на помніках не толькі Падняпроўя, Палесся, але і ў Пасожжы. З двух вядомых тут экземпляраў адзін бронзавы, знойдзены на беразе возера ва ўрочышчы Грэнск, непадалёку ад гарадзішча Ворнаўка мілаградскай культуры. Другі — жалезны з культурнага слоя гарадзішча (Поболь, 1974. С. 199, 209. Рис. 68:21). Шпілька з Ворнаўкі даўжынёй 15,6 см, галоўка ў яе дыяметрам каля 2 см. Спіраль двухвітковая, плоская, не шчыльная ў адрозненне ад астатніх. Разглядаемы тып шпілек меў адначасова распаўсюджанне ў лесастэпавых плямёнаў Правабярэжнага Дняпра (22-і тып па У. Г. Пятрэнка), а раней ў насельніцтва высоцкай культуры (Петренко, 1978. С. 18; Крушельницкая, 1990. Рис. 38: 2, 7; 56: 3). Таму час іх з'яўлення ў «мілаградцаў» можа быць вызначаны як адпаведны ранняскіфскаму: другая палова VII ст. да н. э. — першая палова VI ст. да н. э.

Тып шпілек з кальцавым навершшам адрозніваецца ад спірале- і кіяпадобных тым, што кольцы знаходзяцца з боку стрыжня (мал. 31:5—7). Да таго ж закручана яно толькі ў адзін абарот у сярэдзіну. Такія ўпрыгожанні на мілаградскіх помніках трапляюцца не часта. У пераважнай большасці яны жалезныя. На гарадзішчах Асарэвічы, Гарошкаў і Чаплін іх знойдзена 7 экземпляраў: тры бронзавыя, чатыры — жалезныя. На ўсходнепалескіх помніках вядомы дзве з паселішчаў Ліскі і Старое Краснае. Сярод разглядаемых шпілек можна вылучыць два варыянты. Да першага адносяцца шпількі, галоўкі кольцаў у якіх зроблены з расклёпанага ў пласціну стрыжня (мал. 31:5). Да другога — тыя, кольцы ў якіх з круглага дроту (мал. 31:6, 7). Такія ж два варыянты ў 21-м тыпе вылучыла і У. Г. Пятрэнка сярод адпаведных упрыгожанняў лесастэпавага насельніцтва (Петренко, 1978. С. 18). Першыя лічацца больш старажытнымі ў параўнанні з другімі, якія адносяцца да IV—III стст. да н. э.

Тып шпілек з адтулінай у стрыжні, вылучаны В. М. Мельнікоўскай, прадстаўлены двума экземплярамі. Гарошкаўскі з гарадзішча — жалезны, Чаплінскі з селішча — бронзавы (мал. 31:16). У такіх вырабаў стрыжань не доўгі 10—11 см, у сячэнні круглы, паступова патанчаецца да ніжняга канца. На

адлегласці ў 1,5—2 см ад верхняга краю стрыжань крыху сплошчаны і менавіта ў гэтай пляскатай яго частцы зроблена маленькая адтуліна (мал. 31:15, 16). Вышэй і ніжэй плоскага «вушка» на стрыжні ёсць кальцавыя ўрэзы, якія надаюць рэльефнасць галоўцы. Абодва экземпляры патрапілі на гарадзішча і селішча, відаць, у познагальштацкі ці раннелатэнскі час, як мяркуе В. М. Мельнікоўская (Мельниковская, 1967. С. 93). А вось У. Я. Яроменка адносіць такія шпількі да рубяжа VII—VI стст. да н. э. (Еременко, 1989. С. 83. Рис. 29). З удакладненнем У. Я. Яроменкі варта пагадзіцца.

Завушніцы з'яўляліся звыклымі ўпрыгожаннямі ў плямёнаў мілаградскай культуры. У час раскопак яны вынайдзены пераважна на паселішчах і ў меншай ступені ў пахаваннях. Да нашага часу няма дакладных уяўленняў аб тым, як іх насілі. Формы дужак не могуць быць бясспрэчным доказам таго або іншага спосабу нашэння завушніц. У шматлікіх пахаваннях паўднёвых суседзяў іх знаходзілі каля вушных і скроневых частак чарапоў. Каля галавы нябожчыка знойдзена завушніца і ў Дубайскім могільніку. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што разглядаемыя ўпрыгожанні былі запазычаны носьбітамі мілаградскай агульнасці ў лесастэпавых плямёнаў. На тэрыторыі рассялення «мілаградцаў» выяўлена 27 такіх прадметаў. З гэтай колькасці толькі 8 прыпадае на тэрыторыю Беларусі (мал. 32:1—8), тады як астатнія з помнікаў Украіны (Даниленко, 1956. Табл. II: 1, 2; V: 18—21; Бидзиля, Пачкова, 1969. Рис. 12:3). Амаль усе завушніцы зроблены з бронзы і толькі дзве — з золата. У абодвух выпадках яны паходзяць з курганных пахаванняў у могільніках Дзяснянка (№ 4) і Дубай (№ 5) (Шекун, 1995. С. 157. Рис. 1:3; Кухаренко, 1961. С. 22. Табл. 1:3). Невялікую па колькасці калекцыю з беларускіх помнікаў В. М. Мельнікоўская падзяліла на два тыпы ў залежнасці ад форм шчытког: у выглядзе шаравога сегмента (мал. 32:3—6) і канічныя (мал. 32:1, 2) (Мельниковская, 1967. С. 82, 84). Завушніц з конусападобным шчыткам мала — 4 штукі (Азарычы, Гарошкаў, Дзяснянка, Люцеж). Знаходкі завушніц тыпу са шчыткам у выглядзе сегмента шара складаюць палову ад улічаных. Такія рэчы паходзяць з гарадзішчаў Гарошкаў, Лiскі, селішча Лемяшэвічы і Дубайскага могільніка ў беларускім арэале культуры. Па тыпалогіі завушніц, распрацаванай У. Г. Пятрэнка, разглядаемыя са шчыткам у выглядзе сегмента шара адносяцца да першага і трэцяга варыянтаў тыпу I і датуюцца ў межах VI ст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 21, 24). Вырабы ж з канічным шчыткам адносяцца да пятага варыянта тыпу V і датуюцца VI — пачаткам V ст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 27).

Наступную групу ўпрыгожанняў складаюць пацеркі, якія даволі часта сустракаюцца на мілаградскіх помніках (мал. 32:9—21). У выніку даследаванняў толькі В. М. Мельнікоўскай іх знойдзена больш за сто штук. У адкладаннях культурнага слоя паселішчаў яны трапляліся па адной або некалькі. Толькі ў адным выпадку зафіксаваны скарб гэтых рэчаў на Гарошкаўскім гарадзішчы. У скарбе было 17 пацерак разам з трыма бранзалетамі (Мельниковская, 1967. С. 75—76, 94. Рис. 33:2,3). Варта падкрэсліць, што на адных помніках такіх упрыгожанняў шмат (Асарэвічы — 40 экз., Гарошкаў), а на другіх іх увогуле няма (Борхаў, Ліпнякі, Ясянец-2). Гэта сведчыць аб нераўнамернасці ў распаўсюджанні. Пацеркі, знойдзеныя ў пахаваннях, гавораць аб іх колькасці ў каралях. Напрыклад, у чацвёртым кургане Дзяснінскага могільніка набор караляў пры пахаванай складаўся з чатырох нізак, на якіх было 87 пацерак. Яшчэ пры двух нябожчыках меліся каралі, у якіх налічвалася па 52 і 53 шкляныя пацеркі (Шекун, 1995. С. 156). Экземпляры буйнейшых памераў

і цяжэйшыя знаходзіліся ў ніжніх частках нізак, а абапал іх размяшчаліся драбнейшыя. У адным пахаванні (№ 6) Дзяснянскага могільніка было чатыры пацеркі, з якіх дзве бурштынавыя і па адной з бронзы і каменя. Трэба адзначыць і тое, што разглядаемыя ўпрыгожанні маглі насіць не толькі ў каралях, але і прышываць да вопраткі, у такім разе іх, відаць, мелася па некалькі штук. У калекцыі ўпрыгожанняў пацеркі з рознага матэрыялу. Пераважаюць зробленыя са шкла (мал 32:11—18), шкляной непразрыстай пасты. Меней выканана з бронзы (мал. 32:9, 10), бурштыну, каменя, гліны (мал. 32:19—21). Шкляныя аднакаляровыя — напаўпразрыстыя. Яны ярка блакітнага, жоўта-зялёнага, светла-зялёнага, сіняга і жоўтага колераў. Формы іх шарападобныя, кольцападобныя, біканічныя, верацёнападобныя. Рэдкія экземпляры маюць гафрыраваную паверхню. Пацеркі са шкла крыху драбнейшыя за паставыя. Іх дыяметр 0,6—1,2 см, а даўжыня 0,5—2 см. У Гарошкаве адна з пацерак была падвоеная: са злучаных паміж сабой дзвюх шарападобных. Паставыя знойдзены на мілаградскіх помніках кольцападобнай формы, дыяметрам 0,8—2,2 см і даўжынёй 0,6—1,5 см. Яны пераважна аднакаляровыя сіня-фіялетавыя, радзей жоўтыя. Ім уласцівы вочкі. Апошнія часцей за ўсё сіняга колеру з белым абадком на адпаведным фоне вырабу. Колькасць вочкаў разнастайная і яны не выступаюць на паверхню (мал. 32:14, 15). Бронзавыя пацеркі сустракаюцца рэдка як на паселішчах, так і на грунтавых і курганных могільніках. Такія рэчы маюць памеры ў даўжыню 0,5—1 см і дыяметр 0,6—0,8 см. Акрамя пацерак і толькі ў Асарэвічах знойдзены бронзавы бісер: плоскія колцы дыяметрам 0,3 см. Разглядаемыя ўпрыгожанні з каменя і гліны траплялся рэдка. У карыстанні мілаградскага насельніцтва былі і бурштынавыя пацеркі. Багатая калекцыя такіх упрыгожанняў ёсць у Дзяснянскім могільніку (у чатырох пахаваннях 23 экземпляры). Цікава, што ў наборах караляў бурштын выкарыстоўваўся нават у выглядзе натуральных кавалачкаў (тры мелі апрацаваную паверхню), у якіх рабіліся толькі адтуліны (Шекун, 1995. С. 156. Рис. 1; IV: 6—10). Бурштын карычнева-чырвонага колеру. Акрамя пацерак у склад караляў уваходзілі іншы раз розныя падвескі ў выглядзе званочкаў, пласціначак, спіралепадобных пранізак і нават амулеты.

Асобную групу ўпрыгожанняў у мілаградскага насельніцтва складаюць кольцы. В. М. Мельнікоўская падзяліла іх на скроневыя і для нашэння на пальцах. Кольцы-пярсцёнкі двух відаў. Пласцінікістыя ў адзін абарот з заходзячымі канцамі або спіралепадобныя і дротавыя аналагічных узораў. Пласціны шырынёй 0,3—0,5 см. Дыяметры кольцаў 1,5—2 см. Падобныя рэчы знаходзілі на гарадзішчах Гарошкаў, Любны, Мілаград. Пярсцёнкі з тонкага дроту былі не толькі круглай, але і падквадратнай формы. Частка іх мела разамкнутыя канцы. Як выключэнне, некаторыя выраблялі не з круглага, а квадратнага ў сячэнні дроту. Разглядаемыя ўпрыгожанні бронзавыя, але зрэдку сустракаюцца суцэльныя жалезныя (Ліскі). Па назіраннях даследчыкаў кольцы ў насельніцтва мілаградскай агульнасці атрымліваюць распаўсюджанне на познім этапе культуры.

Шырока ўжываюцца «мілаградцамі» ўсялякія падвескі. Такія прадметы выраблялі з каменя, косці, гліны і бронзы. Касцяныя фіксуюцца пакуль што на двух помніках — Гарошкаў і Уваравічы. Шырэй за іншыя мелі распаўсюджанне бронзавыя. Яны былі круглай, трохвугольнай і трапецападобнай формы (мал. 32:22—26). Па тэхналогіі вытворчасці — літыя і каваныя. Менш вядома падвесак круглай формы. Дзве такія падвескі выяўлены ў Рудзяках і Чапліне (мал. 32:25). Абадзве яны ўпрыгожаны эсападобнымі завіткамі па

кругу і адрозніваюцца тым, што падвеска з Чапліна — плоская, а з Рудзякоў — умбонападобная (Савчук, 1952. Рис. 1:2). Усе разглядаемыя рэчы маюць пяцелькі або адтуліны для нашэння іх у падвешаным становішчы. Трохвугольных падвесак вядома 10 штук. Ёсць яны на помніках Беларусі (Мілаград — 2, Старое Аднаполле — 1) і Украіны (Бортнічы — 2, Вяпікая Салтанаўка — 1, Падгорцы — 3, Рудзякі — 1). Акрамя таго, у адным з упрыгожанняў падгорцаўскага скарбу маецца 22 падобныя вырабы. Арнаменты ў іх розныя. У падвескі са Старога Аднаполля знешняя паверхня з выступаючых гарошын (мал. 32:22). Дзве мілаградаўскія пакрыты трыма эсападобнымі завіткамі, якія злучаюцца ў трохкутнікі (мал. 32:23). А вось усе з помнікаў Украіны ўпрыгожаны як бы дробнымі колцамі са скразнымі адтулінамі ў цэнтры іх (мал. 32:24). Таўшчыня адлітых трохкутных падвесак каля 0,25 см. Усе ж трапецападобныя зроблены выключна з тонкіх пласцінак да 0,1 см (мал. 32:26). Пласціністыя падвескі на некаторых вырвбах маюць чаканны ўзор у выглядзе выступаючых кропак, што ўтвараюць малюнак. Частка гэтых рэчаў мае адламаныя краі, таму другія іх формы вызначыць цяжка. Сярод разглядаемых падвесак з пласцін трохвугольнай і трапецападобнай форм пераважаюць зробленыя з бронзы, але ёсць і жалезныя. Апошнія вынайдзены на гарадзішчах Асарэвічы, Гарошкаў, Мілаград, Чвплін. Больш дакладную датыроўку сярод усіх разгледжаных падвесак маюць літыя трохвугольнай формы. Іх позні час не выходзіць за V ст. да н. э., а ранні вар'іруе ў межах VI ст. да н. э.

З усёй тэрыторыі, занятай плямёнамі мілаградскай культуры, фібулы знойдзены толькі на двух помніках. Яны паходзяць з падняпроўскіх гарадзішчаў Гарошкаў і Мілаград. Іх шэсць экземпляраў і захаваліся яны ў выглядзе двух цэлых і чатырох у абломках. В. М. Мельнікоўская ўстанавіла іх адпаведнасць тром асноўным тыпам латэнскіх — раннім, сярэднім і позным. Раннелатэнская бронзавая з Гарошкава прадстаўлена ножкай, што прыціскалася да спінкі. Гэта стрыжань, арнаментаваны біканічнымі і шарападобнымі патаўшчэннямі, канец якога сплошчаны і раздвоены. У. Я. Яроменка і М. Б. Шчукін, канкрэтызуючы датыроўку В. М. Мельнікоўскай, адносяць яе да духцаўскіх латэна ступеняў $B_1$ — $B_{2a}$ (Еременко, 1989. С. 86. Рис. 3:42; Ён жа, 1997. С. 40. Рис. 6:5; Щукин, 1994. С. 82. Рис. 27:15). Дзве сярэднелатэнскага тыпу захаваліся ў абломках шырокай спружынкі з цецівой і спінкі з рэшткамі хамуціка, што мацаваў ножку. Гэтыя экземпляры з Гарошкава В. М. Мельнікоўская аднесла да II—I стст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 86. Рис. 31:12, 14). Позналатэнскіх — тры. Дзве цэлыя з Мілаградскага гарадзішча. Абломак спружынкі і частка спінкі — з Гарошкава. Апошнім часам даследчыкі адносяць да бясспрэчна мілаградскіх толькі раннелатэнскую фібулу, а позналатэнскія з Мілаградскага жытла ўвогуле выключаюць са старажытнасцей мілаградскай культуры (Обломский, 1983 а. С. 16—17; Еременко, 1997. С. 59, 60. Рис. 11:6, 7).

Унікальнымі знаходкамі на Беларусі з'яўляюцца два бронзавыя люстэркі з гарадзішча Лііскі (мал. 33). Яны маюць формы плоскіх дыскаў дыяметрам 8,3 і 10,5 см. Таўшчыня іх у цэнтры каля 0,2 см, а па краях 0,1—0,05 см. З адваротнага боку ў іх ёсць дужкападобныя пяцелькі (мал. 33). Калі раней такія прадметы ў мілаградскага насельніцтва былі невядомы, то цяпер іх знаходзяць не толькі на паселішчах, але і на могільніках. Трэцяе люстэрка з пахавання. Яно з кургана № 5 Дзяснянскага могільніка, што пад Чарнігавам (Шекун, 1995. С. 155, 157. Рис. 2:1). Разглядаемае люстэрка ў адрозненне ад двух, знойдзеных на Беларусі, мае жалезную плоскую ручку, якая прымаца-

вана да бронзавага дыска з дапамогай жалезных заклёпак. Люстэрка з ручкай варта датаваць, на нашу думку, VI ст. да н. э., а два з паселішча Ліскі — другой паловай VII — першай паловай VI ст. да н. э.

Заняткі насельніцтва пляменаў мілаградскай агульнасці можна падзяліць па двух асноўных накірунках. Адзін звязаны з вытворчасцю прадуктаў харчавання. Гэта земляробства, жывёлагадоўля, паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Другі — абумоўлены наяўнасцю неабходных рамёстваў. Сярод іх вытворчасць і апрацоўка жалеза, лепка посуду, бронзаліцейная справа, апрацоўка скуры, дрэва, косці, каменя, прадзенне і ткацтва. Разнастайнасць пералічаных відаў дзейнасці цалкам адпавядала гаспадарча-культурнаму тыпу «мілаградцаў», якія вялі аседлы лад жыцця. Сярод галоўных галін, безумоўна, былі жывёлагадоўля і земляробства. Менавіта яны складалі аснову эканамічнага патэнцыялу насельніцтва гарадзішчаў і селішчаў.

**Земляробства.** Помнікі разглядаемых пляменаў утрымліваюць матэрыялы, якія сведчаць аб занятках іх земляробствам. Да ліку ўскосных дадзеных можна адносіць каменныя аднаручныя зерняцёркі, што часта трапляліся ў жытлах і па-за іх межамі. Прылады для перапрацоўкі збажыны складаліся, як вядома, з двух камянёў: верхняга — расціральніка і вялікага ніжняга. Акрамя таго, у культурным пласце гарадзішчаў вынайдзена шмат жалезных сярпоў, як цэлых, так і абломкаў. Скарб земляробчых прадметаў з Гарошкава апрача прылад уборкі ўраджаю ўтрымліваў яшчэ жалезныя сякеру і матыжку. Такія вырабы даследчыкі звязваюць звычайна з працай земляробаў. Сапраўды, каменнымі і жалезнымі сякерамі і матыгамі жыхары паселішчаў узрыхлялі глебу, разбівалі ці рассякалі дзірван. Імі ж яны падсякалі дрэвы і выдалялі іх карэнні на новых участках — лядах. Нарэшце, асобныя абломкі посуду ўтрымліваюць адбіткі вырошчваемых культур, такіх, як мяккая пшаніца (Гарошкаў, Чаплін), проса (Асарэвічы). Прыведзеныя факты не даюць нам уяўлення аб характары земляробства ў мілаградскіх пляменаў. Тэрыторыя іх рассялення прыходзіцца на поўдзень лясной паласы і ў межах Беларусі, згодна з геабатанічным раяніраваннем, адпавядае падзоне шыракалістава-сасновых лясоў (Энцыклапедыя... 1983. С. 8, карта). Па складу і характару глебавага покрыва гэта паўднёвая (палеская) правінцыя Беларусі і паўночна-заходняя частка Украінскага Палесся. У ёй пераважаюць дзярнова-падзолістыя, пясчаныя і тарфяна-балотныя глебы алювіяльна-тэрасавай нізіны і надпоплаўнага ландшафту. В. М. Мельнікоўская схільна лічыць, што носьбітам мілаградскай культуры было ўласціва ворнае земляробства. У доказнасць свайго погляду яна спасылаецца на знаходкі драўляных ралаў, пісьмовыя звесткі Герадота аб ворным земляробстве ў паўднёвых суседзяў — лесастэпавых пляменаў, што пражывалі ў чарназёмнай паласе (Мельниковская, 1967. С. 130, 131). Да таго ж у хатнім статку пераважала буйная рагатая жывёла, якая выкарыстоўвалася (валы) у якасці цяглавай сілы (Мельниковская, 1967. С. 131, 134). Разам з ворным земляробствам даследчыца не выключае існаванне і лядна-агнявога. А. А. Егарэйчанка прытрымліваецца думкі, што ў «мілаградцаў» дамінавала лядна-агнявая сістэма (Егорейченко, 1996. а. С. 51—52). У межах Беларусі гэта найбольш верагодна. У дачыненні да ўсёй тэрыторыі такое сцвярджэнне будзе недастаткова абгрунтаваным. Несумненна, што разглядаемыя дзве сістэмы суіснавалі і выкарыстанне іх цалкам залежала ад глеб мясцовасці. На высокаўрадлівых глебах давыд-гарадоцкага і хойніцка-брагінскага масіваў магла панаваць сістэма ворнага земляробства. А на поўнач, на падзолістых глебах, занятых лясамі, — ляднае. Аўтар выказаў меркаванне аб існаванні ў

мілаградскага насельніцтва Палескай нізіны яшчэ адной формы — прыпаселішчна-поплаўнага (Лошенков, 1990. С. 17). Яго сэнс заключаўся ў выкарыстанні для вырошчвання сельскагаспадарчых культур невысокіх узвышшаў (да 0,5 м) побач з мясцінамі пражывання. Падобная форма земляробства магла звадзіцца і да звычайнага агародніцтва.

**Жывёлагадоўля.** Асноўнай крыніцай для асвятлення гэтай галіны гаспадарчай дзейнасці з'яўляюцца косці і зубы жывёлы, што захоўваюцца ў культурным спої паселішчаў і ў выключных выпадках у пахаваннях. Безумоўна, што не ўсе помнікі аднолькава захоўваюць арганічны матэрыял. Супескавы характар глебы не садзейнічае кансервацыі астэалагічных рэшткаў. На большасці дасладаваных помнікаў мілаградскага насельніцтва косці амаль адсутнічаюць або ёсць у невялікай колькасці. У сувязі са сказаным нашы ўяўленні аб жывёлагадоўлі, якія грунтуюцца па адпаведных калекцыях, будуць мець не зусім дакладны характар. Пакуль што вядомы тры гарадзішчы (Гарошкаў, Рассвет, Уваравічы), на якіх ёсць вялікія калекцыі рэшткаў жывёлы. Паколькі матэрыялы з Уваравічаў не вызначаны, то звернемся да дадзеных Гарошкаўскага гарадзішча. Агульная колькасць касцей з яго перавышае 10 тысяч адзінак. З іх В. І. Цалкін вызначыў 2623 экземпляры. Большая колькасць іх нележыць хатнім жывёлам — 91% касцей ад 143 (86,3%) асобін. Пв відавому складу і колькасці асобін на першым месцы буйная рагатая жывёла (39,2%), на другім — коні (30,1%), на трэцім — дробнвя рагатая жывёла (16,8%) і на апошнім, чацвёртым, свінні (13,9%) (Мельниковская, 1967. С. 133—134). Для параўнання адзначым, што на пяці ўсходнепалескіх аднаслойных гарадзішчах (Ліскі, Ліпнякі, Рассвет, Старое Краснае, Ястрабка), згодна з вызначэннем В. В. Шчагловай, абагуленыя дадзеныя выглядаюць наступным чынам: бык свойскі — 32 асобіны (38%), конь — 25 (30%), свіння — 16 (19%) і дробная рагатая жывёла — 11 асобін (13%) (Лошенков, 1990. С. 16). З помнікаў Ніжняга Пасожжа ёсць дадзеныя па Шапатовіцкаму гарадзішчу. Па колькасці касцей суадносіны такія. Бык свойскі — 110 костак (44,3%), конь — 59 (23,7%), свіння — 53 (21,5%) і дробная рагатая жывёла — 26 костак (10,5%) (Дробушевский, Лошенков, 1995. С. 41—42). Ніжнясожскае гарадзішча мае адкладанні не толькі мілаградскага пласта, але і носьбітаў зарубінецкай культуры. Астэалагічная калекцыя з яго разгледжана агульна, без падзелу на культуры. Такая ж паслядоўнасць відаў саойскай жывёлы назіраецца ў адпаведных матэрыялах гарадзішчаў Івань і Халопенічы, што на поўначы Цэнтральнага Палесся (Егорейченко, 1996 а. С. 53). Статак свойскай жывёлы ў «мілаградцаў» меў, як бачым, устойлівыя прапорцыі ў суадносінах відаў. Перавага ў ім належала буйной рагатай жывёле. Вялікая ўвага надавалася развядзенню коней і свіней. Авечкі і козы па колькасці пагалоўя займалі апошняе месца. У дачыненні да характарыстыкі відаў зазначым, што буйная рагатая жывёла была вельмі дробнай пароды з невялікімі рагамі. Аб гэтым сведчаць вымярэнні касцей, зробленыя В. І. Громавым і В. І. Цалкіным (Мельниковская, 1967. С. 134, 135). Невялікія па памерах былі і коні. На думку В. І. Громава, продкам свойскага каня з'яўляўся хутчэй за ўсё дзікі конь-тарпан, які вадзіўся ў лясах Беларусі да XVIII ст. Марфалагічныя характарыстыкі авечак, коз і саінөй спецыялістамі не зроблены, таму мы не маем звестак аб іх памерах і пародах. Статак свойскай жывёлы ў насельніцтва мілаградскіх паселішчаў мае блізкае падабенства з адпаведнымі ў лесастэпавых плямёнаў. Устойлівай тэндэнцыяй у распаўсюджванні буйной рагатвй жывёлы і коней ён істотна адроз-

ніваўся ад статкаў у насельніцтва суседніх культур лясной паласы (штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, юхнаўскай).

**Паляванне.** Заняткі жывёлагадоўляй насельніцтва мілаградскай культуры не забяспечвалі яго ў неабходнай колькасці мясам. У сувязі з гэтым важную ролю адыгрывала паляванне. Фауністычныя астаткі дзікіх жывёл ёсць на ўсіх даследаваных помніках у рознай ступені захаванасці. Культурны пласт супескавага складу не садзейнічае захаванню астэалагічных матэрыялаў. Невялікая колькасць касцей і зубоў дзікай жывёлы сведчыць, што аб'ектамі палявання былі ласі, зубры, высакародныя алені, дзікі, мядзведзі, бабры, барсукі і зайцы. На падставе матэрыялаў з гарадзішчаў Гарошкаў, Ліскі, Старое Краснае, Рассвет відаць, што перавага надавалася буйным парнакапытным. З мэтай атрымання мяса «мілаградцы» палявалі часцей за ўсё на пася, зубра, дзіка, мядзведзя. Нягледзячы на невялікую колькасць асобін разнастайных жывёл, варта падкрэсліць, што яны давалі значную частку мяса. Добра вядома, што нават і ў пазнейшы час (эпоху Старажытнай Русі) выхад мяса з адной асобіны дзікай жывёлы быў большы, чым з хатняй (Щеглова, 1993. С. 78). Разлікі даюць падставы сцвярджаць, што заняткі паляваннем давалі яшчэ каля 35—40% мяса, неабходнага для харчавання. Астатнюю яго колькасць забяспечвала жывёлагадоўля. Нельга не звярнуць увагу і на тое, што жыхары паселішчаў палявалі і на пушных звяроў, такіх, як барсукі, бабры, зайцы. Калі скуры іх выпрацоўваліся на атрыманне футра для адзення, то наяўнасць касцей гаворыць аб спажыванні мяса. У ежу ішло мяса не толькі звяроў, але і птушак. Іх косці траплялiся рэдка і вядомы на ўсходнепалескіх помніках. Яны прадстаўлены пераважна мінімальнай колькасцю касцей і асобін. Аб'ектамі здабычы індывідуальных паляўнічых з'яўляліся шэрая курапатка, жуpавель шэры, цецярук, чапля, чырок, качка, чомга (вялікая паганка), драфа. Не выклікае сумненняў той факт, што палявацъ на вялікіх капытных, як і мядзведзяў, даводзілася групай. У культурным пласце помнікаў археолагі не знаходзяць прылад палявання і паляўнічых прыстасаванняў. Безумоўна, што зброя (наканечнікі дзідаў, дроцікі, наканечнікі стрэл і лукаў) выкарыстоўвалася ў гэтых мэтах.

**Рыбалоўства.** У нашым распараджэнні няма добрых дадзеных аб занятках плямёнаў мілаградскай культуры рыбалоўствам. Гэта акалічнасць вылучае разглядаемае насельніцтва сярод сінхронных плямёнаў лясной паласы і лесастэпаў. Адзінкавыя знаходкі рыбалоўных кручкоў на паселішчах Асарэвічы і Ястрабка ніяк не могуць адлюстроўваць сапраўдны стан справы. Здзіўляе адсутнасць у культурным пласце ўсіх даследаваных помнікаў касцей і лускі рыб. Вядомы толькі два выпадкі такіх знаходак. Некалькі рэбраў і пазванок паходзяць з Гарошкаўскага гарадзішча і луска — з умацаванага паселішча Ястрабка. Не выйнайдзены пакуль што і гліняныя грузілы для сецяў. Рыба, як уяўляецца, не магла быць выключэннем у рацыёне харчавання, калі яе было шмат каля паселішчаў. Зыходзячы з беднага матэрыялу, В. М. Мельнікоўская выказала меркаванне аб нязначнай ролі рыбалоўства ў эканоміцы мілаградскіх плямёнаў. Лавіць рыбу маглі эпізадычна вясной, летам, восенню і, магчыма, зімой. У Дняпры, Прыпяці, Сажы і іх шматлікіх прытоках вадзіліся ў той час акуні, ліны, ляшчы, плоткі, самы. Рэшткі пералічаных відаў рыб вынайдзены пераважна ў ямах-сховішчах на Чаплінскім гарадзішчы (Поболь, Цепкин, 1960. С. 137—140), якое было заснавана мілаградскімі плямёнамі, а пазней на ім пражывалі «зарубінцы». Камеральная апрацоўка касцей рыб з помнікаў сусадняй днепра-дзвінскай культуры сведчыць аб спажыванні гэтым насельніцтвам акрамя ўжо пералі-

чаных відаў яшчэ язёў, шчупакоў і карпавых (Шмидт, 1992. С. 76—78). Рыбалоўства было добра наладжана і ва ўсходніх сусадзяў — юхнаўскіх плямёнаў. Па меркаваннях даследчыкаў, у асобных месцах па берагах Дзясны ў іх меліся нават часовыя стаянкі рыбаловаў (Мельниковская, 1967. С. 139). Па занятках такім відам дадатковага промыслу, як рыбалоўства, мілаградскае насельніцтва знаходзіцца бліжэй да лесастэпавых плямёнаў, якія не надавалі яму вялікай увагі ў параўнанні з сінхроннымі плямёнамі лясной паласы.

**Збіральніцтва.** Акрамя палявання і рыбалоўства дадатковым відам заняткаў было збіральніцтва. Летам і восенню ў лясных масівах людзі збіралі ягады: лясную маліну, чорную смародзіну, чарніцы, суніцы, дурніцы, брусніцы, журавіны. Спажываліся плады такіх дрэў, як дзікія яблыні, рабіна, каліна, крушына, лясныя і вадзяныя арэхі, жалуды. Скарлупа арэхаў і жалудоў у абвугленым стане іншы раз сустракаецца ў культурным пласце паселішчаў. Грыбы ішлі ў ежу як свежыя, так і сушаныя, якія назапашваліся на зімовы час. Спажывалі «мілаградцы» і такія травяністыя расліны, як крапіву, шчаўе. Апрача пералічаных дароў прыроды збіраліся яшчэ яйкі птушак і мёд дзікіх пчол. На жаль, археалагічных пацвярджэнняў сказанаму ў большасці сваёй мы не маем, таму што ў супескавым слоі астаткі прыродных прадуктаў не захаваліся за дзве з паловай тысячы гадоў. Збіральніцтва як з'ява ўвогуле ўласціва старажытнаму насельніцтву яшчэ з каменнага веку. У пазнейшы час яно становіцца традыцыйным і добра фіксуецца этнаграфічнымі дадзенымі. Таму і для «мілаградцаў» яно не было выключэннем.

**Рамёствы.** Насельніцтва мілаградскай культуры займалася неабходнымі відамі хатніх рамёстваў. Жыццёва важнымі з'яўляліся здабыча і апрацоўка жалеза, вытворчасць посуду, бронзаліцейная справа, апрацоўкі скур жывёлы, касцей, каменя і дрэва. Жанчыны, акрамя таго, займаліся прадзеннем і ткацтвам. Дрэва шырока выкарыстоўвалася жыхарамі паселішчаў для будаўніцтва жылых і нежылых памяшканняў, пры ўзвядзенні абарончых збудаванняў. Сама драўніна ў культурным пласце помнікаў не захоўваецца, а вось у выпадках пажараў абвугленае дрэва ёсць. Яго рэшткі ў абаронных канструкцыях валоў добра прасочаны ў Гарошкаве, Ліcках, Ястрабцы. Камень, як і раней, прымяняўся для выраблення верхніх (расціральнікаў) і ніжніх зерняцёрак, таўкачоў, ступак, сякер. Яго скарыстоўвалі як будаўнічы матэрыял пры ўзвядзенні абаронных валоў, у ацяпляльных вогнішчах і ў якасці зброі (камяні для прашчы). Нельга выключаць і таго, што на раннім этапе культуры «мілаградцы» працягвалі вырабляць крамянёвыя прылады, асабліва скрабкі. У час выпрацоўкі футра і скуры яны здымалі слой мяздры крамянёвымі скрабкамі. Выпрацаваныя скуры жывёл выкарыстоўваліся для пашыву верхняга адзення, абутку і для пакрыцця дахаў у жытлах. Раскопкі паселішчаў далі мізэрны матэрыял аб ужыванні рэчаў з косці. З такой сыравіны вырабляліся наканечнікі стрэл, тронкі нажоў, падвескі-амулеты. З усіх даследаваных помнікаў вылучаецца гарадзішча Уваравічы, на якім касцяныя прадметы займаюць па колькасці другое месца пасля керамікі. Сярод вырабаў дамінуюць праколкі, затым падвескі-амулеты, пранізкі-трубачкі, наканечнікі стрэл. Усе яны маюць дачыненне да мілаградскага культурнага гарызонту на разглядаемым помніку (Дробушевский, 1995. С. 91—98). Аб занятках насельніцтва мілаградскай культуры прадзеннем і ткацтвам мы можам меркаваць толькі па ўскосных дадзеных. У час раскопак на помніках кавалачкі тканіны не знойдзены. Разам з тым у культурным слоі паселішчаў трапляецца шмат гліняных грузікаў-прасліцаў, якія маюць непасрэдныя адносіны да разглядаемых заняткаў. Зыходнай сыравінай для прадзення

нітак з'яўляліся лён і шэрсць з авечак і коз. Для больш грубых ніцяў маглі выкарыстоўвацца разнастайныя раслінныя валокны, у прыватнасці крапіва або лыка ліпы. З тоўстых нітак пранялі вяроўкі або з іх ткалі палатно накшталт мешкавіны. Тонка скручаныя ніткі ішлі ў вытворчасць тонкай тканіны. Ёсць усе падставы лічыць, што жанчыны ў гэты час выкарыстоўвалі прымітыўныя ткацкія прыстасаванні з гарызантальнай асновай, у якіх на кожнай гарызантальнай нітцы вісеў гліняны грузік, каб было зручней прапускаць папярочную ніць (Лашанкоў, 1989 б. С. 72—81; Віннікава, 1994. С. 36—48). Жалезныя іголкі з невялікімі вушкамі і тонкімі ніткамі выкарыстоўваліся для сшывання вопраткі з тканіны і скуры.

Бронзаліцейная справа ў разглядаемага насельніцтва насіла, як уяўляецца, досыць абмежаваны характар. Абломкі ліцейных форм, тыгляў і льячак траляліся рэдка і не на ўсіх помніках, якія раскопваліся (Мельнікоўская, 1967. С. 126—128; Лошенков, Барцева, 1995. С. 78—104). Абмежаванасць заняткаў бронзаліцейшчыкаў тлумачыцца адсутнасцю мясцовай сыравіны. Відаць, па гэтай прычыне большасць бронзавых вырабаў траплялa да «мілаградцаў» у гатовым выглядзе. Падставай сказанаму з'яўляюцца спектральныя склады бронзы ў рэчах, што патрапілі пераважна паўднёвымі шляхамі. Мясцовыя ж майстры пераплаўлялі хутчэй за ўсё лом тых рэчаў, якія псаваліся або выходзілі з моды. Як вынікае з матэрыялаў, мясцовая выплаўка звязана з павелічэннем колькасці ўпрыгожанняў. Бранзалеты і іншыя прадметы адліваліся ў гліняных формах па васковых мадэлях.

Вытворчасць посуду, як і чорная металургія, адносіцца да больш складанага віду хатняга рамяства. Сам працэс вытворчасці, нягледзячы на ручны характар лепкі, рэгламентуецца паслядоўнасцю ўсіх звёнаў аперацый. Асноўныя этапы гэтага працэсу зводзяцца да наступных: падрыхтоўка сыравіны фармовачнай масы са складаннем адпаведных рэцэптаў; фармоўка вырабаў; апрацоўка паверхняў і сушка; абпал. Майстры-керамісты выкарыстоўвалі мясцовыя гліны, радовішчы якіх знаходзіліся побач з паселішчамі. Петраграфічнае вывучэнне паказала, што такія гліны мелі гідраслюдзісты склад. Яны даволі пластычныя, лёгкаплаўкія і ўтрымліваюць спадарожныя мінеральныя ўключэнні. У цеста майстры падсыпалі штучныя абястлушчвальнікі — жарству, шамот, балотную руду. Н. М. Дубіцкая вылучае простыя і складаныя рэцэпты прыгатавання цеста для фармоўкі посуду «мілаградцамі». Да простых рэцэптаў адносяцца гліны без штучных напаўняльнікаў і гліны з адной штучнай дабаўкай (гліна + жарства або гліна + шамот). Складаныя рэцэпты ўключалі ўвядзенне ў гліну двух і больш штучных начынняў (гліна + жарства + шамот; гліна + жарства + балотная руда; гліна + шамот + балотная руда; гліна + жарства + шамот + балотная руда) (Дубіцкая, 1996. С. 86—95; Дубицкая, 1998. С. 16—24). Штучныя дабаўкі вымешваліся ў фармовачнай масе гліны няякасна, аб чым сведчыць іх нераўнамернае размеркаванне. Падрыхтаваная такім чынам гідраслюдзістая гліна выкарыстоўвалася майстрам для ручной лепкі посуду. Спачатку з камяка гліны фармавалася донна-ёміствя частка сасуда, а потым стужкавым спосабам канструяваліся яго сценкі і верх. Яшчэ ў сырой пасудзіны загладжваліся стыкавыя швы, лепш апрацоўвалася дзе трэба паверхня. Затым яна аздаблялася і высушвалася. Пасля выдалення вільгаці шляхам сушкі сасуды абпальвалі ў вогнішчах пры невысокіх тэмпературах — 500—750 °С (Лашанкоў, 1993. С. 68—75). Апошні этап быў складаным, паколькі трэба было падтрымліваць

у полымі вогнішча пастаянную тэмпературу і адносна ўстойлівае газавае асяроддзе: вокіснае або закіснае. Апошняя акалічнасць істотна ўплывала на колер посуду, а разам з тэмпературай і на яго трываласць.

## 4. ХРАНАЛОГІЯ І ЭТНІЧНАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ

Па-рознаму даследчыкамі вызначаецца і храналогія мілаградскай культуры ў Паўднёвай і Паўднёва-Усходняй Беларусі. В. М. Мельнікоўскай яна абмяжоўваецца VI ст. да н. э. — І ст. н. э. Л. Д. Побалем — VIII — III стст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 164 — 167. Рис. 64; Поболь, 1983. С. 12. Рис. 5).

Мілаградскія помнікі генетычна звязаныя з лебядоўскімі і, наадварот, няроднасныя зарубінецкім, з якімі яны часткова сінхронныя. Мілаградская культура зарубінецкага часу захоўвалася ў асобных пэўных раёнах, дзе потым ёй на змену прыйшлі старажытнасці кіеўскай культуры. Такім чынам, час існавання мілаградскай супольнасці мусіць апынуцца недзе паміж X ст. да н. э. і II ст. н. э. Таму што ніжняй са згаданых межаў дасягаюць самыя маладшыя з храналагічна атрыбутаваных лебядоўскіх знаходак, а верхняй — старэйшыя з кіеўскіх. Такім чынам, адносная храналогія мілаградскай культуры ў Беларусі, на думку аўтара, уваходзіць у рамкі ад IX ст. да н. э. да І ст. н. э. Ці адпавядае ёй храналогія абсалютная?

Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба разгледзець надзейна храналагічна вызначаныя мілаградскія знаходкі. Пачнём з прыладаў працы. Найстаражытнейшыя з іх выяўлены на суседняй тэрыторыі Украінскага Палесся. Гэта фрагментаваны бронзавы кельт з Народзіцкага могільніка (Левицький, 1931. С. 232. Рис. 39: 4). В. Д. Рыбалавай гэты кальт аднесены да тыпу вяпікапольскіх, якія былі вядомыя ў басейне ракі Саны аж да пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. (Рыбалова, 1961. С. 84). Здаецца, знаходку з Народзічаў лепш датаваць крыху больш познім часем. Жалезная клінападобная сякера з Гарошкава аднесена В. А. Іллінскай да скіфскіх рабочых сякер, датаваных даследчыцай VI—IV стст. да н. э. (Іллінська, 1961. С. 29—31). Але верхняя храналагічная мяжа для гэтых прыладаў зараз можа быць трохі ссунутай. Падобныя клінападобныя сякеры знойдзены таксама і на днепрадзвінскіх помніках. Лічыцца дапушчальным, што яны маглі перажыць тут нават фінал скіфскай эпохі (Шадыро, 1985. С. 52). Далей зарубінецкімі традыцыйна лічыліся ўсе жалезныя сякеры-кельты, у тым ліку і знойдзеныя на Чаплінскім гарадзішчы. А. А. Егарэйчанкам быў прапанаваны дыферэнцыраваны падыход (Егарэйчанка, 1983. С. 80). Для кельтаў з шырокім тулавам даследчык пераканаўча вызначыў менавіта раннелатэнскія аналагі. Такім чынам, шыракатулаўны кельт з Чапліна (Третьяков, 1959. Рис. 13:1) павінен быць аднесены да IV—III стст. да н. э.

Найбольш архаічна з усіх вядомых у мілаградскай культуры выглядаюць пяць наканечнікаў дзідаў аднолькавага тыпу, знойдзенных на могільніку Дубай. Пытанне аб датыроўцы гэтых наканечнікаў мае прынцыповае значэнне, бо ад яе часам ставіцца ў залежнасць датаванне ўсяго Дубайскага могільніка. А з апошнім у сваю чаргу ўвогуле звязвалася ніжняя храналагічная мяжа існавання ўсёй мілаградскай культуры на тэрыторыі Беларусі. Ю. У. Кухарэнка лічыў, што знойдзенныя ў Дубаі наканечнікі маюць свае аналагі сярод скіфскіх наканечнікаў дзідаў VI — пачатку V ст. да н. э. (Кухаренко, 1961. С. 11). Падрабязная класіфікацыя скіфскіх дзідаў была распрацавана А. І. Мелюковай (Мелюкова, 1964. С. 34—35). Адпаведна гэтай класіфікацыі ўсе наканечнікі дзідаў з Дубая павінны трапіць у аддзел II (вастралістых),

тып I (з рабром уздоўж пяра). Але ж яны маюць зусім іншую форму пяра і рабра на ім у адрозненне ад аднесеных да гэтых аддзела і тыпу скіфскіх дзідаў. Пяро ў дубайскіх значна карацейшае і шырэйшае, а рабро не аднолькава вузкае па ўсёй даўжыні, як у скіфскіх, а моцна пашыраецца ад вастрыя да ўтулкі. Калі яшчэ мець на ўвазе, што ў скіфаў вастралістыя наканечнікі дзідаў (аддзел II, тып I — на Правабярэжжы Сярэдняга Дняпра (Ковпаненко і інш., 1989. С.118. Рис. 37:2—4)) шырока распаўсюдзіліся толькі ў IV—III стст. да н. э., а ў V ст. да н. э. яны былі аднолькавыя (Мелюкова, 1964. С. 42), то аб датыроўцы дубайскіх менавіта па скіфскіх аналагах VI — пачатку Vст. да н. э. увогуле нельга і казаць. З другога боку, ролю прататыпа для дубайскіх ў стане былі адыграць, мусіць, наканечнікі дзідаў накшталт знойдзенных у пахаваннях яшчэ перадскіфскага перыяду ў Бутэнках, Матэўцах, Высоцкім (Ковпаненко, 1962. С. 70. Рис. 2; Лапушнян, 1969. С. 131. Рис. 1:2; Граков, 1977. Рис. 107:1). Апошні могільнік, як вядома, быў датаваны У. І. Каніўцом VIII—VII стст. да н. э. (Канивец, 1955. С. 95). У любым выпадку датыроўка наканечнікаў з Дубаю ня можа распаўсюджвацца на V ст. да н. э. Што тычыцца вядомага ў мілаградскай культуры наканечніка дроціка з Гарошкава, то ён, па вызначэнню В. М. Мельнікоўскай, належыць да тыпу раннелатэнскіх (Мельниковская, 1967. С. 7. Рис. 29:23).

Для мілаградскай культуры Беларусі, напэўна, першараднае значэнне мае храналогія бронзавых наканечнікаў стрэлаў архаічна-скіфскага тупу (двух-, трохлопасцевыя, з шыпамі на ўтулках), выяўленных ў Хільчыцах і Ясянцы-2 (Залашко, 1985. С. 346—349; Ён жа, 1983. Рис. 5). Гэтыя знаходкі дакументуюць старажытнейшыя кантакты з носьбітамі скіфскай культуры. А. І. Мелюкова аднесла падобныя скіфскія наканечнікі стрэлаў да першай храналагічнай групы і датавала VII—VI стст. да н. э. (Мелюкова, 1964. С. 14—32). Потым іх храналогія была перагледжана: згодна з меркаваннямі С. В. Поліна, яны павінны быць аднесены да VIII — VII стст. да н. э. (Полін, 1987. С. 20—22). Астатнія бронзавыя наканечнікі стрэлаў трохлопасцевыя, у адпаведнасці з класіфікацыяй А. І. Мелюковай павінны датавацца наступным чынам: з Асарэвічаў — IV ст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 69), Чапліна — IV—III стст. да н. э. (Третьяков, 1959. Рис. 13:2). Касцяная з Гарошкава, калі меркаваць па аналагах з сярэднеднепроўскіх курганоў (Ковпаненко, Бессонова, Скорый, 1989. Рис. 36:64, 65), — IV—III стст. да н. э.

Цвікападобныя шпількі з Гарошкава, Мілаградаў, Ястрабкі добра датуюцца па скіфскіх аналагах — у межах V—III стст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 14, 72). Да знаходак датаваных шпілек трэба дадаць яшчэ два экземпляры цэлыя, а таксама фрагментаваныя фібулы з Гарошкава і Мілаградаў (Мельниковская, 1967. С. 86. Рис. 31:11—16). Найбольш цікавыя з іх, канешне, дзве познялатэнскія са згарэўшага жытла ў Мілаградах, раскоп IV (Мельниковская, 1963. С. 35—40. Рис. 4:6). Меркаванне аб зарубінецкай прыналежнасці гэтага жытла, у якое мілаградская кераміка трапіла ўжо потым, было прапанавана Л. Д. Побалем і пазней падтрымана А. М. Абломскім (Обломский, 1981. С. 92). Але, па-першае, апрача мілаградскіх венчыкаў у тым жа самым комплексе ёсць цэлая серыя грузікаў, якія капіруюць формы мілаградскіх сасудаў. Па-другое, акрамя познялатэнскіх фібул, ніводнае з ўпрыгожанняў накшталт знойдзенных ў дадзеным жытле на Мілаградах ніколі ў закрытых зарубінецкіх комплексах не траплялася. З другога боку, прадстаўленыя сярод знаходак ў гэтым жытле трохкутныя падвескі «падгорцаўскага» тыпу вельмі характэрныя для мілаградскіх комплексаў Кіеўшчыны

(Даниленко, 1953. С. 204). Па-трэцяе, у Мілаградах ёсць яшчэ адно падобнае жытло, у запаўненні якога спалучаецца кераміка, характэрная для абедзвюх культур, прычым ў гэтакай прапорцыі: на тры дробныя зарубінецкія чарапкі прыпадаюць буйныя часткі ед чатырох мілаградскіх гаршкоў (Мельниковская, 1963. Рис. 2). Але меркаваць аб зарубінецкай прыналежнасці і другога жытла і тлумачыць наяўнасць у ім мілаградскай керамікі таксама як нейкую выпадковую з'яву проста немагчыма. Мілаградская кераміка ніяк не магла трапіць сюды з культурнага пласта: жытло заглыблена ў чысты грунт па-за валам. Калі мець гэта на ўвазе, спроба скасавання мілаградскай прыналежнасці і першага са згаданых жытлаў, а таксама знойдзенных там фібул выглядае нявельмі ўдалай. Тады застаецца прызнаць, што дзякуючы гэтым знаходкам у Мілаградах аднайменная культура на Беларусі атрымала надзейную абсалютную дату, менавіта I ст. да н. э.

З астатніх мілаградскіх упрыгожанняў, знойдзенных на тэрыторыі Беларусі, добра датуюцца толькі цвікападобныя завушніцы. Па сваёй канструкцыі, памерах і форме яны дакладна адпавядаюць аднесаным У. Г. Пятрэнка да тыпу I скіфскіх завушніц. Да першага яго варыянта павінна быць аднесена залатая завушніца з Дубаю з напаўсферычнымі галоўкамі рознага памеру на абодвух канцах дужкі (Кухаренко, 1961. С. 11. Табл. 1:3). Згодна з класіфікацыяй У. Г. Пятрэнка, падобныя рэчы былі ва ўжытку ў скіфскім асяроддзі ў VI ст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 21. Табл. 16:13). Другая завушніца таксама з дзвюма, але аднолькавымі па памерах галоўкамі, і не залатая, а медная (бронзавая?) была знойдзена ў Шчаткаве (Поболь, 1967. С. 214. Рис. 14:6). Яе аналагі датуюцца крыху шырэй — VI—V стст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 21). Бронзавая завушніца з адной галоўкаю з Гарошквва (Мельниковская, 1967. Рис. 31:8) адпавядае скіфскім варыянтам 3 і 4 тыпу I, якія былі распаўсюджаны ў VI—V стст. да н. э. (Петренко, 1978. С. 21, 24. Табл. 39:17).

Здаецца вельмі важнай і датыроўка некаторых звязаных з мілаградскімі комплексамі Беларусі антычных пацерак, асабліва знойдзенных у Гарошкаве. Некаторыя з пацерак, што былі знойдзены там у адным скарбе разам з рубчастымі бранзалетамі, атрыбутаваны Е. М. Аляксеевай. Пры гэтым дзве пацеркі аднесены да VI—II стст. да н. э., адна да III—II стст. да н. э. і яшчэ адна — толькі да II ст. да н. э. (Мельниковская, 1967. Рис. 40:15—19, 13 і 18; Яніцкая, 1980. Табл. 2). Атрымліваецца, што ўвесь скарб, і бранзалеты ў тым ліку, належыць да II ст. да н. э. На гэтым варта засяродзіць увагу яшчэ і ў сувязі з тым, што, як вядома, верхняй хаалагічнай мяжою рубчастых бранзалетаў лічыцца III ст. да н. э. А на гэтай падставе адпаведным чынам вызначалася дадзеная мяжа і для ўсяго мілаградскага Гарошкава. З чым, як бачым, згаджацца нельга.

Інтарэс выклікае хранапогія двух аднолькавых люстэркаў — пазбаўленых борцікаў бронзавых дыскаў з петлепадобнымі ручкамі на адваротным баку. Абодва былі знойдзеныя на гарадзішчы Ліскі (Лошенков, Барцева, 1995. Рис. 3). На наш погляд, ліскаўскія знаходкі найбольш падобныя — аж да ідэнтычнасці — да найбольш ранніх з люстэркаў тагарскай культуры ў Паўднёвай Сібіры. Хранапагічнай прыкметаю апошніх лічыцца масіўнасць і — нярэдка — адсутнасць борцікаў (Членова, 1967. С. 82—83). Велічыня дыяметра і таўшчыня абодвух ліскаўскіх люстэркаў літаральна супадаюць з адпаведнымі паказчыкамі для раннетагарскіх. Таму найбольш правільнай, здаецца, будзе і датыроўка гэтых знаходак на поўдні Беларусі ў адпаведнасці з паўднёвасібірскімі аналагамі — VII ці VII — пачатак VI ст. да н. э.

Такім чынам, на думку аўтара, вбсалютная храналогія мілаградскіх старажытнасцей Беларусі, верагодна, адпавядае межам у іх храналогіі адноснай як IX ст. да н. з. і I ст. н. э.

Пры разглядзе пытання аб этнічнай прыналежнасці «мілаградцаў» нельга забывацца на тое, што ўяўленне аб носьбітах гэтай культуры, як аб нейкім этнічным маналіце, па сутнасці апрыёрнае. Ужо была адзначана адсутнасць нейкага абгрунтавання этнічнага адзінства, у прыватнасці зарубінецкай культуры, якая таксама складаецца з шэрагу варыянтаў (Мачинский, 1973. С. 57). Відавочна, што гэтакай жа шматаарыянтнай мілаградскай культуры нявартa адразу адмаўляць у поліэтнічнасці.

Калі разглядаюць пытанне аб той ці іншай культуры, то, згодна з традыцыяй, усе імкнуцца неяк выкарыстаць не толькі археалагічныя, але таксама антрапалагічныя, этнаграфічныя, лінгвістычныя, гістарычныя і іншыя дадзеныя. Значэнне гістарычных, Герадотавых у першаю чаргу, звестак у выпадку з «мілаградцамі» нявартa перабольшваць увогуле. Ужо таму, што аб этнасе ягоных неўраў у «бацькі гісторыі» літаральна нічога не сказана. Нельга быць нават упэўненым, што імя «неўры» ў Герадота — гэта іх саманазва, а не нейкая мянушка накшталт «этноніма» аднаго з суседніх плямёнаў: андрафагі. Роля антрапалогіі з-за панавання ў мілаградскіх могільніках на тэрыторыі Беларусі абраду крэмацыі таксама практычна ніякая. Спробы выкарыстання ў падобных выпадках этнаграфічных дадзеных часта не даюць станоўчых вынікаў. Спашлёмся на наступны прыклад. Згодна з высновамі А. В. Збруевай, у Паволжжы пэўныя этнаграфічныя асаблівасці, што ідуць яшчэ ад пакінутай старажытнымі фіна-уграмі ананьінскай археалагічнай культуры, зараз уласцівы традыцыйным народным культурам як удмуртаў, фіна-уграў, так і тамтэйшых сучасных цюркаў, чувашоў і татараў (Збруева, 1952. С. 86). Атрымліваецца, што выяўленне ў народнай культуры славян-беларусаў нейкага аналага для той ці іншай этнаграфічнай асаблівасці, якая была ўласціва некалі мілаградскай культуры, таксама яшчэ не зробіцца надзейным доказам славянства апошняй. Этнаграфічныя дэталі, як вядома, могуць захоўвацца са стагоддзя ў стагоддзе, але дзе ўпэўненнасць, што да беларусаў яны не трапілі ў «знятым» выглядзе, як ананьінскія да чувашоў? Дзе спадчына этнічнага продка, а дзе — субстрата, у падобных выпадках высветліць немагчыма. Але ў нас засталіся яшчэ лінгвістычныя і археалагічныя дадзеныя.

Ёсць абгрунтаванне рэтраспектыўнага шляху ў якасці адзіна прыдатнага пры вывучэнні праблем этнагенезу па археалагічных дадзеных (Седов, 1979. С. 36). Будзем мець гэта на ўвазе. Адзначым, што для мілаградскай культуры меркавалася і славянская, і балтыйская этнічная прыналежнасць. Але ўвогуле нельга выключаць і якісьці трэці варыянт. Па-першае, як ужо згадвалася, зусім не выключана поліэтнічнасць «мілаградцаў». Па-другое, на думку некаторых даследчыкаў, у гідраніміі нашага Палесся адчуваюцца сляды нейкай іншай старажытнаіндаеўрапейскай мовы, не балтыйскай і не славянскай (Исаенко, 1973. С. 50—51). Адназначна славянства, як і балтыйства, «мілаградцаў» у стане падцвердзіць толькі выяўленне эвалюцыйных ланцужкоў, у якіх адлюстроўвалася б ператварэнне асаблівасцей мілаградскай культуры ў рысы, уласцівыя бясспрэчным славянам ці адпаведна балтам. Але падобныя «ланцужкі» пакуль што не вызначаны. Мусіць, таму і спроба звязаць мілаградскаю культуру непасрэдна з бясспрэчна славянскай была здзейснена толькі аднойчы. Пры гэтым В. П. Пятроў усё ж змог тады

адзначыць некалькі элементаў падабенства паміж мілаградскімі і славянскімі (карчакскімі) курганамі (Петров, 1963. С. 36—37). Але ўса гэтыя элементы, на думку І. П. Русанавай, ёсць таксама і ў пшэворскай культуры (Русанова, 1976. С. 208). Нейкая ганетычная сувязь мілаградскай культуры з пшэворскай, вядома ж, нонсэнс. Увогуле не можа быць сумменняў, што агульныя рысы ў абраднасці мілаградскіх, пшэворскіх і карчакскіх курганоў — не больш чым праява выпадковага падабенства. Хоць яна і даволі цікавая, але ж не трэба забывацца, што, пры жаданні, супадзенні падобнага тыпу можна падабраць для вельмі шырокага кола археалагічных культур, прытым як для сінхронных, так і для тых, што паслядоўна змяняюць адна адну. Але ці будзе гэта доказам этнічнай роднасці між імі? Пэўныя мілаградскія элементы можна назіраць у кіеўскай культуры, кіеўскія — у калочынскай, калочынскія — у роменскай, роменскія — у старажытнарускай. Усё было б проста, калі б мы не ведалі, што ў адносінах да кіеўскай мілаградская культура не ў стане прэтэндаваць на большае, чым на ролю субстрата. Археалогіяй фіксуюцца змены, якія цалкам належаць да этнаграфічнага, а зусім не да этнічнага зместу гэтай, як, між іншым, і любой другой, археалагічнай культуры.

Былі і намагенні неяк дапамагчы археалогіі, прыцягнуўшы лінгвістычныя дадзеныя, удакладніць шляхам іх выкарыстання «мову» археалагічнага матэрыялу. Ці магчыма гэта зараз? Дзеля прыкладу спынімся толькі на дзвюх праблемах, якія маюць дачыненне да вызначэння мовы «мілаградцаў». Маем на ўвазе пытанні аб лакалізацыі славянскай прарадзімы і аб часе фарміравання балтыйскага гідранімічнага арэала. Зразумела, што калі арэал мілаградскай культуры неяк упішацца ў межы прарадзімы славян, то яна атрымае пэўныя шанцы на славянства. Калі старажытныя балтыйскія гідратапонімы будуць сінхроннымі з лакалізаванымі побач мілаградскімі помнікамі, можна будзе меркаваць, наадварот, аб балтыйстве пакінуўшага іх насельніцтва.

Ф. П. Філін, скарыстаўшы вядомы «букавы» аргумент, змясціў славянскаю прарадзіму на Прыпяці і на сярэднім Дняпры (Филин, 1972. С. 25). В. В. Сядоў — з дапамогаю «рыбнага» — на Вісле, па-за межамі мілаградскага арэала (Седов, 1979. С. 22). «Букавы» аргумент быў абгрунтавана адхілены С. А. Бернштэйнам (Бернштейн, 1961. С. 55). Мусіць, гэтак жа трэба абысціся і з «рыбным». Паводле В. В. Сядова, ягоны змест зводзіцца да наступнага: калі ўжо у мове праславян былі ўласныя назвы так званых прахадных рыб, ласося і вугра, то праславянскую тэрыторыю трэба лакалізаваць па берагах тых рэк, дзе гэтыя рыбы водзяцца, — у басейне Балтыйскага мора. Апе высвятляецца, што В. В. Сядоў, на жаль, пакінуў па-за ўвагаю тое, што нават яшчэ не ў такім далёкім мінулым арэал распаўсюджання гэтых рыб, у прыватнасці ласося, быў значна шырэйшы. У фундаментальнай працы па іхтыялогіі Еўразіі гаворыцца, што яшчэ ў XIX ст. ласосі вадзіліся таксама ў Чорным моры, адкуль у адпаведны сезон падымаліся аж да вярхоўяў Дняпра і іншых рэк чарнаморскага басейна (Берг, 1948. С. 58 і наст.). Атрымліваецца, што на падставе назваў прахадных рыб немагчыма змяшчаць праславянскі арэал менавіта ў Павісленні, абмінаючы Падняпроўе. Лакалізацыя гэтага арэала пакуль што ўвогуле цалкам праблематычная. Таму адпавядае ён ці не мілаградскай тэрыторыі, сцвярджаць напэўна зараз, зразумела, немагчыма.

Уяўленне аб глыбокай старажытнасці балтыйскіх гідронімаў, арэал якіх, дарэчы, уключае і ўсю сучасную тэрыторыю Беларусі цалкам, бярэ пачатак,

безумоўна, ад вядомай гіпотэзы Х. А. Маоры. Гіпотэза гэта галоўным чынам грунтавалася на ўяўленні яе аўтара аб адсутнасці сколькі-небудзь маштабнай міграцыі балтаў пазней 3-га тысячагоддзя да н. э. (Моора, 1958. С. 19—20). Але, згодна з меркаваннямі А. А. Егарэйчанка, падобная міграцыя — менавіта перасяленне носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі ў самым канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. з тэрыторыі сучаснай Літвы і прылягаючых раёнаў Беларусі ў паўднёва-ўсходнім накірунку археалагічна і гідранімічна добра фіксуецца (Егорейченко, 1982. С. 58—61). Пра перасяленне «штрыхавікоў» аж да Палесся, перасяленне, якое для «мілаградцаў» абярнулася стратаю значнай часткі іх арэала, мы ўжо згадвалі вышэй. З гэтай міграцыяй, на нашу думку, трэба звязваць утварэнне пэўнай часткі балтыйскіх назваў на Беларусі. Так ці інакш, але і балтыйскі, і славянскі гідранімічны пласты Беларусі пазбаўленыя пакуль што дакладнай храналагічнай атрыбуцыі. Такім чынам, і мілаградскія старажытнасці яшчэ немагчыма надзейна «агучыць» з дапамогаю палеалінгвістыкі. Калі яшчэ не забывацца і на тое, што моўная прыналежнасць і этнічная свядомасць даволі часта не супадаюць, то трэба прызнаць «нацыянальнасць» носьбітаў мілаградскай культуры цалкам загадкаваю.

## 5. ПОМНІКІ ПАМОРСКАЙ КУЛЬТУРЫ НА БЕЛАРУСІ

Старажытнасці паморскай культуры выяўлены на тэрыторыі Польшчы, паўночна-заходняй Украіны і паўднёва-заходняй Беларусі. Яны вядомыя ў першую чаргу на аснове матэрыялаў пахавальных помнікаў. Паселішчы даследаваны ў значна меншай ступені. Паморская культура абцяжарана вялікай тэрміналагічнай гісторыяй і ў навуковай літаратуры выступае пад рознымі назвамі: культура тваравых урнаў, раннегарманская культура, культура скрынкавых пахаванняў, культура скрынкавых і падклёшавых пахаванняў, клёшава-паморская фаза лужыцкай культурнай сістэмы, усходнепаморская культура, культура падклёшавых пахаванняў, вейхяроўска-краташынская культура. Не ўсе навукоўцы прызнаюць адзінства паморскай культуры і абгрунтоўваюць тэзіс аб існаванні дзвюх блізкіх, але розных культур: менавіта паморскай і падклёшавых пахаванняў. Прыхільнікі вылучэння асобнай культуры падклёшавых пахаванняў (Kostrzewski, Chmielewski, Jaždžewski, 1965. S. 236; Węgrzynowicz, 1979, 1988) паказваюць на значныя, на іх думку, адрозненні ў пахавальным абрадзе і інвентары, якія дазваляюць гаварыць аб дзвюх розных культурах. Аргументы на карысць культурнага адзінства названых помнікаў прыводзяць В. Хенсель (Hensel, 1988. S. 367), Т. Маліноўскі (Malinowski, 1968. S. 18, 125), С. Чопек (Czopek, 1992. S. 13) і інш. Даследчыкі звяртаюць увагу на тыя ж самыя храналагічныя рамкі, падабенства пахавальнага абраду і інвентару, на ідэю клёша, якая адпавядае ідэі скрыні, каменныя вымасткі і агароджы ў клёшавых пахаваннях, прысутнасць сасудаў абадзвюх груп у керамічных комплексах паселішчаў. Навукоўцы, якія займаліся вывучэннем паморскіх старажытнасцей на тэрыторыі Беларусі і Украіны, бачылі ў іх адзіную культуру, якую яны называлі «паморскай» і якая, на іх думку, адрознівалася «ад асноўнай» тэрыторыі яе фарміравання і развіцця толькі храналагічнымі рамкамі (Кухаренко, 1961. С. 9—11; Никитина, 1965а. С. 194—205; Крушельницкая, 1974. С. 272—276). Гісторыя вывучэння помнікаў паморскай культуры налічвае больш стагоддзя і вельмі значную бібліяграфію, якая ахоплівае сотні прац. Асноўная іх маса належыць пяру польскіх даследчыкаў, але гэтай праблематыкай займаліся альбо

ў рознай ступені закраналі навукоўцы Германіі, Украіны, Беларусі, Расіі і інш. Згаданая акалічнасць змушае абмежавацца ўпамінаннем прац абагульняючага і сінтэтычнага характару.

Першая спроба сістэматызацыі і картаграфавання паморскіх старажытнасцей з'яўляецца напрыканцы XIX ст. (Ossowski, 1881). У міжваенны перыяд тэрыторыя даследаванняў пашыраецца і ахоплівае амаль увесь арэал культуры. Шляхам раскопак вывучаюцца не толькі могільнікі, але і паселішчы. У абагульняючых працах гэтага перыяду разглядаюцца пытанні храналогіі, паходжання, этнічнай гісторыі і дынамікі рассялення паморскіх плямёнаў (Petersen, 1929; Sulimirski, 1933; Korduba, 1933; Kostrzewski, 1939). Пасля другой сусаетнай вайны ўзрастае інтэнсіўнасць палявых даследаванняў, пашыраецца крыніцазнаўчая база, павялічваецца колькасць публікацый, прысвечаных асобным помнікам, рэгіёнам і ў цэлым культуры. Асаблівай увагі заслугоўваюць фундаментальныя працы Т. Маліноўскага (1969, 1979, 1981, 1989), у якіх дэталёва прааналізаваны ўса аспекты і формы пахавальных звычваў, складзены дакладныя каталогі помнікаў, грунтоўна разгледжана ўся праблематыка, звязаная з паморскімі старажытнасцямі. Месца і роля паморскіх плямёнаў у гісторыі старажытнага грамадства на польскіх землях разгледжана ў шэрагу сінтэтычных прац (Kostrzewski, Chmielewski, Jażdżewski, 1965; Godłowski, Kozłowski, 1979; Jażdżewski, 1981; Hensel, 1988). Яны ўтрымліваюць поўную характарыстыку паморскай культуры і погляды аўтараў на яе фарміраванне, развіццё, храналогію, тэрыторыю, этнас. У 4-м томе «Prahistorii ziem polskich» (1979) паморскім старажытнасцям прысвечаны два манаграфічныя раздзелы аб вейхяроўска-краташынскай культуры (Łuka, 1979а) і культуры падклёшавых пахаванняў (Węgrzynowicz, 1979). Некаторыя іншыя аспекты паморскай праблематыкі асветлены ў раздзелах аб рассяленні (Łuka, 1979б), вытворчасці (Gardawski, 1979), сацыяльным развіцці (Dąbrowski, 1979), рэлігіі (Gediga, 1979). Важнымі падзеямі ў падсумаванні дасягненняў і выяўленні лакунаў у даследаваннях паморскай культуры сталі спецыяльныя сімпозіумы, якія адбыліся ў 1977 г. у Слупску і ў 1983 г. у Варшава. На сімпозіуме ў Слупску было адзначана, што, нягледзячы на значную колькасць археалагічных крыніц, паморская культура застаецца ўсё яшчэ недастаткова зразумелай і большасць праблем, звязаных з ёю, выклікаюць моцныя дыскусіі (Gedl, 1979.S. 233).

З прац польскіх даследчыкаў, прысвечаных асобным рэгіёнам культуры, дзе таксама грунтоўна разгледжаны помнікі на ўсход ад Заходнага Буга, вылучаецца артыкул Т. Венгжыновіч (1988), у якім аналізуюцца матэрыялы падклёшавых могільнікаў Мазоўша і Падляшша і прапанавана найбольш падрабязная класіфікацыя керамічных вырабаў. У гэтым шэрагу стаіць і манаграфічнае даследаванне С. Чопека (1992) аб паўднёва-ўсходняй зоне паморскай культуры, куды ўключаны старажытнасці з тэрыторыі Украіны і Беларусі. Аўтар уважліва паставіўся да верыфікацыі і сістэматызацыі крыніц, на базе новых метадалагічных падыходаў распрацаваў перыядызацыю і храналогію паморскіх помнікаў, разгледзеў пытанні генезісу і фарміравання культуры, асаблівасцей яе заключнай стадыі, прасечыў яе ўплывы і міжкультурныя сувязі і суадносіны з нядаўна вылучанай чэрнічынскай групай.

Першыя помнікі паморскай культуры на Беларусі адкрыты выпадкова ў 1930-х гадах. Пад час земляных работ сяляне наткнуліся на некалькі пахаванняў каля вёсак Ратайчыцы, Трасцяніца і Уладычыца на рацэ Лясная. Мясцы знаходак абследаваў К. Салевіч (1937), але новыя матэрыялы яму

знайсці не ўдалося. У 1958 г. Ю. У. Кухарэнка правёў раскопкі на могільніку каля в. Скорбічы на рацэ Лясная і выявіў адно падклёшавае пахаванне. У 1962 г. Ю. У. Кухарэнка і В. Б. Нікіціна-Караткевіч даследавалі 2 пахаванні і 22 ямы, запоўненыя камянямі, попелам, жужалем і керамікай, на могільніку каля в. Ратайчыцы і 5 пахаванняў на могільніку каля ст. Драгічын у Драгічынскім раёне (Кухаренко, 1961. С. 20; Никитина, 1965а. С. 197). Адно ўрнавае трупаспаленне выяўлена ў 1963 г. ва ўсходняй частцы Пінска, якая мае назву Альбрэхтова (Кухаренко, 1966. С. 111—112). У тыя ж гады Ю. У. Кухарэнка і В. Б. Нікіціна-Караткевіч зафіксавалі 2 паморскія паселішчы каля вёсак Хмелі і Кусічы (зараз Агароднікі) на рацэ Пульва на поўнач ад Брэста. На апошнім селішчы В. Б. Нікіціна-Караткевіч даследавала 50 кв. м культурнага пласта, у якім выяўлена жытло (Никитина, 1965а. С. 189—200). Ляпная кераміка паморскага тыпу была адзначана таксама на беразе возера Засвяцце каля в. Лелілікава ў Кобрынскім раёне (Кухаренко, 1961. С. 21). 1960-я гады сталі адзіным перыядам у гісторыі беларускай археалогіі, калі паморская культура вывучалася мэтанакіравана. Першыя падсумаванні зрабіў Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1961). Ён апісаў 10 аб'ектаў з тэрыторыі Палесся, прааналізаваў выяўленыя на іх матэрыялы і адзначыў, што старажытнасці паморскай культуры на ўсход ад Заходняга Буга з'яўляюцца ў IV ст. да н. э., па характару матэрыяльнай культуры не адрозніваюцца ад аналагічных помнікаў з тэрыторыі Польшчы і адыгрываюць значную ролю ў фарміраванні зарубінецкай культуры. В. Б. Нікіціна-Караткевіч прысвяціла сваю кандыдацкую дысертацыю паморскай культуры. Яна абагульніла і сістэматызавала звесткі аб паморскіх помніках на тэрыторыі Польшчы, Украіны і Беларусі, склала карту іх распаўсюджання, удакладніла межы культуры (Никитина, 1965б). В. Б. Нікіціна-Караткевіч у шэрагу артыкулаў падрабязна апублікавала вынікі археалагічных прац, праведзеных сумесна з Ю. У. Кухарэнкам на тэрыторыі Палесся (Никитина, 1964а. С. 43—47; Яна ж, 1964б. С. 69—77; Яна ж, 1965а. С. 194—205). Аб усходняй мяжы пашырэння паморскай культуры яна выказалася двойчы. У сваім артыкуле (Никитина, 1965а. С. 201) даследчыца акрэсліла яе напрамак ад Пінска, праз нізоўі Стыра да вярхоўяў Гарыні і Збруча. У аўтарэфераце кандыдацкай дысертацыі (Никитина, 1965б. С. 7) мяжа праведзена крыху далей на ўсход: ад вярхоўяў Гарыні — па Гарыні да Прыпяці. Паморскую і падклёшавую групу помнікаў яна аб'ядноўвала ў адзіную культуру з агульнымі храналагічнымі рамкамі і характарам матэрыяльнай і духоўнай культуры. Насельніцтва паморскай культуры на тэрыторыі Украіны і Беларусі В. Б. Нікіціна-Караткевіч лічыла прышлым і адзначала, што даследаваныя тут помнікі датуюцца III—I стст. да н. э. Ніжнюю храналагічную мяжу даследчыца абгрунтавала знаходкамі ў пахавальных комплексах фібул раннелатэнскай схемы, а верхнюю — асаблівасцямі пахавальнага абраду (наяўнасць у магілах рэштках пахавальнага вогнішча) і некаторымі прадметамі пахавальнага інвентару (другасна абпалены посуд, расплаўленыя ўпрыгожанні, кераміка зарубінецкага і пшэворскага тыпаў). В. Б. Нікіціна-Караткевіч услед за Ю. У. Кухарэнкам выказала думку аб генетычных сувязях паміж паморскай, зарубінецкай і пшэворскай культурамі (Никитина, 1965а. С. 204—205).

У наступныя гады колькасць пунктаў, па якіх выяўлены матэрыялы паморскай культуры на Беларусі, некалькі ўзрастае, але спробы мэтанакіраванага пошуку і вывучэння гэтых старажытнасцей не прадпрымаліся. Л. Д. Побаль, абапіраючыся на вынікі палявых даследаванняў У. Ф. Ісаенкі і К. В. Каспаравай, адзначыў наяўнасць керамікі паморскага тыпу каля вёсак

Хорава ў Пружанскім раёне на рацэ Ясельдзе, Вешня і Востраў на рацэ Стыр і Лемяшэвічы на рацэ Прыпяці ў Пінскім раёне (Поболь, 1974б. С. 293, 283—284). Ён жа апублікаваў некаторыя дадатковыя звесткі аб паморскіх помніках на Беларусі, матэрыялы якіх зберагаюцца ў музеях Польшчы (Поболь, 1979). Некалькі ўрнавых пахаванняў на неалітычным паселішчы Камень-6 у 1982 г. выявіў У. Ф. Ісаенка (Исаенко, 1984. С. 357—358). На жаль, уся інфармацыя аб выяўленых ім матэрыялах абмежавана гэтымі звесткамі. У 1980—1990-я гады В. С. Вяргей (Вергей, 1995. С. 83—100) зафіксавала знаходкі абломкаў посуду паморскага тыпу на шматслойных паселішчах у в. Гарадзішча Пінскага раёна на рацэ Ясельдзе, каля вёсак Вікаравічы, Ямнае, каля Бухліцкага хутара на рацэ Гарыні, каля в. Аздамічы непадалёк ад месца ўпадзення ракі Льва ў раку Ствіга ў Столінскім раёне. Зараз на тэрыторыі Беларусі адзначаюць 19 аб'ектаў, дзе выяўлены матэрыялы паморскай культуры (мал. 36). На васьмі з іх фіксуюцца ад аднаго да пяці пахаванняў (Ратайчыцы, Трасцяніца, Уладычыца, Скорбічы, Драгічын, Пінск-Альбрэхтова, Камень-6, Аздамічы), астатнія адзначаюцца як паселішчы (Кусічы (Агароднікі), Хмялі, Хорава) альбо як пункты, дзе выяўлена кераміка паморскага тыпу (Лелікава, Вешня, Гарадзішча, Востраў, Вікаравічы-4, Ямнае, Бухлічскі хутар, Лемяшэвічы-2).

Звыш трох тысяч могільнікаў, паселішчаў, скарбаў і асобных знаходак паморскай культуры размешчаны на тэрыторыі, абмежаванай з поўначы Балтыйскім морам, з захаду — ракой Одэрам. Паўднёвая мяжа праходзіць ад вярхоўеў Одэра, праз вярхоўі Віслы, Сана і Днястра да верхняй Гарыні, усходняя — па Гарыні да нізоўеў Львы і паўночная — па Прыпяці, Ясельдзе і далей праз раён Мазурскіх балот да нізоўяў Віслы. Большасць выяўленых помнікаў канцэнтруецца ў басейнах рэк Віслы, Варты, Заходняга Буга, правабярэжжа верхняга і сярэдняга Одэра.

Паселішчы паморскай культуры неўмацаваныя, гарадзішчы адсутнічаюць. Звычайна яны размяшчаюцца паблізу рэк на невысокіх пясчаных узвышшах або па краях тэрасы. Іх недастатковая вывучанасць не дазваляе скласці поўнае ўяўленне аб памерах паселішчаў і размяшчэнні пабудоў. Жытлы, якія даследаваліся на паселішчах, прадстаўлены наземнымі і паўзямлянкавымі пабудовамі. Наземнае жытло няправільна-прамакутнай у плане формы плошчаю 18 кв. м выявіла на паселішчы Кусічы В. Б. Нікіціна-Караткевіч (Никитина, 1965а. С. 199—201). Па перыметры сцен захаваліся камяні-валуны, якія ляжалі на адлегласці 0,3—1,25 м адзін ад другога. Падлога была пясчанаю, на ёй у неглыбокіх ямках размяшчаліся два агмені, складзеныя з камянёў. Адзін выяўлены каля паўднёва-заходняй сценкі будынка, другі — у паўднёвым куце. Побач з жытлом знаходзілася круглая ў плане яма, запоўненая попелам (мал. 35:8). Паўзямлянкавыя жылыя пабудовы знойдзены на паморскіх паселішчах з тэрыторыі Украіны каля вёсак Хоры, Астрыў і Зімнэ (Пелещишин, 1980. С. 73). Наземныя жытлы маюць слупавую канструкцыю сцен і складаюцца з адной альбо дзвюх камер. Паўзямлянкі заглыблены ў зямлю на глыбіню да аднаго метра (Никитина, 1985б. С. 7).

Амаль усе могільнікі паморскай культуры бескурганныя. Падкурганныя пахаванні зафіксаваны толькі на Гданьскім Памор'і. Невялікія насыпы ў большасці выпадкаў складзены з камянёў. Пахаванні змяшчаліся ў насыпе, на гарызонце або ў падкурганнай ямцы. Пахавальны абрад і інвентар аналагічны бескурганным могільнікам. Усе адкрытыя паморскія пахаванні выкананы па абраду трупаспалення.

Звычайна грунтавыя могільнікі невялікія і ўтрымліваюць ад аднаго да трох дзесяткаў пахаванняў (Czopek, 1992. S. 114—115). На тэрыторыі Польшчы даследаваны некалькі вялікіх могільнікаў — да ста і больш пахаванняў (Трансбур, Варшава-Хенрыкуў, Варшава-Грохуў). Вылучаюць чатыры тыпы пахаванняў — скрынкавыя, падклёшавыя, урнавыя і ямныя. Перапаленыя косці нябожчыкаў у большасці выпадкаў ачышчаны ад рэшткаў пахавальнага вогнішча. У якасці ўрнаў выкарыстоўваліся як звычайныя, так і рытуальныя сасуды — тваравыя і дамковыя ўрны. Рытуальныя сасуды на тэрыторыі Беларусі і Украіны не выяўлены. У ямных пахаваннях перапаленыя косці нябожчыка ссыпаліся непасрэдна на дно ямкі і не заўсёды ачышчаліся ад рэшткаў вогнішча. Пахаванні ўтрымліваюць косці адной альбо некалькіх асобаў. Усе тыпы пахаванняў сустракаюцца амаль па ўсёй тэрыторыі распаўсюджання паморскай культуры. На асобных могільніках таксама знаходзяць пахаванні розных тыпаў, нярэдка і ўсіх. Акрамя пахаванняў, на могільніках адкрыты кенатафы, невялікія каменныя вымасткі і розныя ямы.

У скрыневых пахаваннях косці нябожчыкаў змяшчаліся ў урны, якія ставілі на дно скрыняў, складзеных з каменных пліт або камянёў-валуноў. Скрыні мелі прамавугольную форму і зверху перакрываліся каменнымі плітамі. Іх даўжыня вагалася ў межах 0,5—6 м, а шырыня дасягала 0,5—1,5 м. Вялікія скрыні нярэдка перагароджваліся каменнымі перагародкамі на некалькі адсекаў і ўтрымлівалі па некалькі ўрнаў. Клёшавыя пахаванні сустракаюцца ў двух варыянтах. У адных выпадках клёш ставілі вусцем уверх і ў яго ўстаўлялі ўрну з касцямі нябожчыка, у другіх — сасуд з касцямі нябожчыка накрываўся перавернутым дагары дном вялікім клёшам. Да ліку ўрнавых адносяць пахаванні, якія ўтрымліваюць толькі ўрны. Яны могуць быць накрытыя міскамі або накрыўкамі. Побач з урнаю нярэдка змяшчалі сасуды-прыстаўкі.

На Беларускім Палессі зафіксавана 8 пунктаў, дзе выяўлены пахаванні паморскай культуры. Яны прадстаўлены 3 тыпамі — клёшавыя, урнавыя і ямкавыя. Скрыневыя пахаванні адсутнічаюць. Па аднаму клёшаваму пахаванню выяўлена на могільніках у Скорбічах (Дружба) і Драгічыне (мал. 35:1—3, 6), урнавыя пахаванні адзначаны па аднаму ў Драгічыне, Пінску, Уладычыцы, Аздамічах, Трасцяніцы і некалькі ў Камені-6. Прычым у Трасцяніцы ўрна была абстаўлена камянямі. Тры ямныя пахаванні зафіксаваны ў Драгічыне і адно ў Трасцяніцы. На паморскіх могільніках на тэрыторыі Беларусі знойдзена ад 1 да 5 пахаванняў. Аднак цяжка сказаць, ці з'яўляюцца гэтыя маленькія могільнікі або адзінкавыя пахаванні часткаю большых аб'ектаў. Так, у Скорбічах даследавана 220 кв. м плошчы помніка і выяўлена толькі адно пахаванне (Кухаренко, 1961. С. 20). На могільніку каля в. Трасцяніца на 640 кв. м ускрыты 2 пахаванні і 22 ямы (Никитина, 1964б. С. 70) (мал. 34:6—14; 35:4—5, 7). Цалкам верагодна існаванне невялікіх могілак і асобных пахаванняў. Падобная сітуацыя нярэдка назіраецца і ў іншых рэгіёнах паморскай культуры. З выяўленых на Беларускім Палессі пахаванняў, тып якіх з большай або меншай ступенню верагоднасці можна вызначыць, пераважаюць урнавыя (5 пахаванняў), далей ідуць ямныя (4 пахаванні) і на апошнім месцы падклёшавыя (2 пахаванні). На тых аб'ектах, дзе выяўлена больш адной магілы, звычайна фіксуюцца розныя тыпы пахаванняў. Найбольшай варыянтнасцю характарызуюцца ўрнавыя пахаванні. На могільніку ў Трасцяніцы косці нябожчыка былі ссыпаны ў урну, якая ўяўляла сабою

вялікі дрэнна абпалены гаршчок карычневага колеру, накрыты зверху гліняною накрыўкаю. Вакол урны ў форме няправільнага прамакутніка памерам 2×0,95—0,4 м выкладзены камяні. Урна змяшчалася ва ўсходняй частцы каменнай агароджы, а ў заходняй стаялі чатыры сасуды-прыстаўкі: чорнаглянцаваны міскападобны сасуд, міска, у сярэдзіне якой ляжалі кубак і збан. Некалькі камянёў ляжалі на гэтым посудзе (Никитина, 1964б. С. 70). Урны без сасудаў-прыставак і камянёў, накрытыя міскамі, выяўлены ў пахаваннях на могільніках у Драгічыне і Уладычыцы (Никитина, 1964б. С. 70; Кухаренко, 1961. С. 20). На могільніку ў Пінску кальцыніраваныя косці памерлага змяшчаліся ў урне, якая нагадвала сабою збан з невялікім плоскім вушкам. Побач ляжалі абломкі посуду, у тым ліку і міскі (Кухаренко, 1966. С. 111—112). На парушаной неглыбокім кар'ерам паверхні шматкультурнага помніка каля в. Аздамічы на глыбіні ад 0 да 0,3 м на плошчы каля 0,5 м у дыяметры знойдзена невялікая колькасць кальцыніраваных касцей разам з трыма пашкоджанымі сасудамі (мал. 34:1—3). Адзін з іх меў вазападобную форму, другі — акруглабокае тулава і высокую шыйку, адхіленую ў верхняй частцы вонкі, ад трэцяга захавалася ніжняя частка да найбольшага пашырэння тулава (Вергей, 1995. С. 97. Рис. 4:1—3). Хутчэй за ўсё гэта ўрнавае пахаванне, падобнае на пахаванне ў Пінску.

З двух клёшавых пахаванняў пахаванне са Скорбічаў было напаўразбуранае (Кухаренко, 1961. С. 20), а з Драгічына захавалася добра. Яно мела класічную форму. Ачышчаныя ад пахавальнага вогнішча косці нябожчыка змяшчаліся ў гліняной урне, якая была прыкрыта перавернутаю міскаю, а ўсё гэта зверху накрываў вялікі клёш, пастаўлены дном уверх (Никитина, 1964б. С. 70). У ямных пахаваннях косці ссыпаліся прама на дно ям, якія мелі авальную або круглую ў плане форму, дыяметрам да 0,5 м і глыбінёю да 0,6 м. Разам з касцямі сустракаюцца абломкі гліняного посуду і пашкоджаныя агнём фрагментаваныя рэчы (Никитина, 1964б. С. 70—72).

Перапаленыя косці ў пахаваннях звычайна старанна ачышчаны ад рэшткаў пахавальнага вогнішча. Толькі ў ямным пахаванні 3 на могільніку каля Драгічына кальцыніраваныя косці змяшалі з вуголлем і попелам (Никитина, 1964а. С. 43). Урны не заўсёды ўтрымлівалі астанкі адной асобы. У пахаванні, выяўленым на могільніку ў Трасцяніцы, у гліняны гаршчок, які выконваў ролю ўрны, ссыпалі косці двух нябожчыкаў (Караткевіч, Каробушкіна, 1993. С. 612).

Па характару пахавальнага абраду і інвентару могільнікі, што даследаваліся на Беларускім Палессі, маюць прамыя і шматлікія аналогіі помнікам паморскай культуры, выяўленым у іншых рэгіёнах яе распаўсюджвання. Усюды ў пахаваннях пераважаюць знаходкі керамічных вырабаў. Металічныя і шкляныя рэчы або іх фрагменты сустракаюцца даволі рэдка. Часта яны пашкоджаны агнём. Відаць, нябожчыка спальвалі па-за межамі могільніка ў адзенні, у асобных выпадках аздобленым металічнымі або шклянымі аксесуарамі. У Трасцяніцы, як і на могільніках іншых тэрыторый, адкрыты ямы, запоўненыя попелам, вуголлем, фрагментамі керамікі (Трансбур, Варшава-Грохуў, Варшава-Хенрыкуў). Цяжка патлумачыць іх функцыю. Выказана меркаванне, што яны маглі выконваць ролю рытуальных памінальных (задушных) вогнішчаў (Kietlińska, Mikłaszewska, 1963. S. 288). Не з'яўляюцца мясцовай асаблівасцю выпадкі абкладвання ўрны камянямі або каменныя вымасткі пад імі, як у Трасцяніцы (Никитина, 1964б. С. 70; Кухаренко, 1961. С. 20), ці накрыццё ўрнаў камянямі, як у Ратайчыцах (Кухаренко, 1981. С. 20).

Самай масавай знаходкай на помніках паморскай культуры Беларусі з'яўляюцца керамічныя вырабы. Увесь посуд ляпны. Спецыфіка керамічнага комплексу культуры складаецца з таго, што ў большасці выпадкаў ён паходзіць з могільнікаў і прадстаўлены цэлымі формамі або вялікімі фрагментамі. Гэты факт дае неблагія магчымасці для класіфікацыі і параўнання посуду з розных помнікаў.

У якасці схудняючых дамешкаў выкарыстоўвалася жарства розных памераў, пясок і зрэдку шамот. Па характару апрацоўкі паверхні вылучаюць сасуды глянцаваныя да бляску, добра загладжаныя, матавыя, шурпатыя на вобмацак і храпаватыя. Колер посуду чорны, шэра-чорны, карычневы, буры, ярка-карычневы і чырванаваты. Па марфалагічных прыкметах сярод сасудаў вылучаюць наступныя базавыя тыпы: клёшы (гаршкі), вазападобныя сасуды і блізкія да іх (у тым ліку збаны і кубкі), міскі, накрыўкі, талеркі-дыскі. Амаль кожны з гэтых асноўных тыпаў сасудаў прадстаўлены некалькімі варыянтамі і падварыянтамі. За аснову класіфікацыі ўжываецца прынцып адпаведных прапорцый паміж вышынямі і дыяметрамі асобных частак посуду (Czopek, 1992. S. 31—39).

Гаршкі бываюць прыземістыя, з нізка апушчаным плячом і акруглым тулавам, з найбольшым пашырэннем па сярэдзіне вышыні альбо ніжэй, шыйка цыліндрычная, крыху адхілена вонкі (Драгічын, пах. 1). Большаю колькасцю на помніках Беларусі прадстаўлены даволі стройныя гаршкі з найбольшым пашырэннем у іх верхняй частцы. Адны з іх маюць выразную шыйку і добра пазначаныя плечы (Трасцяніца, яма), у іншых шыйка практычна адсутнічае (Драгічын, пах. 4). Клёшы звычайна маюць малавыразныя плечы, шырокае вусце і храпаватую паверхню (Трасцяніца, пах. 2). Частка гаршкоў мае глянцаваную верхнюю частку і храпаватую ніжнюю (Гарадзішча). Вазападобныя сасуды звычайна маюць найбольшае пашырэнне ў іх ніжняй частцы, выразны выгін брушка, наяўнасць аднаго альбо двух вушкаў. Паверхня іх глянцаванвя (Трасцяніца, пах. 1).

Міскі танкасценныя, з глянцаванай альбо добра загладжанай паверхняй, конусападобным слаба выгнутым профілем і адагнутым венцам. Некаторыя маюць невялікае плоскае вушка (Драгічын, пах. 1; Трасцяніца, пах. 2). Накрыўкі конусападобныя з шышачкай наверсе і спецыяльным борцікам унізе для замацавання наверсе ўрны (Трасцяніца, пах. 1). Сустракаюцца таксама плоскія талеркі ў форме глінянага добра загладжанага дыска. Частка посуду арнаментавана двухбаковымі пальцавымі ўціскамі па краі венца, рэльефным валікам, пакрытым зашчыпамі альбо пальцавымі ўціскамі, пракрэсленымі рыскамі.

Акрамя глінянага посуду на паморскіх помніках Беларусі знойдзены нешматлікія металічныя, шкляныя і каменныя вырабы. У ямным пахаванні на могільніку каля в. Трасцяніца знойдзена жалезная фібула раннелатэнскай схемы, даўжыня якой 9 см, і колца, зробленае з жалезнага дроту (мал. 34:9—10). Яго дыяметр 2,3 см, канцы шчыльна прымыкаюць адзін да аднаго (Никитина, 1964б. С. 10). На паверхні помніка каля в. Аздамічы, непадалёк ад паморскага пахавання, знойдзены фрагменты бронзавых фібулы і бранзалета (мал. 34:4, 5). Ад фібулы захаваўся прыёмнік і адыходзячая ад яго арнаментаваная пятка. Падобныя дэталі фібул характэрны для вырабаў духцоўскага тыпу раннелатэнскай схемы. Фрагмент бранзалета таксама невялікі, пашкоджаны агнём, але дае магчымасць дапусціць, што ён належыць да спіралепадобных. Фрагмент бронзавай бляшкі і камень-расціральнік выяўлены на могільніку каля в. Скорбічы, аплаўленыя невялічкія фрагменты

бронзавых вырабаў адзначаны ў разбураных пахаваннях на могільніках каля вёсак Ратайчыцы і Уладычыца (Кухаренко, 1961. С. 20).

Неакрэсленай формы пацеркі з чырвонага каменя знойдзены на могільніку ў Ратайчыцах, шкляныя невядомага тыпу — у Трасцяніцы і Уладычыца (Кухаренко, 1961. С. 20; Czopek, 1982. Tabl. 13).

Праблемы перыядызацыі і храналогіі паморскай культуры, сярод матэрыялаў якой пераважаюць знаходкі керамікі, а металічныя рэчы сустракаюцца даволі рэдка, належаць да найбольш складаных пытанняў, звязаных з названымі старажытнасцямі. Першую спробу вызначыць храналагічныя рамкі і фазы развіцця культуры зрабіў Э. Петэрсен (1929). Пачатак паморскай культуры ён аднёс да канца эпохі бронзы (1000—800 гг. да н. э.), канец — да III ст. да н. э. Самыя раннія помнікі аўтар вылучыў у асобую гросендорфскую (велькавейскую) групу, а астатнія раздзяліў на тры храналагічныя перыяды: першы (800—650 гг. да н. э.), другі (650—550 гг. да н. э.), трэці (550—300 гг. да н. э.). Пазней Ю. Кастшэўскі (1939—1948) перагледзеў і ўдакладніў храналогію культуры, прапанаваную Э. Петэрсенам. Ён вылучыў тры фазы развіцця культуры — раннюю (700—550 гг. да н. э.), сярэднюю (550—400 гг. да н. э.) і познюю (400—100 гг. да н. э.). Гэтая схема доўгі час выкарыстоўвалася большасцю даследчыкаў паморскай культуры. Яе прытрымліваліся Ю. У. Кухарэнка і В. Б. Нікіціна-Караткевіч, якія зрабілі асноўны ўклад у вывучэнне паморскіх старажытнасцей на тэрыторыі Беларусі.

У апошняе дзесяцігоддзе на падставе ўсебаковага аналізу нерухомых і рухомых крыніц новую схему перыядызацыі і храналогіі паморскай культуры прапанаваў С. Чопек (Czopek, 1985. S. 367—410; Ён жа, 1992. S. 79—88). Ён вылучыў чатыры фазы развіцця культуры ў рамках 700 г. да н. э. да 150 г. да н. э. Да фазы I С. Чопек аднёс перыяд паўстання культуры, датаваны ад рубяжа HaC і HaD да HaD1 уключна (700—650 гг. да н. э. — 550 г. да н. э.). Найбольш характэрнымі для гэтага перыяду былі тваравыя і дамковыя ўрны, плоскія накрыўкі, начынне на ножках. Матэрыялы фазы I не прасочаны ў паўднёва-ўсходняй зоне паморскай культуры, куды ўваходзяць таксама помнікі з тэрыторыі Беларусі. Фаза II датуецца HaD2 і HaD3 (550—400 гг. да н. э. — 400—375 гг. да н. э.). Гэта перыяд росту культуры, для якога характэрны фібулы з арнаментаванаю ножкай і тлукомскага тыпу, шпількі з лебядзінаю шыйкай, шчытападобнай ці завернутай у вушка галоўкай, сасуды з вострым пераломам брушка і складанай арнаментацыяй, дамінаванне скрыневых і падклёшавых пахаванняў. Фазу III С. Чопек датаваў HaE (каля 400—375 гг. да н. э. — 300 гг. да н. э.). Ён адзначыў, што гэта перыяд найвышэйшага развіцця і тэрытарыяльнага пашырэння культуры. Назіраецца тэндэнцыя да змяншэння колькасці арнаментаванага посуду, дамінуюць падклёшавыя пахаванні. Вядучай катэгорыяй металічных упрыгожанняў з'яўляюцца фібулы раннелатэнскай схемы. Фазы II і III даследчык акрэслівае як класічную паморскую культуру, а мяжу між імі як даволі ўмоўную, якую не заўсёды можна ўхапіць. Фаза IV датуецца раннім перадрымскім перыядам, сінхронным LTB2 і часткова LTC1 (300 г. да н. э. — 200—150 гг. да н. э.). Гэта перыяд паступовага знікнення паморскіх помнікаў, для якога характэрны рост колькасці ўрнавых і ямных пахаванняў, дамінаванне керамікі з храпаватай і жорсткай паверхняй. Вядучай формай сталі мяккапрафіляваныя і з двума вушкамі сасуды, характэрна патаўшчэнне венцаў посуду. Распаўсюджанымі становяцца псеўдаклёшы, г. зн. сасуды, якія па форме не з'яўляюцца менавіта клёшамі, але выконваюць іх ролю ў пахавальным абрадзе.

Вызначэнне хcraналогіі паморскіх старажытнасцей на тэрыторыі Беларусі натыкаецца на цяжкасці, характэрныя для ўсёй культуры, — нязначная колькасць храналагічных індыкатараў і да таго ж абцяжарваецца малалікасцю і непаўнатою крыніц. Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1961. С. 9) датаваў паморскія помнікі на тэрыторыі к усходу ад Заходняга Буга IV—II стст. да н. э., а В. Б. Нікіціна-Караткевіч — III—I стст. да н. э. (Никитина, 1965а. С. 204). У сваіх храналагічных пабудовах яны абапіраліся на вынікі аналізу пахавальнага абраду, керамічнага комплексу і металічных рэчаў. У апошнія дзесяцігоддзі польскія даследчыкі правялі значную працу па ўдакладненню храналогіі асобных катэгорый рэчаў (у тым ліку і раннелатэнскіх фібул), акрэслілі пэўныя храналагічныя тэндэнцыі ў пахавальным абрадзе і стылістыцы керамічнага комплексу (Woźniak, 1979. S. 125—148; Czopek, 1992). Сваіх самых усходніх рубяжоў паморская культура, на думку С. Чопека (Czopek, 1992. S. 105), дасягнула ўжо ў фазе II альбо ў фазе II—III. Да фазы II—III існавання паморскай культуры ён аднёс могільнікі каля вёсак Скорбічы, Трасцяніца і Уладычыца і да фазы III — пахаванне ў Пінску-Альбрэхтове (Czopek, 1992. S. 31, 32).

Для датавання паморскай культуры на Беларусі ўвогуле і асобных яе комплексаў асаблівае значэнне маюць знаходкі фібул. Жалезная фібула раннелатэнскай схемы выяўлена ў пахаванні 1 на могільніку каля в. Трасцяніца. Падобныя знаходкі з'яўляюцца найвялікшай па колькасці групай фібул, выяўленых на помніках паўднёва-ўсходняга арэала культуры. Яны зафіксаваны ў Дублянах (Sulimirski, 1936. S. 193. Tabl. XLIV), Галаўно-2 (Кухаренко, 1961. С. 64. Табл. 5:13), Зімна (Захарук, 1956. С. 23; Кухаренко, 1959а. С. 32), Яшчуве (Gurba, 1971). Найбольшая канструкцыйная блізкасць назіраецца паміж фібуламі, знойдзенымі ў Трасцяніцы і Дублянах, а шматлікія аналагі маюцца на тэрыторыі, занятай кельцкім насельніцтвам. Часцей за ўсё падобныя знаходкі сустракаюцца на поўдзень ад Карпатаў, дзе вызначаецца ранняя фаза латэнскай культуры (Woźniak, 1970. S. 44—45). Датуецца падобны тып фібул стадыяй LTB1 (IV ст. да н. э.) (Woźniak, 1979. S. 146). Магчыма, да гэтага ж часу можна аднесці фібулу, фрагмент якой знойдзены на помніку каля в. Аздамічы (Вергей, 1995. С. 97). Знаходкі фібул раннелатэнскай схемы сігналізуюць аб тым, што помнікі паморскай культуры з'яўляюцца на Беларускім Палессі не пазней VI ст. да н. э. Верхнюю храналагічную мяжу паморскіх старажытнасцей на Беларусі вызначае час фарміравання на палескіх абшарах зарубінецкай культуры, пачатак якой даволі дакладна датуецца рубяжом III—II стст. да н. э. на падставе значнай колькасці фібул сярэднелатэнскай схемы, выяўленых на яе помніках (Каспарова, 1978. С. 79—89; Яна ж, 1976. С. 35—66). Да таго ж у керамічных комплексах паморскай, зарубінецкай і пшэворскай культур выяўлены падобныя формы посуду, што з аднаго боку паказвае на храналагічны стык паміж імі, а з другога — на генетычныя сувязі. Аб гэтым пісала шмат даследчыкаў. В. Б. Нікіціна-Караткевіч адзначала, што чорнаглянцаваны гаршчок з могільніка каля в. Трасцяніца аналагічны гаршкам з пахаванняў зарубінецкай культуры (Велямічы-1, пах. 23; Вароніна, пах. 47), вазападобны сасуд з таго ж помніка мае падабенства з сасудам з керамічнага комплексу пшэворскай культуры (Никитина, 1965а. С. 204—205). На храналагічныя рамкі IV—II стст. паказваюць таксама характэрныя рысы пахавальнага абраду і керамічнага комплексу паморскіх помнікаў на тэрыторыі Беларусі. Хаця колькасць даследаваных пахаванняў абмежаваная, а частка з іх выяўлена ў пашкоджаным стане, з-за чаго цяжка вызначыць іх тып, тым не менш назіраецца перавага ўрнавых і ямных пахаванняў. Падобная тэндэнцыя, як адзначаюць многія даследчыкі (Mali-

nowski, 1969. S. 15—40; Dąbrowska, 1977. S. 133; Czopek, 1992. S. 27), характэрна для заключных фаз развіцця паморскай культуры. У керамічным комплексе выразна дамінуе неарнаментаваны і плаўнапрафіляваны посуд, што таксама сігналізуе аб наяўнасці прыкмет, якімі вызначаецца заключны перыяд функцыяніравання культуры.

Існуе агульная думка, што помнікі паморскай культуры на ўсход ад Заходняга Буга з'явіліся ў выніку міграцыі яе насельніцтва з тэрыторыі Польшчы (Кухаренко, 1961. С. 9; Никитина, 1965а. С. 205; Czopek, 1992. S. 103 і інш.). Старажытнасці, якія б папярэднічалі ёй на названай тэрыторыі і ў якіх можна было б заўважыць яе генетычную падаснову, тут адсутнічаюць. Вызначана, што паморская культура сфарміравалася на Польскім Памор'і ў VII ст. да н. э. на аснове традыцый мясцовых лужыцкіх плямёнаў эпохі позняй бронзы. Прыведзены дадзеныя, што алахтонны характар (у першую чаргу ў сэнсе культурных з'яў) яна мела таксама ва ўсёй паўднёва-ўсходняй зоне свайго распаўсюджаання, г. зн. на тэрыторыі на ўсход ад Віслы, Віслокі і на поўдзень ад Нарава (Czopek, 1992. S. 103).

Даследчыкі адзначаюць аднароднасць паморскай культуры па ўсёй тэрыторыі, занятай яе носьбітамі. Гэта палажэнне датычыцца рысаў пахавальнага абраду і рэчавага комплексу (Никитина, 1965а. С. 203; Крушельницкая, 1974. С. 272—276; Malinowski, 1981. S. 122—125; Czopek, 1992. S. 151). Аднароднасць паморскай культуры асабліва заўважаецца ў параўнанні з групамі лужыцкай культуры, якія ёй папярэднічалі. Па меры пашырэння яе арэала адбывалася значная уніфікацыя рознакультурных тэрыторый, а ў паўднёвым і ўсходнім накірунках паморская культура выйшла далёка за межы лужыцкай айкумены. У культуры паморскага насельніцтва не прасочваюцца прыкметныя ўплывы суседзяў, нават тых, з якімі яны непасрэдна межавалі. Выключэннем з'яўляюцца толькі сувязі з кельтамі, культурнымі дасягненнямі якіх ахвотна карысталася тагачаснае еўрапейскае насельніцтва. Уздзеянне латэнскай культуры прасочваецца ў перыяд LTB2, г. зн. у IV—III стст. да н. э. Пакуль не заўважаны ўзаемаўплывы паморскіх і мілаградскіх плямёнаў, хоць адзначана тэрытарыяльнае налажэнне іх помнікаў на адлегласці ад Пінска да нізоўяў ракі Льва, а на шэрагу аб'ектаў прысутнічае кераміка абедзвюх культур (Вергей, 1995. Карта 1). Гэтую з'яву, верагодна, можна патлумачыць і тым, што паморскае насельніцтва засяліла тэрыторыю, якую па нейкіх прычынах пакінулі носьбіты мілаградскай культуры альбо яны былі паступова выціснуты. На даследаваных раскопкамі мілаградскіх помніках каля вёсак Дубай у Столінскім раёне (Кухаренко, 1961) і Лемяшэвічы ў Пінскім раёне (Вергей, 1994. С. 131—157) выяўлены надзейныя храналагічныя індыкатары VI—IV стст. да н. э. Каб пацвердзіць трыванне мілаградскай культуры ў азначаным рэгіёне Палесся ў пазнейшы час, не хапае надзейных крыніц.

Выразна прасочваюцца падобныя элементы ў паморскай, пшэворскай і зарубінецкай культурах. Фарміраванне пшэворскай культуры на базе паморскай не выклікае сярод даследчыкаў вялікіх сумненняў (Godlowski, 1981. S. 58). Паміж імі назіраецца і тэрытарыяльнае супадзенне (Godlowski, 1985. S. 13). Думкі адносна ролі паморскай культуры ў фарміраванні зарубінецкай маюць разыходжанні. Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1960. С. 289—300), В. Б. Нікіціна-Караткевіч (Никитина, 1965а. С. 205; Яна ж, 1965б. С. 19; Каспарова, 1976). К. В. Каспарава неаднойчы выказваліся аб генетычных сувязях паміж паморскімі і зарубінецкімі старажытнасцямі, таксама як і пшэворскімі.

А. Д. Мачынскі (Мачинский, 1966б. С. 6) лічыў ролю паморскай спадчыны галоўнай у генезісе зарубінецкай культуры. Элементы падабенства гэтых культур асабліва яскрава прасочваюцца ў керамічных комплексах паселішчаў, якія ўсё ж маюць адрозненні ў параўнанні з больш прадстаўнічымі пахавальнымі комплексамі названых культур (Каспарова, 1987. С. 68—70; Бяліцкая, 1996. С. 94—118). Аднак даследчыкі адзначаюць, што пры храналагічным стыку зарубінецкіх і паморскіх помнікаў назіраецца толькі частковае іх тэрытарыяльнае супадзенне ў межах адной групы зарубінецкіх старажытнасцей — палескай. Менавіта ў гэтай групе сувязі абедзвюх культур прасочваюцца выразна, у верхнедняпроўскай групе яны праглядаюцца менш і амаль не адзначаюцца ў сярэднедняпроўскай (Максімаў, 1982). У праясненні сувязяў паморскай культуры з латэнізаванымі храналагічнымі паслядоўнікамі — пшэворскай, зарубінецкай і тыпу Паянешты-Лукашоўка культурамі можа адыграць далейшае вывучэнне чэрнічынскай групы, вылучанай на тэрыторыі Любельшчызны адносна нядаўна (Czopek, 1992. S. 119—132). Храналагічна яна адпавядае заключнай фазе паморскай культуры і выказвае ў рысах матэрыяльнай культуры значныя ўплывы ясторфскага насельніцтва. Выказана меркаванне, што ў рамках чэрнічынскай групы адбываўся сінтэз паморскіх і ясторфскіх традыцый, якія знайшлі адлюстраванне ў наступных пшэворскай, зарубінецкай і тыпу Паянешты-Лукашоўка культурах (Czopek, 1992. S. 220; Каспарова, 1992. С. 58—61).

Адкрытым застаецца пытанне аб этнасе насельніцтва паморскай культуры. У свой час выказана тры пункты погляду на гэтую праблему. Яшчэ ў XIX ст. Г. Брэнт меркаваў, што культура належала старажытнабалтыйскім плямёнам (Никитина, 1965б. С. 19). Прыхільнікам усходнегерманскай этнічнай атрыбуцыі паморскіх помнікаў былі Э. Петэрсен (1929) і інш. У міжваенны перыяд сфармулявана і пашырылася гіпотэза аб славянскім характары паморскіх старажытнасцей (Kostrzewski, 1939—1948), якую падтрымалі і шэраг пазнейшых даследчыкаў (Никитина, 1965а. С. 20).

Для характарыстыкі гаспадаркі паморскіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі дадзеныя практычна адсутнічаюць. У пахавальным інвентары прылады працы не выяўлены, за выключэннем могільніка ў Скорбічах, дзе знойдзены камень-расціральнік ад зерняцёркі. На могільніку ў Трасцяніцы паміж магіламі выяўлены ямы; у запаўненні некаторых з іх выяўлены металургічны жужаль. Увогуле матэрыялы з іншых рэгіёнаў пашырэння культуры даюць падставу для пэўных высноў аб узроўні і асноўных напрамках гаспадарчай дзейнасці насельніцтва. Мяркуюць, што асновай гаспадаркі было ляднае, а месцамі і плужнае земляробства і жывёлагадоўля. Вырошчвалі ячмень, пшаніцу, жыта, проса і гарох. Гадавалі буйную рагатую жывёлу, авечак, коней. Займаліся рыбалоўствам, паляваннем. Прасочаны сляды чорнай і каляровай металургіі. Важную ролю сярод хатніх рамёстваў адыгрывалі ганчарства, ткацтва, апрацоўка каменя, косці і дрэва (Никитина, 1965б. С. 15) Паморскае насельніцтва паказала высокую ступень прыстасавання да зменлівага прыроднага асяродку (Czopek, 1992. S. 220).




*Мал. 11. Карта помнікаў мілаградскай культуры. Умоўныя абазначэнні: 1 — гарадзішчы; 2 —*

**Гарадзішчы.** *Брагінскі р-н: 1 — Асарэвічы; 2 — Гдзень; 3 — Гарадзішча; 4 — Капоранка; 5 — Калыбань; 6 — Каманаў; 7 —*
*Чыкалавічы; Хойніцкі р-н: 15 Барысаўшчына; 16 — Веляцін; 17— Вялікі Бор; 18 — Дубровіца-1; 19 — Дубровіца-2; 20 —*
*Ваўкашанка; 28 — Гарадок (Бывалькаўскі с/с); 29 — Гарадок (Пярадзелкаўскі с/с); 30 — Каўпень; 31 — Лісуны; 32 — Ліпнякі;*
*Бурыцкая; 40 — Рудня-Каменева; 41 — Удалёўка; 42 — Чаплін; 43 — Шчытцы; 44 — Ястрабка; Мазырскі р-н: 45 — Глініца;*
*Перароў-1; 54 — Перароў-2; Петрыкаўскі р-н: 55 — Ванюжычы; 55 — Івашкавічы-1; 57 — Івашкавічы-2; 58 — Навасёлкі-1; 59 —*
*66 — Хвойня-2; 67 — Хвойня-3; 66 — Хвойня-4; Светлагорскі р-н: 69 — Давыдаўка; 70 — Затон; 71 — Расава; Калінкавіцкі р-н:*
*Навінкі; 81 — Насовічы; 82 — Рудня-Антонаўская; 83 — Юравічы; 84 — Юшкі-1; 85 — Юшкі-2; Рэчыцкі р-н: 86 — Гарошкаў;*
*Васілевічы; 95 - Заспа; 96 ·· Завужаль; 97 — Коззе; 98 — Чырвоная Дуброва; 99 — Каравацічы-1; 100 — Каравацічы-2;*
*Мілаград; 109 — Акцябр; 110 — Перавалока-1; 111 — Перавалока-2; 112 — Першамайск; 113 — Рассвет; 114 — Рэчыца; 115 —*
*Прыбар; 123 -- Прудок Касельскі; 124 — Рудня Марымонава; 125 — Рудня Прыбыткаўская; 126 — Рудня Цеяшоўская; 127 —*
*Ляскавічы; Нараўлянскі р-н: 134 — Заракітнае; Глускі р-н: 135 — Халопенічы; Добрушскі р-н: 136 — Васільеўка; 137 — Вуць; 145 —*
*Ветка; 146 — Навасёлкі; 147 — Новаіванаўка; 148 — Новыя Грамыкі; 149 — Жалезнікі; 150 — Прысна-1; 151 — Прысна-2; Нісімкавічы;*
*159 — Палессе; 160 — Покаць; 161 — Сярбовічы; 162 — Чачэрск; 163 — Шапатовічы; 164 — Ворнаўка; Буда-Камянецкі р-н:*
*170 - Камянюкі; Лельчыцкі р-н: 171 — Рудня Убарцкая-1; 172 — Рудня Убарцкая-2; Столінскі р-н: 173 — Бор Дубянецкі; 174 —*
*161 — Гарадок; 182 — Атрубы; 183 — Замен-Рынне; 184 —*

**Могільнікі.** *1 — Асарэвічы (Брагінскі р-н) б. к.; 2 — Баравікі (Мазырскі р-н) б. к.; 3 — Гарашкоў (Рэчыцкі р-н) б. к.; 4 — Давыд-*
*б. к.; 8 — Мохаў-1*

**Селішчы.** *1 ·· Вярхі, Чачэрскі р-н; 2 — Сябровічы, Веткаўскі р-н; 3 — Прысна, Веткаўскі р-н; 4 — Ветка ц. р; 5 — Іпалітаўка,*
*10 — Чаплін, Лоеўскі р-н; 11--14 — Асарэвічы, Брагінскі р-н; 15 — Лемяшэвічы, Пінскі р-н; 16—17 — Церабень, Пінскі р-н; 18—21 —*
*26 — Струга, Столінскі р-н; 27 — хутар Бухлічы,*




*дасследаваныя гарадзішчы; 3 — селішчы; 4 — курганныя могільнікі; 5 — грунтавыя могільнікі*

*Кулажын; 8 — Новая Грэбля; 9 — Пасудава; 10 — Саевічы; 11 — Сялец; 12 — Старая Ёлча; 13 — Стары Макрэц; 14 —*
*Клівы; 21 — Небытаў; 22 — Навасёлкі; 23 — Осаў; 24 — Хвойнае; 25 — Хойнікі-Будаўнік; Лоеўскі р-н: 26 Бывалькі; 27 —*
*33 — Мохаўскае-1; 34 — Мохаўскае-2; 35 — Новая Баршчоўка; 36 — Астравы; 37 — Пустая Града; 38 — Райск; 39 - Рудня-*
*46 — Майсееўка; 47 — Ясянец-1; 48 — Ясянец-2; Жыткавіцкі р-н: 49 — Бечы; 50 — Боркі; 51 — Буда-1; 52 — Буда-2; 53*
*Навасёлкі-2; 60 — Навасёлкі-3; 61 — Навасёлкі-4; 62 — Навасёлкі-5; 63 — Піліпавічы-Філіпавічы; 84 — Снядзін; 65 — Хвойня-1;*
*72 — Віша; 73 — Гогалева; 74 — Залатуха; 75 — Калінкавічы; 76 — Казловічы; 77 — Клінск; 78 — Кротаў; 79 — Лукі; 80 —*
*87 — Горваль; 86 — Глыбаў; 89 — Гроў; 90 — Борхаў; 91 — Брэгідаў; 92 — Будка-Шыбенка; 93 — Валадарск-Балашаўка; 94 —*
*101 — Калочын-1; 102 — Калочын-2; 103 — Капань; 104 — Крынкі-1; 105 — Крынкі-2; 106 — Ліскі; 107 — Луначарск; 106 —*
*Старое Краснае; 116 — Храбры; 117 — Чорнае; Гомельскі р-н: 118 — Уза; 119 — Гомель; 120 — Любны; 121 — Пакалюбічы; 122*
*Скіток; 126 — Новыя Цярэшкавічы; 129 — Чарацянка-1; 130 — Чарацянка-2; 131 — Чонкі; Акцябрскі р-н: 132 – Валосавічы; 133 —*
*138 — Вылева; 139 — Добруш-1; 140 — Добруш-2; 141 — Іваki; 142 — Крупец; 143 — Леніна; 144 — Падгор'е; Веткаўскі р-н:*
*152 — Хальч-1; 153 — Хальч-2; 154 — Сяцілавічы; Чачэрскі р-н: 155 — Асінаўка; 156 — Дудзічы; 157 — Залессе; 158 ·*
*Кашалёўскі р-н: 165 — Іевольск; 166 — Уваравічы; Любаньскі р-н: 167 — Заельнае; 168 — Засмужжа; 169 — Рачэнь (Броды);*
*Хотамель-1; 175 — Хотамель-2; 176 — Белавуша; 177 — Юнішча-1; 178 — Юнішча-2; 179 — Туры; 180 — Нечатава; Жлобінскі р-н:*
*Кароткавічы; 185 — Акцябр-Праскурні; Слуцкі р-н: 186 — Іевань.*

*Гарадок (Столінскі р-н) б. к.; 5 — Дубай (Столінскі р-н) кург. мог.; 6 — Пагост (Жыткавіцкі р-н) б. к.; 7 — Чаплін (Лоеўскі р-н)*
*(Лоеўскі р-н) б. к.*

*Чачэрскі р-н; 6 — Макееўка, Гомельскі р-н; 7 — Мікольск, Гомельскі р-н; 8 — Гарошкаў, Рэчыцкі р-н; 9 — Мілаград, Рэчыцкі р-н;*
*Курадава, Пінскі р-н; 22 — Сошна, Пінскі р-н; 23 — Крывічы, Пінскі р-н; 24 — Фядоры, Столінскі р-н; 25 — Нечатава, Столінскі р-н;*
*Столінскі р-н; 28 — Бор Дубянецкі, Столінскі р-н*




*Мал. 12. Планы гарадзішчаў Мілаград (1) і Гарошкаў (2)*




*Мал. 13. Планы даследаваных гарадзішчаў з раскопамі (1 — Ліпнякі; 2 — Ястрабка; 3 — Любны; 4 — Рассвет)*



















*Мал. 14. Планы жытлаў мілаградскай культуры ( 1 — Мохаўскае-2; 2,3 — Мілаград; 4 — Гарошкаў)*










*Мал. 15. Планы жылой (1) і нежылой (2) пабудоў (1 — Мілаград, 2 — Гарошкаў)*




*Мал. 16. План пахаванняў на грунтавым могільніку Гарошкаў*




*Мал. 17. Планы і профілі некаторых пахаванняў з Гарошкаўскага грунтавога могільніка*




*Мал. 18. Курганныя могільнікі каля вёскі Дубай Столінскага раена (1 — месцазнаходжанне трох груп каля в. Дубай; 2 — план курганнай групы ва ўрочышчы Задубенне; 3 — курган № 1; 4 — курган № 10)*




*Мал. 19. Планы і профілі некаторых даследаваных курганоў мілаградскай культуры (1 — курган № 13; 2 — курган № 5; 3 — курган № 11; 4 — курган № 7)*




*Мал. 20. Посуд мілаградскай культуры: 1, 2 — мініяцюрныя сасудзікі; 3—5 — пасудзіны з шарападобным нізам*




*Мал. 21. Гаршкі з курганнага могільніка Дубай і гарадзішча Леніна (1 — курган № 16; 2 — гарадзішча Леніна; 3, 4 — курган № 19)*



*Мал. 22. Венчыкі сасудаў з гарадзішча Ліскі*




*Мал. 23. Разнастайныя формы гліняных грузікаў (1, 3, 6—11, 14, 16, 18, 23, 24, 26—31, 37, 38, 41—43, 45—47 — Лiскi; 2, 4, 5, 12, 13, 15, 17, 19—22, 32, 40, 44, 48 — Старое Краснае; 25, 33, 35, 36 — Ястрабка; 34, 39 — Пiпнякi)*




*Мал. 24. Грузікі і бранзалет з гарадзішча Ліскі (1, 3—6 — гліна; 2 — бронза)*



*Мал. 25. Арнаменты на грузіках мілаградскай культуры (1, 2, 4, 5, 8, 11, 12, 15, 16, 21, 22, 24, 27, 28, 42, 45—47 — Старое Краснае; 3, 6, 7, 9, 10, 18—20, 25, 26, 29, 31—40, 43, 48 — Ліскі; 17, 23, 30, 44 — Ліпнякі; 13, 14 — Рассвет; 41 — Ястрабке)*




*Мал. 26. Прылады працы з жалеза (1 — Мохаў-1; 2, 5, 6 — Гарошкаў; 3, 4 — Старое Краснае; 7, 8 — Мілаград; 9 — Ястрабка; 10 — Піскі)*




*Мал. 27. Жалезныя нажы і касцяныя ручкі (1, 3 — Гарошкаў; 2, 5 — Прысна; 4 — Узв; 6 — Падгор'а; 7 — Любны; 8 — Ястрабка) (1—6 — жалеза; 7—8 — косць)*




Мал. 28. Брытвы і зброя мілаградскага насельніцтва (1 — Падгор'е; 2, 9—17 — Асарэвічы; 3 — Казаровічы; 4 — Уваравічы; 5 — Гарошкаў; 6—8 — Дубаі) (1—8 — жалеза; 9—17 — бронза)




*Мал. 29. Наканечнікі стрэл з помнікаў мілаградскай культуры Беларусі (1, 24 — Гарошкаў; 2 — Шапатовічы; 3 — Ясянец-1; 4, 5, 29 — Лемяшэвічы; 6—17 — Хільчыцы; 18, 21—23, 25—28 — Асарэвічы; 19 — Ліскі; 20 — Уза; 30 — Любны) (1, 2 — косць; 3—17 — бронза; 18—30 — жалеза)*




*Мал. 30. Бранзалеты мілаградскага насельніцтва з бронзы (1—11, 13, 14 — Гарошкаў; 12 — Асарэічы; 15 — Мохаўскае-1)*




*Мал. 31. Бронзавыя і жалезныя шпількі (1, 3. 5, 6, 15 — Гарошкаў; 2 — Ястрабка; 4, 8, 10 — Старое Аднаполле; 7 — Церабень; 9, 14 — Ясянец-1; 11 — Падгор'е; 12 — Пемяшэвічы; 13 — Асарэвічы; 16 — Чаплін) (1, 2, 5, 7—10, 12—14, 16 — бронза; 3, 4, 6, 11, 15 — жалеза)*




*Мал. 32. Упрыгожанні з бронзы, золата, шкла і гліны (1 — Азарычы; 2,3 — Гарошкаў; 4 — Дубай; 5, 12, 13 — Лемяшэвічы; 6, 15, 21 — Ліскі; 7 — Вішэнькі; 8, 24 — Вялікая Салтанаўка; 9, 10 — Рэчыца-2; 11, 26 — Хільчыцы; 14, 16 — Старое Краснае; 17—19 — Ястрабка; 20 — Рассвет; 22 — Старое Аднаполле; 23 — Мілаград; 25 — Чаплін) (1—3, 5—10, 22—26 — бронза; 4 — золата; 11—18 — шкло; 19—21 — гліна)*



*Мал. 33. Бронзавыя люстэркі з гарадзішча Ліскі*




*Мал. 34. Рэчы з могільнікаў паморскай культуры каля вв. Аздамічы (1—5) і Трасцяніца (6—14) (па В.С.Вяргей і В.Б.Нікіцінай)*




*Мал. 35. Рэчы з могільнікаў паморскай культуры каля г. Драгічына (1—3, 6), а.Трасцяніца (4—5, 7); план і разрэз жытла з паселішча Кусічы (8) (па В.Б.Нікіцінай)*




*Мал. 36. Карта помнікаў паморскай культуры на тэрыторыі Беларусі. Умоўныя абазначэнні: 1 — даследаваныя паселішчы; 2 — селішчы; 3 — месцазнаходжанні; 4 — грунтавыя могільнікі*

*1 — Агароднікі (Кусічы); 2 — Хмялі; 3 — Ратайчыцы; 4 — Трасцяніца; 5 — Уладычыца; 6 — Дружба (Скорбічы); 7 — Хорава; 8 — Лелікава; 9 — Драгічын; 10 — Пінск-Альбрэхтова; 11 — Гарадзішча; 12 — Камень; 13 — Вешня; 14 — Бухліцкі хутар; 15 — Вікаравічы; 16 — Аздамічы*

Раздзел 3

# КУЛЬТУРА ШТРЫХАВАНАЙ КЕРАМІКІ

## 1. ГІСТОРЫЯ ВЫВУЧЭННЯ

Культура штрыхаванай керамікі атрымала сваю назву па спосабу апрацоўкі і арнаментацыі паверхні пасудзін. Першыя адрывачныя звесткі пра яе помнікі на тэрыторыі Беларусі адносяцца да XIX ст. (Корева, 1861. С. 732, 742; Столпянский, 1866. С. 44, 78, 217; Описание... 1878. С. 8, 133; Описание... 1879а. С. 311, 331; Описание... 1879б. С. 119; Каханоўскі, 1984. С. 58). Аднак большасць з іх, акрамя факта ўпамінання гарадзішчаў каля населеных пунктаў, ніякіх іншых звестак не змяшчае.

У канцы XIX ст. працу па збору звестак пра археалагічныя помнікі Паўночна-Заходняга краю зрабіў Ф. В. Пакроўскі. У сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем IX і X Археалагічных з'ездаў у Вільні і Рызе ён публікуе археалагічныя карты Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў, у якіх змяшчаюцца звесткі пра некалькі дзесяткаў гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі (тапаграфія, форма, памеры, паданні) (Покровский, 1993а; Ён жа, 1893б; Ён жа, 1896). Шмат якія з гэтых дадзеных не страцілі свайго значэння да цяперашняга часу. Акрамя складання карт Ф. В. Пакроўскі ўпершыню правёў невялікія археалагічныя вышукі на гарадзішчах Багуцішкі і Афярышкі ў Літве, Астраўляны і Якубішкі ў Беларусі.

У пачатку XX ст. рад умацаваных паселішчаў культуры даследавалі на тэрыторыі Літвы В. А. Кашырскі і Л. Э. Кржывіцкі (ОАК, 1910. С. 106, 107; ОАК, 1912. С. 162, 163; Седов, 1970. С. 18). У цэлым, дарэвалюцыйны перыяд у галіне вывучэння гарадзішчаў характарызуецца першапачатковым назапашваннем крыніц, папярэдняй сістэматызацыяй і асобнымі, па сутнасці яшчэ вельмі сціплымі спробамі іх інтэрпрэтацыі.

Новы этап у вывучэнні культуры штрыхаванай керамікі наступіў толькі ў 20-я гады бягучага стагоддзя. Ён звязаны з актыўнай даследчай дзейнасцю А. М. Ляўданскага і яго калег (С. А. Дубінскі, А. З. Каваленя, А. О. Рынейскі. С. С. Шутаў і інш.). У 1923—1924 гг. А. М. Ляўданскі праводзіць невялікія пошукавыя і раскопачныя работы на гарадзішчах Свідна Лагойскага раёна, Смалявічы і Буда Смалявіцкага раёна (Ляўданскі, 1925. С. 88—93). Атрыманы ім матэрыял дазволіў правесці паралель паміж гэтымі гарадзішчамі і даследаванымі Ф. В. Пакроўскім гарадзішчамі Багуцішкі і Афярышкі.

У канцы 20-х гадоў ён даследуе такія гарадзішчы, як Старая Рудзіца Дзяржынскага раёна, Навасёлкі, Кімія, Аздзяцічы Барысаўскага і Слуцк і Івань Слуцкага раёнаў, а таксама шэраг умацаваных паселішчаў у Мінскай і Віцебскай абласцях. Адначасова з ім І. Р. Калодкін і М. Н. Канвісараў праводзяць абследаванне 13 гарадзішчаў у Барысаўскім і Бярэзінскім раёнах, А. О. Рынейскі робіць археалагічную разведку па рацэ Пцічы, у вярхоўях

якой фіксуе помнікі культуры штрыхаванай керамікі, а С. С. Шутаў і М. М. Улашчык вядуць пошукавую работу ў ніжнім цячэнні Свіслачы (Дубінскі, 1930б. С. 510—512; Рынейскі А. 1932. С. 201; Шутаў, Улашчык, 1930. С. 105—121; Ляўданскі, 1932а. С. 226; Ён жа, 1932в. С. 231—235).

Інтэнсіўныя даследаванні гэтых гадоў дазволілі А. М. Ляўданскаму к 1930 г. вылучыць умацаваныя паселішчы са штрыхаванай карамікай у самастойную групу, акрэсліць іх межы на тэрыторыі Беларусі, вызначыць этнічную прыналежнасць іх насельніцтва і храналогію гарадзішчаў (Ляўданскі, 1930б. С. 336).

У далейшым да І Усесаюзнага з'езда археолагаў і этнографаў А. М. Ляўданскі яшчэ ў большай ступені абагульніў і канкрэтызаваў наяўныя матэрыялы. На яго думку, паселішчы са штрыхаванай карамікай прайшлі некалькі стадый развіцця: ад адкрытых паселішчаў спачатку да слабаўмацаваных пасёлкаў, а затым да гарадзішчаў з драўляна-земляной фартыфікацыйнай сістэмай. Акрамя гэтага, ён удакладніў усходнюю мяжу распаўсюджання гэтых помнікаў і ахарактарызаваў у агульных рысах матэрыяльную культуру. Усё гэта дазволіла яму не замкнуцца на рэчазнаўчым аналізе, як гэта было ўласціва яго папярэднікам, а выйсці на ўзровень сацыяльна-эканамічных абагульненняў. А. М. Ляўданскі паказаў, што гарадзішчы з'яўляліся цэнтрамі родавых абшчын, і ўпершыню вызначыў асноўныя занядкі іх насельніцтва (Ляўданскі, 1932б. С. 216, 217).

Заканчваючы характарыстыку другога этапу, неабходна адзначыць палявыя работы У. Галубовіча і А. Цегак-Галубовіч у басейнах Нёмана і Заходняй Дзвіны. Імі абследавана некалькі дзесяткаў гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі, аднак іх этнічная атрыбуцыя і храналогія вызначаны няправільна (Голубович Е., Голубович В., 1945. С. 126, 127).

Археалагічнае вывучэнне помнікаў культуры ў Прыбалтыцы ў даваенны перыяд мела спарадычны характар. Так, у Літве невялікія па аб'ёму працы правёў П. Ф. Тарасенка, у Латвіі — Э. Шнорэ (Тарасенко, 1952. С. 86—91; Граудонис, 1967. С. 14).

Вывучэнне культуры было перапынена Вялікай Айчыннай вайной і аднаўлена толькі ў канцы 40-х гадоў. За даследаванне гэтых помнікаў на тэрыторыі Беларусі бярэцца А. Р. Мітрафанаў. На працягу 30 гадоў ім ахоплена шырокімі раскопкамі каля 20 гарадзішчаў. Вынікі гэтай працы былі падведзены ў яго кандыдацкай дысертацыі, шэрагу артыкулаў і ў манаграфіі, якая выйшла ў 1978 г. (Митрофанов, 1955; Ён жа, 1957; Ён жа, 1968; Ён жа, 1969б; Ён жа, 1978а і інш.).

Акрамя Мітрафанава вывучэннем культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі займаліся і іншыя даследчыкі. У прыватнасці, Ф. Д. Гурэвіч правяла ў 50-х гадах невялікія раскопкі на гарадзішчы каля в. Гарадзішча Баранавіцкага раёна і селішчы Чарэшля Навагрудскага раёна. Яна склала звод помнікаў археалогіі ў басейнах Нёмана і Віліі, у які ўвайшлі і пасалішчы культуры штрыхаванай керамікі, таксама ёю выказана думка пра немагчымасць звязваць носьбітаў гэтай культуры з балтамі (Гуревич, 1962. С. 23—36, 145—155).

Актыўныя палявыя вышукі, праведзеныя А. Р. Мітрафанвым у Беларусі, П. Кулікаўскасам, Р.Валкайтэ-Кулікаускене, Э.Грыгалавічэне, О.Навіцкайтэ і іншымі ў Літве, з'явіліся своеасаблівым штуршком да далейшага асэнсавання і абагульнення матэрыялаў. З'яўляецца шэраг аналітычных прац, у якіх змяшчаліся раздзелы па культуры штрыхаванай керамікі. Сярод іх важнае месца належыць манаграфіі П. М. Траццякова «Фино-угры, балты и славянв на Днепре и Волге», у якой аўтар, выкарыстоўваючы апублікаваныя

крыніцы, дае цэласную характарыстыку плямёнаў культуры штрыхаванай карамікі (Третьяков, 1966. С. 162, 163, 174—177).

Істотны ўклад у вывучэнне культуры ўнёс В. В. Сядоў. У шэрагу артыкулаў і манаграфіі «Славяне Верхнего Паднепровья и Подвинья» ім разгледжаны пытанні паходжання і этнічнай прыналежнасці яе носьбітаў, асветлены розныя бакі матэрыяльнай культуры. Прыцягваючы масавыя археалагічныя, этнаграфічныя і гідранімічныя крыніцы, ён пераканвўча паказаў сувязь плямёнаў культуры штрыхаванай карамікі з усходнелітоўскімі плямёнамі (Седов, 1967б. С. 177—194; Ён жа, 1970. С. 16—25; Ён жа, 1975. С. 281—285).

Асобныя пытанні гісторыі носьбітаў культуры аналізаваў Э. М. Загарульскі. Ён, у прыватнасці, выказваў гіпотэзу пра фарміраванне плямёнаў культуры штрыхааанай карамікі, падрабязна разгладзеў домабудаўніцтва ў беларускім арэале (Загорульский, 1977. С. 57—61, 118—121).

З канца 70-х гадоў працягваюцца палявыя даследаванні гарадзішчаў. У 1977—1978 гг. А. Р. Мітрафанаў аднавіў раскопкі ўмацаванага паселішча ў Малышках, на якім ён даследаваў пяты шматкамерны дом (Митрофанов, 1978б. С. 421; Ён жа, 1979. С. 443).

У 1979, 1981—1983, 1988—1990 гг. А. А. Егарэйчанка даследуе гарадзішча Івань, а ў 1986 г. праводзіць невялікія раскопкі на гарадзішчы Кашчэлічы (Егорейченко, 1983. С. 14, 15; Ён жа, 1996а). Вывучэнне гэтых паселішчаў дазволіла папоўніць базу дадзеных матэрыяльнай культуры носьбітаў штрыхавай керамікі.

У гэтыя ж гады М. Ф. Гурын праводзіць палявыя вышукі на гарадзішчах Леніна і Мыслі (Гурин, 1980. С. 359; Ён жа, 1981. С. 332, 333). Раскопкі апошняга далі новую інфармацыю пра домабудаўніцтва ў паўднёвай зоне культуры штрыхаванай керамікі.

Шэраг вельмі важных матэрыялаў атрыманы Я. Г. Звяругам, Л. Д. Дучыц і А. А. Егарэйчанкам пры дасладаванні гарадзішчаў у беларуска-літоўска-латышскім паўзмежжы. Гэтыя дадзеныя дазваляюць больш поўна ахарактарызаваць раннюю стадыю культуры (Зверуго, 1992. С. 92—103; Дучиц, Митрофанов, 1994. С. 163—182; Егорейченко, 1994. С. 20—22; Ён жа, 1996б. С. 8—11).

Акрамя інфармацыйных паведамлвнняў гістарыяграфія культуры штрыхаванай керамікі папаўняецца ў 80—90-я гады шэрагам прац, у якіх разглядаюцца асобныя бакі развіцця культуры. А. Р. Мітрафанаў удакладніў перыядызацыю культуры штрыхаванай керамікі. Ён прыйшоў да высновы, што культура праходзіць у сваім развіцці тры этапы (ранні, сярэдні і позні), даў іх характарыстыку і вызначыў храналагічныя рамкі кожнага этвпу (Митрофанов, 1980. С. 102, 103).

А. А. Егарэйчанка, вывучаючы ўмацаваныя паселішчы Беларускага Палесся, прыйшоў да высновы аб параўнальна познім з'яўленні носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі ў сярэднім цячэнні Бярэзіны і ў вярхоўях левабярэжных прытокаў Прыпяці, а таксама характарызуе іх сувязі з плямёнамі мілаградскай і зарубінецкай культур (Егорейченко, 1988а. С. 61—65; Ён жа, 1996а. С. 60—74).

У 1983 г. выйшаў у свет збор помнікаў жалезнага веку Беларусі Л. Д. Побаля; у якім даецца апісанне шмат якіх помнікаў культуры штрыхаванай керамікі (Поболь, 1983). Адзначаючы паўнату пададзенага матэрыялу, разам з тым нельга не прызнаць, што ў выніку некрытычнага падыходу да крыніц у зборы ёсць шмат недакладнасцей (Митрофанов, 1986. С. 286—293).

Істотны ўклад у вывучэнне культуры ўнёс А. М. Мядзведзвў. На падставе ўласных раскопак і матэрыялаў папярэднікаў ім дана комплвксная характа-

рыстыка гарадзішчаў Беларускага Панямоння і прапанаваны ўдакладненні ў храналогію і перыядызацыю (Медведев, 1996).

Актыўнае вывучэнне ўмацаваных паселішчаў вялося на працягу 70—80-х гадоў у Літве. Дзякуючы працам Э. Грыгалавічэне, Р. Валкайтэ-Кулікаускене, А. Лухтана і іншых даследчыкаў стала магчымым больш выразна ахарактарызаваць раннюю фазу развіцця культуры (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 5—46; Grigalavičienė, 1986a. P. 52—86; Grigalavičienė, 1986б. P. 89—136; Grigalavičienė, 1995; Лухтан, 1989).

У гэты ж час істотна пашырана крыніцазнаўчая база па помніках Латвіі, што дазволіла А. В. Васксу прааналізаваць розныя групы штрыхаванай керамікі ў Ніжнім Падзвінні (Васкс, 1991).

Увядзенне ў навуковы ўжытак новых крыніц па культуры штрыхаванай керамікі прывяло і да з'яўлення новых гіпотэз у галіне этнічнай прыналежнасці яе носьбітаў і іх удзеле ў гістарычных падзеях 1-га тысячагоддзя н. э. Так, Д. А. Мачынскі выставіў гіпотэзу аб славянскай прыналежнасці плямёнаў культуры (Мачинский, 1981. С. 34—37). Аднак аналіз крыніц, перш за ўсё археалагічных, не дае падстаў для такога меркавання (Егорейченко, 1985. С. 24, 25).

## 2. ТЭРЫТОРЫЯ РАССЯЛЕННЯ ПЛЯМЁНАЎ

Пытанні тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі сінхронных сумежных культур і іх уплыву адна на адну, як правіла, ускладняюцца шэрагам прычын: недастатковасцю назапашанага матэрыялу, міграцыямі і інфільтрацыямі насельніцтва, у выніку чаго вылучэнне «чыстых межаў» выклікае пэўныя цяжкасці. Не складае выключэння і культура штрыхаванай карамікі.

А. М. Ляўданскі, які вылучыў помнікі са штрыхаванай керамікай у самастойную групу, акрэсліў іх арэал наступным чынам. На яго думку, распаўсюджанне гэтай групы на тэрыторыі Беларусі абмяжоўвалася лініяй, што праходзіла ад польскай граніцы (маецца на ўвазе тэрыторыя Заходняй Беларусі, што ўваходзіла ў 20—30-я гады ў склад Польшчы. — *А. Е.*) на ўсход, на поўдзень ад Слуцка да Рагачова, ад апошняга яна паварочвала на паўночны ўсход да Оршы і далей ішла ў паўночна-заходнім напрамку да Віцебска (Ляўданскі, 1930б. С. 336; Ён жа, 1932б. С. 216).

Прыкладна ў гэтых жа межах акрэслівалі арэал культуры штрыхаванай керамікі ўсе наступныя даследчыкі аж да канца 60-х гадоў (Митрофанов, 1955. С. 8; Третьяков, 1966. С. 175). Выключэнне складае В. В. Сядоў, які давёў усходнюю мяжу аж да Магілёва (Седов, 1970. С. 18).

У далейшым, па меры назапашвання новага матэрыялу, А. Р. Мітрафанаў удакладніў вобласць распаўсюджання помнікаў культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі, справядліва адзначаючы, што арэал гарадзішчаў уласна культуры значна меншы за сферу распаўсюджання паселішчаў, на якіх выяўлены посуд іншых формаў, але са штрыхаванай паверхняй. Ён выключыў з арэала культуры сярэдняе цячэнне Заходняй Дзвіны, як гэта было прапанавана раней П. М. Траццяковым.

Па аналагічных прычынах не пагадзіўся А. Р. Мітрафанаў і з пунктам погляду В. В. Сядова, які даводзіў паўднёва-ўсходнюю мяжу аж да Сажа (Митрофанов, 1969б. С. 71, 72). У выніку ўсіх гэтых удакладненняў арэал культуры штрыхаванай керамікі абмяжоўваўся лініяй, што праходзіла па рацэ Усяж — Бук (цяпер рака Усвейка) і верхнім цячэнні ракі Друці, затым па сярэднім і часткова ніжнім цячэнні Бярэзіны, адкуль мяжа паварочвала на поўдзень і

ішла па вярхоўях Пцічы і Случы, водападзеле Дняпра і Нёмана, пасля чаго пераходзіла ў Верхняе Панямонне і па правабярэжжы Нёмана за межы Беларусі ў Літву (Митрофанов, 1969б. С. 71). Пазней А. Р. Мітрафанаў зноў пераглядае акрэсленыя вышэй межы і схіляецца да пункту погляду В. В. Сядова па пытанні паўднёва-ўсходняй мяжы (Митрофанов, 1978. С. 8).

Са сказанага вышэй відаць, што паміж даследчыкамі існуюць істотныя разыходжанні ў вызначэнні межаў культуры штрыхаванай карамікі. Гэтыя адрозненні тлумачацца ў першую чаргу тымі абставінамі, што большасць аўтараў зыходзілі ў сваіх поглядах з адной прыкметы, у прыватнасці керамікі.

Разглядаючы праблему рассялення плямёнаў ранняга жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі, П. М. Траццякоў правільна адзначыў недапушчальнасць вылучэння мяжы паміж культурамі з дапамогай адной, хай нават і істотнай прыкметы. Для вырашэння такіх пытанняў, на яго думку, неабходна перш за ўсё мець шэраг найбольш важных археалагічных рысаў, што ўласцівы культурам, а ўжо потым вырашаць пытанне аб межах (Третьяков, 1962. С. 7).

Улічваючы гэты фактар, неабходна мець на ўвазе і тое, што на розных этапах саайго развіцця межы культуры штрыхаванай керамікі, відаць, не заставаліся нязменнымі. Не выключана, што на ранняй стадыі існавання культуры яны былі значна вузейшыя за тыя, якія фіксуюцца на матэрыялах позніх помнікаў. Носьбіты культуры асвоілі ў першую чаргу тэрыторыю, што прылягала да беларуска-літоўскага паўзмежжа. Улічваючы тое, што і ва Усходняй Літве і ў Паўночна-Заходняй Беларусі для першай паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. характэрны адны і тыя тыпы посуду (слабапрафіляваныя з S-падобным венчыкам і слоікавыя), пераважае касцяны і каменны інвентар і іншае, можна лічыць гэту зону арэалам фарміравання культуры штрыхаванай керамікі. Водападзел Дняпра і Нёмана, вярхоўі левабярэжных прытокаў Прыпяці да рубяжа н. э. уваходзілі ў сферу распаўсюджання носьбітаў мілаградскай культуры.

Застаецца адкрытым пытанне пра культурную прыналежнасць помнікаў Сярэдняй Бярэзіны ў 1-м тысячагоддзі да н. э. А. Р. Мітрафанаў, адзначаючы падабенства керамічнага матэрыялу паселішчаў гэтай зоны з чыста мілаградскім посудам, тым не менш вылучае іх ва ўсходнебеларускі варыянт культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978. С. 8).

А. А. Егарэйчанка лічыць, што гэтая тэрыторыя ў 1-м тысячагоддзі да н. э. у большай меры падыходзіць для мілаградскай культуры. На яго думку, пра гэта сведчыць шэраг дадзеных, і ў першую чаргу стратыграфічныя назіранні А. Р. Мітрафанава на гарадзішчы Навасёлкі Барысаўскага раёна. Тут у ніжніх адкладаннях культурнага пласта пераважалі фрагменты пасудзін, аналагічныя па форме мілаградскім гаршкам VI—IV стст. да н. э. Усе яны мелі гладкасценную паверхню без усялякіх прыкмет штрыхоўкі. Вышэй керамічны матэрыял па сваім выглядзе па-ранейшаму быў падобны да мілаградскіх пасудзін, але іх вонкавыя бакі пакрыты штрыхамі. І толькі ў самых верхніх слаях адбываецца змена мілаградскіх формаў рабрыстымі, тыповымі для позняй стадыі культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978. С. 12).

Блізкія назіранні зроблены А. Р. Мітрафанавым і на іншых гарадзішчах гэтай зоны, у прыватнасці ў Аздзяцічах і Кіміі. Акрамя гэтага, у Аздзяцічах удалося прасачыць рэшткі двух жытлаў, якія па сваёй форме, памерах і канструкцыйных асаблівасцях вельмі блізкія да мілаградскіх. Акрамя адзначаных рысаў, адна з пабудоў мае характэрны для мілаградскіх жытлаў выступ у вугле (Митрофанов, 1978. Рис. 3:1, 3).

Яшчэ адной рысай, што сведчыць супраць аднясення гэтых помнікаў да культуры штрыхаванай керамікі, з'яўляецца тое, што, нягледзячы на ранняе датаванне ніжніх слаёў (VI—IV стст. да н. э. паводле А. Р. Мітрафанава), яны не маюць касцяных і каменных вырабаў, якія характэрны для ранніх гарадзішчаў Усходняй Літвы (Наркунай, Невярышкес, Сакішкяй і інш.) і Паўночна-Заходняй Беларусі (Гарані, Рацюнкі, Зазоны). Відаць, будзе больш правільна аднесці гэту зону да арэала мілаградскай культуры, але якая знаходзіцца пад пэўным уплывам плямёнаў штрыхаванай керамікі.

Актыўнае пранікненне і асаэенне гэтага раёна, у ходзе якога мясцовае мілаградскае насельніцтаа было асімілявана «штрыхавікамі», адносіцца да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. (Егорейченко, 1982а. С. 21; Ён жа, 1996а. С. 67, 68). Менавіта к гэтаму часу на ўсёй тэрыторыі Сярэдняй Беларусі адбываецца нівеліроўка матэрыяльнай культуры, што выяўляецца перш за ўсё ў паўсюдным распаўсюджанні рабрыстых і слоікавых пасудзін, пакрытых штрыхоўкай, наземных жытлаў слупавой і зрубнай канструкцыі, у рэчавым комплексе.

Заканчваючы аналіз помнікаў басейна Верхняй і Сярэдняй Бярэзіны, нельга абысці і яшчэ адзін пункт погляду, выказаны Л. Д. Побалем. Грунтуючыся на гэтых жа матэрыялах, ён тым не менш упэўнены ў першасным засяленні прыведзенай вышэй зоны носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі, а з'яўленне тут мілаградскіх плямёнаў адносіць да больш позняга часу (Поболь, 1983. С. 16). Алагічнасць падобнай высновы відавочная.

З вобласці распаўсюджання культуры штрыхаванай керамікі павінна быць поўнасцю выключана зона ніжняга цячэння Бярэзіны, парэчча Дняпра і тым больш Пасожжа. Пра гэта сведчыць увесь комплекс рэчавых рэштак, знойдзеных на такіх гарадзішчах, як Кісцяні Рагачоўскага раёна, Халопенічы Глускага, Шчаткава Бабруйскага раёнаў. Найбольш яскрава гэта выяўляецца ў керамічным матэрыяле. Ні на адным з умацаваных паселішчаў не знойдзены ні слоікавыя, ні слабапрафіляваныя пасудзіны, характэрныя для ранняй стадыі культуры штрыхаванай карамікі, ні больш познія — рабрыстыя. Кераміка гарадзішчаў гэтай зоны па сваіх асноўных прыкметах можа быць суаднесена толькі з посудам мілаградскай і зарубінецкай культур (Поболь, 1970б. Рис. 2; Ён жа, 1967. Рис. 5—11).

Адзіны ўплыў культуры штрыхаванай керамікі праяўляецца ў штрыхоўцы пасудзін, якая складае ў Халопенічах 15% ад агульнай колькасці фрагментаў, у Шчаткаве — каля 20 і ў Кісцянях — 50%. Дастаткова пераканаўча прасочваецца несумяшчальнасць праслiцаў, знойдзеных на разглядаемых гарадзішчах, з аналагічнымі вырабамі класічных помнікаў культуры штрыхаванай карамікі. У Кісцянях знойдзены праслiцы выключна мілаградскіх формаў (Поболь, 1969. С. 95. Рис. 2:1—3; С. 99. Рис. 51, 2). Тое ж можна сказаць і пра большасць праслiцаў са Шчаткаўскага гарадзішча (Поболь, 1974б. Рис. 108). Усе прыклады красамоўна сведчаць пра немагчымасць аднясення гэтай зоны да арэала ўласна культуры штрыхаванай керамікі.

Росквіт культуры, а разам з ім і максімальнае пашырэнне тэрыторыі прыпадае на пачатак 1-га тысячагоддзя н. э., калі носьбіты гэтай этнакультурнай супольнасці засялялі не толькі басейн Нёмана, але і вярхоўі левабярэжных прытокаў Прыпяці (Лань, Случ, Пціч), верхняе і сярэдняе цячэнне Бярэзіны і яе прытокаў (Свіслач, Уша, Бобр і інш.), а таксама частку левабярэжных прытокаў Заходняй Дзвіны (мал. 37). У той жа час па-за межамі тэрыторыі Беларусі носьбіты культуры займалі Усходнюю Літву і Паўднёва-Усходнюю Латвію.

## 3. ПАСЕЛІШЧЫ, ЖЫТЛЫ І ГАСПАДАРЧЫЯ ПАБУДОВЫ

Асноўным тыпам паселішчаў культуры штрыхаванай керамікі на ўсім працягу яе існавання былі гарадзішчы. У заходнім арэале культуры (Усходняя Літва) іх з'яўленне адносіцца да канца 2-га — пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. (Граудонис, 1985б. С. 132; Волкайте-Куликаускене, 1985. С. 18; Grigalavičienė, 1985a. P. 88; Grigalavičienė, 1985б. P. 136). На найбольш ранніх гарадзішчах беларускай зоны выяўлены матэрыялы, аналагічныя ўсходнелітоўскім, таму і тут узнікненне прымітыўных умацаванняў паселішчаў неабходна звязааць з часам не пазней за першую палову 1-га тысячагоддзя да н. э.

Размяшчэнне гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі цесна звязана з рэльефам мясцовасці. У большасці выпадкаў яны размяшчаліся ў месцах, якія мелі прыродную перашкоду: на мысах, утвораных рэкамі ці ярамі (Навасёлкі, Кімія, Аздзяцічы Барысаўскага раёна), а таксама на высокіх асобна размешчаных узгорках (Гарані, Няфёды Смаргонскага раёна, Гарадзішча Беранавіцкага, Кашчэлічы Валожынскага раёнаў і інш.) (мал. 38:1, 2, 6, 7). Такое месцазнаходжанне вызначалася дзвюма прычынамі: патрабаваннямі аховы і спецыфікай гаспадарчай дзейнасці насельніцтва гэтых паселішчаў, якая вымушала мець паблізу месцаў пражывання вялікія ўчасткі поймы, прыдатныя для жывёлагадоўлі, і вадаёмы, багатыя рыбай.

На позняй стадыі культуры з'яўляюцца гарадзішчы, тапаграфія якіх рэзка адрозніваецца ад тапаграфіі ўмацаваных паселішчаў папярэдняга перыяду. Размешчаныя на карэнных берагах рэк, яны ўжо ў меншай ступені залежалі ад рэльефу мясцовасці, паколькі асноўнай формай іх аховы робяцца штучныя ахоўныя збудаванні ў выглядзе валоў і равоў. Да ліку такіх помнікаў адносяцца гарадзішчы Малышкі Вілейскага, Старая Рудзіца Дзяржынскага і Мыслі Капыльскага раёнаў (мал. 38:3—5).

У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. — у першых стагоддзях н. э. плямёны культуры штрыхаванай керамікі пранікаюць у паўночныя раёны Палесся, дзе займаюць гарадзішчы, збудаваныя носьбітамі мілаградскай культуры. Ва ўмовах Палесся пры адсутнасці высокіх узгоркаў-астанцоў і мысаў гэтыя ўмацаваныя паселішчы ўзводзіліся на роўнай мясцовасці (Івань, Леніна Слуцкага раёне). З'яўленне ў плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі прынцыпова новага тыпу гарадзішчаў, не звязанага цесна з прыроднымі фактарамі аховы, тлумачыцца тымі поспехамі, якіх яны дасягнулі ў справе развіцця фартыфікацыйнай справы.

Сярэднебеларускія гарадзішчы ў адрозненне ад больш паўднёвых, у прыватнасці палескіх, маюць параўнальна малыя памеры (Рацюнкі — 45 × 45 м, Гарані — 75 × 60, Навасёлкі — 45 × 16 м і інш.). Форма пляцоўкі ў большасці выпадкаў акруглая, радзей падтрохвугольная ці ў выглядзе шматвугольніка з закругленымі вугламі. Гэта тлумачыцца перш за ўсё канфігурацыяй мысаў і ўзгоркаў, выбраных пад збудаванні гарадзішчаў. Па сваіх знешніх прыкметах (размяшчэнне, форма і памеры пляцоўкі) гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі вельмі блізкія да ўмацаванняў паселішчаў днепра-дзвінскай культуры, а таксама ранніх гарадзішчаў Літвы і Латвіі (Шадыро, 1985. С. 13; Даугудис, 1968. С. 27—29; Граудонис, 1985б. С. 133).

Старажытныя ўмацаваныя паселішчы Сярэдняй Беларусі не мелі штучных ахоўных збудаванняў. Да ліку найбольш ранніх помнікаў гэтага тыпу адносіцца гарадзішча каля в.Гарані, размешчанае на ўзгорку вышынёй 7—12 м. Паўночныя і заходнія схілы ўзгорка эрэзаны (Зверуго, 1992. С. 92). Іншыя работы фартыфікацыйнага характару не выяўлены. Улічваючы ўвесь

комплекс знаходак ранняга гарызонту (кераміка, касцяныя і каменныя прылады працы), узнікненне гэтага гарадзішча можна аднесці да першай трэці 1-га тысячагоддзя да н. э. Можна меркаваць, што да падобных слабаўмацаваных паселішчаў адносяцца і некаторыя іншыя ўзгоркавыя гарадзішчы са штучна падрэзанымі схіламі (Зазоны, Укля, Шавуры Браслаўскага раёна і інш.). Не выключана, што пляцоўкі ранніх гарадзішчаў мелі дадатковыя ўмацаванні ў выглядзе частаколаў, што акружалі пляцоўкі.

Пачынаючы з другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. у беларускім арэале культуры штрыхаванай керамікі з'яўляюцца гарадзішчы, умацаваныя землянымі валамі і равамі. Да іх ліку адносяцца Банцараўскае і Лабеншчынскае паселішчы Мінскага раёна і інш. Валы гэтых гарадзішчаў былі яшчэ невялікімі — іх вышыня не перавышала 1 м. У сістэму ўмацаванняў уваходзілі таксама драўляныя частаколы і сцены, што праходзілі па грэбені валоў, і натуральна абароненыя падыходы.

Трэці, найбольш значны этап у развіцці фартыфікацыйных збудаванняў у плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі наступіў з пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э. Для яго было характэрна з'яўленне на ўжо існаваўшых гарадзішчах магутнай сістэмы ўмацаванняў. Найбольш паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца Лабеншчынскае гарадзішча, на якім пасля моцнага пажару, што знішчыў пабудовы, была праведзена карэнная рэканструкцыя. З гэтай мэтай жыхары гарадзішча ачысцілі пляцоўку ад рэштак пажару, скінуўшы абгарэлыя бярвёны на схілы, і пашырылі тэрыторыю паселішча за кошт падсыпання схілаў слоем зямлі.

У той жа час на перыметры пляцоўкі была ўзведзена абарончая сцяна, сляды якой у выглядзе слупавых ямаў былі прасочаны ў паўднёвай частцы гарадзішча. Ямы размяшчаліся парамі на адлегласці 1,3—1,5 м. Слабаабароненыя ўчасткі паселішча былі дадаткова ўмацаваны землянымі валамі і равамі. Так, з паўднёва-ўсходняга, напольнага, боку насельнікі ўзвялі два дугападобныя і адзін курганападобны валы і выкапалі два равы. Яшчэ два дугападобныя валы былі насыпаны на пакатым схіле мыса з паўночнага боку ніжэй за ўзровень пляцоўкі (Митрофанов. 1978. С. 16).

Большасць гарадзішчаў, пабудаваных у гэты перыяд, мела магутную сістэму ўмацаванняў, узведзеных на працягу невялікага адрэзка часу. Адным з такіх паселішчаў з'яўляецца гарадзішча каля в. Вязынка Маладзечанскага раёна. Першапачаткова яно было абаронена толькі драўлянай сцяной, што акружала пляцоўку. Аднак у хуткім часе пасля моцнага пажару, які знішчыў сцяну і пабудовы, насельнікі насыпалі па перыметры паселішча земляны вал, на грэбені якога ўзвялі драўляную сцяну. Гэта сцяна, як і першая, загінула ў пажары. Затым гарадзішча было значна рэканструявана. Яго жыхары пашырылі пляцоўку, а схілам гарадзішча надалі павышаную крутизну. Па краях новай пляцоўкі быў зноў насыпаны земляны вал, зверху якога ішла драўляная сцяна (Митрофанов, 1957. С. 157, 158).

У канцы I ст. да н. э. — I ст. н. э. у плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі з'явіліся ўмацаваныя паселішчы, якія прынцыпова адрозніваліся ад папярэдніх. Іх навізна заключалася ў тым, што насельнікі гарадзішчаў ужо не ставілі сабе за мэту сяліцца ў цяжкадаступных месцах, як гэта было раней, і дзе сур'ёзная ўвага ў справе абароны паселішчаў надавалася прыродным фактарам. Да іх ліку адносяцца гарадзішчы каля в. Малышкі Вілейскага і Старая Рудзіца Дзяржынскага раёнаў. Першае пабудавана на зусім роўным месцы і прымыкае адным са сваіх бакоў да абрывістага берага ракі Сервеч.

Адзінай абаронай гэтага паселішча быў магутны земляны вал падковападобнай формы, вышыня якога дасягала 5 м. Не выключана, што на грэбені вала была драўляная сцяна (Очерки... 1970. С. 188).

У падобных тапаграфічных умовах узнікла і Старарудзіцкае гарадзішча. Яно размешчана на невысокай узгорчатай паверхні з палогімі схіламі, што прылягаюць да рэчышча невялікай ракі Глінянкі. У адрозненне ад Малышкінскага паселішча гарадзішча ў Старой Рудзіцы было ўмацавана двумаваламі падковападобнай формы, паміж якімі пракапаны роў.

Як паказалі даследаванні, збудаванне абарончых канструкцый ішло ў два этапы. Першапачаткова гарадзішча было ўмацавана адным невысокім земляным валам, па грэбені якога размяшчалася драўляная сцяна, і ровам. Пасля пажару, які знішчыў драўляныя канструкцыі абарончага комплексу, вал быў дасыпаны, роў пашыраны і паглыблены, а зямля з яго пайшла на ўзвядзенне другога, знешняга вала (Очерки... 1970. С. 188).

Яшчэ адным помнікам падобнага тыпу з'яўляецца Іваньскае гарадзішча ў Слуцкім раёне, якое было размешчана на беразе ручая. З трох бакоў пляцоўка гарадзішча абаронена валам вышынёй да 4 м. У сваім развіцці гарадзішча прайшло некалькі этапаў. Яно было заснавана як неўмацаванае паселішча носьбітамі мілаградскай культуры. Праз пэўны прамежак часу імі ж быў насыпаны земляны вал вышынёй 2 м. У далейшым абарончыя збудаванні гарадзішча перабудоўваліся носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі, што жылі на паселішчы з канца 1-га тысячагоддзя да н. э. Першапачатковы вал быў дасыпаны слоем рыхлай зямлі з уключэннямі культурных рэштак. Схілы новага насыпу былі абкладзены шчыльнай глінай у мэтах папярэджання вала ад асыпання. На вяршыні падсыпання прасочваюцца дзве паралельныя лініі паглыбленняў, запоўненых слоем зямлі з вялікай колькасцю вугалля. Шырыня гэтых баразнаў складала 0,3—0,4 м, глыбіня — 0,2 м. Безумоўна, гэта былі рэшткі драўлянай сцяны, устаноўленай на грэбені рэканструяванага вала. У далейшым была праведзена яшчэ адна мадэрнізацыя абарончых збудаванняў, у ходзе якіх вал быў павялічаны прыкладна да вышыні 4 м пры шырыні асновы 15,5 м. Сляды драўлянай сцяны на яго вяршыні не выяўлены з-за пашкоджанняў яго верхняй часткі (Егорейченко, 1996а. С. 17, 18. Рис. 6).

Як відаць, з'яўленне прынцыпова новых умацаваных паселішчаў было абумоўлена ўсім ходам шматвекавога сацыяльна-эканамічнага развіцця плямёнаў культуры штрыхаванай карамікі. Назвлашаны за папярэдні перыяд вопыт фартыфікацыйных работ дазволіў вырашыць задачу абароны паселішчаў з дапамогай штучных збудаванняў у выглядзе земляных валоў і равоў, дрвўляных частаколаў і сцен, адсунуўшы прыродныя ахоўныя фактары на другі план.

Разам з тым нельга сцвярджаць, што гістарычны шлях развіцця фартыфікацыйных сістэм гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі быў усюды прамалінейны: ад простых частаколаў па краі пляцоўкі да шматскладаных, што ўключалі ў сябе як магутныя земляныя збудаванні, так і драўляныя канструкцыі па грабянях валоў. Гэты працэс быў больш складаны, пра што сведчыць з'яўленне ўзгоркавых пасёлкаў без слядоў земляных умацаванняў нават на заключнай стадыі (першыя стагоддзі н. э.) культуры штрыхаванай керамікі.

Неўмацаваныя паселішчы застаюцца малавывучанымі. Іх узнікненне адносіцца да эпохі позняй бронзы (пачатак 1-га тысячагоддзя да н. э.). Тапа-

графія паселішчаў у большасці выпадкаў падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Як правіла, яны размешчаны ў месцах, якія мелі прыродныя перашкоды. На мысах, утвораных зліццём невялікіх рэк і ручаёў з Нёманам (Спавічы Гродзенскага раёна), на ўзвышанасцях сярод забалочаных лоймаў і вадаёмаў (Занарач і Равячка Мядзельскага, Нача Воранаўскага раёнаў), а таксама на тэрасех рэк (Салы, Пужычы Гродзенскага раёна).

Да ліку найбольш ранніх неўмацаваных паселішчаў культуры штрыхаванай керамікі адносяцца паселішчы каля в. Гатавічы і Занарач Мядзельскага раёна. Першае знаходзілася на беразе ракі Скемы, на месцы неалітычнай стаянкі. Невялікія раскопкі, праведзеныя М. М. Чарняўскім, выявілі рэшткі жытла слупавой канструкцыі ў выглядзе чатырох слупавых ямаў, рвзмешчаных у адзін рад. Керамічны матэрыял пададзены абломкамі гладкасценных і штрыхаваных пасудзін. Да ранняй гладкасценнай керамікі адносяцца абломкі гаршка з прамым адагнутым вонкі венчыкам, акруглым тулавам і плоскім дном. На шыйцы пасудзіны былі ямачныя ўціскані, размешчаныя праз роўныя інтэрвалы ў адзін рад. Падобны посуд выяўлены і на Занарачанскім паселішчы, якое займала палогую ўзвышанасць на беразе возера Нарач (Митрофанов, 1978. С. 9, 10). Мяркуючы па матэрыялах, абодва паселішчы можна датаваць першай паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.

Да другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. адносіцца паселішча каля в. Яселевічы Шчучынскага раёна, якое размяшчалася на палогай узвышанасці на карэнным беразе ракі Лебяды (правы прыток Нёмана). У культурным слоі паселішча выяўлена ляпная штрыхаваная кераміка двух тыпаў: 1) слабапрафіляваная з прамым адагнутым вонкі венчыкам; 2) слоікавая (Митрофанов, 1978. Рис. 2: 8, 11, 12). Сярод абломкаў другога тыпу ёсць аенчыкі, увагнутыя ўнутр пасудзіны, з невыразным рабром на месцы пераходу плечыка ў тулава. На гэтай падставе А. Р. Мітрафанаў лічыць іх пераходнымі ад слоікавых да рабрыстых і датуе паселішча IV—III стст. да н. э. (Митрофанов, 1980. С. 5).

Да больш позняга часу адносіцца паселішча каля в. Чарэшля Навагрудскага раёна. Яно размяшчалася нв ўзвышанасці і займала плошчу 0,4 га. Ф. Д. Гурэвіч выявіла тут у ходзе невялікіх работ сканцэнтраванні абпаленых камянёў і вуголле. Керамічны матэрыял аднародны. Ён пададзены абломкамі рабрыстых штрыхаваных гаршкоў. Частка посуду арнаментавана пв рабру зашчыпамі. Такая кераміка тыповая для позняй стадыі культуры і дае магчымасць аднесці паселішча да першых стагоддзяў н. э. (Гуревич, 1962. С. 151. Рис. 17:1, 2; 18:2—7).

Важнае месца для вызначэння верхняй храналагічнай мяжы культуры штрыхаванай керамікі мае паселішча ва ўрочышчы Васіліха каля в. Равячка Мядзельскага раёна. Яно займала доўгі ўзгорак з палогімі схіламі ўздоўж правага берага ракі Сервеч. Яго памеры 165 × 35 м. Вышыня ўзгорка — 4—5 м над узроўнем ракі. Раскопкі А. Р. Мітрафанава паказалі, што на месцы ўзгорка размяшчалася паселішча і бескурганны могільнік банцараўскай культуры. Тут былі адкрыты чатыры аднатыповыя паўзямлянкавыя жытлы, тры з якіх мелі банцараўскую кераміку, а ў чацвёртым, у запаўненні і развале печы-каменкі, выяўлены абломкі штрыхаваных рабрыстых гаршкоў. Гэты факт сведчыць пра тое, што датаванне жытла, пакінутага носьбітамі штрыхаванай керамікі, можа адносіцца да канца IV — семага пачатку V ст.

Разгледжаныя вышэй факты дазваляюць зрабіць высновы пра бытаванне селішчаў на ўсім працягу культуры штрыхаванай керамікі.

## Жылыя і гаспадарчыя пабудовы

У выніку раскопак шэрагу ўмацаваных паселішчаў стала магчымым асвятліць іх планіроўку і забудову, а таксама домабудаўнічую тэхніку. На думку А. Р. Мітрафанава, для ранняй стадыі культуры штрыхаванай керамікі была характэрна такая планіровачная структура, пры якой жылыя і гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся галоўным чынам уздоўж краю пляцоўкі, пакідаючы незапоўненай цэнтральную частку паселішчаў, якая выкарыстоўвалася для грамадскіх патрэб родавага калектыву (Очерки... 1970. С. 189). Цікава тое, што жытлы нярэдка размяшчаліся на спецыяльна выраўнаваных тэрасах, што ляжалі ніжэй за пляцоўку паселішчаў (Лабеншчына, Збаровічы).

Для позняй стадыі культуры развм з апісанай вышэй планіровачнай структурай (Івань, Васількаўка, Кашчэлічы, Мыслі (мал. 40)) з'яўляюццв гврадзішчы, у якіх пляцоўкі забудаваны жылымі і гасладарчымі збудаваннямі поўнасцю. Да іх ліку належыць добра вывучанае ўмацаванае паселішча каля в. Малышкі, ускрытае амаль напалову. Зыходзячы з атрыманых дадзеных, можна меркаваць, што на ім існавала радная забудова, пры якой усе дамы размяшчаліся дзвюма лініямі па 4—5 жытлаў у кожнай (мал. 39:2).

Па тэхніцы домабудаўніцтва ўсе вядомыя жылыя збудаванні культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі можна падзяліць на тры тыпы: 1) слупавыя наземныя шмат- і аднакамерныя (мал. 39:2—4); 2) зрубныя наземныя шмвт- і аднакамерныя; 3) паўзямлянкі (мал. 39:1, 5).

Да першага тыпу адносяцца жытлы, выяўленыя на гарадзішчах Васількоўка Лагойскага, Збаввічы Мінскага, Івань Слуцкага, Кашчэлічы Валожынскага, Малышкі Вілейскага раёнаў (шматкамерныя) і Лабеншчына Мінскага раёна (аднакамерныя). У Збаравічах удалося прасачыць рэшткі двух шматкамерных жытлаў, якія, мяркуючы па дубліруючых ямах, што мелі розную глыбіню, двойчы перабудоўеаліся. Гэтыя жытлы мелі тры драўляныя сцяны, пабудаваныя з гарызантальнв ўкладзеных бярвёнаў, канцы якіх устаўляліся ў пазы вертыкальна пастаўленых слупоў. У якасці чацвёртай сцяны служыў земляны вал. На думку А. Р. Мітрафанава, дахі жытлаў былі аднасхільныя з прычыны адсутнасці цэнтральных апорных слупоў (Митрофанов, 1978. С. 21). Яны адным сваім бокам мацаваліся дв слупоў, а процілеглым упіраліся ў абарончы вал.

Кожнае з жытлаў падзялялася на некалькі самастойных секцый, плошча якіх складала 20—25 ка.м. Ацяпляльная сістэма дамоў складалася з ачагоў, прычым у кожным памяшканні знаходзілася па два ачагі авальнай ці круглай формы дыяметрам ад 0,7 да 1,3 м. Чэранем у ачагах служыў слой буйназярністага пяску, а іх краі аконтурваліся гліянымі валікамі з умазанымі камянямі. На адным узроўні з ачагамі ў збаравіцкіх жытлах выяўлены пяць каменных пляцовак. Дзве з іх знаходзіліся паблізу ачагоў і ўяўлялі сабой сканцэнтраванне дробных абпаленых камянёў. Тры астатнія пляцоўкі знаходзіліся ўбаку. У адрозненне ад папярэдніх гэтыя тры пляцоўкі складаліся з неабпаленых камянёў. А. Р. Мітрафанаў лічыць, што сканцэнтраванні, якія складаліся з абпаленых камянёў, з'яўляліся рэшткамі ацяпляльнай сістэмы, у той час як неабпаленыя ўяўлялі сабой вымасткі падлогі (Митрофанов, 1978. С. 21, 22).

На Васількоўскім гаредзішчы былі выяўлены дзве шматкамерныя пабудовы, размешчаныя адна насупраць другой. Адна з іх з'яўлялася жылой, другая з-за адсутнасці ачагоў інтэрпрэтуецца А. Р. Мітрафанавым як гаспадарчая. Жытло мела лрамавугольную форму. Яго аснову складалі слупы,

укапаныя ў зямлю. Сцены будаваліся з бярвёнаў. У адрозненне ад збаравіцкіх жытлаў васількоўская пабудова складалася з дзвюх секцый, плошча якіх ім таксама моцна саступала. Памеры памяшканняў складвлі 4,6 × 2,8 м і 4,3 × 2,8 м. У адной з секцый знойдзены ачаг, які размяшчаўся бліжэй да ўнутранай сцяны. Ён меў падкоўападобную форму і быў зроблены з камянёў, укапаных у мацерыковую глебу. Памеры ачага складалі 1,4 × 1,1 м. Яшчэ тры розначасовыя ачагі былі знойдзены ў паўднёва-заходняй частцы даследаванай пляцоўкі гарадзішча. Два з іх мелі авальную форму памерамі 1,4—1,8 × 1—1,4 м. У абодвух ачагоў чэранем служыў спой пяску, аднак іх знешняе афармленне было розным — калі адзін з ачагоў быў аконтураны камянямі, то другі — абкладзены па перыметры гліняным валікам. Канструкцыйна блізкі да другога ачаг № 3, ад якога ўцалела толькі частка валіка (Митрофанов, 1978. С. 26, 27).

Тыпалагічна прымыкаюць да разгледжаных вышэй яшчэ два жытлы, выяўленыя на гарадзішчах Івань і Кашчэлічы. Іваньская пабудова размяшчалася ўздоўж вала, які абараняў пляцоўку з напольнвга боку. Яна была шматкамернвй слупавой канструкцыі. Удалося прасачыць рэшткі шасці секцый, астатнія звсталіся за межамі раскопу. Аснову сцен жытла складалі ўкапаныя ў зямлю слупы дыяметрам 0,3—0,5 м. Плошча памяшканняў ад 15 да 25 кв.м. Рэшткі ачага прасочваюцца толькі ў адной секцыі. Гэта быў загартаваны пясок, размешчаны паласой у форме падковы, унутры якой знаходзілася драўнянае вуголле, попел і дробныя абпаленыя камяні (Егорейченко, 1996а. С. 22).

На гарадзішчы Кашчэлічы, як і на іншых помніках культуры штрыхаванай карамікі, сляды жытла выяўлены ўздоўж краю пляцоўкі. Гэта быў шматкамерны дом слупавой канструкцыі, які прасочваўся, у асноўным, па 6 ачагах, размешчаных у адну лінію (Медведев, 1996. Рис. 28). Чэранем для ўсіх ачагоў служыў слой загартаванага пяску, а краі з двух процілеглых бакоў абкладваліся гліьянымі валікамі дугападобнай формы з умазанымі ў іх камянямі.

Слупавыя пабудовы гэтага тыпу з'яўляюцца характэрнай рысай шэрагу культур жалезнага веку лясной паласы былога СССР. Яны, у прыватнасці, вядомыя па расколках днепра-дзвінскіх, юхнаўскіх, літоўскіх і латышскіх гарадзішчаў (Станкавич, 1960. С. 48—53. Рис. 31; Шадыро, 1985. Рис. 3—6; Алихова, 1962. С. 88. Рис. 1; Волкайте-Куликаунскене, 1985. С. 18; Седов, 1975. С. 284, 285; Апалс, 1985. С. 35; Шмидт, 1992. С. 41—46 і інш.).

Слупавой канструкцыі былі і пяць іншых жытлаў, выяўленых на гарадзішчы Малышкі. Усе яны адносяцца да ліку шматкамерных, складаюцца з чатырох памяшканняў (мал. 39:2). Аднак калі жытлы ў Збаравічах, Васількоўцы, Івані і іншых мелі лінейнае размяшчэнне жылых памяшканняў, пры якім кожнае з іх адным са сваіх бакоў прылягала да суседняга, то размяшчэнне пакояў мвлышкінскіх жытлаў сведчыць пра новую планіровачную структуру, што з'явілася ў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Кожная пабудова Мвлышкінскага гарадзішча глухой сцяной падзялялася на дзве часткі, якія ў сваю чаргу падзяляліся яшчэ на два жылыя памяшканні. Агульныя памеры трох жытлаў (№ 2—4) прыкладна аднолькавыя і складаюць 17—18 × 7—8 м. Памеры двух астатніх меншыя: 13,7 × 8 м (№ 1) і 10,9 × 7 м (№ 5). Што датычыцца плошчы асобных памяшканняў, то ў трох жытлах (№ 2—4) яна таксама блізкая (8—8,4 × 3,3—3,6 м). У першай пабудове памеры пакояў адрозніваліся адзін ад аднаго: 1) 5 × 3,4 м; 2) 4,5 × 4 м; 3) 7 × 7 м; 4) 6,8 × 4 м. Межы пакояў у пятым доме не прасочвны з-за дрэннай захаванасці.

У кожным жытле памяшканні падзяляліся вузкім (0,6—1 м) калідорам, унутры якога знаходзіліся ўваходы ў пакоі. Акрамя гэтага, кожнае жытло мела па два вонкавыя ўваходы, па адным з процілеглых бакоў, што вялі ў калідоры. Дах быў агульны для ўсіх памяшканняў жытла і меў двухсхільную форму. Акрамя ўнутранай планіроўкі малышкінскія шматкамерныя жытлы мелі яшчэ адну рысу, якая адрознівала іх ад разгледжаных вышэй, а менавіта: пазы паміж бярвёнамі з унутраных бакоў сцен былі абмазаны глінай з мэтай захавання цяпла ў пакоях. Развалы гліняной абмазкі выразна акрэслілі контуры жытлаў, у выніку чаго стала магчымым высветліць іх памеры і ўнутраную планіроўку, а таксама ўстанавіць таўшчыню бярвёнаў, з якіх будаваліся сцены жытлаў. Мяркуючы па адбітках на кавалках гліняной абмазкі, высветлілася, што жытлы ўзводзіліся з дастаткова буйных бярвёнаў: іх дыяметр дасягаў 20—30 см. Ва ўсіх жылых памяшканнях былі выяўлены адкрытыя ачагі аальных і круглых абрысаў дыяметрам 1 м, якія размяшчаліся альбо ў цэнтры, альбо каля адной са сцен. Іх узвядзенне аднолькавае. Чэранем служыў пясок, а краі вчагоў аконтурваліся гліянымі валікамі. Устаноўлена, што ачагі ў шэрагу выпадкаў перабудоўваліся ад двух да чатырох разоў (Митрофанов, 1978. С. 23—25). Малышкінскія жытлы унікальныя. Аналогіі ім ні ў культуры штрыхаванай керамікі, ні ў іншых сінхронных культурах невядомыя.

На рубяжы — у першых стагоддзях новай эры ў беларускім арэале культуры разам з традыцыйнымі слупавымі жытламі з'явіліся жытлы з іншай тэхнікай будаўніцтва. Да іх ліку адносяцца пабудовы, выяўленыя на гарадзішчах у Івані, Вязынцы, Мыслі і на паселішчы ў Равячцы. Іх асноўнай вылучальнай прыкметай з'яўляецца зрубавая канструкцыя сцен.

Дзве іваньскія аднакамерныя пабудоаы мелі прамаавугольную форму. Размяшчаліся яны на адлегласці 3 м перпендыкулярна адзін да аднаго. Абадзве мелі блізкія памеры: 1) 5,1 × 2,8 м; 2) 5,2 × 2,4 м. Межы пабудоў удалося прасачыць па захаваўшыхся раўчуках шырынёй дв 0,1 м і такой жа глыбіні. Пры расчыстцы другой пабудовы пасярэдзіне дзвюх кароткіх сцен зафіксаваны слупавыя ямы дыяметрам 0,35—0,45 м і глыбінёй 0,25—0,35 м. Відаць, гэта рэшткі слупоў, што падтрымлівалі даухсхільны дах. Ачагі ў абедзвюх пабудовах адсутнічалі (Егорейченко, 1996а. Рис. 8).

Блізкую канструкцыю мела і жытло, што знойдзена ў ніжнім гарызонце гарадзішча ў Вязынцы. Яно прасочвалася па невялікім раўчуку шырынёй 0,15—0,2 м і глыбінёй 0,1—0,2 м, які аконтурваў дзве сцяны на адлегласці 3,3 і 4,4 м. Акрамя гэтага, у паўночна-заходняй частцы жытла захаваліся рэшткі ачага ў выглядзе пяску і абпаленых камянёў. Ачаг быў амаль круглай формы памерам 1,48 × 1,45 м.

Трэба адзначыць, што ўсе тры пабудовы з'яўляюцца найбольш раннімі па сваіх гарадзішчах і папярэднічалі ў адным выпадку доўгаму жытлу слупавой канструкцыі, у другім — шматкамернаму зрубаваму жытлу. Магчыма, гэта былі часовыя жылыя пабудовы, якія эксплуатаваліся да ўзвядзення доўгачасовых жытлаў.

Шматкамернае жытло ў Вязынцы па сваёй планіровачнай структуры блізкае да малышкінскіх пабудоў. Яно таксама падзялялася перагародкамі на некалькі памяшканняў з тым толькі адрозненнем, што іх было тры, а не чатыры (Мал. 39:1). Гэта пабудова мела амаль квадратную форму з даўжынёй бока каля 12 м. Плошча асобных пакояў складала: 1) 11 × 4,4 м; 2) 5,2 × 5 м; 3) 6,3 × 5 м. Пазы паміж бярвёнамі сцен жытла з Вязынкі былі

запоўнены глінай, як і ў жытлах на Малышкінскім гарадзішчы. Кожнае памяшканне ацяплялася ачагом, у адным выпадку ён меў авальную, у двух другіх — амаль круглую форму. Іх памеры: 1) 1,8 × 1,2 м; 2) 1,3 × 1,1 м; 3) 1,4 × 1,3 м. Ачагі складаліся э буйназярністага пяску, што служыў у якасці чэраня, а краі абкладааліся камянямі, якія ў сваю чаргу змацоўваліся дугападобнымі валікамі, выкладзенымі з гліны. Размяшчэнне ачагоў у жытлах не мела строгай заканамернасці. У адным выпадку ачаг размяшчаўся ў цэнтры, у другім — у паўднёва-ўсходнім кутку, у трэцім — у паўночнаўсходнім кутку жытла. Дах жытла, відаць, таксама, як і ў малышкінскіх пабудоў, быў двухсхільным і адзіным для ўсіх трох пакояў. Жытло, знойдзенае на гарадзішчы ў Вязынцы, унікальнае. Падобных да яго пабудоў на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі і сумежных культур невядома.

Трэці тып жытлаў пададзены пабудовамі, выяўленымі на гарадзішчах Мыслі Капыльскага (8) і Равячка Мядзельскага (1) раёнаў. Жытлы з гарадзішча Мыслі былі паўзямлянкавымі (мал. 39:5). Так, першае жытло мела прамавугольную форму і было арыентавана амаль па баках свету з невялікім адхіленнем па лініі паўночны захад — паўднёвы ўсход. Яго памеры: 3,8 × 3,5 м. Падлога роўная, размешчаная на глыбіні 0,5—0,7 м ад узроўню мацерыковай паверхні. Сценкі паглыбленай часткі пакатыя, за выключэннем заходняй, размешчанай вертыкальна. Сляды слупоў ні ў паглыбленні, ні побач не выяўлены. Усё гэтае дае падставы меркаваць, што жытло мела зрубавую канструкцыю. Ачаг не захаваўся, знойдзена толькі некалькі абпаленых камянёў у верхнім слоі запаўнення каля ўсходняй сцяны (Егорейченко, Гурин, 1987. С. 52, 53).

Зрубавыя жытлы з паглыбленай падлогай раней лічыліся нехарактэрнымі для плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі. З'яўленне іх на гарадзішчы каля в. Мыслі можна растлумачыць толькі тым, што гэты помнік знаходзіцца ў кантактнай зоне з плямёнамі зарубінецкай культуры. Гэта пацвярджаюць і знаходкі глянцаванага посуду ў другім жытле, што сведчыць пра элемент запазычвання новага тыпу жытла носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі ў пачатку н. э. Аналогіі гэтым пабудовам ёсць на помніках палескага варыянта зарубінецкай культуры.

Пабудова, ускрытая на паселішчы Равячка, адносіцца да заключнай стадыі культуры штрыхаванай керамікі. Яна ўяўляла сабой паўзямлянку, заглыбленую ў мацярык на 0,6 м. Гэта пабудова мела на ўзроўні мацерыковага слою авальную форму, а на ўзроўні падлогі — прамавугольныя абрысы. Яе памеры ў цэлым не высветлены, паколькі адным са сваіх бакоў яна выходзіла за межы раскопу. Памеры ўскрытай часткі складаюць 2,6 × 2,5 м на ўзроўні мацерыка і 2 × 1,6 м — на ўзроўні падлогі. Сцены паглыблення з усходняга боку пакатыя, з паўднёвага і паўночнага — крутыя. Ва ўсходняй частцы жытла на 0,15—0,2 м вышэй падлогі расчышчаны развал печыкаменкі. Ён складаўся з абпаленых камянёў і меў авальныя абрысы памерам 1,2 × 1 м. Сляды слупавых ям вакол і ўнутры жытла не знойдзены. Гэта сведчыць пра тое, што пабудова таксама, як і разгледжаныя вышэй, адносіцца да ліку зрубавых.

Па сваіх будаўнічых прыёмах і дэталях інтэр'ера яна знаходзіць дакладныя аналогіі сярод жытлаў банцараўскай культуры, выяўленых А. Р. Мітрафанавым на гэтым жа паселішчы, а таксама на адкрытым паселішчы паблізу в. Гарадзішча (Митрофанов, 1978. Рис. 34, 38). Тым не менш яе культурная прыналежнасць устанаўліваецца вельмі выразна па развалу ляпнога штры-

хаванага гаршка рабрыстай формы (мал. 42:4), выяўленага ў паўночнай частцы печы-каменкі, а таксама па шматлікіх абломках аналагічных пасудзін і фрагменту прасліца, знойдзеных ў запаўненні. Наяўнасць аднатыпных, але рознакультурных жытлаў на адным і тым жа помніку тлумачыцца суіснаваннем на пэўнай стадыі носьбітаў гэтых дзвюх культур, у выніку чаго адбылося запазычанне паўзямлянкавага тыпу жытлаў насельніцтвам, якое пакінула штрыхаваную кераміку. Падобная з'ява магла адбыцца не пазней пачатку V ст. н. э.

Такім чынам, у арэале культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі выяўлены тры тыпы жытлаў, сярод якіх наземныя жытлы слупавой канструкцыі былі найбольш тыповымі і былі ва ўжытку на ўсім працягу існавання культуры. Усе астатнія (наземныя і паглыбленыя зрубавай канструкцыі) з'яўляюцца не раней першых стагоддзяў н. э., што было абумоўлена кантактамі з плямёнамі суседніх паўднёва-ўсходніх тэрыторый.

Што тычыцца тэрыторыі Літвы, то там на працягу ўсяго перыяду культуры існавалі больш устойлівыя традыцыі домабудаўніцтва. Для гэтага рэгіёна былі характэрныя выключна наземныя пабудовы слупавой канструкцыі, якія маглі быць як аднакамернымі (Вялікі Наркунай, Нявярышке, Сакішкяй), так і шматкамернымі (Аукштадварыс, Вялікі Наркунай, Мігоніс і інш.), прычым у некаторых выпадках яны сустракаліся на адных і тых жа помніках (Даугудис, 1968. С. 27; Daugudis, 1975. P. 68; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 44. Pav. 68; Grigalavičienė, 1986. P. 86, 87. Pav. 5; Grigalavičienė, 1986б. P. 136, 137; Grigalavičienė, 1995. Pav. 20).

Гаспадарчыя збудаванні культуры штрыхаванай керамікі падзяляюцца на два тыпы: земляныя і наземныя. Першы тып пададзены ямамі-скляпамі. Яны выяўлены на гарадзішчы Лабеншчына, Збаравічы, Васількоўка і інш. Большасць гэтых ям мела круглую ці авальную ў плане форму. У нязначнай колькасці сустракаюцца скляпы іншых абрысаў. Іх памеры — 1—3 × 0,6—2 м, глыбіня — 0,5—0,7 м. Разрэз ямы чашападобны. Пры даследаванні Збаравіцкага гарадзішча выяўлена яма-склеп, сценкі якой абмазаны глінай і вымашчаны дробнымі камянямі. Блізкі будаўнічы прыём зафіксаваны і ў Васількоўцы з тым толькі адрозненнем, што сценкі склепа былі абкладзены камянямі без папярэдняй абмазкі глінай. Яшчэ ў адным выпадку на гэтым жа помніку ўдалося выявіць сляды перакрыцця над гаспадарчай ямай. Гэта яма мела авальную ў плане форму даволі буйных памераў: 3,2 × 1,95 м. Яна была ўрэзана ў схіл пляцоўкі, таму яе глыбіня ў паўночна-заходняй частцы дасягала 0,4—0,5 м, а з процілеглага зусім зыходзіла. З усходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў былі прасочаны слупавыя ямы, якія падтрымлівалі нейкае перакрыццё над склепам (Митрофанов, 1978. С. 19, 22, 26, 27).

Другім тыпам гаспадарчых пабудоў на гарадзішчах культуры штрыхаванай карамікі з'яўляюцца наземныя пабудовы, прызначаныя для стойлавага ўтрымання жывёлы і іншых мэтаў. Адна з такіх пабудоў выяўлена на Васількоўскім гарадзішчы. Па сваіх канструкцыйна-будаўнічых прыёмах яна амаль нічым не адрознівалася ад жытла, выяўленага тут. Таксама, як і жытло, гэта гаспадарчае збудаванне было слупавым і мела шматкамерную канструкцыю. Пабудова падзялялася на чатыры секцыі, з якіх тры мелі прамавугольную, а чацвёртая — трапецападобную форму (Митрофанов, 1978. Рис. 11). Прамавугольныя памяшканні былі аднаго памеру (3,8 × 2,4 м), трапецападобнае — крыху меншае. Аметнымі асаблівасцямі гаспадарчай

пабудовы ад жытла з'яўляліся адсутнасць ачагоў і меншыя памеры памяшканняў.

Такім чынам, можна лічыць, што для носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі былі характэрны розныя тыпы жытлаў і гаспадарчых пабудоў. Адсутнасць універсалізацыі ў жытлабудаванні, відаць, вызначалася рознымі прычынамі як знешняга, так і ўнутранага парадку.

## 4. МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА І ГАСПАДАРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Важнае значэнне для характарыстыкі гаспедарчага і духоўнага жыцця плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі мае рознапланавы інвентар, што знаходзяць пры раскопках паселішчаў. Найбольш шматлікую групу знаходак складаюць ляпныя пасудзіны, якія па храналогіі ўжывання падзяляюцца на дзве групы: раннюю (1-е тысячагоддзе да н. э.) і познюю (канец 1-га тысячагоддзя да н. э. — першая палова 1-га тысячагоддзя н. э.). Посуд першай групы з улікам прафілёўкі корпуса падзяляецца на два тыпы: 1) слоікавыя (мал. 41:7, 8, 10); 2) слабапрафіляваныя (мал. 41:1—6, 9, 11—16).

Пасудзіны слоікавай формы маюць прамыя, звужаныя да донца сценкі, венчык ці пастаўлены вертыкальна, ці мае нязначны ўхіл унутр. Донцы заўсёды плоскія. Гэты посуд мае, як правіла, суцэльную хаатычна нанесеную штрыхоўку. Арнаментыка, за рэдкім выключэннем, не характэрна. Пасудзіны слоікавай формы сустракаюцца ў асноўным на паўночным захадзе беларускага арэала культуры штрыхаванай керамікі (Гарані, Гарадзішча Мядзельскага раёна, Зазоны, Рацюнкі Браслаўскага раёна і інш.) і знаходзяць поўную аналогію сярод керамікі літоўскага арэала культуры (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 57; Grigalavičienė, 1986a. Pav. 26; Grigalavičienė, 1986б. Pav. 32, 33). Да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. колькасць слоікавых пасудзін рэзка скарачаецца, аднак у нязначнай колькасці яны яшчэ знаходзяцца ва ўжытку і на познім этапе.

Слабапрафіляваныя гаршкі характарызуюцца прамым вертыкальна пастаўленым ці злёгку адагнутым вонкі венчыкам, акруглым тулавам і плоскім дном. Дыяметр гэтых пасудзін па зрэзе венчыка вагаецца ад 10 да 40 см, аднак большую частку складаюць экземпляры з дыяметрам у межах 18—30 см.

Пераважная колькасць гаршкоў другога тыпу пакрыта хаатычнай штрыхоўкай ці цалкам ад зрэзу венчыка да донца ці ед шыйкі ўніз да днішча. Разам з гэтым ёсць і гладкасценныя экземпляры, аднак іх колькасць невялікая. Шэраг гаршкоў мае дадатковую арнаментыку ў выглядзе ямкавых уцісканняў, якія размяшчаліся па шыйцы і прылеглай частцы тулава. Уцісканні, як правіла, размяшчаюцца ў лінію праз раўнамерныя прамежкі, радзей сканцэнтраваны па два-тры. Акрамя гэтага, сустракаюцца асобныя знаходкі верхніх частак гаршкоў, у якіх ямкавыя ўцісканні ўтвараюць трохвугольнікі, таксама размешчаныя ў лінію праз пэўныя інтэрвалы. Пасудзіны другога тыпу былі распаўсюджаны ў 1-м тысячагоддзі да н. э. і к рубяжу новай эры выходзяць з ужытку. У беларускім арэале культуры яны характэрныя ў асноўным для паўночнага захаду (Гарані, Гарадзішча Мядзельскага раёна, Зазоны, Рацюнкі, Укля Браслаўскага раёна). Дакладныя аналагі сустракаюцца ва Усходняй Літве, дзе яны з'яўляюцца адным з асноўных відаў посуду ранняга этапу культуры штрыхаванай карамікі (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 56; Grigalavičienė, 1986a. Pav. 23—25; Grigalavičienė, 1986б. Pav. 27—31).

Тэхналогія вырабу посуду ранняга этапу аднастайная. Увесь ён вылеплены ад рукі з дапамогай стужкава-кальцавога налепу. Шырыня стужак вагаецца ў межах 4—6 см. У цеста ў якасці прымешак дабаўляліся жарства і буйназярністы пясок. Абпальванне посуду на вогнішчы нераўнамернве, аднак механічная трываласць абломкаў дастаткова высокая.

З канца 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. паўсюдна адбываецца змена керамічнага матэрыялу. Замест слоікавых і слабапрафіляваных пасудзін шырокае распаўсюджанне атрымалі рабрыстыя гаршкі, якія дамінуюць аж да спынення функцыяніравання культуры (мал. 42). Лічыцца, што яны сфарміраваліся на падставе слоікавых пасудзін (Данилайте, 1968. С. 16; Митрофанов, 1978. С. 32). Тэхналогія вырабу іх не змянілася. Гаршкі позняй групы, як і ў папярэдні час, ляпіліся ад рукі стужкава-кальцавым метадам з дабаўленнем у цеста жарствы і буйназярністага пяску.

Па прафілёўцы верхняй часткі рабрыстыя пасудзіны падзяляюцца на два варыянты: 1) з прамым, нахіленым унутр венчыкам; 2) таксама з прамым, нахіленым унутр венчыкам, але ў адрозненне ад гаршкоў першага варыянта ў гэтай групы пасудзін заканчэнне венчыка ці пастаўлена вертыкальна, ці злёгку адагнута вонкі.

Абодва варыянты маюць рабро ў верхняй трэці вышыні. Тулава рабрыстых пасудзін мае выгляд усечанага конуса. Донцы заўсёды плоскія. Памеры рабрыстых гаршкоў розныя: дыяметр па срэзе венчыка 10—40 см, дыяметр донца 6—17 см. Разам з тым пераважаюць пасудзіны, якія маюць сярэднія памеры, у прыватнасці тыя, у якіх дыяметр па срэзе венчыка складае 20—25 см. Значны дыяпазон памераў гаршкоў тлумачыцца іх розным функцыянальным прызначэннем. Гаршкі сярэдніх памераў у большасці выпадкаў маюць сляды нагару, што сведчыць аб прыгатаванні ў іх ежы. Вялікія пасудзіны, відаць, служылі для захавання розных харчовых прадуктаў.

Посуд позняй групы таксама, як і ранні, пакрыты штрыхоўкай, якая ў большасці выпадкаў наносілася ад рабра да донца. Венчыкі, як правіла, не штрыхаваліся. Доля пасудзін, заштрыхаваных поўнасцю, невялікая.

Адной з адметных асаблівасцей рабрыстых гаршкоў у параўнанні з посудам больш ранняга часу з'яўляецца арнаментыка. Калі ў 1-м тысячагоддзі да н. э. арнаментаваная кераміка складала нязначны працэнт і была пададзена выключна ямкавымі ўцісканнямі, то ў перыяд росквіту культуры ў першых стагоддзях н. э. колькасць арнаментаваных пасудзін рэзка ўзрастае (напрыклад, у Івані яна складае 25%). У гэты час з'яўляюцца новыя разнастайныя прыёмы арнаментыкі: зашчыпы, пазногцевыя, ямкавыя і пальцавыя ўцісканні, нарэзы, а таксама камбінаваныя ўзоры.

Найбольш шматлікую групу складаюць пальцавыя зашчыпы, што наносяцца па рабру пасудзін. Сярод іх вядомы два віды: вертыкальныя і гарызантальныя. Размяшчаліся яны, як правіла, па адным праз роўныя інтэрвалы (мал. 42:5). Радзей сустракаюцца пасудзіны, у якіх зашчыпы сканцэнтраваны па 2—4 у групе альбо ўтвараюць трохвугольнікі (мал. 42:1). На думку А. Р. Мітрафанава, гэты від арнаменту не заставаўся нязменным, а з цягам часу дэградзіраваў у слабыя пазногцевыя ўцісканні (Митрофанов, 1978. С. 33).

Другое месца пасля зашчыпнага займае ямкавы арнамент, які наносіўся круглай палачкай па рабру пасудзіны. Ямкі, як правіла, размяшчаліся ў адзін рад ушчыльную адна да адной ці праз невялікія інтэрвалы. У некаторых выпадках яны ўтвараюць трохвугольнікі (зрэдку сустракаюцца абломкі пасудзін, у якіх ямкавыя ўцісканні нанесены па зрэзе венчыка).

Наступную катэгорыю арнаменту складаюць розныя наразныя лініі, нанесеныя па венчыку. Яны ўтвараюць Х-падобныя, зігзагападобныя і хвалістыя формы (мал. 42:1). У асобных выпадках наразныя лініі суправаджаюцца іншымі відамі дэкору, у прыватнасці ямкавымі і кропкавымі ўцісканнямі (Егорейченко, 1996а. Рис. 24:1).

Да ліку рэдкіх адносіцца арнамент, утвораны пальцавымі ўцісканнямі па краі венчыка, у выніку чаго ён набывае хвалістую форму. Трэба адзначыць, што для Беларусі гэты від арнаменту сустракаецца вельмі рэдка (Кашчэлічы, Малышкі, Мыслі). Аналагі яму можна знайсці галоўным чынам у Літоўскім Занямонні. Важна падкрэсліць, што ўсе пералічаныя вышэй віды арнаменту, выяўленыя на рабрыстым посудзе беларускага арэала культуры штрыхаванай керамікі, знаходзяць сабе дакладныя аналагі ў літоўскай частцы культуры. Разам з тым там адзначаны іншыя віды арнаменту, не характэрныя для беларускага рэгіёна.

К канцу існавання культуры штрыхаванай керамікі колькасць арнаментаваных гаршкоў рэзка скарачаецца. Сам арнамент робіцца больш простым, а затым і поўнасцю знікае. Назіраецца трансфармацыя і ў форме пасудзін. На гаршках паступова згладжваецца, а затым і поўнасцю знікае рабро. Гаршкі набываюць слабапрафіляваную, а ў некаторых выпадках дастаткова прафіляваную форму. Глыбіня штрыхоўкі робіцца больш мелкай і ў рэшце рэшт зусім знікае. На змену штрыхаваным гаршкам прыходзяць гладкасценныя і шурпатыя пасудзіны.

У нязначнай колькасці на гарадзішчах культуры штрыхаванай карамікі ў першых стагоддзях н. э. сустракаецца глянцаваны і падглянцаваны посуд. Першы пададзены ў асноўным міскамі, зробленымі з добра адмучанай гліны і высокай якасцю апрацоўкі паверхні. Колер глянцавання вар'іруе ад шэрага да карычневага і чорнага. Па сваёй прафілёўцы яны вельмі блізкія зарубінецкім міскам варыянтаў Б і В групы І па класіфікацыі Ю. В. Кухарэнкі (Кухаренко, 1964. Табл. 6) і трапілі ў арэал культуры штрыхаванай керамікі, відаць, у выніку гандлёвага абмену. Часцей за ўсё глянцаваныя міскі сустракаюцца на паўднёва-ўсходніх помніках (Івань, Мыслі, Навасёлкі, Аздзяцічы) (Егорейченко, 1996а. Рис. 19, 20), у больш паўночных раёнах яны рэдкія (Кашчэлічы) (Медведев, 1996. Рис. 88:1, 3—5). У адрозненне ад глянцаванага падглянцаваны посуд паўтарае форму рабрыстых гаршкоў. Ён зроблены горш і, безумоўна, з'яўляецца мясцовай вытворчасцю. Знаходкі яго адзначаны ў Вязынцы і Малышках (Митрофанов, 1978. Рис. 24).

У шэрагу выпадкаў на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі (Збаравічы, Кашчэлічы, Лабеншчына, Малышкі) выяўлены мініяцюрныя пасудзіны вышынёй ад 1,2 да 5 см і дыяметрам па зрэзе венчыка ад 2,5 да 7 см. Іх форма слоікавая і міскападобная. Калі першыя маглі выкарыстоўвацца ў бытавых мэтах, то прызначэнне асебліва маленькіх, міскападобнай формы, не паддаецца адназначнаму вырашэнню. Магчыма, яны выкарыстоўваліся ў культавых мэтах.

Вялікую групу знаходак на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі складаюць прылады працы. Яны разнастайныя і характарызуюць асноўныя бакі гаспадарчай дзейнасці носьбітаў культуры.

Ранні комплекс вырабаў пададзены шматлікімі і разнастайнымі вырабамі з каменю і касцей жывёл, што выкарыстоўваліся да з'яўлення жалеза для вырабу прыладаў працы, бытавога інвентару і ўпрыгожанняў. У Беларусі падобны комплекс рэчаў пададзены на помніках паўночна-заходняй часткі

арэала, што прымыкала да беларуска-літоўскага лаўзмежжа, у прыватнасці на гарадзішчах Зазоны, Рвцюнкі, Гарані і інш.

Сярод каменных вырабвў найбольш вялікую групу складаюць сякеры, якія падзяляюцца на два тылы: 1) свідраваныя абушковыя (мал. 46:15—18); 2) клінападобныя (мал. 46:1—14). Пераважаюць апошнія.

Аналагічныя вырабы выяўлены таксама на ранніх гарадзішчах літоўскага арэала культуры штрыхаванай керамікі: Наркунай, Невярышкес і Сакішкяй у слаях апошняй чвэрці 2-га — трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э. (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 17; Grigalavičienė, 1986a. Pav. 8, 9; 10: 1, 3, 4; Grigalavičienė, 1986б. Pav. 10, 12—14), а таксама на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры 1-га тысячагоддзя да н. э. (Шадыро, 1985. С. 31, 32. Рис. 15:1—7, 18).

Асартымент вырабаў з косці і рогу больш шырокі. Самую вялікую групу складаюць розныя вастрыі: праколкі, шыльцы, качадыкі. Праколкі і шыльцы былі выраблены з трубчастых касцей жывёл, расколатых уздоўж, з наступнай заточкай аднаго з канцоў (мал. 43:8—12, 14—17, 20, 21, 23). У залежнасці ад прызначэння яны маюць розныя памеры: ад 3 да 20 см у даўжыню. Як і праколкі, качадыкі выраблялiся з трубчастых касцей жывёл, аднак у іх завастраўся ўнутраны бок рабочай часткі (мал. 43:7, 13, 22, 27, 28).

Усе гэтыя вастрыі таксама, як і каменныя сякеры, знаходзяць сабе дакладныя аналагі ў ранніх слаях усходнелітоўскіх і днепра-дзвінскіх гарадзішчаў (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 23—25; Grigalavičienė, 1986a. Pav. 14; Grigalavičienė, 1986б. Pav. 15, 16; Шадыро, 1985. Рис. 20—23). Невялікая серыя касцяных вырабаў пададзена нажамі. Рабочая частка ў іх мае клінападобную форму, ручка — у плане чатырохвугольная. Для апрацоўкі скуры выкарыстоўваліся тупікі, зробленыя з рабрын. Шэраг вырабаў служыў для апрацоўкі дрэва, сярод іх долаты і стамескі. Долаты ў большасці зроблены з трубчастых касцей, толькі адно з лапаткі. Рабочая частка ў іх мае клінападобную форму (мал. 43:1—6). Стамескі па сваёй форме і зыходнай сыравіне былі блізкія да долатаў, аднак рабочая частка у іх значна вузейшая. Аналагічныя вырабы ёсць у ранніх помніках як у Літве (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 27, 28:1—6; Grigalavičienė, 1986a. Pav. 17:2—5, 6, 8, 9; Grigalavičienė, 1986б. Pav. 19:4, 6, 7, 9), так і ў Беларускім Паддзвінні (Шадыро, 1985. Рис. 25).

Разгледжаныя вышэй прылады працы (долаты, стамескі) замацоўваліся ў касцяных ручках. Яны выраблялiся з трубчастых костак ці рогаў жывёл і мелі трапецападобную форму (мал. 43:19, 24—26). У адной з ручак тыльны бок заканчваўся круглай плешкай, у другой быў арнаментаваны пяццю прарэзанымі лініямі, нанесенымі перпендыкулярна восі. Адтуліны для прыладаў працы ў ручках неглыбокія і маюць эліпсападобнае ці кроплепадобнае сячэнне, што сведчыць пра замацаванне ў іх касцяных ці каменных прадметаў. Падобныя вырабы вядомы на гарадзішчы Сакішкяй (Grigalavičienė, 1986б. Pav. 23:13) і на днепра-дзвінскіх умацаваных паселішчах (Шадыро, 1985. Рис. 27:4, 6).

Вялікую групу вырабаў з косці складаюць прадметы ўзбраення. Сярод іх утулкавы наканечнік дзіды, зроблены з лапатачнай косткі. У яго лістападобная форма пяра з патаўшчэннем па цэнтры ляза (мал. 44:24). На канцы ўтулкі ёсць скразная адтуліна для мацавання. Такі наканечнік дзіды выяўлены на гарадзішчы Сакішкяй у Літве (Grigalavičienė, 1986б. Pav. 20:8). Відаць, да гэтай жа групы можна аднесці яшчэ адзін наканечнік, які быў знойдзены ў Гаранях (мал. 44:25).

Значна большае распаўсюджанне мелі наканечнікі дзідаў, выробленыя з трубчастых костак жывёл, у якіх лязо зроблена шляхам заточвання аднаго з канцоў (Зверуго, 1992. Рис. 4:27—29; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 32; Grigalavičienė, 1986а. Pav. 18:1—4; Grigalavičienė, 1986б. Pav. 20:13, 18).

Шматлікую групу складаюць наканечнікі стрэл (мал. 44:1—11, 14, 15, 17—20). Па спосабу мацавання яны падзяляюцца на тронкавыя і ўтулкавыя, прычым першыя дамінуюць. Па форме пяра сярод тронкавых наканечнікаў вылучаюцца наступныя тыпы: адна- і двушыпныя, ромбападобныя, трохвугольныя, лістападобныя, а таксама аморфныя, якія выробленыя з расколатых трубчастых костак. Для ўтулкавых наканечнікаў характэрна кулепадобная форма. Аналагічныя тыпы тронкавых і ўтулкавых стрэл сустракаюцца на тэрыторыі Польшчы, Латвіі, у Падзвінні, Волга-Окскім Міжрэччы і іншых месцах у эпоху позняй бронзы (Prahistoria... 1979. Tabl. XXXVII: 6; LA, 1974. Tabl. 8: 3; Смирнов, 1974. Табл. 1; Дубынин, 1974. Табл. II:1—23, 24, 28; Шадыро, 1985. Рис. 28). Апошняя катэгорыя зброі прадстаўлена кінжаламі, якія выраблялiся з цэлых ці расколатых трубчастых касцей шляхам заточвання баявой часткі на конус. Ручкі ў іх альбо не вылучаліся, альбо афармляліся шляхам плаўнага звужэння ў месцы пераходу ляза ў ручку (мал. 44:12, 13). Падобны від зброі з'яўляецца дастаткова рэдкім. У культуры штрыхаванай керамікі ён меў распаўсюджанне толькі ў ранніх помніках Паўночна-Заходняй Беларусі (Зазоны, Рацюнкі) і Паўночна-Усходняй Літвы (вёскі Наркунвй, Машкенай, Нявярышкес, Сакішкяй). У іншых частках арэала кінжалы не знойдзены.

Асобную групу касцяных прылад складаюць прадметы, якія звязаны з рыбалоўствам. Сярод іх — гарпуны і кручкі. Гарпуны маюць найпрасцейшую форму з адным зубам (мал. 44:16). Вялікая частка іх, мяркуючы па наяўнасці муфты на аснове, адносіцца да катэгорыі аддзяляльных па класіфікацыі К. А. Смірнова (Смирнов,1974. С. 35). Рыбалоўныя кручкі, якія вядомы толькі ў Літве, маюць традыцыйную форму, аднак без вылучанага джала. На думку Э. Грыгалавічэне, большасць касцяных прылад працы і зброі захоўвае форму вырабаў яшчэ каменнага веку, аднак якасць іх вытворчасці значна паніжаецца (Grigalavičienė, 1976. С. 55).

Вялікае распаўсюджанне на раннім этапе культуры штрыхаванай керамікі мелі касцяныя шпількі. У адпаведнасці з класіфікацыяй Я. Я. Граўдоніса (Graudonis, 1974. Lpp. 63—72) іх можна падзяліць на дзве групы: 1) шпількі, у якіх галоўка захоўвае натуральную форму (мал. 45:18, 25, 26); 2) шпількі са штучна нададзенай формай галоўкі (мал. 45:15—17, 19—24, 27—31). Першая група шпілек мела вельмі працяглае ўжыванне. З'явіўшыся на першым этапе культуры, яны працягвалі існаваць аж да яе знікнення. Аналагічныя вырабы ўжываліся ў цэлым шэрагу культур лясной паласы Усходняй Еўропы (Смирнов, 1974. Табл. IV:22; Дубынин, 1974. Табл. VI:13, 14; LA, 1974. Lpp. 66. Att. 1:1—8; Шадыро, 1985. Рис. 21:6—13; 26:1, 2, 7).

Шпількі другой групы часта маюць цвікападобную галоўку і вушка ў верхняй частцы, у якой прароблена адтулінв для шнурка. Адна з іх была пакрыта цыркульным арнаментам (мал. 45:20). Яшчэ ў адной шпількі яе верхняя частка аформлена насечкамі з процілеглых бакоў (мал. 45:30). У адрозненне ад вырабаў першай групы гэтыя тыпы шпілек былі ва ўжытку толькі на раннім этапе культуры. У слаях з рабрыстым посудам яны не сустракаюцца. Падобныя шпількі шырока сустракаюцца на гарадзішчах Літвы, Латвіі, днепра-дзвінскай і іншых культур лясной паласы (Volkaitė-

Kulikauskienė, 1986. Pav. 37, 38; Grigalavičienė, 1986a. Pav. 20:1—4; Яна ж, 1986б. Pav. 21:1—12; LA, 1974. Att. 1:18—23; Трацьяков, 1976. С. 212. Рис. 4:24—26; Шадыро, 1985. Рис. 27;1—3).

Упрыгожанні ранняга перыяду культуры радкія. Яны пададзены круглай у плане падвескай усечана-канічнай формы з Рацюнак, пустой унутры, верхняя частка якой упрыгожана насечкамі і мве дзве адтуліны для мацавання (мал. 45:2). Дакладная аналогія ёй знаходзіцца на гарадзішчы Осына (Трацьяков, 1976. С. 213. Рис. 4:22).

Значна часцей на ранніх помніках сустракаюцца амулеты, якія зроблены з іклаў мядзведзя ці дзіка, плечавых касцей бабра, радзей з кіпцюроў мядзведзя (мал. 45:5—8, 12—14).

З'яўленне жалеза садзейнічала паступоваму выцясненню касцяных прыладаў працы. Вырабы з жалеза ўваходзяць ва ўжытак і атрымліваюць шырокае распаўсюджанне. Сярод універсальных прыладаў працы асобае месца займаюць сякеры і кельты. Відаць, асноўнае іх прызначэнне — высечка лесу пад участкі, прыдатныя для земляробства. Разам з гэтым яны выкарыстоўваліся ў домабудаўніцтве, а таксама ў бытавой апрацоўцы дрэва. Знаходкі менавіта сякер — рэдкія. Да іх адносяцца цэлыя экземпляры з Малышак і Гараней (мал. 47:23) і фрагмент ляза, які знойдзены ў Лабеншчыне. Па сваім выглядзе яны параўнальныя з сякерамі паўднёвапрыбалтыйскага тыпу (Митрофанов, 1978. С. 34). Значна часцей на гарадзішчах культуры сустракаюцца жалезныя кельты з прамавугольнай утулкай (мал. 47:24). Яны ў асноўным знойдзены ў паўднёва-ўсходняй частцы арэала (Івань, Слуцк), радзей — у Паўночна-Заходняй Беларусі (Гарадзішча Мядзельскага раёна).

Падобныя вырабы знаходзяць поўныя аналагі сярод зарубінецкіх помнікаў: яны, у прыватнасці, знойдзены ў закрытых комплексах Чаплінскага могільніка (Поболь, 1973в. Рис. 60:21; 65:2; 67:3). Іх з'яўленне на гэтых гарадзішчах, відаць, трэба звязаць з кантактамі носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі з плямёнамі зарубінецкай культуры, што мела месца ў І ст. н. э.

Разам з сякерамі на шэрагу паселішчаў культуры штрыхаванай керамікі выяўлены іншыя вырабы, звязаныя з апрацоўкай дрэва. Да іх ліку адносяцца ў першую чаргу цеслападобныя прылады працы (Дзядзілавічы, Кашчэлічы, Лабеншчына). Яны ўяўляюць сабой даволі буйныя, да 17—25 см даўжынёй, вырабы, якія маюць сякерападобную рабочую частку, што заканчваецца масіўнай, звыш за 2 см у дыяметры, ручкай (мал. 47:12). На тэрыторыі Беларусі аналагічныя знаходкі знойдзены толькі на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры (Шадыро, 1985. Рис. 40:1). За межамі рэспублікі падобныя цеслападобныя прылады працы дастаткова шырока вядомыя ў Прыбалтыцы, дзе яны датуюцца першымі стагоддзямі н. э. (Митрофанов, 1978. С. 35). Разглядаемыя ўзоры таксама не выходзяць за гэтыя храналагічныя рамкі.

Адзінай знаходкай на помніках культуры штрыхаванай керамікі з'яўляюцца спружынныя нажніцы (мал. 47:1), якія знойдзены на гарадзішчы Мыслі. Дакладныя аналогіі ім маюцца ў культурах рымскага часу на тэрыторыі Польшчы (Prahistoria... 1981. Rус. 16, 25, 26:13).

Важнае месца сярод прыладаў працы займаюць прадметы, звязаныя з уборкай ураджаю: жатныя нажы і сярпы (мал. 36:13—20). Пра тое, што земляробства адыгрывала істотную ролю ў агульнай сістэме гаспадарчага ўкладу плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі, сведчыць масавасць гэтай катэгорыі знаходак на многіх паселішчах: Лабеншчына — 18, Івань — 36,

Малышкі — 7, Банцараўшчына — 7. Агульная колькасць іх к цяперашняму часу перавышае 100 экз. Для жатных нажоў уласціва прамое ці нязначна выгнутае лязо, што пашыраецца да ручкі, выгнутая спінка. У большасці выпадкаў пераход ляза ў ручку аформлены ў выглядзе ўступа, аднак сустракаюцца экземпляры, у якіх пераход рабочай часткі ў ручку цяжка прыкметны. Памеры цэлых нажоў: даўжыня рабочай часткі 8—15 см, шырыня — 1,5—2,5 см, даўжыня ручкі — ад 3 да 8 см.

У адрозненне ад жатных нажоў сярпы маюць іншую форму. Для іх характэрна больш выгнутае лязо, якое пераходзіць у ручку шляхам спецыяльна зробленага ўступа ці без яго. Усе знойдзеныя на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі сярпы адносяцца да IV і V тыпаў аддзела тронкавых, паводле класіфікацыі Ю. А. Краснова (Краснов, 1971. С. 74, 75). Блізкія па формах і памерах сярпы вядомыя сярод рэчавага комплексу днепра-дзвінскай культуры (Шадыро, 1985. Рис. 32:1—7; 33:1—3).

Да ліку рэдкіх знаходак на помніках культуры штрыхаванай керамікі адносіцца касе, знойдзеная на гарадзішчы Кашчэлічы (Медведев, 1996. Рис. 51:3). У яе шырокае доўгае лязо, якое пад вуглом 120° пераходзіць у ручку. На месцы пераходу з унутранага боку прасочваецца плаўны выступ. У адрозненне ад сярпоў і жатных нажоў мацаванне ляза касы з дрэўкам ажыццяўлялася з дапамогай кручка, размешчанага перпендыкулярна ручцы. Важна падкрэсліць, што гэты выраб па сваёй форме блізкі да сярпоў, якія, відаць, з'явіліся прататыпам для новага віду жатных прыладаў працы. Дакладныя аналогіі касе з Кашчэліч невядомы, але ў той жа час адзначана, што косы з'явіліся ў Еўропе ўжо ў эпоху латэну. Яны вядомы таксама ў Латвіі і Заходняй Літве (Граудонис, 1985а. С. 28, 29).

Сярод жалезных прыладаў працы, знойдзеных на паселішчах, часта сустракаюцца нажы (мал. 47:2—5). Да цяперашняга часу іх вядома звыш 20 экз. Тыпалагічна яны падзяляюцца на дзве групы: 1) нажы з гарбатай спінкай; 2) нажы з прамой спінкай. На думку А. Р. Мітрафанава, першыя з'яўляюцца раней, прыкладна ў I ст. да н. э., у той час як нажы з прамой спінкай сустракаюцца ў слаях, датаваных больш познім часам (Митрофанов, 1978. С. 34, 35). Стандартызацыі ў памерах жалезных нажоў, як, дарэчы, і большасці іншых прадметаў, не існавала. Аналагічныя знаходкі вядомы сярод большасці сумежных культур ранняга жалезнага веку (Шадыро, 1985. Рис. 35:1, 6—9; Самойловский, 1959. С. 90. Табл. 5:115; Третьяков, 1959. С. 139. Рис. 12:8; Поболь, 1971в. Рис. 66:8; Дубынин, 1974. С. 262. Табл. VIII:7, 2).

Вялікую групу прыладаў працы складаюць жалезныя шылы. Гэтыя вырабы ўяўляюць сабой жалезныя стрыжні, якія маюць круглую ў сячэнні рабочую частку і чатырохвугольнае дзяржанне, на якое насаджвалася драўляная ці касцяная ручка (мал. 47:6—11). У культуры штрыхаванай керамікі шылы пануюць на познім этапе. Аналогіі ім вядомы ў шэрагу культур лясной паласы жалезнага веку, у прыватнасці, яны сустракаюцца на помніках мілаградскай, зарубінецкай, днепра-дзвінскай і іншых культур (Мельниковская, 1967. Рис. 24:8—11; Максимов, 1982. Табл. XXVIII:6, 7; Бидзиля, Пачкова, 1969. С. 70. Рис. 11:18; Шут, 1966. Рис. 6:10; 7:11, 15; 10:6—9; Шадыро, 1985. Рис. 36:1—6, 9, 10).

У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. з'яўляецца жалезная зброя, а з I ст. н. э. яна робіцца пануючай. Разам з гэтым відавая разнастайнасць прадметаў узбраення ў першай палове 1-га тысячагоддзя н. э. значна бяднейшая, чым у папярэднюю эпоху, і характарызуецца наканечнікамі дзідаў, дроцікаў і ўто-

камі. Іншыя тыпы ўзбраення на гарадзішчах беларускага арэала культуры штрыхаванай керамікі да цяперашняга часу на знойдзены, за выключэннем багата арнаментаванай касцяной ручкі ад кінжала, у тарцы якой захаваўся адбітак тронкі і ляза шырынёй 3,5 см (мал. 48:5).

Да ліку найбольш ранніх жалезных знаходак зброі серыі А. Р. Мітрафанаў адносіць абломак наканечніка дзіды, знойдзенай у ніжнім гарызонце гарадзішча Лабеншчына. Грунтуючыся на лапярочным сячэнні ляза, ён датуе яго элохай сярэдняга латэну (Митрофанов, 1978. С. 37). Шэраг наканечнікаў дзідаў, знойдзеных на гарадзішчах Івань, Малышкі, Свідна, меў вастралістую форму і ромбападобнае ці блізкае да яго сячэнне ляза (мал. 48:7—9). Суадносіны даўжыні пяра да даўжыні ўтулкі ў іх складалі прыкладна 2:1. Дзіды падобных форм і прапорцый мелі вельмі шырокія тэрытарыяльныя і храналагічныя рамкі: з'явіўшыся яшчэ ў V—III стст. да н. э. на тэрыторыі Скіфіі, яны працягваюць сустракацца нават у эпоху Кіеўскай Русі (Мелюкова, 1964. Табл. 14:10; Кирпичников, 1966. С. 12, 13. Табл. II:4—6; III:6, 7; IV:2, 3, 8, 9; V:4, 8, 9 і інш.). Больш блізкімі тэрытарыяльнымі і храналагічнымі аналогіямі дзідам культуры штрыхаванай керамікі могуць лічыцца знаходкі з Чаплінскага могільніка (Поболь, 1973. Рис. 19:18; 28:12; 44:7; 47:11), днепрадзвінскага гарадзішча Буракова (Шадыро, 1985. Рис. 37:1), помнікаў оксыўскай культуры ў Польшчы (Prahistoria... 1981. Рус. 44:4).

Яшчэ адзін наканечнік дзіды, знойдзены на гарадзішчы Кашчэлічы, па сваёй форме і прапорцыях знаходзіцца асобна ад разгледжанай вышэй серыі. Для яго характэрны падоўжна-трохвугольная форма пяра са згладжанымі плечыкамі і пашыраная кнізу ўтулка (мал. 48:6). Суадносіны даўжыні пяра да даўжыні ўтулкі складаюць прыкладна 1:1. Бліжэйшымі аналогіямі гэтай дзіды з'яўляюцца знаходка з пахавання ў Швайцарыі (заходнебалтыйская культура), што датуецца другой паловай II ст. н. э. (Prahistoria... 1981. Рус. 97), а таксама наканечнік, знойдзены на дзякаўскім Шчэрбінскім гарадзішчы ў слоі III—IV стст. н. э. (Дубынин, 1974. С. 229. Табл. VII:6).

Наступная група ўзбраення пададзена дроцікамі. Яны маюць шырока распаўсюджаную форму ў выглядзе трохвугольнага пяра з двума шыпамі і адносна доўгай утулкай (Митрофанов, 1978. Рис. 22:10). Грунтуючыся на некаторых аналогіях, А. Р. Мітрафанаў лічыць, што дроцікі на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі з'яўляюцца больш раннімі ў параўнанні з дзідамі і датуюцца III—I стст. да н. э. (Митрофанов, 1978. С. 37, 38). Разам з тым трэба ўлічваць і тыя абставіны, што ў некаторых культурах, у прыватнасці ў оксыўскай і пшэворскай на тэрыторыі Польшчы, аналагічная зброя сустракаецца ў комплексах I—II стст. н. э. (Prahistoria... 1981. Tabl. XI:2. Рус. 44:5), а ў зарубінецкай культуры яны спалучаюцца з вастралістымі наканечнікамі дзідаў I ст. да н. э. — I ст. н. э. (Поболь, 1971в. Рис. 55:1—5. Рис. 56). Такім чынам, датаваць дроцікі культуры штрыхаванай керамікі трэба канцом 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э.

Разнастайную групу знаходак складаюць упрыгожанні і дэталі адзення. Сярод іх цэнтральнае месца займаюць фібулы, якія мелі адносна вузкія рамкі ўжытку, што дазваляе больш дакладна датаваць асобныя помнікі і карэкціраваць храналогію культуры ў цэлым. Дзве фібулы, знойдзеныя на гарадзішчах Банцараўшчына і Навасёлкі, аднатыповыя (мал. 49:29). Паводле класіфікацыі А. К. Амброза, яны адносяцца да групы прагнутых падвязных фібул верхнеднялроўскай серыі і датуюцца I ст. н. э. (Амброз, 1966. С. 57. Табл. II:1, 2).

Аналагічныя вырабы знойдзены ў Чаплінскім могільніку, асобныя знаходкі сустракаюцца і ў іншых месцах (Амброз, 1966. С. 58). Яшчэ адна фібула, што паходзіць з гарадзішча Малышкі, мае кароткую спружыну з ніжняй цецівой і трохвугольны прыёмнік (мал. 49:23). А. К. Амброз адносіць гэту фібулу да групы воінскіх позналатэнскай схемы і датуе канцом І ст. да н. э. (Амброз, 1966. С. 23). Фібулы гэтай серыі, але з чатырохвугольным шчытком шырока прадстаўлены ў Чаплінскім могільніку і датаваны І ст. н. э. (Амброз, 1986. С. 23; Поболь, 1973в. Рис. 14:14; 25:9; 43:2; 44:4; 62:18; 63:3).

Да ліку рэдкіх знаходак на тэрыторыі Беларусі адносіцца аочкаавая фібула, знойдзеная на гарадзішчы Івань. Яна моцна прафіляваная, на згібе корпуса ёсць валік, на галоўцы выразаны дзве адтуліны — «вочкі», а корпус упрыгожаны насечкамі і наразнымі лініямі (мал. 49:26). Паводле класіфікацыі Р. Ямкі, фібула адносіцца да тыпу V серыі А і датуецца канцом першай чвэрці — сярэдзінай ці другой паловай І ст. н. э. (Jamka, 1964. S. 53, 54).

Прыкладна гэтым жа часам (фаза $B_1$в раннерымскага перыяду) датуе вочкавыя фібулы гэтага тыпу і К. Гадлоўскі (Prahistoria... 1981. S. 52. Ryc. 7). На тэрыторыі былога СССР гэтыя вырабы вядомы ў асноўным у Эстоніі (Шмидахельм, 1965. Рис. 13:4; 14:8). На думку Р. Ямкі, вочкавыя фібулы сфарміраваліся ў басейне Рэйна. У далейшым яны шырока распаўсюдзіліся ў Цэнтральнай Еўропе, а таксама ў Скандынавіі і Фінляндыі (Шмидехельм, 1955. С. 64; Wiklak, 1965. S. 191. Ryc. 6:m; Dąbrowska, Pozarzycka-Urbańska, 1978. S. 154. Ryc. 2; Prahistoria... 1981. Tabl. XXI:1, 2. Ryc. 80; Čižmář, Valentová, 1979. S. 144. Ryc. 1:6; Kolnik, 1958. S. 537. Ryc. 210:3).

Яшчэ дзве фібулы, якія знойдзены ў беларускім арэале культуры штрыхаванай керамікі, у прыватнасці на гарадзішчах Кашчэлічы і Мыслі, адносяцца да групы моцнапрафіляваных заходніх тыпаў (Амброз, 1966. С. 36). Яны маюць S-падобны корпус, масіўную галоўку і тоўстую ножку, укарочаны прыёмнік з адтулінамі (мал. 49:24, 25). Фібулы падобнага тыпу маюць даставаткова вузкія храналагічныя рамкі: 40—70-я гады І ст. н. э. (Амброз, 1966. С. 36). На тэрыторыі былога СССР неаднаразова сустракаліся ў Заходняй Украіне (Амброз, 1966. С. 36). У Беларусі вядома толькі адна знаходка, якая паходзіць з Атвержычаў (Кухаренко, 1961. Табл. 10:16).

У невялікай колькасці на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі вядомы падкованадобныя фібулы. Дзве з іх, знойдзеныя на гарадзішчы Васількоўка, зроблены з жалезнага прутка (Митрофанов, 1978. С. 36. Рис. 13:6). Іншых знаходак падобнага тыпу, нягледзячы на вялікую колькасць даследаваных паселішчаў, няма. Гэта дазваляе з вялікай ступенню верагоднасці лічыць, што яны трапілі да плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі ад носьбітаў зарубінецкай культуры, дзе аналагічныя знаходкі пададзены ў значнай колькасці (Поболь, 1971в. Рис. 57, 58). Прадстаўляе цікавасць падкованадобная бронзавая фібула з перахопам па цэнтры дугі і дыскападобнымі заканчэннямі, запоўненымі чырвонай эмаллю (мал. 49:27). А. Р. Мітрафанаў справядліва адзначае, што яна прывазная, спасылаючыся на аналогіі ў Літве, і датуе яе сярэдзінай ІІ ст. н. э. (Митрофанов, 1978. С. 37). Паводле класіфікацыі Е. Л. Гарахоўскага, фібула з Малышак адносіцца да серыі V, якая датавана ім другой паловай ІІ ст. н. э. (Гороховський, 1982. С. 25, 29, 30).

Паясны набор на гарадзішчах пададзены спражкамі і наканечнікам пояса. Канструктыўна спражкі падзяляюцца на два тыпы: адначастковыя і двухчастковыя. Адначастковыя спражкі знойдзены ў верхніх гарызонтах гарадзішчаў Рацюнкі, Кашчэлічы, Лабеншчына, Гарадзішча і Мелышкі (мал. 49:34,

35, 37—39). Усе яны выраблены з жалезных стрыжняў. Па форме падзяляюцца на прамавугольныя і авальныя. Прамавугольныя аднaчастковыя спражкі былі ва ўжытку на шырокай тэрыторыі Еўропы ў другой палове I — пачатку II ст. н. э. (Кухаренко, 1980. С. 47). Што датычыцца авальных спражак, то яны больш позніх. Дзве з іх (Кашчэлічы, Малышкі) маюць навялікія памеры і датуюцца другой паловай III — першай паловай IV ст. н. э. (Madyda, 1977. S. 377, 378; Гороховский, 1988. С. 42, 43). Трэцяя спражка (Гарадзішча Мядзельскага раёна) мела больш буйныя памеры і патоўшчаную пярэднюю частку. Такія экземпляры датуюцца другой паловай IV — першай паловай V ст. н. э. (Madyda-Legutko, 1983а. С. 33; Гороховский, 1988. С. 44, 45). Двухчасткавая жалезная спражка, знойдзеная ў верхнім гарызонце гарадзішча Лабеншчыны, складаецца з П-падобнай прамавугольнай у сячэнні дужкі і круглай восі. На процілеглых баках дужкі ёсць арнамент у выглядзе крыжыкаў, змешчаны паміж дзвюма папярочнымі выемкамі (мал. 49:36). Спражкі гэтага тыпу, таксама як і аднaчасткавыя, былі шырока распаўсюджаны ў Цэнтральнай Еўропе, дзе яны датуюцца ў асноўным II, радзей III ст. н. э. (Кухаранко, 1980. С. 48). Да ліку унікальных адносіцца бронзавы наканечнік з дыскападобным навершам, у якім мелася крыжападобнае паглыбленне, запоўненае чырвонай эмаллю (Зазоны) (мал. 49:40). Падобныя да гэтага экземпляры, аднак без эмаляў, адносяцца на тэрыторыі Польшчы да фаз $B_2/C_{1a}$ рымскага перыяду (Madyda-Legutko, 1983б. S. 98. Ryc. 2:2).

Шырокае распаўсюджанне ў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі мелі посахападобныя шпількі, выраблены ў асноўным з жалеза (мал. 49:41—51). Знаходкі з бронзы адзінкавыя. Яны прызначаліся для заколвання адзення і сустракаліся практычна на кожным паселішчы. Да цяперашнега часу вядома звыш 60 экземпляраў. Вядома, што посахападобныя шпількі былі шырока распаўсюджаны ў Еўропе на працягу доўгага перыяду (Седов, 1987а. С. 129—146; Поболь, 1971б. С. 239—246). Бліжэйшыя аналогіі шпількам культуры штрыхаванай керамікі знаходзяць у старажытнасцях мілаградскай, зарубінецкакй, юхнаўскай, днепра-дзвінскай культур (Мельниковская, 1967. Рис. 37:9, 10, 14, 15; Третьяков, 1959. Рис. 14, 15; Тратьяков, 1986. Рис. 50:7; Шут, 1966. Рис. 6:4, 5; Шадыро, 1985. Рис. 38:1—17).

Да дэталяў адзення едносяцца таксама круглыя нашыўныя бляшкі з бронзы. Па спосабу мацавання і прафілёўцы яны падзяляюцца на дзве групы: 1) выпуклыя, якія маюць з тыльнага боку пяцельку; 2) плоскія з дзвюма скразнымі адтулінамі. Бляшкі першай групы знойдзены ў ніжнім слоі гарадзішча Лабеншчына (Митрофанов, 1978. Рис. 25:14, 15). Вядома, што падобныя вырабы былі ва ўжытку ў 1-м тысячагоддзі да н. э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. на шырокай тэрыторыі ад Цэнтральнай Еўропы да Прыўралля (Митрофанов, 1978. С. 39). Тры бляшкі другой групы знойдзены на гарадзішчах Івань (Егорейченко, 1996а. Рис. 35:2, 4) і Гаредзішча (Гуревич, 1962. Рис. 20). Яны выраблены з тонкіх бронзавых пласцінак і знешне падобныя да гузікаў. Адна з бляшак з'яўляецца нарыхтоўкай: у яе адсутнічаюць адтуліны для мацавання. Аналогіі гэтым вырабам за межамі культуры штрыхаванай керамікі невядомыя.

У параўнанні з раннім перыядам на заключным этапе культуры, у першых стагоддзях н. э., больш багатым робіцца асартымент упрыгожанняў. Шырокае распаўсюджанне атрымліваюць розныя вырабы, у асноўным з бронзы, радзей сустракаюцца шкляныя і гліняныя ўпрыгожанні.

На некаторых умацаваных паселішчах знойдзены скроневыя кольцы двух тыпаў. Частка з іх (Банцараўшчына, Лабеншчына) зроблены з круглага

бронзавага дроту шляхам скручвання аднаго канца ў паўтара абароту, у той час як другі канец — на тры чвэрці ў процілеглым напрамку (Митрофанов, 1978. Рис. 25:16). Па аналогіях з мілаградскімі ўпрыгожаннямі А. Р. Мітрафанаў адносіць іх да I ст. да н. э. — I ст. н. э. (Митрофанов, 1978. С. 39). Два іншыя кальцы, знойдзеныя на гарадзішчах Мыслі і Рацюнкі, зроблены з бронзавага дроту, скручанага ў некалькі абаротаў, а верхняму канцу нададзена петлепадобная форма для падвешвання (мал. 49:31, 32). Аналагічныя вырабы вядомыя ў Латвіі (LA, 1974. Att. 20:12) і ў Літве, дзе яны датуюцца другой паловай 1-га тысячагоддзя да н. э. (Григалавечене, Мяркавичюс, 1980. С. 50, 51. Табл. XXII:4; XXV:1; XXIX:6—9).

Вялікую групу ўпрыгожанняў складаюць падвескі розных формаў. Найбольш цікавай сярод іх з'яўляецца падвеска з гарадзішча Івань. Яна ўяўляе сабой дыск, увенчаны галоўкай птушкі з шырокай дзюбай (мал. 49:16). На месцы вачэй ёсць скразная адтуліна для падвешвання. Знаходка унікальная. Шэраг падвесак мае трапецападобную форму. Знойдзеныя яны на гарадзішчах Івань, Збаравічы, Малышкі, Мыслі, Лабеншчына (мал. 49:13—15). Тры падвескі арнаментаваны кропкавымі ўцісканнямі па краі. Яшчэ адна ўпрыгожана «жамчужынамі» па ўсёй паверхні.

Трапецападобныя падвескі з'яўляюцца ў эпоху ранняй бронзы. У далейшым яны атрымалі шырокае распаўсюджанне ў носьбітаў розных культур. Найбольш блізкія аналогіі разглядаемым падвескам знаходзяцца сярод зарубінецкіх старажытнасцей (Максимов, 1972. Табл. XXIX:15; Поболь, 1971в. Рис. 20:26, 27; 68:3, 4; Каспарова, 1969а. Рис. 16:2, 3). Яшчэ шэраг падвесак былі акулярападобнай формы (Івань, Збаравічы, Лабеншчына, Мыслі). Зроблены яны з круглага ў сячэнні бронзавага дроту (мал. 49:9—12). Вядома, што гэта адзін са старажытных відаў металічных упрыгожанняў быў распаўсюджаны ў Еўропе з IV тыс. да н. э. (Егорейченко, 1986. С. 50—52). Падвескі з гарадзішчаў беларускага арэала знойдзены ў слаях позняга этапу культуры і могуць быць датаваны першымі стагоддзямі н. э.

Шэраг упрыгожанняў пададзены пярсцёнкамі, што прызначаліся для нашэння на пальцах рук. Тры пярсцёнкі зроблены з бронзавых пласцінак, скручаных у паўтара абароту (мал. 49:17). Яшчэ адзін скручаны па спіралі з бронзавага дроту ў тры абароты (Егорейченко, 1996а. Рис. 34:23). Тры пярсцёнкі, што паходзяць з гарадзішчаў Банцараўшчына, Мыслі і Лабеншчына, маюць больш складаную канструкцыю. Яны зроблены з бронзавага дроту шляхам скручвання аднаго канца па спіралі, пасля чаго ён фарміраваў шчыток, які загнуўся ў пярсцёнак (мал. 49:18). Яшчэ адна знаходка (Івань) уяўляе сабой аднаабаротны пярсцёнак (Егорейченко, 1996а. Рис. 34:23).

Упрыгожанні са шкла, у прыватнасці пацеркі, выяўлены ў асноўным на паўднёвых паселішчах культуры штрыхаванай керамікі: Івань, Мыслі — у вобласці памежжа з зарубінецкай культурай, носьбіты якой, відаць, былі пасрэднікамі пры паступленні антычнага шкла з Паўночнага Прычарнамор'я. У калекцыі, якая налічвае звыш 20 экземпляраў, большая частка пацерак адносіцца да разраду залачоных. Адна з іх трохчасткавая (мал. 49:5). У Паўночным Прычарнамор'і падобныя знаходкі датуюцца першымі стагоддзямі н. э. (Алексеева, 1978. С. 30. Табл. 26:5).

Шэраг пацерак мае форму плоскага авала (мал. 49:3, 4, 7). Вядома, што яны былі максімальна распаўсюджаны ў II ст. да н. э. — I ст. н. э. (Алексеева, 1978. С. 29). Разам з тым адна з пацерак мае закраіны каля краёў, што з'яўляецца адметнай прыкметай для вырабаў I ст. н. э. (Алексеева,

1978. С. 28), а гэта дазваляе звузіць датаванне, прынамсі, адной з пацерак Апошняя знаходка з ліку залачоных мае ўсечана-канічную форму (мал. 49:6), характэрную для II ст. да н. э. — II ст. н. э. (Алексеева, 1978. С. 31).

Наступная група пададзена пацеркамі з аднакаляровага шкла. Тры з іх бочкападобныя, з глухога шэра-блакітнага шкла. Вырабы такога тыпу Е. М. Аляксеева адносіць да I—II стст. н. э. (Алексаева, 1978. С. 66). Яшчэ адна пацерка з аранжавага шкла датуецца I ст. н. э. (Алексеева, 1978. С. 65). Апошняя група шкляных вырабаў пададзена пацеркай са шматкаляровага шкла. Яна мае форму ўсечанага авала. Выраблена з глухой белай шкляной масы, на якую нанесены сіне-белыя «вочкі» (Егорейченко, 1996а. Рис. 34:8). Блізкія знаходкі вядомы ў Пентыкалеі, Нова-Атрадным, Танаісе, Фанагорыі, дзе яны датуюцца II ст. да н. э. — I ст. н. э. (Алексеева, 1975. С. 66).

У больш паўночныя раёны беларускага арэала культуры штрыхаванай керамікі шкляныя пацеркі не даходзілі. Тут мясцовае насельніцтва выраб-ляла і насіла пацеркі з гліны, якія мелі авальную ці акруглую ў сячэнні форму (Митрофанов, 1978. Рис. 19:19, 20. Рис. 22:24). Такія знаходкі вядомыя на гарадзішчах Зазоны, Кашчэлічы, Кімія, Навасёлкі.

У якасці ўпрыгожанняў нярэдка выкарыстоўваліся пранізкі, зробленыя з плоскай ці трохвугольнай ў сячэнні бронзавых пласцінак, закручаных спірал-лю ў трубачкі (мал. 49:1, 2). Яны знойдзены на гарадзішчах Збаравічы, Івань, Лабаншчына, Рацюнкі. Час ужытку і арэал бронзавых пранізак настолькі шырокі, што выкарыстанне іх для ўдакладнення храналогіі культуры і яе этапаў не ўяўляецца магчымым.

На познім этапе культуры працягваюць выкарыстоўвацца вырабы з кос-ці, аднак іх асартымент значна бяднейшы, чым у 1-м тысячагоддзі да н. э. Як і раней, ужываліся касцяныя шпількі з натуральнай формай галоўкі. Яны знойдзены на гарадзішчы Івань, Кашчэлічы, Лабеншчына, Качанавічы. Безумоўна, культавае прызначэнне меў амулет, зроблены з трэцяй фалангі лапы мядзведзя (Егорейченко, 1996а. Рис. 41:4). Знойдзены ён на гарадзішчы Івань. Аналогіяй яму можа служыць амулет з жытла на паселішчы Выблі кіеўскай культуры (Терпиловский, 1984. Табл. 7:7).

Шырока ўжывалася косць для вырабу розных ручак і накладак. Сярод іх асобую цікавасць уяўляе ручка кінжала, знойдзеная на гарадзішчы Івань. Яна мела падоўжна-трапецападобную форму і авальнае сячэнне (мал. 48:5). Найбольш шырокая частка ручкі, што прымыкала да ляза, вылучана суцэльнай прарэзанай лініяй у трохвугольнік і пакрыта елачным арнаментам. У цэнтры ручкі ёсць тры кругавыя барозначкі, а астатняя частка пакрыта цыркульным узорам. Арнаментаваны і тарцовы зрэз. У яго цэнтры зроблены цыркульны ўзор, а па краях нанесены насечкі. Знаходка унікальная.

На гарадзішчы Кашчэлічы знойдзена касцяная накладка, арнаментаваная цыркульным узорам. З аднаго боку яе захавалася адтуліна для заклёпкі (Медведев, 1996. Рис. 37:5). Адзінай знаходкай у арэале культуры штрыхаванай керамікі з'яўляецца касцяны грэбень, знойдзены ў верхнім гарызонце гарадзішча Лабеншчына. Ён выраблены з суцэльнага кавалка лапаткі жывёліны (мал. 49:33). Грэбень мае паўкруглую спінку з двума вушкамі, у якіх прасвідраваны адтуліны, і прамавугольны выступ паміж вушкамі. Спінка пакрыта цыркульным арнаментам. Грэбань з Лабеншчыны блізкі да грабянёў тыпу А-1, паводле класіфікацыі С. Томас, якія былі шырока распаўсюджаны ў Заходняй Еўропе ў другой палове I — першай палове II ст. н. э. (Thomas, 1960. S. 56, 57. Abb. 2; Кухаренко, 1980. С. 53, 54). Разам з тым яго

адрознівае наяўнасць вушак і выступу, што не характэрна для еўрапейскіх аналогій і можа служыць аргументам на карысць мясцовай вытворчасці.

Разнастайнасцю вылучаюцца вырабы з гліны. Да іх ліку адносяцца грузікі, грузілы для рыбалоўных сетак, прасліцы (мал. 50:1—19, 22, 23, 26, 27). Гліняныя грузікі выяўлены на многіх гарадзішчах: Вязынка, Збаравічы, Івань, Кашчэлічы, Лабеншчына, Малышкі. Найбольш раннімі з'яўляюцца некалькі грузікаў, знойдзеных на гарадзішчах Лабеншчына і Кашчэлічы. Яны адносяцца да тыпаў 12а і 14 (Митрофанов, 1978. Рис. 32:10, 12, 16), паводле класіфікацыі К. А. Смірнова, і датуюцца VII—VI—IV—III стст. да н. э. (Смирнов, 1974. С. 64, 65).

На познім этапе культуры найбольшае распаўсюджанне атрымалі грузікі тыпу 1, паводле класіфікацыі К. А .Смірнова, з сячэннем, якое набліжаецца да конуса, апе з перахопам капя асновы (Митрофанов, 1978. Рис. 32:11). Іх датаванне па матэрыялах дзякаўскіх гарадзішчаў — II—IV стст. н. э. (Смирнов, 1971. С. 96). Відаць, да гэтага ж часу адносіцца масіўны канічны ў сячэнні грузік з Кашчэліцкага гарадзішча (Медведев, 1996. Рис. 72:1), блізкі да тыпу 2, апе які не мае насечак каля асновы (Смирнов, 1971. С. 96). Астатнія знаходкі блізкія да грузікаў тыпу 5а, якія былі ва ўжытку ў I ст. да н. э. — III ст. н. э. (Смирнов, 1971. С. 96).

Для шэрагу грузікаў дзякаўскага тыпу акрамя насечак каля асновы была характэрна арнаментыка на бакавой паверхні ў выглядзе перакрэсленых ліній, сканцэнтраваных у пучкі, па 3—4 у кожным. Іншыя камбінацыі ў выглядзе крыжападобных ці зігзагападобных ліній, кропкавых наколаў сустракаюцца радзей (Зверуго, 1992. Рис. 7). Акрамя грузікаў дзякаўскага тыпу на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі сустракаюцца аладкападобныя грузікі з насечкамі па бакавой паверхні (мал. 50:26, 27).

Самай шматлікай катэгорыяй знаходак пасля абломкаў посуду і костак жывёл на гарадзішчах з'яўляюцца гліняныя прасліцы (звыш 800 экз.). А. Р. Мітрафанаў, адзначаючы своеасаблівасць формы і арнаментыкі гэтых вырабаў, зрабіў абгрунтаваны вывад аб тым, што іх можна разглядаць як спецыфічную рысу культуры (Митрофанов, 1978. С. 40). Большасць прасліцаў мае выгляд плоскага кружка са скразной адтулінай у цэнтры, у якіх дыяметр перавышае вышыню (мал. 50:1—14). Па некаторых адрозненнях у форме яны падзяляюцца на 6 тыпаў: 1) прасліцы, у якіх адзіны бок выпуклы, другі ўвагнуты; 2) прасліцы з адным бокам плоскім, а другім выпуклым; 3) прасліцы з плоскімі бакамі; 4) прасліцы, у якіх адзін бок плоскі, другі ўвагнуты; 5) з абодвума ўвагнутымі бакамі; 6) прасліцы, вытачаныя са сценак пасудзін (Митрофанов, 1978. С. 40).

Найбольшае распаўсюджанне мелі прасліцы тыпаў 3—5. Астатнія знаходкі сустракаюцца значна радзей. Частка прасліцаў мае арнаментыку. Як правіла, упрыгожвалася вонкавая паверхня, радзей разам з ёю ўзор наносіўся на тыльны бок. Сустракаюцца знаходкі, у якіх дэкарыравана толькі бакавая паверхня ці ўсе бакі адначасова. Па тэхніцы нанясення арнамент падзяляецца на два тыпы: 1) наразны; 2) накольчаты.

У шэрагу выпадкаў адзначана спалучэнне гэтых прыёмаў на адным прасліцы. Наразны арнамент часцей за ўсё наносіўся на вонкавую паверхню. Як правіла, ён складаўся з ліній, сканцэнтраваных у пучкі, якія разыходзіліся праменнямі ад адтуліны да краю. Сустракаецца таксама арнамент у выглядзе разыходзячыхся праменняў, утвораны наразнымі лініямі ў выглядзе вострых вуглоў, накіраваных сваімі вяршынямі да краёў. У якасці

рэдкіх відаў наразнога арнаменту можна адзначыць Х-падобныя, крыжападобныя ці звычайныя пазногцевыя ўціскані, размешчаныя на вонкавай паверхні ў выглядзе пэўных камбінацый ці хаатычна (Егорейченко, 1996а. Рис. 37:17, 21—23). У тым выпадку, калі наразны арнамент прысутнічае на бакавой паверхні, ён часцей за ўсё ўяўляе сабой зігзагападобныя лініі (мал. 50:11).

Сустракаюцца кампазіцыі з паслядоўнага спалучэння перпендыкулярна і паралельна размешчаных палос ці пазногцевых уціскання па перыметры бакавой паверхні (мал. 50:3), а таксама складанакампазіцыйныя групы (мал. 50:1). У адрозненне ад наразнога наколаты арнамент наносіўся часцей за ўсё на бакавой паверхні і ўяўляў сабою круглыя ці прамавугольныя наколы, радзей ямныя ўціскані, якія складалі розныя геаметрычныя фігуры: трохвугольнікі, ромбы і іншыя (мал. 50:12), радзей складанакампазіцыйныя спалучэнні (мал. 50:1).

Рыбалоўныя грузілы нешматлікія. Яны вядомы ўсяго толькі на трох гарадзішчах: Гарані, Малышкі і Кашчэлічы. Маюць аладкападобную форму і змешчаную да краю адтуліну для мацавання (мал. 50:22, 23). Памеры грузілаў розныя.

* * *

Гаспадарчая дзейнасць носьбітаў культуры вызначалася перш за ўсё земляробствам і жывёлагадоўляй, якія пераважалі, ужо пачынаючы з ранняй фазы развіцця. На падставе шэрагу дадзеных можна меркаваць, што земляробства было лядным. Са з'яўленнем жалезных сякер, якія садзейнічалі больш прадукцыйнай працы, стала магчымым не толькі пашыраць пасяўныя плошчы з дапамогай ляда, але і з цягам часу паступова пераходзіць даляснога пералога і нават да паравога земляробства (Медведев, 1996. С. 48).

Знаходкі рэшткаў зярнят на гарадзішчах Банцараўшчына і Збаравічы дазволілі вызначыць відавы састаў культывуемых раслін. Высветлена, што плямёны культуры штрыхаванай керамікі сеялі збожжавыя (пшаніцу, проса) і бабовыя (гарох, конскі боб, віку) культуры (Митрофанов, 1978. С. 43).

Вырашчаны ўраджай убіраўся з дапамогай жатных нажоў і сярпоў. Перапрацоўка зерня на муку ажыццяўлялася на зерняцёрках, якія складаліся з двух камянёў: ніжняга, больш буйных памераў, на які насыпалася зерне, і верхняга, цёрачнага, які служыў для расціранння зерня. Асобныя часткі зерняцёрак знойдзены на многіх гарадзішчах культуры: Вязынка, Збаравічы, Лабеншчына, Малышкі (Митрофанов, 1978. С. 45), а таксама Кашчэлічы.

Разам з земляробствам істотную ролю ў занятках, безумоўна, адыграла жывёлагадоўля. Знойдзеныя косці пераканаўча паказваюць, што развядзенне і ўтрыманне свойскай жывёлы пераважала над паляваннем. Так, косткі свойскіх жывёл на гарадзішчы Івань складаюць 60%, у Кіміі — 59, 30, у Лабеншчыне — 54, 93 і ў Навасёлках — 60, 12% (Митрофанов, 1978. Табл. 1; Егорейченко, 1996а. Табл. 4). Што датычыцца відавога саставу статка, то паказчыкі па асобных гарадзішчах адрозніваюцца. Аднак у цэлым можна сцвярджаць, што вядучае месца ў жывёлагадоўлі займала развядзенне буйной рагатай жывёлы, свіней і коней (Митрофанов, 1978. Табл. 1). Своеасаблівае ў гэтых адносінах толькі гарадзішча Івань, дзе ў складзе статка дамінавалі авечкі — 37, 50% ад агульнай колькасці свойскай жывёлы. Далей месцы размяшчаюцца наступным чынам: свінні — 26, 56%, быкі — 18, 75%, коні — 14, 60% (Егорейченко, 1996а. Табл. 4). У цэлым жа працэнтныя суадносіны жывёлы ў плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі блізкія да віда-

вога складу ствтка носьбітаў іншых культур лясной паласы Усходняй Еўропы (Шадыро, 1985. С. 93).

Косці сабакі рэдкія, аднак яны вядомыя на многіх гарадзішчах (1 — Івань, 2 — Лабеншчына, Васькоўцы, Кашчэлічы) (Митрофанов, 1978. С. 46; Егорейченко, 1996а. Табл. 4; Медведев, 1996. Табл. 2, 3).

Цікавым уяўляецца факт выяўлення на гарадзішчы Лабеншчына касцей кошкі (адна асобіна) і хатняй курыцы (дзве асобіны). Да цяперашняга часу гэта пакуль першае і адзінае сведчанне знаемстаа насельніцтва Беларусі перыяду ранняга жалезнага веку з гэтымі відамі хатніх жывёлы і птушкі (Митрофанов, 1978. С. 46).

Паляванне на раннім этапе культуры, відаць, займала адно з цэнтральных месцаў у жыцці насельнікаў культуры штрыхаванай керамікі. Пра гэта сведчыць шматлікі комплекс касцяной зброі. У далейшым яно страчвала свае пазіцыі, уступаючы першынство развядзенню свойскай жывёлы. Тым не менш яно працягвала служыць дадатковай крыніцай паступлення мяса і скур, якія выкарыстоўваліся як для ўласнага ўжытку, так і для менавога гандлю з больш паўднёвымі плямёнамі. Вывучэнне астэалагічнага матэрыялу дазволіла ўстанавіць, што носьбіты культуры штрыхаванай керамікі палявалі на розных жывёл, прычым перавагв ў паляванні надавалася буйным звярам: ласю, мядзведзю, высакароднаму аленю, кабану (Митрофанов, 1978. Табл. 2; Егорейченко, 1996а. Табл. 5; Медведев, 1996. Табл. 2, 3). Доля пушных жывёл на гарадзішчы Лабеншчына складала 33, 93%, а на гарадзішчы Івань значна менш, усяго толькі 8,7%. Сярод іх вядомыя бобр, ліса, выдра, куніца, тхор (Митрофанов, 1978. Табл. 2). Па матэрыялах гарадзішча Івань адзначаны таксама барсук і заяц-русак (Егорейченко, 1996а. Табл. 5).

Істотнай падмогай ў харчавым рацыёне з'яўлялася рыба. Практыкавалася як індывідуальная, так і калектыўная рыбная лоўля. Пра першую сведчаць жалезныя кручкі, знойдзеныя на гарадзішчах Івань, Аздзяціцы і Гарані (мал. 47:21, 22), якія прызначаліся для лоўлі на жыўца буйной рыбы, а таксама касцяныя гарпуны з гарадзішча Зазоны. Пры калектыўнай рыбнай лоўлі выкарыстоўваліся сеткі, аб чым можна меркаваць ла знаходках гліняных грузілаў. Відаць, існавалі іншыя спосабы рыбнай лоўлі, у прыватнасці з дапамогай бучаў і іншых прыстасаванняў, якія не дайшлі да нашых дзён.

Рэшткі матэрыяльнай культуры дазваляюць аднавіць у асноўных рысах і шэраг хатніх рамёстваў, без якіх немагчымыя былі жыццё і гаспадарчая дзейнасць насельніцтва. Сярод іх цэнтральнае месца займалі металургія жалеза і кавальская вытворчасць. Вядома, што сыравінай для атрымання жалеза служыла балотная, азёрная і лугавая руда, шырока распаўсюджаная на тэрыторыі Беларусі. Крычны метал атрымлівалі ў сырадутных печах шляхам аднаўленчага працэсу. Атрыманыя такім чынам крыцы падвяргалі дадатковай апрацоўцы. Рэшткі печаў-домніц вядомыя на такіх гарадзішчах, як Кашчэлічы, Кімія, Лабеншчына, Свідна (Митрофанов, 1978. С. 48). Акрамя гэтага, практычна на кожным з даследаваных паселішчаў знойдзены кавалкі шлакаў, г.зн. адходаў жалезаробчай вытворчасці.

Усё гэта пацвярджае высновы А. М. Ляўданскага і К. М. Палікарповіча, зробленыя яшчэ ў 30-я гады, пра шырокае распаўсюджанне металургіі жалеза (Ляўданскі, Палікарповіч, 1932. 2. С. 55). Пра ўзровень развіцця тэхналогіі жалезаапрацоўчай вытаорчасці носьбітаў культуры сведчаць металаграфічныя даследаванні шэрагу рэчаў, праведзеныя М. Ф. Гурыным. Ім уста-

ноўлена, што простыя прылады працы і вырабы побыту вырабляліся з крычнага жалеза шляхам свабоднага кавання. У адрозненне ад іх сярпы былі выраблены з дапамогай больш складанай тэхналогіі. Для часткі сярпоў характэрна пакетаванне нарыхтовак, у той час як іншыя выраблены шляхам свабоднага кавання з наклёпваннем рабочай часткі, што, безумоўна, павышала эксплуатацыйныя якасці сярпоў (Егорейченко, 1996а. С. 56). Такім чынам, кавалі ведалі і выкарыстоўвалі розныя тэхналагічныя прыёмы вырабу жалезных прыладаў. У цэлым жа нельга не адзначыць, што па ўзроўні тэхналогіі жалезаапрацоўчай вытворчасці плямёны культуры штрыхаванай керамікі не саступалі насельніцтву больш паўднёвых раёнаў (Гурин, 1982. С. 47, 48; Бидзиля, Вознесенская, Паньков, Недопако, 1983. С. 93, 94).

Нягледзячы на адсутнасць уласнай сыравіннай базы, у плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі была шырока распаўсюджана бронзаліцейная справа. Праведзеныя раскопкі дазваляюць сцвярджаць, што яна таксама, як і жалезаапрацоўчае рамяство, мела месца на кожным паселішчы. Пра гэта сведчаць рэшткі бронзаліцейнай вытворчасці, якія сустракаюцца даволі часта. Плаўка бронзы праводзілася ў невялікіх гліняных пасудзінах — тыглях, якія мелі ўсечана-яйкападобную форму. Цэлыя тыглі з ашлакаванымі сценкамі і слядамі металу знойдзены на гарадзішчах Зазоны, Кашчэлічы, Лабеншчына, Малышкі (мал. 50:24, 25). Разліванне расплаўленай бронзы праводзілі з дапамогай гліняных льячак, абломкі якіх знойдзены ў Іване і Лабеншчыне (мал. 50:21). Каляровы метал прымяняўся ў першую чаргу для вырабу розных упрыгожанняў. Пра гэта сведчаць знаходкі гліняных формаў. Адна з іх, знойдзеная на гарадзішчы Івань, служыла для адліўкі буйных круглых падвесак (Егорейченко, 1996а. Рис. 42:8). Яшчэ адзін абломак формачкі знойдзены на гарадзішчы Лабеншчына (Митрофанов, 1978. Рис. 25:8).

На раннім этапе культуры адно з асноўных месцаў сярод хатніх рамёстваў займала апрацоўка каменя і косці. Сыравінай для вырабу сякер служылі дробназярністыя пароды каменя, распаўсюджаныя ў Сярэдняй і Паўночнай Беларусі. Кавалак валуна абколвалі з дапамогай кропкава-ўдарнай тэхнікі, атрымліваючы патрэбную нарыхтоўку. Затым ёй надавалася канчатковая форма шляхам поўнай ці частковай шліфоўкі паверхні. Заключнай аперацыяй для свідраваных сякер было свідраванне адтуліны для ручкі з дапамогай полага свердла.

У цэлым тэхніка вырабу каменных прыладаў працы была ідэнтычная той, што прымянялася ў Прыбалтыцы і Беларускім Паддзвінні (Шадыро, 1985. С. 98, 99). Тое ж самае можна сказаць і ў адносінах апрацоўкі косці. Аналагічнасць касцянога інвентару мае на мэце прымяненне аднатыпных тэхналагічных прыёмаў вырабу. Вядома, што сыравінай для вытворчасці розных вырабаў на раннім этапе акрамя каменя служылі плоскія і трубчастыя косці, а таксама рогі жывёл. З дапамогай расшчаплення, скаблення, рэзання, свідравання, шліфавання і іншых прыёмаў касцяным нарыхтоўкам надавалася неабходная форма. Нярэдка гатовыя вырабы, часцей за ўсё ручкі і шпількі, мелі арнаментыку ў выглядзе найпрасцейшых наразных ліній ці кружкоў.

Бясспрэчна, істотную ролю адыгрывала апрацоўка дрэва. Шырокае прымяненне дрэва мела месца ў домабудаўніцтве і фартыфікацыйнай справе: унутрывальныя канструкцыі, сцены, частаколы, іншыя ўмацаванні, жытлы, гаспадарчыя пабудовы — ўсё гэта патрабавала розных прыёмаў апрацоўкі дрэва. Шырока прымянялася дрэва і ў побыце. З яго выраблялі ручкі, дрэўкі і іншыя рэчы, пра што сведчаць рэшткі дрэвавых валокнаў на розных ме-

талічных вырабах. Акрамя гэтага, поўнасцю драўлянымі былі некаторыя прылады працы, у прыватнасці верацёны, а таксама некаторыя віды посуду. Апрацоўка дрэва ажыццяўлялася з дапамогай сякер, долатаў, нажоў і іншых інструментаў. Цікавай знаходкай з'яўляецца лыжкар, знойдзены на гарадзішчы Кімія (Митрофанов, 1978. Рис. 19:27).

Сярод хатніх рамёстваў, у якіх асноўную ролю адыгрывала жанчына, трэба назваць прадзенне, ткацтва, шыццё адзення. Пра прадзенне сведчаць знаходкі прасліцаў, што сустракаюцца на кожным паселішчы. Асабліва вялікая канцэнтрацыя іх адзначана на гарадзішчы Івань (445 знаходак на 820 кв.м ускрытай плошчы). Тут жа зафіксаваны вялікі працэнт авечак у статку. Усё гэта дае падставы лічыць, што атрыманне пражы на гэтым гарадзішчы, а ў наступным і атрыманне тканін з яе, магло служыць не толькі для задавальнення ўласных патрэб, але і выступаць у якасці абменнага прадукту пры гандлёвых аперацыях з суседнімі плямёнамі.

Уласна тканін ні на адным гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі не знойдзена, аднак аб іх фактуры можна меркаваць па адбітках на донцах гліняных пасудзін, знойдзеных у Вязынцы, Збаравічах, Качановічах, Кашчэлічах, Лабаншчыне, Старой Рудзіцы. Гэтыя адбіткі паказваюць, што тканіны выраблялліся двух тыпаў: тонкія — тыпу палатна і больш грубыя, падобныя на радно (Митрофанов, 1978. С. 50). Пра кравецкую справу сведчаць знаходкі кравецкіх іголак, знойдзеных на гарадзішчах Кімія, Лабеншчына, Навасёлкі (Митрофанов, 1978. С. 50).

Разгледжаныя вышэй матэрыялы паказваюць, што гаспадарка плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі была комплекснай. Грунтуючыся на земляробстве і жывёлагадоўлі, яна ўключала ў сябе і паляванне, рыбную лоўлю і іншыя промыслы. Хатнія рамёствы давалі магчымасць поўнага забеспячэння жыхароў усім неабходным для жыцця і вытворчай дзейнасці.

## 5. ГРАМАДСКІ ЛАД І ВЕРАВАННІ

Разглядаючы сацыяльную арганізацыю, неабходна перш за ўсё мець на ўвазе, што плямёны культуры штрыхаванай керамікі прайшлі працяглы шлях развіцця. Фарміраванне культуры адбываецца ў эпоху позняй бронзы, г. зн. у канцы 2-га — пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э., а заняпад — у першай палове 1-га тысячагоддзя н. э. Натуральна, што за такі працяглы час грамадскія адносіны не маглі заставацца нязменнымі, аднак працэс гэтых змяненняў толькі па матэрыялах археалогіі ўстанавіць вельмі цяжка.

Разам з тым сукупнасць усіх фактараў дазваляе з поўнай пераканаўчасцю сцвярджаць, што плямёны культуры штрыхаванай керамікі на ўсім працягу свайго існавання знаходзіліся ва ўмовах першабытнаабшчыннага ладу, у прыватнасці на стадыі развітога патрыярхату. Падобны вывад лагічна вынікае з параўнання носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі з плямёнамі, якія знаходзіліся ў блізкіх геаграфічных умовах, чыя сацыяльная структура вядома па пісьмовых крыніцах.

Перш за ўсё гаворка ідзе пра старажытных германцаў, якія, паводле дадзеных Юлія Цэзара, яшчэ ў I ст. да н. э. жылі ва ўмовах родавай абшчыны, нягледзячы на блізкае суседства з рымскай цывілізацыяй (Записки Юлия Цезаря, 1962. С. 95). У носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі, якія не мелі прамых кантактаў з развітымі народамі Еўропы, кроўна-родасныя адносіны павінны былі захавацца значна далей. Пра панаванне развітога патрыяр-

хату ў плямёнаў, якія пакінулі культуру штрыхаванай керамікі, сведчаць і археалагічныя даныя.

Як вядома, пануючым тыпам паселішчаў у гэтых плямёнаў з'яўляліся гарадзішчы, пераважна невялікіх памераў (0,1—0,2 га). Больш буйныя паселішчы адзінкавыя. Гэта дазваляе зрабіць заключэнне аб тым, што на гарадзішчах жылі невялікія калектывы людзей. Малыя памеры паселішчаў, а таксама планіроўка жытлаў (доўгія дамы, падзеленыя на секцыі з ачагом у кожнай з іх) сведчаць пра прыналежнасць гарадзішчаў патрыярхальным сямейным абшчынам.

Верагодна, носьбіты культуры штрыхаванай керамікі адставалі ў сваім сацыяльным развіцці ад насельніцтва поўдня, дзе ў плямёнвў мілаградскай, зарубінецкай, а пазней і кіеўскай культур адбываецца вылучэнне малых сем'яў, якія вялі самастойную гаспадарку, аб чым сведчаць дамы невялікіх памераў, разлічаныя на адну сям'ю, з прылягаючымі да іх гаспадарчымі збудаваннямі. Зафіксаваныя ў невялікай колькасці аднакамерныя жылыя пабудовы ў паўднёвым арэале культуры штрыхаванай керамікі адлюстроўваюць лакальныя сувязі з зарубінецкімі плямёнамі, якія не мелі шырокага распаўсюджання на асноўнай тэрыторыі культуры.

Неабходна сказаць і пра тое, што ў літоўскім арэале культуры разам са шматкамернымі дамамі таксама атрымалі распаўсюджанне жылыя пабудовы невялікіх памераў, разлічаныя на адну сям'ю (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47; Grigalavičienė, 1986a. P. 86. Pav. 5). Аднак і тут адсутнасць самастойных сямейна-вытворчых комплексаў, што ўключалі жылы дом з прылягаючымі да яго гаспадарчымі пабудовамі, не дае падстаў меркаваць пра распад вялікай сямейнай абшчыны і фарміраванне суседняй абшчыны.

Пра развіты патрыярхат, ва ўмовах якога асноўнай вытворчай адзінкай з'яўляецца вялікая патрыярхальная сям'я, сведчыць і характар асноўных заняткаў насельніцтва. Так, напрыклад, аснову эканомікі носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі разам з жывёлагадоўляй, паляваннем і рыбалоўствам, што патрабавалі ў большасці выпадкаў калектыўнай працы, складала таксама ляднае земляробства, якое было немагчыма без намаганняў вялікага калектыву людзей. Працэс расчысткі лясных участкаў, падрыхтоўка іх да сяўбы, ахова культур ад дзікіх звяроў, уборка ўраджаю — усё гэта было не пад сілу асобным невялікім сем'ям.

Значных калектыўных намаганняў патрабавала і ўзвядзенне гарадзішчаў. Добра вядома, што для іх спецыяльна падбіраліся цяжкадаступныя месцы (мысы, узгоркі). Але гэтага было недастаткова для надзейнай абароны родавых пасёлкаў. Таму ўсе без выключэння гарадзішчы дадаткова ахоўваліся драўлянымі ці драўляна-землянымі ўмацаваннямі.

З пачаткам н. э. з прычыны ўнутранага развіцця плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі (шырокае ўкараненне жалезных прыладаў працы, павелічэнне дадатковага прадукту, узмацненне міжродавых сутычак) і пагрозы знешніх нападаў з'яўляецца шэраг новых гарадзішчаў з магутнай сістэмай абарончых умацаванняў, якія ўключалі ў сабе дзве, а часам і тры лініі земляных валоў і равоў, што акружалі паселішчы з усіх бакоў. Істотныя змяненні адбываюцца і на старых гарадзішчах. У шэрагу выпадкаў (Гарадзішча Мядзельскага раёна, Кашчэлічы, Лабеншчына і інш.) адбываецца перапланаванне пляцовак, у выніку чаго культурны слой скідваецца на схілы і замацоўваецца глінай, гравіем, валунамі. Такім чынам, дасягалася пашырэнне плошчы гарадзішчаў з аднаго боку і павелічэнне круцізны схілаў з

другога. Безумоўна, гэта патрабавала велізарных намаганняў значнай колькасці людзей, звязаных у першую чаргу кроўна-роднаснымі адносінамі.

Вялікую цікавасць у плане рэканструкцыі грамадскіх адносін уяўляе лакалізацыя гарадзішчаў. У свой час П. М. Траццякоў, які вывучаў дзякаўскую культуру, выявіў «гнездавое» размяшчэнне гарадзішчаў, пры якім некалькі ўмацаваных паселішчаў размяшчаліся на невялікай адлегласці адно ад аднаго. Зыходзячы з гэтага, ён прыйшоў да высновы, што кожнае гарадзішча належала вялікай патрыярхальнай абшчыне, у той час як група блізка размешчаных паселішчаў належала роду.

Падобнае размяшчэнне гарадзішчаў кампактнай групай адзначана і ў шэрагу месцаў беларускага арэала культуры штрыхаванай керамікі, што дало падставу А. Р. Мітрафанаву далучыцца да пункту погляду П. М. Траццякова (Митрофанов, 1978. С. 53). Верагоднасць гэтага меркавання зусім дапушчальная, аднак, з агаворкаю — неабходна пацвярджэнне сінхроннасці ўсіх гарадзішчаў у «гняздзе», а для гэтага патрэбны раскопкі ўсіх без выключэння паселішчаў, размешчаных у кампактнай групе.

Росквіт культуры штрыхаванай керамікі, які прыпадае на першыя стагоддзі н. э., быў у першую чаргу цесна звязаны з шырокім укараненнем жалезных прыладаў працы, якія забяспечвалі больш высокую прадукцыйнасць працы і як вынік гэтага рост дадатковага прадукту. Да гэтага часу адносіцца і пашырэнне кантактаў носьбітаў культуры з суседнімі плямёнамі, у прыватнасці поўдня і захаду, сацыяльная арганізацыя якіх была значна вышэйшай. Натуральна, гэтыя фактары не маглі не адбіцца на развіцці грамадскіх адносін у носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Відаць, у першых стагоддзях н. э. першабытнаабшчынныя адносіны паступова пачынаюць раскладацца. З'яўленне паўзямлянкавых жытлаў параўнальна невялікіх памераў у паўднёвай частцы арэала культуры штрыхаванай керамікі (Мыслі) можа сведчыць пра пачатак распаду вялікіх патрыярхальных сем'яў на малыя пад уплывам зарубінецкіх плямёнаў. Аднак гэты працэс быў яшчэ лакальным і не знайшоў шырокага распаўсюджання на ўсёй тэрыторыі культуры.

Раскопкі паселішчаў першых стагоддзяў н. э. даюць магчымасць меркаваць пра нераўнамернасць развіцця асобных абшчын у гэты час. З'яўляюцца гарадзішчы з параўнальна багатай матэрыяльнай культурай і шэрагам прывазных рэчаў (Івань, Малышкі, Мыслі). Аднак адсутнасць прыкмет вядзення гаспадаркі малымі сем'ямі і асабліва скарбаў не дае падстаў меркаваць аб маёмаснай дыферэнцыяцыі ўнутры абшчын.

Разам з гэтым у самой абшчыне, відаць, ужо існавала прымітыўная рамесная спецыялізацыя асобных яе членаў. Дастаткова высокая якасць жалезных вырабаў, зробленых з прымяненнем складаных па тым часе тэхналагічных прыёмаў (пакетаванне, наклёп і інш.) дазваляе думаць пра вылучэнне сярод абшчыннікаў асоб, якія займаліся здабычай і апрацоўкай жалеза. Не выключана таксама, што ў іх руках была сканцэнтравана і бронзаліцейная вытворчасць, якая патрабавала не менш высокіх прафесійных навыкаў. Адсутнасць мясцовай сыравіннай базы і як вынік спарадычны характар каляровай металаапрацоўкі робіць цяжкім вылучэнне «чыстых» бронзаліцейшчыкаў.

Рэлігійныя погляды носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі, відаць, мала чым адрозніваліся ад тых культавых уяўленняў, якія былі характэрны для большасці земляробчых і жывёлагадоўчых плямёнаў эпохі развітога патрыярхату, што насялялі Усходнюю і Цэнтральную Еўропу. Юлій Цэзар у

сваім апісанні гарманцаў адзначаў: «Яны вераць толькі ў такіх багоў, якіх яны бачаць і якія ім дапамагаюць, а менавіта ў Сонца, Вулкана і Месяца» (Записки Юлия Цезаря, 1962. С. 95).

Наяўныя дадзеныя дазваляюць меркаваць пра тое, што рэлігійныя ўяўленні носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі былі ў першую чаргу звязаны з сакралізацыяй сіл прыроды і тым самым набліжаліся да поглядаў старажытных гарманцаў.

Рэчаевы комплекс культуры, асабліва арнаментаваныя праслiцы, маюць ярка выяўленую салярную сімволіку. Вобраз сонца, выкананы ў выглядзе разнастайных наразных праменняў ці канцэнтрычных кругоў з кропак і ямкавых уціскання ў, з'яўляецца асноўным сюжэтам знешніх бакоў арнаментаваных праслiцаў. Не выключана, што сонца сімвалізуе і некаторыя арнаментальныя матывы глінянага посуду, у прыватнасці, наразныя зігзагападобныя лініі, нанесеныя на венчыку, ці трохвугольныя кампазіцыі з ямкавых уціскання ў, размешчаныя па перыметры верхняй часткі тулава гаршкоў.

З культам сонца быў цесна звязаны культ агню, які адлюстроўваўся ў выглядзе крыжоў розных канфігурацый. Падобныя выявы таксама маюць месца сярод некаторых знаходак культуры штрыхаванай керамікі, напрыклад на праслiцах і грузiках дзякаўскага тыпу.

Як вядома, адным са старажытных культаў, што ўзніклі яшчэ ў палеаліце і дайшлі да эпохі сярэднявечча, быў культ мядзведзя. Паводле дадзеных Б. А. Рыбакова, у лясной паласе Еўропы шырокае распаўсюджанне ў розных плямёнаў і народаў атрымаў культ мядзведжай лапы, які ўвасабляў неабходную чалавеку сілу і моц (Рыбаков, 1981. С. 102). Пра тое, што гэтыя вераванні мелі месца ў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі, сведчыць знаходка амулета, зробленая з трэцяй фалангі лапы мядзведзя (Івань). Непасрэдна з культам мядзведзя звязаны і знаходкі амулетаў з клыкоў гэтага звера, знойдзеныя на гарадзішчах Вязынка, Гарані, Зазоны, Лабеншчына (Митрофанов, 1978. Рис. 20:13; 23:32; С. 118. Рис. 23:11; Зверуго, 1992. Рис. 3:32, 33).

Такім чынам, гэтыя амулеты знойдзены ў розных месцах арэала культуры, што гаворыць пра шырокае распаўсюджанне культу. Устойлівую жывучасць культу мядзведзя Б. А. Рыбакоў звязвае не толькі з традыцыямі паляванне на гэтага звера, але і з трансфармацыяй першапачатковай ідэі здабычы звера ў культ урадлівасці ў земляробчых народаў (Рыбаков, 1981. С. 108).

Традыцыйна з культам урадлівасці археолагі звязваюць і акулярападобныя падвескі, якія таксама атрымалі шырокае тэрытарыяльнае і часовае распаўсюджанне. У культуры штрыхаванай керамікі падобныя ўпрыгожанні адзначаны на шмат якіх гарадзішчах (Івань, Збаравічы, Лабеншчына, Мыслі, Рацюнкі і інш.). Бясспрэчна, пэўную сувязь з рэлігійнымі ўяўленнямі маюць і іншыя ўпрыгожанні, але, на жаль, сэнсавы змест іх застаецца нераскрытым.

## 6. СУВЯЗІ З ІНШЫМІ КУЛЬТУРАМІ

Асаблівасці лакалізацыі плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі (лясная паласа, адсутнасць прамых сувязей з развітымі культурамі Еўропы і інш.) і ўзроўню развіцця прадукцыйных сіл галоўным чынам на раннім этапе не маглі не адбіцца на характары гандлёвых і культурных сувязей з суседзямі. Амаль на ўсім працягу існавання культуры гэтыя кантакты былі значна слабейшыя, чым у больш паўднёвых заходніх плямёнаў. Пранікненне імпартных рэчаў нярэдка абмяжоўвалася зонамі судакранення з носьбітамі ін-

шых культур. Гэтыя вырабы нешматлікія і адносяцца ў асноўным да заключнага этапу культуры штрыхаванай керамікі. Тым не менш іх аналіз, а таксама аналіз некаторых відаў мясцовай вытворчасці дазваляюць зрабіць пэўныя высновы ў адносінах накірунку гандлёвых сувязей, іх характару і інтэнсіўнасці.

На жаль, ранні этап культуры ў беларускім арэале вывучаны вельмі слаба, таму для рэканструкцыі сувязей з суседнімі культурамі неабходна пашырэнне крыніцазнаўчай базы за кошт прыцягнення ўсходнелітоўскіх матэрыялаў. Так, напрыклад, вялікая колькасць рэшткаў каляровай металургіі (тыглі, ліцейныя формы) на гарадзішчы Наркунай сведчыць пра тое, што тут існаваў цэнтр бронзаліцейнай вытворчасці, які спецыялізаваўся па выпуску перш за ўсё кельтаў акозінска-меларскага тыпу (Лухтан, 1982. С. 48—52; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47). На думку А. Лухтана, прататыпамі гэтых вырабаў паслужылі кельты ананьінскай культуры (Лухтан, 1982. С. 50, 51).

З другога боку, для вытворчасці такіх буйных вырабаў, як кельты, патрабавалася вялікая колькасць металу, які пры адсутнасці ўласных крыніц рудных залежаў мог быць толькі прывазным. У цяперашні час устанавіць шляхі яго паступлення не ўяўляецца магчымым, аднак, як паказваюць вынікі спектральнага аналізу шэрагу вырабаў бронзавага і ранняга жалезнага веку, што паходзяць з тэрыторыі Літвы, метал, відаць, паступаў з захаду, у прыватнасці з вобласці аўстра-баварскіх Альпаў (Григалавичене, Мяркавичюс, 1980. С. 40).

Верагодна, такое меркаванне будзе больш абгрунтаваным і ў адносінах бронзы, якая патрабавалася для вырабу кельтаў. Гэта пацвярджаецца і знаходкай на гэтым жа гарадзішчы бронзавай шпількі з цвікападобнай плешкай і вушкам на іголцы, якія вельмі шырока сустракаюцца сярод знаходак прадлужыцкай культуры канца II — пачатку III перыяду бронзы (Gedl, 1975. Tabl. IV:5; VI:1, 4—6, 8, 13; VIII:10; X:2; XI:12; XII:5; XIII:22; XVI:13; XVIII:6—8, 10—12, 21; XXVI:5, 42; XXXI:7; X:7, 8, 13; Prahistoria... 1978. S. 150, 151. Tabl. X IV:7. Рус. 57:е).

Пазней, у лужыцкай культуры, яны знікаюць, саступаючы месца шпількам з іншымі тыпамі афармлення галоўкі (Prahistoria... 1979. Tabl. VII:4—6; X:6, 7). Такім чынам, гарадзішча Наркунай дае яскравы прыклад існавання кантактаў у плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі як з усходам, так і захадам. Разам з тым нельга не адзначыць, што ўсходнія сувязі на раннім этапе былі нязначнымі. Іншых знаходак, якія б пацвярджалі існаванне ўстойлівага абмену і культурных кантактаў з усходам, няма. У той жа час шэраг фактаў сведчыць пра наяўнасць абмену і цесных кантактаў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі з плямёнамі заходніх тэрыторый.

Як вядома, пераважная колькасць прыладаў працы, зброі, прадметаў побыту і ўпрыгожанняў у арэале культуры штрыхаванай керамікі выраблялася з мясцовых шырока распаўсюджаных крыніц сыравіны (камень, косць, гліна, дрэва). Прывазныя вырабы былі нешматлікімі, але яны ўсё ж аказвалі прыкметны ўплыў на некаторыя катэгорыі мясцовых рэчаў. Недахоп бронзы і недастатковы імпарт прывялі да таго, што частка вырабу мясцовых майстроў, выраблёная з каменя і косці, капіравала аналагі заходніх тэрыторый. Так, напрыклад, касцяныя ўтулкавыя наканечнікі дзідаў, знойдзеныя на гарадзішчах Гарані, Рацюнкі і Сакішкяй, відаць, імітуюць бронзавыя дзіды, характэрныя для прадлужыцкай і лужыцкай культур (Gedl, 1975. S. 57. Tabl. XIV:6, 8; Prahistoria... 1979. Рус. 17:6).

Яшчэ больш моцны заходні ўплыў прыкметны на прыкладзе некаторых тыпаў касцяных шпілек. У прыватнасці, у арэале культуры штрыхаванай керамікі на раннім этапе, як, дарэчы, і ў шэрагу іншых культур (днепра-дзвінская, раннія гарадзішчы Латвіі і інш.), атрымалі шырокае распаўсюджанне касцяныя шпількі з цвікападобнай плешкай і вушкам на іголцы (Засоны, Рацюнкі, Наркунай, Сакішкяй і інш.), сувязь якіх з бронзавымі аналагамі прадлужыцкай і лужыцкай культур бясспрэчная. Не выключана таксама, што іншым прататыпам касцяных шпілек, якія мелі нарэзкі па верхняй частцы, паслужылі бронзавыя экземпляры з наразной галоўкай, яны часта сустракаюцца ў лужыцкай культуры (Prahistoria... 1979. Tabl. VII:4, 5; Gedl, 1974. Рус. 16:1; Abramek, 1970. Рус. 13).

Вядомы перайманні, аналагічныя бронзавым рэчам, не толькі ў косці, але і ў камені. Так, напрыклад, на гарадзішчы Невярышке ў Літве знойдзены абломак сякеры, у якога на абушковай частцы прасочваецца імітацыя ліцейнага шва. Такім чынам, разгледжаныя вышэй матэрыялы паказваюць, што на раннім этапе носьбіты культуры штрыхаванай керамікі мелі больш трывалыя кантакты са сваімі заходнімі суседзямі.

Заключны этап культуры штрыхаванай керамікі, што прыпадае на першыя стагоддзі н. э., з'яўляецца часам яе найвышэйшага росквіту. Для яго характэрна панаванне новых керамічных формаў (рабрыстыя гаршкі), паўсюднае ўкараненне і масавае выкарыстанне жалезных прыладаў працы і зброі, а таксама выхад на першы план вытворных формаў гаспадаркі пры захаванні некаторых відаў здабываючай эканомікі: палявання, рыбалоўства і інш.

У гэты час у беларускім арэале культуры штрыхаванай керамікі назіраецца пераарыентацыя ў накірунку гандлёвых сувязей і на першае месца выступае паўднёвы шлях паступлення тавараў. Змыкаючыся на поўдні і паўднёвым усходзе з носьбітамі зарубінецкай культуры, плямёны культуры штрыхаванай керамікі мелі з імі, відаць, найбольш цесныя кантакты. Пра гэта сведчаць асобныя катэгорыі рэчаў, знойдзеныя на гарадзішчах Сярэдняй Беларусі, але якія паходзяць з вобласці распаўсюджання зарубінецкіх плямёнаў. Да іх ліку ў першую чаргу адносяцца фрагменты глянцаваных місак. Па сваёй прафілёўцы яны блізкія да місак варыянтаў Б і В групы I, паводле класіфікацыі Ю. У. Кухарэнкі. Часцей за ўсё абломкі падобнага посуду сустракаюцца на паўднёва-ўсходніх помніках (Івань, Мыслі, Аздзяцічы). У больш паўночных раёнах культуры яны трапляюцца значна радзей (Кашчэлічы).

Да бясспрэчна зарубінецкіх адносяцца знаходкі жалезных кельтаў (Івань, Слуцк), якія маюць вузкае клінападобнае тулава і падпрамавугольную адтуліну для ручкі ў абушковай частцы. Гэтыя вырабы знаходзяць дакладныя аналогіі толькі сярод зарубінецкіх матэрыялаў. Яны, у прыватнасці, вядомыя ў некаторых пахаваннях Чаплінскага могільніка (Поболь, 1973в. Рис. 60:21; 65:2).

Не выключана, што да зарубінецкага імпарту трэба аднесці і некаторыя фібулы, знойдзеныя на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі. Да іх ліку адносяцца дзве знаходкі, якія паходзяць з гарадзішчаў Банцараўшчына і Навасёлкі. Падобныя экземпляры вядомы ў Чаплінскім могільніку (Поболь, 1971в. С. 120, 121; Ён жа, 1973в. Рис. 19:4; 27:25). Відаць, да зарубінецкага імпарту адносіцца і воінская фібула познalатэнскай схемы, знойдзеная ў Малышках. Ва ўсякім выпадку, знаходкі гэтай серыі дастаткова шырока прадстаўлены ў Чаплінскім могільніку (Поболь, 1973в. Рис. 14:14; 25:9; 43:2; 44:4;

62:18; 63:3). Некалькі фібул, знойдзеных на гарадзішчах культуры, маюць падкавападобную форму. У цэлым яны не характэрны для носьбітаў штрыхаванай керамікі і маглі трапіць да іх ад зарубінецкіх плямёнаў, дзе аналагічныя знаходкі знойдзены ў вялікай колькасці (Поболь, 1971в. С. 57, 58).

Важна падкрэсліць, што зарубінецкія плямёны пастаўлялі носьбітам культуры штрыхаванай керамікі не толькі рэчы ўласнай вытворчасці, але і вырабы, зробленыя ў антычных гарадах Паўночнага Прычарнамор'я. Да іх ліку адносяцца шкляныя пацеркі розных формаў і афарбоўкі. Сярод іх пераважаюць залачоныя, ёсць таксама манахромныя розных колераў і адна вочкавая пацерка. Уяўляе цікавасць і той факт, што антычнае шкло знойдзена толькі на паўзмежных з зарубінецкай культурай помніках (Івань, Мыслі). Шырокага распаўсюджання ў арэале культуры штрыхаванай керамікі яно не мела. У больш паўночных раёнах мясцовае насельніцтва выраблялa і карысталася пацеркамі з гліны (Кімія, Кашчэлічы, Навасёлкі). Што датычыцца храналагічных рамак, то зарубінецкі імпарт не выходзіць за межы сярэдзіны I ст. н. э.

Пры ўсёй вежнасці кантактаў з паўднёвымі суседзямі нельга не адзначыць, што на познім этапе плямёны культуры штрыхаванай керамікі працягваюць захоўваць пэўныя сувязі з заходнімі плямёнамі, якія пасля занядаду зарубінецкай культуры зноў узмацняюцца. Да ліку знаходак заходняга паходжання ў першую чаргу трэба аднесці некаторыя бронзавыя фібулы. Адна з іх, вочкавая, знойдзена на гарадзішчы Івань.

Вядома, што падобныя фібулы сфарміраваліся ў басейне Рэйна (Jamka, 1964. S. 54). У далейшым яны шырока распаўсюдзіліся ў Цэнтральнай Еўропе, а таксама ў Скандынавіі і Фінляндыі. Відаць, заходняе паходжанне маюць і моцнапрафіляваныя фібулы, знойдзеныя на гарадзішчах Кашчэлічы і Мыслі, якія шырока пададзены ў культурах рымскага часу на тэрыторыі Заходняй Еўропы. Нарэшце, бясспрэчна прывазной з'яўляецца адзіная ў беларускім арэале культуры штрыхаванай керамікі падкападобная фібула з эмалямі з Малышак, якая трапіла сюды альбо з тэрыторыі Літвы, альбо з яшчэ больш заходніх абласцей (Митрофанов, 1978. С. 37; Prahistoria... 1981. Tabl. XXXIX:2—5).

У позніх слаях некаторых гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі (Івань, Лабеншчына, Малышкі, Гарадзішча, Рацюнкі) знойдзены паясныя адна- і двухчасткавыя спражкі. Больш на поўдзень, у прыватнасці ў зарубінецкай культуры, іх няма, затое яны шырока пададзены ў Цэнтральнай Еўропе і прылягаючых да яе раёнах. Таму дапушчальна меркаваць, што адбывалася пранікненне ранніх знаходак з захаду з магчымым у далейшым вырабам спражак на месцы (Madyda, 1974. S. 409. Tabl. III:7, 9, 12; V:10, 11; Prahistoria... 1981. Tabl. XVII:7; XVIII:13; XXIII:78; XXIV:19. Рус. 122:9; Jaskanis, 1977. S. 334. Рус. 25:п; Wiklak, 1970. S. 549. Рус. 8:с і інш.).

Найбольш слаба гандлёвыя і культурныя сувязі плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі ў канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. — першай палове 1-га тысячагоддзя н. з. прасочваюцца з усходнімі суседзямі. На думку А. Р. Мітрафанава, пра гэтыя кантакты могуць сведчыць знойдзеныя ў Лабеншчыне бронзавыя бляшкі з ляцелькамі, вельмі шырока пададзеныя ў познаананьінскіх помніках (Очерки... 1970. С. 208), адкуль яны пранікі на захад, у арэал дзякаўскай і днепра-дзвінскай культур, а ад апошніх маглі трапіць і да «штрыхавікоў».

Нарэшце, разглядаючы культурныя сувязі, нельга не разгледзець дзве катэгорыі рэчаў, якія атрымалі шырокае распаўсюджанне ў культурах лясной

паласы Усходняй Еўропы. Гэта ў першую чаргу датычыць жалезных посахападобных шпілек. Іх прататыпы з'явіліся ў Еўропе яшчэ ў эпоху бронзы, але пік папулярнасці гэтых шпілек прыпадае на жалезны век. У гэты час яны шырока ўжываюцца ў Прыбалтыцы, а таксама ў мілаградскай, юхнаўскай, зарубінецкай, днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі і іншых культурах (Шноре, 1961. С. 17, 18; Мельниковская, 1967. Рис. 37:9, 10, 14, 15; Третьяков, 1959. Рис. 14, 15; Ён жа, 1966. Рис. 50:7; Шут, 1966. Рис. 6:4, 5; Шадыро, 1965. Рис. 38:1—17 і інш.).

Амаль такое ж шырокае распаўсюджанне ў гэты перыяд атрымалі і грузікі дзякаўскага тыпу (Дубынин, 1974. Табл. XV:1, 2, 6—15; XVI; Шадыро, 1985. Рис. 60; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 62 і інш.). Усё гэта сведчыць пра дастаткова ўстойлівыя культурныя сувязі ў плямёнаў лясной паласы Усходняй Еўропы.

Такім чынам, адзначаючы ўзрослы асартымент і колькасць імпартных рэчаў на заключным этапе культуры ў параўнанні з папярэднім часам, неабходна ўсё ж канстатаваць, што менавы гандаль ва ўмовах натуральнай гаспадаркі ла-ранейшаму насіў абмежаваны характар і датычыўся ў асноўным прыгранічных раёнаў.

## 7. ПАХОДЖАННЕ, ХРАНАЛОГІЯ І ЭТНІЧНАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ

Пытанне аб паходжанні культуры штрыхаванай керамікі да цяперашняга часу нельга лічыць канчаткова вырашаным. Гэта тлумачыцца тым, што перыяды ранняй і сярэдняй бронзы на тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі і ў сумежных раёнах, г. зн. там, дзе ў будучым сфарміравалася класічная культура штрыхаванай керамікі, працягваюць заставацца малавывучанымі.

Разам з тым можна лічыць устаноўленым, што штрыхоўка паверхні пасудзін з'яўляецца вельмі рана. Так, на тэрыторыі Літвы і Латвіі яна вядома з эпохі ранняга неаліту — ужо з 4-га — першай паловы 3-га тысячагоддзя да н. э. (Римантене, 1966. С. 54; Граудонис, 1980. С. 66). Праўда, у гэты час штрыхі былі малавыразнымі і, як лічаць даследчыкі, іх з'яўленне звязана з працэсам апрацоўкі паверхні пасудзін, у прыватнасці з загладжваннем знешніх, а часта і ўнутраных бакоў гаршкоў пучком саломы, травы ці спецыяльным штампам (Митрофанов, 1969б. С. 73; Граудонис, 1980. С. 66).

Слабая штрыхоўка пасудзін захоўваецца ў Прыбалтыцы на ўсім працягу неаліту і пераходзіць у бронзавы век. Гэта рыса, як і некаторыя іншыя агульныя моманты паміж познанеалітычнымі культурамі, у прыватнасці познанарвскімі (паводле А. Прынінкаса), і культурай штрыхаванай керамікі (падобныя арэалы, блізкасць касцяного, рагавога, крэмянёвага інвентару і інш.), дазволіла некаторым прыбалтыйскім даследчыкам выказаць меркаванне аб прыярытэтным укладзе познанарвскай керамікі ў працэс зараджэння штрыхаванай керамікі (Гирининкас, 1985. С. 52; Васкс, 1983. С. 17, 18). Аднак, нягледзячы на ўсю прыцягальнасць гэтай гіпотэзы, усё ж трэба ўлічваць, што класічная ранняя культура штрыхаванай керамікі не мае хваналагічнага сутыку з познанарвскай культурай.

На тэрыторыі Беларусі штрыхоўка паверхні пасудзін з'явілася пазней, чым у Прыбалтыцы. Яна датуецца апошняй чвэрцю 3-га тысячагоддзя да н. э. і звязана з заключным дабраборскім этапам нёманскай неалітычнай культуры. Як адзначае М. М. Чарняўскі, з'яўленне масавай штрыхоўкі на пасудзі-

нах з'яўляецца адной з характэрных рыс, якія аддзяляюць сярэдні, лысагорскі, этап нёманскай культуры ад позняга, дабраборскага (Чарняўскі, 1979. С. 61).

Спыненне функцыяніравання нёманскай культуры ў сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. не прывяло да знікнення штрыхоўкі ў Беларусі. Яна атрымлівае далейшае развіццё ў эпоху бронзы. В. Р. Супрун, які праводзіў разведку ў сярэднім цячэнні Шчары, левага прытоку Нёмана, адзначаў, што штрыхаваная кераміка сустракаецца практычна на ўсіх паселішчах эпохі бронзы, прычым посуд у гэты час меў ужо плоскае донца, больш моцную прафілёўку сценак і, што вельмі важна, даволі глыбокую штрыхоўку вонкавай паверхні (Супрун, 1966. С. 106). Штрыхаваная кераміка эпохі бронзы адзначана і ў іншых месцах Беларускага Панямоння, у прыватнасці, яна выяўлена ў парэччы Віліі, аднак тут штрыхоўка малавыразная (Чернявский, Кохановский, Адамович, 1969. С. 67, 68).

Аналагічныя працэсы адзначаны і за межамі тэрыторыі Беларусі. Шырокае распаўсюджанне больш выразнага штрыхаванага посуду ў эпоху позняга неаліту і ранняй бронзы фіксуецца ў Літве, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, Польшчы і іншых месцах (Данилайте, 1968. С. 10; Митрофанов, 1969. С. 74; Граудонис, 1980. С. 66, 67).

Важна падкрэсліць, што гэта з'ява на большай частцы адзначанага арэала была цесна звязана з рассяленнем носьбітаў шнуравой керамікі (Митрофанов, 1969б. С. 74; Граудонис, 1980. С. 67), што прадвызначыла ў канчатковым выніку фарміраванне культуры штрыхаванай керамікі. Гэты працэс быў дастаткова працяглым і завяршыўся, відаць, толькі к канцу 2-га тысячагоддзя да н. э., калі культура набыла класічныя рысы ранняга этапу.

Наяўныя на сённяшні дзень матэрыялы не дазваляюць даць адназначны адказ аб храналагічных рамках культуры штрыхаванай керамікі. Асноўны даследчык гэтай культуры ў беларускім арэале А. Р. Мітрафанаў датаваў яе VII—VI стст. да н. э. — V ст. н. э. (Митрофанов, 1978. С. 42).

Іншым выглядае датаванне літоўскіх археолагаў. На іх думку, першыя гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі з'яўляюцца ўжо ў апошняй чвэрці 2-га тысячагоддзя да н. э., а знікаюць у II—III стст. н. э., калі на змену штрыхаванаму посуду прыходзіць шурпаты (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47; Grigalavičienė, 1986a. P. 87; Яна ж, 1986б. P. 136, 137).

Такое істотнае адрозненне ў ніжняй храналагічнай мяжы паміж гэтымі вельмі блізкімі тэрытарыяльнымі групамі можа падштурхнуць да думкі пра тое, што помнікі беларускага арэала ўзнікаюць пазней за літоўскія. Сапраўды, матэрыялы, што былі ў распараджэнні А. Р. Мітрафанава, не давалі ніякіх падстаў адносіць пачатак культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі не толькі да канца 2-га тысячагоддзя да н. э., але нават і да першай паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. Больш таго, прапанаваная гэтым даследчыкам ніжняя дата абапіралася толькі на падабенства ранняга посуду культуры штрыхаванай керамікі з мілаградскімі гаршкамі VI—IV стст. да н. э., а іншыя катэгорыі рэчаў, якія мелі адносна вузкія храналагічныя рамкі, не маглі быць датаваны раней апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э.

Аднак у апошнія гады і на тэрыторыі Беларусі былі даследаваны помнікі, якія мала чым адрозніваюцца ад ранніх гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі Усходняй Літвы. Да іх ліку ў першую чаргу адносяцца гарадзішчы Зазоны і Рацюнкі, размешчаныя на паўночным захадзе і поўначы Беларусі. Як ужо адзначалася, яны ўтрымліваюць шматлікія касцяныя і каменныя

вырабы, якія дазваляюць датаваць іх 1-м тысячагоддзем да н. э. Разам з тым тут былі выяўлены некаторыя знаходкі, якія даюць магчымасць значна звузіць ніжнюю храналагічную мяжу гэтых помнікаў. У першую чаргу гэта датычыцца касцяных шпілек са штучна нададзенай формай галоўкі.

Так, верагодна, прататыпамі шпілек з цвікападобнай пляшкай і вушкам на іголцы паслужылі блізкія вырабы з бронзы, распаўсюджаныя ўжо ў перадлужыцкай культуры на тэрыторыі Польшчы ў II — пачатку III перыяду эпохі бронзы (Prahistoria... 1978. S. 150, 151. Tabl. XLIV:7. Рус. 57:е, f). Пазней, у лужыцкай культуры, яны знікаюць, саступаючы месца шпількам з іншымі тыпамі афармлення галоўкі (Prahistoria... 1979. Tabl. X:6, 7; VII:4, 6).

Такім чынам, час з'яўлення касцяных аналагаў не можа выйсці за рамкі апошняй чвэрці 2-га тысячагоддзя да н. э. Астатнія знаходкі ранніх помнікаў маюць больш шырокія рамкі ўжытку. Так, напрыклад, касцяныя шпількі з наразной галоўкай могуць быць датаваны па сваіх бронзавых прататыпах часам паміж 1200—500 гг. да н. э. (Gedl, 1974. S. 172; Abramek, 1970. S. 537). Важную ролю ў вызначэнні ранняй даты гарадзішча адыгрывае касцяная зброя і перш за ўсё наканечнік дзіды з лістападобнай формай ляза з Рацюнак, ён мае дакладныя аналогіі сярод бронзавых дзідаў перадлужыцкай і лужыцкай культур, якія датуюцца ў межах 1450—800 гг. да н. э. (Prahistoria... 1978. Tabl. XLVI:4; Prahistoria... 1979. Рус. 17:6).

Дададзім, што аналагічныя знаходкі (лістападобны наканечнік дзіды, цвікападобныя шпількі з вушкам і інш.) знойдзены ў ранніх слаях гарадзішчаў Наркунай і Няверышке, якія літоўскія археолагі датуюць канцом 2-га тысячагоддзя да н. з. — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э. (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47; Gridalavičenė, 1986a. P. 88). Такім чынам, сукупнасць усіх пералічаных вышэй фактаў дазваляе з вялікай ступенню верагоднасці аднесці час узнікнення гарадзішч Зазоны і Рацюнкі да канца 2-га — пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. Іншыя знаходкі з каменя і косці (свідраваныя і клінападобныя сякеры, наканечнікі стрэл, шпількі, праколкі, ручкі і інш.) таксама знаходзяць поўную адпаведнасць ў ранніх слаях усходнелітоўскіх гарадзішчаў, датаваных апошняй чвэрцю 2-га — трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя да н. э. Мяркуючы па матэрыялах, недза у першай палове 1-га тысячагоддзя да н. э. узнікае і гарадзішча Гарані.

Што датычыцца іншых ранніх гарадзішчаў беларускага арэала культуры штрыхаванай керамікі, то яны з'яўляюцца пазней. Так, напрыклад, узнікненне ўмацаваных паселішчаў каля вёсак Гарадзішча, Кашчэлічы і іншых па знаходках каменных сякераў, долатаў, касцяных шпілек, праколак можа быць аднесена да 1-га тысячагоддзя да н. э. Аднак іх больш дакладная ніжняя храналагічная мяжа не высветлена з прычыны адсутнасці дакладна датаваных прадметаў .

Найбольш познюю дату ўзнікнення гарадзішчаў са знаходкамі з косці і перавагай керамікі S-падобнай прафілёўкі і слоікавай формы даюць ніжнія адкладанні культурнага слоя ў Лабеншчыне. Тут разам з такімі касцянымі вырабамі, як сякера з ласінага рогу, шпількі, праколкі, ручкі, знойдзены ўжо некаторыя жалезныя вырабы, напрыклад абломак наканечніка дзіды, які А. Р. Мітрафанаў датуе часам сярэдняга латэну (Митрофанов, 1978. С. 37). Калі гэта так, то раннія адкладанні гарадзішча Лабеншчына можна аднесці да сярэдзіны III—II ст. да н. э.

Трэцяя група гарадзішчаў, керамічны комплекс якіх характарызуецца пераважна рабрыстымі гаршкамі, узнікае не раней сярэдзіны I ст. да н. э. Так,

напрыклад, воінская фібула позналатэнскай схемы, знойдзеная на гарадзішчы Малышкі, дазваляе аднесці яго пачатковую дату да часу не пазней канца I ст. да н. э. (Амброз, 1966. С. 57).

Прыкладна да гэтага часу можна аднесці і з'яўленне на гарадзішчы Івань носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Магутны культурны слой, які залягае па краях пляцоўкі, і мноства знаходак, у тым ліку добра датаваных, дазваляюць з дастатковай ступенню верагоднасці вызначыць як час іх з'яўлення, так і спыненне функцыяніравання гэтага помніка. У яго ніжніх адкладаннях знойдзены шкляныя залачоныя пацеркі, час бытавання якіх адносіцца ў асноўным да II ст. да н. э. — I ст. н. э. (Алексеева, 1978. С. 29). Тут жа знойдзены тыпова зарубінецкі кельт, аналогіі якога ёсць у позніх пахаваннях Чаплінскага могільніка, датаваных Л. Д. Побалем сярэдзінай I ст. да н. э. — I ст. н. э. (Поболь, 1971в. С. 127).

Такім чынам, спалучэнне гэтых знаходак дазваляе аднесці час з'яўлення на гарадзішчы Івань «штрыхавікоў» не раней чым да другой паловы I ст. да н. э. Дастаткова выразна прасочваецца і заключны этап функцыяніравання гэтага ўмацаванага паселішча. Знаходкі ў верхніх пластах шкляной бочкападобнай пацеркі аранжавага колеру, характэрнай для I ст. н. э., трохчасткавай залачонай пацеркі, датаванай па паўночнапрычарнаморскіх аналогіях першымі стагоддзямі н. э. (Алексеева, 1978. С. 30, 65), а таксама еочкавай фібулы тыпу V серыі А, паводле класіфікацыі Р. Ямкі, распаўсюджаных у канцы першай чвэрці — другой палове I ст. н. э. (Jamka, 1964. S. 53, 54; Prahistoria... 1981. S. 52. Рус. 7), дазваляюць аднесці канчатковую дату гарадзішча Івань да трэцяй чвэрці I ст. н. э. Відаць, непрацяглым было і функцыяніраванне гарадзішча Мыслі. Знаходкі ў жытлах разам з рабрыстай штрыхаванай керамікай невялікай колькасці абломкаў глянцаваных зарубінецкіх місак, залачонай і шэра-блакітнай бочачкападобных пацерак (Алексеева, 1978. С. 66) дазваляюць датаваць яго сярэдзінай — трэцяй чвэрцю I ст. н. э.

Разгледжаныя вышэй матэрыялы паказваюць, што найбольш старажытныя гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі ў беларускім арэале ўзнікаюць на паўночным захадзе рэспублікі, якія разам з Усходняй Літвой, відаць, быў ядром фарміравання культуры. На працягу 1-га тысячагоддзя да н. э. адбываецца рассяленне яе носьбітаў у паўднёвым і паўднёва-ўсходнім напрамках, а ў другой палове I ст. да н. э. — I ст. н. э. паўднёвая мяжа стабілізуецца прыкладна па лініі Баранавічы—Нясвіж—Капыль—Слуцк, пасля чаго пачынаецца скарачэнне арэала культуры ў адваротным напрамку.

Як ужо адзначалася, гарадзішча Івань і Мыслі спынілі сваё існаванне не пазней канца I ст. н. э. Мяркуючы па прагнутых падвязных фібулах верхнедняпроўскай серыі, у I ст. н. э. спыняюць сваё функцыяніраванне гарадзішчы Навасёлкі і Банцараўшчына (ніжні гарызонт). Пазней згасае жыццё ў Малышках. Самую познюю дату тут дае авальная фібула, якая адносіцца да другой паловы III — першай паловы IV ст. н. э. (Madyda, 1977. S. 377, 378; Гороховский, 1988. С. 42, 43).

Верхні гарызонт гарадзішча Лабеншчына пададзены такімі добра датаванымі знаходкамі, як адна- і двухчасткавая прамавугольныя спражкі, распаўсюджанымі ў пшзворскай культуры ў II — пачатку III ст. н. э. (Madyda, 1977. S. 409), і касцяным грэбенем, блізкія аналагі якому шырока вядомы ў Заходняй Еўропе, дзе яны датуюцца другой паловай I — першай паловай III ст. н. э. (Tohmas, 1960. S. 56, 57; Кухаренко, 1980. С. 53, 54). У блізкі час спыняюць сваё існаванне гарадзішчы Браслаўшчыны. Так, верхнюю храналагічную мяжу паселішча культуры штрыхаванай керамікі ў Зазонах дыяг-

настуе наканечнік пояса, датыроўка якога вар'іруе ў межах 150—220 гг. н. э. (Madyda-Legutko, 1983б. S. 98), а фінал гарадзішча ў Рацюнках — жалезная адначасткавая спражка прамавугольнай формы. Падобныя экземпляры былі распаўсюджаны ў Цэнтральнай Еўропе ў I — пачатку III ст. н. э. (Кухаренко, 1980. С. 47).

Больш складаным з'яўляецца пытанне з канчатковай датай гарадзішча Кашчэлічы. Адзінай вузка датаванай рэччу тут з'яўляецца моцнапрафіляваная фібула заходнееўрапейскага тыпу, якая, на думку А. К. Амброза, адносіцца да 40—70-х гадоў I ст. н. э. (Амброз, 1966. С. 36). Аднак яна, відаць, не вызначае канец гэтага помніка.

Культурны слой гарадзішча Кашчэлічы характарызуецца сумесным заляганнем рабрыстай штрыхаванай, а таксама невялікай колькасцю гладкасценнай і паліванай керамікі, частка якой паўтарае форму рабрыстых гаршкоў культуры штрыхаванай керамікі. Падобны посуд ва Усходняй Літве прыходзіць на змену штрыхаванаму і датуецца ў асноўным III—IV стст. н. э. (Grigalavičienė, 1986b. P. 137). Пачатковая дата гэтай керамікі дапушчальная і для гарадзішча Кашчэлічы, улічваючы яе нязначны працэнт. Яна падмацоўваецца знаходкай наканечніка дзіды, блізкага да тыпу I B, паводле класіфікацыі В. Казакявічуса, датаванага III—IV стст. н. э. (Казакявичюс, 1988. С. 29). Падобную дату (III—V стст.) дае і другі аналаг, знойдзены на дзякаўскім Шчэрбінскім гарадзішчы (Дубынин, 1974. С. 229). Нарэшце жалезная авальная спражка з гэтага помніка не выходзіць за межы другой паловы III — першай паловы IV ст. н. э. (Madyda, 1977. S. 377, 378). Відаць, апошняя дата можа быць прынята ў якасці канца існавання гарадзішча Кашчэлічы.

Заключную дату культуры штрыхаванай керамікі даюць два помнікі: гарадзішча каля в. Гарадзішча і селішча Равячка Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. На думку А. Р. Мітрафанава, жыццё на гарадзішчы спынілася ў канцы III — пачатку IV ст. н. э. (Митрофанов, 1978. С. 88). Аднак знаходка тут у 1988 г. буйной авальнай спражкі дазваляе ўдакладніць дату знаходжання носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі на гэтым помніку. Вядома, што ў пшэворскай і некаторых іншых культурах на тэрыторыі Польшчы аналагічныя вырабы адносяцца да фазы D, якая датуецца 350—450 гг. н. э. (Madyda, 1977. S. 409).

Паселішча Равячка не мае датаваных рэчаў, што адносяцца да культуры штрыхаванай керамікі. Яно цікавае ў іншым плане. У адной з паўзямлянак (№ 4), адкрытых тут, па канструкцыйных асабліаасцях і інтэр'еру аналагічнай банцараўскім, у развале печы-каменкі быў знойдзены рабрысты гаршчок культуры штрыхаванай керамікі. Акрамя яго ў запаўненні жытла знойдзены абломкі яшчэ 2—3 рабрыстых штрыхаваных гаршкоў, абломак глінянага прасліца, грузіла ад сетак і жалезны нож з прамой спінкай, якія таксама знаходзяць аналогіі сярод іншых помнікаў культуры штрыхаванай керамікі. Усё гэта дазваляе датаваць паўзямлянку не пазней за другую палову V ст. н. э.

Такім чынам, культура штрыхаванай керамікі прайшла доўгі шлях гістарычнага развіцця. З'явіўшыся ў канцы 2-га — пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э., яна ў асобных месцах існавала да сярэдзіны V ст. н. э., хоць на большай частцы яе арэала ўмацаваныя паселішчы спынілі існаванне ў II—III стст. н. э. Чым гэта было выклікана — адтокам насельніцтва з поўдня на паўночны захад, у месцы фарміравання культуры, ці пераходам насельнікаў гарадзішчаў на неўмацаваныя паселішчы, цяпер сказаць цяжка. Ва ўсялякім выпадку селішчы культуры штрыхаванай керамікі ў Сярэдняй Беларусі адзінкавыя, і пакуль перавага аддаецца першай версіі.

За такі працяглы тэрмін свайго функцыяніравання культура не заставалася нязменнай. Яе вытокі ідуць з эпохі бронзы з панаваннем каменнай і касцяной індустрыі, а фінал прыпадае на развіты жалезны век. А. Р. Мітрафанаў першапачаткова вылучыў два этапы ў яе развіцці: 1) 1-е тысячагоддзе да н. э.; 2) першая палова 1-га тысячагоддзя н. э. (Митрофанов, 1978. С. 9—28). Аднак у далейшым ён скарэктыраваў сваю пазіцыю і прапанаваў тры этапы замест двух: 1) VII—V стст. да н. э.; 2) IV—I стст. да н. э.; 3) I—V стст. н. э. (Митрофанов, 1980. С. 102—103).

У якасці крытэрыяў ім прапанаваны шэраг змяненняў у матэрыяльнай культуры і асноўных відах гаспадарчай дзейнасці: трансфармацыя фартыфікацыйных збудаванняў, змена формаў гаспадарання, змяненні ў рэчавым комплексе і інш. Асноўнымі рысамі першага этапу, на яго думку, з'яўляюцца: панаванне адкрытых паселішчаў, перавага прысвойваючых формаў гаспадаркі над вытвараючымі, дамінаванне касцяной і каменнай індустрыі, перавага слоікавага і слабапрафіляванага посуду. На другім этапе з'яўляюцца слабаўмацаваныя гарадзішчы, павялічваецца роля ляднага земляробства і жывёлагадоўлі, параўнальна шырока распаўсюджваецца жалеза, з'яўляюцца рабрыстыя гаршкі і інш. Нарэшце, на трэцім этапе фартыфікацыйныя сістэмы паселішчаў дасягаюць максімальнага роскеіту, узнікае шэраг новых гарадзішчаў, вытвараючыя формы гаспадаркі робяцца вядучымі, жалезныя вырабы паўсюдна выцясняюць каменныя і касцяныя, у посудзе дамінуюць рабрыстыя гаршкі.

Прапанаваная А. Р. Мітрафанавым схема развіцця культуры, нягледзячы на яе прыцягальнасць з пункту погляду больш вузкага датавання асобных перыядаў, усё ж не бясспрэчная. Гэта перш за ўсё датычыцца другога перыяду. У цяперашні час археалагічныя матэрыялы не дазваляюць аб'ектыўна меркаваць пра павелічэнне ролі вытвараючай гаспадаркі ў гэты перыяд у параўнанні з папярэднім. У сваю чаргу большасць жалезных вырабаў адносяцца да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. Што датычыцца рабрыстых гаршкоў, то іх з'яўленне хутчэй за ўсё таксама адносіцца да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. Усё гэта разам узятае выклікае сумненне ў абгрунтаванасці вылучэння ў якасці самастойнага другога этапу культуры штрыхаванай керамікі.

Улічваючы сучасны ўзровень вывучанасці, будзе больш абгрунтаваным вярнуцца да першапачатковай перыядызацыі А. Р. Мітрафанава і вылучыць два этапы ў развіцці культуры: 1) канец 2-га — пачатак 1-га тысячагоддзя да н. э. — сярэдзіна I ст. да н. э.; 2) сярэдзіна I ст. да н. э. — V ст. н. э. (мал. 51).

Для першага этапу характэрна: 1) панаванне каменнай і касцяной індустрыі; 2) наяўнасць слабапрафіляваных і слоікавых гаршкоў, пакрытых суцэльнай штрыхоўкай ад венчыка да донца; 3) перавага жывёлагадоўлі над земляробствам; 4) распаўсюджанне слабаўмацаваных паселішчаў.

На другім этапе з'яўляюцца істотныя змяненні ў матэрыяльнай культуры і сярод іх пераважаюць наступныя: 1) выцясненне апрацоўкі каменя і косці паўсюдным распаўсюджаннем чорнай металургіі; 2) параўнальна высокі ўзровень апрацоўкі жалеза; 3) знікненне слабапрафіляванага посуду, змяншэнне долі слоікавага, поўнае панаванне рабрыстых гаршкоў, у якіх, як правіла, штрыхоўка наносілася на тулаве ад рабра да донца; 4) значнае ўзрастанне ролі ляднага земляробства ў выніку масавага распаўсюджання жалезных прыладаў працы; 5) мадэрнізацыя фартыфікацыйных збудаванняў старых гарадзішчаў і з'яўленне вялікай колькасці новых моцна ўмацаваных паселішчаў.

Адным з цэнтральных пытанняў вывучэння любой археалагічнай культуры з'яўляецца высаятленне этнічнай прыналежнасці яе носьбітаў. У адносінах пляменаў культуры штрыхаванай керамікі да нядаўняга часу істотных разнагалоссяў гэта пытанне не выклікала. Яшчэ ў 1930 г. А. Н. Ляўданскі, які даследаваў цэлую серыю гарадзішчаў са штрыхаванай керамікай, услед за А. А. Спіцыным выказаў меркаванне аб тым, што яе носьбіты былі балтамі (Ляўданскі, 1930б. С. 336). У далейшым гэты пункт погляду быў падтрыманы А. Р. Мітрафанавым, В. В. Сядовым, Э. А. Данілайтэ (Грыгалавічэне), Я. Я. Граудонісам і іншымі даследчыкамі, якія звязвалі плямёны культуры штрыхаванай керамікі з усходнелітоўскім насельніцтвам (Митрофанов, 1955. С. 16, 17; Митрофанов, 1978. С. 151; Моора, 1958. С. 24; Седов, 1970. С. 21—25; Данилайте, 1968; Граудонис, 1967. С. 104).

Аднак гэтага пункту погляду прытрымліваліся не ўсе. Так, напрыклад, у пачатку 60-х гадоў Ф. Д. Гурэвіч выказала меркаванне аб тым, што старажытнасці культуры штрыхаванай керамікі былі пакінуты балтыйскімі плямёнамі, «... чыя культура па-за вобласцю ўсходнелітоўскіх пляменаў знікла ў выніку славянскай каланізацыі, не пакінуўшы прыкметных слядоў у культуры больш позняга часу» (Гуревич, 1962. С. 36).

На блізкай пазіцыі стаяў В. А. Ушынскас. Ён таксама, як і Ф. Д. Гурэвіч, адмаўляе наяўнасць генетычных сувязей паміж культурай штрыхаванай керамікі і культурай усходнелітоўскіх курганоў, і на падставе гэтага робіць выснову, што большая частка «штрыхавікоў» была вымушана пайсці з тэрыторыі пад уздзеяннем некалькіх хваляў носьбітаў усходнелітоўскіх курганоў, і таму роля культуры штрыхаванай керамікі ў этнагенезе балтаў разглядаецца ім як абмежаваная (Ушинскас, 1989. С. 62—67).

Дабалцкую этнічную аснову прызнаваў у плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі і П. М. Траццякоў, які бачыў у іх «мясцовае па паходжанні насельніцтва, якое было з 2-га тысячагоддзя да н. э. акружана балтыйскімі плямёнамі і, відаць, паступова імі асіміляванае» (Третьяков, 1966. С. 162). Пункт погляду П. М. Траццякова часткова быў падтрыманы і канкрэтызаваны Э. М. Загарульскім. На яго думку, частка нёманскага неалітычнага насельніцтва пад націскам балтаў была вымушана адысці на ўсход, дзе пазней яна зазнала асіміляцыю з боку нёманскіх і дняпроўскіх балтаў. У выніку асіміляцыйнага працэсу перамогу атрымала балтыйская мова (Загорульский, 1977. С. 59, 61).

Такім чынам, нягледзячы на некаторыя разыходжанні ў трактоўцы генезісу і этнічнай інтэрпрэтацыі культуры штрыхаванай керамікі, большасць з гэтых даследчыкаў усё ж прытрымліваецца думкі аб балцкім ці балтызаваным характары культуры. Разам з тым у апошнія гады намецілася яшчэ адна пазіцыя, згодна з якой носьбіты культуры штрыхаванай керамікі маюць прамыя адносіны да славянскага этнагенезу. Гэты пункт погляду ўпершыню выказаў у пачатку 80-х гадоў Д. А. Мачынскі. На яго думку, носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі можна ідэнтыфікаваць з заходнімі славянамі, якія ў першых стагоддзях новай эры перасяліліся ў Прыкарпацце (Мачинский, 1981. С. 31—52).

Версія пра магчымую прыналежнасць культуры штрыхаванай керамікі праславянскаму свету праводзіцца і ў апошніх яго працах (Мачинский, 1989. С. 120—130). Гіпотэза Д. А. Мачынскага знайшла падтрымку сярод некаторых пецярбургскіх археолагаў (Булкин, 1983. С. 5—8; Лебедев, 1989. С. 107—114). Так, напрыклад, Г. С. Лебедзеў лічыць, што да апошніх стагоддзяў

1-га тысячагоддзя да н. э. у лясной паласе Усходняй Еўропы захоўваўся протабалта-славянскі масіў у асобе носьбітаў шэрагу культур ранняга жалезнага веку: мілаградскай, штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, юхнаўскай, верхнеокскай, прычым цэнтральная частка гэтага арэала, куды ўваходзілі тэрыторыі мілаградскіх плямёнаў і плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі, з'яўлялася ядром славянскай прарадзімы (Лебедев, 1989. С. 107—114).

Аднак нельга не адзначыць таго, што версія пра існаванне балта-славянскага этнічнага адзінства многімі даследчыкамі не падзяляецца. Але калі нават дапусціць наяўнасць падобнага этнічнага масіву, цяжка паверыць у тое, што ён дажывае да апошніх стагоддзяў 1-га тысячагоддзя да н. э. (а калі разглядаць такія культуры, як культура штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінская, відаць, яго канчатковая фаза павінна быць даведзена да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э., г. зн. да з'яўлення гістарычна зафіксаваных славян).

Штрыхаваная кераміка — гэта шырокая этнакультурная з'ява эпохі позняй бронзы і ранняга жалезнага веку лясной паласы Усходняй Еўропы. Але далёка не ўсюды яе можна далучыць уласна да культуры штрыхаванай керамікі. У класічным выглядзе гэта культура, відаць, сфарміравалася на тэрыторыі Усходняй Літвы і крайніх раёнаў паўночнага захаду Беларусі. У далейшым адбываецца рассяленне яе носьбітаў на поўдзень, паўднёвы ўсход, усход. У эпоху свайго роскеіту (I—II стст. н. э.) адбываецца стабілізацыя арэала, які ўключаў у сябе акрамя карэннай тэрыторыі Паўднёва-Усходнюю Латвію, некаторыя раёны Беларускага Перадпалесся, а таксама Верхняй і Сярэдняй Бярэзіны.

Культура штрыхаванай керамікі мае шэраг падобных рыс з такімі культурамі лясной паласы, як днепра-дзвінская, верхнеокская, раннія гарадзішчы Заходняй і Усходняй Латвіі. Гэтыя адпаведнасці ў першую чаргу датычаць домабудаўніцтва (наземныя жытлы слупавой канструкцыі), агульных тэндэнцый развіцця (панаванне на раннім этапе касцяной і каменнай індустрыі), блізкасці матэрыяльнай культуры і сацыяльна-эканамічнага ладу жыцця, адсутнасці пахавальных помнікаў (за выключэннем тэрыторыі Латвіі). Усе гэтыя культуры ўпісваюцца ў арэал балцкай гідраніміі і могуць быць інтэрпрэтаваны як балцкія (Седов, 1970. Рис. 8). Што датычыць культуры штрыхаванай керамікі, то, на думку В. В. Сядова, яна з'яўляецца ядром балтаў, вакол якога фарміраваліся балцкія дыялекты (Седов, 1985. С. 93, 94).

У III—V стст. н. э. у літоўскім арэале культуры штрыхаваную кераміку выцясняе шурпатая, а ў беларускім — пасля I ст. н. э. адбываецца паступовы працэс спынення функцыяніравання гарадзішчаў, прычым першымі былі пакінуты перыферыйныя паселішчы. Чым гэта было выклікана, ці скарачэннем арэала культуры пад уздзеяннем нейкіх знешніх фактараў (напрыклад, актывізацыяй паўднёвых сусадзяў), ці пераходам насельнікаў на паселішчы, у цяперашні час адказаць немагчыма. Апошнія прадстаўнікі культуры штрыхаванай керамікі былі асіміляваны прышлымі з усходу носьбітамі банцараўскай культуры.




*Мал. 37. Культура штрыхаванай керамікі. Умоўныя адзнакі: 1 — гарадзішчы; 2 — селішчы*

*1 — Рацюнкі; 2 — Шавуры; 3 — Зазоны; 4 — Укля; 5 — Замошша; 6 — Дзяўгуны-1; 7 — Дзяўгуны-2; 8 — Русакі; 9 — Забоенне; 10 — Азяруты; 11 — Стары Пепель; 12 — Старасельле; 13 — Варганы; 14 — Асецішча-1; 15 — Асецішча-2; 16 — Бярэзіна; 17 — Бірулі; 18 — Старое Заполле; 19 — Асінавік; 20 — Гарадзішча; 21 — Запруддзе; 22 — Псуя; 23 — Зарубіна; 24 — Патыгаль; 25 — Шаўкуны; 26 — Шылы; 27 — Падгаі; 28 — Галубічы; 29 — Верабкі; 30 — Купішы; 31 — Сарокі, 32 — Гуры; 33 — Каранеты; 34 — Ігнацава; 35 — Якубішкі; 36 — Гарані; 37 — Няхведы, 38 — Міжупічы; 39 — Войстам; 40 — Шчапанавічы; 41 — Мантацішкі; 42 — Суцькава; 43 — Некасецк; 44 — Бялоўшчына; 45 — Беравікі, 46 — Гарадзішча; 47 — Баравыя; 48 — Баяры; 49 — Свір; 50 — Астраўляны; 51 — Цепякі; 52 — Равячка; 53 — Навасёлкі; 54 — Мікольцы; 55 — Дзянісава, 56 — Шыкавічы; 57 — Занарач; 58 — Дзевілі; 59 — Ручыца, 60 — Малышкі; 61 — Орпа; 62 — Даўгінава; 63 — Рэчкі; 64 — Баравыя; 65 — Бязводнае, 66 — Любаўшы; 67 — Насілава; 68 — Загорцы; 69 — Краснае; 70 — Трапалава; 71 — Радашкавічы, 72 — Гарадзілава, 73 — Васькоўцы, 74 — Перадоўшчына; 75 — Сяледчыкі; 76 — Дубровы; 77 — Вязынка; 78 — Калдыкі; 79 — Кашчэлічы; 80 — Валожын, 81 — Яршэвічы, 82 — Ізбалаць; 83 — Замасцяны; 84 — Ясенішкі; 85 — Ракаў; 86 — Поск; 87 — Замасцяны; 88 — Тарасіна-1; 89 — Тарасіна-2; 90 — Гарадзішча, 91 — Малы Казінец, 92 — Камень; 93 — Васількоўка; 94 — Мачаны, 95 — Гарадзішча; 96 — Кузевічы; 97 — Лагойск-1; 98 — Лагойск-2; 99 — Свідна; 100 — Сілічы, 101 — Аздзяцічы, 102 — Дзядзілавічы; 103 — Кімія; 104 — Карсакавічы-1, 105 — Карсакавічы-2; 106 — Завалле; 107 — Крацэвічы, 108 — Навасёлкі; 109 — Слабодка, 110 — Паўнікі; 111 — Вялікая Ухалода; 112 — Клішына; 113 — Кіявец; 114 — Пліса; 115 — Вялікае Гародна; 116 — Каменка, 117 — Навасады; 118 — Дзяржынск; 119 — Старая Рудзіца; 120 — Збаравічы; 121 — Банцараўшчына; 122 — Гарадзішча; 123 — Дворышча, 124 — Лабеншчына; 125 — Астрашыцкі Гарадок, 126 — Міханавічы, 127 — Прылепы; 128 — Сула; 129 — Васілеўшчына; 130 — Аношкі; 131 — Качановічы; 132 — Алёхаўка, 133 — Гарадзішча, 134 — Цепленъ; 135 — Амговічы; 136 — Грэск; 137 — Заграддзе; 138 — Івань; 139 — Слуцк, 140 — Мыслі; 141 — Чурылавічы, 142 — Каппанцы; 143 — Свіслач; 144 — Смык, 145 — Лапічы; 146 — Чыжаха; 147 — Мураў Замак; 148 — Пысуха; 149 — Котава-1; 150 — Котава-2, 151 — Змітравічы; 152 — Прыбрэжная; 153 — Ваўкавыск; 154 — Грабенка; 155 — Гарадзішча; 156 — Варанча; 157 — Гарадзішча; 158 — Салы; 159 — Славічы; 160 — Пужычы; 161 — Нача; 162 — Дзятлава; 163 — Чарэшля; 164 — Ясеневічы; 165 — Шыпавічы; 166 — Дудзічы; 167 — Жораўка; 168 — Кавалевічы; 169 — Паддуб'е; 170 — Балачанка; 171 — Міхрэчча; 172 — Бліжні Бор; 173 — Церабуты; 174 — Мацэвічы*




*Мал. 38. Планы гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі: 1 — Кашчэлічы; 2 — Лабеншчына; 3 — Івань; 4 — Старая Рудзіца; 4 — Малышкі; 6 — Кімія; 7 — Навасёлкі (1, 4, 5 — па А. М. Мядзведзеву; 4, 6, 7 — па А.Р.Мітрафанаву; 3 — па А. А. Егарэйчанку)*




Мал. 39. Планы жытлаў культуры штрыхаванай керамікі: 1 — Вязынка; 2 — Малышкі; 3 — Васількоўка; 4 — Лабенічына; 5 — Мыслі (1—4 — па А. Р. Мітрафанаву; 5 — па М. Ф. Гурыну)




*Мал. 40. Гарадзішча Мыслі. Забудова даследаванай часткі (па М. Ф. Гурыну)*




*Мал. 41. Лятны посуд ранняга этапу культуры штрыхаванай керамікі: 1, 14 — Гарані; 2—13, 15, 16 — Рацюнкі*




*Мал. 42. Ляпны посуд позняга этапу культуры штрыхаванай керамікі: 1 — Лабеншчына; 2 — Гарані; 3, 6, 7 — Іаань; 4 — Равячка; 5 — Вязынка*




*Мал. 43. Касцяныя вырабы культуры штрыхаванай керамікі: 1—6 — долаты; 7, 13, 22, 27, 28 — качэдыкі; 8—12, 14—17, 20, 21, 23 — праколкі; 18 — сякера; 19, 24—26 — ручкі (1, 5, 6, 12, 14, 16, 17, 22, 27, 28 — Зазоны; 2—4, 8—11, 15, 20, 24—26 — Рацюнкі; 7, 13 — Тарыпава; 18 — Лабеншчына; 19, 21 — Гарані; 23 — Кашчэлічы)*




*Мал. 44. Касцяная зброя з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі: 1—11, 14, 15, 17—20 — наканечнікі стрэл; 12, 13 — кінжалы; 21—25 — наканечнікі дзід (1—10, 21—23, 25 — Гарані; 11, 13, 14, 16, 19, 20 — Зазоны; 12, 15, 17, 18, 24 — Рацюнкі)*




*Мал. 45. Касцяныя падвескі (1, 2, 9—11), амулеты (5—8, 12—14), дэталі вопраткі (3, 4, 15—31) з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі: 1, 7, 12—14, 18, 22 — Зазоны; 2, 3, 20, 26, 28, 30 — Рацюнкі; 4, 31 — Кашчэлічы; 5, 8—11, 15—17, 21, 19, 23, 24, 27, 29 — Гарані; 6 — Лабеншчына; 25 — Навасёлкі*




*Мал. 46. Каменныя прылады працы і помнікаў культуры штрыхаванай керамікі: 1—14 — клінападобныя сякеры; 15—18 — свідраваныя сякеры; 19, 20 — церачнікі (1—4, 9, 15—18 — Гарані; 5—8, 10—14, 19, 20 — Зазоны)*




Мал. 47. Жалезныя прылады працы з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі: 1 — нажніцы; 2--5 — нажы; 6—11 — шылы; 12 — сякерападобная прылада; 13—20 — сярпы і нажы для жніва; 21, 22 — рыбалоўныя кручкі; 23 — сякера; 24 — кельт (1 — Мыслі; 2, 13, 16—19 — Лабенщчына; 3—5, 7—11, 14, 15, 24 — Івань; 6, 12 — Кашчэпічы; 20 — Малышкі; 21—23 — Гарані)




*Мал. 48. Зброя і рыштунак вершніка з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі: 1—4 — шпоры, 5 — рукаятка кінжала; 6—9 — наканечнікі дзід (1 — Гарадзішча; 2 — Варонча; 3, 5, 8 — Іаань; 4 — Аношкі; 6 — Кашчэлічы; 7 — Малышкі; 9 — Аздзяцічы)*




Мал. 49. Упрыгожанні і дэталі вопраткі носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі: 1, 2, 8 — пранізкі; 2—7 — пацеркі; 9—16 — падвескі; 17, 18 — пярсцёнкі; 19—22 — бранзалеты; 23—29 — фібулы; 30—31 — кольцы; 33 — грэбень; 34—39 — спражкі; 40 — наканечнік пояса; 41—51 — посахападобныя шпількі (1, 9, 18, 21, 22, 24, 28, 30, 41 — Мыслі; 2—7, 10—16, 26, 42, 43 — Івань; 8, 49, 51 — Гарані; 17, 33, 35, 36, 46—48, 50 — Лабеншчына; 19 — Кімія; 20, 25, 38—44 — Кашчэлічы; 23, 27, 32, 37 — Малышкі; 29, 45 — Навасёлкі; 31, 34 — Рацюнкі; 39 — Гарадзішча; 40 — Зазоны)



*Мал. 50. Гліняныя вырабы з помнікаў культуры штрыхаванай керамікі: 1—14 — прасліцы; 15—19, 26, 27 — гузікі дзякавага тыпу; 20, 24, 25 — тыглі; 21 — льячка; 22, 23 — рыбалоўныя грузілы (1, 5, 8, 11—14, 22, 23 — Малышкі; 2—4, 6, 7, 9, 10 — Івань; 15—19 — Гарані; 20, 24, 25 — Кашчэлічы; 21 — Варонча; 26 — Кімія; 27 — Аздзяцічы)*

# Раздзел 4

# ДНЕПРА-ДЗВІНСКАЯ КУЛЬТУРА

## 1. ТЭРЫТОРЫЯ РАССЯЛЕННЯ І ЛАКАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

У выніку даследаванняў археалагічных помнікаў ранняга жалезнага веку Паўночнай Беларусі (басейн Заходняй Дзвіны) і Смаленшчыны (басейн Верхняга Дняпра) была вылучана своеасаблівая культура, звязаная са старажытнасцямі ўсходніх балтаў, якія ў далейшым зніклі ў працэсе этнагенезу сучасных народаў Усходняй Еўропы. А. М. Ляўданскі, які упершыню выявіў падабенства старажытнасцей заходнедзвінскіх гарадзішчаў з гарадзішчамі Смаленшчыны, лічыў, што гэта ідэнтычнасць звязана з адзіным этнакультурным масівам, які належаў «прыбалтыйскім» плямёнам (Ляўданскі, Палікарповіч, 1936. С. 210—225).

Слабая ступень вывучанасці разглядаемых старажытнасцей не дазволіла даследчыку вызначыць іх тэрытарыяльна. П. М. Траццякоў у 30-х гадах вылучае смаленскія гарадзішчы ў асобную археалагічную культуру. Старажытнасці ж Беларускага Падзвіння некаторыя даследчыкі разглядалі як самастойную заходнедзвінскую культуру (Алексеев, 1966).

На карце археалагічных культур у Беларусі Л. В. Аляксееў размяркоўвае заходнедзвінскія і верхнедняпроўскія (смаленскія) старажытнасці па лініі на захад ад Оршы ад вытокаў рэк Усвейкі, Друці і Абалянкі, далей на поўнач мяжа ідзе на ўсход ад Бешанковічаў і, паварочваючы да Віцебска праз вярхоўі ракі Вялікай, накіроўваецца на паўночны захад (Алексеев, 1966. С. 23. Рис. 1). Дэталёвае вывучэнне матэрыялаў гарадзішчаў Беларускага Падзвіння дазволіла А. Р. Мітрафанаву аб'яднаць старажытнасці Беларускага Падзвіння і ідэнтычныя ім смаленскія ў адзін этнакультурны масіў пад назвай днепра-дзвінскай культуры (Митрофанов, Будько, 1967. С. 137). Гэты пункт погляду аспрэчваў П. М. Трэццякоў, які лічыў, што ўсё левабярэжжа Заходняй Дзвіны ўваходзіла ў зону культуры штрыхаванай керамікі, а правабярэжжа — у асобную групу старажытных гарадзішчаў з танкасценнай керамікай разам з сінхроннымі старажытнасцямі Себежскага краю (Третьяков, 1963. С. 21). Культуру ж смаленскіх гарадзішчаў ён абмяжоўваў толькі смаленскім і часткова віцебскім цячэннем Заходняй Дзвіны (Третьяков, 1963. С. 21)

У выніку даследаванняў Я. А. Шміта, А. Р. Мітрафанава, К. П. Шута, В. І. Шадыры і іншых тэрыторыя максімальнага распаўсюджання днепра-дзвінскай культуры па сучаснаму адміністрацыйнаму дзяленню ўключае ў сябе амаль усю Смаленскую вобласць, заходні край Калужскай вобласці, невялікую частку на поўначы Бранскай вобласці і паўднёвыя раёны Пскоўскай і Калінінскай абласцей Расіі. У межах Беларусі: паўночна-ўсходнюю частку Магілёўскай вобласці і амаль усю Віцебскую вобласць (мал. 52).

Гаворачы аб арэале днепра-дзвінскай культуры, нельга не адзначыць, што яе межы нават там, дзе яны былі добра прасочаны, з'яўляюцца вельмі неакрэсленымі. Гэта, дарэчы, датычыць і ўсіх іншых культур ранняга жалеза. Масіў, які ўключае ў сябе разнастайныя культуры, не меў выразных размяркаванняў і мае шырокія зоны з больш ці менш змешанай матэрыяльнай культурай. Такі факт ускладняе акрэсленне выразных граніц паміж імі. Таму дакладна вызначыць паўднёва-ўсходнюю граніцу днепра-дзвінскай культуры ў межах Беларусі пакуль не ўяўляецца магчымым. Аднясенне ўсёй паўночна-ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці ў яе арэал з'яўляецца ў некаторых выпадках даволі спрэчным. Што тычыцца паўднёвай мяжы, то яна праходзіла на поўнач ад ракі Беседзь (Шадыра, 1998. С. 80—90. Мал. 1).

Блізкасць культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай абумовіла значны ўзаемаўплыў іх адна на другую, аб чым пераканаўча сведчаць матэрыялы гарадзішчаў з Лепельскага раёна (Кастрыца, Бароўна, Аўгустова). Можна канстатаваць рысы абедзвюх культур у прыёме штрыхоўкі на пасудзінах днепра-дзвінскіх форм. Тут мы сутыкаемся з пераходнай зонай міжкультурных адносін. Падобная з'ява назіраецца і на заходняй граніцы старажытнасцей днепра-дзвінскай культуры. Вывучэнне матэрыялаў з гарадзішчаў Зазоны, Тарылава, Рацюнкі, Маскавічы, Лукшы (Браслаўскі раён) сведчыць таксама аб наяўнасці кантактнай паласы прыкладна па лініі Дунілавічы—Варапаева—Браслаў—Краслава (Латвія). На гэтых помніках выяўлена як штрыхаваная, так і гладкасценная кераміка.

Паўночная граніца днепра-дзвінскай культуры ахоплівае тэрыторыю Беларускага Правабярэжжа Заходняй Дзвіны, а таксама паўднёвыя раёны Пскоўскай вобласці. На паўночным усходзе, у міжрэччы Ловаці і верхоўяў Заходняй Дзвіны, на шэрагу гарадзішчаў зафіксавана сеткаватая кераміка. Пераходная паласа, падобная на тую, якая назіраецца на парганіччы родных культур днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі, не зарэгістравана. Тут часта сустракаюцца на адным паселішчы як сеткаватая, так і гладкасценная кераміка. Гэта з'ява назіраецца на самай паўночна-ўсходняй ускраіне Віцебшчыны (Загорцы, Мямлі, Буракова). Наяўнасць фрагментаў сеткаватай керамікі можна растлумачыць, відаць, інфільтрацыяй фіна-угорскага насельніцтва ў балцкім асяроддзі: шлюбнымі сувязямі, гандлёвым абменам, палонам насельніцтва і г. д.

**Лакальныя асаблівасці.** На тэрыторыі Беларускага Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў раннім жалезным веку склалася ўстойлівая група балцкіх плямёнаў, стварыўшых сваю культуру, якая мела свае адметныя рысы на працягу звыш тысячы гадоў.

Гаворачы аб агульных момантах, звязаных з характарам паселішчаў, матэрыяльнай культурай, гаспадарчай дзейнасцю ўсяго балцкага арэала, не трэба забываць аб аддаленасці асобных рэгіёнаў, іх замкнутасці і раз'яднанасці, рознай ступені знешніх імпульсаў і іншым, што не магло не выклікаць да жыцця розныя спецыфічныя рысы і лакальныя асаблівасці ўнутры сваёй культуры.

Ужо П. М. Трэццякоў, абапіраючыся на даследаванні С. А. Тараканавай (Тараканова, 1959. С. 111—117), адзначаў падабенства керамікі себежскіх гарадзішчаў і Правабярэжжа Заходняй Дзвіны з керамікай юхнаўскіх гарадзішчаў Падзясення (Третьяков, 1963. С. 21). Развіваючы гэтую думку, К. П. Шут адзначыў, што на шэрагу гарадзішчаў правабярэжжа Падзвіння (Буракова, Дзяеўкі, Барысаў хутар, Бяскатава, Урагава, Абрамава і інш.)

керамічны матэрыял прадстаўлены пасудзінамі слабапрафіляваных форм, якія ўпрыгожаны ў верхняй частцы разнастайнымі ўзорамі, складзенымі з аднаго, дзвух, трох радоў ямачных уціскання, радзей — з пояса трохвугольнікаў, утвораных такімі ж ямачкамі, ці з неглыбокіх ямак, ад якіх разыходзяцца прачэрчаныя лініі (Шут, 1966. С. 163). Адзначым адразу, што, па-першае, гэтыя дэталі не з'яўляюцца адметнымі рысамі керамічнага комплексу правабярэжных гарадзішчаў; па-другое, падобная кераміка не ўласцівая для себежскіх гарадзішчаў (Минасян, 1974. С. 133—141). Таму спроба выдзялення К. П. Шутом себежскага і смаленскага варыянтаў днепра-дзвінскай культуры ў межах Беларусі не падмацоўваецца фактычным матэрыялам. Грунтуючыся на матэрыялах гарадзішча Осына, П. М. Трэццякоў прапанаваў вылучыць Себежскі край і сумежныя вобласці правабярэжжа Заходняй Дзвіны ў самастойную культуру (Третьяков, 1976. С. 215—216).

Даследаванні сведчаць, што матэрыял з левабярэжжа і правабярэжжа Заходняй Дзвіны вельмі падобны: танкасценныя, часцей слоікавых форм пасудзіны арнаментаваны ў шэрагу выпадкаў скразнымі адтулінамі, а слабапрафіляваныя — звычайна маюць арнамент з неглыбокіх падоўжаных уцісканняў і прачэрчаных ліній, выходзячых з ямак (Шадыро, 1985. С. 70—83). Акрамя гэтага, іншыя матэрыялы з гарадзішчаў Себежскага Паазёр'я ідэнтычны старажытнасцям Беларускага Падзвіння, характэрным прыкладам чаму можа служыць параўнанне старажытнасцей гарадзішчаў Осына (Себежскі раён) і Замошша (поўдзень Полацкага раёна), дзе не толькі керамічны, але і рэчавыя комплексы аналагічныя, што сведчыць аб наяўнасці аднароднага этнакультурнага масіву.

Параўнаўчы аналіз матэрыялаў Беларусквга Падзвіння і Смаленскага Падняпроўя дазваляе вылучыць рад адметных рыс паўночнабеларускіх паселішчаў ад аднакультурнай вобласці смаленскіх гарадзішчаў. На беларускай тэрыторыі пераважаюць слоікавыя формы, і іх канцэнтрацыя павялічваецца далей у напрамку Полацкага Падзвіння. Тут часцей, чым на Смаленскім Падняпроўі, канстатуецца арнаментацыя глінянага посуду, прычым скразныя адтуліны па краі вянца шырока сустракаюцца ў кірунку на захад. Па Смаленшчыне гэты прыём арнаментацыі практычна не фіксуецца.

Выгляд некаторых прадметаў мае спецыфічны характар: так, жалезныя сярпы з прамавугольнай спінкай, сякеры паўднёвапрыбалтыйскага тыпу, некаторыя віды ўпрыгожанняў і іншыя рэчы, характэрныя для Беларускага Падзвіння, не маюць аналогій у Смаленскім Падняпроўі (мал. 66). Шэрагам спецыфічных рыс адзначаны канструкцыі паселішчаў, жытлаў (слупавая тэхніка, характар ачагоў), спосаб вядзення гаспадаркі і г. д. Падсумоўванне адметных рыс дазваляе гаварыць аб заходнім (заходнедзвінскім) варыянце днепра-дзвінскай культуры і правесці граніцу яго ад Чашнікаў на поўдні да вярхоўяў ракі Обаль (Шадыро, 1985. С. 111. Рис. 63) (мал. 52).

Гэта размежаванне грунтуецца на тым, што на паселішчах на ўсход ад указанай лініі (Загорцы, Заронава, Віцебск (ніжнія пласты), Чаркасава, Казінава) пераважаюць слабапрафіляваныя формы посуду, тут часцей фіксуецца арнаментацыя, уласцівая гарадзішчам Смаленшчыны. У гэтым рэгіёне канстатаваны характэрныя асаблівасці ў развіцці днепра-дзвінскай культуры, звязаныя з рухам зарубінецкіх плямёнаў у Верхняе Падняпроўе ў межы плямёнаў культур мілаградскай і штрыхаванай керамікі, што выклікала перамяшчэнне насельніцтва да поўначы. Акрамя гэтага, мяркуючы па матэрыялах некаторых гарадзішчаў (Буракова, Загорцы, Мямлі і інш.), тут

прасочваецца ўплыў дзякаўскіх гарадзішчаў. Гэтыя асаблівасці сведчаць аб тым, што рэгіён, абмежаваны рэкамі Обаллю і Вулай, уваходзіў у сферу ўплыву плямёнаў Верхняга Падняпроўя і Верхняга Паддзвіння (Шадыро, 1985. С. 103—111). Этнагенетычныя працэсы, якія былі выкліканы пранікненнем носьбітаў зарубінецкай культуры у Верхняе Падняпроўе ў пачатку нашай эры, садзейнічалі развіццю спецыфічных рыс у культуры плямёнаў Верхняга Падняпроўя і Віцебскага Паддзвіння, прычым, як падкрэсліў Я. А. Шміт, зарубінецкая культура адыграла ролю першапачатковага штуршка і стымулятара развіцця новых форм керамікі ў днепра-дзвінскіх плямёнаў і іх суседзяў (Шмидт, 1972. С. 109). Акрамя ўплыву на керамічны комплекс канстатавана з'яўленне новых элементаў і ў астатнім рэчавым комплексе, што зафіксавана на некаторых гарадзішчах паўночнага ўсходу Беларусі. Гэта знаходкі фібул паўднёвых тыпаў сярэднелатэнскай схемы (Дзявочая гара, Кісялі) (Алексеев, 1963. С. 74. Рис. 12: 9; Левко, 1990. С. 38), усечана-біканічных праслiц (Кастрыца) (Шадыро, 1965), удасканаленых тыпаў жалезных сярпоў з кручкамі і г. д.

Цяснімыя зарубінецкімі, а пазней плямёнамі культуры кіеўскага тыпу «штрыхавікі» і «днепрадзвінцы», якія праніклі ў абшары дзякаўскай культуры і змешваліся з мясцовым насельніцтвам, генерыруюць з'яўленне новых спецыфічных рыс у матэрыяльнай культуры, якая атрымала ў літаратуры назву «познадзякаўскай». Гэта культура з'яўляецца сімбіёзам дзякаўскіх (фіна-угорскіх) і балцкіх элементаў. Сведчаннем таму служыць з'яўленне на гарадзішчах Віцебскага Паддзвіння параўнальна высокіх прафіляваных пасудзін, часам упрыгожаных зашчыпамі, насечкамі, адбіткамі ногця, рознымі штампамі, што зблiжае яе з керамікай дзякаўскай культуры (Віцебск, Гарадок — ніжнія пласты, Буракова, Загорцы) (Левко, Колосовский, 1990. С. 36; Шадыро, 1985. Рис. 56). Акрамя балцкіх рэчаў атрымліваюць распаўсюджанне бронзавыя ажурныя падвескі, бляхі, характэрныя па стылю старажытнасцям волжска-камскіх фінаў: Буракова, Баронікі, Кублічы (Шадыро, 1985. Рис. 42:1—5).

Аб блізкасці познадзякаўскіх і днепра-дзвінскіх старажытнасцей сведчыць распаўсюджанне так званых грузікаў дзякаўскага тыпу, якія мы ўслед за П. М. Трэццяковым схільны разглядаць як «балцкія». Такім чынам, своеасаблівасць басейна Верхняй Заходняй Дзвіны, куды можна ўключыць і рэгіён яе віцебскага цячэння, звязана з культурнымі імпульсамі балцкіх плямёнаў (культур днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі) у фіна-угорскім асяроддзі, што цалкам карэспандуецца з меркаваннем Я. В. Станкевіч аб пранікненні ў першых стагоддзях н. э. у Верхняе Падзвінне лета-літоўскага насельніцтва з больш паўднёвых абласцей (Станкевич, 1960. С. 150). Дадзеныя моманты збліжаюць рэгіён віцебскага цячэння Заходняй Дзвіны са смаленскім варыянтам днепра-дзвінскай культуры і з усімі працэсамі, якія мелі месца ў першых стагоддзях н. э. на гэтай тэрыторыі. Што ж датычыць заходняга рэгіёна культуры ў межах Беларусі (полацкае цячэнне Заходняй Дзвіны), то прытоку новага насельніцтва тут не фіксуецца да IV—V стст. н. э. З гэтага часу лёс плямёнаў днепра-дзвінскай культуры гэтага рэгіёна звязаны з распаўсюджаннем старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны і літоўска-латышскіх паселішчаў з гладкасценнай і аблітай керамікай слоікавай і вёдрападобнай форм. Трэба падкрэсліць, што ў Полацкім Падзвінні надзвычай адчувальна адбываўся ўплыў прыбалтыйска-фінскага кола старажытнасцей. Таму новыя культурныя ўтварэнні і іх варыяцыі звязаны з удзелам у іх генезісе некалькіх этнакультурных кампанентаў, а таксама з рознымі мясцовымі традыцыямі і адэкватнымі знешнімі ўплывамі і імпульсамі.

Лакальныя варыянты днепра-дзвінскай культуры, якія выдзяляюць па ўсяму арэалу (Короткевич, Мазуркевич, 1992), з'яўляюцца саедчаннем існавання асобных культурна-рэгіянальных соцыумаў, генезіс якіх як раз і абумоўлены як субстратнымі з'явамі, так і знешнімі ўплывамі.

## 2. ПАСЕЛІШЧЫ І ЖЫТЛЫ

У раннім жалезным веку днепра-дзвінскія плямёны будавалі свае ўмацаваныя паселішчы-гарадзішчы на ўзвышаных месцах, ля берагоў рэк і вадаёмаў. Размяшчаліся гарадзішчы ў большасці выпадкаў на невялікіх рэчках ці ручаях, непадалёку ад месца ўпадзення іх у больш буйныя рэкі, дзе на прывусцевых прасторах меліся значныя ўчасткі поплаўных сенажацяў.

Адкрытыя поймы буйных рэк не задавальнялі патрабаванням старажытных пасяленцаў. Таму яны, калі рака дасягала пэўных памераў, аддавалі перавагу яе вытокам, дзе былі такія ж самыя мысы, але схаваныя сярод лясоў.

Узвышанае месца выбіралася з такім разлікам, каб па меншай меры два яго бакі былі надзейна абаронены прыроднымі ўмовамі ў выглядзе рэчак, ручаёў, балот і стромкіх схілаў. З неабароненага напольнага боку пагоркі ці мысы ўмацоўваліся сістэмай штучных пабудоў, якія складаліся з драўляных агароджаў, земляных валоў і равоў. Часам для пабудовы гарадзішчаў выкарыстоўваліся высокія адзіночныя ўзгоркі, размешчаныя сярод даліны каля рэчышча рэчкі. Пры выбары месца пабудовы гарадзішча насельніцтва таго часу ўлічвала не толькі характар узгорка ці мыса і наяўнасць паблізу сенажацяў, але і знаходжанне ў непасрэднай блізкасці значных плошчаў надпоймавай тэрасы ці карэннага берага, зручных для земляробства.

Якіх-небудзь лакальных адрозненняў у пабудове гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры не назіраецца. Наяўныя адрозненні абумоўлены выключна асаблівасцямі рэльефу мясцовасці. Поўнач Падзвіння мае ў вялікай колькасці ўзгоркі ледніковага паходжання, таму тут часцей сустракаюцца гарадзішчы, пабудаваныя на ледніковых астанцах-узгорках. У астатняй жа частцы пераважаюць мысавыя паселішчы. Калі ўсе гарадзішчы толькі Беларускага Падзвіння нанесці на ландшафтную карту, то можна заўважыць, што найбольшая шчыльнасць гарадзішчаў у перыяд ранняга жалезнага веку характэрна для камава-марэнна-азёрнага ландшафту і ландшафту нераздзеленай рачной даліны. Некалькі меншая — для ландшафту лёсавай раўніны, а ў іншых родах ландшафтаў шчыльнасць гарадзішчаў на парадак ніжэй ці роўная нулю (Коляда, 1985. С. 37).

Нанясенне на карту вядомых у цяперашні час старажытных гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры паказвае, што яны размяркоўваюцца далёка не раўнамерна. У раёнах (Аршанскі, Лёзненскі, Сенненскі, Глыбоцкі, Пастаўскі), дзе пераважае раўнінны (без узгоркаў і зручных пад паселішчы мысаў) ландшафт, гарадзішчаў параўнальна мала. У той жа час ў раёнах (Гарадоцкі, Расонскі, Ушацкі, Міёрскі, Верхнадзвінскі, Браслаўскі і інш.) з пагоркава-азёрным ландшафтам падобных паселішчаў значна больш. Прычым у большасці выпадкаў яны размяшчаюцца не раўнамерна, а асобнымі групамі. Вылучаюцца групы гарадзішчаў па 2—3 і болей у кожнай.

Форма і паверхня пляцоўкі гарадзішча залежала ад канфігурацыі выбранага ўчастка, характару абарончых збудаванняў на аяршыні, а таксама ад працягласці жыцця на паселішчы. Няроўныя месцы з цягам часу нівеліраваліся.

Пляцоўкі мысавых гарадзішчаў часта маюць схіл у бок стрэлкі мыса. Плошча мысавых і ўзгоркавых гарадзішчаў ранняга жалезнага веку ў сярэднім хістаецца ад 500 да 1500 кв. м і мае тэндэнцыю да пашырэння з цягам часу (Шадыро, 1985. С. 13. Табл. 3).

**Фартыфікацыя.** Абарончая сістэма паселішчаў днепра-дзвінскіх плямёнаў прайшла ў сваім развіцці некалькі этапаў. З моманту з'яўлення гарадзішчаў VIII—VII стст. да н. э. і прыблізна да IV—III стст. да н. э. насяленцы не будавалі яшчэ земляных умацаванняў, а выкарыстоўвалі галоўным чынам толькі прыродную абароненасць выбраных месц. Сведчанне таму — наяўнасць культурных адкладанняў пад насыпам першапачатковага ўнутранага вала. Прыкладам можа служыць стратыграфія Чаркасоўскага гарадзішча, дзе ніжні культурны слой ляжыць на пяску, на сабе ж мае нязначныя рэшткі старажытнага гумусавага нарастання пад паўднёвым валам і больш значныя (да 20 см таўшчынёю) — пад паўночным валам; над гумусам ніжняга слоя залягае слой больш светлай зямлі з праслойкамі пяску і гліны (Дубінскі, 1930в. С. 5). Далей на прыродным мысе паміж дзвюма далінамі першанасельнікамі гарадзішча, як паведамляе С. А. Дубінскі, спачатку не было зроблена ніякіх умацаванняў яго, акрамя толькі выраўноўвання пляцовак, і праз некаторы час толькі на паўночна-ўсходнім баку быў пабудаваны вал (Дубінскі, 1930в. С. 79). Падобная з'ява зафіксавана і пры раскопках Германаўскага гарадзішча Аршанскага раёна. С. А. Дубінскі ўстанавіў, што першапачатковае насельніцтва Германаўскага гарадзішча не зрабіла на ім ніякіх умацаванняў (Дубінскі, 1930а. С. 81—82). Тыя ж назіранні канстатаваны і пры раскопках А. Р. Мітрафанава, К. П. Шута і В. І. Шадыры. Напрыклад, стратыграфія гарадзішча Кастрыца паказвае, што заходняя частка пляцоўкі неаднаразова падсыпалася з мэтай штучна павысіць і зрабіць больш стромкім гэты найбольш даступны край паселішча. Абарончыя ўмацаванні зводзіліся да падсыпкі краёў пляцоўкі і пабудовы драўляных агароджаў вакол яе (Шут // Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 257). Сляды такіх пабудоў выяўлены пры раскопках гарадзішча Загаваліна Ушацкага раёна. Тут край пляцоўкі двойчы падсыпаўся, і ў выніку гэтага ўтварылася ўзвышэнне, на якім выяўлены сляды драўлянай агароджы (Шут // Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 273). У гэтай сувязі цікавасць выклікаюць назіранні К. П. Шута над слупавымі ямамі гарадзішча Кастрыца, якія размяшчаліся ў два рады па краі пляцоўкі і з'яўляліся слядамі ад розначасовых агароджаў. Прычым першапачатковай агароджай з'яўлялася тая, якая размяшчалася далей ад краю пляцоўкі. Ямы гэтага рада дыяметрам 0,2—0,3 м уваходзяць у мацярык на глыбіню 1,1—1,3 м. За кошт падсыпак і ўмацавання краёў адбылося пашырэнне пляцоўкі і агароджа была аднесена на 1—2 м бліжэй да яе краю. Слупы другой агароджы ўжо параўнальна неглыбока праніклі ў мацярык — 0,5—0,7 м (Шут // Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 257). Драўляныя пабудовы, відаць, уяўлялі сабой платы, што складаліся з рада вертыкальна пастаўленых бярвёнаў ці тоўстых калоў, да якіх мацаваліся гарызантальна пакладзеныя бярвёны. Сляды падобных умацаванняў выяўлены ў Сярэдняй Беларусі (Вязынка), на Смаленшчыне (гарадзішча Макрадзінскае, Новыя Бацекі, Наквасіна) (Шмидт, 1983. С. 148—149. Рис. 51). Рэшткі абарончай сцяны з бярвёнаў, пабудаванай у пачатковы перыяд жыцця, выяўлены на Асоцкім гарадзішчы ў Латвіі (Шноре, 1959. С. 223). Падобныя гарадзішчы, якія ўмацоўваліся па краі толькі драўлянай сцяной, А. Р. Мітрафанаў разглядаў як паселішчы пераходнага характару — ад неўмацаваных да ўмацаваных (Митрофанов, 1978. С. 10).

З далейшым узмацненнем разлажэння патрыярхальна-родавых адносін і ўзрастаючай ваеннай небяспекай з'яўляецца неабходнасць дадатковага ўмацавання паселішчаў валамі і равамі. Прыкладна з IV—III стст. да н. э. да рубяжа н. э. па краі пляцоўкі будваўся вал, зямля для якога бралася як з пляцоўкі, так і се схілу, у выніку чаго на схіле ўтвараўся роў. Вывучэнне вала на гарадзішчы бліз в.Мазурына Міёрскага раёна паказала, што пры пабудове вала ў канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. выкарыстоўваўся і дзірван (Митрофанов // Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 473). Падобная з'ява фіксуецца на старажытных верхнедзвінскіх гарадзішчах і асебліва яскрава на Макрадзінскім гарадзішчы Смаленшчыны (Шмидт, 1963. С. 143. Рис. 3; Третьяков, 1963. С. 45).

Матэрыялы даследаванняў паказваюць, што з рубяжа н. э., г. эн. у апошні перыяд існавання днепра-дзвінскай культуры, гарадзішчы ўмацоўваюцца максімальным чынам, ператвараючыся ў паселішчы-крэпасці. Мысавыя гарадзішчы, якія мелі невялікія валы з напольнага боку, умацоўваюцца ў гэтым месцы моцнымі валамі і равамі ў два, тры і больш радоў. Узгоркавыя гарадзішчы агароджваюць на схілах кальцавымі, а ля падножжа часам дадатковымі дугападобнымі валамі. Прыкладам таму можа спужыць гарадзішча Паддубнікі Міёрскага раёна (Митрофанов // Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 147), а таксама гарадзішча ля в. Заронава Віцебскага раёна, дзе па краі пляцоўкі быў насыпаны вал да 5 м вышынёй, а па схілу таксама ішоў вал, пераходзячы месцамі ў тэрасу, ніжэй якой размяшчаліся яшчэ два валы з равамі. Замыкаў уваход на пляцоўку пабудаваны пазней велізарны вал курганападобнай формы (Шут// Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 237).

Улічваючы тапаграфію паселішчаў і характар абврончых пабудоў, большасць вядомых гарадзішчаў Беларускага Падзвіння па іх мвсцы размяшчэння можна падзяліць на 2 тыпы: I — узгоркавыя і II — мысевыя. Па характару ж абарончых умацаванняў яны ўнутры кожнага тыпу маюць асеблівасці (варыянты) (мал. 53).

**Тып I — узгоркавыя. Пабудаваны часцей за ўсё на ўзгорках ці астанцах, звычайна акруглай формы. Вылучаюцца чатыры падтыпы.**

А. Стромкасць схілаў штучна лавялічана. Наяўнасць прыродных перашкод. Баз штучных земляных умацаванняў (Замошша, Гаравыя, Дзявічкі, Кублічы і інш.).

Б. З адным валам на пляцоўцы (Пруднікі, Сабалеўшчына).

В. З адным ці некалькімі кальцавымі валамі і равамі на схіле (Панізава).

Г. З кальцавымі і дадатковымі дугападобнымі валамі (Барсукі).

Тыл I самы распаўсюджаны на поўначы Беларусі і складае больш 2/3 гарадзішчаў гэтага рэгіёна (табл. 1).

**Тып II — мысавыя. Тут вылучаюццв два падтыпы (мал. 53).**

1. Пабудаваныя на мысах, абмежаваных двума амаль паралельнымі ярамі, якія семастойна ўпадаюць у галоўны яр ці ў пойму вадаёма.

2. Пабудаваныя на мысах пры зліцці двух яраў.

Уса бакі гарадзішчаў гэтага тыпу, акрамя таго, што зпучаецца з плвто карэннага берага, добра абаронены прыроднымі крутымі схіламі. Напольны ж бок умацоўваўся штучна. У залежнасці ад харвктару абарончых пабудоў тут вылучаюцца некаторыя варыянты: 1) наяўнасць унутранага вала (Бароўна, Асецішча); 2) наяўнасць дадатковага вала, размешчанага адразу за ўнутраным валам ці на некаторай адлегласці ад яго, што абмяжоўвае роўную пляцоўку (Азяруты, Асінавік — Навасёлкі); 3) гарадзішчы з валамі, якія

аб'ядноўваюцца ва ўзаемазвязаную абарончую сістэму (Урагава); 4) наяўнасць валоў на схілах, акрамя валоў з напольнага боку (Абрамава).

На поўначы Беларусі сустракаюцца гарадзішчы, якія нельга аднесці да вылучаных тыпаў з іх разнавіднасцямі без істотных агаворак. Ёсць невялікая група паселішчаў, дзе з аднаго боку прыроднай перашкодай з'яўляецца рака, а з другога боку — яр. Такія гарадзішчы сустракаюцца на берагах Заходняй Дзвіны (Мазурына Міёрскага раёна, Юстынава Верхнедзвінскага раёна). У іх неўмацаваныя бакі абаронены равамі і валамі паўкруглай формы. Слабая вывучанасць гэтых помнікаў не дазваляе пакуль вылучыць іх у асобны тып.

Тыповым узгоркавым гарадзішчам, якое мела развітую сістэму абарончых умацаванняў з трох кальцавых валоў на схілах, з'яўляецца гарадзішча Барсукі Верхнедзвінскага раёна. Трэба дадаць, што акрамя гэтага тут яшчэ з лаўднёвага і лаўднёва-ўсходняга бакоў ёсць два дадатковыя дугападобныя валы (Шадыро, 1985. С. 20—22. Рис. 7—10).

Па два моцныя кольцападобныя валы з равамі паміж імі ёсць на гарадзішчы ў в.Панізава Міёрскага раёна. З трох кальцавых валоў і равоў (глыбінёю да 3 м) складаецца абарончая сістэма на Абрамаўскім гарадзішчы Верхнедзвінскага раёна (Шадыро, 1985. С. 17. Рис. 6).

Вывучэнне абарончых лабудоваў паказвае, што складаную структуру звычайна мае толькі ўнутрвны вал, тады як знешнія валы амаль заўсёды насыланы з аднароднвга грунту і відавочных спядоў шматразовых перабудоў у іх не заўважана. Так, на гарадзішчы Барсукі прарэзка валоў паказала, што яны насыпаны з аднароднага грунту — жоўтага пяску. Падобнае назіраецца і на гарадзішчы Абрамава Верхнедзвінскага раёна (Шут // Архіў Інстытута гісторыі НАНБ, спр. 273). Такім чынам, сістэма ўмацаванняў працяглы час была простай І толькі ў апошні перыяд існавання гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры склалася больш складаная сістэма абарончых збудаванняў. Аб драўляных агароджах уздоўж краю пляцоўкі, якія служылі першапачатковым умацаваннем, мы ўжо гаварылі вышэй. Характар жа драўляных пабудоў, звязаных з землянымі валамі, застаецца пакуль яшчэ нявызначаным. Хутчэй за ўсё яны мелі такое ж аблічча, як і на смаленскіх гарадзішчах (Третьяков, 1963. С. 74—75. Рис. 35), г. зн. для ўнутранага вала — гэта масіўныя спупы, унутры якіх былі пакладзены бярвёны з земляной прысыпкай. Такая сцяна, з аднаго боку, затрымлівала апаўзанне насыпу на пляцоўку гарадзішча, а з другога — служыла апорай і знешняй сцяной пабудовы. Трэба адзначыць, што сустракаюцца гарадзішчы, якія на працягу ўсяго пврыяду існавання культуры не мелі ніякіх земляных умацаванняў. Тлумачыцца гэта тым, што надзейная прыродная ўмацаванасць месца паселішча не патрабавала ад людзей пабудовы абарончых збудаванняў. Прыкладам падобных пабудоў могуць служыць гарадзішчы Загаваліна, Гаравыя, Дзевічкі, Замошша, Кублічы. Тут не было земляных умацаванняў на працягу ўсяго пврыяду існавання гэтых паселішчаў.

Большасць гарадзішчаў мав разначасовую сістэму ўмацаванняў, якая адлюстроўвае храналагічныя этапы абарончага будаўніцтва. Фартыфікацыя паселішчаў прайшла шлях ад простых, нескладаных умацаванняў да даволі складанай абарончай сістэмы. Гэтыя канструкцыйныя асаблівасці абумоўлены прычынамі геаграфічнага, сацыяльнага і палітычнага характару.

Разглядаючы асноўныя элементы, звязаныя з размяшчэннем, формай пляцоўкі, відам абарончых лабудоў, адпаведнасцю іх стратэгічным мэтам, уса вядомыя гарадзішчы Беларускага Паддзвіння ў асноўным укладваюцца

ў прыведзеную схему. Аднак неабходна адзначыць, што яна, безумоўна, яшчэ не адлюстроўвае ўсёй разнастайнасці элементаў, характэрных для днепра-дзвінскіх гарадзішчаў Беларусі.

**Жытлы.** Даследаванні гарадзішчаў паказваюць, што жылымі пабудовамі на днепра-дзвінскіх паселішчах былі выключна наземныя пабудовы слупавой канструкцыі. Сляды жылых пабудоў прасочаны амаль на ўсіх даследаваных гарадзішчах Беларусі, аднак аднавіць характэрныя канструкцыйныя асаблівасці іх ці вызначыць хрвналагічныя этапы ў тэхніцы домабудаўніцтва пакуль яшчэ цяжка.

Існаванне пабудоў на гарадзішчах пацвярджаецца наяўнасцю ў мацерыку слупавых ям. Трэба адзначыць, што на днепра-дзвінскіх помніках Паўночнай Беларусі ў адрозненне ад Смаленшчыны не выяўлены сляды калковых ям. Магчыма, гэты факт указвае на характэрныя асаблівасці мясцовага домабудаўніцтва. Слядоў колкова-слупавой тэхнікі ўзвядзення пабудоў на вывучаемай тэрыторыі пакуль выразна не прасочваецца.

Жытлы гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры Беларускага Паддзвіння па свайму характару і храналагічных асеблівасцях мелі шмат агульнага з падобнымі старажытнасцямі суседніх тэрыторый балцкага арэала і асабліва ў культуры штрыхаванай керамікі. Як і ў Сярэдняй Беларусі (Митрофанов, 1978. С. 15—28), на Смаленшчыне (Шмидт, 1983. С. 8) форма і памеры жытлаў змяніліся з агульнай тэндэнцыяй пераходу ад прамавугольных падоўжаных пабудоў да невялікіх каадратных.

Найбольш старажытнымі жытламі з'яўляюцца рэшткі пабудоў, выяўленых К. П. Шутом пры раскопках гарадзішча Кублічы Ушацкага раёна (Шут, 1969. С. 265—268). Гэтыя раннія пабудовы размяшчаліся каля самага краю пляцоўкі гарадзішча. Жытламі служылі падоўжаныя дамы слупавой канструкцыі з каменным вогнішчам у кожным памяшканні. Слупы падтрымлівалі сцены жытлаў і з'яўляліся апорай у іх перакрыцці. З 19 розначасовых пабудоў, выяўленых пры раскопках, некалькі жытлаў мелі шматкамерную канструкцыю, што пацвярджае старажытнасць іх пабудовы. Пабудова, размешчаная на паўночным канцы гарадзішча, мела памеры 8 × 3 м. У цэнтры быў зроблены падковападобны агмень дыяметрам 0,8 м. На ўзроўні падлогі побач з архаічнай гладкасценнай керамікай выяўлены жалезная вузкалязовая сякера, шыла, абломак нажа, рыбалоўны кручок, серп. Пабудова, якая прымыкала да яе з паўднёвага боку, была такіх жа памераў, але ў ёй былі ўскрыты рэшткі двух вогнішчаў у заходняй і ўсходняй частках жытлаў. Акрамя керамікі і касцей жывёл у ім знойдзены два сярпы і шыла (Шут, 1969. С. 2). У заходняй частцы гарадзішча выяўлена двухкамернае жытло, мяркуючы па двух ачагах, у якім побач з архаічнай керамікай і касцямі жывёл знойдзены жніўны нож, абломак жалезнага бранзалета, шыла і касцяны выраб (Шут, 1969. С. 269). Знаходкі сведчаць аб тым, што гэтыя пабудовы адносяцца да другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. і характарызуюць другі этап (VI—V стст. да н. э.) у тэхніцы домабудаўніцтва і днепра-дзвінскіх плямёнаў (Шмидт, 1992. С. 45—46), калі жылыя пабудовы ў выглядзе доўгіх пабудоў падзяляліся на асобныя чатырохкутныя жытлы. Сляды доўгіх дамоў слупавой канструкцыі, якія будавалі па краі паселішчаў, выяўлены на гарадзішчах Язна, Гаравыя і іншых днепра-дзвінскіх паселішчах Беларусі.

З рубяжа н. э. як адлюстраванне далейшай эвалюцыі ў домабудаўніцтве адбываецца павялічэнне пляцоўкі асобных жылых памяшканняў, а таксама будаўніцтва параўнальна вялікіх асобна стаячых аднакамерных дамоў, якія

размяшчаліся па ўсёй плошчы паселішча, а не толькі па краях. Для характарыстыкі гэтых змяненняў могуць служыць жылыя пабудовы, выяўленыя на гарадзішчы Кастрыца Лепельскага раёна. Гэта амаль квадратныя жытлы плошчай 12—14 кв. м з заглыбленымі ў зямлю агнішчамі (Шадыро, 1985. С. 28).

Падобныя пабудовы выяўлены на Буракоўскім гарадзішчы (Гарадоцкі раён). Адна з іх — квадратная плошча 16 кв. м, яна мела ў цэнтры, у яме, вогнішча. Гэта круглая яма дыяметрам 1,5 м, глыбінёй 0,5 м была запоўнена абпаленымі камянямі і інтэнсіўна чорным культурным слоем з прымессю вугалля і попелу. У запаўненні было знойдзена шмат абломкаў глінянага посуду, касцей жывёл. У жытле на ўзроўні падлогі выяўлены бронзавы выраб з рамбічнага ў сячэнні дроту, ручка жалезнага нажа, эсападобная шпілька і ігла ад спражкі. Увесь гэты матэрыял датуецца першымі стагоддзямі н. э. Сляды падобных жытлаў выяўлены таксама на гарадзішчах Урагава, Дзявічкі, Загаваліна, Абрамава, Барсукі, Язна, Казінова і інш. (Шадыро, 1985. С. 28—30). Яны адносяцца да таго перыяду, калі ў асяроддзі балцкіх плямёнаў стала распаўсюджвацца своеасаблівая забудова ў выглядзе асобных чатырохвугольных дамоў слупавой і калкова-слупавой канструкцыі. Гэтая сістэма забудовы, па класіфікацыі Я. А. Шміта, можа быць аднесена да трэцяга перыяду існавання культуры (III—II стст. да н. э.) (Шмидт, 1962. С. 39). Для дадзенага перыяду характэрна стварэнне дасканалай сістэмы ўмацаванняў на гарадзішчах. Прыкладам з'яўляюцца жытлы III, IV, V, VII, VIII і інш., выяўленыя на гарадзішчы Кублічы (Шут, 1969. С. 267—268). Яны ўяўлялі сабой чатырохвугольныя ў плане пабудовы слупавой канструкцыі плошчай у сярэдзіне 20 кв. м з падкovападобнымі каменнымі вогнішчамі дыяметрам 0,8—1,0 м. Так, на Язненскім гарадзішчы А. Р. Мітрафанаў побач з найбольш доўгімі дамамі, што размяшчаліся па краі пляцоўкі, выявіў рэшткі невялікіх жылых пабудоў, якія займалі не толькі край паселішча, але і ўсю яго плошчу. Падобныя жытлы слупавой канструкцыі сустрэты ім у верхнім слоі гарадзішча Паддубнікі (Митрофанов, 1970. С. 216—218).

Згаданая забудова праіснавала на поўначы Беларусі да канца існавання культуры, і асобных канструкцыйных змяненняў у домабудаўніцтве ў апошні перыяд тут не назіраецца. Дынаміка развіцця звязана з больш дробнымі дэталямі ў будаўніцтве жытлаў як агульнага, так і лакальнага характару. Сведчаннем гэтых змяненняў з'яўляюцца каменная вымастка падлогі, зафіксаваная на некаторых гарадзішчах, і гліняная абмазка, якая сустракаецца амаль паўсюдна на пасаліішчах ранняга жалезнага веку поўначы Беларусі. Гліняная абмазка з'яўляецца важным археалагічным матэрыялам для высвятлення пытанняў будаўніцтва. Так, па кавалках абмазкі на гарадзішчы Ведгас (Латвія) выяўлена, што таўшчыня яе дасягала 0,05 м, а па адбітках на ёй вызначаны дыяметр бярвёнаў (0,12—0,25 м) (Граудонис, 1967. С. 131). На поўначы Беларусі ў слаях 1-га тысячагоддзя да н. э. абмазка сцен глінай не зафіксавана. Не выяўлена яна і на сумежных раёнах балцкага арэала. Відаць, абмазка сцен глінай на тэрыторыі днепра-дзвінскай распаўсюджваецца з рубяжа нашай эры.

Адным з галоўных элементаў жытлаў былі адкрытыя вогнішчы, якія служылі для абагрэву жылля і прыгатавання ежы. Іх канструкцыя на ўсіх этапах развіцця домабудаўніцтва была амаль аднолькавая для ўсяго балцкага арэала. Яны будаваліся ў выглядзе пляцоўкі з буйназярністага пяску, насыпанага слоем у 0,15—0,20 м, і абкладзенай па краях невялікімі камянямі, утвараючымі ў плане круглую, авальную і радзей падковападобную формы. На некаторых гарадзішчах (Буракова, Барсукі, Кастрыца) сустрэты вогнішчы

ў выглядзе вялікай колькасці камянёў, заглыблвных у мацярык (Шадыро, 1985. С. 30). Часта сустракаюцца на гарадзішчах і вогнішчы, прадстаўленыя простым скапленнем камянёў. Цяжка вызначыць, ці гэта канструкцыйная асаблівасць, ці развал вогнішча. Пакуль амаль немагчыма меркаваць і аб храналагічных асаблівасцях у лабудове вогнішчаў. Аналіз матэрыялу сведчыць аб тым, што больш старажытныя мелі круглую і авальную формы. Паглыбленне ў зямлю вогнішчаў звязана хутчэй за ўсё з мэтамі бяспекі ў невялікіх па памерах жытлах і адпавядае больш позняму часу, калі з'яўляюцца невялікія асобныя дамы.

У днепра-дзвінскіх плямёнаў Беларусі змяненні ў характары жытлаў адлюстроўваюць працэс развіцця патрыярхальна-родавага ладу, вызначаюць прыкметы разлажэння першабытнаабшчынных адносін. Доўгія шматкамерныя дамы адпавядалі таму перыяду, калі патрыярхальная родавая абшчына ўяўляла сабой яшчэ адзіны і непадзельны калектыў. З'яўленне меншых і асобных дамоў адлюстроўвала пачатак працэсу распаду патрыярхальна-родавай абшчыны і вылучэнне невялікіх кроўна-родныхасных сем'яў.

## 3. МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА І ПЫТАННІ ДАТАВАННЯ

Пры раскопквх помнікаў днепра-дзвінскай культуры выяўлена шмат разнастайных рэчаў як спецыфічнага характару, так і ўласцівых усходнееўрапейскім старажытнасцям лясной паласы. Па абліччу матэрыяльнай культуры бліжэй за ўсё да днепра-дзвінскай культуры Паўночнай Беларусі стаіць культура штрыхаванай keramікі Цэнтральнай Беларусі. Прыкметны ўплыў адчуваецца з боку літоўска-латышскіх помнікаў, а таксама фіна-угорскага кола старажытнасцей.

Нягледзячы на тое што асобныя прыкметы днепра-дзвінскай культуры сустракаюцца ў суседніх культурах ранняга жалезнага веку, у комплексе яны характэрны толькі для яе. Больш таго, унутры арэала культуры канстатаваны лакальныя асаблівасці і спецыфічныя рысы, якія, відаць, адпавядаюць асобным плямёнам унутры роднаснай групоўкі. Найбольш рэльефна гэта адрозненне ў межах адной культуры назіраецца паміж ўсходнім (дняпроўскім) і заходнім (заходнедзвінскім) рэгіёнамі. У матэрыяльнай культуры гэта фіксуецца і ў керамічным комплексе і ў рэчавым матэрыяле. У Паўночнай Беларусі вельмі адчувальна выяўляецца ўплыў старажытнасцей Прыбалтыкі.

Запазненне ў жалезаробчай вытворчасці паклала свой адбітак і на характар матэрыяльнай культуры. Гэтае адставанне з'явілася вынікам панавання аж да рубяжа нашай эры вырабаў з каменю і косці. Вырабы з жалеза ў Паўночнай Беларусі з'явіліся пазней, чым на поўдні, таму пачатак жалезнага веку ў прамым сэнсе для Паўночнай Беларусі трэба, відаць, вызначаць не раней за IV ст. да н. э., а, можа, нават і пазней.

Гісторыя развіцця матэрыяльнай культуры плямёнаў Паўночнай Беларусі абумоўлена перш за ўсё развіццём вытворчых сіл. Гэты працэс знайшоў сваё адлюстраванне ў паэтапнай змене розных відаў сыравіны, з якой вырабляліся прылады працы. На першым этапе асноўным сыравінным матэрыялам служылі камень і косць, для другога — характэрна з'яўленне жалеза, хаця значэнне косці застаецца галоўным. На трэцім — жалеза паступова адцясняе ўсе сыравінныя крыніцы. Гэта агульная тэндэнцыя назіраецца па ўсяму арэалу культуры, хоць трэба агаварыць, што з прычыны розных геа-

графічных, традыцыйных і іншых фактараў удзельная вага сыравінных матэрыялаў у розных месцах магла насіць разнастайны характар.

## Вырабы з каменя

Каменныя прылады ў Беларусі, як і на сумежных тэрыторыях, ужываліся і ў эпоху ранняга жалеза.

**Сякеры.** Сярод прадметаў з каменя часта сустракаюцца сякеры. Каменныя сякеры і іх рэшткі выяўляюцца як выпадкова, так і ў час археалагічных раскопак. Няма сумнення, што ў 1-м тысячагоддзі н. э. яны не страцілі свайго прымянення і ў шэрагу выпадкаў знаходзіліся ў паўторным карыстанні. Але тое, што яны выраблялiся ў жалезным веку, бясспрэчна. Аб гэтым сведчаць шматлікія знаходкі ў пластах гарадзішчаў нарыхтовак, адтулін ад правушных сякер.

Трэба адзначыць, што падобная з'ява канстатавана ў Прыбалтыцы і Смаленскім Падняпроўі. Тут ў адрозненне ад больш паўднёвых раёнаў і ў сувязі з дэфіцытам металу выкарыстоўванне каменных сякер зафіксавана амаль да першых вякоў н. э. (Граудонис, 1967. С. 84; Шмидт, 1963. С. 13).

На днепра-дзвінскіх пасалішчах 1-га тысячагоддзя да н. э. былі распаўсюджаны простыя каменныя саідраваныя сякеры, формы якіх вагаюцца ў залежнасці ад функцыянальнай нагрузкі, матэрыялу, індывідуальнага густу вытворцы і г. д. Іх аб'ядноўваюць раўнамерна выгнутыя бакавыя паверхні, прама шліфаваная пярздняя і задняя частка, прамое ці раўнамерна выгнутае лязо, якое некалькі шырэй абуха (мал. 54:1). Падобныя каменныя сякеры шырока.сустракаюцца ў помніках эпохі позняй бронзы і ранняга жалеза ў лясной паласе Еўропы (Шадыро, 1985. С. 23). Некаторая асаблівасць экземпляраў ў тым, што абушная частка ў асобных вужэй ляза, абух у некаторых не прамы, а злёгку закруглены. Своеасаблівую форму (так званыя пяцікутныя) маюць ўзоры з гарадзішча Замошша. Падобныя вырабы асабліва шырока прадстаўлены ў лужыцкай культуры, дзе датуюцца часам канца бронзы — ранняга жалеза (Kostrzewska, 1953. Ryc. 7, 8).

Шматлікімі на поўначы Беларусі з'яўляюцца клінападобныя сякеры. На сумежных тэрыторыях падобныя знаходкі зафіксаваны ў меншай ступені. Гэтыя сякеры аб'ядноўвае вельмі характэрная для іх трапецападобная форма з некалькі пашыранай лязовай часткай і паралельнымі плоскасцямі (мал. 54:2). Даўжыня прылад хістаецца ў межах 50—100 мм, таўшчыня (у найбольш масіўнай частцы) 15—20 мм, шырыня ляза — 35—50 мм (мал. 54:3—8). Падобныя сякеры вядомы на многіх гарадзішчах Паўночнай Беларусі: Паддубнікі, Загаваліна, Урагава, Барсукі, Замошша (Шадыро, 1985. С. 36). Яны ёсць у матэрыялах мілаградскай культуры (Мельниковская, 1967. С. 66. Рис. 26: 7), вядомы ў культуры штрыхаванай керамікі (Медведев, 1996. Рис. 33, 34), а таксама ў матэрыялах старажытных гарадзішчаў Смаленшчыны (Третьяков, 1963. С. 92. Рис. 46: 2) і Прыбалтыкі (Граудонис, 1967. С. 84. Табл. II).

Гэтыя вырабы падобны неалітычным і працягвалі сваё існаванне ў ранні час днепра-дзвінскай культуры. Тэндэнцыя да змянення формы прасочваецца ў патанчэнні ў частцы абуха, патаўшчэнні і пашырэнні ў лязовай.

**Зерняцёркі, пясты.** На паселішчах днепра-дзвінскай культуры Беларусі часта сустракаюцца зерняцёркі і пясты. З цягам часу формы гэтых прылад працы падвяргаліся нязначным змяненням, і выдзяліць храналагічныя асаб-

лівасці іх пакуль немагчыма. Гэтыя прадметы звычайна звязаны з жыллём і выяўлены на ўзроўні падлогі — надалёка ад вогнішча (Кублічы, Замошша) (Шут, 1969. С. 283. Рис. 12, 14; Шадыро, 1985. С. 36. Рис. 19).

Зерняцёркі часцей за ўсё ўяўляюць сабой падоўжаныя плоскія камяні цвёрдых парод з моцна увагнутай ад выкарыстання паверхняй. Памеры іх дасягаюць 40 см у даўжыню і 15—20 см у вышыню. Верхнімі часткамі зерняцёрак служылі невялікія камяні з адной і некалькімі спрацаванымі паверхнямі. Яны выраблялiся з цвёрдых гранітных і іншых парод плотнай мелказярністай структуры. Колер іх, як правіла, светлы. Памеры камянёў розныя (ад 5 да 12 см у папярочніку) і маюць розную форму шара, куба, цыліндра і г. д. Формы і памеры прылад залежалі ад функцыянальнага прызначэння і ад сроку выкарыстання (мал. 54:10—13).

З камяня выраблялiся тачыльныя брусы для заточкі металічных вырабаў, в таксама шліфавальныя камяні для апрацоўкі каменных і касцяных вырабаў. Нягледзячы на разнастайнасць іх форм і памераў, функцыянальнае прызначэнне не аддзяляе іх ад падобных прылад суседніх тэрыторый.

## Вырабы з косці

Узрастаючая патрэбнасць у сыравіне для розных прылад працы задавальнялася за лік лёгкадаступнага матэрыялу — косці, колькасць якой пастаянна павялічвалася за кошт палявання і жывёлагадоўлі.

На днепра-дзвінскіх паселішчах выяўлены шэраг разнастайных касцяных вырабаў. Большасць з іх захоўвала форму аналагічных вырабаў каменнага веку, хаця форма прылад становіцца прасцей — апрацоўка вырабаў пагаршаецца.

Выяўленыя пры раскопках касцяныя вырабы можна падзяліць наступным чынам: 1) прылады працы; 2) зброя; 3) дэталі адзення і ўпрыгожанні.

**Прылады працы.** Форма той ці іншай прылады працы перш за ўсё залежала ад яго функцыянальнага прызначэння.

З тонкіх трубчастых костак, расколатых уздоўж, абрубленых і завостраных на канцах выраблялiся шылы, праколкі і розныя вастрыі. Выкарыстоўваліся таксама рэбры жывёл, рэшткі масіўных трубчастых костак і косткі, адзін канец якіх меў звужэнне, — метакарпальныя.

Пры раскопках на поўначы Беларусі выяўлена вялікая колькасць касцяных долатаў (мал. 55:11; 18, 19), якія выкарыстоўваліся для ўтварэння розных паглыбленняў, адтулін, пазоў і г. д. Для іх вырабу масіўная трубчастая костка расшчаплялася і адзін канец яе заточваўся з аднаго ці двух бакоў для ўтварэння ляза.

Іглы (мал. 55:1—7) выкарыстоўваліся для працягвання ніці, лыка, сухажылля ці прыродных валокан скрозь зробленую адтуліну ці тканіну. Памеры ігл ад 5 да 10 см.

Для разнастайных аперацый па апрацоўцы скур маглі выкарыстоўваць прылады самых розных форм. Найбольш вядомыя стругі, ці «тупікі», выраблены, як правіла, з рабра, лапаткі буйной жывёлы і маюць заточку з аднаго боку. Касцяныя «тупікі» найбольш характэрны для днепра-дзвінскіх гарадзішчаў (Шадыро, 1985. С. 41). Яны часта сустракаюцца на гарадзішчах Смаленшчыны (Шмидт, 1992. Табл. 5: 1, 4) на помніках дзякаўскай культуры (Дубынин, 1974. С. 223. Табл. IV: 15; V: 8).

На гарадзішчы Замошша выяўлены фрагмент касцянога прасліца з пазванка рыбы (мал. 56:25). Існуе думка, што лёгкія касцяныя праслiцы выкарыстоўваліся для прадзіва бавоўны (Граудонис, 1967. С. 87).

Да дэталяў адзення і ўпрыгожання адносяцца шматлікія колючыя прадметы, якія сістэматызаваў яшчэ І. А. Гарадцоў, падзяліўшы іх на шпількі і шылы. Сама назва «булаўка», дадзеная І. А. Гарадцовым, дазваляе разглядаць гэтыя прадметы як дэталі касцюма, якія служылі для зашпільвання адзення. Бяспрэчна, яны адыгрывалі і ролю ўпрыгожанняў. Знойдзеныя на паселішчах касцяныя шпількі можна падзяліць на два асноўныя тыпы: тып І — шпількі з галоўкай, якая захоўвае прыродную форму косткі (мал. 55:8); тып ІІ — шпількі, галоўкам якіх прыдадзена адвольна выбраная форма (мал. 55:10, 16, 17, 24).

Шырокае распаўсюджанне шпілек тыпу І не дазваляе аднесці іх да прадметаў, характэрных для канкрэтнай этнічнай групы насельніцтва, аднак трэба адзначыць, што часцей за ўсё яны сустракаюцца ў заходняй частцы ўсходнебалцкага арэала (Шадыро, 1985. С. 46).

Шпількі тыпу ІІ вядомы з раскопак гарадзішча Замошша (Шадыро, 1985. Рис. 27: 1, 2) і Рацюнкі (Дучиц, Митрофанов, 1994. Рис. 3:12). Гэты тып значна адрозніваецца ад першага сваёй добрай апрацоўкай. Вырабы прамыя ці выгнутыя і круглыя ў сячэнні, добра абструганыя і адпаліраваныя. Па класіфікацыі Я. Я. Граўдоніса такія шпількі могуць быць аднесены да тыпу ІІ-А3 (булаўкі з вушкам) і бліжэйшай аналогіяй ім служыць булаўка з Двыецкага гарадзішча (Латвія) (Graudonis, 1974. Lpp. 70). Шпількі без адтуліны могуць быць аднесены (па Я. Граудонісу) да тыпу ІІ-В11 з прафіляванай галоўкай па той жа класіфікацыі, бліжэйшай аналогіяй якой можа быць шпілька з гарадзішча ў Даўгмале (Graudonis, 1974. Lpp. 66. Tabl. 1:19). Стратыграфічныя дадзеныя дазваляюць датаваць гэтыя шпількі першай паловай 1-га тысячагоддзя да н. з.

**Прылады працы і зброя.** Пры раскопках гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры выяўлены касцяныя наканечнікі дзідаў, стрэл, рукаяці кінжалаў і нажоў. Будучы прыладамі палявання, яны маглі выкарыстоўвацца і як зброя. Найбольш масавымі знаходкамі з іх з'яўляюцца наканечнікі стрэл, якія можна падзяліць на чарашковыя і ўтулачныя; сярод іх выдзяляюцца тыпы па форме і сячэнню пяра. Пераважаюць чарашковыя наканечнікі стрэл — двушыпныя, аднашыпныя, круглыя, вастралістыя, прамавугольныя, трохвугольныя (мал. 56:1—8).

Да двушыпных наканечнікаў стрэл з рамбічным сячэннем пяра адносяцца экземпляры з гарадзішча Паддубнікі (мал. 56:1, 3) і Буракова (мал. 56:2). Яны маюць выцягнута-трохвугольнае лязо з двума жальцамі ў аснаванні. Падобныя наканечнікі з ніжняга пласта гарадзішча Новыя Батэкі Е. А. Шміт датуе VI—V стст. да н. з. (Шмидт, 1963. С. 174). Сярод аднашыпных наканечнікаў можна адзначыць экземпляр з Паддубнікаў (мал. 56:4). Апісанне яго і аналогіі прыводзяцца ў манаграфіі В. І. Шадыры (Шадыро, 1985). Трэба асабліва падкрэсліць, што прататыпамі падобных наканечнікаў стрэл з'яўляюцца наканечнікі са скіфа-сармацкіх помнікаў (Крис, 1970. С. 151). Гэты факт дазваляе датаваць наш экземпляр V—IV стст. да н. э.

Да круглых наканечнікаў можна аднесці знаходку з Паддубнікаў (мал. 56:5), якую па аналогіі са Старшага Кашырскага гарадзішча можна адносіць да IV—III стст. да н. э. (Городцов, 1934. С. 24. Рис. X:3—5). Пры раскопках сустракаюцца (Замошша, Паддубнікі) наканечнікі, якія маюць форму вострага ліста з сегментападобным сячэннем пяра (мал. 56:6, 15). Аналогіі з самых

ранніх знаходак на Троіцкім гарадзішчы дазваляюць датаваць іх IV—III стст. да н. э. (Крис, 1970. С. 136—137. Табл. 7, 1; 3—8, 10:35—37).

Цікавасць уяўляе экземпляр наканечніка з Замошша, які падобны на крамянёвы (мал. 56:12). Сячэнне пяра па форме нагадвае трохвугольнік. Частка, якая ацалела, саадчыць аб прамавугольным сячэнні чаранка. Падобныя невялікія наканечнікі знойдзены ў Латвіі (Граудонис, 1967. С. 90. Табл. XII: 1), у Польшчы (Malinowski, 1958. Rус. 36:17—31), на дзякаўскіх гарадзішчах (Смирнов, 1974. Табл. 1. Рис. 28). У познасармацкіх пахаваннях гэтыя старажытнасці датуюцца пачаткам нашай эры (Шилов, 1959. Рис. 61:11. С. 496, 497). Наканечнікі з трохвугольным сячэннем пяра (Буракова, Паддубнікі) (мал. 56:8, 11) маюць выцягнутую форму і добра загладжаны. Аналогіі можна знайсці ў дзякаўскіх гарадзішчах (Смирнов, 1974. С. 80. Табл. 1: 89). Узоры з Латвіі Я. Я. Граудоніс датуе сярэдзінай 1-га тысячагоддзя да н. э. (Граудонис, 1967. Табл. XII:16, 17). К. Р. Смірноў дапускае, што яны вырабляліся па ўзору скіфскіх бронзавых наканечнікаў (Смирнов, 1961. Рис. 69:1). Раннія экземпляры касцяных наканечнікаў стрэл гэтага тыпу больш доўгія.

Утулачныя наканечнікі стрэл прадстаўлены экземплярамі з Замошша (мал. 56:9, 13, 14). Яны выраблялiся з трубчастай косці і аналогій падобным вырабам амаль няма.

На пасалішчах днепра-дзвінскай культуры ў Беларусі выяўлены і іншыя разнастайныя прадметы з косці рознага функцыянальнага прызначэння. Падрабязная іх характарыстыка дадзена ў манаграфіі В. І. Шадыры (Шадыро, 1985. С. 37—51).

Знаходкі разнастайных прадметаў з косці на паселішчах 1-га тысячагоддзя да н. э. саедчаць аб тым, што касцяныя прылады адыгрывалі істотна важную ролю ў жыцці насельніцтва Паўночнай Беларусі. Адсюль шматлікасць і разнастайнасць відаў і форм вырабаў з гэтага матэрыялу. Толькі напрыканцы 1-га тысячагоддзя да н. э., калі ўзмацнялася ўкараненне жалеза ў гаспадарчую дзейнасць людзей, колькасць прадметаў з косці рэзка падае, а некаторыя формы знікаюць наогул.

## Металічныя вырабы

На тэрыторыі Паўночнай Беларусі жалезныя вырабы пачынаюць распаўсюджвецца ў другой палове 1-га тысячагоддзя да н. э. У шырокі ўжытак уваходзяць толькі з рубяжа н. э. і характарызуюць позні этап днепра-дзвінскай культуры. Жалезныя вырабы выкарыстоўваліся часцей за ўсё ў сельскай гаспадарцы. Правушныя сякеры ранняга жалезнага веку служылі галоўным чынам для вырубкі лясных участкаў, неабходных для земляробчых заняткаў. Вядомыя з раскопак сякеры можна падраздзяліць на 2 тыпы: група сякер (Замошша, Баронікі, Кублічы) так званага скіфскага і паўднёвапрыбалтыйскага тыпаў (мал. 57:1, 2). Выкарыстанне першага тыпу сякер мае вельмі шырокі арэал. Яны вядомы ў скіфскіх, юхнаўскіх, падгорцаўскіх, мілаградскіх, гецкіх, днепра-дзвінскіх і прыбалтыйскіх старажытнасцях (Шадыро, 1985. С. 51—52). Названы тып сякер паходзіць з зонаў скіфскай культуры і адтуль шырока распаўсюджваецца на паўночныя тэрыторыі. Для поўдня гэтыя сякеры датуюцца VI—IV стст. да н. э. (Іллінська, 1961. С. 29—31). У Верхнім Падняпроўі яны з'явіліся каля IV ст. да н. э. і існавалі значна даўжэй у параўнанні з поўднем (Шмидт, 1963. С. 170). З распаўсюджваннем далей на паўночны захад яны фіксуюцца ў Латвіі рубяжом н. э. альбо, магчыма, некалькі раней. У Паўночнай Беларусі іх з'яўленне можна адносіць таксама да гэтага часу.

Некалькі адрозніваюцца ад дадзеных сякер экземпляры, знойдзеныя на гарадзішчах Паддубнікі, Барсукі, Аўгустова (мал. 57:3—5). Своеасаблівай з'яўляецца сякера з гарадзішча Аўгустова, якая мае архаічную форму, нагадваючую сякеры эпохі бронзы (мал. 57:4). На думку Мітрафанава, гэта найбольш архаічная форма з вядомых у Беларусі (Митрафанов, 1978. С. 34). Нягледзячы на некаторыя адрозненні, гэтыя сякеры можна аднесці следам за Х. Маора да тыпу паўднёвапрыбалтыйскіх. Падобныя экземпляры знойдзены ў Латвіі (Граудонис, 1967. С. 103. Табл. XXVII:4, 5). Гэтыя сякеры, на погляд Х. Маора, маюць падабенства са знаходкамі латэнскага перыяду (Moora, 1938. С. 495).

Вытворчасць сякер паўднёвапрыбалтыйскага тыпу ўзнікла ў асяроддзі плямёнаў Сярэдняй і Паўночнай Беларусі ў другой палове 1-га тысячагоддзя да н. э. у якасці пераймання прыбалтыйскіх узораў з бронзы. Яны існавалі на працягу ўсяго ранняга жалезнага веку (Шадыро, 1985. С. 52, 53).

**Сярпы.** Усе сярпы з улікам класіфікацый Ю. А. Краснова (Краснов, 1971. С. 74—85) і Р. С. Мінасяна (Минасян, 1978. С. 74—85) В. І. Шадырам падзелены на тры тыпы:

1. Сярпы, у якіх вось чаранка з'яўляецца працягам восі задняй часткі клінка альбо плаўна адагнута ад яе ўнутр. Найбольш распаўсюджаны тып, вельмі характэрны для Беларусі (Митрофанов, 1978. С. 36. Рис. 19—23; Медведев, 1996. Рис. 52, 55; Егорейченко, 1996. Рис. 30:1—15) (мал. 58:1, 3, 4).

2. Сярпы, лязо якіх мае большы выгін, адцягнута і захоўвае аднолькавую шырыню на ўсім працягу, звужаецца толькі да носа (мал. 58:5—7). Даволі рэдкая мадыфікацыя, сустракаемая галоўным чынам ў Прыбалтыцы, дзе датуецца II—III стст. н. э. (Минасян, 1978б. С. 77—78. Рис. 3:9, 10).

3. Сярпы з загнутай пад прамым ці тупым вуглом спінкай (мал. 58:15—17). Яны характэрны толькі для днепра-дзвінскіх гарадзішчаў Беларускага Падзвіння і знойдзены на гарадзішчах Кастрыца-2, Кублічы, Загаваліна, Барсукі, Замошша, Бароўна (Шадыро, 1985. С. 55—56. Рис. 33). К. П. Шут называў іх касарамі (Шут, 1969. С. 278). Верагодна, гэтыя прылады спалучылі ў сабе як функцыі сярпа, так і касара. Такія своеасаблівыя сярпы знойдзены пакуль на адносна невялікай тэрыторыі Беларускага Левабярэжжа Заходняй Дзвіны. Па форме яны нагадваюць нажы-касары, якія былі шырока распаўсюджаны ў Прыбалтыцы з пачатку жалезнага веку. Гэтыя нажы і з'явіліся першапачатковай формай для сярпоў тыпу VII (па Краснову), альбо «сарпападобных», «крывых» нажоў у залежнасці ад ступені выгіну ляза. Прамежкавым звяном у гэтым развіцці і былі, верагодна, сярпы з прамавугольнай спінкай, якія выкарыстоўваліся на поўначы Беларусі ў першых стагоддзях н. э. (мал. 58:8—11).

Цікавасць выклікаюць знаходкі сярпоў (Кублічы, Замошша), лязо якіх выгнута і як бы адцягнута, мае аднолькавую шырыню на ўсім працягу і толькі звужаецца да мыса (мал. 58:6, 7). Дакладных аналогій такім сярпам сярод сінхронных старажытнасцей пакуль не знойдзена. Бліжэй за ўсё да нашых экземпляраў з'яўляюцца знаходкі з Латвіі (Мукукалнс, Кіўты), якія Мінасян далучае да прылад, вяршыня дугі клінка якіх ссунута ў бок носа (група І варыянт А). Такія сярпы распаўсюджаны галоўным чынам у Сярэдняй і Усходняй Латвіі і Паўночнай Літве, а таксама ў Паўднёвай Эстоніі, дзе найбольш раннія з іх датуюцца II—III стст. н. э. (Минасян, 1978б. С. 77, 78. Рис. 3:9, 10).

**Жніўныя нажы.** Вырабы, якія можна аднесці да жніўных нажоў, даволі часта сустракаюцца пры раскопках гарадзішчаў Паўночнай Беларусі (Шады-

ро, 1985. С. 57, 58. Рис. 34). Часам іх называюць серпападобнымі нажамі. Іх асаблівасцю з'яўляецца адсутнасць загібу ляза альбо ён вельмі нязначны, што і набліжае іх да нажоў. У адрозненне ад апошніх яны маюць адагнуты ў бок ляза чаранок (мал. 58:12—14). Характэрнай асаблівасцю формы разглядаемых прыладаў з'яўляецца пашырэнне клінка ў першай яго трэці. Канструкцыйныя асаблівасці гэтых вырабаў дазваляюць выказаць меркаванне, што яны прызначаліся для збору ўраджая, зразання травы і г. д. Гэты тып нажоў найбольш вядомы ў заходніх рэгіёнах лясной зоны. Найбольш старажытныя экземпляры паходзяць з Прыбалтыкі і датуюцца I—IV стст. н. э. (Вассар, 1955. Табл. XIII. Рис. 5; Шмидехельм, 1955. Рис. 8, 2, 10, 9, 12, 8, 31, 20).

**Нажы.** Выяўленыя пры раскопках нажы (мал. 59:1—5) падобныя па форме і памерах да аналагічных вырабаў з гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі і ўслед за А. Р. Мітрафанавым іх можна падраздзяліць на 2 тыпы: з выгнутай спінкай і прамой (Митрофанов, 1978. С. 31. Рис. 19—23). Выгнутасць паўночнабеларускіх экземпляраў менш выражана, чым, напрыклад, у архаічных з так званай «гарбатай спінкай», характэрных для ранняга перыяду гарадзішчаў Сярздняй Беларусі, Смаленшчыны, мілаградскіх і ранніх пахаванняў зарубінецкай культуры. Тлумачыцца гэта больш позняй датыроўкай (мал. 59:4, 5).

У культурах лясной зоны нажы, нягледзячы на неаднолькавасць, з'яўляюцца звычайнымі знаходкамі. Развіццё іх у раннім жалезным веку ішло ад формаў з кароткай гарбатай спінкай да нажоў падоўжаных прапорцыяў з невялікай крывізной і нарэшце да прамых. Калі лічыць, што нажы з архаічнай «гарбатай» спінкай датуюцца апошнімі стагоддзямі да н. з. (Третьяков, 1941. С. 46), дык экземпляры з Паўночнай Беларусі можна датаваць умоўна II—IV стст. н. э., улічваючы ў кожным канкрэтным выпадку стратыграфічны паказчык і датаваны матэрыял. **Прадметы ўзбраення** з жалеза пры раскопках гарадзішчаў Паўночнай Беларусі сустракаюцца даволі рэдка. Гэта адзінкавыя знаходкі, у асноўным наканечнікаў дзідаў, дроцікаў, стрэл (Шадыро, 1985. С. 60, 62. Рис. 37). Так, наканечнік дзіды з Буракова (мал. 60:1), які быў знойдзены ў культурным слоі III—IV стст. н. э., амаль не мае аналогій у лясной зоне, падобная знаходка з Троіцкага гарадзішча дзякаўскай культуры (Дубынін, 1970. С. 58. Табл. 8) дае датыроўку II—III стст. н. э.

Жалезныя дроцікі (Аўгустова, Загаваліна) маюць аналагічную форму і адрозніваюцца толькі памерамі (мал. 60:2, 3). А. Р. Мітрафанаў, спасылаючыся на аналогіі з Літвы і Калінінградскай вобласці, адзначае, што раннія знаходкі гэтых вырабаў адносяцца да скіфскіх старажытнасцей III ст. да н. э. (Митрофанов. 1978. С. 38). Зразумела, што ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе яны датуюцца больш познім часам.

Часцей пры раскопках гарадзішчаў ранняга жалезнага веку сустракаюцца наканечнікі стрэл (мал. 60:4—9). Гэта чарашковыя і ўтулчатыя наканечнікі з рознай формай, часцей за ўсё ліставіднай. У экземпляра з Кублічаў (мал. 60:8) лістападобнай формы і з раздвоеным плоскім чаранком маюцца шырокія анелогіі на аднакультурнай тэрыторыі Смаленшчыны (Шмидт, 1992. Табл. 18:2—6, 9, 11, 12). Наканечнік стралы з Урагава (мал. 49:9) з простым чаранком характэрны для старажытнасцей сярэдняй зоны Усходняй Еўропы.

**Шпількі.** Жалазныя шпількі насельніцтва Паўночнай Беларусі выкарыстоўвела для зашпільвання адзення і адначасова як упрыгожанне.

Вядомы 2 тыпы шпілек, знойдзеныя ў Беларускім Падзвінні.

Тып 1 — шпількі з кольцападобным навершшам, якое знаходзіцца збоку ад цэнтральнай восі стрыжня (мал. 60:11—16, 21—24). Канец стрыжняў у іх

загнуты ў выглядзе кальца, прычым кончык альбо прымыкае да бакавой паверхні стрыжня альбо завернуты ўнутр. Падобныя вырабы маюць шырокую гаагерафію распаўсюджання і вялікі храналагічны дыяпазон ад эпохі бронзы да сярэднявечча. Аналагі нашым экземплярам датуюцца ў Латвіі 1-м тысячагоддзем да н. э. альбо пачаткам н. э. На Смаленшчыне іх таксама звязваюць з апошнімі стагоддзямі да н. э. — першымі стагоддзямі н. э. (Третьяков, Шмидт, 1963. С. 88, 89). К. А. Смірноў адносіць для Волга-Окскага рэгіёна буйныя экземпляры падобнага тыпу да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э., а шпількі меншых памераў — да рубяжа н. э. (Смирнов, 1974. С. 45). Дазарубінецкім часам датуе О. М. Мельнікоўская шпількі гэтага тыпу для Паўднёвай Беларусі (Мельниковская, 1967. С. 89). Для Паўночнай Беларусі гэтыя старажытнасці можна датаваць канцом 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачаткам н. э. (Шадыро, 1985. С. 63. Рис. 38, 18—24).

Тып 2 — шпількі з навершшам у выглядзе посаха (посахападобныя). Гэта больш распаўсюджаны тып на помніках днепра-дзвінскай культуры (мал. 60:10—13, 17—20, 26). Шпількі такога тыпу маюць адзін віток, больш познія — два. Вылучаюцца сваімі аялікімі галоўкамі экземпляры з гарадзішчаў Буракова, Загорцы, Кублічы (мал. 60:10, 11, 17). У шпільцы з гарадзішча Кастрыца верхняя частка выраблена з перакручанага стрыжня (мал. 60:26).

Асноўнай масе знаходак тыпу 2 маюцца шматлікія аналогіі ў лясной зоне Усходняй Еўропы (Шадыро, 1985. С. 63—64; Медведев, 1996. С. 28). Зыходзячы з аналогій, посахападобныя шпількі атрымліваюць шырокае распаўсюджванне галоўным чынам у 1-м тысячагоддзі н. э., на тэрыторыі Літвы і Латвіі — у II — IV стст. н. э. (Kulikauskas, Kulikauskienė, Tautavicius, 1961. P. 212). В. В. Сядоў дапускае меркаванне аб адзіным паходжанні посахападобных шпілек ранняга жалезнага веку ва Усходняй Прыбалтыцы і Верхнім Падняпроўі, куды, на яго погляд, яны пранікалі з Сярэдняга Падняпроўя, дзе сустракаюцца больш раннія экземпляры (Седов, 1967а. С. 137). На тэрыторыі Беларускага Падзвіння посахападобныя шпількі можна датаваць першымі стагоддзямі н. э.

Жалезныя прадметы, што адыгрывалі ролю ўпрыгожанняў, — бранзалеты па тэхніцы выканання можна падраздзяліць на 3 тыпы: 1) гладкія; 2) вітыя; 3) з насечкамі.

1) Гладкія, выраблялiся з жалезнага дроту з круглым альбо выпуклаплоскім сячэннем (мал. 59:14, 16). Падобныя вырабы знаходзяць сабе аналогіі сярод старажытнасцей Смаленшчыны, прычым Е. А. Шміт лічыць, што асноўная маса іх выраблялася пасля рубяжа н. э. па больш старажытных бронзавых узорах латэнскіх тыпаў (Шмидт, 1963. С. 170—171). Аналіз геаграфіі іх распаўсюджання гаворыць аб іх заходнім паходжанні (Шадыро, 1985. С. 65—66).

2) Да вітых бранзалетаў можна аднесці знойдзены К. П. Шутом у пластах рубяжа н. э. экземпляр з гарадзішча Кастрыца (мал. 59:17). Выраблены бранзалет са спіральна перавітага вакол уласнай восі жалезнага дроту сячэннем 5 мм. У храналагічнай табліцы мілаградскай культуры В. М. Мельнікоўская размяшчае іх у комплексах рэчаў, характэрных да III—II стст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 78, 165. Рис. 64).

3) Бранзалет з насечкай вядомы з гарадзішча Замошша (мал. 59:15). Ледзь прыкметная насечка была нанасена наўскос на знешняй паверхні вырабу. Аналіз шматлікіх аналогій гэтых вырабаў (Шадыро, 1985. С. 66) сведчыць аб іх заходнім (латэнскім) паходжанні. В. М. Мельнікоўская такса-

ма падкрэслівае гэта і датуе падобныя бранзелеты III—II стст. да н. э. (Мельниковская, 1967. С. 153, 165. Рис. 64).

**Вырабы з бронзы.** Пры раскопках гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры Беларусі бронзавыя прадметы сустракаюцца даволі рэдка. Аднак шматлікія знаходкі л'ячак, тыгляў, формачак і некаторых упрыгожанняў сведчаць аб тым, што па ўзроўню бронзаліцейнай вытворчасці днепра-дзвінскія плямёны не ўступалі плямёнам суседніх тэрыторый.

Шэраг знойдзеных вырабаў і перш за ўсё ўмбонападобныя падвескі (Буракова, Баронікі) сведчаць аб высокім тэхналагічным узроўні ліцця з бронзы (мал. 61:1, 2). Трэба, праўда, адзначыць, што дадзеныя ўпрыгожанні маглі быць завезены сюды, таму што з'яўляюцца да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. спецыфічнай прыналежнасцю жаночага ўбора ў міжрэччы Акі і Волгі (Дубынин, 1974. С. 232—233. Табл. V:22, 24).

Сярод бронзавых упрыгожанняў частымі знаходкамі з'яўляюцца кованыя бранзалеты, вырабленыя з рознага па форме сячэння дроту ці прута. На Язненскім гарадзішчы выяўлены фрагмент бранзалета, выробленага са спіральна перавітага дроту (мал. 61:9).

Знойдзеную на гарадзішчы Кублічы бляшку (мал. 61:3) К. П. Шут следам за В. М. Мельнікоўскай аднёс да прадметаў конскага збруі, не выключаючы магчымасці іншага выкарыстання (Шут, 1969. С. 283. Рис. 10:16). Падобны выраб з Рэззкненскага могільніка Я. Я. Граудоніс лічыць гузікам і датуе IV альбо V перыядам эпохі бронзы па аналогіі з падобнымі знаходкамі лужыцкай культуры (Граудонис, 1967. С. 98. Табл. XX). Дарэчы, у першыя стагоддзі н. э. падобныя бляшкі былі распаўсюджаны на верхневолжскіх гарадзішчах, у басейна Камы (Бадер, 1950. С. 108. Рис. 24: 2), і тут яны вызначаюцца як гузікі. Адсюль, відаць, яны пранікаюць на захад, аб чым і сведчыць кубліцкая знаходка.

Што датычыць акулярападобнай падвескі з Цястоў (Верхнедзвінскі раён), то ў адрозненне ад шматлікіх аналогій (Егарэйчанка, 1991а) яна мае большыя памеры і адагнуты верх (мал. 61:6). Ужыванне гэтага ўпрыгожання трэба адносіць да III—IV стст. н. э., а магчыма, і да больш позняга часу.

## Керамічны матэрыял

**Гладкасценная кераміка.** Аснову керамічнага матэрыялу днепра-дзвінскай культуры складаюць фрагменты ляпнога гладкасценнага посуду з найбольш добра вывучаных гарадзішчаў Беларускага Паддзвіння (Абрамава, Урагава, Барсукі, Язна, Паддубнікі, Аўгустова, Замошша, Казінава, Кублічы, Цясты, Загаваліна, Пруднікі і інш.). На жаль, рэканструяваных гаршкоў налічваецца каля дзесяці. У цэлым уся караміка даволі аднастайная. Асноўную масу фрагментаў можна аднесці да двух аддзелаў пасудзін — непрафіляваныя (слоікавыя) і слабапрафіляваныя. Унутры кожнага аддзела можна назіраць некалькі тыпаў. Па форме венчыка вылучаюцца віды і, нарэшце, па больш мелкіх прыкметах — варыянты.

I. Аддзел непрафіляваных, умоўна называемых слоікавымі, шырока распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі поўначы Беларусі і на працягу ўсяго перыяду існавання культуры. Даследаванні паказваюць, што часцей за ўсё яны сустракаюцца ў ніжніх пластах гарадзішчаў і колькасць іх павялічваецца ў заходнім напрамку (Гаравыя, Барсукі, Паддубнікі, Абрамава, Урагава, Пруд-

нікі і інш.). Гэтыя пасудзіны не маюць выразных шыек і плечыкаў. Таўшчыня іх сценак ад 0,5 да 1,1 см, вышыня — ад 8 да 30 см (мал. 62:1—5).

Даволі часта слоікавыя пасудзіны маюць скразныя адтуліны ў самай верхняй частцы. Прычым сустракаюцца яны часцей у заходніх рэгіёнах. З прычыны малой колькасці аднаўленых пасудзін аб прапорцыях гаварыць цяжка, але, мяркуючы па буйных фрагментах і смаленскіх аналогіях (Шмидт, 1961. С. 353—356. Рис. 5:1, 4; 6:1—14), вышыня пасудзін, як правіла, перавышае іх дыяметр. Па форме сценак унутры гэтага аддзела вылучаюцца 3 тыпы.

1) Цыліндрычныя. Сценкі прамыя альбо крыху скошаныя да дна. Шырокае дно альбо роўнае вусцю, альбо крыху менш. Аднаўленая пасудзіна мае вышыню 16,5 см і дыяметр 20 см (мал. 62:2). Венчыкі гэтых пасудзін часцей за ўсё прамыя, радзей — адагнутыя вонкі.

2) Усечана-канічныя. Сценкі скошаны да дна і дыяметр вусця пасудзін больш за дыяметр дна. Дзве пасудзіны гэтага тыпу з гарадзішчаў Гаравыя і Барсукі ўдалося аднавіць (мал. 62:1, 3).

3) Бочкападобныя. Сценкі крыху выпуклыя, тулава пашырана ў сярэдняй частцы. Дыяметр вусця і дна амаль аднолькавы. Пасудзіны, як правіла, невялікія (мал. 62:4). Вывучэнне матэрыялу поўначы Беларусі паказвае, што венчыкі слоікавых пасудзін прадстаўлены ў асноўным трыма відамі: 1) увагнутыя ўнутр, 2) прамыя, 3) адагнутыя вонкі.

Разнавіднасцямі іх з'яўляюцца акруглыя, вытанчаныя і эрэзвныя завяршэнні краёў венчыкаў, якія сустракаюцца ва ўсіх трох відах.

II. Аддзел слабапрафіляваных. Гэта гаршкападобныя пасудзіны вышынёй да 25 см. Па рэканструяваных узорах, буйных фрагментах і матэрыялах сумежных тэрыторый адметнай асаблівасцю іх з'яўляецца некаторае перавышэнне максімальнага расшырэння над агульнай вышынёй пасудзіны. Максімальны дыяметр пасудзін падае на ўзровень плечыкаў, тады як дыяметр венчыка бывае некалькі меншы (розніца ад некалькіх міліметраў да 4—5 см). Тулава такіх пасудзін пашыраецца ўверсе, а дно пры пераходзе ў сценку мае выступ. Можна вылучыць тры тыпы гаршкоў.

1) Акруглабокія. Сценкі выпуклыя ў верхняй трэці пасудзіны, плечыкі акруглыя. Гэта самы распаўсюджаны тып разглядаемага аддзела, прыкладам якога можа служыць рэканструкцыя з гарадзішча Язна (мал. 62:7). Па характару венчыка сустракаюцца пасудзіны двух відаў: а) з прамапастаўленым венчыкам, б) з адагнутым вонкі. Шыйка фіксуецца слаба альбо адсутнічае зусім. Разнавіднасцямі з'яўляюцца акруглыя, вытанчаныя ці зрэзаныя завяршэнні краю венчыка.

2) Конуса-гаршкападобныя. Венчык адагнуты вонкі і падоўжаны, пераходзіць плаўна ў тулава, плечыкі пакатыя. Гэтыя пасудзіны больш высокія і маюць большую гарлавіну. Вышыня іх часцей за ўсё перавышае максімальны дыяметр на 3—5 см. Край венчыка бывае рознай ступені адагнутасці з акруглым, вытанчаным і скошаным завяршэннем. Пасудзіны гэтага тыпу часцей за ўсё сустракаюцца ў верхніх слаях гарадзішчаў (мал. 62:6, 9, 10, 15, 16).

3) Пасудзіны са слабавыражанай шыйкай, з вылучаным венчыкам, край якога альбо прамы, альбо загнуты ўнутр (мал. 62: 14, 17). Гэтыя формы маюць шмат падобнага з пасудзінамі мілаградскай культуры.

Асаблівасцю глінянага посуду поўначы Беларусі з'яўляецца наяўнасць арнаментацыі (мал. 63). Для слоікавых пасудзін характэрна арнаментацыя ў выглядзе скразных адтулін ніжэй краю венчыка. У слабапрафіляваных назі-

раецца разнастайнасць арнаментаваных матываў часцей за ўсё ў выглядзе прачэрчаных і наразных ліній, якія разыходзяцца ўніз ад шыйкі з адной кропкі, а таксама ямачных уціскання. Радзей прадстаўлены разнастайныя ўзоры, якія складаюцца з неглыбокіх ямак, ліній, штрыхоў і да т. п. Назіранні над размеркаваннем керамікі з рознымі тыпамі арнаменту ў культурным пласце Замошскага гарадзішча паказалі, што ў ранніх слаях часцей за ўсё фіксуецца ямачны арнамент у выглядзе выцягнутых трохвугольнікаў, размешчаных у верхняй частцы тулава. Арнаментацыя з розных прачэрчаных ліній характэрнв для слаёў другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. — рубяжа н. э. (Шадыро, 1985. С. 77).

**Штрыхаваная кераміка.** Побач з гладкасценным на поўначы Беларусі сустракаецца і штрыхаваны посуд. Формы яго ў цэлым адпавядаюць апісанаму вышэй гладкасценнаму посуду і адрозніваюцца ад форм, характэрных для культуры штрыхаванай керамікі. Штрыхоўка посуду зафіксавана ў паўночна-заходняй частцы Беларусі (Урагава, Абрамава, Барсукі). Наяўнвсць штрыхаванай карамікі ў днепра-дзвінскім арэале звязана ў першую чаргу з уплывам паўднёвых і паўднёва-заходніх сусадзяў — плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі. Акрамя таго, прыём штрыхоўкі посуду быў шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Літвы і Латвіі (Данилайте, 1967; Васкс, 1991. С. 118—129) і, безумоўна, гэта знаходзіла адбітак і ў парубежных рэгіёнах Беларусі. З'яўленне штрыхаванага посуду на поўначы Беларусі адбылося ў той час, калі ішло рассяленне плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі на паўночны ўсход у Падзвінне, г. зн. у першых стагоддзях н. э. (Станкевич, 1960. С. 150). Аднак культура штрыхаванай керамікі не аказала прыкметнага ўплыву на днепра-дзвінскія плямёны і змены тыпаў карамікі тут не адбылося.

Вельмі важна адзначыць, што на шэрагу гарадзішчаў у перадмацерыковых слаях знойдзена караміка з рэдкімі і неглыбокімі штрыхамі (Замошша, Урагава, Паддубнікі, Барсукі, Чамярычына і інш.), якея вельмі характэрна для тарфянікавых ствянак эпохі бронзы Крывіна і Асавец, прычым формы пасудзін адпаведныя днепра-дзвінскім (Шадыро, 1985. С. 80).

**Сеткаватая кераміка.** Тэкстыльная (альбо сеткаватая) кераміка на гарадзішчах Паўночнвй Беларусі сустракаецца адноснв рэдка. Яна ў асноўным канствтавана ў пвўночна-ўсходняй частцы Падзвіння. Гэтая кераміка прадстаўлена галоўным чынам фрагментамі слоікавых і слабапрафіляваных пасудзін. Вонкавая пааерхня нясе сляды адбіткаў грубай рагожнай тканіны. Плошчу пакрыцця з-за фрагментарнасці вызначыць цяжка. Часцей за ўсё шыйка і венчык эвставаліся гладкімі.

З'яўленне сеткаватай керамікі на дадзенай тэрыторыі пакуль цяжка растлумачыць. Вядома, што да пачатку жалезнага веку яна распаўсюджваецца з усходніх раёнаў у басейн верхняга цячэння Заходняй Дзвіны, на тэрыторыі сучасных Калінінскай і Пскоўскай абласцей (Станкевич, 1955. С. 81). Нв гарадзішчах Загорцы, Буракова, Мямлі яна зафіксавана разам з архаічным ляпным посудам (Лявданский, 1932. С. 58).

**Вырабы з гліны.** Да іх адносяцца знойдзеныя пры раскопках гарадзішчаў праслíцы, тыглі, л'ячкі, грузікі дзякаўскага тыпу і г. д. Гэта катэгорыя рэчаў падрабязнв разгледжана ў манвграфіі В. І. Шадыры (Шадыро, 1985. С. 82—67). Таму абмяжуемся толькі асноўнымі момантамі ў іх характарыстыцы. Знаходкі праслíц — адносна рэдкая з'ява на паўночнабелерускіх гарадзішчах. Асноўная частка знаходак звязана з апошнім перыядам існавання днепра-дзвінскай культуры — I—IV стст. н. э. Па знешняму выгляду яны абсалютна ідэнтычны сярэднебеларускім экземплярам (Митрофанов, 1978.

С. 77. Рис. 26—30) (мал. 64). Усе прасліцы В. І. Шадыра падраздзяляе на 6 тыпаў: дваякаўвагнутыя, выгнутыя, плоскія, авельныя, выпуклыя, біканічныя (Шадыро, 1985. С. 82—65). На гарадзішчы Кастрыца знойдзены арнаментаваныя прасліцы (мал. 64:23—34).

Грузікі дзякаўскага тыпу вядомы толькі з гарвдзішча Кастрыца. Іх пвмеры ад 2 да 3,5 см, дыяметр дыска вагаецца ад 3,5 да 7,5 см. Па акружнасці дыска грузікі маюць нарэзку. Ва ўсіх экземплярах маецца цыліндрычны канал, не большы за 0,7 см (мел. 65).

Тыглі, льячкі, якія выкарыстоўваліся ў бронзаліцейнвй вытворчасці, выяўлены толькі ў фрагментаваным выглядзе. Яны сустракаюцца амаль на ўсіх помніках і маюць шматлікія аналогіі на сумежных тэрыторыях (Шадыро, 1985. С. 85—86).

Датыроўка рэчаў матэрыяльнай культуры дазваляе вызначыць працягпасць жыцця нв гарадзішчах днепрв-дзвінскай культуры ад VIII—VII стст. да н. э. да IV—V стст. н. э. Зыходзячы з ролі той ці іншай сыравіны ў жыцці насельніцтва, увесь гэты адрэзак часу можа быць падзалены на 3 перыяды: 1) ранні (VIII—VII стст. да н. э. — V ст. да н. э.) — каменна-касцяны; 2) сярэдні (IV—I стст. да н. э.) — касцяна-жалазны; 3) позні (I—IV—V стст. н. э.) — жалезны. Гэтыя перыяды адлюстроўваюць больш чым тысячагадовую гісторыю плямёнаў днепра-дзвінскай культуры Беларусі.

## 4. ГАСПАДАРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ, ГРАМАДСКІЯ АДНОСІНЫ І ВЕРАВАННІ

### Прыродна-геаграфічныя ўмовы

Геаграфічныя ўмовы ў значнай ступені ўплываюць на гаспадарчую дзэйнасць людзей не толькі ў сусветным мвштабе, але і ў межах невялікіх тэрыторый.

Фарміраванне сучаснага рэльефу Паўночнай Беларусі, яе расліннасці і жывёльнага свету звязана э чацвярцічным перыядам. У выніку дзейнасці ледавікоў, цякучых вод і аетру на вывучаемай тэрыторыі шырока распаўсюдзіліся марэнныя, воднв-ладавіковыя, азёрныя, рачныя лёсападобныя, эолавыя, дзлювіяльныя і балотныя адкладанні. Паверхня поўначы Беларусі — гэта чаргаванне марзнна-градавых узвышшаў і размешчаных паміж імі воднв-ледавіковых, азёрна-ладавіковых і азёрна-балотных нізін.

У цэлым рэльеф не перашкаджае гаспадарчаму асваенню тэрыторыі. Аднак наяўнасць вялікай колькасці ўзвышшаў і град, нізін, раўнін і плато значна ўплывае на размеркаванне і рэжым рэк, азёр і балот. З усім гэтым, безумоўна, трэбв было лічыцца ў гаспадарчай дзейнасці. Напрыклад, пакатыя схілы ўзвышшаў маюць добры сцёк і таму больш прыдвтныя для земляробства ў адрозненне ад больш стромкіх, дзе назіраецца змыванне глебы полай і дажджавой вадой.

У жыцці чалавека, у яго разнастайнай гаспадарчай дзайнасці аялікае значэнне мае клімат. З пвчаткам субатлантычнвга перыяду (750—500 гг. да н. э.) пачынаецца значнве пагаршэнне клімату: павялічвевцца колькасць ападкаў і зніжаюцца сярэднія тэмпературы. Гэта адбілася і на размеркаванні дрэвавай расліннасці ў лясной зоне. У лясах зменшылася колькасць дрэў ліставых парод (дуб, ліпа, алешына, вяз) і шырока распаўсюдзіліся хваёвыя, асабліва елка, якая зрабілвся пануючвй пародай на ўсёй тэрыторыі Усход-

няй Еўропы. У лясах зменшылася колькасць дзічыны (туры, высакародныя алені, кабаны). У азёрах стаў знікаць вадзяны арэх. Такім чынам, змяншэнне колькасці прадуктаў харчавання, што здабываліся збіральніцтвам і паляваннем (арэхі, ягады, грыбы, дзічына), у некаторай ступені стымулявала павышэнне ролі жывёлагадоўлі і земляробства.

Трэба адзначыць, што ў 1-м тысячагоддзі да н. э. уся тэрыторыя сучаснай Беларусі была пакрыта лясамі, выключэнне складалі ўчасткі адкрытых балот і поймаў вялікіх рэк. Узровень грунтавых водаў, а таксама узровень вады ў рэках і азёрах быў больш высокім у параўнанні з сучасным.

Калі супаставіць археалагічную карту гарадзішчаў жалезнага веку з ландшафтнай і глебавай картамі, то можна заўважыць, што найбольшая шчыльнасць гарадзішчаў у гэты перыяд характэрна для комава-марэнна-азёрнага ландшафту нерасчлянёнай рачной даліны, г. зн. насельніцтва трымалася мясцовасці з няроўным рэльефам, дзе былі лёгкія глебы. Крыху меншая заселенасць характэрна для ландшафтаў раўнін (Каляда, 1985. С. 37—39).

Вывучэнне археалагічнага матэрыялу гарадзішчаў дазваляе зрабіць вывад, што днепра-дзвінскія плямёны поўначы Беларусі аялі параўнальна развітую комплексную гаспадарку.

Вялікім рэвалюцыйным паваротам у гісторыі насельніцтва было паўсюднае распаўсюджанне ў эпоху бронзы прымітыўных жывёлагадоўлі і земляробства (Очерки... 1970. С. 112). З'яўленне новых галін гаспадаркі звычайна звязваюць з рассяленнем у пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. новай этнічнай групы, звязанай з прабалтамі. Аднак ёсць меркаванне, што развіццё прадукцыйных сіл у мясцовых плямёнаў дасягнула такога ўзроўню, што гэты паварот быў ўжо падрыхтаваны.

Прадукцыйнесць палявання і рыбалоўства, а таксама навыкі ў захаванні прадуктаў з'явіліся ўмовай аседлага жыцця, а апошняе вызначала абмежаванне гаспадарчай дзейнасці тэрыторыяй невялікага мікрарэгіёна. З ростам насельніцтва быў звязаны рост спажывання прадуктаў харчавання, які мог быць задаволены толькі за кошт павышэння прадукцыйнасці палявання і рыбалоўства. Перавышэнне пэўнага ўзроўню прадукцыйнасці названых галін цягнула за сабой збядненне прыродных багаццяў, змяншэнне колькасці звяроў і рыбы ў дадзеным раёне. У сувязі з гэтым з'яўляецца неабходнасць пераходу ад гаспадаркі, заснаванай на «прысваенні», да «стааральнай», вытвараючай формы эканомікі. У канцы 2-га — першай палове 1-га тысячагоддзя да н. э. у розных месцах вядучай галіной робіцца жывёлагадоўля, разам з якой хутка развіваецца і земляробства.

## Жывёлагадоўля і паляванне

Матэрыялы раскопак сведчаць пра тое, што на тэрыторыі Паўночнай Беларусі на працягу доўгага часу аж да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. асноўную ролю ў жыцці плямёнаў адыгрывалі жывёлагадоўля і паляванне. Гэта і адрознівае Беларускае Падзвінне ад аднакультурнай вобласці Верхняга Падняпроўя, дзе ляднае земляробства стала вядучай галіной гаспадарання ўжо ў VI—V стст. да н. э. (Шмидт, 1961. С. 361).

**Жывёлагадоўля.** На падставе астэалагічнага матэрыялу з гарадзішчаў выяўлена, што ў помніках ранняга жалеза колькасць касцей свойскіх жывёл перавышае колькасць касцей дзікіх. Гэта сведчыць пра пераважнае значэн-

не мяса свойскіх жывёл у харчаванні насельнікаў гарадзішчаў. У працэнтных адносінах гэта выглядае так: 66% складаюць свойскія жывёлы, 34% — дзікія (табл. 1). Параўнанне дадзеных паказвае, што суадносіны паміж свойскімі і дзікімі жывёламі на розных помніках значна вагаюцца (табл. 2): ад 92% свойскіх жывёл на гарадзішчы Урагава да 49,1% — у культурным слоі Буракова (табл. 1). У цэлым жа канстатавана тэндэнцыя павелічэння колькасці касцей свойскіх жывёл ад ніжніх да верхніх пластоў. Найменшая адносная колькасць рэшткаў свойскіх жывёл (42,9%) прыпадае на самыя ніжнія пласты Буракова і Кастрыцы (табл. 2).

Табліца 1

**Суадносіны паміж свойскай і дзікай жывёлай (па колькасці асобін) на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры (вызначэнні В. В. Шчагловай)**

| Гарадзішча | Усяго | | У тым ліку (%) | | Датаванне |
|---|---|---|---|---|---|
| | касцей | асобін | свойскіх | дзікіх | |
| Паддубнікі | 1194 | 189 | 72,5 | 27,5 | VI ст. да н. э. — V ст. н. э. |
| Кублічы | 312 | 28 | 71,6 | 28,4 | IV ст. да н. э. — III ст. н. э. |
| Загаваліна | 136 | 31 | 58,1 | 41,9 | VII ст. да н. э. — IV ст. н. э. |
| Урагава | 1634 | 114 | 88,9 | 11,1 | VI ст. да н. э. — IV ст. н. э. |
| Абрамава | 46 | 6 | 66,6 | 33,4 | VII ст. да н. э. — IV ст. н. э. |
| Кастрыца | 212 | 35 | 57,2 | 42,8 | V ст. да н. э. — V ст. н. э. |
| Заронава | 105 | 17 | 58,8 | 41,2 | V ст. да н. э. — IV ст. н. э. |
| Буракова | 321 | 57 | 49,1 | 50,9 | VI ст. да н. э. — V ст. н. э. |

Табліца 2

**Рэшткі свойскіх жывёлін у раскопаных пластах гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры, % (вызначэнні В. В. Шчагловай)**

| Гарадзішча | Пласты | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| Урагава | 88,8 | | 83,3 | | 92,0 | |
| Буракова | 58,8 | 50,1 | 57,2 | 42,9 | 50,0 | 36,3 |
| Кастрыца | 100,0 | 55,5 | 62,5 | 60,0 | 42,9 | |
| Загаваліна | 63,6 | 50,0 | 62,5 | | | |
| Паддубнікі | 71,0 | 67,5 | 70,4 | 69,0 | | |

Звяртае на сябе ўвагу значны працэнт рэшткаў дзікіх жывёл на кожным помніку (табл. 1), выключаючы Урагава (Паддубнікі). Больш за палову ўсёй колькасці рэшткаў складаюць рэшткі дзікіх жывёл у Буракове. На гарадзішчах Загаваліна, Кастрыца, Заронава дзікіх жывёл ад 41,2 да 42,8%. І толькі ў кухонных рэштках з раскопак Урагава іх усяго 11,1%.

Табліца 3

**Суадносіны паміж відамі свойскай жывёлы на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры, % (вызначэнні В. В. Шчагловай)**

| Гарадзішча | Буйная рагатая жывёла | Дробная рагатая жывёла | Свіння | Конь |
|---|---|---|---|---|
| Урагава | 39,8 | 28,2 | 8,8 | 25,2 |
| Абрамава | 50,0 | — | — | 50,0 |
| Паддубнікі | 23,8 | 23,1 | 32,2 | 20,9 |
| Кублічы | 50,0 | 30,0 | 10,0 | 10,0 |
| Загаваліна | 44,4 | 27,8 | 11,2 | 16,6 |
| Кастрыца | 45,0 | 20,0 | 25,0 | 10,0 |
| Буракова | 35,7 | 28,6 | 21,3 | 14,4 |
| Заронава | 20,0 | 30,0 | 20,0 | 20,0 |

У табл. 3 звяртае на сябе ўвагу вялікі працэнт рэштках свіней (32,2) у Паддубніках, які амаль у 1,5 раза перавышае працэнт рэштках буйной рагатай жывёлы.

На гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры (выключаючы Паддубнікі) найбольшая колькасць рэштках належыць буйной рагатай жывёле (30,0—50,0%), другое месца займаюць рэшткі дробнай рагатай жывёлы (выключаючы Кастрыцу і Паддубнікі), трэцяе месца на шэрагу гарадзішчаў — рэшткі каня (Урагава, Загаваліна, Кублічы, Заронава). Значны працэнт рэштках свінні характэрны для Паддубнікаў, Кастрыцы, Буракова і Заронава (па колькасці сельскагаспадарчых жыаёл). Сярэднія значэнні для кожнага віду па ўсіх гарадзішчах: буйная рагатая жывёла — 39,8%, дробная — 26,5, саінні — 18,3, коні — 20,9%.

Пераважаюць, як правіла, рэшткі капытных (50—100%) ва Урагаве, Абрамава, Паддубніках, Кублічах, Загаваліне, Кастрыцы. Толькі ў Заронаве і Буракове — гарадзішчах паўночнага ўсходу Беларусі — рэшткі капытных складаюць крыху больш за 1/3 колькасці рэштках дзікіх жывёл. Асабліва вялікі працэнт капытных (80) у Кастрыцы (табл. 4).

Табліца 4

**Суадносіны паміж капытнымі і некапытнымі дзікімі жывёлінамі на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры, % (вызначэнні В. В. Шчагловай)**

| Віды жывёл | Урагава | Абрамава | Паддубнікі | Кублічы | Загаваліна | Кастрыца | Заронава | Буракова |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Капытныя | 51—5 | 100,0 | 61,5 | 50,0 | 53,8 | 80,0 | 42,0 | 31,0 |
| Некапытныя | 38,5 | — | 38,5 | 50,0 | 46,2 | 20,0 | 57,1 | 69,0 |

У сярэднім колькасць рэштках дзікіх капытных на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры вызначаецца ў 60,1%, пушных — 39,9%.

Колькасць рэштkaў касцей дзікіх жывёл па асобных відах на гарадзішчах тут размяркоўваецца наступным чынам: сярэдняе значэнне колькасці рэшткаў (асобін) зубра складае 4,3%, лася — 25,2, аленя высакароднага — 6,3, казулі — 0,9, дзіка — 22,8%. Значная колькасць рэшткаў лася выяўлена ў культурным слоі Урагава (37,5%), Заронава (28,6%), Кублічах (25%), Загаваліна (23,0%), каля 1/3 усіх рэшткаў капытных жывёл складаюць рэшткі дзіка ў Загаваліне, крыху больш за 1/4 — у Паддубніках (табл. 5).

Табліца 5

**Суадносіны паміж відамі дзікіх капытных на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры, % * (вызначэнні В. В. Шчагловай)**

| Гарадзішча | Зубр | Лось | Алень высакародны | Казуля | Дзік |
|---|---|---|---|---|---|
| Урагава | 7,7 | 38,4 | — | — | 15,4 |
| Абрамава | — | 50,0 | — | — | 50,0 |
| Паддубнікі | 6,9 | 17,3 | 1,7 | 6,9 | 27,6 |
| Кублічы | 12,5 | 25,0 | — | — | 12,5 |
| Загаваліна | — | 23,0 | — | — | 31,0 |
| Кастрыца | 28,7 | 28,7 | — | — | 26,7 |
| Заронава | — | 28,6 | — | — | 14,3 |
| Буракова | 6,9 | 17,2 | — | — | 6,9 |

* Ад агульнай колькасці асобін дзікай жывёлы.

Сярод рэшткаў пушных звяроў першае месца па колькасці (% ад агульнай колькасці асобін дзікіх жывёл) займаюць рэшткі бабра: у Паддубніках — 23,1%, Кублічах — 25, Загаваліне — 23,1, Кастрыцы — 20, Заронаве — 42,8, Буракове — 31%.

Такім чынам, на поўначы Беларусі ў раннім жалезным веку галоўнай галіной жывёлагадоўлі з'яўлялася развядзенне буйной рагатай жывёлы — ад 1/3 да 1/2 рэшткаў сельскагаспадарчых жывёл належыць гэтаму віду на ўсіх даследаваных гарадзішчах, за выключэннем Паддубнікаў, дзе асноўным заняткам жыхароў была свінагадоўля (32,2%). У той жа час амаль палова ўсяго статку сельскагаспадарчых жывёл прыпадала на дробную і буйную рагатую жывёлу (23,8 + 23,1%). На іншых гарадзішчах свінагадоўля адыгрывала другарадную ролю. Асабліва нізкі працэнт саіней ва Урагаве (8,8), Кублічах (10) і Загаваліне (11,2). Конегадоўля была даволі развітой галіной жывёлагадоўлі (ад 10 да 25,2% складаюць рэшткі коней на ўсіх вывучаных гарадзішчах). У цэлым самую нізкую ўдзельную вагу мела свінагадоўля (16,1%), самую высокую — развядзенне буйной рагатай жывёлы (39,8%).

Супастаўленне дадзеных па жывёлагадоўлі (Шадыро, 1985. С. 92—93. Табл. 7) у плямёнаў Паўночнай Беларусі з сумежнымі культурамі дае высновы, што развіццё жывёлагадоўлі на вывучаемай тэрыторыі мае шмат агульнага з сумежнымі тэрыторыямі. Бліжэй за ўсіх па характары жывёлагадоўлі да плямёнаў Беларускага Паддзвіння стаяць плямёны культуры штрыхаванай керамікі, а таксама гарадзішчы Латвіі. Асаблівасцю разглядаемага рэгіёна, як ўжо адзначалася, з'яўляецца пераважнае развядзенне буйной рагатай жывёлы.

**Паляванне.** Відавы склад жывёл, на якіх палявала днепра-дзвінскае насельніцтва Беларусі ў раннім жалезным веку, адрозніваецца значнай разнастайнасцю. Здабычай паляўнічых з'яўляліся наступныя віды дзікіх жывёл: зубр,

лось, высакародны елень, казуля, дзік, мядзведзь, воўк, куніца, лісіца, барсук, выдра, рысь, тхор звычайны, бабёр, вавёрка, заяц. На першыя пяць відаў (дзікія капытныя) палявалі дзеля мяса; бабёр, мядзведзь, заяц, барсук адыгрывалі дваякую ролю — мясных і пушных звяроў, астатнія давалі насельніцтву футра.

Насельніцтва днепра-дзвінскай культуры здабывала ўса пяць відаў мясных капытных дзеля футра і часткова мяса. Палявалі на мядзведзя, бабра, зайца і толькі ўласна пушных звяроў — куніцу, лісіцу, рысь. У паўночна-заходніх паселішчах — Урагаве і Абрамаве жыхары палявалі ў асноўным на такіх мясных капытных, як лось і дзік. Колькасць забітых ласёў ва Урагаве ўтрая перавышала колькасць здабытых дзікоў. У Паддубніках асноўнай жывёлай для палявання з'яўляўся дзік (27,6%), удвая менш было здабыта ласёў, у невялікай колькасці забівалі зуброў (7,7%). Палявалі на мядзведзя (7,7%), лісіцу (23,1%), бабра (7,7%). Жыхары Кублічаў выкарыстоўвалі ў ежу галоўным чынам мяса лася (25,4%), здабывалі таксама зуброў (12,5%) і дзікоў (12,5%). Здабычай паляўнічых былі мядзведзь (12,5%) і бобр (25%) (Щеглова, 1969. С. 106—110).

Асноўнымі відамі мясных жывёл з'яўляліся лось і дзік. У Заронаве колькасць здабытых ласёў складала 28,6% ад агульнай колькасці дзікіх жывёл, удвая менш было здабыта дзікоў (14,3%). Палявалі на мядзведзя (14,3%), шырокае развіццё меў багровы промысал. Жыхары Буракова здабывалі зубра (6,9%), лася (17,2%), дзіка (6,9%). Даволі разнастайным быў асартымент пушных звяроў: мядзведзь (13,8%), куніца (3,5%), рысь (3,5%), пераважалі лісіца (17,2%) і бабёр (31%).

Такім чынам, носьбіты днепра-дзвінскай культуры ў асноўным здабывалі два віды мясных жывёл — лася (25,2%) і дзіка (22,6%). Удзельная вага астатніх трох відаў мясных капытных — зубра (4,3%), аленя высакароднага (0,3%), казулі (0,9%) у агульным аб'ёме здабычы паляўнічых была невялікай. Суадносіны паміж дзікімі капытнымі (мяснымі) і некапытнымі на гарадзішчах паўночнай часткі Беларусі дазваляюць гаварыць пра тое, што жыхары толькі Буракова і Заронава (паўночны ўсход) вялі ўзмоцненую здабычу пушных звяроў (69% ад агульнай колькасці дзікіх жывёл у Буракове і 57,1% — у Заронаве), насельніцтва ж астатніх вывучаных паселішчаў яўна аддавала перавагу пры паляванні капытным.

Табліца 6

**Відавы склад рэштак касцей пушных і мясных жывёлін з гарадзішчаў Паўночнай Беларусі (паводле В. В. Шчагловай, 1970 г.)**

| Від | Урагава | | Буракова | | Кублічы | | Заронава | | Кастрыца | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | +/– | % | +/– | % | +/– | % | +/– | % | +/– | % |
| Зубр | 8/1 | 0,9 | 3/2 | 6,1 | 2/1 | 3,5 | — | — | 11/1 | 5,9 |
| Лось | 34/5 | 4,4 | 21/1 | 3,0 | 12/2 | 7,2 | 9/2 | 11,8 | 53/31 | 7,6 |
| Дзік | 11/1 | 0,9 | — | — | 1/1 | 3,5 | 3/1 | 5,9 | 9/2 | 11,8 |
| Мядзведзь | 6/1 | 0,9 | 6/1 | 3,0 | 4/1 | 3,5 | 1/1 | 5,9 | — | — |
| Лісіца | 19/3 | 2,8 | 3/3 | 9,1 | 9/5 | 3,5 | — | — | — | — |
| Куніца лясная | — | — | 1/1 | 3,0 | — | — | — | — | — | — |
| Рысь | — | — | 1/1 | 3,0 | — | — | — | — | — | — |
| Бабёр | 2/1 | 0,9 | 30/7 | 21,2 | 8/2 | 7,2 | 12/3 | 17,6 | 4/1 | 5,9 |

Заўвага: «+» у лічніку — колькасць костак, «–» у назоўніку — колькасць всобін, % ад агульнай колькасці всобін (свойскіх і дзікіх).

## Земляробства

Удзельная вага земляробства насельнікаў паўночнабеларускіх гарадзішчаў не зусім высветлена. Відаць, значэнне земляробства ў гаспадарчай дзейнасці насальніцтва паступова ўзрастала, але мы пакуль не маем надзейных крытэрыяў для вызначэння яго удзельнай вагі на розных этапах развіцця днепра-дзвінскай культуры.

Ва ўмовах патрыярхату (1-е тысячагоддзе да н. э.) земляробства вызвалілася ад сувязі з хатняй гаспадаркай, ператварыўшыся ў пастаянную галіну вытворчасці, у якой былі заняты і жанчыны, і мужчыны. Земляробства пашыралася, пераходзячы на аддаленыя ад жытла ўчасткі (Слободкин, 1952. С. 29), ва ўладкаванні якіх важнае значэнне набылі каменныя, а пазней металічныя сякеры. У канкрэтных умовах Паўночнай Беларусі развіццё земляробства было магчыма толькі пры ўмове высечкі лесу. Такім чынам, адзіна магчымай формай развіцця земляробства тут была пасака.

На даследуемай тэрыторыі ў развіцці ляднага земляробства ў 1-м тысячагоддзі да н. э. важная роля належала каменнай сякеры. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што знаходкі сякер найчасцей выяўлялі ў полі, а не ў месцах пражывання людзей. У процілегласць гэтаму высаірдліны правухаў знаходзяць звычайна на паселішчах. Такім чынам, выраблелыя на гарадзішчах сякары ўжываліся на працы пры вырубцы лесу. Са з'яўленнем жалезных прыладаў ляднае земляробства ўступае ў новую больш высокую стадыю, насельнікі асвойваюць больш шырокія лясныя прасторы. На днепра-дзвінскіх паселішчах Паўночнай Беларусі з пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. шырока выкарыстоўваюцца жалезныя прылады земляробства: сякары, сярпы, нажы для жніва і інш.

Насельнікі разглядаемай тэрыторыі, як і іх суседзі, вырошчвалі, відаць, ячмень, проса, бабоеыя, а таксама пшаніцу, рэшткі якой зафіксаваны на гарадзішчы Загорцы (Ляўданскі, Палікарповіч, 1936. С. 222). Знаходкі каменных зерняцёрак на кожным гарадзішчы сведчаць пра развітасць і паўсюднае распаўсюджанне земляробства. Зерняцёркі нічым не адрозніваліся ад падобных вырабаў іншых сінхронных культур і складаліся з ніжняга буйнога, часцей авапьнай формы каменя і верхняга, які быў у залежнасці ад працягласці карыстання рознай формы.

Ю. А. Красноў, даследуючы лакальныя адрозненні ў земляробстве на тэрыторыі лясной паласы Еўрапейскай часткі былога СССР, адзначае своеасаблівыя рысы яго на тэрыторыі лакалізацыі балцкіх плямёнаў, г. зн. у раёне ад Прыбалтыкі да вярхоўяў Волгі, Масквы-ракі і Акі і ад Верхняга Падзвіння да вярхоўяў Дзясны. Тут раней, чым у іншых частках зоны лясоў, з'яўляюцца і больш шырока распаўсюджваюцца бабовыя культуры, авёс. Толькі ў гэтым раёне зарэгістраваны знаходкі спельты, паходжанне якой безумоўна звязваюць з Заходняй і Сярэдняй Еўропай. На гэтай тэрыторыі выкарыстоўваліся пэўныя тыпы жалезных сярпоў (IV, Vi, VП), якія значна адрозніваліся ад сярпоў паўднёвых ускраін лясной зоны.

Распаўсюджанне земляробства на поўначы Беларусі, на думку Ю. А. Краснова, ішло з захаду на ўсход праз Прыбалтыку (Краснов, 1971. С. 23). Што датычыцца ўсёй тэрыторыі днепра-дзвінскай культуры, то тэмпы развіцця ляднага земляробства і роля гэтай галіны гаспадарчай дзейнасці не ўсюды былі аднолькавымі. Зыходзячы з дадзеных Я. А. Шміта, высвятляецца, што ляднае земляробства стала вядучай галіной гаспадаркі ў Верхнім Падняпроўі ў VI—V стст. да н. э. Тут, відаць, адбіўся ўплыў паўднёвых

ускраін лясной паласы: паўднёвай часткі Верхняга Падняпроўя, Пасейм'я, Падзясення, дзе земляробства з'яўляецца значна раней (Шмидт, 1992. С. 55—61).

У заходняй частцы арэала днепра-дзвінскай культуры, г.зн. на тэрыторыі Паўночнай Беларусі, дзе гаспадарка мела жывёлагадоўчы характар, земляробства стала вядучай галіной крыху пазней, хоць узровень развіцця яго быў аднолькавы. Такім чынам, адрозненне тут толькі ва ўдзельнай вазе вядучых галін гаспадаркі ў раннім перыядзе гісторыі плямёнаў. Таму невыпадкова, што пераход да ворнага земляробства, якое вызначаецца пэўным узроўнем развіцця той ці іншай галіны, адбыўся амаль адначасова па ўсёй тэрыторыі і звязваецца з канцом 1-га тысячагоддзя да н. э. — першымі стагоддзямі н. э. (Шадыро, 1965. С. 94—95).

Пра шырокае распаўсюджанне ворнага земляробства на сумежных тэрыторыях у эпоху ранняга жалеза сведчаць шматлікія знаходкі драўляных плугоў ва Усходняй Еўропе (Шрамко, 1961; Ён жа, 1964. С. 64), якія датуюцца 1-м тысячагоддзем да н. э. і раней. Вельмі важная ў гэтай сувязі знаходка жалезнага лемяша II—III стст. н. э. на тэрыторыі старажытных яцвягаў (Загорульский, 1965. С. 122). Ворнае земляробства на тэрыторыі Усходняй Прыбалтыкі існавала, відаць, у канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. (Граудонис, 1967. С. 122). На распаўсюджванне ворнага земляробства ў першай палове 1-га тысячагоддзя н. э. у зоне лакалізацыі балцкіх плямёнаў указвае Ю. А. Красноў (Краснов, 1971. С. 86—87).

У роўнай ступені гэта можна адносіць і да поўначы Беларусі.

## Грамадскія адносіны

Сукупнасць археалагічнага матэрыялу саадчыць, што плямёны Беларусі з самага пачатку перыяду жалеза знаходзіліся на стадыі развітога патрыярхату. Асноўнай гаспадарчай адзінкай была вялікая патрыярхальная сям'я. Некалькі такіх сам'яў аб'ядноўваліся ў патрыярхальны род, які меў сааю тэрыторыю для пражывання, апрацоўкі глебы і пашы.

На Беларусі, як і на сумежных тэрыторыях, мае месца гнездавое размяшчэнне гарадзішчаў. А. Р. Мітрафанаў лічыў, што кожная група гарадзішчаў належала асобнаму роду, а адно гарадзішча — вялікай патрыярхальнай сям'і (Очерки... 1970. Ч. 1. С. 206). На прыкледзе паўднёвабеларускіх гарадзішчаў А. М. Ляўданскі разглядаў групу ўмацаваных паселішчаў, якія належалі аднаму роду (Лявданский, Коваленя, 1936). Падобныя меркванні можна аднесці і да Паўночнай Беларусі, хоць неабходна адзначыць, што ў групавым размяшчэнні гарадзішчаў не заўсёды можна бачыць наўмысную грамадскую сувязь. Зручныя прыродныя ўмовы для іх збудавання адыгрывалі тут не апошнюю ролю.

Абшчынны калектыўны характар працы абумоўліваўся лядным земляробствам. Патрыярхальна-родавы характар грамадскіх адносін пацвярджаецца наяўнасцю жылых пабудоў у выглядзе доўгіх дамоў.

Бесперапынны рост прадукцыйных сіл, асабліва ў жывёлагадоўлі і земляробстве, у хуткім часа пацягнуў за сабой узмацненне разлажэння родавага ладу, што можна адносіць да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. Комплексная гаспадарка з узрастаючай роляй земляробства пачала забяспечваць людзей накапленнем матэрыяльных каштоўнасцей, садзейнічала росту насельніцтва. У арганізацыі грамадства ўзнікаюць змяненні, звязаныя з аб-

вастрэннем супярэчнасцей унутры яго, што ў канчатковым выніку прыводзіць да ваенных сутычак. Працэс распаду патрыярхальна-першабытных адносін знайшоў сваё адбітак ва ўзнікненні больш магутных штучных умацаванняў. Вядома, што пасалішчы першапачаткова не мелі штучных абарончых умацаванняў, неабходных для забеспячэння бяспекі насельніцтва. Гэта яркае сведчанне ўзмацнення супярэчнасцей паміж родамі і плямёнамі.

Развіццё прадукцыйных сіл дасягнула такога ўзроўню, што ў рамках родавых калектываў стала магчымым накапленне значных багаццяў. Гэтым і тлумачыцца заканамернае ўзнікненне ўмацаванняў для аховы нахопленых багаццяў ад грабяжу.

У плямёнаў эпохі патрыярхату ў гэты час з'яўляецца рабства, крыніцай якога і былі міжплямённыя войны. Рабства ў той перыяд было вельмі абмежаваным і насіла хатні патрыярхальны характар. Я. А. Шміт у якасці некаторага пацвярджэння існавання патрыярхальнага рабства разглядае прысутнасць на гарадзішчах нязначнай прымешкі керамікі, характэрнай для суседніх груп плямёнаў (тэкстыльнай, штрыхаванай). Ён мяркуе, што такая кераміка хутчэй за ўсё выраблялася палоннымі рабамі ці рабынямі па сваіх звычаях, пакуль яны не засвоілі новай для іх тэхналогіі і прыёмаў вырабу гладкасценнага слабапрафіляванага посуду (Шмидт, 1992. С. 111—112). Падобныя з'явы звязаны са складанымі міжплемяннымі адносінамі, і культурныя традыцыі плямёнаў мелі тут не апошняе значэнне, хоць і не трэба перабольшваць іх ролю.

Як канкрэтна была арганізавана патрыярхальна-сямейная абшчына і асобная сям'я, з-за адсутнасці матэрыялаў пакуль сказаць немагчыма. Калі разглядаць асобныя рэчы, знойдзеныя ў культурным пласце пасалішчаў эпохі жалеза, зрэдку аддаленых адно ад другога, то здзіўляе аднастайнасць формаў. Такое ж падабенства назіраецца і ў тыпе пабудоў, канфігурацыі гарадзішчаў і сістэме абарончых збудаванняў. Калі да гэтага дадаць аднатыповасць гаспадаркі, то будзе зразумела, што асобныя роды і плямёны ў межах кожнай культуры мелі эканамічныя сувязі паміж сабой. Такое адзінства гэтых плямёнаў дае некаторую падставу ставіць пытанне пра магчымае ўзнікненне ў іх саюзе плямёнаў, які хутчэй за ўсё не быў пастаянна аформленым, узнікаў перыядычна і быў кароткачасовым у сувязі са значнай ваеннай небяспекай. Але такія, нават кароткачасовыя ваенныя саюзы садзейнічалі ўзмацненню эканамічных сувязей і абмену вопытам і дасягненнямі ў галіне гаспадарчай і ваеннай дзейнасці.

Працэс змянення сацыяльна-эканамічнага жыцця ў раннім жалезным веку звязаны з распадам патрыярхальна-сямейнай абшчыны на малыя сам'і. Развіццё земляробства патрабавала асваення новых плошчаў, больш аддаленых ад месц пастаянных пасяленняў. Земляробства давала магчымасць існаваць больш дробным гаспадарчым едзінкам — малым сам'ям. Гэты працэс можна прасачыць па змяненні тыпу жылых пабудоў, знікненні доўгіх (абшчынных) дамоў і з'яўленні на гарадзішчах асобных жытлаў меншых памераў (Кастрыца, Загаваліна і інш.) (Шедыро, 1985. С. 104).

Працэс распаду першабытнаабшчынных адносін праходзіў марудна і родавыя інстытуты, відаць, заставаліся да канца існавання культур жалезнага веку, ва ўсякім выпадку днепра-дзвінскай культуры. У аднакультурнай вобласці Верхняга Падняпроўя гэты распад пачаўся з масавым з'яўленнем жалезных прыладаў, г. зн. з другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. (Шмидт, 1963. С. 15). У Беларускім Паддзвінні ў сувязі з адставаннем жалезароб-

чай вытворчасці працэс распаду першабытнаабшчынных адносін пачаўся пазней і працякаў больш марудна. Як і ў плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі, пачатак яго адносяць да III—II стст. да н. э. (Очерки... 1970. С. 206).

Гэта было прагрэсіўнай з'явай, паколькі распад патрыярхальных родавых адносін садзейнічаў развіццю ініцыятывы асобных членаў роду, знімаў адну з істотных умоў, якая перашкаджала шырокаму распаўсюджанню ворнай сістэмы (Слободкин, 1952. С. 55). Відаць, утварэнне сямейных гаспадарак прывяло да ўзнікнення прыватнай уласнасці на зямлю (Косвен, 1957. С. 210—211).

Недастатковасць археалагічнага матэрыялу не дазваляе меркаваць пра маёмасную няроўнасць паміж родамі і патрыярхальнымі сем'ямі, прасачыць дынаміку складанага працэсу змянення сацыяльна-эканамічнага жыцця плямёнаў Паўночнай Беларусі. Можна меркаваць, што ў канцы разглядаемага перыяду супярэчнасці ўзнікаюць і ўнутры патрыярхальна-сямейнай абшчыны, калі ў малых сем'ях узмацняецца тэндэнцыя да гаспадарчай адасобленасці. У першых стагоддзях н. э. малыя сам'і, што аддзяліліся, рассяляючыся з былога цэнтра, асвойвалі новыя тэрыторыі, утваралі новыя вытворчыя адзінкі. Гэтым тлумачыцца факт з'яўлення ў гэты час адкрытых паселішчаў, якія размяшчаліся як паблізу, так і на значнай адлегласці ад гарадзішчаў (Шадыро, 1985. С. 105).

Такім чынам, грамадскія адносіны плямёнаў днепра-дзвінскай культуры можна характарызаваць як стадыю разлажэння родавага ладу ў перыяд пераходу да патрыярхальнай вялікай сямейнай абшчыны з наступным яе распадам.

## Вераванні

Матэрыялы, якія характарызуюць вераванні днепра-дзвінскіх плямёнаў у раннім жалезным веку, вельмі абмежаваныя. У сувязі з гэтым шырокае выяўленне спецыфікі рэлігійнага светапогляду даволі цяжкае. Аднак трэба мець на ўвазе, што рэлігійныя ўяўленні насельніцтва днепра-дзвінскай культуры ў цэлым былі блізкія да ўяўленняў, распаўсюджаных у іншых плямёнаў Усходняй Еўропы, што знаходзіліся ў той час на стадыі разлажэння першабытнаабшчыннага ладу.

Як правіла, ва ўсіх плямёнаў таго часу пераважала абагаўленне сіл прыроды. Не з'яўляюцца выключэннем у гэтых адносінах і днепра-дзвінскія плямёны. Пра некаторыя бакі гэтага старажытнага светапогляду можна меркаваць па шэрагу рэчавых знаходак, што ёсць у нашым распараджэнні. Адной з такіх крыніц будзе арнамент, выяўлены на некаторых прадметах, які з'яўляецца, несумненна, знакам-сімвалам. Так, на прасліцы з Кастрыцы нанесены крыж. На пасудзінах часта сустракаюцца выявы прамых ліній, якія выходзяць з аднаго цэнтра і падобныя на сонечныя прамяні, разнастайныя перакрэсленыя зігзагі. Такія арнаменты маюць адносіны да салярных і астральных знакаў. Доказам гэтаму з'яўляецца арнамент у выглядзе кружка з кропкай пасярэдзіне (цыркульны) (мал. 65:10). Такая сімволіка пацвярджае наяўнасць культу сонца і звязанага з ім культу агню і хатняга ачага (Мельниковская, 1967. С. 148). Перажыткі гэтых культаў былі засведчаны для старажытных балцкіх плямёнаў шматлікімі крыніцамі.

Пра культ сонца гавораць не толькі салярныя знакі на прадметах, але і знаходка бронзавай фігуркі каня ў аднакультурнай вобласці на Смален-

шчыне (Шмидт, 1992. Табл. 15:3, 4). Вядома, што культ каня, шырока распаўсюджаны ў старажытнасці сярод еўрапейскіх плямёнаў, быў цесна звязвны з культам сонца (Мельниковская, 1967. С. 149) і адыгрываў важную ролю ў вераваннях старажытных балтаў.

Безумоўны ў днепра-дзвінскіх плямёнаў культ жывёл і птушак, пра што можна меркаваць па знаходках амулетаў-падвесак з зубоў розных жывёл: мядзведдзя, дзіка, ваўка, бабра. Падвеска з косткі ў выглядзе качачкі сведчыць пра абагаўленне птушкі. Ілюстрацыяй гэтых вераванняў служыць выказванне Тацыта: «... Як адрозны знак свайго культу носяць на сябе выявы звяроў...» (Тацит. С. 372).

Сказаць што-небудзь пра культ памерлых і пра пахавальны абрад даволі цяжка, бо ў нас няма адпаведных знаходак. Але мяркуючы па ўсім і ўлічваючы дадзеныя для іншых плямёнаў (юхнаўскіх і мілаградскіх), блізкіх у некаторых адносінах да днепра-дзвінскіх, можна думаць, што аснову пахавальнага абраду складала трупаспаленне на вогнішчы з пакіданнем праху на паверхні зямлі (Шмидт, 1992. С. 115).

## 5. АБМЕН І СУВЯЗІ З СУСЕДНІМІ КУЛЬТУРАМІ

Тэрыторыя плямёнаў днепра-дзвінскай культуры ў межах Беларусі займае вельмі зручнае геаграфічнае становішча. Тут працякаюць шматлікія рэкі такіх марскіх басайнаў, як Балтыйскага (Заходняя Дзвіна і яе прытокі), Чарнаморскага (Днепр і яго прытокі). Усё гэта значна палягчала зносіны з цэлым шэрагам плямёнаў і садзейнічала развіццю абмену ў раннім жалезным веку.

На разглядаемай тэрыторыі няма месцазнаходжанняў руд, неабходных для атрымання састаўных частак бронзы, аднак на паселішчах сустракаюцца рэчы з бронзы і шматлікія рэшткі бронзаліцейнай вытворчасці.

Пакуль цяжка вырашыць пытанне аб шляхах пранікнення бронзы. Можна толькі меркаваць, што яна паступала з некалькіх крыніц: з Сярэдняй Еўропы (Карпаты), з Каўказа і Ірана. Зусім відавочна, што каляровыя металы і вырабы з іх днепра-дзвінскія плямёны маглі атрымліваць толькі ў абмен за пэўныя каштоўнасці. Імі былі ў першую чаргу скуры жывёлін. Дадзеныя астэапагічных даследаванняў сведчаць аб высокім працэнце пушных звяроў у паляванні старажытных насальнікаў гарадзішчаў. Значная частка пушніны выкарыстоўвалася ў мэтах абмену. Верагодна, акрамя пушніны абменьваліся і рознага роду вырабы хатняга рамястаа. Шырокі абмен паміж плямёнамі таго часу вядзе да таго, што шмат якія тыпы рэчаў атрымліваюць распаўсюджанне ў шэрагу суседніх плямёнаў і не толькі этнічна роднасных. Вялікі ўплыў на выгляд рэчаў аказваюць агульныя тэндэнцыі развіцця культуры ў Еўропе, г. зн. узнікненне такіх вялізных культурных супольнасцей, як гальштат, латэн, скіфы, балты і інш.

На жаль, слабая вывучанасць на гэтай тэрыторыі культуры позняга бронзавага веку робіць цяжкім вырашэнне пытання аб мясцовым субстраце, на якім развівапася культура ранняга жалезнага веку. Зыходзячы з таго што большасць найбольш архаічных касцяных вырабаў цесна звязана са старажытнасцямі Прыбалтыкі, дзякаўскай культурай, ананьінскай, ёсць падставы сцвярджаць, што ў днепра-дзвінскіх плямёнаў у перыяд, які папярэднічаў ранняму жалезнаму веку, быў працяглы еднэзак часу кантакту і зносін з групамі насельніцтва позняга бронзавага веку, якія жылі на тэрыторыі Прыбалтыкі, а таксама ў басайне Волгі і Акі. На працягу гэтага часу днепра-

дзвінскія плямёны засвоілі формы і спосабы выраблення шмат якіх прыладаў працы: гарпуноў, тупікоў, шылаў, іголак, шпілек і да т. п.

Днепра-дзвінскія плямёны на тэрыторыі Беларусі ў культурных і гаспадарчых адносінах найбольш цесна былі звязаны з плямёнамі культуры штрыхаванай керамікі, дзякаўскай культуры, на захедзе — з плямёнамі Прыбалтыкі, на ўсходзе — з аднакультурнай вобласцю Верхняга Падняпроўя і праз яе з плямёнамі Верхняй Акі.

Сувязі з плямёнамі Прыбалтыкі і культуры штрыхаванай керамікі пацверджаны наяўнасцю штрыхаванай карамікі на шэрагу гарадзішчаў паўднёвага і заходняга рэгіёнаў культуры (Аўгустова, Кастрыца, Бароўна, Рацюнкі, Зазоны, Лукшы). Ужо ў ранні перыяд існавання культуры сустракаюцца тыпы рэчаў, якія маглі трапіць сюды толькі праз Прыбалтыку. Да такіх рэчаў адносяцца кельты меларскага тыпу, сякеры, некаторыя формы касцяных шпілек, выраблены па бронзавых узорах. Аб цесных сувязях гавораць блізкія формы бронзавых і жалезных кіявідных шпілек і вырабы з косці. Паказальным фактарам такіх сувязяў служаць знаходкі гліняных і каменных праслiц, характэрных для культуры штрыхаванай керамікі. Блізкасць гэтых культур прасочваецца не толькі пры аналізе форм рэчавага матэрыялу, але і пры параўнанні тыпаў паселішчаў і збудаванняў на іх. Тэндэнцыя развіцця фартыфікацыйных умацаванняў на гарадзішчах амаль аднолькавая. Асаблівасці змянення жылля маюць таксама агульную тэндэнцыю пераходу ад прамавугольных падоўжаных пабудоў да невялікіх квадратных.

Больш ярка блізкасць культур выступае пры аналізе характару асобных галін гаспадаркі. У жывёлагадоўлі гэта пераважна развядзенне буйной рагатай жывёлы з вялікім значэннем у асобных рэгіёнах саінагадоўлі. У земляробстве — панаванне ляда. У паляванні перавага промыслу на лясного звера ў заходніх і паўднёвых рэгіёнах Беларускага Падзвіння.

Аналогіі паўночнабеларускім рэчам ёсць не толькі сярод старажытнасцей плямёнаў Прыбалтыкі, але і позніх лужыцкіх плямёнаў Польшчы. Уплыў культуры плямёнаў Сярэдняй Еўропы на днепра-дзвінскую культуру выліўся ў бытаванні ў ёй многіх упрыгожанняў гальштацка-латэнскіх тыпаў, якія выраблялiся на месцы. Гэта ў першую чаргу датычыць бранзалетаў (гладкіх, з насечкай, рубчастых), шыйнай грыўны з Заронава (Шадыро, 1985. С. 65, 66. Рис. 39, 40:2).

На шэрагу гарадзішчаў беларуска-літоўска-латышскага парубежжа сустракаецца характэрная для паселішчаў Літвы і Латвіі гладкасценная і аблітая кераміка першай паловы 1-га тысячагоддзя н. э. (Пруднікі, Барсукі, Цясты).

Даволі ажыўленымі былі сувязі плямёнаў днепра-дзвінскай культуры з іх суседзямі на поўначы і паўночным усходзе, г. зн. з «дзякаўцамі». Гэтыя сувязі пацвярджаюцца цэлым шэрагам фактаў. На некаторых гарадзішчах паўночнага ўсходу Беларусі (Загорцы, Мямлі, Буракова і інш.) зафіксавана тэкстыльная кераміка, характэрная для ранніх «дзякаўцаў». Аб працяглым ці, дакладней, аб пастаянным узаемаўплыве гэтых дзвюх груп плямёнаў гавораць факт наяўнасці ў плямёнаў паўночнабеларускіх гарадзішчаў наканечнікаў касцяных стрэл і дроцікаў, знаходкі некаторых упрыгожанняў (умбавідных падвесак, бляшак) з Буракова, Баронікаў, Кублічаў (Шадыро, 1985. Рис. 42:1—5).

Значным уплывам «дзякаўцаў» на жыхароў Беларускага Паддзвіння можна растлумачыць адносна вялікую ролю ў развядзенні свінней у жывёлагадоўлі некаторых паўночнабеларускіх рэгіёнаў (Буракова — 21,4%, За-

ронава — 20%). Выкарыстанне гліняных грузікаў (Кастрыца) таксама пацвярджае наяўнасць сувязяў паміж гэтымі дзвюма групамі плямёнаў.

Калі разглядаць арэал днепра-дзвінскай культуры ў цэлым, можна лёгка ўбачыць цесныя сувязі ў культурных і гаспадарчых адносінах з плямёнамі Верхняй Акі. Адзначым, што дадзенае падабенства характэрна галоўным чынам для ўсходняга рэгіёна паўночнабеларускіх гарадзішчаў. Аб гэтым сведчаць усе катэгорыі касцяных вырабаў: наканечнікі стрэл, шылы, шпількі і г. д. Вельмі шмат аднолькавага і ў формах бронзавых упрыгожанняў. Для Верхняй Акі асабліва ўласцівы праразныя ажурныя навершшы ад масіўных жалезных шпілек. Фрагменты падобных вырабаў выяўлены на гарадзішчы Буракова. Блізкасць культур адзначаецца ў характары некаторых галін гаспадаркі. Як ужо гаварылася, на паўночным усходзе Беларусі значную ролю адыгрывала паляванне, прычым вядучае значэнне тут мела менавіта пушное (Буракова 69%, Заронава 57,1%). Жывёлагадоўля як галіна гаспадаркі таксама мае шмат якія агульныя рысы для абедзвюх груп плямёнаў. Даволі паказальная роля асобных жывёлін у статку. Увогуле буйная і дробная рагатая жывёла складала на верхнеокскіх гарадзішчах 47,1%, у Верхнім Падняпроўі (Смаленшчына) — 49,5%, у Беларускім Паддзвінні — 40% (Шадыро, 1985. С. 92. Табл. 7).

Ёсць падставы гаварыць аб блізкасці днепра-дзвінскіх і юхнаўскіх плямёнаў. Блізкасць культуры гэтых плямёнаў (асабліва ў басейне Верхняга Дняпра і Падзясання) пацвярджаецца наяўнасцю аднолькавых форм глінянага посуду (Левенок, 1957. Рис. 2), шматлікімі аналогіямі ў рэчавым матэрыяле. Шмат агульнага тут назіраецца і ў характары гаспадаркі і ва ўдзельнай вазе асобных галін гэтай гаспадаркі. Для юхнаўскіх плямёнаў паляванне адыгрывала таксама прыкметную ролю, працэнтныя паказчыкі будуць некалькі ніжэйшымі за паказчыкі для гарадзішчаў паўночнага ўсходу Беларусі і Смаленшчыны, складаючы ў сярэднім 27,1%. У той жа час сумесна буйная і дробная рагатая жывёла дае 46,9% складу статка, што набліжае гэтыя паказчыкі. Зазначаныя дадзеныя гавораць аб блізкасці культуры і шырокіх сувязях паміж плямёнамі Беларускага Паддзвіння (усходні рэгіён), Смаленскага Падняпроўя і юхнаўскімі плямёнамі.

Уплыў культуры плямёнаў Сярэдняй Еўропы на мілаградскую культуру, а праз яе, відавочна, і на культуру плямёнаў вярхоўяў Дняпра выліўся, як адзначалася раней, у бытаванні ў іх многіх упрыгожанняў гальштацка-латэнскіх тыпаў для перыяду ад сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. да першых стагоддзяў н. э. (жалезныя бранзалеты), а таксама рознага роду фібул — бытаваўшых ад першых стагоддзяў да н. э. да першых стагоддзяў н. э.

На шэрагу гарадзішчаў Паўночнай Беларусі (Кублічы, Паддубнікі, Загорцы) знойдзены фрагменты пасудзін падобных да формаў пасудзін, мілаградскай культуры (Шадыро, 1985. С. 76. Рис. 47:41—46).

Рэчы скіфскіх тыпаў праніклі ў вярхоўі Дняпра праз тэрыторыю юхнаўскіх і мілаградскіх плямёнаў, у апошніх такія рэчы сустракаюцца неаднаразова. З рэчаў скіфскага выгляду для гарадзішчаў Паўночнай Беларусі прыкметныя правушныя рабочыя, так званыя скіфскія сякеры (Шадыро, 1985. С. 51—52. Рис. 31: 1—3).

Верагодней за ўсё, пад уплывам ранніх бронзавых скіфскіх стрэл узніклі ў мясцовым асяроддзі розныя формы касцяных стрэл з трохвугольным сячэннем.

Такім чынам, як бачна з усяго вышэйсказанага, днепра-дзвінскія плямёны не жылі ізалявана. Яны былі цесна звязаны з цэлым шэрагам плямёнаў, якія жылі аакол. Акрамя таго, на працягу ўсяго ранняга жалезнага веку на культуру паўночнабеларускіх гарадзішчаў аказвалі значны ўплыў культуры прыбалтыйскіх, фіна-угорскіх, прыдняпроўскіх і сярэднеўрапейскіх плямёнаў. Прычым гэтыя сувязі былі трывалымі і доўгімі. Гэта пацвярджаецца тым, што зафіксаваны не асобныя, выпадковыя, імпартныя рэчы, а цэлыя серыі рэчаў, якія, трапіўшы на вывучаемую тэрыторыю, шырока распаўсюдзіліся ў мясцовым асяроддзі. Гэтыя імпартныя рэчы, уваходзячы ў карыстанне, станавіліся ўзорамі для мясцовай вытворчасці. Пры гэтым тыя, што выраблены на месцы, змяняюць сваё аблічча ў той жа заканамернасці, як і ў межах першаснага вырабу.

## 6. ПАХОДЖАННЕ, ЭТНІЧНАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ І ХРАНАЛОГІЯ

**Паходжанне.** Праблема паходжання днепра-дзвінскай культуры з-за недастатковай вывучанасці помнікаў эпохі бронзы застаецца адкрытай. Пакуль можна толькі канстатааваць, што пры пераходзе да жалезнага веку ў Беларускім Паддзвінні, як і ў вярхоўях Дняпра, склапася адносна аднародная і своеасабліаая культура пасалішчаў з гладкасценным посудам слоікавых і слабапрафіляваных форм.

У лясной зона Усходняй Еўропы найстаражытнейшыя гарадзішчы даследчыкі звязваюць з культурай баявых сякер і шнуравой керамікі, якая распаўсюдзілася ў Прыбалтыцы, Паволжы і Падняпроўі ў 2-м тысячагоддзі да н. э. Насельніцтва, пакінуўшае гэтыя культуры, адносяць да старажытных балтаў ці прабалтаў (Моора, 1958). З захаду альбо паўночнага захаду «шнураыкі» — прабалты пранікпі ў Беларускае Паддзвінне і зліліся з абарыгенным насельніцтвам — плямёнамі нарвскай культуры і культуры «тыпавой» грабеньчатаямачнай керамікі. Насельніцтва нарвскай культуры было індаеўрапейскім, што аблегчыла яго асіміляцыю «шнуравікамі». Н. М. Гурына выказала меркаванне, што нарвская культура з'явілася адным з кампанентаў у станаўленні балцкага этнасу. Па існуючых дадзеных можна меркаваць, што ў Беларускім Паддзвінні ўплыў чыстай шнуравой карамікі быў больш слабым і пасрэдным, чым, напрыклад, у Літве.

Даследаванні Крывінскага тарфяніку (Сенненскі раён) пацвярджаюць, што ў басайне Заходняй Дзвіны існавала мясцовае неалітычнае насельніцтва, культура якога ў першай палове 2-га тысячагоддзя да н. э. паступова набывала рысы, уласцівыя культуры бронзавага веку (Очерки... 1970. Ч. 1. С. 127). Шырокаму пранікненню «шнуравікоў» у Беларускае Паддзвінне перашкаджаў, відавочна, шэраг характэрных прыродных умоў краю (лясістасць, забалочанасць, наяўнасць вялікай колькасці вадаёмаў і да т. п.). Прышлыя плямёны па ўзроўню культуры стаялі вышэй за старажытнае мясцовае насельніцтва паляўнічых і рыбаловаў і садзейнічалі распаўсюджанню тут жывёлагадоўлі і земляробства. На працягу часу змяняецца аблічча керамічнага матэрыялу. На акругладонных і пласкадонных пасудзінах з прымессю пяску і жарствы з'яўляюцца шнуравыя адбіткі, наразныя лініі, адбіткі лінейнага штампу, якія пачынаюць канцэнтравацца ў верхняй частцы пасудзін. Відавочна, у некалькі больш позні час тут з'яўляюцца зусім не арнаментаваныя пласкадонныя пасудзіны са штрыхоўкай на сценках (Очерки... 1970. Ч. 1). Апошні факт выклікае асаблівую цікавасць таму, што

на некаторых помніках эпохі бронзы (тарфянікавыя стаянкі Крывіна і Асавец) побач з тыповай для бронзавага веку карамікай трапляецца шмат фрагментаў штрыхаваных пасудзін, якія па форме нагадваюць днепра-дзвінскія. Гаворачы аб гэтым, нельга абысці ўвагай выказаны раней пункт гледжання У. Ф. Ісаенкі і М. М. Чарняўскага, якія лічаць, што караміка помнікаў ранняга жалезнага веку Паўночнай Беларусі можа ўзыходзіць да позняй крывінскай керамікі і паміж імі магчымы генетычныя сувязі (Исаенко, Чернявский, 1967. С. 164).

Гэтыя дадзеныя дазваляюць дапускаць мясцовую падаснову днепра-дзвінскай культуры. Больш за тое, на шэрагу гарадзішчаў (Чамярычына — Лепельскі раён, Барсукі — Верхнядзвінскі раён, Замошша — Полацкі раён) знойдзена своеасаблівая штрыхаваная караміка (неглыбокія рэдкія штрыхі), вельмі характэрная для стаянак Крывіна і Асавец. Вядома, што тэрыторыя распаўсюджвання ранняй штрыхаванай керамікі была значна шырэйшай за тэрыторыю, на якой пазней зафіксаваны старажытнасці культуры штрыхаванай керамікі, і, акрамя таго, прыём штрыхоўкі керамікі быў характэрным не толькі для адной, а для некалькіх археалагічных культур (Митрофанов, 1969. С. 75).

Такім чынам, вялікі храналагічны разрыў паміж позняй неалітычнай паўночнабеларускай і ранняй днепра-дзвінскай керамікай не дазваляе устанавіць генетычнай сувязі паміж імі. І ўсё ж такі некаторыя агульныя рысы аддалена можна прасачыць у арнаментацыі карамікі эпохі неаліту і бронзы. У цэлым караміка днепра-дзвінскай культуры поўначы Беларусі неарнаментавана, хаця ў шэрагу выпадкаў, і асабліва ў яе ўсходнім рэгіёне, зафіксавана арнаментацыя. Так, «ямкавы» арнамент выяўлены на пасудзінах з гарадзішчаў Кублічы Ушацкага, Буракова Гарадоцкага раёнаў Віцебскай вобласці. У Кублічах зафіксаваны фрагменты з папярэчным арнаментам (Шут, 1966. С. 173). «Ямкавы» арнамент шырока сустракаецца на кераміке неаліту і бронзы, у жалезным веку ён вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў Літве, Латвіі, Эстоніі, вобласці дзякаўскай культуры ў вярхоўях Заходняй Дзвіны і іншых рэгіёнах. Трэба адзначыць, што некаторыя даследчыкі лічаць, што «ямкавы» арнамент нельга суадносіць з якой-небудзь этнічнай супольнасцю (Цягака, Чаквін, 1983. С. 32—34). Арнамент у выглядзе зігзага (часцей двайнога ці трайнога) даволі тыповы для карамікі днепра-дзвінскай культуры, радзей фіксуецца на пасудзінах культуры штрыхаванай керамікі (Шут, 1966. С. 172—174; Митрофанов, 1974. С. 67). Характэрны ён і для карамікі жалезнага веку ў Латвіі (Цимермане, 1980. С. 76. Рис. 5). На кераміке дзякаўскай культуры насачкі ў выглядзе зігзага з'яўляюцца не раней за III—IV стст. н. э. (Розенфельдт, 1974. С. 148), і гэта звязана хутчэй за ўсё з узмацніўшымся балцкім уплывам. На некаторых пасудзінах днепра-дзвінскай культуры зігзаг сустракаецца ў спалучэнні з ямкамі і арнаментам з наразных ліній.

Вывучаючы арнамент жалезнага веку Латвіі, І. Цымермане прыйшла да высновы, што наразныя і часткова грававаныя ўзоры характэрны як раз для балцкага культурнага арэала і звязаны з традыцыямі эпохі бронзы (Цимермане, 1980. С. 77). На тэрыторыі днепра-дзвінскай культуры ў Беларусі згаданыя віды арнаменту хутчэй за ўсё вядуць сваё паходжанне яшчэ ад паўночнабеларускай культуры эпохі неаліту (тыпу Крывіна, Асавец). Але генетычную сувязь, як ужо адзначалася, паміж імі прасачыць пакуль немагчыма. Што датычыць перыяду сярэдняй бронзы Паўночнай Беларусі, дык вывучэнне гэтых помнікаў унесла бы значнае прасаятленне ў праблему

генезісу днепра-дзвінскай культуры. На жаль, яны застаюцца маладаследаванымі. На шэрагу помнікаў (Асавец-2, Пліса-1, Зацене) знойдзена кераміка сосніцка-тшцінецкага тыпу. І. І. Арцёменка мяркуе, што сосніцкая культура склалася на аснове заключнага этапу культур шнуравой керамікі, у тым ліку сярэднедняпроўскай (Артеменко, 1973. С. 19).

Можна меркаваць, што гэта культура была новай ступенню развіцця і сінтэзу «шнуравікоў» і неалітычнага субстрату. Сосніцкая культура (ці сосніцкі варыянт усходне-тшцінецкай культуры), на думку І. І. Арцёменкі і С. С. Беразанскай, з'яўляецца балцкай (Артеменко, 1973. С. 20; Березанская, 1981. С. 5—7).

Археалагічны матэрыял не дае пакуль магчымасці прасачыць пераход ад сярэдняй да позняй бронзы на тэрыторыі Беларускага Паддзвіння. І. І. Арцёменка мяркуе, што на аснове сосніцкай культуры склаліся культуры ранняга жалезнага веку: мілаградская, юхнаўская і днепра-дзвінская. Археалагічныя пацверджанні гэтага меркавання пакуль маюцца толькі для мілаградскай і юхнаўскай культур (Артеменко, 1973. С. 20—21). Што датычыць тэрыторыі днепра-дзвінскай культуры ў Беларусі, дык на шэрагу помнікаў сярэдзіны і другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э., якія знаходзяцца на поўдні Паддзвіння ці амаль на мяжы з ім (Аўгустова Лепельскага раёна, Гатавічы і Студзянец Мядзельскага, Гарані Смаргонскага раёнаў), знойдзена кераміка, блізкая па характару да керамікі мілаградскага тыпу. Выяўлена яна і ў ніжніх слаях гарадзішча каля в. Рацюнкі Браслаўскага раёна (Дучиц, Митрофанов, 1994). А. А. Егарэйчанка схільны лічыць, што насельніцтва Сярэдняй Беларусі сярэдзіны і другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. стаіць бліжэй да носьбітаў мілаградскай культуры, чым культуры штрыхаванай керамікі, і вылучае сярэднебеларускі варыянт мілаградскай культуры (Егорейченко, 1982а. С. 58). Нельга не адзначыць, што арэал мілаградскай культуры ў асноўных рысах супадае з арэалам сосніцкай, што можа сведчыць аб іх генетычнай сувязі.

Распаўсюджванне гэтых культур глыбока на поўнач Беларусі ў зону суцэльнай балцкай гідраніміκі гаворыць хутчэй за ўсё на карысць балцкай прыналежнасці сосніцкай і мілаградскай культур.

Не трэба забываць і скідваць з рахункаў і той уплыў, які аказвала днепра-дзвінская культура на культуру штрыхаванай керамікі ў яе паўночным і паўночна-ўсходнім рэлёнах. Рысы сярэднебеларускага варыянта мілаградскай культуры звязаны і з гэтымі імпульсамі.

Вырашэнне пытання аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва паўночнабеларускіх гарадзішчаў будзе недастаткова абгрунтаваным, калі карыстацца толькі археалагічным матэрыялам з арэала ўласна днепра-дзвінскай культуры. Толькі прыцягненне матэрыялаў суседніх культур і суастаўленне цэлых комплексаў матэрыяльнай культуры, гаспадарча-бытавога і духоўнага жыцця дазваляюць у той ці іншай ступені вырашаць этнічныя пытанні родасных культур. Пры гэтым неабходна прыцягваць матэрыялы іншых навук і ў першую чаргу лінгвістыкі, этнаграфіі, антрапалогіі і г. д. Верагоднасць памылкі значна памяншаецца, калі дадзеныя гэтых навук дапаўняюць адзін аднаго.

**Этнас.** Многія археолагі, якія даследавалі культуры ранняга жалезнага веку лясной зоны Еўрапейскай Расіі, закраналі і пытанні этнагенезу, даючы этнічную прывязку некаторым племянным адзнакам.

У пачатку XX ст. А. А. Сліцын (Спицын, 1903. С. 111—142), абагульняючы звесткі аб гарадзішчах цэнтральнай часткі Еўрапейскай Расіі, аднёс іх усе да старажытных дaславянскіх народаў. Гэтыя гарадзішчы былі аб'яднаны ў

групу дзякеўскіх і разглядаліся ў якасьці помнікаў фіна-угорскіх плямёнаў. Аднак дняпроўскія гарадзішчы А. А. Спіцын усё ж такі лічыў помнікамі культуры балтыйскіх плямёнаў, агаворваючы для іншых паўднёвых раёнаў з помнікамі гэтага тыпу, што, калі з часам прыйдзецца верхнеокскія гарадзішчы дзякаўскага тыпу вылучыць у асобную групу, дык бліжэйшым кандыдатам на іх будзе Літва (Спицын, 1903. С. 113).

А. М. Ляўданскі, які даследаваў вялікую колькасць гарадзішчаў у вярхоўях Дняпра, лічыў іх помнікамі старажытных літоўцаў (старажытных балтаў у сучаснай тэрміналогіі. — *В. Ш.*), адзначаючы, што ў паўночных раёнах Смаленшчыны, верагодна, былі гарадзішчы дзякаўскія (фінскія), а магчыма, частка гарадзішчаў Смаленшчыны з ляпной керамікай з'яўляецца славянскай (Лявданский, 1926. С. 183; Ён жа, 1930. С. 38).

П. М. Траццякоў, які лічыў першапачаткова верхнедняпроўскія гарадзішчы раннеславянскімі помнікамі 1-га тысячагоддзя да н. э. і першых стагоддзяў н. э. (Третьяков, 1953. С. 85), пасля дэталёвага даследавання як саміх паселішчаў, так і ўсяго рэчавага матэрыялу, прыйшоў да высновы аб іх усходнебалтыйскай прыналежнасці (Третьяков, 1960. С. 45), і гэтыя высновы ён пацвердзіў у сваіх наступных працах (Третьяков, 1966. С. 188).

Х. А. Маора, разглядаючы тэрыторыю рассялення балтыйскіх плямёнаў, вылучае ў асобную групу гарадзішчы Смаленскага Падняпроўя і далей зазначае, што ўсе пералічаныя гарадзішчы з'яўляюцца, верагодна, помнікамі шматлікага ўсходнебалтыйскага насельніцтва, сярод якога вылучаецца цэлы шэраг племянных груп (Моора, 1958. С. 25).

В. В. Сядоў, вызначаючы этнічныя масівы па дадзеных археалогіі, прыйшоў да высновы аб балтыйскай прыналежнасці археалагічных культур ранняга жалезнага веку, якія займаюць Верхняе Падняпроўе і Заходнедзвінскі басейн, г. зн. штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, верхняокскай, юхнаўскай і мілаградскай культур (Седов, 1970. С. 14).

А. Р. Мітрафанаў, які шмат гадоў даследаваў старажытнасці культуры штрыхаванай керамікі на тэрыторыі Беларусі, быў перакананы ў іх балцкай прыналежнасці. Таксама ён інтэрпрэтаваў і старажытнасці днепра-дзвінскай культуры (Очерки... 1970. С. 224).

Такім чынам, да апошняга часу асноўныя даследчыкі гэтага перыяду выказваліся за балцкую прыналежнасць гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры. Аднак у апошнія гады зроблена спроба пахіснуць сталую гіпотэзу аб балцкім этнасе носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Так, сярод даследчыкаў з Санкт-Пецярбурга распаўсюдзілася меркаванне Д. А. Мачынскага аб магчымым раннеславянскім характары гэтых плямёнаў (Мачинский, 1981. С. 31—52) (у тым ліку днепра-дзвінскай культуры. — *В. Ш.*).

Па цэламу шэрагу прыкмет найбольш блізкімі да днепра-дзвінскай культуры былі культуры штрыхаванай керамікі, юхнаўская, верхняокская. Цэлы шэраг прыкмет — пабудовы, кераміка (акрамя штрыхаванай), прылады працы, упрыгожанні і характар асобных галін гаспадарчай дзейнасці для ўсіх гэтых груп плямёнаў з'яўляюцца вельмі блізкімі. Гэтыя факты, вядома, нельга растлумачыць толькі інтэнсіўным абменам ці культурнымі сувязямі. Бясспрэчна, што супольнасць з'яўляецца вынікам этнічнай блізкасці альбо прамой роднасці гэтых племянных груп.

Вырашэнню пытання аб этнічнай прыналежнасці днепра-дзвінскіх плямёнаў і іншых роднасных і блізкіх да іх плямёнаў Усходняй Еўропы дапамагаюць у значнай ступені матэрыялы, якія атрымалі лінгвісты. Асаблівай

каштоўнасцю вызначаюцца дадзеныя, атрыманыя шляхам лінгвістычнага аналізу гідраніміі.

Цікавасць да вывучэння гідраніміі Верхняга Дняпра і Заходняй Дзвіны выклікана ў многіх даследчыкаў тым, што гэты раён з'яўляўся месцам найбольш інтэнсіўных кантактаў асноўных этнічных груп Усходняй Еўропы і дае найбольш складаны малюнак.

Першым даследчыкам, зрабіўшым некаторыя вывады на аснове лінгвістычнага аналізу гідронімаў, быў А. А. Качубінскі (Кочубинский, 1897. С. 60—94), які адзначыў, што ў старажытнасці літоўскія плямёны займалі значна большую тэрыторыю, чым зараз, і пражывалі далей на ўсход, у Падняпроўі. Затым А. Л. Пагодзін на падставе вывучэння назваў рэк прыходзіць да высновы, што балтыйскія плямёны ў мінулым жылі далёка на ўсходзе, у тым ліку і на верхняй Аке (Погодин, 1901).

У далейшым А. І. Сабалеўскі (Соболевский, 1911. С. 1051—1054) займаецца вывучэннем гідранімікі Верхняга Падняпроўя, выкарыстоўваючы ў сваіх працах адначасова летапісныя сведчанні і праводзячы аналіз некаторых літоўскіх лексічных запазычанняў у дыялектах Смаленскай і Віцебскай губерняў. Ён прыходзіць да высновы, што літоўскія плямёны ў мінулым жылі ў межах гэтых губерняў, даходзячы на поўначы да Заходняй Дзвіны, а на паўночным усходзе — да Волгі.

К. Буга (Buga, 1924. С. 22—36) больш грунтоўна разгледзеў гідранімію ўласна балтыйскіх тэрыторый, а затым і тэрыторый Верхняга Падняпроўя, басейна Акі. Ён склаў шэраг карт і паставіў пытанне аб адноснай храналогіі лінгвістычных дадзеных, тым самым у нейкай ступені вырашалася пытанне аб часе прыходу славян на балтыйскія тэрыторыі ў Паддзвінне і Верхняе Падняпроўе.

У працах М. Фасмера (Vasmer, 1932, 1934) было працягнута даследаванне многіх пытанняў, пачатых К. Бугой. У тым ліку было выказана меркаванне, зыходзячы з глыбокага навуковага лінгвістычнага аналізу гідронімаў, што старажытная тэрыторыя балтаў была распаўсюджана яшчэ далей на ўсход, дзе яна ўключала тэрыторыю былых Цвярской, Смаленскай, Маскоўскай, Калужскай, Тульскай, Чарнігаўскай і Арлоўскай губерняў.

Найбольш капітальным з ўсіх з'яўляецца даследаванне У. М. Тапарова і А. М. Трубачова «Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья» (Топоров, Трубачев, 1962), у якім былі падведзены вынікі шматгадовых прац папярэдніх даследчыкаў і зроблена вялізная па свайму аб'ёму работа спецыяльна для Верхняга Падняпроўя. Падсумоўваючы лінгвістычныя дадзеныя, аўтары сцвярджаюць пункт гледжання, што «... без усякага сумнення, асноўным этнічным кампанентам на даследаванай намі тэрыторыі былі балты, пачынаючы з самай аддаленай старажытнасці, даступнай лінгвістычнаму кантролю» (Топоров, Трубачев, 1962. С. 232) і што, «... выяўленне вельмі значнай колькасці балтыйскіх гідронімаў у Верхнім Падняпроўі (700—800 назваў) і вывучэнне іх распаўсюджвання на гэтай тэрыторыі, якое выявіла суцэльны і ўвогуле раўнамерны характар размеркавання балтыйскіх назваў без асаблівых прабелаў, прымушаюць зрабіць выснову ў наступным: тэрыторыя Верхняга Падняпроўя ў 1-м тысячагоддзі — першых стагоддзях 2-га тысячагоддзя н. э. была заселена плямёнамі балтыйскага паходжання; не можа быць гаворкі аб тым, як растлумачыць гэтыя назвы, якія захаваліся у такой колькасці на працягу многіх стагоддзяў, з дапамогай меркавання аб існаванні асобных ізаляваных калоній ваеннапалонных і позніх перасяленцаў, як схільны былі думаць некаторыя вучоныя. Трэба асабіста падкрэсліць

думку, ... што балцкае насельніцтва Верхняга Падняпроўя ў сваёй асноўнай масе не адступіла да паўночнага захаду ва ўмовах распаўсюджання славян на гэтай тэрыторыі і было паступова асімілявана апошнімі. Асаблівае значэнне набывае пастаноўка пытання аб укладзе ў самым шырокім сэнсе старажытнага балцкага насельніцтва ў гісторыю Верхняга Падняпроўя» (Топоров, Трубачев, 1962. С. 236).

Аўтары прыходзяць да важнай высновы аб наяўнасці асобных дыялектных груп у гэтай вялікай балтыйскай супольнасці і гавораць, што «было б наіўна атаясамліваць зікнуўшыя балтыйскія дыялекты Падняпроўя з якой-небудзь канкрэтнай мовай Прыбалтыкі, таму трэба лічыцца з наяўнасцю ў Верхнім Падняпроўі асобнай групы балтыйскіх дыялектаў» (Топоров, Трубачев, 1962. С. 240).

Такім чынам, грунтуючыся на праведзеным аналіз дадзеных лінгвістычных даследаванняў, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што да з'яўлення славян у Верхнім Падняпроўі і Паддзвінні, а таксама на некаторых сумежных тэрыторыях пражывалі вялікія групы плямёнаў, якія размаўлялі на балтыйскіх дыялектах, прычым займалі яны гэтую тэрыторыю з вельмі аддаленых часоў і да пачатку 2-га тысячагоддзя н. э.

Супастаўленне арэала роднасных археалагічных культур Верхняга Падняпроўя, Сярэдняга Паддзвіння і Прыбалтыкі, акрэсленага ў выніку даследаванняў археолагамі помнікаў ранняга жалезнага веку, і карты распаўсюджання балтыйскіх гідронімаў і тапонімаў паказвае, што ў наяўнасці поўнае супадзенне, якое дае падставы лічыць, што ўсе старажытныя паселішчы належалі да плямёнаў, якія размаўлялі на дыялектах балтыйскіх моў. Зыходзячы з таго што на заходняй частцы гэтай тэрыторыі адзначана пераемнасць у развіцці культуры і мовы ад старажытных плямёнаў жалезнага веку да сучасных балтыйскіх народаў (літоўцаў, латышоў), можна зрабіць выснову, што насельніцтва старажытных гарадзішчаў Паддзвіння і Верхняга Падняпроўя з этнічнага пункту гледжання было балтыйскім, у тым ліку і група плямёнаў, якія жылі на днепра-дзвінскіх гарадзішчах.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці днепра-дзвінскіх гарадзішчаў не з'яўляецца сёння дыскусійным. Прыналежнасць гарадзішчаў ранняга жалезнага веку Беларускага Падзвіння і Верхняга Падняпроўя да плямёнаў усходнебалцкай моўнай групы бяспрэчна. Істотным у цяперашні час з'яўляецца выяўленне племяннога дзялення ў этнічнай гісторыі ўсходніх балтаў. Паўночная Беларусь, як і Беларуска-Смаленскае Падняпроўе з прылягаючымі да яго раёнамі Волга-Окскага міжрэчча, займаюць паўночна-ўсходнюю частку старажытнай балцкай тэрыторыі.

В. В. Сядоў супаставіў тэрыторыю распаўсюджання балтыйскай гідраніміі з тэрыторыяй рассялення плямёнаў ранняга жалезнага веку і на падставе гэтага вылучыў усходнебалтыйскі масіў, уключыўшы ў яго культуру штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскую, верхнеокскую, юхнаўскую і мілаградскую археалагічныя культуры (Седов, 1963. С. 28). Уся гэтая тэрыторыя характарызуецца своеасаблівым гідранімічным матэрыялам, прычым гідранімічныя ізаглосы блізкія да археалагічных межаў. Гаворачы аб гідраніміі басейна Заходняй Дзвіны на даследаванай тэрыторыі, трэба падкрэсліць, што тут няма ніводнай назвы, словаўтваральная структура якой не мела бы адпаведніка ў верхнедняпроўскай гідраніміі (Катонава, 1970. С. 153). Гэта ў вядомым сэнсе пацвярджае агульнасць гістарычнага мінулага басейнаў Верхняга Дняпра і сярэдняга цячэння Заходняй Дзвіны.

На падставе вывучэння шматлікай гідраніміі балцкага паходжання К. Буга сцвярджае, што Верхняе Падняпроўе і Сярэдняе Паддзвінне з'яўляліся радзімай продкаў літоўцаў і латышоў, прычым у Сярэднім Паддзвінні лакалізаваліся продкі латышоў, а на поўдзень і паўднёвы ўсход ад іх, г. зн. у басейне Верхняга Падняпроўя, — продкі літоўцаў (Buga, 1961. P. 732—739). Археалагічна пакуль цяжка даказаць гэтыя высновы, некаторыя адрозненні ў культуры плямёнаў Сярэдняга Паддзвіння хаця і глуха, але гавораць аб племянным дзяленні ва ўсходнебалтыйскім асяроддзі.

В. В. Сядоў вылучыў асобную групоўку балтаў — дняпроўскую, адносячы да яе блізкія паміж сабой культуры ранняга жалезнага веку (днепра-дзвінская, верхняокская, юхнаўская). Плямёны культуры штрыхаванай керамікі ён адносіць да іншай групоўкі балтаў — лета-літоўскай (Седов, 1985. С. 92—95). Адносна прыналежнасці жыхароў старажытных гарадзішчаў Беларускага Паддзвіння да той ці іншай групоўкі пакуль меркаваць цяжка. Знаходзячыся ў акружэнні з аднаго боку прыбалтыйскага, фіна-угорскага кола старажытнасцей, а з другога — старажытнасцей культуры штрыхаванай керамікі, а на раннім этапе, магчыма, і мілаградскай культуры, плямёны Сярэдняга Паддзвіння не маглі на адчуваць таго культурна-этнічнага ўплыву, які аказвалі на іх суседнія плямёны. Сведчанне гэтаму своеасаблівасць заходняга рэгіёна днепра-дзвінскай культуры (Шадыро, 1985. С. 109—112). З якім канкрэтна гістарычным племенем можна звязваць насельнікаў паўночнабеларускіх гарадзішчаў? Хутчэй за ўсё з продкамі старажытнага балцкага племені латгалаў, якія былі паступова выціснуты на тэрыторыю паўночна-ўсходняй Латвіі. Падмацоўваюць гэта меркаванне і дадзеныя тапанімікі. Як вядома, у Паўночнай Беларусі неаднаразова адзначаны тапонімы Латыгаўка, Латыгайчы, Латыгава і да т. п. Іх канцэнтрацыя ў днепра-дзвінскім міжрэччы даволі значная. Безумоўна, яны ўзыходзяць да назвы старажытнага балцкага племені латгалаў — «латыголе», «летыголе» згодна з летапісам.

На разглядаемай тэрыторыі і асабліва ў яе паўночна-ўсходняй частцы адчувальны ўплыў фіна-угорскіх старажытнасцей. У сувязі з гэтым ёсць усе падставы лічыць, што ў 1-м тысячагоддзі да н. э. насельніцтва паўночнага ўсходу Беларусі ў этнічных адносінах на было аднародным. Таму здаецца не выпадковым такі факт, што да гэтага часу не вызначана, каму належалі ў раннім жалезным веку басейны рэк Ловаці і верхняга цячэння Заходняй Дзвіны — балтам ці фіна-уграм. Як вядома, на накаторых гарадзішчах гэтай тэрыторыі (Буракова, Загорцы, Мямлі і інш.) утрымліваецца ў ніжніх слаях сеткавая кераміка. Гэтая акалічнасць сведчыць аб тым, што ў 1-м тысячагоддзі да н. э. пэўны уплыў на балтамоўнае насельніцтва Полацка-Віцебскага Паддзвіння аказвалі фіна-угры. Аднак з-за адсутнасці дадзеных цяжка вызначыць мяжу названых этнасаў у раннім жалезным веку. У выніку складаных працэсаў сегрегацыі і асіміляцыі гэтыя этнасы выявіліся як самастойныя адзінкі і ў далейшым усё выразней вызначалася зона сутыкнення фіна-угорскіх і балцкіх плямёнаў. У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. яна праходзіла праз тэрыторыю басейна Заходняй Дзвіны па лініі воз. Лубанас (Усходняя Латвія) — раён вярхоўяў Заходняй Дзвіны (История ЭССР, 1952. С. 45). Тут ёсць шэраг спрэчных момантаў як тэрытарыяльнага, так і храналагічнага характару, аднак тэрыторыі Паўночнай Беларусі яны не датычаць. Падкрэслім толькі вялікі ўплыў фіна-угорскіх старажытнасцей, якія прыкметна адчуліся на працягу вельмі доўгага перыяду да самага сярэднявечча. Што датычыцца насельніцтва Паўночнай Беларусі, то асноўным ядром яго ў раннім жалезным веку былі балцкія плямёны, дакладнае дзяленне якіх правесці пакуль вельмі цяжка.

**Храналогія.** Час узнікнення першых паселішчаў на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры быў вызначаны ўпершыню А. М. Ляўданскім як пачатак нашай эры, аднак ім агаворана, што некаторыя з гарадзішчаў з'яўляюцца і больш старажытнымі (Ляўданскі, 1932. С. 38—39). Паколькі матэрыялы, на падстаае якіх А. М. Ляўданскі рабіў свае высновы, былі вельмі абмежаеаныя, больш дакладнае вырашэнне гэтага пытання ў той час увогуле не было магчымым. У далейшым П. М. Траццякоў, аналізуючы матэрыялы з гарадзішча Тушамля, датуе найстаражытнейшыя слаі гэтага помніка па комплексу металічных рэчаў V—IV стст. да н. э. (Третьякоа, 1958. С. 173). У выніку вывучэння іншых гарадзішчаў Я. А. Шміт выказаў пункт гледжання, што найстаражытнейшыя паселішчы днепра-дзвінскай культуры ўзніклі некалькі ранай, г. зн. у VII—VI стст. да н. э. (Шмидт, 1957. С. 52), і, нарэшце, новыя знаходкі і дэталёвы аналіз іх дазволілі яму перанасці гэтую дату ў VIII ст. да н. э. (Шмидт, 1963. С. 18).

Для вырашэння лытанняў храналогіі вартыя ўвагі знаходкі бронзавых рэчаў, шырока распаўсюджаных у паўночнай палове еўрапейскага кантынента і больш-меньш дакладна датаваных для асобных раёнаў. Такімі рэчамі для днепра-дзвінскіх гарадзішчаў з'яўляюцца кельты меларскага тыпу. У Шаецыі — раёна іх аырабу — гэтыя старажытнасці існавалі з 1100 да 700 г. да н. э. На гарадзішчы Наквасіна ў аснове культурнага слоя на мацерыку Я. А. Шміт знайшоў кельт добрай захаванасці, з акруглым лязом, час бытавання якога аызначаецца як V—VI перыяды бронзы і датуецца 900—700 гг. да н. э. Адносячы гэтую рэч да імпартных, атрыманых шляхам абмену з захаду, Я. А. Шміт датуе яе VIII — пачаткам VII ст. да н. э. Гэта цалкам супадае з датаваннам па прыбалтыйскіх формах. Такім чынам, ніжні слой гарадзішча Наквасіна, які ўключае слабапрафіляваную кераміку і асобныя касцяныя рэчы, Шміт адносіць да VIII—VII стст. да н. э. (Шмидт, 1992. С. 117).

Вялікае значэнне для ніжняга датавання днепра-дзвінскай культуры маюць і знаходкі комплексу ліцейных форм на гарадзішчы каля сяла Жарынь (Смаленшчына). У комплекс уваходзяць як формы для кельтаў, так і формы для адліўкі бронзавых плоскіх, круглых і гладкіх бранзалетак, а таксама цэлага шэрагу іншых вырабаў, дааолі распаўсюджаных на самых старажытных гарадзішчах.

На паўночнабеларускіх гарадзішчах бронзавых кельтаў меларскага тыпу не аыяўлена. У 1988 г. на гарадзішчы Буракова В. І. Шадырам знойдзены толькі абломак часткі ляза падобнага прадмета, выраблеңага з каменя. Трэба адзначыць, што вырабы з бронзы і жалеза на тэрыторыі Беларускага Паддзвіння ранай другой паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. не датуюцца. Гэтым часам К. П. Шут і вызначыў ніжнюю дату гарадзішчаў Паўночнай Беларусі (Шут, 1966. С. 181). Такія знаходкі, як сякера скіфскага тыпу (Кублічы), нааершшы бронзавай шпількі і бляшкі з эсападобнымі завіткамі, жалезныя шыйныя грыўны, якія называе К. П. Шут, не могуць служыць пацвярджэннем гэтай даты, яны адносяцца да больш позняга часу. Блізкім да гэтай даты можна лічыць фрагмент рубчастай бранзалеткі, які па тушамлянскаму аналагу можна датаваць V—III стст. да н. э. (Третьяков, 1963. С. 47—48. Рис. 14:5). Больш раннія вырабы з жалеза і бронзы на вывучаемай тэрыторыі пакуль не зафіксаваны.

У сувязі з датаваннем гарадзішчаў пэўную цікавасць выклікаюць знаходкі касцяных шпілек (Замошша, Рацюнкі), якія з'яўляюцца спецыфічнымі прадметамі ўбрання старажытных балтаў. У калекцыі з Замошша маецца некаль-

кі экземпляраў, якія па стратыграфічных дадзеных, а таксама па прыбалтыйскіх паралелях можна адносіць да першай паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. Іх з вядомай верагоднасцю можна датаваць па бронзаавых узорах. Так, шпільку са штучна выбрабленай формай з вушкам у верхняй частцы, аналагічную шпільцы з Дзаівце (Даўгаўпілскі раён), па падабенстаў з бронзавай шпількай са Слажаскага могільніка можна датаваць IV—V перыядамі бронзы (не пазней за 800—600 гг. да н. э.) (Граудонис, 1967. С. 91).

Датаванне ранняга перыяду існавання днепра-дзеінскай культуры вызначаюць у некаторай ступені і касцяныя наканечнікі стрэл. Гэтыя шматлікія прадметы знойдзеныя як на тэрыторыі Смаленскага Падняпроўя, так і Беларускага Паддзвіння, аналогіі да якіх можна знайсці ў помніках ранняй пары дзякаўскай культуры (Городцов, 1934. Рис. X:10—14). Іх можна датаваць часам, пачынаючы з VII стагоддзя да н. э. Стрэлы са шпорцам, з адным шыпам ці аднакрылыя выраблялiся, несумненна, па ўзорах ранняскіфскіх бронзавых стрэл, якія датуюцца канцом VIII—VI ст. да н. э. (Яценко, 1959. Табл. II. Рис. 1—13. С. 42). Такім чынам, ніжняв датаванне вывучаемых паселішчаў па касцяных вырабах у сувязі са спазненнем бронзаліцейнай і жалезаапрацоўчай вытворчасці мае асаблівае значэнне. Падсумоўваючы характарыстыку найбольш архаічных прадметаў з гарадзішчаў Паўночнай Беларусі, можна адносіць самы ранні час узнікнення і існавання паселішчаў днепра-дзвінскай культуры да перыяду позняй бронзы, вызначаючы пункт адліку іх бытавання з VIII ст. да н. э. (Шадыро, 1985. С. 112; Археалогія Беларусі. Т. 1. 1997. С. 347—349).

Апошні перыяд часу існавання днепра-дзвінскай культуры, калі ўжо побач з гладкасценным непрафіляваным і слабапрафіляваным посудам на ўсходзе з'яўляецца прафіляваны посуд, датуецца цэлым комплексам бронзавых і жалезных рэчаў, галоўным чынам па прыбалтыйскіх узорах. Для ўсходняга (смаленскага) арэала культуры — гэта шматлікія бронзавыя ўпрыгожанні (фібулы, падвескі, пярсцёнкі і інш.), якія датуюцца першымі стагоддзямі н. э. Дадзены перыяд Я. А. Шміт датуе II—III стст. н. э., магчыма, і пачаткам IV ст., калі гарадзішчы ў асноўнай сваёй масе пачалі пакідацца насельніцтвам, якое пераходзіла жыць на адкрытыя паселішчы — селішчы (Шмидт, 1992. С. 119—120).

Для позніх слаёў гарадзішчаў Беларускага Падзвіння характэрны жалезныя вырабы, датаванне якіх адносіцца ў асноўным да III—IV стст. (фібулы, шпількі). Так, асноўная маса посахападобных жалезных шпілек па аналогіях з Літвы і Латвіі датуецца II—IV стст. н. э. (Седов, 1969. С. 124). У канцы перыяду існавання культуры шырока бытуюць біканічныя прасліцы, якія з V ст. набываюць дакладна выяўленую ўсечана-біканічную форму. У адрозненне ад тэрыторыі Смаленскага Падняпроўя, дзе ў сувязі з пранікненнем нашчадкаў зарубінецкіх плямёнаў адбываецца і змена форм пасяленняў, у Беларускім Падзвінні працэс змены тыпаў пасяленняў насіў больш зацяжны характар. Асноўным іх тыпам яшчэ доўгі час застаюцца гарадзішчы. Іх пласты пасля V ст. змяшчаюць ужо іншы матэрыял, звязаны, з аднаго боку, з культурай банцараўска-тушамлянскага тыпу, а з другога — з культурай літоўска-латышскіх пасяленняў з гладкасценнай і аблітай керамікай.

Такім чынам, час існавання днепра-дзвінскай культуры з выкарыстаннам толькі ўмацаваных паселішчаў (гарадзішчаў) і з характэрным спецыфічным комплексам прымет у матэрыяльнай культуры вызначаецца ад VIII—VII стст. да н. э. да рубяжа IV—V стст. н. э.

*Мал. 52. Помнікі днепра-дзвінскай культуры на Беларусі*

***Умоўныя абазначэнні: 1 — гарадзішчы з даследаваннямі; 2 — недаследаваныя; 3 — мяжа заходняга (заходнедзвінскага) і ўсходняга (смаленскага) варыянтаў культуры.***

*1 — Слабодка; 2 — Рацюнкі; 3 — Шавуны; 4 — Замошша; 5 — Укля; 6 — Сабалеўшчына; 7 — Гвардзейская (Кукішы); 8 — Чурылава; 9 — Панізава; 10 — Шарагі; 11— Мазурына; 12 — Субачава; 13 — Язна; 14 — Паддубнікі; 15 — Пілаты; 16 — Падгаі; 17 — Запрудзе; 18 — Патыгаль; 19 — Зарубіна; 20 — Удзела; 21 — Зубкі; 22 — Шыпы; 23 — Псуя; 24 — Сушкі; 25 — Малое Абухава; 26 — Урагава; 27 — Васілеўшчына; 28 — Царкоўна; 29 — Чапаеўскае; 30 — Дубровы; 31 — Абрамава; 32 — Гарадзілавічы; 33 — Маскаленкі; 34 — Цясты; 35 — Дадзкі; 36 — Барсукі; 37 — Княжыцы; 38 — Дзегцярова; 39 — Асеткі; 40 — Пескаватка; 41 — Варганы; 42 — Бірулі; 43 — Сакалішча; 44 — Сінск; 45 — Межава; 46 — Грачушына; 47 — Даўгабор'е; 48 — Заазёр'е; 49 — Рылі; 50 — Старыца; 51 — Межна; 52 — Латышы; 53 — Няшчэрда; 54 — Янкавічы; 55 — Хоцькава; 56 — Перавоз; 57 — Амосенкі; 58 — Карпіна; 59 — Якубенкі; 60 — Гаравыя; 61 — Баркі; 62 — г. Полацк; 63 — Мінтурова, 64 — Палата; 65 — Дзявічкі; 66 — Труды; 67 — Смарыгі; 68 — Гараны; 69 — Арлея; 70 — Званае; 71 — Загацце; 72 — Гарадок; 73, 74 — Замошша; 75 — Лісічна; 76 — Кублічы; 77 — Белюкоўшчына; 78 — Ваўчо; 79 — Ушачы; 80 — Гарадзец; 81 — Чамярычна; 82 — Тураспопле; 65 — Старыя Тарасы; 86 — Бадзяліна; 87 — Селішча; 88 — Загаваліна; 89 — Падрэзы; 90 — Малая Вядрэнь; 91 — Азерцы; 92 — Бароўна; 93 — Заглціннікі; 94 — Аўгустова (Звязда); 95 — Кастрыца; 96 — Камень; 97 — Стары Лепель; 98 — Стараселле; 99 — Бортнікі; 100 — Стрыжава; 101 — Застарынне; 102 — Рубеж; 103 — Чарнагосце; 104 — Запруддзе; 105 — Гародна; 106 — Галі; 107 — Гарадзішча; 108 — Кардон; 109 — Сінякова; 110 — Бокішава; 111 — Бібіна; 112 — Цары; 113 — Лахі; 114 — Марчанкі; 115 — Жукава; 116 — Шнітніца; 117 — Ляпеўшчына; 118 — Сцяпанавічы; 119 – Затарочча; 120 — Селязні; 121 — Вышадкі; 122 — Бяскатава; 123 — Бярозна; 124 — Буракова; 125 — Прудннікі; 126 — Казінова; 127 — Баравыя; 128 — Кулі; 129 — Старое Сяло; 130 — Заронава; 131 — Дрыколле; 132 — Лужасна; 133 — Зайцава; 134 — Баронікі; 135 — Жалнерава; 136 — Мяклова; 137 — Канькі; 138 — Кузьменцы; 139 — Белынічы; 140 — Шапуры; 141 — Бабінавічы; 142 — Выхадцы; 143 — Буракі; 144 — Замошша; 145 — Машчаны; 146 — Новае Сяло; 147 — Кісялі; 148 — Барадзіно; 149 — Карабанавічы; 150 — Дняпроўка; 151 — Ірвяніца; 152 — Пяды; 153 — Баева; 154 — Малое Бахава; 155 — Чырына; 156 — Вежкі; 157 — Дзяругі; 158 — Сімахі; 159 — Рэпухава; 180 — Забалоцце; 161 — Чаркасава; 162 — Горная Веравойша; 163 — Барэйшава; 164 — Вялікае Бабіна; 165 — Пагост; 166 — Рагозіна; 167 — Яромкавічы; 168 — Вусце; 169 — Барадзіно; 170 — Кучына; 171 — Войкаўшчына; 172 — Добрая; 173 — Затоны-1; 174 — Навасёлкі; 175 — Маслакі; 176 — Касцюшкова; 177 — Асмолавічы; 178 — Усполле; 179 — Ходасы; 180 — Куркаўшчына; 161 — г. Мсціслаў; 182 — Каробчына; 183 — Ягораўка; 164 — г. Крычаў; 185 — Горкі; 186 — Камаровічы; 187 — Наркі; 186 — Юдава; 189 — Высокае; 190 — Прылёпаўка; 191 — Радамля; 192 — Селішча; 193 — Палыкавічы-1; 194 — Сухары; 195 — Фойна; 196 — Дубраўка; 197 — Благаўка; 198 — Княжыцы; 199 — Ржаўцы; 200 — Гарадок; 201 — Царкавішча; 202 — Смятанічы; 203 — Чарнаручча; 204 — Стараселле; 205 — Карзуны*

| Тыпы | | Варыянты | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Падтыпы | | А | Б | В | Г |
| II Узгоркавыя | | Замошша | Прыднікі<br>0 30м | Панізава<br>0 20м | Барсукі<br>0 15м |
| I Мысавыя | Падтып 2 | | Асінавік – Навасёлкі | | Абрамава |
| | Падтып 1 | Бароўна<br>0 20м | | Урагава | |

Мал. 53. Тыпалогія гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры на Беларусі




*Мал. 54. Вырабы з каменю (гарадзішча Замошша)*




*Мал. 55. Вырабы з косці на помніках днепра-дзвінскай культуры: 1, 2, 5, 6, 12, 13 — Паддубнікі; 3, 4 — Загорцы; 7, 9, 10, 14, 15—24 — Замошша; 8, 17 — Урагава; 11 — Кастрыца*




*Мал. 56. Вырабы з косці днепра-дзвінскай культуры: 1, 3, 5, 10, 11 — Паддубнікі; 6, 7, 9, 12—23, 25 — Замошша; 2, 8 — Буракова; 24 — Урагава*




*Мал. 57. Жалезныя тапары з помнікаў днепра-дзвінскай культуры: 1 — Кублічы; 2 — Бароні; 3 — Аўгустова; 4 — Паддубнікі; 5 — Барсукі*




*Мал. 58. Жалезныя сярпы і жнііўныя нажы з помнікаў днепра-дзвінскай культуры: 1 — Буракова; 2,17 — Барсукі; 3,4,7,9,12,14,15 — Кублічы; 5 — Загаваліна; 6,6,11 — Замошша; 10 — Язна*




*Мал. 59. Вырабы з жалеза на помніках днепра-дзвінскай культуры: 1, 14, 16 — Кублічы; 2, 9, 10 — Урагава; 3, 6, 17 — Кастрыца; 4, 8 — Язна; 5 — Казінава; 7, 11 — Абрамава; 12 — Замошша; 13 — Загаваліна; 15 — Замошша*




*Мал. 60. Вырабы з жалеза з помнікаў днепра-дзвінскай культуры: 1, 13, 23 — Буракова; 2 — Аўгустова; 3, 10, 24 — Загаваліна; 4 — Абрамава; 5, 7, 20, 22 — Язна; 6, 16, 21, 25, 26 — Кастрыца; 8, 12, 14, 15, 17—19 — Кублічы; 9 — Урагава; 11 — Загорцы*

8--3440




*Мал. 61. Вырабы з бронзы на помніках днепра-дзвінскай культуры: 1 — Буракова; 2 — Баронікі; 3—5, 8 — Кублічы; 6 — Цясты; 7 — Барсукі; 9 — Язна*




*Мал. 62. Керамічны матэрыял з помнікаў днепра-дзвінскай культуры Беларусі: 1 — Барсукі; 2 — Гаравыя; 3, 4, 6—8, 10—14 — Кублічы; 9 — Абрамава; 15 — Кастрыца; 16 — Заронава; 17 — Паддубнікі*




*Мал. 63. Арнаментаваныя матывы на посуду з помнікаў днепра-дзвінскай культуры: а — баначныя формы гаршкоў; б — слабапрафіляваныя; а — з сетчатай паверхняй (1—8), з штрыхаванай (9, 10)*



*Мал. 64. Гліняныя прасліцы: 1, 4 — Урагава; 2, 3, 8, 10—12, 19—34 — Кастрыца; 13 — Карлаўка; 14 — Пруднікі; 15 — Абрамава; 16 — Язна; 17—18 — Загаваліна*




*Мал. 65. Гарадзішча Кастрыца. Грузікі дзякавага тыпу*




*Мал. 66. Рэчы, характэрныя для заходняга варыянта днепра-дзвінскай культуры на тэрыторыі Беларусі: 1—3, 5, 6, 11, 15 — Замошша; 4, 7—10 — Рацюнкі; 12 — Цясты; 13 — Буракова; 14, 17 — Кастрыца; 16 — Кублічы*

Раздзел 5

# ЗАРУБІНЕЦКАЯ КУЛЬТУРА

## 1. ГІСТОРЫЯ ВЫВУЧЭННЯ

Зарубінецкая культура атрымала сваю назву па грунтавым могільніку каля в. Зарубінцы Канеўскага павета Кіеўскай губерні (цяпер Пераяслаў-Хмяльніцкі раён Кіеўскай вобласці), дзе ў 1899 г. украінскі археолаг В. В. Хвойка раскапаў тры пахаванні з крэмацыяй і інвентаром, які там знаходзіўся (Хвойка, 1901. С. 182—185).

Першыя зарубінецкія помнікі на тэрыторыі Беларусі былі знойдзены ў канцы 20-х гадоў XX ст. Да іх ліку адносяцца грунтавы могільнік ва ўрочышчы Казаргаць і некалькі паселішчаў, адкрытых А. Д. Каваленем і С. С. Шутавым у ходзе разведак у Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці (Каваленя, Шутаў, 1930. С. 351—356).

Найбольш плённым даследаваннне зарубінецкіх помнікаў у Беларусі было ў 50-я — пачатку 60-х гадоў. Пачатак іх пакладзены ў 1951 г. працамі Славянскай экспедыцыі ІА АН СССР пад кіраўніцтвам П. М. Траццякова. Ім былі часткова раскапаны гарадзішча і паселішча Чаплін і гарадзішча Мохаў Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці (Третьяков, 1959. С. 119—153; Третьяков, 1960б. С. 48). Адначасова з раскопкамі на Чаплінскіх паселішчах пачалося вывучэнне і сінхроннага ім грунтавога могільніка, на якім Ю. У. Кухарэнка адкрыў 44 пахаванні з крэмацыяй (Кухаренко, 1959б. С. 154—180).

Істотны ўклад у вывучэнне помнікаў зарубінецкай культуры ўнесла В. М. Мельнікоўская. Ёю даследаваны шэраг гарадзішчаў вялікай плошчай, якія мелі і зарубінецкія напластаванні (Гарадок, Гарошкаў, Мілаград Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.), а таксама адкрыты зарубінецкія пахаванні ў Гарошкаве (Мельниковская, 1967. С. 10).

Асабліва трэба падкрэсліць уклад у вывучэнне зарубінецкай культуры на тэрыторыі Беларусі Ю. У. Кухарэнкі. Сканцэнтраваўшы сваю ўвагу на палескім рэгіёне, ён на працягу 50-х гадоў адкрыў і даследаваў шэраг могільнікаў (Велямічы-1 і Велямічы-2, Вароніна, Атвержычы, Рамель) і паселішчаў (Велямічы, Рамель, Рубель і інш.) (Кухаренко, 1961. С. 25—54). У канчатковым выніку гэтым даследчыкам была выдадзена першая абагульняючая праца па зарубінецкай культуры (Кухаренко, 1964).

У далейшым раскопкі палескіх паселішчаў і могільнікаў (Велямічы-2, Востраў, Атвержычы, Рамель) прыцягаала К. В. Каспарава (Каспарова, 1969а. С. 131—168; Яна ж, 1972. С. 53—111; Яна ж, 1976. С. 35—66; Яна ж, 1987. С. 52—70).

Пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў даследаванне зарубінецкай культуры ў Падняпроўі пачынае Л. Д. Побаль. Ён працягваў вывучэнне Чаплінскага комплексу — гарадзішча, паселішча і могільніка (Поболь, 1971в; Ён жа,

1973в). У далейшым гэты даследчык правёў дэталёвае абследаванне археалагічных помнікаў Тураўшчыны, дзе была адкрыта высокая канцэнтрацыя зарубінецкіх паселішчаў, і даследаваў новыя могільнікі (Пагост, Семурадцы) гэтай культуры (Побаль, 1969). Важнае значэнне для вызначэння паўночнай мяжы распаўсюджання зарубінецкай культуры мелі работы Л. Д. Побаля на такіх гарадзішчах, як Шчаткава Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці і Кісцяні Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці (Поболь, 1967б. С. 182—242; Ён жа, 1970. С. 48—50).

У другой палове 60-х гадоў мэтанакіраванае вывучэнне зарубінецкіх помнікаў на тэрыторыі Беларусі практычна спынілася, і аж да пачатку 80-х гадоў папаўненне калекцый матэрыяламі гэтай культуры ішло ў асноўным за кошт раскопак мілаградскіх гарадзішчаў і старажытнарускіх гарадоў, якія мелі зарубінецкія напластаванні (ЭАНБ, 1993. С. 327, 644; Гурын, Лашанкоў, 1984. С. 67—73; Лошенков, 1994. С. 46—73; Егорейченко, 1982б. С. 67—71).

У 80-я гады пачалася пэўная актывізацыя ў даследаванні зарубінецкіх помнікаў. Былі знойдзены новыя грунтавыя могільнікі (Аздамічы, хутар Бухлічы, Давыд-Гарадок Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, Юркавічы Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці), прычым на двух апошніх праведзены раскопкі, якія дапаўняюць характарыстыку пахавальнага абраду (Залашко, Еременко, 1984. С. 234—239; Дробушевский, 1993. С. 30—33; Дробушевский, 1996. С. 119—129; ЭАНБ, 1993. С. 671).

У выніку пошукавых прац значна павялічалася колькасць новых паселішчаў перш за ўсё ў Палессі. Цікавыя назіранні, асабліва ў галіне домабудаўніцтва зарубінецкіх плямёнаў, былі зроблены пры раскопках паселішчаў у Давыд-Гарадку і Хотамелі Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (Егорейченко, 1987а. С. 450; Белицкая, 1993. С. 6, 7). Нарэшце, шэраг новых зарубінецкіх матэрыялаў атрыманы пры даследаванні шматслойных помнікаў (Дробушевский, 1991. С. 26—28; Дробушевский, Лошенков, 1995. С. 33—51; Егорейченко, 1991б. С. 61—82; Ільюцік, 1995. С. 76—81; Лошенков, 1992а. С. 70—73; Лошенков, 1992б. С. 9—17; Лашанкоў, 1994а. С. 122—124).

Вынікі шматгадовых раскопак зарубінецкіх паселішчаў і могільнікаў далі магчымасць усебаковай характарыстыкі гэтай культуры (Кухаренко, 1964; Третьяков, 1966. С. 200—220; Седов, 1970. С. 38—48; Седов, 1994. С. 201—221; Поболь, 1974б; Ён жа, 1973в; Максимов, 1972; Ён жа, 1982; Археология... 1986. Т. 3. С. 14—34; Славяне... 1993. С. 20—39 і інш.). Тым не менш шэраг спрэчных пытанняў і перш за ўсё наконт паходжання, храналогіі і этнічнай прыналежнасці носьбітаў зарубінецкай культуры ўсё яшчэ застаецца.

## 2. ТЭРЫТОРЫЯ, ЛАКАЛЬНЫЯ ВАРЫЯНТЫ

Зарубінецкая культура была распаўсюджана на вялікай тэрыторыі, якая ўключала ў сябе зону Палесся, паўднёвую частку Беларускага Падняпроўя і басейн Сярэдняга Дняпра да ракі Цясмін. Яшчэ ў пачатку 60-х гадоў В. П. Пятроў звярнуў увагу на тое, што культура, нягледзячы на яе нібыта аднастайнасць, у шэрагу сваіх рысаў мае пэўныя лакальныя адрозненні. Гэта дало яму падставу проціпаставіць сярэднедняпроўскія помнікі беларускім, якія ён аб'яднаў у адзіную групу (Петров, 1961. С. 53—75).

З гэтым пунктам погляду не пагадзіўся Ю. У. Кухарэнка, які добра ведаў зарубінецкія матэрыялы Палесся і Верхняга Падняпроўя. На падставе шэрагу фактараў, такіх, як адрозненні ў кераміцы, домабудаўніцтве і пахавальным абрадзе, гэты даследчык падзяліў увесь арэал зарубінецкай культуры

на тры варыянты: палескі, верхнедняпроўскі і сярэднедняпроўскі (Кухаренко, 1964. С. 43—47). Спроба П. М. Траццякова засумнявацца ў высновах Ю. У. Кукарэнкі і вярнуцца да пункту погляду В. П. Пятрова (Третьяков, 1966. С. 211) не знайшла падтрымкі сярод іншых даследчыкаў (Седов, 1970. С. 38; Ён жа, 1994. С. 201, 204; Обломский, 1983а. С. 7; Каспарова, 1989. С. 264; Щукин, 1994. С. 19 і інш.).

Асобую пазіцыю ў пытанні члянення зарубінецкай культуры займаюць украінскія археолагі, якія разам з трыма класічнымі варыянтамі выпучаюць яшчэ два: верхнядзяснянскі і паўднёвабугскі (Максимов, 1982. С. 9—10; Археология... 1986. Т. 3. С. 15—16; Хаалюк, 1971. С. 95; Ён жа, 1975. С. 19; Этнокупьтурнвя карта... 1985. С. 10—11). Нарэшце, яшчэ адзін падыход у гэтым пытанні вызначаны Л. Д. Побалем. Падтрымліввючы пункт погляду Ю. У. Кухарэнкі, ён у той жа час вылучае на Верхняй Дзясне дадатковы чацвёрты варыянт, почапскі, які склаўся ў выніку сінтэзу носьбітаў зарубінецкай і юхнаўскай культур (Поболь, 1971в. С. 177—178).

На тэрыторыі Беларусі помнікі зарубінецкай культуры лакалізуюцца ў басейне Прыпяці і на Верхнім Дняпры ў межах Гомельскай і паўднёвай часткі Магілёўскай абласцей (мал. 67). У Палессі яны часцей сустракаюцца ў парэччы Прыпяці і ўздоўж цячэнняў яе правых прытокаў. Найбольшая іх канцэнтрацыя адзначана ў Пінскім і Столінскім раёнах Брэсцкай і Жыткавіцкім раёне Гомельскай абласцей (Велямічы, Вароніна, Атвержычы, Пагост, Рамель, Рубель, Семурадцы і інш.), дзе знаходзяцца найбольш урадлівыя на тэрыторыі Беларусі дзярнова-карбанатныя глебы.

Верхнедняпроўскі варыянт зарубінецкай культуры аб'ядноўвае помнікі, размешчаныя па Дняпры ад упадзення ў яго Прыпяці на поўдні і прыкладна да Быхава Магілёўскай вобласці на поўначы. У сферу яго распаўсюджання ўваходзяць таксама ніжнія цячэнні Бярэзіны, Друці, Сажа і Іпуці. Прычым максімальная канцэнтрацыя зарубінецкіх пасеглішчаў і могільнікаў назіраецца на ўчастку Дняпра паміж вусцямі Бярэзіны і Сажа. Менавіта тут даследаваны, стаўшы ўжо класічнымі, такія помнікі, як Чаплінскі комплекс, Гарошкаў, Калочын, Мілаград, Мохаў і інш.

А. М. Абломскі, які нанова прааналізаваў у пачатку 80-х гадоў матэрыялы верхнедняпроўскага варыянта, вылучае ў ім дзве тэрытарыяльна-тыпалагічныя групы: помнікі тыпу Гврошкаў — Чаплін і Чачэрск — Кісцяні (Обломский, 1983а. С. 15—16), якія маюць адрозненні перш за ўсё ў керамічным комплексе. Такі падыход уяўляецца перспектыўным, але патрабуе сур'ёзнай дапрацоўкі ў частцы паходжання групы тыпу Чачэрск — Кісцяні. А. М. Абломскі мяркуе, што гэта група сфарміравалася ў выніку змешвання носьбітаў зарубінецкай культуры, якія пакінулі помнікі тыпу Гарошкаў — Чаплін і культуры штрыхаванай керамікі (Обломский, 1983а. С. 16). Аднак з гэтым цяжка пагадзіцца.

У Беларускім Падняпроўі і Пасожжы няма ніякіх прыкмет рэальнай прысутнасці плямёнаў культуры штрыхаванай карамікі, калі не лічыць штрыхоўку на паверхні пасудзін. А гэты фактар, як паказаў А. А. Бобрынскі, даволі рухомы і без уліку астатніх этнакультурных прыкмет не можа з'яўляцца доказам актыўнай ролі «штрыхавікоў» не толькі ў гэтым, але і ў шэрагу іншых рэгіёнаў (Бобринский, 1978. С. 221). Усе астатнія рысы, і перш за ўсё гліняны посуд, маюць адпаведнасці ў асяроддзі мілаградскіх плямёнаў (Егорейченко, 1996а. С. 68, 69). Акрамя гэтага, патрабуе ўдасканалення і лакалізацыя гэтых дзвюх груп, як, дарэчы, і агульная мяжа зарубінецкай культуры на захадзе і поўначы.

У сучаснай гістарыяграфіі можна вылучыць два падыходы ў вызначэнні арэала зарубінецкай культуры. Адзін з іх быў прапанаваны Ю. У. Кухарэнкам. Грунтуючыся на яшчэ недастатковай вывучанасці помнікаў культуры, ён пры высвятленні межаў абапіраўся перш за ўсё на распаўсюджанне могільнікаў. Іншыя дадзеныя і нават матэрыялы паселішчаў ён прыцягваў вельмі асцярожна.

Зыходзячы з гэтага, Ю. У. Кухарэнка лакалізаваў палескі варыянт пераважна ў цэнтральнай частцы парэчча Прыпяці і нізоўях яе правых прытокаў — Гарыні і Случы. На левым беразе Прыпяці ім фіксуецца толькі два помнікі, таму паўночную мяжу зарубінецкай культуры ён правёў крыху больш на поўнач, чым цячэнне Прыпяці. Помнікі верхнадняпроўскага варыянта, на думку гэтага даследчыка, размяшчаліся на правым беразе Дняпра на параўнальна невялікім участку ад вусця Бярэзіны да вусця Сажа. Нарэшце, сярэднедняпроўскі варыянт ахопліваў тэрыторыю дняпроўскага парэчча ад месца ўпадзення Дзясны ў Днепр на поўначы да ракі Рось на поўдні (Кухаренко, 1964. Рис. 3).

Супраць прапанаванай Ю. У. Кухарэнкам вузкай лакалізацыі сярэднедняпроўскага варыянта выступіў Я. У. Максімаў, які пераканаўча зазначыў, што на поўдні помнікі зарубінецкай культуры даходзяць да вусця Цясміна і вярхоўяў Паўднёвага Буга (Максимов, 1982. Табл. 1). У цяперашні час папраўка Я. У. Максімава прынята амаль усімі даследчыкамі. Што датычыцца паўночнай мяжы, то яна па-ранейшаму застаецца ў межах, акрэсленых Ю. У. Кухарэнкам. Адзіны, хто не згодны з такім падыходам, — Л. Д. Побаль. Пры вызначэнні паўночнай мяжы ён абапіраецца на любыя знаходкі, якія, на яго думку, звязаны з зарубінецкай культурай. У выніку іх картаграфавання найбольш паўночным помнікам з'яўляецца гарадзішча Чаркасова Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Далей, як лічыць гэты даследчык, мяжа праходзіла па сярэднім цячэнні Бярэзіны, днепра-нёманскім водападзеле і вярхоўях правабярэжных прытокаў Нёмана і дасягала Беластоцкага ваяводства Польшчы (могільнік Грыневічы Велькі) (Поболь, 1974б. Рис. 1).

З пунктам погляду Л. Д. Побаля цяжка пагадзіцца, паколькі асобныя знаходкі рэчаў і адзінкавыя фрагменты глянцаванай керамікі, на якія ён абапіраецца, могуць з'яўляцца не больш чым сведчаннем кантактаў носьбітаў зарубінецкай культуры з плямёнамі Сярэдняй і Паўночнай Беларусі (Загорульский, 1977. С. 67—68), а не іх такім далёкім пранікненнем на поўнач. Да таго ж на сучасным этапе вывучэння наўрад ці можна лічыць задавальняючым і падыход Ю. У. Кухарэнкі.

Разам з картаграфаваннем могільнікаў важным фактарам для ўдакладнення арэала культуры з'яўляюцца знаходкі грубаляпнога зарубінецкага посуду, распаўсюджанне якога без перасоўвання насельніцтва ўяўляецца малаверагодным. Апошняе паказвае, што на паўночным усходзе, у Беларускім Падняпроўі, плямёны зарубінецкай культуры дасягнулі лініі, якая праходзіла прыкладна праз гарады Крычаў — Слаўгарад — Быхаў — Бабруйск. У Палессі паўночныя межы іх распаўсюджання з прычыны недастатковай вывучанасці левабярэжнага басейна Прыпяці пакуль фіксуюцца вельмі слаба і ў многім гіпатэтычна. Грубаляпная кераміка зарубінецкай культуры знойдзена на такіх даследуемых помніках, як Халопенічы і Старыя Юрковічы, размешчаныя ў сярэднім цячэнні ракі Пцічы і на рацэ Арэсе.

У Цэнтральным Палессі зарубінецкія помнікі не знойдзены, аднак нельга выключаць, што плямёны гэтай культуры дасягнулі вярхоўяў рэк Случы, Лані

і Цны. Пра гэта можна меркаваць на падставе некаторых бясспрэчна зарубінецкіх катэгорый знаходак на самых паўднёвых помніках культуры штрыхаваней керамікі Івані Слуцкага і Мыслі Капыльскага раёнвў Мінскай вобласці. Да іх ліку адносяцца глянцаваны посуд, трапецападобныя падвескі з пунсонным арнаментам, жалезныя кельты і інш. Безумоўна, толькі пры пасрэдніцтве носьбітаў зарубінецкай культуры на гэтыя палескія паселішчы маглі трапіць антычныя шкляныя пацеркі, невядомыя ў больш паўночных раёнах культуры штрыхаванай керамікі (Егорайченко, Гурин, 1987. С. 52—53; Егорейченко, 1988. С. 109—110). Далей, на паўночным захадзе, мяжа, відаць, праходзіла па сярэднім цячэнні Ясельды, дзе ў ходзе абследаванняў У. Ф. Ісаенкам, В. С. Вяргей і А. А. Егарэйчанкам знойдзены грубапяпны і глянцаваны посуд зарубінецкай культуры.

Асабліва цікавымі з'яўляюцца тыпова зарубінецкія знаходкі, знойдзеныя на поўнач ад акрэсленай зоны, у Панямонні, у раёне краснасельскіх крэменездабываючых шахтаў. Тут пры даследаванні адной са стаянак неаліту і бронзы В. Я. Кудрашоў у 1984 г. знайшоў сканцэнтраванні кальцыніраваных касцей, побач э якімі ляжалі дзве фібулы э трохвугольным шчытком на ножцы і шкляная эялёнвя пацерка э лінейна-хвалістым арнаментам. Фібулы адносяцца да V тыпу, паводле класіфікацыі А. М. Абломскага, і датуюцца канцом І ст. н. э. (Обломский, 1986. С. 55). Больш шырокія ханалагічныя рамкі І ст. н. э. мае пацерка (Алексеева, 1978. С. 52). Не выключана, што знойдзеныя ў Краснасельскім знаходкі звязаны э познаэарубінецкімі пахаваннямі. Пералік зарубінецкіх фібул каля гэтага населенага пункта дадзенымі знаходкамі не абмяжоўваецца. Вядома, што яшчэ ў даваенныя гады пры даследаванні тут курганоў у насыпе аднаго з іх была энойдзена зарубінецкая фібула IV тыпу (Поболь, 1979. С. 95. Рис. 65: 4).

Прыведзеныя вышэй факты, верагодна, могуць сведчыць пра прасочванне нязначных груп зарубінецкага насельніцтва ў Панямонне пасля спынення існавання палескага варыянта культуры ў сярэдзіне І ст. н. э. Гаварыць жа пра перанос мяжы з Паўночна-Заходняга Палесся далей на поўнач, як гэта робіць Л. Д. Побаль, не маючы больш пераканаўчых доказаў, уяўляецца заўчасным.

Не зусім дакладнай застаецца і заходняя мяжа зарубінецкай культуры. Ю. У. Кухарэнка праводзіў яе па Заходнім Бугу, дзе ім былі адзначаны знаходкі зарубінецкай керамікі (Кухаранко, 1964. Табл. 1). Аднак, як і ў выпадку з Панямоннем, гэта адзінкавыя месцазнаходжанні, якія, відаць, могуць сведчыць пра інфільтрацыю асобных груп насельніцтва на захад. Асноўная ж маса палескіх помнікаў не выходзіць за межы правабярэжных прытокаў Прыпяці, Стахода і Стыры. Магчыма, менавіта тут трэба праводзіць размежавальную лінію паміж зарубінецкай культурай і суседнімі культурамі жалезнага веку.

## 3. ПАСЕЛІШЧЫ І ЖЫТЛЫ

У арэале зарубінецкай культуры вядомы два тыпы паселішчаў: селішчы і гарадзішчы (мал. 68) пры колькаснай перавазе першых. Неўмацаваныя паселішчы ў большасці выпадкаў размяшчаліся па берагах вялікіх і малых рэк, ручаёў, радзей азёраў. Разам з тым, праяўляючы агульную тэндэнцыю цягі да водных крыніц, яны ў кожным канкрэтным рэгіёне маюць свае асаблівасці размяшчэння, звязаныя з фізіка-геаграфічнымі адрозненнямі. У Палессі і Верхнім Падняпроўі неўмацаваныя паселішчы часцей за

усё размешчаны па краях рачных тэрас ці на ўзгорыстасцях прыроднага характару ў поймах рэк. Іх вышыня над узроўнем вады ці навакольнай мясцовасці рэдка перавышае 2—3 м. Больш высокія месцы размяшчэння адзінкавыя (паселішча каля в. Лемяшэвічы Пінскага раёна — 4 м над узроўнем поймы). У Сярэднім Падняпроўі на раннім этапе існавання культуры пераважалі паселішчы, што знаходзіліся ў натуральна абароненых месцах: на вяршынях астанцаў ці на высокіх мысах Дняпра і Росі. Поймавыя паселішчы ў гэтым рэгіёне з'явіліся пазней, не раней сярэдзіны I ст. да н. э. (Абалонь, Таценкі і інш.).

На думку Е. У. Максімава, большая частка сярэднедняпроўскіх паселішчаў канцэнтруецца ў трох групах: канеўскай, ржышчаўскай і кіеўскай, кожная з якіх складалася з 10—15 пасёлкаў і належала асобнаму племені (Археология... 1986. С. 17). На тэрыторыі Беларусі падобнае гнездавое размяшчэнне пакуль не прасочваецца. Так, у Палессі паселішчы распаўсюджаны адносна раўнамерна амаль па ўсім цячэнні Прыпяці, прычым у заходняй частцы гэтага рэгіёна, прыкладна да лініі, што праходзіць па рэках Случ, Гарынь, яны з'яўляюцца адзіным тыпам паселішчаў культуры.

Ва Усходнім Палессі і ў Беларускім Падняпроўі зарубінецкія адкладанні вядомы не толькі на селішчах, але і на мілаградскіх гарадзішчах, якія папярэднічалі зарубінецкай культуры. Да таго ж у асобных мікрарэгіёнах, дзе назіраецца высокая канцэнтрацыя зарубінецкіх помнікаў, магчыма, таксама існавалі пэўныя гнёзды, якія налічвалі 3—5 паселішчаў, еднак ці было гэта звязана з сацыяльнай арганізацыяй грамадства, ці выклікана нейкімі іншымі прычынамі, гаварыць да больш дэталёвага вывучэння арэала культуры яшчэ рана.

Сярод зарубінецкіх селішчаў на тэрыторыі Беларусі пераважаюць такія, плошча якіх не перавышае 3 га. Больш буйныя паселішчы сустракаюцца радзей. У Сярэднім Падняпроўі тэрыторыя, занятвя селішчамі, значна меншая, яна вагаецца ў межах 0,1—2 га, што было выклікана тапаграфічнымі асаблівасцямі іх размяшчэння.

Археалагічна неўмацаваныя паселішчы зарубінецкай культуры на тэрыторыі Беларусі вывучаны вельмі слаба. Раскопкі праводзіліся ўсяго толькі на 9 селішчах (7 — на Палессі і 2 — у Верхнім Падняпроўі). Агульная плошча даследаванай тэрыторыі на гэтых помніках складае каля 3400 кв. м, што зусім недастаткова для паўнацэннай характарыстыкі. Як правіла, зарубінецкія паселішчы маюць невялікі, у межах 0,5—0,6 м, культурны слой, слаба насычаны знаходкамі, а таксама вельмі нізкую шчыльнасць жылых і гаспадарчых збудаванняў. У гэтай сувязі без шырокамаштабных раскопак вырашэнне такіх пытанняў, як планіроўка і забудова паселішчаў, практычна немагчыма.

Найбольш значныя раскопкі ў Палессі праводзіліся на селішчах Рэмель (616 кв. м) і Вялямічы (600 кв. м). Першае з іх займала невысокую пясчаную ўзгорыстасць памерамі 300 × 100 м на краі забалочанай поймы Гарыні. Як паказалі раскопкі, культурны слой меў нязначную, да 0,55 м, магутнасць, у якім сустракаліся пераважна абломкі грубалягіного посуду, кавалкі абпаленай гліны і глінянай абмазкі, косці жывёл і невялікая колькасць жалезных шлакаў. Індывідуальныя знаходкі адзінкавыя. Акрамя гэтага, у мацерыковай глебе ўдалося прасачыць сляды аднаго паўзямлянкавага жытла, а таксама шэраг слупавых і гаспадарчых ям.

На думку К. В. Каспаравай, селішча ў Рэмелі адносіцца да ранняй стадыі развіцця зарубінецкай культуры. Канец яго функцыяніравання адносіцца да рубяжа — пачатку н. э. (Каспарова, 1987. С. 70).

Падобныя вынікі былі атрыманы Ю. У. Кухарэнкам пры даследаванні селішча каля в. Ввлямічы, таксама размешчанага на невысокай пясчанай узвышанасці. Магутнасць культурнага слоя на гэтым помніку вагалася ад 0,4 да 0,8 м. У адрозненне ад рэмельскага селішча ў Ввлямічах мела больш высокую шчыльнасць забудовы. Тут на параўнальна невялікім участку былі выяўлены контуры трох дрэнна захаваўшыхся жылых пабудоў, а таксама сляды шматлікіх слупавых і гаспадарчых ямаў. Рэчавы комплекс гэтага селішча, як і большасці іншых неўмацаваных паселішчаў зарубінецкай культуры, вельмі бедны. Найбольш шматлікую групу знаходак складалі фрагменты грубаляпнога посуду, косці жывёл, кавалкі глінянай абмазкі і абпаленай гліны. Рабочы інвентар і прадметы ўжытку пададзены нешматлікай серыяй абломкаў ад каменных зерняцёрак, жалезным нажом і бронзавай падвескай трапецападобнай формы.

У Верхнім Падняпроўі раскопкамі параўнальна нядрэнна вывучана толькі адно селішча, якое прылягае да вала Чаплінскага гарадзішча. Яно размяшчалася на працягу 90 м уздоўж краю высокай тэрасы Днягра і 300 м углыб карэннага берага. У 1951—1956 гг. Л. Д. Побаль ускрыў тут 809 кв. м. Як высветлілася, культурны слой меў нязначную магутнасць, 0,2—0,3 м, поўнасцю пераўзараную і слаба насычаную знаходкамі розных перыядаў бронзавага і жалезнага вякоў, а таксама ранняга сярэднявечча. Да зарубінецкага часу адносілася некалькі ямаў рознага прызначэння, у запаўненні якіх знойдзены грубаляпны і глянцаваны посуд (Поболь, 1971в. С. 52).

У Сярэднім Падняпроўі неўмацаваныя паселішчы вывучаны параўнальна лепш, чым на тэрыторыі Беларусі. Сярод іх вылучаюцца два селішчы, якія адносяцца да позняга этапу зарубінецкай культуры: Люцеж і Абалонь. Яны па сваіх тапаграфічных асаблівасцях набліжаюцца да палескіх: для іх таксама характэрна размяшчэнне на невысокіх пясчаных узгорыстасцях сярод забалочаных участкаў дняпроўскай поймы. Плошча Люцежскага складала 1,5 га і на працягу 1962—1964 гг. была даследавана цалкам (Бидзиля, Пачкова, 1969. С. 51—74).

Мяркуючы па керамічных рэштках, жыццё на ім працягвалася пачынаючы з мілаградскага часу да II—III стст. н. э. У зарубінецкую эпоху тут размяшчаўся цэнтр жалезаробчай вытворчасці. Менавіта да гэтага часу адносіліся рэшткі двух паўзямлянкавых жытлаў і горнаў. У запаўненні жылых пабудоў і за іх межамі знойдзена значная колькасць фрагментаў кухоннага і сталовага посуду, а таксама бытавы інвентар (Максимов, 1982. С. 83—88).

У адрозненне ад Люцежскага Абалонь уяўляла сабой класічнае селішча з пераважна сельскагаспадарчай накіраванасцю гаспадаркі. Яно ахоплівала тэрыторыю плошчай 2 га, на якой раскопкамі А. М. Шаўкапляс у 1966—1974 гг. выяўлена больш за 60 паўзямлянкавых жылых пабудоў і звыш 900 гаспадарчых ям-склепаў, запоўненых касцямі свойскіх і дзікіх жывёлін і рыб. Керамічны комплекс на Абалоні харвктарызуецца разнастайным посудам кухоннага і сталовага прызначэння, характэрнага для позняга этапу зарубінецкай і ранняга кіеўскай культур. Значную серыю ўяўляюць тут індывідуальныя знаходкі з жалеза, бронзы, косці і гліны, якія дазваляюць асвятліць рысы жыцця і дзейнасці насельніцтаа. Як лічаць даследчыкі, функцыяніраванне паселішча на Абалоні адносіцца да рубяжа н. э. — II—III стст. н. э. (Максимов, 1982. С. 95).

Умацаваныя паселішчы вядомы ва ўсім арэале зарубінецкай культуры. Аднак, як ужо адзначалася, на тэрыторыі Беларусі няма ніводнага чыста зарубінецкага гарадзішча. У працэсе рассялення носьбіты гэтай этнакультур-

най супольнасці аддавалі перавагу ўмацаваным паселішчам, заснаваным яшчэ мілаградскімі плямёнамі. Цікавы і той факт, што гарадзішчы з зарубінецкімі адкладаннямі характэрныя ў асноўным для Усходняга Палесся і Гомельска-Магілёўскага Падняпроўя.

На захадзе арэала адзіным тыпам застаюцца селішчы. І гэта служыць дадатковым аргументам на карысць гіпотэзы Ю. У. Кухарэнкі пра заходняе паходжанне культуры (Кухаренко, 1960. С. 289—300). Маючы надзейны кантакт з роднаснымі плямёнамі, зарубінцы, відаць, не лічылі неабходным узводзіць тут гарадзішча. І наадварот, рухаючыся на ўсход і паўночны ўсход і сутыкаючыся там з чужым насельніцтвам, ім прыходзілася сяліцца не толькі ў адкрытых селішчах, але і на гарадзішчах, якія належалі раней мілаградскім плямёнам. Трэба адзначыць, што ў Верхнім Падняпроўі зарубінецкія паселішчы часта прылягаюць да гарадзішчаў. Такія комплексы адзначаны каля в. Глыбаў, Мілаград Рэчыцкага, Ліпнякі, Чаплін Лоеўскага раёнаў Гомельскай вобласці і ў шэрагу іншых месцаў.

Тыпалагічна ўмацаваныя паселішчы з зарубінецкімі адкладаннямі на тэрыторыі Беларусі можна падзяліць на дзве групы. У Гомельска-Магілёўскім Падняпроўі пераважалі мысавыя гарадзішчы, у той час як у Палессі пры адсутнасці высокага рачнога ўзбярэжжа асноўным тыпам з'яўляліся ўмацаваныя паселішчы, размешчаныя практычна на роўнай мясцовасці.

Для мысавых гарадзішчаў характэрна наяўнасць земляных умацаванняў у выглядзе дугападобных валоў і равоў з напольнага боку, якія адсякалі жылую пляцоўку ад плато, і драўляных агароджаў па перыметры пляцоўкі і грэбені вала. У адрозненне ад іх палескія гарадзішчы маюць, як правіла, кальцавую сістэму земляных і драўляных умацаванняў.

Неабходна падкрэсліць, што зарубінецкі этап у гісторыі Паўднёвай Беларусі не прынёс нічога новага ў развіццё фартыфікацыйнага майстэрства. Носьбіты зарубінецкай культуры пайшлі па шляху не стварэння новых, а частковага ўдасканалення ці мадэрнізацыі ўжо існуючых абарончых сістэм. Упершыню гэта было адзначана на Чаплінскім гарадзішчы П. М.Траццяковым. Мыс, на якім размяшчалася паселішча, быў умацаваны з напольнага боку земляным валам вышынёй да 3 м. Пры правядзенні яго прарэзкі высветлілася, што ён узведзены ў два этапы. Першапачаткова насып дугападобнай формы вышынёй 2 м і шырынёй 5 м быў узведзены яшчэ носьбітамі мілаградскай культуры адразу ж пасля заснавання паселішча. Са знешняга боку вала размяшчаўся роў шырынёй 6 м і глыбінёй 1 м, зямля з якога з'явілася асноўным кампанентам першапачатковага насыпу.

З прыходам на гарадзішча носьбітаў зарубінецкай культуры была праведзена рэканструкцыя абарончых збудаванняў, якая заключалася ў падсыпанні больш чым на 1 м землянога вала і абнаўлення аплыўшага рова. Акрамя гэтага, пляцоўка гарадзішча была абаронена па краі частаколам, сляды якога выразна прасочваліся ў мацерыковым пяску (Третьяков, 1959. С. 122, 123. Рис. 2, 3).

Блізкія вынікі атрыманы і пры вывучэнні гарадзішча Халопенічы ў Палессі А. А. Егарэйчанкам. Гарадзішча размяшчалася на ледзь прыкметнай узвышанасці ў забалочанай пойме і было абкружана кальцавым валам вышынёй 1,6 м. У працэсе яго праразання высветлілася, што першапачатковае паселішча, заснаванае носьбітамі мілаградскай культуры, не мела земляных умацаванняў. Яно было абнесена драўлянай сцяной, затым знішчанай пажарам. Пасля гэтага насельнікі паселішча ўзвялі невысокі кальцавы вал вышынёй 1,2 м і шырынёй 10 м, дапоўнены па грэбені драўлянымі ўмаца-

ваннямі. Змена насельніцтва на гарадзішчы пацягнула за сабой абнаўленне абарончай сістэмы. Носьбітамі зарубінецкай культуры вал быў нязначна падсыпаны, што пацвярджаецца знаходкамі гліняната посуду гэтай культуры ў слоі падсыпання (Егорейченко, 1982б. С. 69).

Планіровачная структура зарубінецкіх паселішчаў на тэрыторыі Беларусі да цяперашняга часу не высветлена з-за слабай вывучанасці помнікаў. Пэўную інфармацыю дае толькі Чаплінскае гарадзішча, на якім на працягу 1951—1957 гг. ускрыта 1744 кв. м у цэнтральнай частцы пляцоўкі паселішча. Тут знойдзена не менш за 18 жылых пабудоў, якія адносяцца да зарубінецкай культуры, і вялікая колькасць гаспадарчых ямаў. Як лічаць даследчыкі, жытлы розначасовыя, прычым сінхронныя аб'екты не вычляняюцца (Третьяков, 1959. С. 123; Поболь, 1971в. С. 15).

Па назіраннях П. М. Траццякова, зробленых у 1951—1953 гг., жылыя пабудовы канцэнтраваліся ў асноўным у заходняй частцы даследаванай плошчы паселішча, у той час як гаспадарчыя ямы з'яўляліся пераважаючымі ва ўсходняй. Аднак наступныя раскопкі Л. Д. Побаля паказалі, што вялікая колькасць гаспадарчых аб'ектаў размяшчалася і сярод жытлаў (Поболь, 1971. Рис. 8). Апошнія, нягледзячы на храналагічную нерасчляняльнасць, хутчэй за ўсё канцэнтраваліся пэўнымі групамі, кожная з якіх складалася з некалькіх пабудоў, што размяшчаліся кругамі (Третьяков, 1959. Рис. 3; Поболь, 1971в. Рис. 8).

Падобнае сцвярджэнне ўяўляецца найбольш верагодным, паколькі менавіта такую планіровачную структуру даюць найбольш даследаваныя зарубінецкія гарадзішчы Сярэдняга Падняпроўя. Так, падобная планіроўка дастаткова выразна прасочана на гарадзішчы Піліпенкава Гара ў Каневе. Як адзначае Я. У. Максімаў, жылыя пабудовы тут былі згрупаваны па 7—8, размяшчаючыся кругам на адлегласці ад 2 да 10 м адна ад адной. Унутраная прастора паміж жытламі ўяўляла сабой незабудаваную пляцоўку, якая выкарыстоўвалася для гаспадарчых патрэб (Максимов, 1982. С. 34, 36. Табл. IX).

Што датычыцца пытання пра планіровачную структуру неўмацаваных паселішчаў на тэрыторыі Беларусі, то яно застаецца адкрытым, бо на даследаваных паселішчах пакуль знойдзены адзінкавыя пабудовы. Можна толькі меркаваць, што жытлы былі размешчаны таксама, як і на гарадзішчах сярэднедняпроўскай групы. Ва ўсякім выпадку менавіта такую планіроўку бачыць Я. У. Максімаў на зарубінецкім паселішчы ў Абалоні. Тут жылыя пабудовы таксама размяшчаліся кампактнымі групамі па 4—5 у кожнай. Адзіным іх адрозненнем была адсутнасць унутраных двароў, якую гэты даследчык тлумачыць змяненнямі сацыяльнага характару (Максимов, 1982. С. 91).

Адной з вызначальных прыкмет археалагічнай культуры з'яўляюцца жылыя пабудовы, якія адрозніваюцца ад жытлаў сінхронных сумежных культур сваімі канструкцыйнымі асаблівасцямі, знешнім аблічам і дэталямі інтэр'еру. Не з'яўляецца выключэннем у гэтым плане і домабудаўніцтва носьбітаў зарубінецкай культуры. Ужо Ю. У. Кухарэнка ў першай зводнай працы, прысвечанай зарубінецкім старажытнасцям, зрабіў заключэнне пра тое, што для кожнага з трох лакальных варыянтаў быў уласцівы свой тып жылой пабудовы (Кухаренко, 1964. С. 11). Гэты пункт погляду цяпер падзяляецца практычна ўсімі даследчыкамі (Поболь, 1971в. С. 30; Максимов, 1982. С. 38—40; Седов, 1994. С. 205; Славяне... 1993. С. 25 і інш.), аднак у сувязі са з'яўленнем новых дадзеных мае патрэбу ў некаторай карэкціроўцы. Гэта перш за ўсё датычыць палескага варыянта, у якім аж да раскопак сярэдзіны 80-х гадоў былі вядомы толькі паўзямлянкавыя жытлы зрубавай канструкцыі.

Такія пабудовы былі даследаваны Ю. У. Кухарэнкам і К. В. Каспаравай на паселішчах Велямічы (4), Атвержычы (1), Рамель (1). На жаль, делёка не ўсе з іх маюць здавальняючую захаванасць, што абцяжарвае іх характарыстыку. Параўнальна нядрэнна захаваліся толькі ніжнія часткі двух жытлаў, даследаваных К. В. Каспаравай на паселішчах у Атвержычах і Рэмелі (мал. 69:3, 4).

Абедзве пабудовы былі зарыентаваны па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захед. Іх катлаваны мелі блізкую да прамавугольнай форму, плошча якіх складала 14—19 кв. м. Амаль вертыкальныя сцены завяршаліся ўтрамбаванай пясчанай падлогай. На думку К. В. Каспаравай, рэмельская пабудова ацяплялася глінабітным ачагом, размешчаным у цэнтральнай частцы катлавана. Ад яго ўцалела акруглае паглыбленне ў падлозе памерамі 2,4 × 1,4 м, у якім сустракапіся кавалкі абпаленай гліны, драўнянага вугалю і попел (Каспарова, 1987. С. 53). Акрамя ачага, на ўзроўні падлогі былі расчышчаны 5 ям дыяметрам 0,5—0,8 м і глыбінёй 0,15—0,3 м, запоўненыя цёмным гумусам, у якім знойдзены кавалкі абпаленай гліны, вуголле, попел, фрагменты посуду і косткі жывёл.

У адрозненне ад рэмельскага жытло ў Атвержычах мела глінабітную печ, развал якой уяўляў сабой акруглае сканцэнтраванне гліны дыяметрам 0,65 м і таўшчынёй 0,35 м. Знаходзілася яна паблізу ад паўднёвай сценкі жытла (Каспарова, 1969а. С. 158). Ні ў адной з палескіх пабудоў, даследаваных Ю. У. Кухарэнкам і К. В. Каспаравай, няма слядоў слупавых ямаў, што сведчыць пра зрубавую канструкцыю сцен і, магчыма, пра аднасхільны дах.

Аднак, як высеятляецца, зрубавая паўзямлянка не з'яўлялася адзіным тылам жылой пабудовы ў палескім варыянце культуры. У 1985 г. пры даследаванні зарубінецкага паселішча ў Давыд-Гарадку А. А. Егарэйчанка знайшоў рэшткі заглыбленай на 0,4 м у глебу жылой пабудовы, якая мела слупавую канструкцыю сцен і адносілася да позняга этапу ў функцыяніраванні гэтага паселішча. Яна прасочвалася на глыбіні 0,2—0,3 м ад дзённай паверхні інтэнсіўным чорным колерам запаўнення, насычанага дробным вуголлем. Пабудова была зарыентавана па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захад. Яна мела амаль квадратную ў плане форму. Яе памеры 4 × 3,6 м. Пад слоем запаўнення, які ўваходзіў у мацерыковую глебу на 0,1 м, быў расчышчаны шэраг слупавых ямаў дыяметрам 0,4—0,6 м і глыбінёй 0,2—0,4 м. Чатыры ямы размяшчаліся па вуглах сцен, яшчэ дзве — па цэнтры кароткіх сцен і, мяркуючы па ўсім, падтрымлівалі двухсхільны дах. Глінабітны ачаг памерамі 0,45 × 0,6 м знаходзіўся ў паўночна-ўсходнім вугле пабудовы.

Наяўнасць у палескім варыянце слупавых жытлаў можна было б лічыць выключэннем з правілаў, калі б не адкрыццё яшчэ адной аналагічнай пабудовы на зарубінецкім паселішчы ў Хотамелі, знойдзенай А. М. Бяліцкай. Гэта жытло мела амаль квадратную ў плане форму памерамі 4 × 4,2 м і было зарыентавана таксама, як і давыд-гарадоцкае, па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захад. Глыбіня катлавана, запоўненага інтэнсіўна чорным слоем з украпленнямі дробнага вугалля, складала 0,65—0,7 м. Па вуглах пабудовы былі ўкапаны слупы дыяметрам 0,4—0,5 м і такой жа глыбіні. Яшчэ адна слупавая яма, відаць, падтрымліваючая дах, была расчышчана па цэнтры адной са сцен. На жаль, з процілеглага боку другі нясучы слуп перакрыцця не быў прасочаны. У паўночна-ўсходнім вугле пабудовы ў неглыбокай яме выяўлены развал глінабітнай печы авальнай формы памерамі 1,5 × 0,6 м (мал. 69:6; 70).

У адрозненне ад Прыпяцкага Палесся ў носьбітаў зарубінецкай культуры ў Верхнім Падняпроўі панавалі наземныя ці злёгку паглыбленыя аднакамерныя жытлы слупавой канструкцыі. Звыш 20 такіх пабудоў было выяўлена на Чаплінскім гарадзішчы (Третьяков, 1959. С. 123—130; Поболь, 1971в. С. 15—30). Яны мелі прамавугольную ці квадратную форму плошчай 9—22 кв. м. Амаль усе пабудовы былі зарыентаваны альбо строга па лініі поўнач — поўдзень, альбо з невялікім адхіленнем да усходу (мал. 69:1, 2).

Пра канструкцыйныя асаблівасці Чаплінскіх жытлаў можна меркаваць па пабудове № 8, знішчанай пажарам. Яе контуры выразна прасочваліся па размяшчэнні слупавых ям і попельна-вугальнай праслойцы, якая перакрывала зямельную падлогу. Пабудова была прамавугольнай формы памерамі 4×5,5 м. Аснову яе каркасв складалі 11 слупоў дыяметрам 0,2—0,3 м і глыбінёй 0,1—0,3 м, укапаных па перыметры пабудовы (мал. 69:1). Прастора паміж імі запаўнялася гарызантальна пакладзенымі бярвёнамі, канцы якіх былі ўстаўлены ў пазы, высечаныя ў нясучых слупах. На думку П. М. Трацьякова, дахі жытлаў былі двухсхільнымі з чаротавым ці саламяным пакрыццём (Третьяков, 1959. С. 128). Ацяпляліся верхнедняпроўскія пабудовы адкрытымі вогнішчамі, якія размяшчаліся ў паглыбленнях падлогі бліжэй да адной са сцен, а таксама каменнымі ачагамі.

Можна меркаваць, што наземнае жытло слупавой канструкцыі ў Беларускім Падняпроўі з'яўлялася не адзіным тыпам жылой пабудовы. Так, пры раскопках М. Ф. Гурына на гарадзішчы Лпнякі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці былі зафіксаваны рэшткі паўзямлянкавага жытла, паглыбленага ў мацерыковую глебу на 0,2—0,3 м. Яно было прамавугольнай формы памерамі 5,2×2,8 м і зарыентавана па доўгай восі з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. У паўднёва-ўсходняй частцы пабудовы размешчаны тры злучаныя паглыбленні. Іх агульная даўжыня складала 1,9 м, шырыня 0,7 м, глыбіня ад узроўню падлогі — 0,05 м. У запаўненні катлавана знаходзілася вялікая колькасць драўнянага вугалю, попелу і ніжнія часткі двух ляпных пласкадонных гаршкоў (Гурын, Лашанкоў, 1984. С. 68. Мал. 1).

Больш устойлівы тып жылой пабудовы быў характэрны для Сярэдняга Падняпроўя. Практычна на ўсіх даследаваных паселішчах сустракаліся прамавугольныя пабудовы з паглыбленай падлогаю плошчай 12—20 кв. м. У адрозненне ад больш паўночных тэрыторый сцены сярэднедняпроўскіх пабудоў мелі плятнёва-каркасную канструкцыю. Іх аснову складалі слупы дыяметрам 0,1—0,15 м, забітыя ў грунт па знешнім абводзе катлавана на адлегласці 0,8—1 м адзін ад аднаго. Мяркуючы па знаходках глінянай абмазкі са слядамі пабелкі, сцены жытлаў бяліліся. Пабудовы ацяпляліся ачагамі, размешчанымі ў цэнтральнай частцы катлавана. Гэта былі акруглыя загартаваныя пляцоўкі дыяметрам 0,5—0,8 м, абкружаныя глінабітнай ці каменнай сценкай (Славяне... 1993. С. 25).

Акрамя жытлаў пры раскопках зарубінецкіх паселішчаў зафіксавана значная колькасць пабудоў, якія мелі гаспадарчае прызначэнне, у першую чаргу ям-скляпоў, што падзяляюцца на два тыпы: 1) ямы са звонападобным сячэннем; 2) ямы чашападобнай у разрэзе формы. У Палессі ў аднолькавай ступені знаходзяцца як тыя, так і другія. Іх дыяметр звычайна вагаўся ад 1 да 2 м, глыбіня — ад 0,2 да 0,8 м. Нярэдка падобныя скляпы размяшчаліся ўнутры жылых пабудоў (Велямічы, Рамель) ці недалёка ад іх (Давыд-Гарадок).

У Беларускім Падняпроўі і ў сярэднім цячэнні Дняпра гаспадарчыя ямы-скляпы мелі блізкую форму і памеры, аднак іх адметнай рысай з'яўляецца

перавага ям другога тыпу, якія былі больш складанай канструкцыі. Так, напрыклад, у Чапліне нярэдкія выпадкі фіксацыі гаспадарчых ям з земляной прыступкай і, акрамя таго, буданападобным перакрыццём (Третьяков, 1959. С. 130).

Аналагічныя назіранні зроблены і на тэрыторыі сярэднедняпроўскага варыянта. Тут жа адзначаны выпадкі, калі ямы-скляпы перакрываліся накрыўкамі, зробленымі з плятня і абмазанымі глінай (Максимов, 1982. С. 40, 41). У Сярэднім Падняпроўі скляпы звычайна размяшчаліся каля глухіх сцен жытлаў і з'яўляліся індывідуальнымі ці калектыўнымі (Піліпенкава Гара) сховішчамі харчовых прыпасаў (Славяне... 1993. С. 25). У Верхнім Падняпроўі, у прыватнасці на Чаплінскім гарадзішчы, прасочвалася іншая карціна лакалізацыі скляпоў. Там яны ў значнай ступені канцэнтраваліся на адным з ускраінных участкаў і з'яўляліся ўласнасцю ўсіх членаў паселішча (Третьяков, 1959. С. 130). Да ліку гаспадарчых акрамя ям-скляпоў можна аднесці і больш буйныя надворныя пабудовы, выяўленыя на шэрагу паселішчаў. Так, на паселішчы Рубель у Палессі Ю. У. Кухарэнка адкрыў тры блізкія да прамавугольных паглыбленні плошчай 4—8 кв. м без слядоў слупоў і ацяпляльных сістэм, якія, відаць, мелі зрубавую канструкцыю сцен і, мяркуючы па памерах, таксама маглі выкарыстоўвацца для гаспадарчых патрэб (Кухаренко, 1957. Рис. 7).

## 4. ПАХАВАЛЬНЫ АБРАД

Пахавальны абрад разам з домабудаўніцтвам, гліняным посудам і некаторымі іншымі прыкметамі з'яўляецца адным з найважнейшых, які характарызуе археалагічную агульнасць. Для носьбітаў зарубінецкай культуры былі ўласцівы выключна грунтавыя могільнікі, якія, маючы пэўнае падабенства, у той жа час маюць шэраг адрозненняў у розных рэгіёнах.

У Палессі могільнікі звычайна размешчаны недалёка ад паселішчаў і займаюць больш высокія ўчасткі пясчаных узгорыстасцей, на схілах якіх знаходзіліся паселішчы (Велямічы, Атвержычы, Рамель). На Верхнім Дняпры тыповым было знаходжанне могілак з напольнага боку гарадзішчаў, адразу за іх valамі ці на нязначнай ад паселішчаў адлегласці (Гарошкаў, Чаплін). У Сярэднім Падняпроўі раннія могільнікі размяшчаліся ў падобных з паселішчамі тапаграфічных умовах — на высокіх участках правага берага Дняпра, недалёка ад паселішчаў (Дзедаў Шпіль). Дарэчы, тут адзначаны выпадкі, калі могільнікі знаходзіліся ад паселішчаў на адлегласці больш за 1 км (Пірагоў).

Да цяперашняга часу даследавана больш за 20 зарубінецкіх могільнікаў, на якіх адкрыта звыш за 1000 пахаванняў (Славяне... 1993. С. 20). На тэрыторыі Беларусі яны вядомы як у Палессі, так і ў Падняпроўі, прычым некаторыя з іх раскапаны шырокімі плошчамі (табл. 1; мал. 71, 72).

Ні адзін з даследаваных пахавальных помнікаў не меў знешніх прыкмет, аднак пра тое, што ў старажытнасці над асобнымі пахаваннямі былі адрозныя знакі, саедчыць шэраг прамых і ўскосных фактараў. Так, на некаторых могільніках (Велямічы-1, Пірагоў, Чаплін і інш.) асобныя пахаванні адзначаліся вертыкальна пастаўленымі слупікамі, сляды якіх былі зафіксаваны пры расчыстцы магіл. Пра наяўнасць нейкіх знешніх знакаў над пахаваннямі сведчыць і той факт, што выпадкі парушэння аднаго пахавання другім вельмі рэдкія.

На ўсіх без выключэння могільніках захаванні праводзіліся на глыбіні 0,2—1,2 м ад узроўню сучаснай паверхні з некаторымі лакальнымі адроз-

неннямі. Фіксацыя формы і памераў магільных ям не заўсёды магчымая з-за аднолькавага фону запаўнення і навакольнага грунту. Тым не менш, як паказваюць назіранні, практычна ва ўсіх зарубінецкіх могільніках пераважнымі з'яўляюцца пахаванні ў ямах авальных ці падпрамавугольных абрысеў. Іх даўжыня вагаецца ад 1,2 да 2 м, шырыня — ад 0,6 да 1 м (мал. 72:4, 7—10; 74:1, 2, 5, 7—9). Другой распаўсюджанай формай магільных ям з'яўляецца круглая, аднак яна значна саступае авальнай (мал. 71:5; 74:4, 6). Дастаткова адзначыць, што гэты тып магільнай ямы часцей сустракаецца на могільніках Палесся, але і там працэнт пахаванняў у круглых ямах вельмі нізкі (Велямічы-2 — каля 24%, Атвержычы — 13%).

Табліца 1

**Могільнікі зарубінецкай культуры на тэрыторыі Беларусі**

| Помнік | Даследаваная плошча, кв. м | Колькасць пахаванняў |
|---|---|---|
| Чаплін | 9848 | 282 |
| Казаргаць | — | 19 |
| Вароніна | 1346 | 50 |
| Семурадцы | 472 | 25 |
| Юрковічы | 800 | 18 |
| Пагост | 32 | 2 |
| Велямічы-1 | 4680 | 136 |
| Велямічы-2 | 7984 | 116 |
| Атвержычы | звыш 2500 | 97 |
| Рамель | 196 | 7 |
| Давыд-Гарадок | 100 | 3 |
| Гарошкаў | 170 | 5 |

На Верхнім і Сярэднім Дняпры гэты паказчык яшчэ ніжэйшы. Дыяметр такіх ям у сярэднім складае 0,7 м. У Сярэднім Падняпроўі адзначаны таксама адзінкавыя пахаванні ў квадратных ямах (Карчаватае) з стараной, роўнай 0,5—1 м. Сценкі ям пакатыя. Дно — звычайна няроўнае, прычым нярэдка яно мела спецыфічнае паглыбленне, у якім змяшчаліся кальцыніраваныя косці памерлага (Велямічы-1, Вароніна, Атвержычы, Чаплін і інш.). У асобных выпадках дно магілы пасыпалася рачным пяском альбо кавалачкамі охры (Атвержычы, Пірагоў, Чаплін).

Цікавая і арыентацыя выцягнутых магільных ям. Па назіраннях даследчыкаў, яна звязана з напрамкам рэчышча ракі. Так, на тэрыторыі палескага і верхнедняпроўскага варыянтаў пераважнай з'яўляецца іх арыентацыя паралельна рачным рэчышчам ці доўгай восі ўзвышанасці, на якой знаходзіцца могільнік. У Сярэднім Падняпроўі магільныя ямы звычайна размешчаны перпендыкулярна рэчышчу ракі (Кухаренко, 1964. С. 13, 14; Славяне... 1993. С. 26).

У носьбітаў зарубінецкай культуры панаваў абрад крэмацыі. Спальванне памерлага праводзілася на адлегласці з наступным захаваннем ачышчаных кальцыніраваных касцей у магільную яму. У некаторых выпадках рэшткі па-

хавальнага вогнішча таксама альбо змяшчаліся ў розных частках магілы ў выглядзе семастойнага сканцэнтравання (Палессе), альбо зверху над кальцыніраванымі касцямі (у Падняпроўі), альбо ў пасудзіне (Палессе). Зрэдку ёсць выпадкі, калі вугаль і попел ад пахавальнага вогнішча перамешаны разам з рэшткамі крэмацыі. Падобныя пахаванні ў нязначнай колькасці сустракаюцца ва ўсім арэале культуры.

Па асаблівасцях пахавальнага абраду вылучаюцца некалькі тыпаў пахаванняў: 1) ямныя, калі перапаленыя чалавечыя косці проста ссыпаліся на дно магілы; 2) урнавыя, у якіх рэшткі крэмацыі змешчаны ў спецыяльную пасудзіну — урну; 3) змешаныя, калі кальцыніраваныя косці, якія не змясціліся ў урну, высыпаліся побач з ёю на дно магільнай ямы. У колькасных адносінах пераважаюць ямныя пахаванні. Яны тыповыя для Верхняга Падняпроўя, дзе на найбольш вывучаным Чаплінскім могільніку з 282 пахаванняў няма ніводнага урнавага. Зрэшты, новыя даследаванні сведчаць пра тое, што ў абмежаванай колькасці урнавыя пахаванні сустракаюцца і ў Верхнім Падняпроўі. Так, у Пасожжы, у могільніку Юрковічы два з 18 пахаванняў былі змешчаны ў гліняныя урны (ЭАНБ, 1993. С. 671). У Сярэднім Падняпроўі і ў Палессі урнавыя пахаванні сустракаюцца часцей, але і там іх доля не перавышае 10%.

Пазаурнавыя пахаванні ў аднолькавай ступені характэрны як для круглых, так і падоўжаных ям. Кальцыніраваныя косці часцей знаходзяцца ў выглядзе невялікага сканцэнтравання, радзей раскіданыя па днішчу ўсёй ямы. Цікавым з'яўляецца той факт, што ў некаторых пахаваннях неперагарэўшыя косці чэрапа былі пакладзены асобна ад астатніх кальцыніраваных костак шкілета. Падобныя выпадкі прасочаны ў могільніках Палесся (Велямічы-1 і Велямічы-2, Атвержычы) і Сярэдняга Падняпроўя (Пірагоў). У 11 пахаваннях Чаплінскага могільніка перапаленыя косці нябожчыкаў былі падзелены на дзве няроўныя кучкі, прычым чарапныя косці заўсёды знаходзіліся ў малым сканцэнтраванні.

Што датычыцца урнавых пахаванняў, то яны таксама, як і апісаныя вышэй, сустракаюцца ў круглых і падоўжаных ямах. У якасці урны звычайна выкарыстоўваўся грубаляпны ці глянцаваны гаршчок параўнальна вялікіх памераў, хоць прасочваюцца і некаторыя мікрарэгіянальныя адрозненні. Так, на могільніку Атвержычы урнамі былі не толькі вялікія пасудзіны, але і невялікія гаршкі і нават кубачкі (Каспарова, 1969а. С. 136). Там жа пасудзіны-урны ў пяці выпадках былі перакрыты міскамі. Зрэдку і ў урнах перапаленыя чалавечыя косці размяшчаюцца ў пэўнай паслядоўнасці, напрыклад косці чэрапа ляжаць зверху.

Колькасць кальцыніраваных касцей у пахаваннях вагаецца ў шырокіх межах — ад некалькіх фрагментаў да дзесяткаў і нават соцень экзэмпляраў. У некаторых пахаваннях Чаплінскага могільніка знойдзена ад 500 да 800 перапаленых касцей (Поболь, 1971. С. 80).

Да ліку рэдкіх тыпаў пахаванняў у зарубінецкай культуры адносяцца трупапалажэнні і кенатафы. Першыя часцей сустракаюцца ў могільніках Сярэдняга Падняпроўя (Дзедаў Шпіль, Карчаватае, Пірагоў). Як правіла, гэта поўныя трупапалажэнні, радзей — пахаванні толькі чарапоў. Апошнія адзначаны і ў могільніках Палесся (Велямічы-1). Магілы-кенатафы сваёй канфігурацыяй, памерамі і наяўнасцю пахавальнага інвентару адрозніваюцца ад астатніх пахаванняў толькі адсутнасцю астанкаў памерлага. Лічыцца, што яны ўзводзіліся ў памяць аб загінуўшых, астанкі якіх нельга было перавазці на родавыя могілкі.

Большасць пахаванняў носьбітаў зарубінецкай культуры мела пахавальны інвентар, які пададзены гліnянымі пасудзінамі, дэталямі адзення, упрыгожаннямі, радзей — зброяй і прыладамі працы. Амаль у палове пахаванняў могільнікаў Сярэдняга Падняпроўя былі знойдзены косці свойскіх жывёл: свінні, каровы, каня, авечкі, сабакі. Гэта рэшткі рытуальнай ежы, якую клалі нябожчыку. У больш паўночных раёнах культуры, у Верхнім Падняпроўі і Палессі, звычай класці ў пахаванні ежу быў менш распаўсюджаны.

У той жа час у некаторых пахаваннях беларускай часткі культуры сустракаліся косткі дзікіх жывёл і птушак, не адзначаныя на Сярэднім Дняпры. Так, у пахаванні № 26 могільніка Атвержычы і № 65 могільніка Велямічы-2 знойдзены фалангі лап мядзведзя, прычым у першым выпадку фаланга была абпалена і знаходзілася сярод чалавечых касцей. Яшчэ у адным з пахаванняў у Чапліне (№ 61) знойдзены косткі касулі, а ў 51 пахаванні Атвержыцкага могільніка — косткі птушкі, якія таксама знаходзіліся сярод перапаленых касцей чалавека. Прысутнасць у пахаваннях костак дзікіх жывёл і птушак, якія сустракаліся у перамешку з кальцыніраванымі рэшткамі чалавека, відаць, не звязана з рытуальнай ежай, а было выклікана нейкімі асаблівымі пахавальнымі дзеяннямі. Што ж датычыцца костак хатніх жывёл, то іх часцей за ўсё клелі побач з посудам, убаку ад рэштках крэмацыі, радзей — у адной з пасудзін (Велямічы-1, Карчаватае) ці над кальцыніраванымі касцямі чалавека (Велямічы-1).

Уяўляецца цікавым і размяшчэнне пахавальнага інвентару ў адносінах да рэштках крэмацыі. У пазаурнавых пахаваннях ён, як правіла, знаходзіцца ў процілеглым ад кальцыніраваных касцей баку. У могільніках Сярэдняга Падняпроўя рэчы звычайна сустракаліся ў заходняй частцы ямы. У Чаплінскім могільніку гліняны посуд, што знаходзіўся там, у большасці выпадкаў займаў паўночна-заходнюю частку ямы, радзей — паўднёва-ўсходнюю. Нарэшце, у могільніках Палесся пасудзіны з пахавальнага інвентару знаходзіліся ва ўсходняй ці паўночна-ўсходняй частках ямы (Велямічы-1 і Велямічы-2, Атвержычы). Выключэнне складае толькі могільнік каля в. Вароніна, дзе пераважным было заходняе размяшчэнне посуду. Відаць, такое ўстойлівае месцазнаходжанне пахавальнага інвентару ў розных могільніках было невыпадковым і адлюстроўвала нейкія мясцовыя этнаграфічныя асаблівасці (Славяне... 1993. С. 26).

Зарубінецкія пахаванні па колькасці інвентару дастаткова прыкметна адрозніваюцца адзін ад аднаго. На тэрыторыі Беларусі ад 2 да 10% пахаванняў у розных могільніках наогул не мелі ніякіх знаходак. Прыкладна столькі ж змяшчалі толькі абломкі разбітых пасудзін: венчыкі альбо донцы. Ёсць таксама выпадкі папярэдняй дэфармацыі посуду: у кубкаў адбівалі ручкі, а ў сценках некаторых гаршкоў і місак перад устаноўкай іх у магільную яму прабівалі адтуліну (Кухаренко, 1964. С. 20).

Для ўсіх астатніх пахаванняў характэрна прысутнасць глінянага посуду і іншых рэчаў. Самымі беднымі на ўсёй тэрыторыі распаўсюджання культуры з'яўляюцца пахаванні з трупапалажэннямі, самымі багатымі — пазаурнавыя трупаспаленні. Сярод пахавальнага інвентару найбольш распаўсюджаны гліняныя пасудзіны, колькасць якіх вар'іруе ад 1 да 5. Набор посуду звычайна ўключае ў сябе гаршчок, міску, кубак, прычым апошні ў могільніках Палесся часта знаходзіўся ў місцы (Каспарова, 1969. С. 138). У шэрагу выпадкаў пахаванні змяшчалі толькі адну пасудзіну ці варыяцыі набору: гаршчок — міска, гаршчок — кубак, міска — кубак і інш. Радзей акрамя ас-

ноўнага набору сустракаліся дубліруючыя пасудзіны, а таксама мініяцюрныя пасудзінкі.

Нягледзячы на знешняе падабенства керамічнага набору, усё ж у могільніках розных варыянтаў прасочваюцца і пэўныя адрозненні. Так, у пахаваннях Палесся і Сярэдняга Падняпроўя часцей сустракаюцца гаршкі, у той час як у Верхнім Падняпроўі пераважаюць міскі. Тут жа зусім адсутнічаюць кубкі, а чаркі сустракаюцца толькі на пеласкай тэрыторыі.

Існуюць адрозненні ў складзе і месцазнаходжанні іншага пахавальнага інвентару. Так, падкованадобныя жалезныя фібулы характэрны для верхнеднятроўскай тэрыторыі (Чаплін), у той час як бронзавыя шпількі са спіралепадобным навершшам вядомы толькі на палескіх могільніках (Велямічы-2, Атвержычы). Знаходкі зброі ў зарубінецкіх могільніках вельмі рэдкія. Яны пададзены галоўным чынам наканечнікамі дзідаў і дроцікаў і паходзяць у большасці сваёй з Чаплінскага могільніка. На іншых тэрыторыях гэтыя тыпы зброі бліжняга бою ў захаваннях адзінкавыя (Давыд-Гарадок, Велямічы-1, Карчаватае).

У могільніках Палесся і Сярэдняга Падняпроўя дэталі адзення і ўпрыгожанні (фібулы, шпількі, кольцы, бранзалеты, пацеркі і інш.) у роўнай ступені знаходзіліся як сярод касцей, так і на некаторай адлегласці ад іх, побач з іншым пахавальным інвентаром. Што датычыцца прыладаў працы, зброі і побытавых рэчаў, то яны часцей сустракаюцца асобна ад рэшткаў крэмацыі. Зусім іншы малюнак назіраецца на Верхнім Дняпры, дзе пераважная большасць пахавальнага інвентару знаходзіцца сярод кальцыніраваных касцей.

Часцей за ўсё пахавальны інвентар быў пакладзены ў магілу пасля здзяйснення крэмацыі. Такая паслядоўнасць пахавельнага абраду найбольш характэрна для Сярэдняга Падняпроўя і Палесся, дзе ёсць толькі адзінкавыя знаходкі дэталей адзення ці ўпрыгожанняў, якія, відаць, знаходзіліся на нябожчыку ў момант спальвання. Значна часцей падобныя з'явы фіксаваліся ў пахаваннях Чаплінскага могільніка. Большая частка пахавальнага інвентару мае сляды працяглага ўжытку і нават рамонту. Усё гэта сведчыць пра тое, што рэчы, пакладзеныя ў магілу, з'яўляліся асабістай уласнасцю памерлага (Каспарова, 1976. С. 39).

## 5. МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА І ГАСПАДАРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Адну з самых выразных груп рэчавых знаходак на паселішчах і могільніках зарубінецкай культуры складае гліняны посуд. Ён увесь, за выключэннем лрывазнога, пераважна амфарнай тары, ляпны. У глінянае цеста, з якога выраблялі пасудзіны, падмешвалі пясок, жарству, шамот і здробненую балотную руду. Суадносіны мінеральных дабавак у розных рэгіёнах былі неаднолькавымі. Так, у Палессі і Сярэднім Падняпроўі асноўнымі відамі дамешак былі шамот і пясок. Іх доля ў Сярэднім Падняпроўі складала адпаведна 25—30 і 20—30% (Пачкова, 1974. С. 112—113). У Верхнім Падняпроўі часцей прымянялася жарства (10—20%), нярэдка ў спалучэнні з шамотам і балотнай рудой, на долю якіх прыпадала 5—10% (Дубіцкая, 1991. С. 31).

Па тэхніцы апрацоўкі вонкавай паверхні ўсю зарубінецкую кераміку можна падзяліць на тры групы. Самую шматлікую з іх складаюць грубаляпныя пасудзіны, якія прызначаліся для прыгатавання ежы і захавання прадуктаў. Гэтая кераміка характэрна галоўным чынам для паселішчаў. Другую па

колькасці групу зарубінецкай керамікі ўтварае глянцаваны посуд са старанна загладжанай да бляску паверхняй. Яна шырока прымянялася ў могільніках у якасці урнаў ці пахавальнага інвентару, радзей на паселішчах у якасці сталовага посуду. Нарэшце, невялікі працэнт зарубінецкай керамікі складаюць пасудзіны з загладжаным ці глянцаваным венчыкам і спецыяльна ашурпачанай («храпаватай») паверхняй. Як правіла, гэта вельмі вялікія пасудзіны, што выкарыстоўваліся для захавання прадуктаў харчавання.

Суадносіны гэтых трох груп керамічнага комплексу на помніках асобных тэрыторый розныя. Так, напрыклад, глянцаваны посуд часцей сустракаецца на паселішчах Палесся, чым Падняпроўя, а пасудзіны з ашурпачаным тулавам зусім не характэрны для Верхняга Падняпроўя (Кухаренко, 1964. С. 24). Паверхня грубаляпнога і ашурпачанага посуду часцей за ўсё мае светлакарычневае ці бэжавае адценне, а каляровая гама глянцаванай керамікі вар'іруе ад чорнай да цёмна-карычневай.

Па форме посуд зарубінецкай культуры падзяляецца на гаршкі, кубкі, столкі, збаны, вазы і патэльні. Самую шматлікую групу складаюць гаршкі (мал. 75, 78), сярод якіх па шэрагу прыкмет можна вылучыць чатыры тыпы (Славяне... 1993. С. 27). Да тыпу I адносяцца пасудзіны, якія маюць адагнуты вонкі венчык, моцна прафіляванае тулава з плечыкам, якое прыпадае на верхнюю трэць вышыні.

Для тыпу II гаршкоў таксама характэрна моцнапрафіляванае тулава, якое мае максімальнае пашырэнне ў сярэдняй частцы. Трэцяя разнавіднасць гаршкоў пададзена вялікімі пасудзінамі, у якіх прамое звужанае горла аддзелена ад біканічнага тулава кругавым уступам. Да тыпу IV адносяцца біканічныя гаршкі, у якіх залом сценак прыпадае на сярэдзіну вышыні пасудзіны. Неабходна падкрэсліць, што па складзе і працэнтных суадносінах вылучаныя тыпы гаршкоў істотна адрозніваюцца паміж сабой у розных рэгіёнах. Так, напрыклад, у Чаплінскім могільніку Верхняга Падняпроўя найбольш часта сустракаліся біканічныя гаршкі. Для могільнікаў Палесся ў большай ступені характэрны пасудзіны тыпаў і і ІІІ, а найбольш тыповай формай гаршка ў пахаваннях сярэднеднепроўскага арэала з'яўляецца моцнапрафіляваная пасудзіна з плечыкам на сярэдзіне вышыні.

Колькасць арнаментаваных гаршкоў параўнальна невялікая, прычым дэкарыраваныя паверхні ўласцівы галоўным чынам для грубаляпнога посуду. Сярод найбольш распаўсюджаных элементаў арнаментацыі можна адзначыць пальцавыя ўцісканні і насечкі па краі венчыка ці па плечыку, а таксама рэльефныя валікі з насечкамі ці пальцавымі ўцісканнямі на тулаве. Радзей сустракаюцца псеўдавушкі, пальцавыя барозначкі і пазногцевыя ўцісканні па тулаву. Арнамент на глянцаваных гаршках прысутнічае вельмі рэдка — гэта звычайна пракрэсленыя лініі ці псеўдавушкі.

Другую па колькасці групу зарубінецкага посуду складаюць міскі, якія па агульнай прафілёўцы падзяляюцца на тры тыпы: 1) паўсферычныя; 2) акруглабокія; 3) рабрыстыя (мал. 76, 79). У паўсферычных місак сам венчык мае нахіл унутр ці пастаўлены вертыкальна, а яго край скруглены ці зрэзаны гарызантальна. Колькасць такіх місак невялікая, але сустракаюцца яны ва ўсім арэале культуры. Міскі тыпу II найбольш шматлікія. Паводле афармлення венчыка і агульнай прафілёўкі вылучаецца некалькі варыянтаў (Кухаренко, 1964. С. 28—29; Славяне... 1993. С. 28), некаторыя з іх маюць лакальны характар. Так, у шэрагу верхнеднепроўскіх місак плечыкі аддзелены ад шыек кругавой пальцавай барозначкай, а частка сярэднеднепроўскіх у месцы пераходу венчыка ў тулава мае нібыта перахоп, які падкрэслівае лінію пераходу.

Рабрыстыя міскі ў большай ступені характэрны для Верхняга Падняпроўя. У Палессі яны сустракаюцца рэдка. Для іх тыповы прамы адагнуты вонкі венчык; венчык, пастаўлены вертыкальна ці загнуты ўнутр; востры залом плечыка. Частка місак тыпаў II і III мела высокі кальцавы паддон. Такое афармленне донца сустракаецца пераважна ў Сярэднім Падняпроўі і Палессі. Усе міскі выраблены са старанна адмучанай гліны, большая іх частка глянцаваная. Арнаментыка місак не характэрна. Толькі зрэдку сустракаюцца касыя насечкі па краі венчыка, пазногцевыя ўцісканні па тулаве і пракрэсленыя па плечыках баразначкі (Чаплін).

Наступную катэгорыю глінянага посуду складаюць кубкі. Па сваёй форме яны падобныя на акруглабокія гаршкі са слаба адагнутым ці прамым венчыкам і адрозніваюцца ад апошніх наяўнасцю кароткай ручкі, якая злучае венчык з плечыкам (мал. 77:7—24; 76:3, 4). Вышыня кубкаў не перавышае 13 см. Як правіла, яны маюць старанна загладжаную ці глянцаваную паверхню. Грубаляпныя экзэмпляры рэдкія. Арнаментыка для гэтай катэгорыі посуду не характэрна. Кубкі найбольш тыповыя для помнікаў Палесся і Сярэдняга Падняпроўя. У Верхнім Падняпроўі вядомы толькі адзінкавыя экземпляры.

Збаны як разнавіднасць глінянага посуду сустракаюцца вельмі рэдка і толькі на помніках Сярэдняга Падняпроўя. Для іх характэрны высокае цыліндрычнае горла з прамым адагнутым вонкі венчыкам, акруглае ці біканічнае тулава, часта аддзеленае ад шыйкі налепным валікам. Таксама мала і толькі ў Сярэднім Падняпроўі вядомы гліняныя вазы, выкананыя ў тэхніцы глянцавання і якія маюць некалькі ручак на тулаве.

Практычна на ўсіх паселішчах культуры вядомы гліняныя дыскі дыяметрам 12—30 см і таўшчынёй 1—2 см. Як правіла, адзін бок такіх дыскаў глянцаваны, другі — шурпаты, але сустракаюцца экземпляры і з двухбаковым глянцаваннем. Некаторыя з іх арнаментаваны пазногцевымі ўцісканнямі, невялікімі паглыбленнямі і скразнымі адтулінамі. Прызначэнне іх не зусім высаетлена. На думку адных даследчыкаў, гэта — накрыўкі пасудзін (Кухаренко, 1964. С. 29; Каспарова, 1987. С. 67). Іншыя схільны бачыць у іх патэльні для выпякання аладак з мукі (Славяне... 1993. С. 28).

Акрамя ўласнага посуду ў зарубінецкіх помніках сустракаецца прывазная кераміка. На тэрыторыі Беларусі яна рэдкая. Так, у могільніках Велямічы-1 (пахаванне № 115) знойдзены абломак кельцкай графітаванай пасудзіны (Кухаренко, 1964. С. 67), а на паселішчы Рамель выяўлены фрагменты светлагліняна й, магчыма, сінопскай амфары (Каспарова, 1987. С. 67). У значнай колькасці антычны посуд знойдзены толькі на помніках Сярэдняга Падняпроўя, дасягаючы на асобных паселішчах 5 % ад агульнай колькасці керамічных знаходак (Максимов, 1982. С. 21). У асноўным гэта абломкі коскіх, радзей фасоскіх, радоскіх, пароскіх і сінопскіх амфар. У невялікай колькасці знойдзены і абломкі антычных місак і збаноў (Славяне... 1993. С. 27).

Жалезныя вырабы, знойдзеныя на помніках зарубінецкай культуры, характарызуюцца вялікай разнастайнасцю. Сярод іх выразную серыю ўяўляюць вузкалязовыя сякеры-кальты з прамавугольнай утулкай у абушной частцы (мал. 80:14). Падобныя знаходкі шырока пададзены ў Падняпроўі (Чаплін-5, Пятровічы-1), радзей — у сярэднім цячэнні Дняпра (Бортнічы-1, Тацэнкі-1). Правушных сякер, якія былі характэрныя для іншых культур жалезнага веку, у зарубінецкім арэале не знойдзена.

Шэраг прыладаў працы звязаны з уборкай ураджаю. Гэта перш за ўсё невялікія сярпы з даўжынёй ляза 12—15 см. Па спосабе мацавання ручкі да

сярпа яны падзяляюцца на два тыпы: 1) чаранковыя; 2) з кручком на пятцы. Чаранковыя экземпляры, відаць, мала характэрны. Вядомы ўсяго толькі дзве знаходкі падобнага тыпу, што паходзяць э помнікаў Сярэдняга Падняпроўя (Люцеж, Суботаў). Да гэтай групы прымыкае таксама невялікая колькасць жатных нажоў (мал. 80:8), вядомых па паселішчах і могільніках Палесся і Верхняга Падняпроўя (Велямічы-1, Чаплін).

Найбольш распаўсюджаным тыпам быў серп з кручком на пятцы, вядомы па раскопках помнікаў Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя (Мохаў, Чаплін, Бабіна Гара, Люцеж, Манастырок, Суботаў і інш.) (мал. 80:3—5). Некаторыя з сярпоў гэтага тыпу мелі дадатковыя мацаванні ў выглядзе бакавых закраін (Чаплін, Люцеж).

Рэдкай знаходкай для помнікаў культуры з'яўляецца каса позналатэнскага тыпу, якая выяўлена на паселішчы Бабіна Гара ў Сярэднім Падняпроўі. Яна служыла для касьбы травы і, магчыма, некаторых зарневых культур. Асаблівую цікавасць уяўляе знаходка рабочай часткі рала з жалезным наканечнікам (мал. 80:16), знойдзеная ў зарубінецкім слоі гарадзішча Увара-вічы (Пасожжа). Гэта адзіная да цяперашняга часу знаходка, якая сапраўды сведчыць пра ворнае земляробства ў арэале культуры (Дробушевский, 1992. С. 45).

Самай распаўсюджанай катэгорыяй жалезных прылад працы з'яўляюцца нажы, сярод якіх вылучаюцца два тыпы: э гарбатай і прамой спінкамі. Абедзве разнавіднасці нажоў сустракаюцца ва ўсім арэале культуры, прычым лічыцца, што нажы з гарбатай спінкай былі больш раннімі (Славяне... 1993. С. 28). Аднак яны вядомыя і на некаторых позніх помніках (Люцеж). Сярод нажоў з гарбатай спінкай асаблівую цікавасць уяўляе экземпляр, знойдзены ў пахаванні № 184 Чаплінскага могільніка. Незвычайнасць яго заключалася ў тым, што лязо было замацавана ў бронзавай ручцы, якая завяршалася кальцом з падвешаным да яго ланцужком (мал. 80:9).

Нажы з прамой спінкай па сваёй форме блізкія да сучасных. У іх лязо аддзелена ад насаду адным ці двума ўступамі. У большасці выпадкаў драўляныя ці касцяныя ручкі набівалі на завостраны чаранок (мал. 80:7). Разам з тым ёсць нажы, у якіх у чаранковай частцы былі адтуліны ці нават захаваліся заклёпкі для мацавання накладных ручак. Некалькі падобных экземпляраў знойдзена ў Чаплінскім могільніку (пахаванні № 120, 261).

Шэраг жалезных знаходак характарызуе інструментарый, звязаны з апрацоўкай чорных і каляровых металаў, а таксама дрэва. Сярод іх зубілы (Люцеж), прабойнікі (Чаплін), долаты (Люцеж). Да ліку рэдкіх дрэваапрацоўчых інструментаў адносяцца лыжачнік і саердзал, знойдзеныя на помніках Сярэдняга Падняпроўя (Хадасоўка, Піліпенкава Гара).

Звычайнай знаходкай практычна на кожным паселішчы з'яўляюцца жалезныя шылцы. Яны ўяўляюць сабой завостраныя з двух бакоў стрыжні, у якіх рабочая частка мела круглае сячэнне, а чаранковая — прамавугольнае (мал. 80:1). Радзей сустракаюцца экземпляры з круглым ці чатырохгранным сячэннем як рабочых частак, так і чаранкоў. На некаторых помніках Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя (Чаплін, Суботаў) вядомыя іголкі, што адрозніваюцца ад сучасных сваімі больш буйнымі памерамі.

Для лоўлі рыбы прымяняліся вялікія жалезныя кручкі (Чаплін, Люцеж, Манастырок, Піліпенкава Гара, Суботаў) э жалезным джалам на адным канцы і з пяцелькай для падвешвання на другім (мал. 69:2), а таксама аднашыпавыя восці (мал. 69:6) (Чаплін, Піліпенкава Гара).

Зброя і прадметы рыштунку конніка і верхавога каня на помніках зарубінецкай культуры сустракаюцца вельмі рэдка, прычым большая частка іх паходзіць з Верхняга Падняпроўя (Чаплінскі могільнік). Мяркуючы па знаходках, пераважаючай была зброя блізкага бою, пададзеная наканечнікамі дзідаў і дроцікаў. І тыя, і другія адносяцца да аддзела ўтулкавых. На падставе формы пяра дзіды падзяляюцца на тры тыпы: 1) лістападобныя (мал. 81:11), 2) ромбападобныя (мал. 81:9, 10, 12), 3) полымяпадобныя (мал. 81:3). Усе яны (13 экз.), за выключэннем аднаго, адносяцца да тыпаў І і ІІ са слаба прыкметным ці загладжаным рабром уздоўж восевай лініі баявой часткі наканечніка. Размеркаванне па тыпах прыкладна роўнае. Наканечнікі падобных формаў і прапорцый (суадносіны даўжыні пяра да даўжыні ўтулкі 2: 1) мелі працяглы ўжытак у многіх культурах (Мелюкова, 1964. Табл. 14: 10; Казакявичюс, 1988. С. 27, 29. Рис. 8; Кирпичников, 1966. С. 12—13. Табл. ІІ:4—6; ІІІ:6, 7; ІV:2, 3, 8, 9; V:4, 8, 9 і інш.), аднак больш блізкія па часе аналогіі гэтым дзідам назіраюцца ў познаскіфскіх помніках Крыма, Ніжняга Падняпроўя (Степи... 1989. Табл. 54:5, 25) і ў оксыўскай культуры на тэрыторыі Польшчы (Prahistoria... 1981. S. 164. Rус. 44:4).

Унікальным для арэала зарубінецкай культуры з'яўляецца наканечнік дзіды тыпу ІІІ, знойдзены на могільніку ў Давыд-Гарадку. Падобныя дзіды былі распаўсюджаны ў фазах В1 і В2 пшэворскай культуры (Кухаренко, 1969а. Tabl. 47:15; Prahistoria... 1981. Tabl. IX:14).

Наканечнікі дроцікаў вядомы ў Верхнім Падняпроўі (Чаплін), дзе ў пахаваннях і на гарадзішчы знойдзена 5 экземпляраў і ў Палессі (Велямічы-1) — выяўлены 1 экземпляр. Усе яны адносяцца да аддзела ўтулкавых, тыпу двухшыпавых (мал. 81:1, 2, 4, 5, 8). Іх даўжыня вагаецца ад 14 да 32 см. Суадносіны даўжыні пяра да даўжыні ўтулкі складаюць 1: 2 ці 1: 3. Аналагічныя дроцікі былі распаўсюджаны ў носьбітаў пшэворскай і оксыўскай культур пачынаючы з канца І ст. да н. э., асабліва ў фазах В1—В2 ранненрымскага перыяду (Prahistoria... 1981. Tabl. XI:2. Rус. 44:5).

Зброя дальняга бою, відаць, была мала характэрнай. Большая частка наканечнікаў стрэл знойдзена пры раскопках паселішчаў Сярэдняга Падняпроўя (Бабіна Гара, Манастырок, Піліпенкава Гара, Хадасоўка і інш.). Яны жалезныя, чаранковыя, трохлопасцевыя. Гэта тыповыя сармацкія наканечнікі, характэрныя для рубяжа н. э. — І ст. н. э. Як лічыць Я. У. Максімаў, знаходкі падобных наканечнікаў на Сярэднім Дняпры — не сведчанне іх выкарыстання зарубінецкім насельніцтвам, а сляды набегаў сарматаў на гэту тэрыторыю (Славяне... 1993. С. 29).

Уласна зарубінецкія наканечнікі стрэл мелі іншую канструкцыю і форму. Для іх характэрны доўгая ўтулка і кароткая баявая частка трохвугольнай ці ромбападобнай формы (мал. 81:6, 7). Адзінкавыя знаходкі такіх наканечнікаў вядомы ў Чапліне. Са зброяй дальняга бою даследчыкі звязваюць таксама знаходкі каменных ці гліняных шарыкаў дыяметрам 3—4 см, якія маглі прымяняцца ў якасці снарадаў для прашчы (Археология... 1986. С. 25). Падобныя вырабы вядомыя на многіх помніках Сярэдняга Падняпроўя.

Пра выкарыстанне верхавога каня сведчаць рэдкія знаходкі шпораў і цугляў з псаліямі. Шпоры знойдзены толькі на паселішчах Сярэдняга Падняпроўя (4 экз.). Тры з іх (Абапонь-2, Манастырок-1) адпавядаюць тыпам А і В пшэворскіх шпораў паводле класіфікацыі Е. Гіналькага. Яны жалезныя, з доўгім шыпам і паўсферычнымі галоўкамі на канцах. У пшэворскай культуры падобныя экземпляры адносяцца да позналерадрымскага перыяду і фазе В1 ранненрымскага перыяду (Ginalski, 1991. S. 72). Яшчэ адна шпора,

знойдзеная на познезарубінецкім паселішчы Мар'янаўка (Паўднёвы Буг), мела іншае аблічча — у яе канцы, загнутыя ў выглядзе кручкоў. На думку Я. У. Максімава, паселішча ў Мар'янаўцы датуецца рубяжом н. э. — I ст. н. э. (Максимов, 1982. С. 115), значыць, да гэтага часу адносіцца і шпора.

Адзіныя ў арэале культуры цуглі э двуxдзірчастымі псаліямі паходзяць з могільніка Велямічы-2.

Разнастайныя дэталі касцюма і ўпрыгожанні, што сустракаюцца ў могільніках культуры. Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць жалезныя і бронзавыя фібулы, колькасць якіх перавысіла 660 экземпляраў (Славяне... 1993. С. 29). Гэта найбольш значная катэгорыя знаходак, бо яна дае магчымасць параўнальна вузкага датавання помнікаў і комплексаў. Па сааёй канструкцыі і форме яны падзяляюцца на фібулы латэнскіх схемаў, а таксама на шэраг тыпаў, уласцівых праайнцыяльна-рымскім культурам Еўропы. Для характарыстыкі фібул латэнскіх схемаў прымяняюць розныя класіфікацыйныя распрацоўкі (Kostrzewski, 1919; Амброз, 1966 і інш.), аднак у апошні час прыкметнай стала тэндэнцыя звароту да тыпалогіі, прапанаванай Ю. У. Кухарэнкам для фібул зарубінецкай культуры (Кухаренко, 1964. С. 30—35), але з некаторымі ўдакладненнямі (Славяне... 1993. С. 29—30; Обломский, 1983б. С. 103—119).

Да ліку найбольш ранніх адносіцца адзіная знаходка абломка фібулы раннелатэнскай схемы (варыянт А), знойдзеная ў Палессі на могільніку Чэрск у адным з разбураных пахаванняў. Яна была зроблена з жалеза і мела загнуты уверх расчлянёны канец.

Асноўная маса зарубінецкіх фібул адносіцца да ліку сярэдне- і позналатэнскіх схемаў (мал. 82). Для першых (варыянты Б — Л паводле класіфікацыі Ю. У. Кухарэнкі) характэрна наяўнасць параўнальна невялікіх спружын з верхняй цецівой і мацаванне загнутай кверху ножкі са спінкай (мал. 82:1—9). Матэрыялам для іх вырабу служылі бронза і жалеза. Сярод фібул сярэднелатэнскай схемы асобна стаяць рэдкія для зарубінецкай культуры варыянты Б і В. Варыянт Б пададзены жалезнай фібулай з могільніка Велямічы-1, якая мае два шарыкі на спінцы (мал. 82:1). Адметнай асаблівасцю бронзавай фібулы варыянта В, знойдзенай на могільніку Вароніна, з'яўляецца наяўнасць васьмёркападобных петляў капя асновы спінкі і на канцы пяткі (мал. 82:7).

На думку К. В. Каспаравай, гэты тып засцежкі трапіў да носьбітаў зарубінецкай культуры з паўднёва-ўсходніх раёнаў кельцкага сaету прыкладна ў канцы фазы $LtC_1$ — пачатку $LtC_2$ (Каспарова, 1964. С. 109). Даследчыца лічыць, што э кельцкага арэала аядуць сваё паходжанне яшчэ дзве рэдкія для зарубінецкай культуры фібулы сярэднелатэнскай схемы. Адна з іх, знойдзеная ў могільніку Велямічы-2, характарызуецца спалучэннем рысаў арнаваскіх і раннезарубінецкіх фібул, другая, што паходзіць з Пірагоўскага могільніка, падобная да фібулы тыпу Мёчвіль з Паўднёвай Германіі і Швейцарыі, якія былі ва ўжытку ў фазе $LtC_2$.

Асаблівай увагі заслугоўваюць фібулы сярэднелатэнскай схемы з трохвугольным шчытком на ножцы, якія за межамі ўласна зарубінецкага арэала сустракаюцца вельмі рэдка (Грыневічы Вялікі, Калонія Гусінне, Красносельскі, Лукашоўка, Неапаль Скіфскі і інш.). Гэта акалічнасць дае падставу лічыць іх вырабамі мясцовай зарубінецкай вытворчасці. Фібулы зарубінецкага тыпу маюць доўгія спружыны, па 5—12 віткоў з кожнага боку, верхнюю цеціву і трохвугольны шчыток розных памераў і прапорцый (мал. 83).

Упершыню тыпалагічную схему развіцця гэтых фібул прапанаваў А. К. Амброз (Амброз, 1959. С. 184—190; Ён жа, 1986. С. 14—19), якую падтрымаў і развіў Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1964. С. 31, 32). У далейшым да класіфікацыі і храналогіі гэтых фібул звярталіся А. М. Абломскі і С. П. Пачкова (Обломский, 1986. С. 50—56; Пачкова, 1988. С. 10— 23). Асновай для іх чляненння на варыянты звычайна з'яўляюцца форма канца ножкі, памеры шчытка і суадносіны шырыні шчытка да яго даўжыні і даўжыні ножкі да даўжыні шчытка.

К. В. Каспарава лічыць, што прататыпамі засцежак зарубінецкага тыпу з'явіліся дзідападобныя фібулы кельта-ілірыйскага насельніцтва балканскага рэгіёна (Каспарова, 1981. С. 62, 63). Для найбольш ранніх фібул характэрны чуць прыкметны шчыток, які ў месцы пераходу пяткі ў спінку часта арнаментаваны папярочнымі баразначкамі і касымі насечкамі па краях (мал. 83:1—3). У больш позніх варыянтаў прасочваюцца тэндэнцыі павелічэння памераў шчытка, а таксама з'яўленне багатай арнаментыкі, што складаецца з камбінацый бугрыстых выступаў і кропкавага пункціру (мал. 83:9—14). Найбольш позним варыянтам з'яўляюцца экземпляры з могільніка Грыневічы Велькі, у якіх шчыток поўнасцю закрывае спінку і пятку. Па ўзаемасустракальнасці з познімі вочкавымі фібуламі яны датуюцца канцом I ст. н. э. (Обломский, 1986. С. 55).

Сярод класічных фібул сярэднелатэнскай схемы найбольшае распаўсюджанне ў зарубінецкай культуры мелі фібулы варыянта Г, паводле класіфікацыі Ю. У. Кухарэнкі, супастаўныя з тыпам В па Й. Кастшэўскаму. Яны зроблены з жалезнага ці бронзавага дроту і маюць невялікую верхнюю цеціву, а таксама загнуты ўверх канец пяткі, замацаваны са спінкай каля асновы ці ў сярэдняй частцы (мал. 82:3—5). Сярод даследчыкаў няма адзінай думкі з прычыны бытавання гэтага тыпу фібул у арэале зарубінецкай культуры. На думку адных, яны дыягнастуюць найбольш раннюю стадыю культуры, якая супастаўная з перыядам $LtC_1$в (Абезгауз, Еременко, Жураалев, Каргопольцев, 1992. С. 49). Другія адводзяць ім параўнальна шырокія рамкі бытавання, $LtC_2$—$D_2$ (Обломский, 1983б. Табл. 3). Аднак больш пераканаўчай уяўляецца пазіцыя К. В. Каспаравей, якая датавала гэтыя фібулы $LtC_2$ (Каспарова, 1993. С. 174).

Да фібул познaлатэнскай канструкцыі адносяцца варыянты М—С, паводле класіфікацыі Ю. У. Кухарэнкі. Варыянты М і Н маюць кароткую цеціву, прамую (варыянт М) ці выгнутую спінку (варыянт Н) і выразанне ў прыёмніку (мал. 82:11—13). Падобныя фібулы знойдзены на могільніках усіх трох варыянтаў культуры і адносяцца да $LtD_2$—$D_3$ (Обломский, 1983б. Табл. 3). Варыянты О—Р падобныя да папярэдніх і адрозніваюцца ад іх суцэльным прыёмнікам. У фібул варыянта О спінка прамая, у той час як у варыянтаў П і Р — прагнутая (мал. 82:16, 18, 19). Адметнай асаблівасцю фібул варыянтаў П і Р з'яўляецца тое, што ў першых спінка з дроту, у другіх — пласцiністая. Грунтуючыся на тыпалагічным падабенстве гэтых фібул і іх сінхроннасці ($LtD_3$), А. М. Абломскі прапанаваў аб'яднаць іх у адзін варыянт П/Р (Обломский, 1983б. С. 107). Як і папярэднія, фібулы варыянта П/Р вядомыя на ўсёй тэрыторыі распаўсюджання культуры. Цікавасць уяўляе адзіная знаходка «шчыпцовай» фібулы, знойдзеная ў Чаплінскім могільніку (мал. 82:20), прататыпам якой з'яўляюцца аналагічныя экземпляры канца I ст. да н. э. з Падунайя (Каспарова, 1964. С. 110).

Да ліку найбольш позніх адносяцца фібулы варыянтаў Т, У, Ф і Х, якія характарызуюць ужо раннерымскі час. Фібулы варыянта Т (фібулы «бояў») —

бронзавыя, маюць моцнв прафіляваную спінку з дыскападобным патаўшчэннем і пласціністы прыёмнік з ажурнымі авыразаннямі (мал. 82:15), знойдзены толькі ў палескіх могільніках (Велямічы-1 і Велямічы-2) і дыягнастуюць фезы $LtD_2$—$D_3$ (Каспарова, 1984. С. 110). Фібулы варыянта У маюць моцна пашыраную спінку і дыскападобнае патаўшчэнне, а таксама пласціністы прыёмнік (мал. 82:17). Для зарубінецкай культуры яны не тыповыя. Вядомы два экземпляры, якія паходзяць з Палесся (Атваржычы) і Сярэдняга Падняпроўя (Грышчэнцы). Толькі для Верхняга Падняпроўя былі характэрны жалезныя з дроту падвязныя фібулы (варыянт Ф) (мал. 82:14), датаваныя I ст. н. э. (Амброз, 1966. С. 57, 58).

Замыкаюць серыю класічных засцежак бронзааыя фібулы варыянта X, знойдзеныя на познazарубінецкіх помніках Грыневічы Велькі, Люцеж, Мар'янаўка і Рахны. Яны адносяцца да тыпу вочкавых (А53, А58, 59, А62) сарый А і В, паводле Р. Ямкі, якія былі характэрны для фазаў В1—В2 раннерымскага часу (Jamka, 1964. S. 58, 64).

Асобую групу нагрудных засцежак складаюць падковападобныя фібулы, характэрныя ў асноўным для Верхняга Падняпроўя (Чаплін, Гарошкаў, Шчаткава), радзей — для Палесся (Велямічы-2, Вароніна, Пагост). З 45 вядомых знаходак гэтага тыпу 38 знойдзена ў пахаваннях Чаплінскага могільніка. Усе яны, за выключэннем трох бронзавых экземпляраў, выраблены з жалеза. Фібулы скручаны з круглага, зрэдку прамавугольнага ў сячэнні дроту, канцы якога раскляпаны і загнуты ў спіраль, перпендыкулярна плоскасці кальца (мал. 64:7, 8).

Разам з фібуламі для зашпільвання верхняга адзення шырока прымяняліся бронзавыя, радзей жалезныя шпількі, якія падзяляюцца на пяць тыпаў: 1) з кальцападобным навершшам; 2) цвікападобныя (мал. 84:3); 3) посахападобныя (мал. 64:5, 6); 4) са спіралепадобным навершшам (мал. 84:1, 19); 5) з кальцападобным навершшам, канец якога завяршаецца дзвюма спіралямі, накіраванымі ў процілеглыя бакі (мал. 64:4) (Кухаренко, 1964. С. 35). Агульнымі тыпамі для ўсіх рэгіёнаў культуры былі шпількі з кальцападобнай, цвікападобнай і посахападобнай формамі галоўкі. Астатнія віды характэрныя ў асноўным для помнікаў Палесся.

Дэталі паяснога набору рэдкія. Сярод іх найбольш цікавы фрагмент пояса з кручком, знойдзены ў могільніку Атвержычы. Скураная аснова пояса была ўпрыгожана бронзавымі пласцінкамі і бляшкамі, якія мацаваліся да яе пры дапамозе заклёпак. Паясны кручок быў зроблены з жалезнай пласціны, пакрытай бронзавым арнаментаваным лістом (мал. 64:18). Акрамя пояса ў пахаванні знаходзіліся жалезная гладкая драцяная фібула сярэднелатэнскай схемы і фібула зарубінецкага тыпу, якія адносяцца да канца I ст. да н. э. — пачатку I ст. н. э.

Падобныя паясныя наборы найбольш характэрны для помнікаў ясторфскай культуры (Каспарова, 1969а. С. 156). У могільніку Велямічы-1 знойдзена паясная акоўка, якая складвецца з бронзааага гранёнага кальца, да якога мацаваліся два жалезныя пласцністыя зацiскі. Падобныя акоўкі звычайна спалучаюцца з круглымі спражкамі, характэрнымі для заключнай фазы позняга перадрымскага і фазы $B_1$ раннерымскага перыядаў (Madyda-Legutko, 1983a. S. 23. Tabl. 1:5; Hachmann, 1960. Tabl. 8:8; Madyda-Legutko, 1983б. Rуc. 1:3).

Таксама фазай $B_1$ датуецца адначасткавая спражка з Жабоціна, якая мае складанафігурную рамку (Schukin, 1989. Pl. 20:22; Prahistoria... 1981. Tabl. XIV:16, 18). З паясным наборам звязаны і жалезныя сашчэпы з загну-

тымі для мацавання канцамі з Чапліна (мал. 84:16). Падобныя знаходкі найбольш характэрныя для позняга перадрымскага перыяду ў такіх культурах, як ястофская і оксыўская (Prahistoria... 1981. Tabl. XX:7, 21. Рус. 39:4).

Галаўныя ўпрыгожанні для носьбітаў зарубінецкай культуры, відаць, былі малахарактэрныя. Так, завушніцы знойдзены толькі на помніках Сярэдняга Падняпроўя (Дзедаў Шпіль, Карчаватае, Суботаў). Яны ўяўлялі сабой незамкнёнае бронзавае кальцо, перавітва бронзавым дротам. Такія ўпрыгожанні характэрны для позніх скіфаў, ад якіх яны трапілі ў Сярэдняе Падняпроўе (Слаяне... 1993. С. 30). У шэрагу пахаванняў Чаплінскага могільніка знойдзены спіралепадобныя скроневыя кольцы з двума-трыма віткамі. Сярод скронеаых кольцаў асобна знаходзяцца дзве знаходкі з пахавання № 143, якія маюць звужаны верх і незамкнёныя канцы, што заходзяць адзін за едзін.

Асабліва папулярнымі сярод носьбітаў зарубінецкай культуры былі нагрудныя ўпрыгожанні, аырабленыя з бронзы, шкла, радзей з гліны. Гэта падвескі, ланцужкі, пранізкі, пацеркі і інш. Найбольш тыповай формай падаесак былі трапецападобныя з адтулінай для падвешвання ў верхняй частцы. Многія з іх маюць рэльефны арнамент на знешняй паверхні ў выглядзе выпуклін і ліній (мал. 64:9—11). Нярэдка падобныя ўпрыгожанні мацааліся да бронзавых ланцужкоў (мал. 64:13). Трапецападобныя падвескі часцей за ўсё сустракаюцца на паселішчах і могільніках Палесся (Велямічы-1 і Велямічы-2, Атвержычы), радзей у іншых рэгіёнах (Чаплін, Шчаткава і інш). Адна з падвесак зроблена з традыцыйнега для ўпрыгожанняў матэрыялу — гліны.

Асобную групу нагрудных упрыгожанняў складаюць бронзавыя пранізкі, зробленыя з ліставых пласцінак, скручаных у трубачкі, ці з круглага і чатырохграннага дроту, закручанага ў спіраль (мал. 64:2). У Верхнім Падняпроўі асабліва папулярнымі былі шкляныя і паставыя пацеркі. Яны знойдзены ў 13% даследаваных пахаванняў Чаплінскага могільніка (Поболь, 1971а. С. 135). Агульная колькасць іх тут склала 1164 экземпляра. У некаторых пахаваннях колькасць пацерак складала ад адной да чатырох соцень (№ 117б, 127б, 253). На іншых тэрыторыях гэтыя ўпрыгожанні рэдкія. Найбольш часта сустракаліся невялікія шкляныя залачоныя пацеркі ці бісер сіняга, зялёнага і жоўтага колераў, характэрныя пераважна для канца 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. (Алексаева, 1978. С. 27, 62).

Паставыя пацеркі — звычайна буйныя. Пераважнымі з'яўляюцца сінія, жоўтыя ці зялёныя экземпляры, нярэдка ўпрыгожаныя каляровымі «вочкамі», палоскамі і мазаічнымі плямамі. У параўнанні з залачонымі і бісерам яны больш ранія. Так, пераважна вочкавыя пацеркі адносяцца ў асноўным да III—II стст. да н. э. (Алексеева, 1975. С. 60—71). На некаторых помніках (Велямічы-1, Чаплін) сустракаліся невялікія бочкападобныя пацеркі, зробленыя з гліны. Пераважная частка пацерак уваходзіла ў склад нагрудных караляў, аднак ёсць выпадкі, калі яны нанізваліся на бронзавыя пранізкі.

Упрыгожанні на руках складалі бранзалеты і пярсцёнкі (мал. 84:12, 14, 17). Першыя найбольш шырока сустракаюцца ў Верхнім Падняпроўі, радзей — у Палессі і, як выключэнне, у Сярэднім Падняпроўі (Зарубінцы, Манастырок). Па форме і спосабе аырабу ўсе бранзелеты падзяляюцца на 6 тыпаў: 1) драцяныя з завостранымі незамкнёнымі канцамі; 2) драцяныя з канцамі, што заходзяць адзін за адзін, і адзін канец якіх раскляпаны; 3) жалезныя круглага сячэння і з канцамі, што заходзяць адзін за адзін, скручанымі ў трубачкі; 4) драцяныя круглага ці псеўдавітога сячэння з завязанымі канцамі; 5) спіралепадобныя; 6) трохвітковыя, у якіх цэнтральны віток ці адзін з канцоў рас-

кляпаны ў пласціну з нанесенай арнаментыкай (Кухаренко, 1964. С. 36, 37). Усе тыпы бранзалетаў поўнасцю знойдзены толькі ў Чаплінскім могільніку. У Палессі пераважаюць спіралепадобныя экземпляры 5-га і 6-га тыпаў (Велямічы-1, Вароніна, Атвержычы). На Сярэднім Дняпры адзначаны бранзалеты першага і другога тыпаў (Зарубінцы, Манастырок).

На шмат якіх помніках культуры вядомы бронзавыя, радзей жалезныя пярсцёнкі, большая частка якіх, відаць, выкарыстоўвалася ў якасці пальцавых упрыгожанняў. Яны часцей за ўсё аднавітковыя з канцамі замкнёнымі ці заходзячымі адзін за адзін, а таксама шматспіральныя. Асобнае месца займаюць масіўныя літыя бронзавыя пярсцёнкі дыяметрам да 4 см з выступамі-шышачкамі на знешнім баку, больш характэрныя для сармацкіх ці кельцкіх старажытнасцей (Славяне... 1993. С. 30).

Сярод гліняных вырабаў прыкметнае месца займаюць прасліцы, якія часцей сустракаюцца пры раскопках паселішчаў, радзей — могільнікаў. У Палессі і Сярэднім Падняпроўі найбольш тыповымі з'яўляюцца жорнападобныя, усечана-канічныя і ўсечана-біканічныя прасліцы, на якіх няма арнаментыкі (мал. 80:10—12). Што датычыцца Верхняга Падняпроўя, то тут разам з ездначанымі формамі нярэдка прысутнічаюць экземпляры, анелагічныя папярэднім мілаградскім, у выглядзе пасудзін, шарападобныя і інш. На ўсёй тэрыторыі культуры вядомы таксама прасліцы, вытачаныя з абломкаў грубаляпных і глянцаваных пасудзін. У Сярэднім Падняпроўі сустракаюцца канічныя ці пірамідальныя грузілы ад ткацкага станка.

Вырабы з каменю рэдкія. Часцей за ўсё гэта тачыльныя брускі, зробленыя з пясчаніку і сланцу, у іх ёсць адтуліна для падвешвання (мал. 80:13). Звычайнымі знаходкамі на паселішчах з'яўляюцца абломкі каменных зерняцёрак і круглыя каменныя таўкачы. На могільніку Велямічы-1 па-за пахаваннямі знойдзена цэлая зерняцёрка, якая складаецца з ніжняга масіўнага валуннага каменя са спрацаванай верхняй паверхняй і цёрачніка (мал. 80:15).

Лакалізацыя зарубінецкай культуры ў дастаткова спрыяльных прыроднакліматычных умовах і тапаграфія паселішчаў, што знаходзяцца не найбольш урадлівых поймавых участках, дазваляюць лічыць, што аснову гаспадарчага жыцця яе носьбітаў складала земляробства, якое ў паўднёвых раёнах, відаць, было ворным, а ў больш паўночных абласцях, у прыватнасці на тэрыторыі Беларусі, хутчэй за ўсё спалучалася з лядна-агнявым. Пра дамінаванне ворнага земляробства ў Сярэднім Падняпроўі сведчаць даўнія традыцыі, якія сваімі каранямі ўваходзяць яшчэ ў скіфскую эпоху і падмацаваны знеходкамі найбольш простых драўляных ралаў для апрацоўкі глебы (Пачкова, 1974. С. 31—32).

Што датычыцца тэрыторыі Беларусі, то даследчыкі ўслед за Л. Д. Побалем аргументуюць ворны характар земляробства добра захаваным экземплярам крывагрaдзільнага рала, знойдзенага ў тарфяніку каля в. Капланавічы Клецкага раёна Мінскай вобласці Яно было выраблена з суцэльнага кавалка дуба даўжынёй 2,6 м. Асноўная рабочая частка рала, паўзун, які меў падтрохвугольную форму, быў высечаны са ствала дрэва, а тоўсты выгнуты сук, што адходзіў ад паўзуна, уяўляў сабой дышаль, з дапамогай якога рала мацавалася да цяглавай жывёлы (Побаль, 1967а. С. 117—128).

Прыналежнасць крывагрaдзільнага рала з Капланавічаў да зарубінецкай культуры даволі праблематычная. Л. Д. Побаль, які праводзіў абследаванне тэрыторыі паблізу месца знаходкі, сцвярджае аб адкрыцці ім пяці паселішчаў з зарубінецкай керамікай (Побаль, 1967а. С. 124), аднак ніводнага

малюнка гэтага посуду не прыаодзіць. Іншых жа дадзеных пра наяўнасць у вярхоўях леваўзбярэжных прытокаў Прыпяці класічных зарубінецкіх помнікаў няма.

І ўсё ж існаванне ворнага земляробства ў зарубінецкіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі не выклікае сумненняў. У 1991 г. на гарадзішчы Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёне Гомельскай вобласці у спої зарубінецкага часу была знойдзена касцяная частка рала з жапезным наканечнікам (мал. 80:16), пры дапамозе якога рабілася аднабаковае адкіданне грунту (Дробушевский, 1992. С. 45). Наяўнасць ворнага земляробства ў зарубінецкіх плямёнаў, якія жылі ў лясной паласе, пацвярджаецца і некаторымі ўскоснымі дадзенымі. Так, Л. Д. Побаль зафіксаваў на Тураўшчыне, у міжрэччы Сцвігі і Прыпяці, на параўнальне невялікім участку плошчай 20 кв. км 17 паселішчаў. Такая высокая канцэнтрацыя насельніцтва ў спалучэнні з наяўнымі тут урадлівымі дзярнова-карбанатнымі глебамі мае на мэце выкарыстанне больш развітой сістэмы, чым ляд. І тым не менш ролю апошняга ў залесенай зоне Палесся і Падняпроўя нельга прыніжаць. Ён яшчэ доўгі час з'яўляўся вядучым пры засваенні новых участкаў, а таксама там, дзе існааалі малаўрадлівыя, перш за ўсё слабаападзоленыя глебы ў лясных раёнах.

Жніво збожжа праводзілася жалезнымі сярпамі і нажамі для жніва, знаходкі якіх адзначаны па ўсім арзале культуры. Што ж датычыцца косаў, якія вядомы толькі ў Сярэднім Падняпроўі, то яны, відаць, прымяняліся для нарыхтоўкі сена. Малолі зерне з дапамогай зерняцёрак, якія, мяркуючы па знаходках церачнікаў, маглі быць як аднаручнымі, так і двухручнымі.

Склад культывуемых раслін у плямёнаў зарубінецкай культуры вызначаецца перш за ўсё па адбітках зярнят, мякіны і спадарожнага зерню пустазелля, што падмешваліся ў глінянае цеста для вырабу пасудзін. Як паказваюць палеабатанічныя даследаванні, асноўнай збожжааай культурай было проса, адбіткі якога дамінуюць у гліняным посудзе ўсяго арзала культуры (Пачкова, 1974. С. 13; Каспарова, 1987. С. 67). На другім месцы па колькасці адбіткаў знаходзілася пшаніца двух аідаў: карлікавая і полба-двухзярнянка. Трэцяе месца ў складзе збожжавых культур займаў ячмень. Не выключана, што носьбіты зарубінецкай культуры ведалі і вырошчвалі жыта, абпаленыя зярняты якога зафіксаваны ў сценцы адной з пасудзін з пахавання № 238 Чаплінскага могільніка (Поболь, 1971в. С. 145). Ёсць адбіткі зярнят жыта і на пасудзіне, што паходзіць з Сярэдняга Падняпроўя (Пачкова, 1974. С. 20).

Акрамя збожжавых на дасладаваных паселішчах культуры, былі знойдзены і бабовыя, сярод якіх перааажае гарох, выяўпены на шмат якіх помніках Сярэдняга Педняпроўя (Пачкова, 1974. С. 21). На тэрыторыі Беларусі ён вядомы на паселішчы ў Рамелі (Каспарова, 1987. С. 67). Уласна боб сустракаўся радзей, у прыветнасці, яго адбітак ёсць на адным фрагменце пасудзіны з Чаплінскага гарадзішча (Пачкова, 1974. С. 21). Мяркуецца, што сярод культур гародніны шырока распаўсюджана была рэпа (Тратьяков, 1959. С. 132). З тэхнічных культур вядомы канапля і лён (Пачкова, 1974. С. 22; Каспарова, 1987. С. 67).

Спрыяльныя прыродныя ўмовы садзейнічалі паўсюднаму развядзенню свойскай жывёлы. Больш цёплы і вільготны, чым сучасны, клімат, вялікая колькасць заліўных лугоў і лясных масіваў давалі багатую кармавую базу для рознай жыаёлы, якая была ў жыхароў кожнага паселішча. Мяркуючы па астэалагічных матэрыялах, статак складваўся з буйной рагатай жыаёлы, свіней, коней і дробнай рагатай жывёлы (Пачкова, 1974. Табл. 4). А гэта ў сваю чаргу сведчыць пра прыхатні характар жывёлагадоўлі з ярка выража-

най мяса-малочнай накіраванасцю. Сярод касцей свойскіх жывёлін на шэрагу паселішчаў і могільнікаў знойдзены нераструшчаныя косці сабакі, што сведчыць пра тое, што гэтыя жывёлы выконвалі паляўнічыя і ахоўныя функцыі (Славяне... 1993. С. 32).

Істотную ролю ў гаспадарцы зарубінецкіх плямёнаў адыгрывалі паляванне і рыбалоўства, паколькі гэтаму садзейнічала наяўнасць вялікай плошчы лясоў, дзе было шмат дзічыны, і густой сеткі рэк і рачулак. Мяркуючы па астэалагічных назіраннях, пераважным было паляванне на такіх мясных жывёл, як зубр, лось, дзік, мядзведзь, высакародны алень, казуля і інш. Трэба, відаць, мець на ўвазе і паляванне на пушных звяроў, шкуркі якіх выкарыстоўваліся ў межплемянным абмене. Пры раскопках паселішчаў сустракаліся косці бабра, рысі, барсука, куніцы, тхара, выдры і іншых пушных звяроў (Пачкова, 1974. Табл. 6).

Рыбная лоўля па археалагічных дадзеных прасочваецца больш слаба, чым паляванне, аднак яе значэнне было дастаткова вялікім. Прамыя і ўскосныя матэрыялы сведчаць, што рыбу лавілі з дапамогай жалезных кручкоў, восцяў, сетак, бучаў. На Чаплінскім гарадзішчы былі ўскрыты чатыры гаспадарчыя ямы. Па колькасці выяўленай у іх лускі можна меркаваць, што прызначаліся яны для захоўвання рыбы. На падставе ідэнтыфікацыі касцей і лускі, знойдзеных на розных зарубінецкіх паселішчах можна сцвярджаць, што насельніцтва лавіла судака, сома, асятра, шчупака, сазана, ляшча, плотку, ліня (Пачкова, 1974. С. 58).

Сярод хатніх рамёстваў цэнтральнае месца займалі жалезаробчая вытворчасць і кавальская апрацоўка. Сыравінай для атрымання жалеза была балотная руда, якой было шмат на большай частцы Падняпроўя. Мяркуючы па знаходках жалезных шлакаў, вытворчасцю жалеза займаліся практычна на кожным паселішчы. У канцы існавання культуры з'яўляюцца таксама паселішчы, насельнікі якіх спецыялізаваліся выключна на вытворчасці чорнага металу. Да такіх паселішчаў адносяцца Люцеж, на якім знойдзена 15 сырадутных горнаў і вялікая колькасць ям для атрымання драўнянага вугалю. Люцежскія горны падзяляюцца на два тыпы: 1) наземныя і 2) паглыбленыя ў мацярык да 0,4 м. І тыя, і другія мелі дыяметр у топачней частцы 0,4—0,45 м. Па форме і памерах яны вельмі блізкія да горнаў, распаўсюджаных у Цэнтральнай і Заходняй Еўропе ў латэнскі і рымскі часы (Пачкова, 1974. С. 73—75). Як лічаць даследчыкі, на паселішчы ў Люцежы адначасова маглі функцыяніраваць не больш за тры горны, якія выраблялі за сезон да 90 кг чыстага жалеза (Пачкова, 1974. С. 64).

Большая частка зарубінецкіх вырабаў была з крынічнага жалеза без выкарыстання дадатковых тэхналагічных аперацый. Гэта перш за ўсё датычыць найбольш простых прыладаў працы (шылцы, частка нажоў і іголкі), зброі (наканечнікі дзідаў), дэталей адзення і ўпрыгожанняў (фібулы, шпількі). Больш складаныя тэхналагічныя прыёмы — зварка, псеўдапакет, лакальнае цэментаванне рабочых частак і іншыя — прымяняліся параўнальна рэдка і, як правіла, для вырабу адказных прыладаў працы: сякер-кельтаў, сярпоў, частак нажоў (Пачкова, 1974. С. 85—98; Гурин, 1982. С. 40—87).

Цікавыя назіранні былі зроблены Г. А. Вазнясенскай, якая адзначыла, што кавальская прадукцыя, што паходзіць з верхнадняпроўскіх і палескіх помнікаў, выраблена з больш якаснага металу, чым сярэднедняпроўская (Вознесенская, 1971. С. 94). У асноўным тэхналогія жалезаапрацоўкі ў носьбітаў палескага і верхнедняпроўскага варыянта, на думку даследчыкаў, бліз-

кая да тэхнічнага ўзроўню кавальскай вытворчасці германскіх плямёнаў познелатэнскага часу (Бидзиля, Вознесенская, Недопако, Паньков, 1983. С. 94). У той жа час уплыў больш развітой скіфскай металаапрацоўкі, што грунтуецца на выкарыстанні высокавугляродзістай сталі, пакетаванні і цэментацыі, не зарубінецкую жалезаапрацоўку практычна не адчуваецца.

Бронзаліцейная вытворчасць носьбітаў зарубінецкай культуры целкам базіравалася на прывазной сыравіне, якая паступала з паўднёвых і паўднёва-заходніх раёнаў Цэнтральнай Еўропы. Пра шырокае распаўсюджанне ўласнай капяровай металургіі і металаапрацоўкі перш за ўсё сведчаць шматлікія прылады працы ювеліраў — тыглі, льячкі, ліцейныя формы, малаткі, зубілы, пінцэты, а таксама зліткі бронзы, нарыхтоўкі рэчаў і г. д. Уласна ювелірных майстэрняў на помніках зарубінецкай культуры не знойдзена. Лічыцца, што майстры-ювеліры працавалі ў сваіх жытлах, расплаўляючы бронзу ў хатніх ачагах (Славяне... 1993. С. 33). Зыходная сыравіна ў далейшым ішла на выраб разнастайных упрыгожанняў з дапамогай такіх тэхналагічных прыёмаў, як ліццё, каванне, шліфаванне, чаканка і інш.

Асобай увагі сярод распаўсюджаных у носьбітаў зарубінецкай культуры хатніх рамёстааў заслугоўвае выраб глінянага посуду, які па спосабе апрацоўкі паверхні падзяляецца на грубаляпны і глянцаваны. Для вырабу першага прымяняліся традыцыйныя тэхналагічныя прыёмы, якія вядомы і шырока прымяняліся і ў носьбітаў іншых лесастэпавых і лясных культур. Што датычыцца глянцаванай керамікі, то гэта была зусім новая з'ява, у яе не было мясцовых каранёў. Глянцаванне посуду з'явілася як вынік знешняга, перш за ўсё заходняга, ўздзеяння.

Гэты тэхналагічны прыём разам з іншымі прыкметамі складаў неад'емную частку таго «кельцкага вэлюму», які выразна прасочваецца за межамі ўласна латэнскай культуры. Не выключана, што для фармоўкі часткі глянцаванага посуду прымяняўся ганчарны круг ручнога тыпу, пасля чаго паверхня пасудзін да бляску паліравалася з дапамогай касцяных, каменных ці скураных глянцавалак. Пры адсутнасці спецыяльных ганчарных печаў чорны колер сталовай керамікі дасягаўся з дапамогай метаду абаарвання, пры якім нагрэтую пасудзіну да абпальвання змяшчалі ў падагрэты раствор мукі. Разам з тым, нягледзячы на ўскладненне тэхналогіі ганчарнай вытворчасці, лічыцца, што выраб посуду ў зарубінецкіх плямёнаў усё яшчэ знаходзіўся ў межах хатняга рамяства.

Аднасна іншых хатніх рамёстваў, без якіх немагчыма нармальнае функцыяніраванне любога насельніцтва, трэба адзначыць ткацтва, дрэваапрацоўку, касцярэзнае рамяство, гарбарную справу.

## 6. АБМЕН І КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

Міжплемянны абмен паміж носьбітамі зарубінецкай культуры і іншымі плямёнамі і народамі прасочваецца дастаткова інтэнсіўна. Найбольш выразна прамыя ці апасродкаваныя гандлёвыя кантакты фіксуюцца па двух напрамках: з аднаго боку, з антычнымі гарадамі Паўночнага Прычарнамор'я праз пасрэдніцтва скіфа-сармацкага насельніцтва, з другога — з кельцкім светам і яго латэнізаванай акругай. На жаль, сувязі з плямёнамі больш паўночных тэрыторый могуць быць ахарактарызаваны толькі схематычна.

Прадметы антычнага паходжання шырока прадстаўлены ў асноўным на тэрыторыі Сярэдняга Падняпроўя. Найбольш шматлікую групу знаходак у

гэтым арэале складаюць абломкі эліністычных і раннерымскіх амфар, у якіх захоўвалася віно. Сярод сярэднедняпроўскіх паселішчаў асабліва вылучаецца Піліпенкава Гара ў Каневе, дзе адзначана вельмі высокая канцэнтрацыя амфарнай тары — звыш 200 абломкаў на 3 тыс. кв.м даследаванай тэрыторыі (Карта... 1985. С. 14). Тут знойдзены фрагменты коскіх, радоскіх, пароскіх, сінопскіх і фасоскіх амфар, падобныя матэрыялы прадстаўлены і на іншых помніках (Максимов, 1982. С. 95, 98, 115, 117; Максимов, Петрашенко, 1988. С. 71—72).

Акрамя амфарнай тары на сярэднедняпроўскіх паселішчах дастаткова шырока вядомы абломкі антычнага сталовага посуду, у прыватнасці чырвонагліняная і шэрагліняная керамікі, чырваналакавых кубкаў (Максимов, 1963. С. 114; Максимов, Петрашенко, 1988. С. 72; Славяне.. 1993. С. 33) і інш.

У паўночным арэале культуры, у вобласці Верхняга Падняпроўя і Палесся, колькасць рэчаў антычнага паходжання рэзка скарачаецца. Амфарны і сталовы посуд з Паўночнага Прычарнамор'я сюды практычна не пастулаў. Выключэнне складаюць толькі некалькі фрагментаў амфары і шкляной пасудзіны з Чаплінскага гарадзішча і тры абломкі светлаглінянай, відаць, сінопскай амфары, знойдзенай на Палессі на паселішчы Рамель (Поболь, 1971в. С. 135; Каспарова, 1987. С. 67).

Значна большы попыт у беларускім арэале культуры мелі паставыя і шкляныя пацеркі, што паходзяць з Ольвіі і, відаць, з некаторых іншых гарадоў Паўночнага Прычарнамор'я. Трэба адзначыць, што ў палескім варыянце яны нешматлікія, а пераважная большасць знаходак, звыш 1100 экземпляраў, паходзіць з Чаплінскага могільніка. Пацеркі знойдзены ў 13% вывучаных пахаванняў (Поболь, 1971в. С. 135). Яшчэ вышэй гэты паказчык (31%) у Юрковіцкім могільніку ў Пасожжы (Дробушевский, 1996. С. 121). Сярод паставых пацерак, знойдзеных у Верхнім Падняпроўі, пераважаюць вочкавыя і паліхромныя; сярод шкляных — манахромны бісер розных колераў, а таксама пазалочаныя і пасярэбраныя экземпляры. Падобныя па складзе і каляровай гаме былі і пацеркі, што паходзяць з палескіх і сярэднедняпроўскіх могільнікаў. На думку Л. Д. Побаля, антычнае шкло ў Верхнім Падняпроўі датуецца часам не пазней за 55 г. да н. э., калі Ольвія была разгромлена гетамі (Поболь, 1971в. С. 138). Аднак гэты пункт погляду не бясспрэчны. Калі буйныя паставыя пацеркі датуюцца III—II стст. да н. э., то шкляны бісер працягваў існаваць і ў I ст. н. э. (Археология... 1986. С. 27).

Антычны гандлёвы шлях пачынаўся ў Ніжнім Падняпроўі, дзе на некаторых познаскіфскіх гарадзішчах і могільніках сустракаюцца і зарубінецкія матэрыялы (Максимов, 1982. С. 72). Відаць, насельнікі ніжнедняпроўскіх паселішчаў выступалі пасрэднікамі ў сувязях паміж сарматамі і носьбітамі зарубінецкай культуры. Аднак падобныя кантакты былі дастаткова абмежаванымі і датычыліся ў асноўным вобласці Сярэдняга Падняпроўя, на паселішчах і могільніках якой знойдзена невялікая колькасць посуду, упрыгожанняў, рыштунку каня і іншых прадметаў сармацкага паходжання (Максимов, 1982. С. 75—77). Далей на поўнач сармацкія вырабы не траплялі. У сваю чаргу зарубінецкія плямёны маглі пастаўляць на поўдзень пушніну, мёд, воск і іншыя тавары, патрэба ў якіх была вялікай у Паўночным Прычарнамор'і.

Заходнія і паўднёва-заходнія кантакты носьбітаў зарубінецкай культуры прыкметныя перш за ўсё ў паўсюдным распаўсюджанні фібул сярэдне- і позналатэнскай схемы, а таксама раннерымскіх тыпаў. Што ж датычыцца рэчаў уласна кельцкага паходжання, то іх даволі мала. Так, пры даследаванні

магільнікаў палескага варыянта былі знойдзены абломак кельцкай графітаванай пасудзіны (Велямічы-1) і фрагмент ланцужка (Велямічы-2). Яшчэ адна знаходка, што паходзіць з могільніка Велямічы-2, а менавіта жалезныя дугападобныя псаліі з двухдзірчастым васьмёркападобным пашырэннем, можа з'яўляцца, на думку К. В. Каспаравай, сведчаннем кантактаў не столькі з кельтамі, дзе яны зрэдку сустракаюцца, колькі з латэнізаванымі культурамі Балканскага паўвострава (Каспарова, 1981. С. 73).

Таксама заходняе ці паўднёва-заходняе паходжанне маюць «язычковыя» паясныя кручкі з канцамі, загнутымі ў адзін бок (Чаплін) (мал. 84:16), і трапецападобны паясны кручок з могільніка Атвержычы (Каспарова, 1981. С. 69). Да ліку латэнскіх адносяцца бронзавыя пярсцёнкі з выступамі-шышачкамі, знойдзеныя ў Верхнім і Сярэднім Падняпроўі (Поболь, 1971в. Рис. 68:1; Максимов, 1972. С. 97). Дастаткова выразны комплекс латэнскіх рэчаў выяўлены на помніках Сярэдняга Падняпроўя. Да іх ліку адносяцца рубчастыя бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі ў выглядзе колцаў, шпоры, бронзавая фібула і іншыя (Максимов, 1972. С. 97).

Пэўныя кантакты ў носьбітаў зарубінецкай культуры існавалі з плямёнамі больш паўночных тэрыторый. Так, у памежных раёнах культуры штрыхаванай керамікі сустракаюцца глянцаваныя міскі варыянтаў Б і В, паводле класіфікацыі Ю. В. Кухарэнкі, жалезныя вузкалязовыя кельты з прамавугольнай адтулінай, прагнутыя падвязныя фібулы верхнедняпроўскай серыі, шкляныя, залачоныя, манахромныя і «вочкавыя» пацеркі. Не выключана, што верхнедняпроўскае паходжанне маюць утулкавыя лістападобныя і ромбападобныя наканечнікі дзідаў, а таксама двухшыпавыя дроцікі, вядомыя па раскопках гарадзішчаў культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культуры (Егорейченко, 1988. С. 109—110; Егорейченко, 1996а. С. 40—41).

## 7. ХРАНАЛОГІЯ

Для зарубінецкай культуры ў адрозненне ад шэрагу іншых культур лясной паласы Усходняй Еўропы характэрны не толькі адкрытыя, але і закрытыя комплексы з дастаткова вялікай колькасцю рэчаў, перш за ўсё фібул, якія маюць параўнальна вузкае датаванне. Гэта акалічнасць, здавалася б, мае на мэце больш эфектыўныя магчымасці для вырашэння пытанняў хваналогіі і перыядызацыі культуры. І ўсё ж час яе існавання, асабліва перыяд станаўлення, застаецца далёкім ад канчатковага вырашэння. Разыходжанні ў вызначэнні часу з'яўлення культуры звязаны з тым, што даследчыкі, вырашаючы гэту праблему, абапіраюцца на розныя крытэрыі.

Не спыняючыся падрабязна на гістарыяграфіі пытання, усё ж неабходна вызначыць дзве асноўныя канцэпцыі, што з'яўляюцца дамінуючымі ў сучаснай літаратуры. Прыхільнікі першай робяць асноўны націск на датаванне фібул з могільнікаў (Кухаренко, 1964. С. 51; Мачинский, 1963. С. 21; Амброз, 1966. С. 13—17; Каспарова, 1981. С. 63; Каспарова, 1992б. С. 289—294; Каспарова, 1993. С. 174—176; Абезгауз, Еременко, Журавлев, Каргопольцев, 1992. С. 34—51 і інш.). Супраць падобнага падыходу выступае Я. У. Максімаў, які мяркуе, што больш аб'ектыўным індыкатарам ніжняй храналагічнай мяжы зарубінецкай культуры з'яўляюцца абломкі амфарнай тары з клеймамі, знойдзеныя ў значнай колькасці на паселішчах Сярэдняга Падняпроўя (Максимов, 1982. С. 22—25). Першапачаткова адрозненне ў датаванні антычных амфар і фібул латэнскага тыпу складала каля стагоддзя: знаходкі

коскіх амфар з клеймамі, знойдзеныя на Піліпенкавай гары, былі аднесены да 230—220 гг. да н. э., у той час як найбольш раннія фібулы з пахавальных помнікаў культуры ў адпаведнасці з распрацоўкамі Я. Філіпа і Р. Хахмана — да другой паловы II — пачатку I ст. да н. э.

Такое значнае рэзыходжанне ў датаванні гэтых груп рэчаў мае патрэбу ў лагічным абгрунтаванні. Я. У. Максімаў, які стаіць за ранняю версію фарміравання зарубінецкай культуры, выставіў гіпотэзу аб існаванні ў ёй дафібульнага перыяду развіцця (Максимов, 1969. С. 18, 20—21). Гэту ідэю паспрабаваў развіць на прыкладзе могільнікаў Л. Д. Побаль (Поболь, 1973в. С. 41—99; Ён жа, 1983. С. 24—25), аднак яго намаганні былі дарэмныя: скіфскія элементы, якія нібыта характарызавалі дафібульную стадыю, «распаўзліся» і па іншых, у якіх прысутнічалі фібулы (Каспарова, Мачинский, Щукин, 1976. С. 241—253). Прыхільнікі пераважнага датавання культуры па фібулах доўгі час прытрымліваліся гэтага погляду, але іх пазіцыі ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў захісталіся ў выніку рэвізіі храналагічных распрацовак Я. Філіпа і Р. Хахмана (Каспарова, 1993. С. 170). У цяперашні час большасць даследчыкаў прытрымліваецца пункту погляду К. Гадлоўскага, які значна амаладзіў дату ўзнікнення латэнізаваных культур і аднёс іх фарміраванне да канца $LtC_1$ — $LtC_2$ — 220—180 гг. да н. э. (Godłowski, 1977. S. 111—120).

Адпаведна больш ранняе датаванне атрымаў і шэраг фібул. Такім чынам, «амфарнае» датаванне пачатку зарубінецкай культуры фактычна спалучылася ці, можна сказаць, значна наблізілася да датавання па фібулах. Такі перагляд латэнскай храналогіі прымусіў большую частку прыхільнікаў «фібульнай» арыентацыі змяніць свае пазіцыі і па сутнасці пацвердзіць думку Я. У. Максімава (Абезгауз, Еременко, Каргопольцев, 1992. С. 34—51; Щукин, 1994. С. 109—110). Найбольш прынцыповай прыхільніцай позняга фарміравання зарубінецкай культуры заставалася К. В. Каспарава, аднак і яна была вымушана перыядычна адсоўваць углыб пачаткоаую дату культуры. У адпаваднасці з яе апошнімі працамі гэты працэс адбываўся пасля 180—170 гадоў да н. э., г. зн. пасля паходу бастарнаў на Балканы. На думку гэтай даследчыцы, менавіта яны маглі прынесці ў Падняпроўе прататыпы зарубінецкіх фібул (Каспарова, 1993. С. 177).

Фарміраванне лакальных варыянтаў культуры адбывалася, відаць, у дастаткова блізкіх, але не сінхронных прамежках. Найбольш раннія помнікі адзначаны ў сярэднадняпроўскім і палескім рэгіёнах. На Сярэднім Дняпры, як ужо адзначалася, самае ранняе датаванне даюць абломкі амфар з клеймамі з Косаса, Пароса, Радосв, Сінопы і Фасосв, якія датаваны апошняй чвэрцю III — пачаткам II ст. да н. э. (Максимов, 1982. С. 22). Блізкія па фактуры, але малавыразныя экземпляры вядомы таксама па раскопках іншых помнікаў гэтага рэгіёна (Славяне... 1993. С. 34). Верагодна, да гэтага часу адносіцца адна з трох расчлянёных фібул з васьмёркападобнымі петлямі, знойдзеная ў пахаванні № 26 Пірагоўскага могільніка.

Матэрыялы палескага варыянта не такія выразныя. Пачатковыя фазы фарміравання зарубінецкага насельніцтва ў гэтым рэгіёне вызначаюцца расчлянёнымі фібуламі сярэднялатэнскай схемы. Адна з іх, знойдзеная ў пахаванні № 108 могільніка Велямічы-1, мала два шарыкі на ножцы. Падобныя, але ўсё ж не ідэнтычныя экземпляры з некаторых цэнтральнаеўрапейскіх культур былі ва ўжытку ў перыяд $LtC_1$ — $LtC_2$ (Каспарова, 1993. С. 175). Больш таго, адна з падобных фібул, што паходзіць з пахавання № 96 могільніка Ведэрат на Рэйне, датавана на падставе дэндрахраналагічнага метаду 208 г. да н. э. (Каспарова, 1993. С. 175). Другая з расчлянёных фібул

была знойдзена ў пахаванні № 25 могільніка Вароніна. Яна таксама, як і пірагоўская, мела дзве васьмёркападобныя пятлі на спінцы, аднак адрознівалася ад яе меншымі памерамі. Нарэшце, ускосным сведчаннем фарміравання палескага варыянта ўжо ў канцы III ст. да н. э. можа служыць блізкасць керамічнага комплексу і пахавальнага абраду паміж раннезарубінецкімі помнікамі і помнікамі культуры падклёшавых пахаванняў, верхняе храналагічнае датаванне якіх не выходзіць за межы III ст. да н. э. (Каспарова, 1993. С. 178).

У верхнедняпроўскім рэгіёне носьбіты зарубінецкай культуры з'явіліся, відаць, крыху пазней. Тут няма расчлянёных сярэднелатэнскіх фібул, адсутнічае і датаваная амфарная тара. Найбольш дэталёва вывучаны Чаплінскі могільнік дае даты не раней канца $LtC_1$ — пачатку $LtC_2$. Да гэтага часу перш за ўсё адносяцца знаходкі падоўжанай фібулы тыпу В па Й. Кастшэўскаму, і зарубінецкія фібулы варыянтаў I і II. Апошнія, на думку К. В. Каспаравай, з'явіліся ў зарубінецкага насельніцтва пасля вядомых паходаў бастарнаў у Македонію ў 179—168 гг. да н. э. (Каспарова, 1993. С. 177).

Трывала ўмацаваўшыся ў верхнадняпроўскім рэгіёне, носьбіты зарубінецкай культуры пачынаюць пранікаць у суседнія рэгіёны, у прыватнасці ў Ніжняе Пасожжа. Пра тое, калі пачалася каланізацыя гэтай тэрыторыі, цяпер меркаваць цяжка. Матэрыялы адзінага тут могільніка з невялікай колькасцю вывучаных пахаванняў дазваляюць аднесці гэты працэс да перыяду $LtC_1$, г. зн. у межах другой паловы II — сярэдзіны I ст. да н. э. Пра такое датаванне сведчаць латэнскія фібулы тыпу I/H, па Й. Кастшэўскаму, знойдзеныя ў пахаваннях № 8 і 12. Іншыя знаходкі гэтага могільніка маюць больш шырокія храналагічныя рамкі, як, напрыклад, шкляныя пасярэбраныя пацеркі тыпу Ia, паводле К. М. Аляксеевай, аднак яны не супярэчаць ранняму датаванню па фібулах (Дробушевский, 1996. С. 122).

Пачынаючы з канца I ст. да н. э. пад уплывам сармацкай пагрозы змяняецца тапаграфія зарубінецкіх помнікаў у Сярэднім Падняпроўі. З'яўляецца цэлы шэраг адкрытых паселішчаў (Абалонь, Люцеж і інш.), размешчаных у цяжкадаступных месцах Дняпра і яго прытокаў (Максимов, 1982. С. 28). Верагодна, з гэтай жа прычыны адбываецца адток часткі зарубінецкага насельніцтва на Паўднёвы Буг і фарміраванне там новага лакальнага варыянта. Знойдзеныя на паселішчах гэтай тэрыторыі абломкі светлагліняных і карычневагліняных амфар, а таксама правінцыяльна-рымскія фібулы дазваляюць аднесці пачатак засваення паднёвабугскага рэгіёна да канца I ст. да н. э. — сярэдзіны I ст. н. э. (Максимов, 1982. С. 26).

Занядад класічнай зарубінецкай супольнасці прыпадае, відаць, на сярэдзіну — трэцюю чвэрць I ст. н. э. Найбольш выразна ён прасочваецца ў палескім рэгіёне, у могільніках якога знойдзена значная серыя фібул познолатэнскай схемы, але адсутнічаюць раннія правінцыяльна-рымскія засцежкі. Да ліку найбольш позніх экземпляраў адносяцца фібулы варыянтаў N і O, паводле Й. Кастшэўскага (варыянты $N_1$, $N_2$, O і $O_1$, паводле К. В. Каспаравай), і тып IV зарубінецкіх фібул. Позналатэнскія фібулы падобных формаў у Цэнтральнай Еўропе выходзяць з ужытку ў пачатку н. э. Пазней яны ўжываюцца толькі ў пшэворскай культуры, але і там у пачатку 40-х гадоў I ст. н. э. яны саступаюць месца раннерымскім узорам, у прыватнасці фібулам A68 (Каспарова, 1986. С. 8).

Заключная фаза Чаплінскага могільніка ў Верхнім Падняпроўі, мяркуючы па знаходках фібул, можа таксама прыпадаць на сярэдзіну I ст. н. э., аднак не выключана і больш позняе датаванне — другая палова I ст. н. э. Сярод позналатэнскіх фібул пераважнымі тут з'яўляюцца экземпляры тыпу M і N,

паводле Й. Кастшэўскага. Разам з імі ёсць і фібулы, даташанне якіх выходзіць за межы першай паловы І ст. н. э. Да іх ліку адносяцца падвязная лучковая варыянта І і прагнутая падвязная верхнвдняпроўскай свры, паводле А. К. Амброза. Апошняя мае больш шырокія рамкі ўжытку, усё І ст. н. э. Аднак на падставе таго, што яна была знойдзена разам з фібулай варыянта M/N, К. В. Каспарава схільна абмежаваць яе верхнюю дату не пазней за сярэдзіну І ст. н. э. (Каспарова, 1986. С. 9).

Да ліку позніх знаходак гэтай тэрыторыі адносіцца і фрагмент ганчарнай пасудзіны з жытла № 9 гарадзішча ў Чапліне. На думку П. М. Траццякова, ён мог належаць аднаручкаваму гарлачу чарняхоўскай культуры і датаваны пачаткам III ст. н. э. (Третьяков, 1966. С. 224. Рис. 62). Такое позняе датаванне гэтага фрагмента не можа быць прымальным, бо яно супярэчыць агульнай храналогіі як верхнедняпроўскага варыянта, так і зарубінецкай культуры ў цэлым. Магчыма, бліжэй да дакладнасці знаходзіцца М. Б. Шчукін, які лічыць, што гэты абломак мог належаць двухручкавай пасудзіне дакійскага тыпу (Щукин, 1986. С. 65). Такая пасудзіна ў Звянігарадскай групе помнікаў Паднястроўя была знойдзена з фібулай тыпу А68 і, такім чынам, можа быць датавана фазай $B_{IB}$ раннерымскага перыяду (40—70-я гады І ст. н. э.).

Пра канчатковую дату зарубінецкіх помнікаў у Пасожжы ў цяперашні час меркаваць цяжка. Адзіны дасладаваны тут Юрковіцкі могільнік не ўтрымлівве вузкадатаваных рэчаў позняга перыяду. Знойдзеныя ў шэрагу пахаванняў шкляныя пацеркі маюць шырокія храналагічныя рамкі — ад II ст. да н. э. да II ст. н. э. Аднак звяртае на сябе ўвагу той факт, што прафіляваны грубапяпны гаршчок з разбуранага пахавання падобны да посуду позназарубінецкіх помнікаў тыпу Грыні—Воўкі, што датуецца I—II стст. н. э. (Дробушевский, 1966. С. 122). Зыходзячы з гэтага, нельга выключаць магчымасці датавання канчатковай фазы Юрковіцкага могільніка аж да канца І ст. н. э.

Канец класічных помнікаў Сярэдняга Падняпроўя таксама выразна не вызначаны. К. В. Каспарава, мяркуючы па знаходках позналатэнскіх фібул у пахавальных комплексах, лічыла, што могільнікі з класічнымі рысамі зарубінецкай культуры спыняюць функцыяніраванне да сярэдзіны І ст. н. э. На яе думку, канчатковае датаванне грунтуецца на фібулах варыянтаў М і N, паводле Й. Кастшэўскага, і зарубінецкіх тыпу III, IV, знойдзеных у могільніках Пірагоў, Дзевіч-Гара і Вішанькі (Каспарова, 1986. С. 10—11). Блізкую пазіцыю займае М. Б. Шчукін (Щукин, 1994. С. 232). У сваю чаргу А. М. Абломскі, прыцягнуўшы больш шырокія матэрыялы, у тым ліку і паселішчаў, схільны аднесці крызіс класічнай культуры ў Сярэднім Падняпроўі да трэцяй чвэрці І ст. н. э. Менавіта да гэтага часу ён адносіць знаходкі позніх чорнагляньцаваных місвк з паселішчаў і могільнікаў (Бабіна Гара, Карчаватае, Манастырок, Піліпенкава Гара і інш.), імітуючых, на яго думку, чырваналакавы антычны посуд (Обломский, 1987. С. 82—83).

Прычыны заняпаду зарубінецкай культуры ў яе класічным абліччы не ўсюды высветлены, за выключэннем сярэднедняпроўскага варыянта. Там, як ужо адзначалася, адток насельніцтва быў звязаны з сармацкай пагрозай. Ва ўмовах рэальнага заняволення і фізічнага знішчэння частка сярэднедняпроўскага насвльніцтва рушыла на паўночны ўсход, у басейн Дзясны, дзе ў выніку змешвання з мясцовымі плямёнамі адбываецца фарміраванне помнікаў почапскага тыпу (дзісвнскі варыянт зарубінецкай культуры). Гэты працэс, мяркуючы па багатай свры позналатэнскіх і раннерымскіх фібул, спражцы тыпу U і фаянсввай пацерцы — плакетцы, можна аднесці да сярэдзіны —

другой паловы I ст. н. э. Характэрную групу знаходак гэтай тэрыторыі складаюць чорнаглянцаваныя цыліндраканічныя міскі і прафіляваныя гаршкі з уціскаммямі па краі венчыка, якія маюць аналогіі сярод позніх сярэднедняпроўскіх помнікаў.

Пытанні спынення жыцця на паселішчах Палесся застаюцца нявырашанымі. Уяўляецца відавочным, што сврмацкай пагрозы для гэтай лясной і забалочанай зоны не існавала, паколькі няма ніякіх дадзаных, якія сведчылі б пра пранікненне серматаў у басейн Прыпяці. У гэтай сувязі меркаванне М. Б. Шчукіна аб магчымым перасяленні сврматамі зарубінецкага насельніцтва Палесся далёка на ўсход, у Сярэдняе Паволжа, дзе фіксуецца іменькаўская культура, якая мае пэўныя рысы падабенства з зарубінецкай, уяўляецца малаверагодным (Щукин,1994. С. 237).

Неперааканаўчыя і іншыя версіі, звязаныя св знешнімі фактарамі. Так, К. В. Каспарава лічыла, што зарубінецкае насельніцтва ў Палессі маглі патурбаваць нейкія раннія перамяшчэнні носьбітаў вельбарскай культуры на паўднёвы ўсход, якія засталіся незаўважанымі ў археалагічным матэрыяле. Пры гэтым яна спасылалася на пахаванне ў Перасыпках на Сейме канца I — першай паловы II ст. н. э. і знаходкі шыйных грыўнаў, характэрных для носьбітаў гэтай культуры, якія знойдзены на Чарнігаўшчыне (Каспарова, 1986. С. 15—16). Аднак няцяжка заўважыць, што паміж заняпадам зарубінецкай культуры ў Палессі і датаваннем ранняга вельбарскага пахавання ў Перасыпках ляжыць лакуна працягласцю амаль паўстагоддзя. Уласна вельбарскія помнікі ў Заходняй Беларусі і на Валыні з'яўляюцца значна пазней, у канцы II — пачатку III ст. н. э., і, такім чынам, з'яўленне новага насвльніцтаа, прычым у абмежаванай колькасці, не магло быць прычынай зыходу з Палесся носьбітаў зарубінецкай супольнасці.

Не з'яўляецца пераканаўчай і версія Я. У. Максімава, які мяркуе, што палескі рэгіён быў пакінуты папярэднім насельніцтвам у выніку перасяленчай актыўнасці носьбітаў пшэворскай культуры (Максимов, 1996. С. 37). Гэта пранікненне хоць і адбывалася ў перыяд існавання класічнай зарубінецкай культуры, не зачапіла асноўнай тэрыторыі палескага рэгіёна. Самымі ўсходнімі пшэворскімі помнікамі позналатэнскага часу з'яўляюцца паселішчы на рэках Стаход і Вілія, левым прытоку Гарыні (Козак, 1984. Рис. 1). На поўначы, у парэччы Прыпяці, дзе знаходзіцца асноўнвя канцэнтрацыя зарубінецкіх помнікаў, слядоў прысутнасці пшэворскага насвльніцтва няма.

Арыгінальнвя гіпотэза аб зыходзе зарубінецкага насельніцтва з Палесся выказана А. М. Абломскім, Р. В. Цярпілоўскім і А. В. Пятраўскасам. На іх думку, асноўнай прычынай гэтай з'явы сталі прыродныя фактары: уздым узроўню грунтавых вод, вышчалачванне зямлі і інш. (1990). Аднак, як справядліва адзначае М. Б. Шчукін, гэта меркаванне павінна быць падмацавана спецыяльнымі даследаваннямі (Щукин, 1994. С. 232—233).

Як бы ні вырашалася ў далейшым гэта пытанне, у цяперашні час відавочна, што нейкая частка зарубінецкага насельніцтва Пелесся пакінула месца свайго жыцця і рушыла на поўдзень. Прайшоўшы Валынь, яна дасягнула Верхняга і Сярэдняга Паднястроўя, дзе ў выніку змешвання з носьбітамі пшэворскай і ліпіцкай культур адбылося фарміраванне валына-падольскай групы помнікаў (Козак, 1988. С. 108—109; Козак, 1984. С. 49; Каспарова, 1986. С. 16).

З другога боку, мяркуючы па даследаваннях апошніх гадоў, назіраецца пэўная інфільтрацыя зарубінецкага насельніцтва на захад, на тэрыторыю Люблінщчыны ў Польшчы. Тут ужо знойдзена некалькі зарубінецкіх пахаван-

няў (Калонія Гусіннэ, Путновіцэ, Стжэлцэ, Чэрнічын), гаспадарчыя ямы і тыпова зарубінецкія гаршкі з «падкоўкамі» на паселішчах Вярбкоўцэ-Каторув, Масломенч, Стжэлцэ. Мяркуючы па знаходках зарубінецкіх фібул тыпу IV, гэтыя помнікі можна аднесці да часу не пазней за сярэдзіну I ст. н. э. (Каспарова, 1992а. С. 60). Як адзначаюць даследчыкі, у міжрэччы Заходняга Буга і Гучвы ў выніку змешвання зарубінецкага і пшэворскага насельніцтва адбываецца фарміраванне чэрнічынскай групы (Каспарова, 1986. С. 16).

Храналагічна вылучаецца з групы помнікаў ЛюблІншчыны, што маюць зарубінецкія рысы, пахаванне ў Дранжгуве, у якім фібулы варыянта IV спалучаліся з фібулай А80 і паўкруглай спражкай. Падобныя знаходкі дазваляюць аднесці гэты комплекс да фазы $B_2C_1$ рымскага часу — 150—200 гг. н. э. (Каспарова, 1992а. С. 60; Яна ж, 1992б. С. 300). Відаць, з гэтага рэгіёна, а не з Палесся адбываецца пранікненне нейкай нязначнай групы насельніцтва на Беласточчыну, дзе ў могільніку Грыневічы Валькі выяўлены два зарубінецкія пахаванні, у якіх знойдзены позція зарубінецкія фібулы тыпу IV і вочкавыя тыпу А59 і А62. Апошнія даюць магчымасць аднесці гэтыя комплексы да фазы $B_{2a}$ — апошняя чвэрць I ст. н. э.

Нарэшце, нельга выключаць верагоднасці лакальнай інфільтрацыі зарубінецкага насельніцтва з Палесся на поўнач, у басейн Верхняга Нёмана. Пра гэта сведчаць ямныя пахаванні з зарубінецкімі фібуламі тыпу IV каля пас. Краснасельскі, дыскі-патэльні і глянцаваны посуд з размешчанага побач паселішча, а таксама выпадкова знойдзеная ў старажытнарускім кургане каля пас. Краснасельскі зарубінецкая фібула, ідэнтычная тым, што былі выяўлены ў пахаваннях Грыневічы Велькі (Медведев, 1996. С. 53—54; Поболь, 1979. С. 132. Рис. 65:4).

Развіццё культуры ў верхнедняпроўскім рэгіёне, відаць, ішло больш спакойна, без бачных узрушванняў. У канцы II ст. н. э. тут з'яўляюцца помнікі кіеўскай культуры, у аснове якой ляжаць перш за ўсё позназарубінецкія старажытнасці. Апошнія ў гэтым рэгіёне практычна не вывучаны, і ўсё ж ёсць падставы меркаваць пра фарміраванне помнікаў тыпу Абідні і Тайманава на мясцовай аснове.

## 8. ПАХОДЖАННЕ І ЭТНІЧНАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ

Зарубінецкая культура рэзка вылучаецца сваім латэнізаваным абліччам на фоне іншых культур жалезнага веку лясной паласы Усходняй Еўропы. І ўсё ж першыя спробы вызначыць яе паходжанне былі звязаны з пошукам мясцовых каранёў. Так, яшчэ ў 1953 г. В. М. Даніленка, зыходзячы з блізкасці арэалаў мілаградскіх і зарубінецкіх помнікаў і наяўнасці некаторых агульных момантаў у матэрыяльнай сферы, выказаў меркаванне пра генетычную сувязь паміж імі (Даниленко, 1953. С. 208).

У далейшым гэты тэзіс падтрымаў і паспрабаваў развіць Л. Д. Побаль (Поболь, 1967б. С. 210, 236; Ён жа, 1971в. С. 93). Аднак параўнальны аналіз домабудаўніцтва, пахавальнага абраду, керамічнага комплексу і некаторых іншых рысаў не дазваляе гаварыць пра пераемнасць паміж гэтымі дзвюма культурамі (Третьяков, 1960б. С. 43—48; Мельниковская, 1967. С. 32—42; Егорейченко, 1996а. С. 71). Адсутнасць пераканаўчых доказаў роднасці мілаградскай і зарубінецкай культур, таксама як і пошук вытокаў зарубінецкіх плямёнаў сярод некаторых іншых культур Падняпроўя (Либеров, 1950. С. 75—84; Махно, 1955. С. 81—100), прымусіў Ю. У. Кухарэнку ўзняць пытанне пра прышлы характар новага насельніцтва. Генезіс зарубінецкай культуры, на

яго думку, былі звязаны з носьбітамі паморска-клёшавай культуры, роднасць з якімі найбольш яскрава назіраецца ў лахавальным абрадзе і керамічным комплексе (Кухаренко, 1960. С. 292—293). У далейшым наяўнасць падобных рысвў паміж гэтымі культурамі была падмацавана К. В. Каспаравай дадзенымі яе раскопак зарубінацкіх могільнікаў у Пелессі (Каспарова, 1969б. С. 262—263; Яна ж, 1972. С. 66—67).

На думку Ю. У. Кухарэнкі, працэс рассялення зарубінецкіх плямёнаў ішоў паступова з заходняй часткі Палесся, дзе фіксуюцца найбольш раннія помнікі. Што датычыцца дняпроўскага рэгіёна, зарубінецкае насельніцтва тут з'явілася значна пазней, не раней за I ст. н. э. (Кухаренко, 1960. С. 297). Аднак гэта меркаванне было памылковым — помнікі Сярэдняга Падняпроўя не толькі не маладзейшыя, але, магчыма, нават старэйшыя за палескія (Третьяков, 1966. С. 215). Блізкую з Ю. У. Кухарэнкам пазіцыю займае Д. А. Мачынскі, які таксама бачыць у паморска-клёшавай культуры Польшчы асноўны кампанент складвання зарубінецкіх старажытнасцей. Аднак у адрозненне ад Ю. У. Кухарэнкі ён дапускаў дастаткова хуткае перамяшчэнне паморскага насельніцтва на ўсход і паўднёвы ўсход не з аднаго, а з некалькіх раёнаў лакалізацыі, што прывяло ў канчатковым выніку з ўдзелам мясцовага насельніцтва да фарміравання лакальных варыянтаў культуры (Мачинский, 1966б. С. 5—8).

Пункт погляду Д. А. Мачынскага доўгі час быў дамінуючым, аднак у апошні гады ён падвяргаецца рэвізіі. Найбольш актыўную пазіцыю ў гэтым пытанні займае У. Я. Яроменка. На яго думку, зарубінецкая культура не мае храналагічнага стыку ні з паморска-клёшавай культурай Польшчы, ні з папярэднімі зарубінецкай культурамі Падняпроўя: мілаградскай і познаскіфскай. Такім чынам, генезіс зарубінецкіх старажытнасцей неабходна звязваць з нейкім іншым насельніцтаам, сінхронным і падобным па абліччы матэрыяльнай культуры з зарубінецкім. Такой умове адпавядаюць помнікі ясторфскай культуры, якая і стала асновай складвання помнікаў позняга перадрымскага часу ў Палессі і Падняпроўі. Пры гэтым роля мясцовага насельніцтаа ў гэтым фарміраванні адмаўляецца (Еременко, 1990).

Калі падыходзіць да вырашэння гэтага пытання фармальна, пэўная логіка ў разважаннях У. Я. Яроменкі ёсць. Сапраўды, ні адна з культур папярэдніц не мае надзейнай храналагічнай сувязі з зарубінецкімі старажытнасцямі. Усе яны (падклёшавая, мілаградская, познаскіфская) па вузкадтаваных рэчах спыняюць сваё існаванне ў пачатку — максімум сярэдзіне III ст. да н. э. I тым не менш адмаўляць іх удзел у генезісе толькі на гэтай падставе ўяўляецца неапраўданым. Відаць, мы маем справу з неўдасканаленнем храналагічных распрацовак, якія не дазваляюць вылучыць помнікі гэтых культур другой паловы — канца III ст. да н. э. У процілеглым выпадку немагчыма растлумачыць пэўныя рысы падабенства, якія назіраюцца паміж зарубінецкай культурай і яе папярэдніцамі ў дняпроўскім рэгіёне. Пры гэтым неабходна адказаць на пытанне, як суадносяцца прышлыя і мясцовыя элементы ў кожным з класічных варыянтаў культуры.

Бясспрэчна, найбольш прыкметна заходнія элементы заўважаюцца ў палескім варыянце, прычым дамінуючымі трэба прызнаць паморска-клёшавыя прыкметы, адзначаныя Ю. У. Кухарэнкам і дапоўненыя К. В. Каспаравай. Так, для абедзвюх культур характэрны неўмацаваныя паселішчы, размешчаныя ў падобных тапаграфічных умовах. Дакладныя паралелі назіраюцца сярод жылых пабудоў паморскіх і зарубінецкіх плямёнаў у Палессі і Верхнім Падняпроўі. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў паморскай культуры

сустракаюцца як зрубавыя паўзямлянкі, так і наземныя аднакамерныя двмы слупавой канструкцыі, уласцівыя для Паўднёвай Беларусі апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э. (Kostrżewski, 1939. S. 275. Ryc. 27; Jażdżewski, 1939. S. 108; Łuka, 1966. S. 107. Ryc. XXXIII: 2).

Пэўныя рысы падабенства закфіксаваны і ў пахавальным абрадзе. Для абедзвюх культур былі характэрныя грунтавыя могільнікі з крэмацыяй, прычым у зарубінецкай культуры адзначаны пахаванні з паўторам такіх асвблівасцей, якія характэрны для падклёшавых плямёнаў, у прыватнасці імітацыі каменных скрыняў шляхам выкладання магільнай ямы чарапкамі посуду. Але яшчэ ў большай ступені назіраецца падабенства гэтых культур у керамічным наборы і сістэме арнаментавання посуду. Так, вельмі блізкія да падклёшавых чорнаглянцаваныя пасудзіны, што маюць акруглабіканічнае тулава, якое аддзелена ад горла выступам. Акрамя гэтага, высокая ступень падабенстаа назіраецца паміж клёшамі і вялікімі зарубінецкімі гаршкамі з шурпатай і шурпата-баразнаватай паверхнямі (Каспарова, 1992. С. 295). Відаць, у паморска-клёшавых старажытнасцях трэба шукаць вытокі зарубінецкіх місвк і кубкаў, невядомых раней у лясной паласе Усходняй Еўропы.

У большасці выпадкаў супадаюць і сістэмы арнаментавання посуду. Гэта перш за ўсё «шахматныя» зашчыпы па краі венчыка, пазногцевыя ўціскашні, «елачны» арнамент, нарэшце, шурпатая паверхня тулава гаршка, аддзеленая ад глянцаванага горла расчлянёным валікам. Разам з тым шэраг паралеляў назіраецца таксама паміж зарубінецкай і ясторфскай культурамі. Найбольш шматлікія яны ў формах гаршкоў, місвк, кубкаў і сістэме арнаментавання посуду. Не выключана, што ясторфскае паходжанне маюць паясныя кручкі і некаторыя іншыя катэгорыі рэчавага комплексу (Каспарова, 1992б. С. 297). Нарэшце, нельга не адзначыць паўднёва-заходнія сувязі, дастаткова пераканаўча прадэманстраваныя К. В. Каспаравай на прыкладзе зарубінецкіх фібул і іх прататыпаў (Каспарова, 1981. С. 57—78). Адзначаныя вышэй паралелі сведчаць аб удзале ў фарміраванні палескага варыянта розных культурных груп пры агульным дамінаванні паморска-клёшавага элемента.

Што датычыцца двух іншых рэгіёнаў культуры — верхнеднепроўскага і сярэднаднепроўскага, то даспадчыкі разам з заходнімі элементамі адзначаюць і мясцовую субстратную аснову, роля якой у працэсе станаўлення зарубінецкай культуры ацэньваецца неадназначна.

На тэрыторыі Гомальска-Магілёўскага Падняпроўя ў папярэдні час былі распаўсюджаны помнікі мілаградскай культуры, якой Л. Д. Побаль адводзіў дамінуючую ролю ў фарміраванні зарубінецкіх старажытнасцей (Поболь, 1974. С. 368). Такое прамалінейнае вырашэнне пытання даследчыкамі адхіляецца, аднак і адмаўляць непрычаснасць мілаградскага насельніцтва ў генезісе зарубінецкай культуры, як гэта робіць У. Я. Яроменка, уяўляецца неабгрунтаваным. Сапраўды, індыкатары, што ёсць у нашым распараджэнні, быццам бы не дазваляюць гаварыць пра храналагічны стык паміж гэтымі дзвюма культурамі. Аднак шэраг ускосных дадзеных сведчыць пра адваротнае. У працэсе свайго рассялення зарубінецкія плямёны лічылі за лепшае займаць у Верхнім Падняпроўі гарадзішчы, што належалі мілаградцам.

Стратыграфічныя назіранні на даследаваных помніках паказваюць адсутнасць якіх-небудзь стэрыльных праслоек паміж гэтымі рознакультурнымі напластаваннямі. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што на некаторых зарубінецкіх могільніках прысутнічаюць мілаградскія пахаванні з класічным мілаградскім посудам (Самойловский, 1959. С. 71; Каспарова, 1976. С. 56). Гэтак жа сама цяжка растлумачыць прысутнасць у зарубінецкіх пахаваннях Верхня-

га Падняпроўя праспіц, ідэнтычных мілаградскім (Поболь, 1973в. Рис. 35:8, 70: 6). Пэўныя рысы падабенства ў пахавальным абрадзе двюх культур адзначаны іншымі даспадчыкамі (Загорульский, 1983. С. 20). Прывадзеныя вышэй факты сведчаць пра тое, што мілаградскае насельніцтва Верхняга Падняпроўя, верагодна, было асімілявана прышлымі плямёнамі, якія ўспрынялі некаторыя элементы матэрыяльнай культуры сваіх папярэднікаў.

Не мае аднолькавай трактоўкі і праблема генезісу сярзднедняпроўскага варыянта культуры. Тое, што ў яго складанні таксама прынялі ўдзел як мясцовыя, так і прышлыя плямёны, у цяперашні час у даследчыкаў сумненняў не выклікае. Аднак, высвятляючы вытокі гэтай групы зарубінецкай культуры, спецыялісты часам дыяметральна разыходзяцца ў ацэнцы ўкладу таго ці іншага субстрату. Праціўнікі гіпотэзы мясцовага складання культуры перш за ўсё спасылаюцца на значны храналагічны прамежак паміж скіфскімі помнікамі Сярэдняга Падняпроўя і з'яўленнем тут зарубінецкай супольнасці (Щукин, 1994. С. 110—111). З другога боку, некаторыя даследчыкі, не адмаўляючы прысутнасці заходніх элементаў у гэтым рэгіёне, усё ж схіляюцца да думкі пра дамінуючую ролю ў працэсе фарміравання культуры аўтахтоннага насельніцтва (Максимов, 1972. С. 116—129).

Залішняя катэгарычнасць абодвух падыходаў уяўляецца відавочнай, паколькі пры сучасным узроўні ведаў немагчыма вызначыць прыярытэтнасць таго ці іншага кампанента. Заходнія элементы, як і ў іншых арэалах культуры, перш за ўсё прасочваюцца ў новым характары пахавальнага абраду, шырокім распаўсюджанні фібул латэнскіх схем, глянцаванага і шурпатага посуду і г. д. Пры гэтым культурныя і міграцыйныя імпульсы, на думку Я. У. Максімава, маглі ісці як з паўночнага, так і з паўднёвага захаду (Славяне... 1993. С. 38). З другога боку, дастаткова выразныя і мясцовыя вытокі новага ўтварэння. Яго аўтахтонныя рысы выступаюць у канструкцыйных асаблівасцях домабудаўніцтва, у формах кухоннага посуду і сістэме яго арнаментавання, у падабенстве пэўных тыпаў прыладаў працы (Максимов, 1982. С. 157).

Такім чынам, складанне трох класічных варыянтаў зарубінецкай культуры было вынікам інтэграцыі прышлых і мясцовых культур, у выніку якой узнікла якасна новае ўтварэнне, супастаўленае, з аднаго боку, з латэнізаванымі культурамі Цэнтральнай Еўропы, з другога — захаваўшым пэўныя рысы аўтахтонным насельніцтвам.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў зарубінецкай культуры застаецца адкрытым. Сведчанні старажытных аўтараў, якія маюцца ў распараджэнні сучасных даследчыкаў, не даюць магчымасці адносіць носьбітаў гэтай супольнасці да нейкай канкрэтнай этнічнай групоўкі канца 1-га тысячагоддзя да н. э. — пачатку н. э., а археолага-лінгвістычныя абгрунтаванні пры адсутнасці дадзеных антрапалогіі маюць праблематычны характар.

Першым, хто зрабіў спробу аднесці носьбітаў зарубінецкай культуры да канкрэтнага этнасу, быў першадаследчык гэтых старажытнасцей В. В. Хвойка. Ім было выказана меркаванне пра тое, што сярэднедняпроўскія палі пахавальных урнаў былі пакінуты славянамі (Хвойка, 1901). Прапанаваная ім версія не мела пераканаўчай аргументацыі, аднак атрымала шырокую падтрымку сярод большасці сучасных даследчыкаў, якія паспрабавалі развіць і падмацаваць тэзіс В. В. Хвойкі (Третьяков, 1966, 1970, 1982; Поболь, 1971в; Максимов, 1972, 1982; Рыбаков, 1979; Баран, Козак, Терпиловский, 1991 і інш.).

Сістэма іх доказаў у абагульненым выглядзе наступная. Зарубінецкая культура мае шэраг агульных рысаў з наступнымі культурамі 1-га тысячагоддзя н. э. Так, позназарубінецкія помнікі, захаваўшы асноўныя традыцыі

класічнай культуры, з'яўляліся асновай для фарміравання кіеўскіх старажытнасцей. У сваю чаргу кіеўская культура стала базісам для станаўлення калочынскай і пянькоўскай, якія змыкаюцца з летапіснымі ўсходнеславянскімі групоўкамі. У якасці аднаго з аргументаў на карысць славянскай прыналежнасці носьбітаў зарубінецкай культуры прыцягваюцца і дадзеныя гідраніміі, якія фіксуюць архаічныя славянскія назвы рэк у Сярэднім Падняпроўі. Аднак пазіцыя гэтых даследчыкаў мае слабыя месцы. Так, з аднаго боку, дадзеныя гідраніміі не паддаюцца дакладнаму храналагічнаму вызначэнню, з другога — не існуе пераканаўчых доказаў прамой сувязі калочынскіх старажытнасцей з верагодна славянскімі помнікамі VIII—IX стст. Відаць, перабольшана і роля кіеўскай культуры ў фарміраванні бясспрэчна пянькоўскай культуры: не супадаюць іх арэалы, адрозніваюцца тыпы жытлаў і большай часткі посуду (Русанова, 1976. С. 103—105; Седов, 1982. С. 27—28).

Арыгінальная канцэпцыя была прапанавана ў 60-я гады В. В. Сядовым. У схематычным выкладанні яна мае наступны выгляд. В. В. Сядоў, таксама як і Ю. У. Кухарэнка, меркаваў, што ядро фарміравання зарубінецкай культуры склалі познапаморскія плямёны, якія належалі да заходнебалцкага этнічнага масіву. У Верхнім Падняпроўі і ў басейне верхняй Акі, дзе ў першай палове 1-га тысячагоддзя н. э. узнікла мошчынская культура, якая захавала асобныя позназарубінецкія традыцыі, выяўлены пласт заходнебалтыйскай гідраніміі. Нейкіх вялікіх міграцый, за выключэннем зарубінецкай, у гэтым рэгіёне не прасочваецца на ўсім адрэзку часу ад эпохі бронзы да ранняга сярэднявечча. Такім чынам, носьбіты зарубінецкай культуры былі заходнімі балтамі (Седов, 1970. С. 44—48).

Гіпотэза В. В. Сядова знайшла падтрымку (Загорульский, 1977. С. 67), аднак у наступных працах сам аўтар стаў адыходзіць ад выбранай ім пазіцыі, усё больш схіляючыся да прыхільнікаў славянскай атрыбуцыі зарубінецкіх плямёнаў. Цяпер В. В. Сядоў мяркуе, што носьбіты культуры складалі асобную дыялектную групу, якая займала прамежкавае становішча паміж праславянскай мовай і ўскраіннымі заходнебалцкімі гаворкамі (Седов, 1994. С. 219). Заўважым таксама, што з балцкім этнічным масівам звязвае археалагічныя культуры Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя аж да другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. І. П. Русанава (Русанова, 1978. С. 84).

Нарэшце, сярод прыхільнікаў заходняга паходжання культуры існуе пункт погляду аб сувязі зарубінецкіх плямёнаў з гістарычнымі бастарнамі (Мачинский, 1966а. С. 34; Каспарова, 1992б. С. 299; Щукин, 1993. С. 94 і інш.), этнічная прыналежнасць якіх была праблематычнай ужо для антычных аўтараў. Зыходзячы з гэтага, робяцца спробы ўвязаць носьбітаў зарубінецкай культуры з германцамі (Еременко, 1990) ці з саюзам кальцка-ілірыйскіх плямёнаў, у які ўвайшло састаўной часткай паморскае, мілаградскае і лесастэпавае «скіфскае» насельніцтва (Каспарова, 1991. С. 24).

Падсумоўваючы ўсё сказанае вышэй, неабходна адзначыць, што тыя дадзеныя, якія к гэтаму часу назапашаны, не дазваляюць адназначна адказаць на пытанне, да якога этнасу належалі зарубінецкія плямёны. Аднак, як бы ні вырашылася ў далейшым гэта праблема, удзел носьбітаў зарубінецкай культуры і іх нашчадкаў у станаўленні славянскага этнічнага масіву не выклікае сумненняў.




*Мал. 67. Зарубінецкая культура. Умоўныя абазначэнні: 1 — гарадзішчы; 2 — селішчы; 3 — могільнікі*

*1 — Краснасельскі; 2 — Гарадзішча; 3 — Астравічы; 4 — Церабень-1, Церабень-2; 5 — Пемяшэвічы-1, Пемяшэвічы-3; 6 — Курадава-1, Курадава-2; 7 — Папаціна; 8 — Ласіцк; 9 — Вешня; 10 — Востраў-1, Востраў-2; 11 — Парэ; 12 — Мотаць; 13 — Упірава; 14 — Бакінічы; 15 — Баркі; 16 — Камень; 17 — Пагост-Загародскі; 18 — Кажан-Гарадок; 19 — Лахва; 20 — Намокрава; 21 — Плотніца; 22, 23 — Атвержычы; 24, 25 — Рубель; 26, 27 — Велямічы-1, Велямічы-2; 28 — Вікаровічы 1—3; 29 — Хотамель; 30 — Бережное; 31, 32 — Бухліцкі хутар; 33 — Рамель; 34 — Хотамель; 35 — Давыд-Гарадок; 36 — Аздамічы; 37 — Верасніца; 38 — Дварэц; 39 — Пагост; 40 — Запясочча; 41 — Семурадцы; 42 — Рычаў; 43 — Пераров; 44 — Пераровскі Млынок; 45 — Вароніна; 46 — Азяраны; 47 — Снядзін; 48 — Мікашэвічы-1; 49 — Мікашэвічы-2; 50 — Навасёлкі; 51 — Лучыцы; 52 — Слабодка Чэлюшчавіцкая; 53 — Халопенічы; 54 — Любань; 55 — Шчаткава; 56 — Макаравічы; 57 — Жахавічы; 58 — Мазыр; 60 — Града; 61 — Пеніца; 62 — Слабодка 1—3; 63 — Юравічы 1—3; 64 — Абухаўшчына; 65 — Беласарока; 66 — Бярозаўка; 67 — Вепры; 68 — Вярбовічы; 69 — Канатоп-1, Канатоп-2; 70 — Нароўля; 71 — Цешкаў; 72 — Кажушкі; 73 — Гноева; 74 — Гарадок-1, Гарадок-2; 75 — Дзеражычы; 76 — Ліпнякі; 77 — Поеў; 78 — Мохаў-1, Мохаў-2; 79 — Бывалкі; 80, 81, 82 — Чаплін; 83 — Асарэвічы; 84 — Капорынка; 85 — Калыбань; 86 — Камарын; 87 — Каманава; 88 — Гореаль-1, Гореаль-2; 89, 90 — Гарошкаў; 91 — Глыбаў; 92 — Заспа-1, Заспа-2; 93 — Калочын-1, Калочын-2; 94 — Луначарск; 96, 97 — Мілаград; 98 — Чорнае; 99 — Дражня; 100 — Чырвоная Горка; 101 — Праскурні; 102 — Кісцяні; 103 — Пучын-1, Пучын-2; 104 — Рагачоў; 105 — Шапчыцы; 106 — Цагельня; 107 — Хмяляней; 108 — Шчыбрын; 109 — Азяраны; 110 — Хамічы; 111 — Шапатовічы; 112 — Чачэрск; 113 — Ворнаўка; 114 — Нісімкавічы; 115 — Уваравічы; 116 — Любны; 117 — Пакалюбічы; 118 — Выпева; 119 — Ветка; 120 — Навасёлкі; 121 — Прысна-1, Прысна-2; 122 — Сеяцілавічы; 123 — Шарсцін; 124 — Ворнаўка; 125 — Абідавічы; 126 — Баркалабава; 127 — Вязьмы; 128 — Дабужа; 129 — Янава; 130 — Луначарск; 131 — Крычаў; 132 — Гарадок; 133 — Белая Дуброва; 134 — Юркавічы*




Мал. 68. Планы пасепішчаў: 1 — Чаплін (паводле П. Д. Побаля); 2— Шапатовічы (паводле В. М. Мельнікоўскай); 3 — схематычны план паселішча і могільніка каля в. Рамель (паводле К. В. Каспаравай)



Мал. 69. Планы жылых пабудоў зарубінецкай культуры: 1 — Чаплін; 2 — Гарошкаў; 3 — Атвержычы; 4 — Рамель; 5 — Велямічы-2; 6 — Хотамель







*Мал. 70. Рэканструкцыя жытла на селішчы каля а.Хотамель (паводле Г. М. Беліцкай)*




Мал. 71. Планы даследаваных участкаў палескіх могільнікаў зарубінецкай культуры. Умоўныя адзнакі: а — ямныя пахаванні; б — урнавыя пахаванні; в — кенатафы; г — пахаванні коней. 1 — Велямічы-2; 2 — Вароніна; 3 — Атвержычы; 4 — Велямічы-1




*Мал. 72. Планы і разрэзы пахаванняў палескіх могільнікаў зарубінецкай культуры: 1, 5, 7 — Вароніна*
*10 — Атвержычы (пахаванні*



7



8



9



0 0,5 м

10

*(пахаванні 32, 2, 3); 2 — Вялямічы-1 (пахаванне 92); 3 — Вялямічы-2 (пахаванне 33); 4, 6, 8—83, 95, 86, 77, 82)*

Мал. 73. План даследаванага ўчастка Чаплінскага могільніка. Умоўныя адзнакі: а — пахаванні ў круглых ямах; б — пахаванні ў авальных ямах; в — выкладванне з глея




*Мал. 74. Планы пахаванняў Чаплінскага могільніка (№ 33, 102, 30, 110. 102, 63, 59, 111, 29)*




*Мал. 75. Гаршкі палескага варыянта зарубінецкай культуры: 1, 2, 10, 13, 14 — Вароніна; 3, 6, 7, 12, 15 — Велямічы-2; 4, 5, 8, 9, 11 — Велямічы-1*




*Мал. 76. Міскі палескага варыянта зарубінецкай культуры: 1, 5—7, 16, 17, 21, 23, 25—27, 29—32 — Вароніна; 2, 3, 9—11, 13—15, 19, 20, 22, 24, 28, 34, 35, 37—39 — Велямічы-1; 4, 8, 12, 18, 33, 36 — Велямічы-2*



*Мал. 77. Кубкі і рэдкія тыпы посуду палескага варыянта зарубінецкай культуры: 1, 4, 6—8, 10, 14—17, 20, 22, 23, 25, 26 — **Велямічы-1**; 2, 3, 13, 18, 19, 21, 24, 27 — **Велямічы-2**; 5, 9, 11, 12 — **Вароніна***




*Мал. 78. Гаршкі верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры: 1—11, 13, 14, 16 — Чаплін; 12, 15 — Юркавічы*




*Мал. 79. Міскі і кубкі з Чаплінскага могільніка*




*Мал. 80. Прылады працы носьбітаў зарубінецкай культуры: 1 — шыла; 2 — рыбалоўны кручок; 3—5 — сярпы; 6 — астрога; 8 — нож для жніва; 7, 9 — нажы; 10—12 — праслiцы; 13 — тачыльны брусок; 14 — кельт; 15 — зерняцёрка; 16 — рагавая насадка ад рала (1—7, 9, 13, 14 — Чаплін; 8, 10—12, 15 — Велямічы-1; 16 — Уваравічы)*




*Мал. 81. Зброя носьбітаў зарубінецкай культуры: 1, 2, 4, 5, 8 — наканечнікі дроцікаў; 3, 9—11 — наканечнікі дзід; 6—7 — наканечнікі стрэл (1 — Струмень; 2, 6, 7, 8—11 — Чаплін; 3 — Давыд-Гарадок; 4 — Жлобін; 5 — Велямічы-1; 12 — Юркавічы)*




*Мал. 82. Фібулы латэнскіх тыпаў носьбітаў зарубінецкай культуры. Драцяныя і пласцінчатыя фібулы паводле класіфікацыі Ю. У. Кухарэнкі: 1 — тып Б; 2 — тып Е; 3—5 — тып Г; 6 — тып Д; 7 — тып В; 8, 9 — тып Л; 10 — фібула, блізкая да наухаймскіх; 11, 12 — тып Н; 13 — тып М; 14 — тып Ф; 15 — тып Т; 16 — тып Р; 17 — тып У; 18, 19 — тып О; 20 — тып С (1, 4, 5, 15 — Велямічы-1: 1 — пахаванне 108; 4 — пахаванне 70; 5 — пахаванне 60; 15 — пахаванне 47; 2, 3, 7 — Вароніна: 2 — пахаванне 29; 3 — пахаванне 16; 7 — пахаванне 25; 6, 8, 9, 11—14, 18—20 — Чаплін: 6 — пахаванне 7; 8, 9 — пахаванне 89; 11 — пахаванне 165; 12 — пахаванне 129; 13 — пахаванне 1; 14 — пахаванне 25; 18 — пахаванне 25; 19 — пахаванне 229; 20 — пахаванне 152; 10 — Семурадцы, пахаванне 21; 16, 17 — Атвержычы: 16 — пахаванне 1; 17 — пахаванне разбуранае)*




Мал. 83. Фібулы зарубінецкага тыпу: 1 — Атвержычы, пахаванне 80; 2, 3, 8 — Вароніна: 2 — пахаванне 9; 3 — пахаванне 4; 8 — пахаванне 19; 4, 9—11, 14 — Велямічы-2: 4 — пахаванне 14; 9 — пахаванне 25; 10 — пахаванне 24; 11 — пахаванне 32; 14 — пахаванне 23; 5—7, 12, 13 — Велямічы-1: 5 — пахаванне 50; 6 — пахаванне 88; 7 — пахаванне 49; 12 — пахаванне 103; 13 — пахаванне 103; 15—17 — Краснасельскі: 15, 16 — пахаванні; 17 — выпадковая знаходка, урочышча Піскаш



1...15,17
18
16

*Мал. 84. Упрыгожанні і дэталі вопраткі носьбітаў зарубінецкай культуры: 1, 3, 4—6, 19 — шпількі; 2 — пранізка; 7, 8 — падковападобныя фібулы; 9—11, 13 — падвескі; 12, 14, 17 — бранзалеты; 15 — бляшка; 16 — скаба; 18 — паясны набор (1, 3, 9 — Велямічы-2; 2, 14 — Вароніна; 4, 6, 10, 11, 13, 17 — Велямічы-1; 5, 12, 18, 19 — Атвержычы; 7, 8, 16 — Чаплін; 15 — Гарошкаў)*

Раздзел 6

# КІЕЎСКАЯ І ВЕЛЬБАРСКАЯ КУЛЬТУРЫ

## 1. КІЕЎСКАЯ КУЛЬТУРА

### Гісторыя вывучэння на Беларусі

Старажытнасці другой чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. выдзеліў у асобную культурна-гістарычную групу ўкраінскі археолаг В. М. Даніленка (Даниленко, 1976). Яны атрымалі назву кіеўскай культуры.

У Верхнім Падняпроўі першы помнік з матэрыяламі кіеўскай культуры (могільнік каля Новага Быхава) быў адкрыты яшчэ да рэвалюцыі Е. Р. Раманавым. У 1926—1927 гг. гэты могільнік даследаваўся І. А. Сербавым (Вяргей, 1992. С. 55). Сістэматычнае вывучэнне помнікаў кіеўскай культуры пачалося толькі з 1960 г. (раскопкі Л. Д. Побаля на селішчы і могільніку Абідня Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці). З 1967 па 1983 г. Л. Д. Побалем праводзіліся даследаванні селішча і могільніка каля в. Тайманава Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У апошнія гады мэтанакіраванае вывучэнне помнікаў кіеўскай культуры на Беларусі амаль не адбываецца, што звязана і з наступствамі Чарнобыльскай катарстрофы. Невялікія раскопкі праводзіліся толькі на асобных помніках некаторымі археолагамі (А. І. Драбушэўскі, Н. М. Дубіцкая, А. У. Ільюцік, А. А. Макушнікаў).

### Рассяленне. Паселішчы

Помнікі кіеўскай культуры вядомы на вялікай тэрыторыі: у Кіеўскай, Чарнігаўскай, Сумскай абласцях Украіны, Гомельскай і Магілёўскай абласцях Беларусі, Курскай і Белгародскай абласцях Расіі (усяго каля 200 помнікаў) (мал. 85:2). На такім вялікім абшары выдзелены чатыры крупныя тэрытарыяльныя групы: сярэдне- і верхнедняпроўская, дзісенская і лесвстэпавея левабярэжная. На тэрыторыі Беларусі размешчаны помнікі верхнедняпроўскай групы (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 19—21). Л. Д. Побаль значна пашырае арэал культуры на Беларусі і адносіць да яе 517 паселішчаў і 39 могільнікаў (Побаль, 1983. С. 37—40), што выклікала рэзкую крытыку (Митрофанов, 1986). Ёсць даследчыкі, якія вызначаюць матэрыялы кіеўскай культуры і на некаторых помніках на поўначы Беларусі (селішча каля г. п. Гарадок Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці) (Левко, Колосовский, 1990. С. 57—59). Але матэрыялы дадзенага помніка не ўведзены ў навуковы абарот, дв таго ж існуюць пытанні па яго датыроўцы і культурнай атрыбутацыі (Медведев, 1995а). Таму да ліку несумненных помнікаў кіеўскай культуры Беларусі можна аднесці толькі 16 помнікаў (Терпиловский, Абашина, 1982. С. 174—181, № 163—178). З улікам даследаванняў апошніх гадоў іх колькасць вагаецца каля 20 (мал. 85:1). Яны распаўсюджаны ў верхняй частцы басейна Дняпра прыблізна ад вусця Сажа на поўдні да Магілёва на поўначы.

На захадзе група абмежавана ніжнім цячэннем Бярэзіны, на ўсходзе — левымі прытокамі Сажа (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 21). Насельніцтва гэтай групы аказвала нязначны ўплыў на суседнія культуры, што бачна па матэрыялах гаразішча Лямніца Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці (Медведев, 1995а; Ён жа, 1995в). Трэба адзначыць, што маецца розніца ў матэрыяльнай культуры розных лакальных груп кіеўскай культуры (як па складу керамічнага комплексу, так і па асвбліеасцях домабудаўніцтва). Гэтыя рысы з'явіліся ў выніку асаблівасцей субстратных лозназарубінецкіх помнікаў, а таксама ўплыву суседзяў (для верхнедняпроўскай — верагодна, з боку культуры штрыхаванай керамікі) (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 22—23).

Паселішчы прадстаўлены ў асноўным селішчамі, якія размяшчаліся па берагах рэк на невысокіх узвышшах ў пойме і на надпоймавай тэрасе. Такое размяшчэнне адлюстроўвае накіраванасць гаспадаркі: пладародныя землі на тэрасах выкарыстоўваліся для ворнага земляробства, а пойма — для выпасу свойскай жывёлы. Паселішчы іншы раз размяшчаліся ў блізкасці 1—2 км адзін ад аднаго, утвараючы скапленні. Вядомы такія «гнёзды» ў бассейне Сажа і каля ракі Адаменкі (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 24—25). У некаторых месцах селішчы размешчаны побач з больш раннімі гарадзішчамі (Шчаткава) (Белорусская археология, 1987. С. 67).

Плошча большай часткі паселішчаў не перавышае 1—2 га. Забудова была рэдкай, таму культурны слой не мог быць магутным (не больш 0,3—0,4 м) і часта распаханы. На Беларусі селішчы выдзяляюцца сваімі памерамі. Так, паселішча і могільнік Абідня займае плошчу каля 6—7 га, вядомы паселішчы, якія маюць плошчу да 10 га. Яны могуць мець магутны слой (да 1 м), што сведчыць аб іх працяглым існаванні (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 26—27). Але матэрыялы з гэтых помнікаў (Абідня і Тайманава) не ўведзены ў навуковы абарот і не магчыма рэканструяваць іх планіроўку, хаця на іх даследаваны рэшткі амаль 300 жытлаў (Белорусская археология, 1987. С. 67).

На тэрыторыі Верхняга Падняпроўя выяўлены два тыпы жытлаў: паўзямлянкі і наземныя дамы слупавой канструкцыі. У Абідне і Тайманаве даследавана каля 80 паўзямлянак (Побаль, 1985. С. 404). Гэта прамавугольныя ў плане пабудовы плошчай 6—24 кв. м, паглыбленыя ў зямлю на 0,4—1,2 м. У тых выпадках, калі такія жытлы гінулі ў час пажару (Тайманава), былі выяўлены ў аснаванні бярвёны зруба і рэшткі падлогі з драўляных плах (Побаль, 1979. С. 36—37). Жытлы ацяпляліся вогнішчамі, якія былі складзены з камянёў (мал. 86а).

Асноўным тыпам жытлаў на паселішчах Паўднёва-Усходняй Беларусі былі пабудовы слупавой канструкцыі. Так, на селішчы Абідня, па дадзеных Л. Д. Побаля, знойдзены сляды каля 200 такіх жытлаў (ОАБ, 1970. Ч. 1. С. 173). На паселішчах даследаваны гаспадарчыя ямы розных памераў, размешчаныя як каля жытлаў, так і далёка ад іх. Яны, як правіла, выкарыстоўваліся для хранення запасвў ежы.

## Пахавальны абрад

Да гэтага часу ў арэале кіеўскай культуры вядома ўсяго 9 могільнікаў і 7 асобных пахаванняў (усяго каля 170 пахаванняў). У Верхнім Падняроўі вядомы грунтавыя магільнікі ў Абідні (12 пахаванняў), Тайманаве (каля 100), Новым Быхаве (колькасць невядома), Чырвонай Зорцы. Могільнікі не маюць

знешніх прыкмет і размяшчаюцца ў непасрэднай блізкасці ад паселішчаў, часта побач з жытламі. Характэрны пахаванні па абраду трупаспалення, якое адбывалася ў другім месцы. Рэшткі спалення (як з вуголлем і залой, так і без іх, чыстае) змяшчаліся ў круглыя ці падоўжаныя ямы глыбнёй 0,2—0,6 м (Мал. 86б). У Тайманаве знойдзены ўрнавыя пахаванні. У якасці ўрн выкарыстоўвалі ляпныя гаршкі. Некаторыя з іх накрываліся другім гаршком (як клёшам). У адным з пахаванняў знойдзены рэшткі пашкоджаннага агнём касцянога грэбеня чэрняхоўскага тыпу і плоская пацерка (Поболь, 1979. С. 37). У пахаваннях выяўлены цэлыя гаршкі ці іх абломкі, часам сустракаюцца прасліцы, пацеркі, падвескі, неабпаленыя косткі хатніх жывёлін (Белорусская археология, 1987. С. 67—68; Терпиловский, Абашина, 1992. С. 38—42).

Пахавальны абрад на значнай тэрыторыі кіеўскай культуры вельмі падобны. Ён мае значнае падабенства з пахавальнымі абрадамі розных культур (мілаградскай, зарубінецкай і пшэворскай). Найбольш верагодным прадстаўляецца складанне пахавальнага абраду на аснове верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры пры некаторым удзеле пшэворскай культуры (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 43—44).

## Матэрыяльная культура

Асноўную масу знаходак на паселішчах і могільніках кіеўскай культуры складае керамічны посуд. Большая яго частка была ляпным. Для помнікаў Беларусі характэрны грубаляпныя таўстасценныя гаршкі, якія Л. Д. Побаль па спосвбу апрацоўкі знешняй паверхні падзяляе на тры групы: гладкасценныя, с расчосамі і глянцаваныя. Гладкасценная і кераміка з расчосамі выкарыстоўвалася як кухонная ці тарная, глянцаваная — як сталовая. І таму большую частку керамікі складае гладкасценны посуд, сасуды з расчосамі — каля 10%, глянцаваныя — каля 5%.

Посуд падзяляецца на гаршкі, міскі і маленькія сасудзікі. Характэрная рысв керамічнага комплексу помнікаў тыпу Абідні — вялікія гаршкі да 50 см у вышыню (гаршкі для захавання запасвў).

Класіфікацыя керамікі кіеўскай культуры была распрацавана для двух рэгіёнаў (Сярэдняга Падняпроўя і Падзясення), пазней была зроблена больш універсальная схема (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 45—47). Супастаўленне розных тыпаў посуду з закрытых комплексаў (жытлы, пахаванні) дазваляе вызначыць асноўныя тэндэнцыі развіцця керамічнага комплексу для культуры і асобных лакальных груп. Але і тут адсутнасць прац па матэрыялах Верхняга Падняпроўя не дае зрабіць дакладных выведаў.

Так, керамічны посуд кіеўскай культуры падзяляецца на тры фазы. Для ранняй фазы характэрна перавага гаршкоў і карчаг тыпаў I 2, II 1, за якімі распаўсюджааюцца акруглабокія гаршкі з пашырэннем на сярэдзіне вышыні пасудзіны (тып I 3) ці падоўжаныя біканічныя гаршкі (тып II 2). Ранні комплекс Верхняга Падняпроўя (Абідня) акрамя сасудаў тыпу I 1 прадстаўлены баначнымі гаршкамі тыпу I 5, радзей акруглабокімі і цюльпанападобнымі формамі. Шыйкі сасудаў у гэты перыяд у асноўным высокія (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 48) (Мал. 87).

На сярэднюю фазу культуры прыпадае роскаіт керамічнага комплексу. У гэты час вядомы амаль ўсе названыя вышэй тыпы гаршкоў, але трэба адзначыць вялікае значэнне асобных формаў. Так, для Верхняга Падняпроўя (Абідня, Тайманава) — баначныя тыпу I 5. Шэраг характэрных формаў да-

зваляе суаднесці з верхнедняпроўскім лакальным варыянтам матэрыялы з паселішчаў Падзясення (Верхнястрыжанскае-3, Мена-5) (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 48).

Апошні этап культуры характарызуецца распаўсюджаннем прыземістых біканічных гаршкоў тыпу II 2 в, акруглабокіх тыпу I 3 б і прафіляваных тыпаў I 4 і I 5. Для верхняга Падняпроўя (Тайманава) тыповымі з'яўляюцца адносна слабапрафіляваныя акруглабокія, цюльпанападобныя і баначныя, а таксама біканічныя гаршкі (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 49—52) (мал. 88).

Паходжанне посуду кіеўскай культуры праследжваецца пры аналізе самых ранніх помнікаў. Адзначана яго блізкасць да позназарубінецкага I—II стст. і ў меншай ступені да зарубінецкага посуду I ст.

Акрамя керамікі на помніках кіеўскай культуры выяўлены своеасвблівы комплекс прылад працы і аздоб. Яны дазваляюць ахарактарызаваць асноўныя заняткі насельніцтва, узбраенне, касцюм.

Прылады працы ў большасці выпадкаў выраблялі́ся з жалеза і са сталі. Выкарыстоўваліся розныя тэхналагічныя схемы (Гурин, 1982. С. 101—102). Металаграфічнае даследаванне матэрыялаў з Абідні і Тайманава дазваляе канстатаваць наяўнасць дастаткова высокага ўзроўню тэхнікі апрацоўкі жалеза. Так, хаця ў Абідні адсутнічаюць вырабы з псеўдапакетнага металу і рэдка сустракаецца заарка (што магло быць вынікам наяўнасці ў майстроў высакаякаснага металу), майстры выкарыстоўвалі мясцовую цэментацыю і закалку (амаль кожны чацвёрты выраб). Гэта дазваляе гаварыць аб высокай якасці мясцовых вырабаў, што, магчыма, было вынікам уплыву тэхнікі чарняхоўскай культуры. На селішчы Тайманава шырока выкарыстоўвалася пакетаванне сыравіны для вырабу адказных прылад працы (сякеры, некаторыя тыпы нажоў, сярпы і іншыя вырабы) (Гурин, 1983. С. 97—98).

Знойдзена вялікая колькасць нажоў і праколак (Гурин, 1982. С. 43. Табл. 7). Пераважаюць нажы з прамой ці злёгку выгнутай спінкай і ўступамі пры пераходзе да чаранка. Даўжыня цэлых нажоў дасягала 10—12 см, аднак сустракаюцца і больш значных памераў — даўжынёй звыш 15 см (мал. 89:1—5).Такія вырабы адносяцца да групы II, па класіфікацыі Р. С. Мінасяна (Минасян, 1980. С. 69—70).

Праколкі зробпены св стрыжняў даўжынёй да 12 см. Вастрыё мае круглае сячэнне, а чаранок, на які насаджвалася дзяржанне, — квадратнае сячэнне.

Прыладамі для збору ўраджаю былі сярпы. Для Верхняга Падняпроўя характэрныя былі вырабы, якія мелі чаранок для мацавання дзяржання (Гурин, 1982. С. 64. Рис. 30:19, 55, 249, 250; Терпиловский, Абашина, 1992. С. 61) (мал. 89:9—12). Па гэтай прыкмеце сярпы з паселішчаў Верхняга Падняпроўя падобныя да культур лясной паласы Усходняй Еўропы. У той жа час на помніках астатніх груп выкарыстоўваліся сярпы з кручком на канцы дзяржання (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 61).

Для апрацоўкі дрэва выкарыстоўваліся сякеры (захавалася многа знаходак частак ляза) і долаты (Гурин, 1982. С. 65. Рис. 31:3, 34, 35, 37, 52, 73, 100, 222, 256).

Сярод знаходак прылады працы каваля сустракаюцца рэдка. Вядома знаходка малатка і прабойніка з Тайманава (Гурин, 1982. С. 54. С. 61. Рис. 29:211, 117).

Жалезныя іголкі з непашкоджаннымі вушкамі знойдзены на помніках кіеўскай культуры толькі ў некалькіх экземплярах, у тым ліку на Абідні, хаця, верагодна, выкарыстоўваліся вельмі шырока. Адзінкавай находкай прадстаў-

лены жалезныя спружынныя нажніцы (Абідня) даўжынёй каля 27 см (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 62).

Са знаходак бытавога прызначэння адзначым жалезныя брытвы з выгнутым пязом (Тайманава) (мал. 89:6—7) (Гурин, 1982. С. 69. Рис. 35:53, 94, 212), а таксамв крэсівы з пятпёй (мал. 89:8) (Абідня) (Гурин, 1982. С. 69. Рис. 35:258).

З прылад працы з каменя адзнвчым тачыпьныя брускі і жорны. Шырока выкарыстоўваліся тачыпьныя брускі, якія рабіпі з мелказярністага пясчаніка. Жорны вядомы і ў Верхнім Падняпроўі, алв найбольшая іх колькасць знойдзенв ў Падзясенні. Дыяметр камянёў для жорнаў складае каля 40 см, таўшчыня — да 10 см. Дадзеныя па жорнах з помнікаў Верхняга Падняпроўя не апублікаваны. Форма і мвтэрыял (вулканічны туф) жорнаў з іншых груп кіеўскай культуры (найпврш Падзясення) дазваляюць сцаярджаць, што жорны ў арэал кіеўскай культуры траппялі ад носьбітаў чарняхоўскай культуры (Терпиловский, Абашина, 1992. С.62).

Прыпады працы з гліны прадстаўпвны тыглямі, пьячкамі, формамі для піцця, грузіламі, прасліцамі. Так, тыглі ў выглядзе нввяпікіх канічных сасудзікаў для выплаўкі бронзы ці іх абпомкі быпі знойдвны на свпішчах Абідня і Твйманава. Знаходкі тыгляў з рэшткамі красхвватай шклопадобнай мвсы на сценках далі магчымасць гаварыць аб вырабе ў Верхнім Падняпроўі нават аздоб з вывмчатай эмалпю (ОАБ, 1970. Ч. 1. С. 180). Льячкі прадстаўлены ў выглядзе вырабаў, па формв падобных на пыжку з адтупінай для ўстаўпвння дзяржання (Абідня) (мал. 89:13) (Побопь, 1971а. С. 235. Рис. 8:6).

Выяўленыя грузілы прадстаўлены канічнымі ці пірамідальнымі вырабамі (Твйманава). Яны выкарыстоўваліся як груз для нацягвання асновы для вертыкальнага ткацкага станка.

Адным з важных этнакультурных паказальнікаў кіеўскай культуры з'яўпяюцца прасліцы. Яны мвюць біканічную форму і вяпікую адтупіну. Іх дыяметр вагаецца ад 2,5 дв 3 см, высата і дыяметр адтуліны — 1—1,5 см. Паверхня прасліцаў загладжана і часам глянцаваная (мал. 89:14, 15). Сустракавцца і арнамент у выглядзв наколаў, прадрапаных пігій (Терпиловский, Абвшина, 1992. С. 63—64).

Узбраенне і прылады воінскага рыштунку сустракаюццв на помніках кіеўскай культуры дастатковв рэдка. Твк, на селішчы Таймвнвва знойдзены два чаранковыя наканвчнікі стрэп і абломак пязв дзіды (Гурин, 1982. С.69. Рис. 36:33, 71, 114) (мал. 89:16—18). Адзін з наканечнікаў мае трохлапасцевае пяро рамбічнай формы (Гурин, 1982. С. 69. Рис. 36:33). Такія вырабы маюць еналогіі сярод старажытнасцей качэўнікаў (гунаў). Чатырохгранны наканечнік стралы вядомы з селішчв Абідня. Нв Тайманаве знойдзенв і бронзавая шпора сярэднвеўрапвйскага тыпу (Тврпиловский, Абашина, 1992. С. 65) (мал. 89:19).

Упрыгожанні і вырабы для ўбору з каляровега і чорнага металу нв помніках кіеўскай культуры ў рознай ступені блізкія да агупьнвеўрапейскіх тыпаў, таму не заўсёды мвгчыма вызначыць, з'яўляюцца яны вырабамі мясцовых майстроў ці зробпвны за мяжой.

Сярод упрыгожанняў асобав мвсца займаюць фібупы розных тыпаў (на помніках усёй культуры вядома каля 30 экз.). Усе яны двухчлвнныя, большасць належыць да арбалетных фібул з падвязной ножкай. Можна лічыць, што бронзавыя вырабы быпі прывезены з арэала чарняхоўскай культуры, а жалвзныя выраблвны на месцы. Больш раннія вырабы падвязныя, іх спінка выраблене з акругпвга ці гранёнага вузкага стрыжня (серыя А) (Абідня, Дзеднава). Больш позція фібупы адносяцца дв серыі Б са спінкамі склада-

нвга сячэння і да так звврных воінскіх (Твйманава) (мал. 90:1—3) (Гурин, 1982. С. 68. Рис. 33:196, 197, 245; Ипьютик, 1998. С. 30. Рис. 10:1, 1; Поболь, 1971в. С. 235. Рис. 8:9, 10; Терпиловский, Абашина, 1992. С. 67—68). Да вырабаў чарняхоўскага несельнітва можна аднесці фібулу з рамбічнай ножкай і суцэльным прыёмнікам (мал. 90:4) (Тврпиловский, Абашинв, 1992. С. 178. Рис. 49:5).

Для помнікаў Вврхняга Падняпроўя хврактэрны знаходкі жалвзных і бронзавых посахападобных шпілвк (Абідня, Тайманава) (больш за 20) (Гурин, 1982. С.68. Рис. 34; Поболь, 1971б). Яны маюць круглую вврхнюю частку, зробпвную се стрыжня рамбічнага сячэння (мап. 90:6, 7). Акрамя таго, 2 булвўкі такой формы сустрэты на помніках Падзясення (Кірэвўка, Лвўрыкаў Лес) (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 65). Але ўпрыгожанні з такімі асаблівасцямі формы сустракаюцца ў больш ранні час (I—II стст. н. э.) на помніках заходніх і ўсходніх балтаў (у тым ліку культуры штрыхаванай керамікі). І ад насельніцтва апошняй культуры гэта ўпрыгожаннв было пвранята носьбітамі кіеўскай културы Вврхняга Падняпроўя (Медведев, 1995б. С. 187—193).

Са знаходак падввсак пераважаюць нвввялікія вырабы трапвцападобнай формы, якія рабілі з тонкага бронзавага ліста (Абідня, Тайманава) (мал. 90:5) (Поболь, 1971а. С. 235. Рис. 8:12; Тврпиловский, Абашина, 1992. С. 65—67, 176. Рис. 48:4). Часам большыя вырабы такой формы былі аздоблвны чаканнымі выявамі (кружкі, лініі).

На помніках кіеўскай культуры (у тым ліку ў Верхнім Падняроўі) знойдзены жалезныя і бронзавыя спражкі да пояса. Адзначым двухчастковую спражку з Абідні (Поболь, 1971а. С. 235. Рис. 8:11) (мал. 90:8). Большвсць спражак (Абідня, Тайманава) мвюць акруглую рамку (мал. 90:9—11), што хврактэрна для познарымскага часу Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (Тврпиловский, Абашина, 1992. С.68).

Для Вврхняга Падняпроўя тыповымі з'яўляюцца рэчы з вывмчатай эмаллю. Так, у Абідні і Таймвнавв знойдзвны бронзввыя падвескі — пуніцы і фібулы з эмаллю чырвонага і іншых колврвў. Мвтэрыял аб гэтых знаходках амаль не публікаваўся (Поболь, 1970. С. 316. Рис. 8) і нават невядома іх дакладная колькасць на помніках (Тайманвва — каля 10, Абідня — не менш зв 4) (Тврпиловский, Абашина, 1992. С. 69). Большасць з іх прадстаўлены падвескамі-пуніцамі з гнёздамі для эмалі чырвонага колвру (мал. 90:12—14). Знаходкі плоскіх чырвоных пацврак, тыглаў з рэшткамі чырванаватай шклопадобнай масы на сценках далі магчымасць гаварыць аб вырабв тут такіх рэчаў (ОАБ, 1970. Ч. 1. С. 180).

Упрыгожанні, аздобленныя вывмчатай эмаллю, сустракаюцца нв вялікіх абшврах Цэнтральнвй і Усходняй Еўропы нв помніках многіх культур (ад Фінляндыі да Украіны, ад Польшчы да Паволжжа). Пытанні аб іх паходжанні і храналогіі маюць вялікую гістарыяграфію і, на наш погляд, яшчэ не вырашаны канчаткова. Алв ў арэале кіеўскай культуры вырабы гэтага стылю сустракаюцца ў пврыяд з II (мвгчыма, з другой паловы) да IV ст. (роскаіт у III ст.) (Тврпиловский, Абашинв, 1992. С. 70).

Акрамя таго, на тэрыторыю Вврхняга Падняпроўя траплялі імпартныя рэчы з тэрыторыі Рымскай імперыі. Так, рымскія бронзавыя манвты імператарвў Гвты (209—212 гг.) і Мврка Аўрэлія (161—180 гг.) былі знойдзвны на селішчах Абідня і Дзеднвва (Ипьютик, 1998. С. 30; Поболь, 1971в. С. 234. Рис. 7:1). З астатніх рэчаў адзначым чырваналакавую кераміку, фрагменты бронзавых сасудаў (ручка з Абідні) (Поболь, 1970. С. 314. Рис. 7:5), шкляныя пвцеркі розных тыпвў (Терпиловский, Абашинв, 1992. С. 72—73).

## Датаванне і перыядызацыя

Храналогія кіеўскай культуры вызначаецца перш за ўсё на падставе датавання знаходак позньрымскіх тыпаў імпартнага ці мясцовага паходжання. Аднак яны ў комплексах дастаткова рэдкія, таму для датыроўкі выкарыстоўваюць датаваныя знаходкі ў аб'ектах з культурных слаёў помнікаў, стратыграфічныя назіранні, тыпалагічна-храналагічны аналіз керамікі і т. п. Удакладненню храналогіі кіеўскай культуры дапамагае вывучэнне папярэдніх і наступных старажытнасцей.

Так, ніжняя мяжа вызначаецца фінальнай чвсткай позназарубінецкіх помнікаў I—II стст. н. э. (тыпу Грыні-Воўкі). Набор рэчаў з гэтых паселішчаў датуецца другой паловай II ст. н. э., і таму помнікі кіеўскай культуры, якія змяняюць гэтыя помнікі, пачынаюць існаваннв з мяжы II—III стст. н. э.

Верхняя мяжа вызначавцца помнікамі калочынскіх і пянькоўскіх культур, якія змяняюць кіеўскую ў межах V ст. н. э. (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 77—78).

Агульная ж датыроўка кіеўскай культуры вызначавцца як сума датыровак асобных помнікаў у мвжах ад канца II — пачатку III да пачатку — сярэдзіны V ст. н. э.

У храналогіі выдзялявюцца тры пврыяды, якія часткова накладваюцца адзін на аднаго. Для ранняга этапу (канец II—III ст.) характэрны набор рэчаў (у тым ліку з эмаллю, правінцыяльна-рымскі імпарт) і асаблівасці матэрыяльнай культуры (перажываннв позназарубінецкіх рыс у кераміцы, адсутнасць чарняхоўскага імпарту). На сярэднім этапв (сярэдзіна III—IV ст.) пачынаюцца кантакты з насельніцтвам чарняхоўскай культуры, хаця для паўночных груп (у тым ліку верхнедняпроўскай) захоўваюцца кантакты і з паўночнымі і паўночна-заходнімі культурамі.

Позні этап кіеўскай культуры (другая паловв IV — першая палова V ст.) хврактарызуецца кантактамі з чарняхоўскай культурвй і з'яўленнем некаторых рыс, хврактэрных для раннвсярэдневяковых старажытнасцей (калочынскай і пяньроўскай культурам) (Тврпиловский, Абвшинв, 1992. С. 86—89).

Для вызначэння храналогіі помнікаў Ввхняга Падняпроўя найбольш паказальныя комплексы рэчаў з Абідні і Тайманава. Нв жаль, вельмі сціплыя публікацыі даюць магчымасць толькі меркавць, што Абідня датуецца больш раннім часам, чым Тайманава. З Абідні паходзіць шэраг правінцыяльна-рымскіх рэчаў II—III стст. (шкляныя пацеркі, чырваналакавы посуд, фібулы-брошы з эмаллю, бронзавая манвта пачатку III ст. і інш.), а таксама раннія луніцы з эмаллю, жалезныя фібулы серыі А, двухчастковая спражка тыпу D. Усё гэта дазваляв датаваць селішча і могільнік Абідня III — пвршай паловай IV ст. н. э., а магчыма, і больш раннім часам (Тврпиловский, Абашина, 1992. С. 84—85).

На Тайманаве побач з рэчамі ранніх тыпаў сустрэты знаходкі чарняхоўскага імпарту (касцяны грэбень, бронзавыя пінцэты, спражкі, фібулы). Помнік існаваў і на познім этапе кіеўскай кульутры (да V ст.) (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 85).

## Паходжанне і гістарычны лёс насельніцтва кіеўскай культуры. Этнічная прыналежнасць

Пвходжанне кіеўскай культуры вывучанв толькі ў агульных рысах і патрвбув далвйшых даследаванняў. Трэба адзначыць, што новая культура захавалв толькі асобныя рысы зарубінвцкай культуры, што не дазваляв разглядаць яв як просты працяг развіцця гэтай культуры, яе позназарубінецкі

этап (Даниленко, 1976. С. 65—66; Поболь, 1969. С. 105—108). Справа ў тым, што распад зарубінецкай культуры адбываецца ў 40—70-х гадах н. э. (Обломский, Терпиловский, 1991. С. 10—11). А кіеўская культура, як ужо адзначалася, узнікае толькі ў канцы II ст. Такім чынам, паміж знікненнем зарубінецкай і фарміраваннем кіеўскай культуры назіраецца значны хіатус (больш стагоддзя). Толькі ў апошнія гады пашырана крыніцазнаўчая выснова старажытнасцей I—II стст., на тэрыторыі якіх пазней распаўсюдзіліся помнікі кіеўскай культуры. Але гэтыя матэрыялы паходзяць з-за межаў Беларусі (Обломский, Терпиловский, 1991).

Так арэал кіеўскай культуры быў заселены насельніцтвам познезарубінецкай фазы I—II стст. (тыпу Люцежа і Абалоні ў Сярэднім Падняпроўі, Почапа ў Падзясенні, Картамышава-2 і Цярноўкі-2 на тэрыторыі Дняпроўскага Левабярэжжа). Акрамя зарубінецкіх традыцый дадзеныя помнікі маюць і другія культурныя элементы (юхнаўскія ў Падзясенні, пшэворскія — у Левабярэжжы) (Обломский, Терпиловский, 1991. С. 103). Не выключаны ўдзел і іншых культур (магчыма, вельбарскай у Падзясенні). Да сярэдзіны II ст. адносяць узнікненне на Сярэднім Падняпроўі, Падзясенні і Дняпроўскім Левабярэжжы помнікаў тыпу Грыней, што было вынікам міграцыі насельніцтва з Верхняга Падняпроўя (зарубінецкая група Чачэрск—Кісцяні), якое знаходзілася пад уплывам носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі (Обломский, 1996; Обломский, Терпиловский, 1991. С. 103—104). Трэба адзначыць, што паступова гэтыя паўночныя рысы знікаюць у матэрыяльнай культуры насельніцтва больш паўднёвых частак арэала. Такім чынам, на думку многіх археолагаў, насельніцтва Верхняга Падняпроўя прымала значны ўдзел у працэсах фарміравання кіеўскай культуры (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 94).

Аднак, на наш погляд, думка аб удзеле насельніцтва Верхняга Падняпроўя ў фарміраванні гарызонту Грыні-Воўкі патрабуе больш дакладных доказаў. Справа ў тым, што помнікі зарубінецкай культуры і ў Верхнім Падняпроўі знікаюць таксама ў 40—70-х гадах н. э. (Дробушевский, 1993. С. 33; Обломский, 1983. С. 19). І толькі адзіны помнік, на якім бачны пераходныя рысы (могільнік Юркавічы), датуецца I ст. да н. э. — I ст. н. э. (Дробушевский, 1996. С. 123). Такім чынам, існуе хіатус каля 50 гадоў паміж зарубінецкімі помнікамі Верхняга Падняпроўя і паселішчамі тыпу Грыні-Воўкі.

Увогуле на сённяшні дзень мы не маем дакладных помнікаў познезарубінецкага тыпу на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя. Гэта, як і адсутнасць якасных публікацый матэрыялаў раскопак Абідні і Тайманава, не дае магчымасць вывучыць працэс фарміравання насельніцтва верхнедняпроўскага варыянта.

Для працэсу фарміравання кіеўскай культуры характэрна складаная перабудова традыцый розных мясцовых груп познезарубінецкіх старажытнасцей, якая ўскладнялася заходнімі і паўночнымі ўплывамі. Таму новая культурная група захавала толькі асобныя рысы класічнай зарубінецкай пры ўліку асноўных кірункаў сацыяльна-эканамічнага развіцця насельніцтва. Гэта дазваляе разглядаць помнікі кіеўскага тыпу як самастойную археалагічную культуру (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 94—95).

Далейшы лёс культуры бачны пры параўнальным аналізе з раннесярэдневяковымі культурамі паўднёвай часткі Усходняй Еўропы. Лічыцца амаль абгрунтаванай генетычная сувязь паміж кіеўскай і калочынскай культурамі. Гэта даказваецца даволі дакладным супадзеннем арэалаў, значным падабенствам элементаў матэрыяльнай культуры і наяўнасцю пераходных помнікаў V ст. Найбольш выразна прасочваецца падабенства помнікаў позняга

этапу кіеўскай культуры Падэясення з калочынскімі (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 95—96). У паўднёвай частцы арэала кіеўскай культуры складаецца пянькоўская культура, прычым носьбіты кіеўскай з'яўляюцца асноўным яе субстратам (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 97). Аднак для паўночнай, верхнедняпроўскай, групы кіеўскай культуры нв ўсё так адназначна. Тут трэба дадаць, што з-за адсутнасці апублікаваных матэрыялаў на Беларусі працэс фарміравання калочынскай культуры на высне кіеўскай не прасочаны, хаця на селішчы Тайманава прысутнічаюць матэрыялы абедзвюх культур.

Этнічная прыналежнасць носьбітаў кіеўскай культуры вызначаецца таксама не адназначна. У гістарыяграфіі пераважае думка аб яе славянскім этнасе (Терпиловский, Абашина, 1992. С. 97), хаця нашчадкі калочынскай культуры і не маюць прамога выхаду на культуру старажытнай Русі (Археология... 1986. С. 174). Славянамі (ці праславянамі) лічыць носьбітаў гэтай культуры і М. Б. Шчукін, хаця яго гіпотэза больш складаная (Щукин, 1994. С. 280—286). У той жа час В. В. Сядоў упэўнена адносіць насельніцтва кіеўскай культуры да балтаў (Седов, 1994.С. 279—282).

## 2. ПОМНІКІ ВЕЛЬБАРСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Помнікі вельбарскай культуры распаўсюджаны па тэрыторыі Паўночна-Усходняй Польшчы, Паўночна-Заходняй Украіны (да ракі Гарынь на ўсходзе), Паўднёва-Заходняй Беларусі. Яе назва паходзіць ад аднаго з першых шырока даследаваных могільнікаў каля мястэчка Вельбарк (Мальборк-Вельбарк) у ніжнім Павісленні. Асобныя помнікі вельбарскай культуры адкрыты даўно. Спачатку іх аб'ядноўвалі пад назвай венедскай ці гота-гепідскай культуры. Пэўны час іх звязвалі з оксыўскімі старажытнасцямі, пазней К. Гадлоўскі (Godłowski, 1970. S. 31) вылучыў памянёныя помнікі ва ўсходне-паморска-мазавецкую групу. Канчаткова старажытнасці рымскага перыяду Польскага Памор'я вызначыў як асобную культурную з'яву пад назвай «вельбарская» Р. Валангевіч (Wołągeiwicz, 1974). Ён падсумаваў назапашаны матэрыял і адзначыў, што фарміраванне і эвалюцыя вельбарскай культуры складаны працэс, які мав пэўныя змены ў прасторы і часе. На тэрыторыі к захаду ад Віслы, дзе з II ст. да н. э. існавала оксыўская культура, у пачатку I ст. н. э. з'яўляюцца пахавальныя помнікі новага тыпу. Для памянёнай культуры характэрны грунтавыя могільнікі з трупаспаленнямі ў ямках. Новае насельніцтва хавае нябожчыкаў пад курганамі, збудаванымі з камянёў, а падчас насыпы яшчэ дадаткова абкладваліся каменнымі кругамі. Зафіксавана таксама з'яўленне каменных вымастак над грунтавымі пахаваннямі. Падобныя пахавальныя помнікі маюць аналагі толькі ў Скандынавіі (Wołągiewicz, 1981. S. 79—107). Адзначана, што грунтавыя і курганныя пахаванні з камянымі насыпамі, кругамі і стэламі характэрны для абмежаванай групы помнікаў тыпу Одры-Венсёры (Walenta, 1981. S. 3—95). З цягам часу пад уздзеяннем традыцый мігрантаў оксыўская культура трансфармуецца ў вельбарскую. Польскія даследчыкі мяркуюць, што культура існавала ад пачатку ранняга рымскага перыяду да эпохі перасялення народаў, і датуюць яе I—V стст. н. э. (Prahistoria... 1981. S. 143). Вылучана дзве фазы развіцця вельбарскай культуры. Старэйшая фаза названа любавідскай па найбольш выразных матэрыялах з могільніка Любавідзы ў Слупскім ваяводстве. Помнікі гэтай фазы датуюцца 50—150 гг. Яны пашыраны на тэрыторыі Сярэдняга і

Усходняга Памор'я (ад Дравы і Рэгі на захадзе да Пасленкі на ўсходзе) і Паўночнай Вялікапольшчы (Wołągiewicz, 1995). Малодшая фаза — цэцэльская (атрымала назву ад могільніка Цэцэле ў Беластоцкім ваяводстве) датуецца другой паловай II—V стст. н. э. (Prahistoria... 1981. S. 165—178). У гэты перыяд назіраецца міграцыя вельбарскага насельніцтва на паўднёвы ўсход, уздоўж Віслы і Заходняга Буга. Адзначаецца адток вельбарцаў з тэрыторыі Сярэдняга Памор'я і пашырэнне іх помнікаў на Усходнім Памор'і, Куявіі, Правабярэжнай Мазовіі, Падляшшы, Палессі і Валыні. На тэрыторыі Беларусі і Украіны старажытнасці вельбарскай культуры іншы раз называюць помнікамі тыпу Брэст-Трышын-Дытынічы.

У розных аб'ёмах на тэрыторыі Украіны даследаваны могільнікі ў Дытынічах (Смішко, Свешнікаў, 1961. С. 89—113), Любомлі, асобныя пахаванні каля вёсак Дзеравяннае і Рудка (Кухаренко, 1980. С. 77—86), Магілянах-Хмельніку, Горкай Палонцы, Гарадзішчы, Шумскім, Калесніках і інш. (Этнокультурная карта... 1985. С. 69). Значныя матэрыялы цэцэльскай фазы вельбарскай культуры атрыманы на селішчах Лепясоўка (Тиханова, 1963. С. 178—191; Яна ж, 1966. С. 209—214), Рамаш (Крушельницька, Оприск, 1975. С. 75—80), Вялікая Слабодка-2 на Сярэднім Днястры (Козак, Журко, 1983. С. 62—71), Барацін на Стыры (Козак, 1989. С. 169—181), Шэршні на Паўднёвым Бугу (Магомедов, 1964. С. 289), Вікніны Вялікія (Смішко, 1947. С. 111—121), Загаі-2 (Козак, 1992. С. 72), Глеваха на Сярэднім Дняпры (Терпиловский, 1984. С. 333—334). На тэрыторыі Польшчы і Украіны вельбарская культура вядома на аснове вывучэння паселішчаў і могільнікаў, прычым на тэрыторыі Польшчы больш даследаваліся могільнікі, а на Украіне выяўлены значныя матэрыялы і на паселішчах.

Паселішчы вальбарскай культуры неўмацаваныя. Яны размяшчаліся на высокіх першых або другіх тэрасах рэк ці на мысавых выступах над поплавам (Козак, 1992. С. 73). Дакладных дадзеных аб іх памерах і сістэме планіроўкі пакуль няма. На паселішчах выяўлены жытлы, гаспадарчыя пабудовы, ямы-скляпы. Жытлы былі наземнымі і паглыбленымі ў мацярык. Яны мелі гліняна-каркасныя сцены, ад якіх захаваліся завалы абмазкі з адбіткамі галля. У плане наземныя жытлы былі прамакутна-падоўжанымі, арыентаванымі па лініі захад—усход. Іх плошча вагалася ад 60 да 120 кв. м. Падзяляліся сценамі-перагародкамі на даа памяшканні. У жылой частцы прасочвавецца моцна ўтрамбаваная падлога і агмень (зрэдку печ) пасярэдзіне. Другая частка выкарыстоўвалася ў якасці гаспадарчага памяшкання. Мяркуюць, што жытлы мелі двухсхільную страху з саломы і хмызу, якая абапіралася на слупы, пастаўленыя ў тарцовых сценах. Аналагі вялікім наземным жытлам вельбарскай культуры на Украіне і Польшчы назіраюцца на тэрыторыі Скандынавіі. Акрамя вялікіх на Украіне адкрыты і малыя наземныя жытлы плошчаю 9—16 кв. м, якія звязваюцца з домабудаўнічымі традыцыямі пшэворскага і чарняхоўскага насельніцтва.

Паглыбленыя ў мацярык на 0,3—0,6 м паўзямлянкі выяўлены толькі на вельбарскіх паселішчах Валыні і Падоліі. Яны маюць блізкую да авальнай, прамакутную або трапецападобную ў плане форму. Іх плошча дасягае да 20 кв. м. Рэшткі ацяпляльных пабудоў адсутнічаюць, толькі ў адным жытле з паселішча Баратын ускрыта невялічкая печ, складзеная з гліняных валікаў (Козак, 1992. С. 77). Характэрнай асаблівасцю паглыбленых жытлаў з'яўляецца наяўнасць вялікай колькасці слупавых ям па іх перыметру. Падобныя жылыя пабудовы сустракаюцца ў арэале пшэворскай культуры.

Гаспадарчыя пабудовы злёгку паглыбленыя ў мацярык, маюць блізкую да авала або прамакутніка форму, іх плошча складае ад 6 да 44 кв. м. Ямысхілы круглыя або авальныя ў плане, дыяметрам 0,7—2,2 м і глыбінёю 0,6—2,1 м (Козак, 1992. С. 81). Іх сценкі вертыкальныя або злёгку звужаюцца да нізу, дно звычайна плоскае. У большасці выпадкаў ямы размяшчаліся побач з жытламі.

Пахавальны абрад носьбітаў вельбарскай культуры характарызуецца пэўнымі асаблівасцямі. На пачатковым этапе любавідскай фазы зафіксаваны трупаспаленні і трупапалажэнні ў грунтавых могільніках. Трупаспаленні ямныя і ўрнавыя з рэшткамі вогнішча. Трупапалажэнні адбываліся ў прамакутных ямах, зрэдку ў дамавінах з калоды. Пад канец старэйшай фазы з'яўляюцца каменныя курганы, вымасткі, кругі і стэлы. У пахавальным інвентары адсутнічае зброя (Walenta, 1981. S. 3—95). На цэцэльскай стадыі развіцця культуры знікаюць каменныя курганы і стэлы, захоўваецца біртуалізм пры яўнай перавазе абраду трупаспалення па-за межамі пахаванняў. Узнікаюць могільнікі з выразным падзелам на жаночую і мужчынскую часткі або асобныя для мужчын і жанчын. Урнавыя пахаванні нешматлікія. Пад урны выкарыстоўваліся ляпныя і ганчарныя гаршкі, радзей міскі і збаны. Інвентар урнавых пахаванняў звычайна больш багаты. З цягам часу ў вельбарскіх старажытнасцях з'яўляюцца выразныя кампаненты пшэворскай культуры — наяўнасць сасудаў-прыставак у пахаваннях, карамікі з другаразовым абпалам і керамікі пшэворскіх тыпаў, некаторыя рысы домабудаўніцтва і інш. (Prahistoria... 1981. S. 165—190; Кухаренко, 1980; Козак, 1992. С. 101—103; Садов, 1994. С. 226).

На помніках вельбарскай культуры сустракаецца ляпны і ганчарны посуд пры перавазе першага. Ён прадстаўлены гаршкамі, міскамі, збанамі, вазамі і кубкамі, каліхамі (Schindler, 1940). Выяўлены прылады працы (матыкі, косыгарбушы, шылы, долаты, нажы, тыглі), зброя і рыштунак вершніка (шпоры, наканечнікі стрэл, дзідаў), праспіцы, грузілы, гліняныя «хлябцы», шкляны посуд, дэталі касцюма і ўпрыгожанні (фібулы, паясныя спражкі, шпількі, наканечнікі папруг, шкляныя і бурштынавыя пацеркі і інш.), трохчасткавыя касцяныя грабяні.

Дыскусійным з'яўляецца шэраг праблем вельбарскай культуры: храналогія (перш за ўсё помнікаў, размешчаных на ўсход ад Заходняга Буга), генезіс, этнічны склад яе носьбітаў, суадносіны з чарняхоўскімі старажытнасцямі.

Як ужо адзначалася, польскія даследчыкі датуюць вельбарскую культуру ў цэлым I—V стст. н. э., а яе старэйшую любавідскую фазу 50—150 гг. н. э. (Prahistoria... 1981. S. 143). На ўсходнім беразе Заходняга Буга вельбарскае насельніцтва з'яўляецца на цэцэльскай стадыі развіцця культуры, хутчэй за ўсё пасля 170 г. н. э. (Кухаренко, 1980. С. 62; Szcukin, 1981. S. 143; Козак, 1992. С. 101). У IV ст. н. э., на думку ўкраінскіх даследчыкаў, помнікі вельбарскай культуры на тэрыторыі Валыні і Падоліі знікаюць (Этнокультурная карта... 1985. С. 74; Козак, 1992. С. 101). Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1980. С. 75) пічыў, што найбольш познія помнікі вельбарскай культуры адначасова з'яўляліся і самымі раннімі помнікамі чарняхоўскай, якую ён называў трэцяй, ці апошняй, стадыяй развіцця вельбарскай культуры. Падобнага пункту погляду прытрымліваюцца і М. Б. Шчукін (Schukin, 1981. S. 156—160), К. Гадлоўскі (Gadłowski, 1985. S. 146—149), І. Вернер (Вернер, 1972. С. 102—114). Выснову аб галоўнай ролі вельбарскай культуры ў фарміраванні чарняхоўскіх старажытнасцей адвяргае Д. Н. Козак (Козак, 1982. С. 127—130). Ён да-

водзіць, што вельбарскія старажытнасці нароўні з мясцовымі элементамі сталі адным з культурна-этнічных элементаў чарняхоўскай культуры.

Неадназначна вырашаюцца пытанні генезісу і этнасу вельбарскай культуры. На любавідскай стадыі развіцця на тэрыторыі Польшчы яна яшчэ мае рысы, якія заязваюць яе з оксыўскімі старажытнасцямі і Скандынавіяй, дзе і шукаюць генетычныя карані вельбарскай культуры (Prahistoria... 1981. S. 165—190). Д. Н. Козак лічыць, што ў фарміраванні вельбарскай культуры прыняло ўдзел і насельніцтва ясторфскай культуры (Козак, 1992. С. 71). У далейшым назіраецца міграцыя вельбарскага насельніцтва ў паўднёва-ўсходнім кірунку. Пад час пашырэння тэрыторыі ў характары культуры назіраюцца пэўныя змены, звязаныя з уключэннем іншакультурных элементаў: заходнебалтыйскіх, пшэворскіх, сармацкіх, чарняхоўскіх (Prahistoria... 1981. S. 143—190; Седов, 1994. С. 222—231; Kokowski, 1995. S. 5—65; Козак, 1992. С. 101—103). Большасць даследчыкаў вылучае дзве хвалі перасялення вельбарскага насельніцтва з узбярэжжа Балтыкі ў Прычарнамор'е. Пачатак першай датуецца сярэдзінай II ст. н. э., калі перасяленцы займаюць ніжняе і сярэдняе Пабужжа, а к канцу гэтага ж стагоддзя дасягаюць Валыні і Падоліі. Другая хваля міграцыі адзначаецца ў сярэдзіне III ст. і звязана з паяўленнем колькасці вельбарскіх могільнікаў і паселішчаў на Мазовіі, Падляшшы і Валына-Падольскім раёне (Кухаранко, 1980. С. 67—77; Этнокультурная карта... 1985. С. 75; Седов, 1994. С. 222—232). Існуе і іншы погляд на характар рассялення вельбарскага насельніцтва, выказаны В. Барбраўерам (Bierbrauer, 1982. С. 20—23) і падтрыманы А. Какоўскім (Kokowski, 1995. С. 61). Згодна з іх канцэпцыяй, вельбарская каланізацыя новых абшараў адбывалася паступова і бесперапынна, прычым невялікія групы піянераў-перасяленцаў папярэдне рыхтавалі ўмовы для перамяшчэння асноўнай масы сваіх супляменнікаў.

Амаль усе даследчыкі адзначаюць поліэтнічны характар вельбарскай культуры. Побач з готамі, якія сталі галоўным звяном культуры, у яе склад увайшлі гепіды, вандэлы, бургунды і інш. (Кухаренко, 1980; Godłowski, 1985; Козак, 1992. С. 70—103; Седов, 1994. С. 222—232).

На тэрыторыі Паўднёва-Заходняй Беларусі адкрыта звыш 10 помнікаў і месцазнаходжанняў вельбарскай культуры (мал. 95). Яны размешчаны па берагах рэк Заходні Буг, Лясная, Мухавец, Прыпяць, Ясельда, Гарынь. У канцы мінулага стагоддзя К. Ягмін (Iagmin, 1882. S. 98—100) адкрыў і апісаў рэшткі вельбарскага могільніка каля в. Скорбічы (Дружба) на рацэ Лясной. Падобны помнік зафіксаваны М. Беляшэўскім (Беляшевский, 1901. С. 673—713) каля в. Збунін на ўсходнім беразе Заходняга Буга. У 1936 г. Г. Гааке правёў невялікія раскопкі на левым беразе Ясельды каля в. Хомск ва ўрочышчы Гарадзец. Сярод матэрыялаў 1-га тысячагоддзя ён знайшоў дзве фібулы III—IV стст. (Поболь, 1979. С. 87. Мал. 54, 55). У пасляваенны час вельбарскія пахаванні выяўлены пры даследаванні зарубінецкіх могільнікаў: 10 — на могільніку Велямічы-1, 2 — на могільніку Велямічы-2 (Кухаранко, 1961. С. 18). Асобныя рэчы, якія, відаць, паходзяць са зруйнаваных вельбарскіх пахаванняў, знойдзены К. В. Каспаравай (Каспарова, 1976. С. 52; Яна ж, 1989. С. 274—275) на зарубінецкім могільніку Атвержычы. Найбольш даследаваным помнікам вельбарскай культуры на Беларусі з'яўляецца могільнік у Брэст-Трышыне на рацэ Мухавец, дзе Ю. У. Кухарэнка ў 1961—1965, 1977 гг. раскапаў 75 пахаванняў і 8 ям з попелам і камянямі. Матэрыялы, звязаныя з вельбарскай культурай, выяўлены на селішчах каля вёсак Радасць і Пятровічы (Поболь, 1983. С. 105, 102), Лемяшэвічы (Вергей, 1994б. С. 131—151), Блювінічы,

Кругаль (Вяргей, Кудрашоў, 1994. С. 116—120), Струга-1 (Вяргей, 1994а. С. 63—85). На пясках каля в. Хільчыцы А. Каваленя і С. Шутаў (Працы... 1930. С. 360) знайшлі бронзавую арбалетападобную фібулу з падвязным прыёмнікам, якую Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1961. С. 18, 61) аднёс да III—IV стст. і звязаў з насельніцтвам вельбарскай культуры.

Агульныя пытанні вельбарскай культуры на Беларусі, і перш за ўсё праблемы храналогіі, разглядаліся ў працах Ю. У. Кухарэнкі (Кухаренко, 1961. С. 16—19; 1980) і К. В. Каспаравай (Каспарова, 1989. С. 263—282).

Выяўленыя помнікі вельбарскай культуры на Беларусі размешчаны на Заходнім Палессі і займаюць тэрыторыю, абмежаваную на захадзе Заходнім Бугам, на поўначы — Ясельдай, на усходзе — Гарынню, і на поўдні спускаюцца на Украіну. Вядома 8 селішчаў з матэрыяламі вельбарскай культуры, якія размяшчаюцца па краю надпоймавай тэрасы (Радасць, Кругель, Струга-1) або на ўзвышшы ў пойме (Лемяшэвічы, Пятровічы, Блювінічы). Сабраныя на іх матэрыялы абмяжоўваюцца практычна павярховымі зборамі, толькі на двух паселішчах выяўлены аб'екты вельбарскага часу. На шматслойным паселішчы Блювінічы даследаваны размешчаны на мацерыку ліраподобны ў плане глінабітны агмень дыяметрам 1,1 м, разверынуты вусцем на паўднёвы ўсход. У яго запаўненні знойдзена прыдонная частка кружальнай міскі чорнага колеру з рудымі плямамі і фрагменты сценак ад 3—4 ляпных гаршкоў з дамешкамі жарствы ў цесце. Да вельбарскай культуры адносяцца знойдзеныя ў культурным пласце абломкі ляпных гаршкоў з храпаватай паверхняй ці толькі храпаватымі палоскамі па тулаву, з паверхняй, падгпянцаванай звонку і знутры, карычнева-бежавага або карычнева-чырванаватага колеру. Да гэтага перыяду адносіцца таксама посуд з прачосамі і Х-падобнымі вушкамі. Прасочваецца змяшэнне пшэворска-вельбарскіх традыцый на прыкладзе знаходак фрагментаў плаўна-рабрыстых місак з гранёнымі венцамі.

На селішчы Струга-1 да вельбарскай культуры можна аднесці пабудову № 4. Яна прамакутная ў плане памерам 2,7 × 3 м, паглыблена ў мацярык на 0,3 м. Па перыметру паўднёвай сценкі прасочана слупавая яма, а ў падлозе каля заходняй сценкі выяўлена прамавугольная яма глыбінёй 0,3 м і памерам 0,9 × 1 м. У запаўненні пабудовы знойдзены звыш 100 абломкаў ляпной керамікі шэрага і шэра-бежавага колеру, фрагменты глянцаванай керамікі чорнага і карычневага колераў, прыдонная частка чорнаглянцаванай танкасценнай місачкі на невысокай кругавой ножцы, 3 гліняныя біканічныя праслiцы з шырокай адтулінай. Сляды ацяпляльнай сістэмы ў пабудове не выяўлены (мал. 94:11—14).

На Беларусі выяўлены толькі бескурганныя могільнікі вельбарскай культуры. Размяшчаліся яны на плоскіх краях надпоймавых тэрас або на невысокіх узвышшах. Ёсць могільнікі, дзе ўскрыты толькі вельбарскія пахаванні (Брэст-Трышын), каля Скорбіч яны змяшчаліся побач з магіламі паморскай культуры, а ў Велямічах-1 і Велямічах-2 знаходзіліся на зарубінецкіх могільніках (Кухаренко, 1961. С. 18). Рэшткі надмагільных канструкцый не прасочаны. Пахаванні адбываліся па абраду трупаспалення ў невялікіх акруглых і авальных ямках дыяметрам у асноўным 0,3—0,8 м і глыбінёй да 1 м (мал. 91). Пераважаюць ямныя пахаванні. Урнавыя пахаванні нешматлікія і зафіксаваны толькі на могільніку Брэст-Трышын. У якасці ўрнаў у большасці выпадкаў выкарыстоўваліся звычайныя ляпныя гаршкі, радзей — міскі і вазападобныя сасуды. У значнай колькасці ў ямных і ў меншай ступені ў урнавых пахаваннях знаходзіліся рэшткі вогнішча — вугаль і попел. Само трупаспаленне ад-

бывалася за межамі пахаванняў. У асобных выпадках у пахаваннях знаходзілі адзінкавыя камяні-валуны. Амаль ва ўсіх пахаваннях знойдзены пашкоджаныя агнём рэчы: фрагменты посуду, упрыгожанні, дэталі касцюма, побытавыя рэчы. Найбольш тыповы набор прадметаў — гліняны сасуд, фібула, касцяны грэбень. Зброя ў пахаваннях адсутнічала. Урнавыя пахаванні некалькі багацейшыя за ямныя, але самі рэчы не адрозніваюцца. Наяўнасць урнавых пахаванняў, сасуды-прыстаўкі, посуд другаразовага абпалу ў магілах вельбарскага насельніцтва звязваюць з пахавальнымі традыцыямі носьбітаў пшэворскай культуры. На могільніку ў Брэст-Трышыне даследавана некалькі вялікіх ям з попелам, каменнем і фрагментамі посуду ў іх. Яны размяшчаліся сярод пахаванняў. Падобныя ямы лічаць ахвярнымі і звязваюць іх са звычаем паўночнагерманскага насельніцтва паліць каля магілы ахвярнае вогнішча і закопваць яго рэшткі ў асобную яму (Кухаренко, 1980. С. 29).

Для вельбарскай культуры на Беларусі, як і на астатняй тэрыторыі яе распаўсюджання, характэрны ў асноўным ляпны посуд (мал. 92). Ганчарныя сасуды знойдзены ў адзінкавых выпадках. У якасці схудняючых дамешак ужывалася жарства і зрэдку шамот. Паверхня гаршкоў храпаватая або шурпатая, прычым храпаватыя сасуды звычайна мелі добра загладжаную альбо глянцаваную шыйку і прыдонную частку. Збаны, вазы, конаўкі, большасць місак і маленькіх сасудзікаў маюць добра загладжаную ці глянцаваную паверхню. Значная колькасць посуду ўпрыгожана разнастайным арнаментам у выглядзе кругавых ліній, насечак, наколаў, пазногцевых уціскаванняў, расчосаў, якія нярэдка ўтвараюць складаныя камбінацыі. Колер посуду звычайна карычневы розных адценняў. Некаторыя міскі і конаўкі маюць глухія або Х-падобныя вушкі. Пераважную большасць ляпных гаршкоў складаюць нізкія шыракагорлыя адкрытыя сасуды з найбольшым пашырэннем тулава блізке каля сярэдзіны іх вышыні. Сярод місак вылучаюць дзве вядучыя формы: лейкападобныя і біканічныя (Кухаранко, 1980. С. 38—39). Конаўкі мелі слабапрафіляванае амаль цыліндрычнае тулава або выпуклабокае з невысокай адхіленай вонкі шыйкай. Ганчарная кераміка знойдзена на двух помніках. У пахаванні № 27 на могільніку Брэст-Трышын выяўлены фрагменты вазы з моцна адагнутым вонкі амаль гарызантальным венцам і выпуклабокага гаршка (Кухаренко, 1980. С. 37). На паселішчы Блювінічы ў запаўненні агменя знойдзена прыдонная частка кружальнай міскі чорнага колеру з рудымі плямамі (Вяргей, Кудрашоў, 1994. С. 119). Практычна ўся кераміка, выяўленая на тэрыторыі Беларусі, мае аналагі на помніках вельбарскай культуры ў Польшчы і на Украіне (Shindler, 1940; Кухаранко, 1980; Козак, 1992. С. 70—103; Wolągiewicz, 1993)..

Керамічны комплекс дапаўняюць гліняныя прасліцы, выяўленыя на могільніку Брэст-Трышын і на селішчах Кругаль (мал. 94:18) і Струга-1. Найбольш пашыраны біканічныя прасліцы, частка з іх упрыгожана кропкавым арнаментам або вертыкальнымі і касымі баразёнкамі. У адзінкавых выпадках зафіксаваны ўплошчана-шарападобныя і цыліндрычныя прасліцы.

Акрамя керамічных вырабаў на помніках вельбарскай культуры Беларусі выяўлены побытавыя рэчы і прылады працы. Часцей за ўсё сустракаюцца касцяныя грабяні, якія падраздзяляюцца на аднапласцінчатыя, шматпласцінчатыя трохслойныя адпаведна класіфікацыі С. Томас (Thomas, 1960. S. 54—215). Яны знойдзены на могільніках Брэст-Трышын і Велямічы (мал. 93:9—11). Выяўлены таксама касцяныя шпількі, бронзавыя іголкі, фрагмент брытвы, часткі жалезных замкоў, фрагменты шклянога посуду. Часта сустра-

каюцца ўпрыгожанні (браслеты, падвескі, пацеркі) і прадметы аздаблення касцюма (фібулы, пвясныя спражкі і наканечнікі).

Фібулы выраблялíся з бронзы і зрэдку з жалеза, па канструкцыі іх можна падзяліць на дзве асноўныя групы — грабеньчатыя і падвязныя, прадстаўленыя паўночнаеўрапейскімі формамі (мал. 93:1—3, 5—7, 12—15, 22). На помніках Беларусі грабеньчатыя фібулы прадстаўлены трыма тыпамі. Да першага належаць фібулы з трыма грабянямі, трубкавым футаралам для спружыны і кнопкаю па канцы пяткі, адпавядаюць 96-му тыпу першай серыі пятай групы фібул пе О. Альмгрэну (Almgren, 1923. S. 50—51). Яны датуюцца другой паловай II — пачаткам III ст. н. э. Падобныя фібулы або іх фрагменты выяўлены на могільніку Брэст-Трышын (Кухаренко, 1980. С. 43). Другому тыпу адпавядаюць фібулы з грэбенем на галоўцы і пашыранай пяткай. Суадносяцца з фібуламі 128-га тыпу восьмай серыі пятай групы па О. Альмгрэну (Almgran, 1923. S. 58—61). Датуюцца другой паловай II — пачаткам III ст. н. э. Знойдзены на могільніках Брэст-Трышын і Вялічкавічы. Трэці тып прадстаўлены фібупамі з грэбенем на спінцы і накрыўкамі-закраінамі на спружыне. Адпавядае фібулам 41-га тыпу трэцяй серыі другой групы па О. Альмгрэну (Almgren, 1923. S. 17—19). Знойдзены на могільніку Брэст-Трышын, датуюцца другой паловай II — пачаткам III ст. н. э.

Падвязныя фібулы выяўлены на могільніках ў Брэст-Трышыне (Кухаренко, 1980. С. 46), Велямічах-1 (Кухаренко, 1961. Табл. 16:16а), Атвержычах (Каспарова, 1989. Рис. 9:5), Скорбічах (Поболь, 1979. Рис. 6:1) і на селішчы Лемяшэвічы (Вергей, 1994б). Сумарна яны датуюцца канцом II—IV ст. н. э. (Амброз, 1966. С. 62—67; Almgren, 1923. S. 71—69; Godłowski, 1974. S. 37—39).

Паясны набор характарызуюць спражкі і наканечнікі папругі. Спражкі ў большасці зроблены з бронзы, ёсць і жалезныя (мал. 93:18—20; 94:8—10). Форма іх вар'іруецца. Спражкі з адначасткавай прамавугольнай рамкаю знойдзены ў Брэст-Трышын (Кухаренко, 1980. С. 47) і на селішчы Лемяшэвічы (Вергей, 1994б. Рис. 5:19). Сустракаюцца на помніках канца I — пачатку III ст. н. э. (Кухвренко, 1980. С. 47). Спражкі з двухчасткаваю паўкруглую рамкаю выяўлены на могільніку ў Брэст-Трышыне і сустракаюцца на помніках II—III стст. н. э. у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе (Кухаренко, 1980. С. 48). Спражкі з двухчасткавымі прамавугольнымі рамкамі зафіксаваны на могільніках у Брэст-Трышыне (Кухаренко, 1980. С. 48) і Велямічы-1 (Кухаренко, 1961. Табл. 48:5). Яны найбольш пашыраны ў III ст. н. э. (Каспарова, 1989. С. 276). Авальныя адначасткавыя спражкі знойдзены на могільніках Велямічы-1 і Атвержычы, сустракаюцца таксама на помніках пшэворскай і чарняхоўскай культур, дзе датуецца III—IV стст. (Godłowski, 1970. S. 24).

Наканечнікі папругі знойдзены толькі на могільніку ў Брэст-Трышыне (Кухаренко, 1980. С. 49). Яны зроблены з бронзы і маюць форму падоўжанага трохвугольніка (мал. 93:4, 8). Падобныя наканечнікі распаўсюджаны на значнай тэрыторыі Еўропы і датуюць іх у межах другой паловы II—III ст. н. э. (Godłowski, 1970. S. 47—48). Срэбны пласцінчаны бранзалет, арнаментаваны па вонкавым боку зярнёнымі валікамі, выяўлены ў Брэст-Трышына. Датуецца другой паловай I—II ст. н. э. (Кухаренко, 1980. С. 49—50). Падвескі з рымскіх манет і ў выглядзе мініяцюрных ножыка, ключыка і сякеркі знойдзены на могільніку ў Брэст-Трышыне (Кухаренко, 1980. С. 50—52), вядзерцападобныя — на селішчы Лемяшэвічы (мал. 94:2, 21). Пацеркі са шкла, бурштыну, срэбра даволі разнастайныя па форме знойдзены ў Брэст-Трышыне (Кухаренко, 1980. С. 52), Лемяшэвічах (Вяргей, 1994. С. 16—147), Скорбічах

(Поболь, 1979. Рис. 53:Б,В,Г), Вялічкавічах (Кухаренко, 1989. С. 81—82), Велямічах-2 (Каспарова, 1989. С. 274) (мал. 94:2—7). Кольцы розных дыяметраў адзначаны ў Брэст-Трышыне (Кухаренко, 1980. С. 52), Вялічкавічах (Кухаренко, 1969. С. 81—82), Скорбічах (Поболь, 1979. Рис. 53:А), гліняны жэтон знойдзены ў Велямічах-1 (Кухаренко, 1961. Табл. 46:7) (мал. 93:21).

Храналогія вельбарскіх старажытнасцей вызначаецца ў першую чаргу па фібулах, касцяных грабянях, спражках, некаторых тыпах пацерак. Пры сучасным стана вывучанасці вальбарскай культуры на тэрыторыі Беларусі час яе з'яўлення тут вызначаюць апошняй чвэрцю II ст. н. э. Да найбольш ранніх помнікаў амаль усе даследчыкі адносяць могільнікі ў Брэст-Трышыне і Вялічкавічах (Кухаренко, 1980. С. 60—63; Wolągiewicz, 1981. S. 84—85; Kokowski, 1995. S. 62. Rys. 92). Тут знойдзены так званыя грабвньчатыя фібулы, якія адносяцца да другой і пятай груп па класіфікацыі О. Альмгрэна. На Польскім Паморʼі і к поўдню ад яго яны датуюцца па сумвсных знаходках з сасудамі taтa sigilata, манетамі і іншым рымскім імпартам фазай B2/C1, гэта значыць другой паловай II — пачаткам III ст. н. э. (Godłowski, 1974. S. 25). Выкарыстоўваўся могільнік ў Брэст-Трышыне да 270—280 гг. (фаза С2а) (Кухаренко, 1980. С. 63; Wolagiewicz, 1981; Kokowski, 1995. S. 224). Крыху пазней, на рубяжы II і III стст. або ў пачатку III ст., узнікаюць вельбарскія помнікі ў Атвержычах (Kokowski, 1995. S. 224), Велямічах, Скорбічах (Кухаренко, 1980. С. 71—72). Яны функцыяніравалі да IV ст., а Велямічскі могільнік яшчэ выкарыстоўваўся, магчыма, і ў сярэдзіне IV ст. (Каспарова, 1989. С. 277. Рис. 10; Kokowski, 1995. S. 224). Мяркуючы па знаходках (падвязная фібула, вядзерцападобныя падвескі, 14-гранныя шкляныя пацеркі, ганчарная місачка і інш.), у III—IV стст. функцыяніравалі паселішчы ў Лемяшэвічах, Струзе-1, Блювінічах (Вяргей, 1994а. С. 68—85; Яна ж, 1994б. С. 131—151; Вяргей, Кудрашоў, 1994. С. 118—120). Такім чынам, вельбарская культура, галоўную ролю ў фарміраванні якой адыгралі готы, існавала на Беларусі з апошняй чвэрці II да IV ст. уключна. Сляды вельбарскага насельніцтва захаваліся ў этнаніміі Заходняга Палесся (Клімчук, 1996. С. 43—45).




● – даследаваныя паселішчы

○ – селішчы

⊔ – грунтавыя могільнікі

*Мал. 85. Распаўсюджанне помнікаў кіеўскай культуры на Беларусі (на ўрэзцы арэал усёй культуры): 1— Шчаткава, Бабруйскі р-н; 2 — Адаменка, 3 — Тайманава, 4 — Новы Быхаў, Быхаўскі р-н; 5 — Барсукі, Спаўгарадскі р-н; 6 — Новы Млын, Кармянскі р-н; 7 — Гудок, Чачэрскі р-н; 8 — Шапатовічы; 9 — Прысна, Веткаўскі р-н; 10 — Аднаполле; 11 — Шарсцін-1; 12 — Шарсцін-2; 13 — Дзем'янкі, Добрушскі р-н; 14 — Гомель, Гомельскі р-н; 15 — Клёнкі; 16 — Носавічы, Добрушскі р-н; 17 — Дзеднава, с. Бабруйск; 18 — Сіманаевічы, Глускі р-н*






*Мал. 86. Пабудовы (А) і пахаванні (Б) кіеўскай культуры: А — Гудок, Б — Новы Быхаў. Умоўныя абазначэнні: а — спаленыя косткі; б — запа, вуглі; в — гумусавы слой, г — пясок; д — абломкі рэчаў; е — фрагменты керамічнага посуду*




Мал. 87. Пабудовы (А) і пахаванні (Б) кіеўскай культуры: А — Гудок, Б — Новы Быхаў. Умоўныя абазначэнні: а — спаленыя косткі; б — зала, вуглі; в — гумусавы слой, г — пясок; д — абломкі рэчаў; в — фрагменты керамічнага посуду




*Мал. 87. Керамічны посуд з Абідні (1, 4—7, 10—11 — гаршкі, 2, 3 — міскі, 8, 9 — патэльні): 1, 2 — глянцаваны, 3—11 — гладкасценны (6, 7 — з расчосамі).*




*Мал. 86. Посуд з Тайманава (1 — міскі, 2—10 — гаршкі): 1, 2 — глянцаваны, 3—10 — гладкасценны (5 — з расчосамі)*




*Мал. 89. Прылады працы (1—15), узбраенне (16—18) і рыштунак вершніка (19) з помнікаў кіеўскай культуры: 1—5, 8, 13, 14, 15 — Абідня, 6, 7, 16—19 — Тайманава (1—12, 16—19 — жалеза, 13—15 — гліна); 1—5 — нажы; 6, 7 — брытвы; 8 — крэсіва; 9—12 — сярпы; 13 — льячка; 14—15 — праслицы; 16, 17 — наканечнікі стрэл; 18 — наканечнік дзіды (абл. ляза), 19 — шпора*




Мал. 90. Упрыгожанні і дэталі паясоў: (1—4, 6, 7, 9—11 — Тайманава; 5, 8, 12—14 — Абідня)
1—4 — фібулы; 5 — трапецападобная падвеска; 6, 7 — посахападобныя шпількі; 8—11 — спражкі;
12—14 — лунніцы з эмаллю (1—3, 6—11 — жалеза; 4, 5 — бронза; 12—14 — бронза і шкло)




Мал. 91. Планы і разрэзы пахаванняў (9, 10, 11, 15, 25, 27, 26, 29, 39) на могільніку вельбарскай культуры Брэст-Трышын (па Ю. У. Кухарэнку): а — перапаленыя косткі нябожчыка; б — попел; в — камяні; г — пясок, які перакрывае пахаванні; д — непарушаны пясок




*Мал. 92. Ляпны посуд з пахаванняў на могільніку вельбарскай культуры Брэст-Трышын (па Ю. У. Кухарэнку)*




*Мал. 93. Рэчы з могільнікаў вельбарскай культуры: Брэст-Трышын (1—13, 15—17); Велямічы (14, 18, 20, 21); Атвержычы (19, 22) (па Ю. У. Кухарэнку і К. В. Кеспаравай)*




Мал. 94. Рэчы з помнікаў вельбарскай культуры: Лемяшэвічы (1—10, 21); Струга-1, пабудова 4 (11—14); Скорбічы (15—16); Кругель (17—18); Велямічы (19, 20) (па В. С. Вяргей і Ю. У. Кухарэнку)




*Мал. 95. Карта помнікаў Вельбарскай культуры. Умоўныя абазначэнні: 1 — даследаваныя паселішчы; 2 — селішчы; 3 — месцазнаходжанні; 4 — грунтавыя могільнікі*

*1 — Вялічкавічы; 2 — Радасць; 3—4 — Кругель; 5 — Ратайчыцы; 6 — Дружба (Скорбічы); 7 — Блювінічы; 8 — Брэст-Трышын; 9 — Страдзеч; 10 — Збунін; 11 — Пятровічы; 12 — Хомск. 13 — Пемяшзвічы; 14 — Велямічы; 15 — Атвержычы; 16 — Струга; 17 — Хільчыцы*

Раздзел 7

# КУЛЬТУРЫ РАННЯГА СЯРЭДНЯВЕЧЧА (V—IX стст.)

## ХАРАКТАРЫСТЫКА ПЕРЫЯДУ

Трэцяя чвэрць 1-га тысячагоддзя н. э. — важны перыяд у гісторыі плямёнаў, якія засялялі тэрыторыю Беларусі. У гэты час у іх жыцці адбываліся складаныя сацыяльна-эканамічныя працэсы. Бурны рост прадукцыйных сіл прыкметна адбіўся на развіцці вядучых галін гаспадаркі старажытнага насельніцтва — жывёлагадоўлі, земляробства і розных рамёстваў. Удасканальваюцца старыя і з'яўляюцца новыя тыпы прыладаў працы, развіваецца гандлёвы абмен паміж плямёнамі. Рост прадукцыйных сіл выклікаў у сваю чаргу паскарэнне распаду першабытнаабшчыннага ладу, які ўваходзіў у завяршальную стадыю. На змену старой родавай абшчыне прыйшла тэрытарыяльная суседская, у аснове якой ляжалі ўжо не кроўна-роднасныя, а эканамічныя сувязі. Гэта вяло да разбурэння родавай замкнутасці, пашырэння кантактаў і перамяшэння насельніцтва. Асобная малая сям'я адыгрывае ўсё больш самастойную ролю ў гаспадарчым жыцці, з'яўляюцца і шырока развіваюцца індывідуальныя вытворчасці.

Ускладняецца і ўдасканальваецца сістэма племянных арганізацый, ствараюцца як часовыя, так і працяглыя хаўрусы плямёнаў. Пачашчаюцца сутыкненні суседніх плямёнаў і войны за захоп здабычы, узмацняецца працэс сацыяльнай дыферэнцыяцыі.

Усе гэтыя сацыяльна-эканамічныя працэсы супалі па часе з узмацненнем так званага Вялікага перасялення народаў, звязанага з перыядам бесперапынных войн славянскіх і іншых народаў з Рымскай імперыяй. Падзенне імперыі абумовіла выхад на шырокую гістарычную сцэну еўрапейскіх народаў. Менавіта трансеўрапейскі працэс Вялікага перасялення народаў вызначыў мяжу паміж старажытнасцю і сярэднявеччам. У гэтых умовах у лясной і лесастэпавай зонах Усходняй Еўропы адбываліся складаныя этнагенетычныя працэсы, звязаныя з вялікімі перамяшчэннямі племянных аб'яднанняў. Вялікі ўплыў на жыццё плямёнаў Усходняй Еўропы аказалі напады шматлікіх стэпавых качэўнікаў. Нягледзячы на аддаленасць, усе гэтыя з'явы не маглі не адбіцца на гістарычным лёсе плямёнаў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі, і выклікалі ў іх вялікія змены сацыяльна-эканамічнага плана. Гэтыя працэсы паклалі пачатак фарміраванню раннесярэдневяковых этнакультурных груповак, якія ў сваю чаргу стварылі падмурак для развіцця беларускага народа.

## 1. ПОМНІКІ ТЫПУ ПРАГІ-КАРЧАК І ЛУКІ-РАЙКАВЕЦКАЙ

### Пражская культура

Упершыню раннеславянскія помнікі трэцяй чвэрці 1-гатысячагоддзя н. э. на тэрыторыі Цэнтральнай Еўропы вылучыў у асобную культурна-храналагічную

групу і ўвёў у навуковы абарот пад назваю «кераміка пражскага тыпу» чэшскі археолаг І. Баркоўскі (Borkowski, 1940). На тэрыторыі Усходняй Еўропы старажытнасці гэтага тыпу ідэнтыфікаваў і ўключыў у арэал пражскай культуры Ю. У. Кухарэнка (1955). Пазней высветлілася, што на тэрыторыі Палесся яны маюць пэўныя лакальныя асаблівасці, якія былі заўважаны пры вывучэнні паселішчаў каля в. Карчак ў Жытомірскай вобласці на Украіне. Гэтыя пасялішчы адкрытыя яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя С. С. Гамчанка (Гамченко, 1901. С. 307) і даследаваліся ў 1960-х гадах І. П. Русанавай (Русанова, 1963. С. 39—50; Яна ж, 1970. С. 93—96).

У другой палове XX ст. на тэрыторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы археолагі Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Германіі, Румыніі, Балгарыі, Украіны, Беларусі, Расіі адкрылі звыш 600 помнікаў і месцазнаходжанняў пражскай культуры. Яны выяўлены на вялікай тэрыторыі ад Прыпяці на поўначы да Балканскага паўвострава на поўдні, ад Дняпра на ўсходзе да міжрэчча Эльбы і Заале на захадзе. На паўночным усходзе пражская культура мяжуе з помнікамі калочынскай культуры, на паўднёвым усходзе — з пянькоўскай, на поўдні і паўднёвым захадзе — з фракійскім і раманскім насельніцтвам, на захадзе і поўначы — з германскімі і балцкімі народамі.

Мэтанакіраваныя даследаванні помнікаў пражскай культуры па ўсёй тэрыторыі іх распаўсюджання вядуцца з 1950-х гадоў. Многія аб'екты раскапаны цалкам або ў значнай ступені — Карчак-7 і 9, Гарадок, Зімна, Лука-Каветчынская, Бакота, Кадын-1, Рашкаў-3, Магіла, Шэлігі, Пржытлукі, Бжэзна, Дэсаў-Мозігкаў, Сэрата-Мантзору і інш. Матэрыялы шэрагу помнікаў сістэматызаваныя, абагульненыя і апублікаваныя ў вялікай колькасці манаграфій і артыкулаў (Кухаренко, 1961а; Аўліх, 1972; Баран, 1972; Ён жа, 1988; Приходнюк, 1975; Русанова, 1976; Русанова, Тимощук, 1984; Тимощук, 1976; Седов, 1982; Szymanski, 1967; Parczewski, 1988; Ён жа, 1988а; Bialekowá, 1962; Fusek, 1994; Zeman, 1976; Herrmann, 1978; Donat, 1980 і інш.). Дзякуючы гэтым даследаванням асветлены асноўныя пытанні пражскай культуры — яе тэрыторыя, храналагічныя рамкі, тыпы паселішчаў і могільнікаў, асаблівасці домабудаўніцтва і керамічнага комплексу, гаспадарчыя заняткі насельніцтва, характэрныя рысы сацыяльнай арганізацыі і духоўнай культуры. Аднак шмат якія праблемы, што тычацца фарміравання пражскіх старажытнасцей, іх лакальных і храналагічных асаблівасцей, дынамікі рассялення, узаемаадносін з сінхроннымі і папярэднімі культурамі, яшчэ не атрымалі канчатковага вырашэння і выклікаюць навуковыя дыскусіі і спрэчкі. Матэрыялы, выяўленыя і даследаваныя на тэрыторыі Беларусі, дапамагаюць стварэнню агульнай характарыстыкі пражскай культуры і садзейнічаюць высвятленню яе рэгіянальных асаблівасцей.

Першыя помнікі пражскай культуры адкрыты на Беларусі яшчэ ў першай палове XX ст. У 1927 г. на Тураўшчыне працавала краязнаўчая экспедыцыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта, сябры якой А. Д. Каваленя і С. С. Шутаў (Каваленя, Шутаў, 1930. С. 356—364) выявілі раннеславянскія матэрыялы на гарадзішчы каля в. Хільчыцы. У 1932 г. А. М. Ляўданскі і А. Д. Каваленя правялі раскопкі паселішча пражскай культуры ў г. Петрыкаве на левым беразе ракі Прыпяць (Ляўданскі, 1933). Бескурганны могільнік V—VI стст. каля в. Хорск на Гарыні ў 1937 г. даследаваў Р. Якімовіч. Аб выяўленых на могільніку матэрыялах захавалася невялікая папярэдняя інфармацыя (ZOW, 1937. N XII. S. 136), а пошукі новых пахаванняў ў раёне Хорска, якія ажыццявіў у 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка, аказаліся безвыніковымі. У тым жа 1937 г. Р. Якімовіч наведаўся на хутар Гарадзішча каля в. Хотамель, дзе размешчана

раннесярэдневяковае ўмацаванае паселішча, у 200 метрах ад якога сяляне пад час гаспадарчых прац знайшлі трупаспаленне ў урне пражскага тыпу.

У першыя пасляваенныя гады абследаванне археалагічных помнікаў на Заходнім Палессі праводзілі пінскі і брэсцкі краязнаўцы Б. В. Міралюбаў і М. І. Алексяюк. У 1951 г. археалагічныя працы на Палессі распачаў Палескі атрад Славянскай археалагічнай экспедыцыі Інстытута археалогіі АН СССР пад кіраўніцтвам Ю. У. Кухарэнкі, рэарганізаваны пазней у Валынскую экспедыцыю. Пад час працы экспедыцыя абследавала шмат раннесярэдневяковых помнікаў і паклала пачатак мэтанакіраваным раскопкам пражскіх старажытнасцей. Вынікі працы экспедыцыі суміраваў Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1961а) і апублікаваў іх у спецыяльнай манаграфіі «Средневековые памятники Полесья», куды былі ўключаны і звесткі аб выяўленых раней іншымі даследчыкамі помніках, ідэнтыфікаваных як пражскія. З 1957 па 1969 г. на Беларускім і Украінскім Палессі працаваў Драўлянскі археалагічны атрад Прыдняпроўскай археалагічнай экспедыцыі Інстытута археалогіі СССР пад кіраўніцтвам І. П. Русанавай. Былі часткова абследаваны берагі рэк Заходні Буг, Мухавец, Рыта, Лясная, прытокі Прыпяці Стыр, Гарынь, Піна, Ясельда, Убарць (Русанова, 1973). У 1960-я гады некалькі помнікаў з керамікай пражскага тыпу ў міжрэччы Прыпяці і Сцвігі выявіў Л. Д. Побаль (Поболь, 1969. С. 12—30). У гэтыя ж гады аб знаходках раннеславянскай керамікі на помніках эпох каменя і бронзы паведаміў У. Ф. Ісаенка (Поболь, 1983). Пасля пэўнага зацішша ў 1970-я гады працэс накаплення матэрыялаў пражскай культуры пачынае пашырацца з 1980-х гадоў. Г. М. Залашка (Залашко, 1981. С. 333—335) правёў раскопкі гарадзішча каля в. Харомск на левабярэжжы Гарыні, дзе выявіў кераміку пражскага тыпу. Селішчы з матэрыяламі пражскай культуры каля в. Кажан-Гарадок у Лунінецкім і Чэрнічы ў Жыткавіцкім раёнах даследаваў М. Ф. Гурын (Гурын, 1990. С. 23—25). Пад час раскопак неалітычнага паселішча Камень-6 на рацэ Бобрык у Пінскім раёне У. Ф. Ісаенка (Исаенко, 1988. С. 362—363) выявіў два жытлы з ляпной раннеславянскай керамікай. У 1987 г. А. А. Егарэйчанка (Егорейченко, 1991б. С. 61—82) даследаваў селішча Востраў на рацэ Стыр у Пінскім раёне, дзе знайшоў матэрыялы ранняга перыяду пражскай культуры. З канца 1980-х гадоў сістэматычныя пошукі і даследаванні раннеславянскіх помнікаў праводзіць Цэнтральнапалескі археалагічны атрад Інстытута гісторыі Акадэміі навук пад кіраўніцтвам В. С. Вяргей. Шляхам разведак абследаваны берагі рэк Лясная, Ясельда, Прыпяць, Гарынь, Убарць і зафіксавана каля 40 новых помнікаў і месцазнаходжанняў пражскай культуры, праведзены раскопкі на паселішчах каля вёсак Блювінічы ў Брэсцкім раёне, Струга-1 у Столінскім раёне, Снядзін-1 і Снядзін-2 ў Петрыкаўскім, Ліпляны ў Лельчыцкім раёнах (Вергей, 1997. С. 26—38).

Да нашых дзён у Беларусі выяўлена звыш 50 помнікаў пражскай культуры (мал. 96). Яны размешчаны на поўдні краіны і займаюць тэрыторыю ад Брэста і Камянца на захадзе да Мазыра на ўсходзе. Найбольш паўночныя пункты зафіксаваны на Ясельдзе каля в. Спорава і на Бобрыку каля в. Камень. На поўдні і захадзе пражская культура выходзіць за межы Беларусі на тэрыторыі Украіны і Польшчы.

Прасочваецца нераўнамернасць славянскага рассялення на Палессі ў другой палове 1-га тысячагоддзя, што можна растлумачыць асаблівасцямі прыродных ўмоў рэгіёна, з аднаго боку, і станам археалагічных даследаванняў, з другога. Пэўная шчыльнасць помнікаў гэтага часу назіраецца ў ваколіцах Брэста, што звязана з нізкай забалочанасцю гэтай тэрыторыі, не-

шырокімі поймамі рэк Пульвы і Ляснай, спрыяльнымі для земляробства глебамі. Значная іх колькасць канцэнтруецца таксама ў раёне Пінска (на ўсход і паўночны ўсход ад яго), у нізоўях ракі Гарынь, у міжрэччы Прыпяці і Цвігі, у ваколіцах Турава і па абодвух берагах Прыпяці каля Петрыкава. Адзінкавыя помнікі зафіксаваны ў Піна-Мухавецкім ландшафтным рэгіёне, што тлумачыцца яго моцнай забалочанасцю. Магчыма, вялізныя балоты гэтай мясцовасці стрымлівалі міграцыйныя патокі насельніцтва ў шыротным напрамку. Практычна ўсе акрэсленыя раёны канцэнтрацыі раннеславянскіх помнікаў былі асвоены чалавекам значна раней і значная іх частка размяшчаецца на больш старажытных паселішчах з матэрыяламі ад эпохі мезаліту да зарубінецкай і вельбарскай культур.

Насельніцтва пражскай культуры засноўвала свае паселішчы па краях і схілах першых надпоплаўных тэрас, уздоўж высокіх карэнных берагоў вадаёмаў, на пясчаных выдмах або астанцах тэрас сярод паплаваў.

Як і на астатняй тэрыторыі распаўсюджання, пражская культура ў Беларусі прадстаўлена ў асноўным неўмацаванымі паселішчамі. Плошча селішчаў невялікая, у межах 1—2 гектараў. Нярэдка яны размяшчаюцца групамі па 2—4 паселішчы і аддзяляюцца адно ад другога нізінамі, равамі або ручаямі. Культурны пласт на іх мае таўшчыню 0,3—0,7 м.

Ляпная кераміка пражскай культуры знойдзена ў культурным пласце трох гарадзішчаў — Хотамель (Кухаренко, 1961а. С. 22—27), Харомск (Залашко, 1981. С. 334—335) і Хільчыцы (Кухаренко, 1961. С. 30). Умацаваныя паселішчы размяшчаліся воддаль ад рачных берагоў. Гарадзішчы Хотамель і Хільчыцы ўзведзены на вузкіх канцавых частках пясчаных узвышшаў, абкружаных балоцістымі нізінамі. Абодва маюць амаль круглыя ў плане пляцоўкі, акаймаваныя кальцавым валам. Памеры пляцовак дасягаюць да 40 м у дыяметры. Акрамя гэтага, Хотамельскае гарадзішча было ўмацавана з усходу і захаду дадатковымі дугападобнымі валамі, збудаванымі пазней асноўнага. У якасці каркасе пясчанага вала ў Хотамелі і Хільчыцах выкарыстоўваліся ўзведзеныя з дубовага бярвення клеці (Кухаренко, 1961. С. 23, 30).

Раскопкі гарадзішча Хотамель займаюць асобае месца ў вывучэнні раннеславянскіх помнікаў Усходняй Еўропы. Яго матэрыялы доўгі час адыгрывалі ролю эталонных у ідэнтыфікацыі і сістэматызацыі старажытнасцей тыпу Прага-Карчак у заходнім рэгіёне. У 1937 г. наяўнасць у гэтым месцы археалагічнага комплексу, які складаўся з гарадзішча, селішча і грунтавога могільніка, адзначыў Р. Якімовіч. У 1953 г. помнік абследаваў Б. В. Міралюбаў. Затым у 1954—1957 гг. раскопкі на паселішчы праводзіў Ю. У. Кухарэнка, а ў 1964 г. — І. П. Русанава. Культурны пласт на гарадзішчы дасягае ў цэнтры пляцоўкі таўшчыні 0,4 і па краях 2,5 м. Уздоўж унутранага схілу вала ў мацерыку выяўлены вялікія карытападобныя ямы, запоўненыя вуголлем, каменнем, фрагментамі ляпнога посуду тыпу Прага-Карчак. У адной з ям знойдзены абломак трохлопасцевага жалезнага наканечніка стралы аварскага тыпу, які датуецца рубяжом VII—VIII стст. (Кухаренко, 1961. С. 23, 9). Ямы на глыбіні 1 м перакрыты попельна-вугальнай праслойкай, якая стратыграфічна падзяліла культурны пласт на два храналагічныя гарызонты. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі агменяў, фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі тыпу Лука-Райкавецкая, жалезныя наканечнікі стрэл і дзідаў, сярэбранае сяміпрамянёвае скронавае кольца і фрагмент бранзалета з пашыранымі канцамі, жалезныя спражкі і пласціны даспехаў, пацерка і інш. Выяўленыя знаходкі далі падставу датаваць ніжні гарызонт культурнага пласта гарадзішча VII ст.,

верхні — VIII—X стст. Выказана меркаванне, што гарадзішча не з'яўляецца месцам сталага пражывання, а адыгрывала ролю ўмацаванага сховішча і цэнтра грамадскага і рэлігійнага жыцця (Кухаренко, 1961а. С. 22—27; Русенова, 1973. С. 9). Гарадзішча каля в. Харомск размешчана сярод забалочанай нізіны на ўзвышшы падтрохвугольнай формы, вышыня якой каля 4 метраў. Яго схілы, магчыма, штучна падрэзаны. Памеры пляцоўкі 25 × 50 м, валы візуальна не прасочваюцца (Раппопорт, 1967. С. 74). Жыллёвыя пабудовы на выяўлены. Харомскае гарадзішча, таксама як Хотамельскае і Хільчыцкае, выкарыстоўвалася хутчэй за ўсё ў якасці сховішча, рэлігійнага і грамадскага цэнтра. Усе гэтыя ўмацаваныя цэнтры ўзнікаюць на заключным этапе развіцця пражскай культуры на рубяжы VI—VII стст. або ў VII ст.

На тэрыторыі Беларускага Палесся няма цалкам даследаваных на ўсёй плошчы пражскіх селішчаў, таму колькасць раскапаных жытлаў пакуль невялікая. Па тры жытлы адкрыта і даследавана ў Петрыкаве, Востраве, Струзе-1, два — на паселішчы Камень-6 і па аднаму ў Ліплянах і Кажан-Гарадку.

Аб петрыкаўскіх жытлах маецца самая агульная інфармацыя (Ляўданскі, 1933. С. 24). Матэрыялы паселішча, якое даследавалася ў 1932 г., у сістэматызаваным выглядзе не былі апублікаваны, палявая дакументацыя не захавалася. У спадчыну археолагам засталася навялікая скрыня з некалькімі дзясаткамі фрагментаў керамікі. Асобныя часткі посуду з гэтай калекцыі апублікаваў Ю. У. Кухарэнка (Кухаренко, 1961а. Табл. 6:15, 16), а больш падрабязна яна прадстаўлена ў працы І. А. Гаўрытухіна (Gavrituchin, 1991. С. 95—103). Вядома, што паўзямлянкавыя жытлы ў Петрыкаве мелі прамавугольную ў плане форму і абаграваліся печамі альбо агменямі, збудаванымі з камянёў і кавалкаў балотнай руды. Там жа былі знойдзены і металургічныя жужалі. Гэтыя пабудовы А. М. Ляўданскі (Ляўданскі, 1933. С. 24) датаваў часам «1500 гадоў таму назад», а паселішча ў цэлым — VI—VIII стст.

Блізкую да квадрата форму маюць жытлы, адкрытыя А. А. Егарэйчанкам (Егорейченко, 1991. С. 61—82) на селішчы каля в. Востраў, якое размешчана на рацэ Стыр. Яны злёгку паглыблены ў мацярык на 0,05—0,25 м, даўжыня сцен вагаецца ў межах 2,5—3,6 м. Канструкцыя сцен зрубная, аб чым сведчыць адсутнасць слупавых ям. Падлога роўная, пясчаная. На ёй размяшчаліся агмені авальнай у плана формы памерамі 0,8—0,9 × 0,5—0,7 м, якія складаліся з металургічных жужаляў, адзін з іх дапоўнены крамянёвым жаўлаком, а ў жытле 3 — фрагментамі ляпнога посуду. Жылыя пабудовы арыентаваныя вугламі па старанах свету. Агмені змяшчаліся ў паўночнаўсходніх альбо паўночна-заходніх кутках пабудоў і не датыкаліся да сценак катлаванаў. У запаўненні жытла 3 побач з раннімі формамі пражскай керамікі знойдзены 14-гранная цёмна-сіняя шкляная пацерка і жалезны рамбічнай формы ўтулкавы наканечнік дроціка. Спалучэнне падобных рэчаў дало магчымасць аўтару раскопак датаваць комплекс жытла 3 рубяжом IV—V стст.

Жытлы з селішча Струга-1, якое размешчана на правым беразе ракі Гарынь, мелі падквадратнай у плане формы катлаваны, паглыбленыя ў мацярык на 0,15—0,3 м (мал. 97:1, 2). Іх плошча вагалася ў межах 14—17 ка. м (Вергей, 1994а. С. 63—85). Арыентаваныя сценамі па старанах сеету падлогі роўныя, пясчаныя. Ва ўсіх трох пабудовах выяўлены развалы прамавугольных у плане печаў, складзеных з дробных камянёў і гліны на драўляным каркасе. У развале печы жытла 3 знойдзены кавалкі гліны з выразнымі адбіткамі дрэва. У двух жытлах печы збудаваны напасрэдна на падлозе, а ў трэцім — на пясчанай падсыпцы таўшчынёй 7—8 см, пад якой прасочана

паглыбленна, запоўненае чорнаю сежыстаю зямлёю з уключэннямі вуголля і попелу. Ва ўсіх выпадках паміж печамі і сценкамі катлаванаў захоўвалася невялікая адлегласць. У адным з жытлаў у кутку прасочана яма-склеп. Сляды слупавых ям па перыметру жытлаў не адзначаны. У запаўненні жылых пабудоў і развалах печаў выяўлена вялікая колькасць ляпнога посуду, пацеркі, фрагментаваныя гліняныя хлябцы і прасліцы.

На шматслойным паселішчы Камень-6, якое размешчана на рацэ Бобрык, паўночным прытоку Прыпяці, выяўлены два паўзямлянкавыя, прамавугольнай ў плане формы жытлы, паглыбленыя ў мацярык на 0,3—0,6 м (Исаенко, 1988. С. 362—363). Катлаваны дасягалі плошчы 14 кв.м. арыентаваныя вугламі па старанах свету. У адным з жытлаў ад агменя, размешчанага ў паўднёва-заходнім кутку, захавалася невялікая колькасць камянёў і кавалкаў абпаленай гліны. У цэнтры другой пабудовы прасочана вугальна-попельная пляма дыяметрам каля 1,2 м, каля якой знойдзена некалькі абпаленых камянёў. Ямы ад слупоў па перыметру жытлаў не выяўлены.

Падквадратнае ў плане жытло памерам 4 × 3,8 м і глыбінёй катлавана ў мацерыку да 0,5 м даследавана на паселішчы Кажан-Гарадок у Лунінецкім раёне, на паўночным беразе Прыпяці. Арыентаванае сценамі па старанах свету. Пясчаная падлога значна паглыбляецца ў цэнтры. Пабудова загінула пры пажары і па яе перыметру захаваліся рэшткі абпаленых бярвёнаў, месцамі па 2—3 вянцы (Гурин, 1990. С. 23—25; Ён жа, 1994. С. 152—162). У паўночна-ўсходнім кутку жытла выяўлены развал абпаленых невялікіх камянёў і кавалкаў балотнай руды. Хутчэй за ўсё гэта рэшткі агменя, якім абагравалася памяшканне, а не печы-каменкі.

На разбураным меліяратарамі паселішчы Ліпляны-6, якое размешчана на левым беразе ракі Убарць, даследавана захаванае часткова паўзямлянкавае жытло. Прамавугольны ў плане катлаван паглыблены ў мацярык на 0,1—0,3 м, мае памеры 2,6 × 2,8 м. У паўночна-заходнім кутку выяўлены развал круглай у плана печы, збудаванай з дробных камянёў і гліны. Яна ўзведзена на роўнай пясчанай падлозе і не прымыкае да сценак катлавана. У запаўненні жытла знойдзены фрагменты керамікі тыпу Прага-Карчак і кавалкі гліняных хлябцоў.

Разглядаючы ў цэлым канструкцыі выяўленых жытлаў пражскай культуры на тэрыторыі Беларусі, можна адзначыць яе даволі ўстойлівую традыцыю. Яны рэканструіруюцца як падквадратнай формы пабудовы зрубнай канструкцыі з пясчанай, паглыбленай злёгку ў мацярык падлогай. Абаграваліся агменямі, складзенымі з камянёў або з камянёў у спалучэнні з металургічнымі жужалямі, кавалкамі балотнай руды і ляпнога посуду. Крыху пазней з'яўляюцца печы, складзеныя з невялікіх камянёў і гліны на драўляным каркасе. Агмені і печы звычайна размяшчаліся ў адным з куткоў жытла, але назіраюцца выпадкі, калі печ ставілася пасярэдзіне, каля адной се сцен (Струга-1). Страха магла быць двухсхільнай, на драўляным каркасе. Напрыклад, у жытле 2 на селішчы Востраў пасярэдзіне ўсходняй сценкі захавалеся ямка ад слупа, які мог падтрымліваць адзін канец вільчака, на якім замацоўваліся верхнія канцы лагаў. Драўляны каркас даху, відаць, пакрываўся саломай або чаротам, а зверху дадаткова ўмацоўваўся пластом дзёрну. Так, у жытле 1 на селішчы Струга-1 на вышыні 0,3 м ад падлогі, на ўзроўні мацерыка назіралася чорная попельна-вугальная праслойка, якую маглі ўтварыць рэшткі згарэўшай і абваліўшайся страхі (Вергей, 1994. С. 65—85). Па памерах, канструкцыі сцен і месцы размяшчэння ацяпляльных збудаванняў палескія жытлы падобныя да жылых пабудоў, характэрных для асноў-

най тэрыторыі распаўсюджання пражскіх помнікаў. Блізкія па характару раннеславянскія жытлы адкрыты на паселішчах Украіны, у міжрэччы Дняпра і Дуная, на тэрыторыі Чэхіі, Славакіі, Маравіі, Польшчы, у міжрэччы Эльбы і Заале. Свае асаблівасці мае домабудаўніцтва на селішчах пражскай культуры паміж Віслай і Одэрам. Тут выяўлены жылыя пабудовы авальнай падоўжанай у плана формы, якія ацяпляліся глінянымі або складзенымі з камянёў агменямі. Аднак для большай часткі пражскага арэала найбольш распаўсюджаным тыпам ацяпляльнай сістэмы была печ-каменка, аснова якой складалася з камянёў буйных памераў. У Беларусі печ-каменка на помніках з матэрыяламі пражскай культуры выяўлена толькі ў адзіным выпадку — на селішчы каля в. Блювінічы на рацэ Лясной. Але контуры жытла вакол яе не прасочваліся. Акрамя жытлаў на раннеславянскіх селішчах Беларускага Палесся даследаваны ямы-скляпы, злёгку паглыбленыя ў мацярык гаспадарчыя пабудовы, печы і агмені, якія размяшчаліся па-за межамі збудаванняў. Гаспадарчыя пабудовы маюць меншую за жытлы плошчу і, відаць, больш лёгкую канструкцыю сцен. Ямы былі круглай, авальнай або блізкай да прамавугольніка ў плане формы, сценкі іх вертыкальныя або звужаюцца да нізу, дно плоскае ці лінзападобнае. Некаторыя з іх у разрэзе маюць званападобную форму. Іх глыбіня ў мацерыку вагаецца ў межах 0,1—1 м, дыяметр ад 0,6 да 2 м. Частка ям, відаць, была прыкрыта навесамі. У адной з ям на селішчы Снядзін-2 у Петрыкаўскім раёне прасочаны рэшткі гліна́нага борціка па яе верхнім краі, у некалькіх іншых — участкі з глінянай абмазкай сценак. У асобных выпадках ямы-скляпы, асобныя печы і гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся паблізу жытлаў, утвараючы з імі адзіны комплекс. Аднак часцей рознага кшталту гаспадарчыя пабудовы ўзводзіліся на тэрыторыі паміж жытламі.

На паселішчы Снядзін-2 даследаваны аб'екты вытворчага характару. На невялікай плошчы каля 200 кв. м адкрыты пяць металургічных печаў, каля 80 слупавых і гаспадарчых ям, два асобныя агмені, складзеныя з камянёў і фрагментаў бітага ляпнога посуду. Сырадутныя горны ў выглядзе развалаў перапаленай гліны з уключэннямі жужаляў, невялікіх камянёў і абломкаў ляпной керамікі адкрыты на глыбіні 0,2—0,22 м ад дзённай паверхні, пад ворыўным пластом (мал. 97:3—5). У развалах прасочаны асновы металургічных печаў у выглядзе дна і рэшткаў сцен, якія месцамі захаваліся на вышыню 2—9 см. Дно печаў знаходзілася на глыбіні 0,3—0,4 м ад дзённай паверхні і на вышыні 0,1—0,16 м ад мацерыка. У дзвюх печах прасочваюцца сляды перабудовы ў выглядзе двайной або трайной рэканструкцыі ніжняй часткі. Некаторыя печы мелі чарэні, выкладзеныя фрагментамі гаршкоў. Мяркуюць, што падобны спосаб пабудовы асновы печы садзейнічае захаванню высокай тэмпературы (Хаалюк, 1988. С. 229). Унутраны дыяметр печаў вагаўся ў межах 0,4—0,5 м, знешні — 0,6—0,7 м, сценкі мелі таўшчыню 0,1—0,12 м. Побач з печамі размяшчаліся перадпечныя ямы. Хутчэй за ўсё даследаваныя на селішчы Снядзін-2 печы ўяўлялі сабой стацыянарныя збудаванні з наземнымі шахтамі, асновы якіх былі крыху заглыблены ў зямлю. Падобны тып металургічных печаў вядомы ва Усходняй Еўропе ўжо на рубяжы і ў першых стагоддзях н. э. Яны выяўлены на позназарубінецкім паселішчы Люцеж, на селішчах чарняхоўскай культуры Іванкаўцы і Лапатна, на вельбарскім паселішчы Лепясоўка (Славяне Юго-Восточной Европы... 1990. С. 377). Наземныя шахтныя металургічныя печы зафіксаваны на помніках пянькоўскай культуры каля вёсек Семенкі і Самчынцы на рацэ Паўднёвы Буг (Хавлюк, 1963. С. 339, 345). У большасці ям, што выяўлены паблізу печаў,

дно ўяўляе сабой перапалены чырванаваты пясок з лінзамі чорнай сажыстай зямлі. У печах, ямах і вакол іх у культурным пласце знойдзена каля чатырох тысяч жужаляў. Комплекс выяўленых аб'ектаў і знаходак яскрава сведчыць аб вытворчым характары даследаванага ўчастка паселішча. Тут, відаць, займаліся выпальваннем драўнянага вугалю, узбагачэннем балотнай руды, чорнай металургіяй, кавальскай і ліцейнай вытворчасцю. Аналіз матэрыялаў шматлікіх славянскіх паселішчаў V—VII стст. дазваляе сцвярджаць, што спалучэнне розных вытворчасцей было распаўсюджанай з'явай для рамеснікаў таго часу (Русанова, Тимощук, 1984. С. 440; Хавлюк, 1988. С. 230; Славяне Юго-Восточной Европы... 1990. С. 381).

Найменш вядомай і вывучанай катэгорыяй помнікаў, як і на астатняй тэрыторыі пражскай культуры, з'яўляюцца могільнікі. Матэрыялы для характарыстыкі пахавальнага абраду вельмі сціплыя. На Беларускім Палессі адкрыты адзінкавыя грунтавыя пахаванні каля вёсак Хорск, Хотамель і Снядзін. Кераміка пражскага тыпу адзначана толькі ў адным кургане каля в. Семурадцы Жыткавіцкага раёна (Поболь, 1969б. С. 65—67). Бескурганныя пахаванні выяўлены на тэрыторыі селішча (Хотамель) або ў непасрэднай блізкасці ад яго (Снядзін). Селішча, насельніцтву якога належаў могільнік каля в. Хорск, не знойдзена. Характэрнай рысай пахавальнага абраду ў курганных і бескурганных могільніках з'яўляецца трупаспаленне. Перапаленыя косці нябожчыка змяшчаліся ў гліняную ўрну альбо ссыпаліся проста на дно ямкі. У Хотамельскім пахаванні на глыбіні 0,6 м у ямцы знойдзены перавернуты дагары ляпны гаршчок з кальцынаванымі касцямі. Ён быў абкладзены камянямі (Кухарэнка, 1961а. С. 22). Два пахаванні ў Снядзіне напаўразбураныя і адзначаліся на раздзьмутай паверхні скапленнямі кальцынаваных касцей. Пад імі прасочаны ніжнія часткі пахавальных ям. Яны амаль круглыя ў плане, дыяметрам 0,4—0,6 м і глыбінёю 0,3—0,4 м. Запоўнены чорнаю зямлёю, у якой захавалася невялікая колькасць перапаленых касцей і дробныя фрагменты ляпной керамікі. У адным з пахаванняў каля в. Хорск выяўлены вялікі ляпны прыземісты гаршчок і авальная жалезная спражка, у другім — маленькі ляпны сасуд.

На тэрыторыі Украіны пераважаюць урнавыя пахаванні, хоць урнавыя і ямныя пахаванні звычайна выяўляюцца на адных і тых жа могільніках (Археология Украинской ССР, 1986. С. 143).

Рэчавы матэрыял, знойдзены на славянскіх помніках трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., даволі небагаты і складаецца з керамікі, вырабаў з металу, каменя і шкла. Сярод знаходак ёсць рэчы, функцыянальная прыналежнасць якіх добра вызначаецца, гэта перш за ўсё прылады працы, зброя, упрыгожанні, дэталі строю, а таксама прадметы менш акрэсленага характару, такія, як рэшткі харчавання, пячына, жужалі, драўняны вугаль, камяні са слядамі апрацоўкі і інш. Кераміка з'яўляецца асноўнай катэгорыяй знаходак на помніках пражскай культуры і ў колькасных адносінах значна пераўзыходзіць астатнія рэчы. Вырабы з металу, косці, каменя і шкла складаюць нязначную частку калекцыі.

Гліняны посуд на раннеславянскіх паселішчах Беларусі прадстаўлены ў асноўным гаршкамі, значна радзей сустракаюцца патэльні, міскі, мініяцюрныя сасудзікі (мал. 98, 99, 100). Для аналізу выкарыстаны матэрыялы з даследаваных раскопкамі селішчаў Струга-1 (Вергей, 1994. С. 63—85), Кажан-Гарадок (Гурын, 1994. С. 152—162), Блювінічы (Вяргей, Кудрашоў, 1994. С. 118—120), Востраў (Егорейченко, 1991б. С. 61—82), Камень-6 (Исаенко, 1988. С. 362—363), Петрыкаў (Ляўданскі, 1933; Gavrituchin, 1991. S. 95—

103), Ліпляны-6, Снядзін-1 і Снядзін-2 (Вяргей, 1997. С. 28—38), ніжняга гарызонту гарадзішча Хотамель (Кухаранко, 1961а; Русанова, 1973). На гэтых помніках атрыманы больш ці менш прадстаўнічыя калекцыі керамікі, у тым ліку і ў закрытых комплексах.

Уся кераміка гэтага часу леплена выключна ад рукі, фармавалася яна ў асноўным шляхам стужкавага налепу, прычым фрагментацыя сесудаў часта адбываецца на месцах злучэння стужак. Фармовачная маса складаецца з гліны з дамешкамі пяску, жарствы і шамоту. Найбольш часта і паўсюдна выкарыстоўваліся схудняючыя дамешкі з жарствы. Слюдзяністая жарства ў значнай меры характэрна для керамічных комплексаў Петрыкава, Снядзіна-1 і Снядзіна-2. Вельмі рэдка ў якасці дамешак ў глінянае цеста дадаваўся шамот. Аднак трэба адзначыць, што візуальна шамот цяжка пресочваецца і толькі петраграфічны аналіз можа праясніць сітуацыю. Па фактуры паверхні сесуды пражскай керамікі з памянёных помнікаў можна падзяліць на дзве групы: бугрыстыя і шурпатыя. Бугрыстая паверхня атрымлівалася ў выніку незусім стараннага перамешвання гліны і схудняючых дамешак, што прыводзіла да выступання дамешак, і перш за ўсё жарстаы, на сценках сасудаў. Жарства ў гэтых выпадках выкарыстоўвалася буйных і сярэдніх памераў (прыкладна 2—8 мм). У некаторых выпадках прымянялася абмазванне паверхні тонкім слоем гліны (своеасеблівы ангоб), якая таксама не магла схаваць бугрыстасць пааерхні. Зрэдку сустракаецца хоць і бугрысты, але вельмі добра загладжаны посуд, амаль падглянцаваны (Снядзін-2). Група шурпатых сасудаў характарызуецца шурпатай на вобмацак, амаль «вострай» паверхняй, якая ўтвараецца ад дамешак малых памераў, моцна здрабнёнай жарствы ці абмазвання сасудаў тонкім слоем тлустай гліны са значнымі дамешкамі пяску, а часам і слюды. Таўшчыня сценак раннеславянскай керамікі ў асноўным вагаецца ў межах 0,5—1 см, але ёсць больш тонкія і грубейшыя сценкі. Сярод шурпатых сасудаў танкасценныя сустракаюцца часцей, чым паміж бугрыстых. На некаторых сасудах назіраюцца сляды загладжвання вехцем ці пучком сена або саломы. Гэтыя сляды маюць выгляд слабай бессістэмнай авртыкальнай або дыяганальнай штрыхоўкі (Востраў, Снядзін-2). На донцах сасудаў, якія ляпіліся на падстаўцы, можна назіраць рэшткі падсыпкі, якая ўжывалася пры фармаванні посуду. Часцей за ўсё гэта быў пясок. Найбольш праўдападобна, што посуд абпальваўся на адкрытых вогнішчах, а не ў ганчарных печах. Аб гэтым сведчыць нераўнамернасць абпалу, якая адбілася ў ваганнях колеру адных і тых жа сасудаў, у іх плямістасці і крохкасці. У межах пашырэння пражскай культуры ў Еўропе ганчарныя печы да гэтых часоў не знойдзены. Эксперыментальна засведчана, што на вогнішчах дасягаецца тэмпература 520—600 °С, узровень якой дастатковы для абпалу керамікі.

Марфалагічны аналіз керамікі з раннеслааянскіх помнікаў Палесся сустракае вялікія цяжкасці, абумоўленыя як аб'ектыўнымі прычынамі, якія выклікаі ны сучасным станам даследаванняў, так і суб'ектыўнымі, звязанымі з натуральнымі уласцівасцямі самога керамічнага комплексу. Праблемы ўзнікаюць як з-за малога адрознення свсудаў, так і ў сувязі з іх фрагментарнасцю. Назіраецца невялікая колькасць тыповых формаў пры значных адрозненнях пэўных дэталей, якія выкліканы індывідуальным характарам вытворчасці посуду. Асаблівасці сасудаў часта згладжаны, слаба вылучаюцца, назіраецца няўлоўнасць пераходу ад адных формаў да другіх, што выклікае складанасці пры падзеле пражскай керамікі на тыпы і варыянты. Да таго ж трэба адзначыць, што ляпны посуд у пераважнай большасці асіметрычны, як па

гарызанталі, так і па вертыкалі сасуда. У гэтых выпадках розныя часткі аднаго сасуда могуць пры класіфікацыі належаць да розных варыянтаў.

У большасці манаграфій, прысвечаных вывучэнню славянскіх старажытнасцей, вялікая ўвага надаецца праблемам тыпалогіі, красіфікацыі і перыядызацыі ляпнога посуду. У гэтым плане выкарыстоўваюцца ў асноўным два падыходы. У адных выпадках адбываецца параўнанне асобных экземпляраў з прынятымі за ўзор сасудамі (Borkowski, 1940; Баран, 1988), у другіх у аснову пакладзена вызначэнне лічбавых параметраў зменнасці прапорцый, характэрных для раннеславянскай керамікі (Русанова, 1976; Русанова, Тимощук, 1984; Parczewski, 1988). Другі метад дае большыя магчымасці аб'ектыўнай красіфікацыі керамікі, але цяжкасці пры яго прымяненні ўзнікаюць у сувязі з невялікай колькасцю цэлых або рэканструяваных сасудаў. На тэрыторыі Паўднёвай Беларусі мы маем каля трох дзесяткаў такіх экземпляраў. Вялікая праца па вывучэнню керамікі пражскай культуры праароблена маскоўскім археолагам І. П. Русанавай (Русанова, 1973. С. 11—13; Яна ж, 1976; Яна ж, 1987. С. 93—100). Распрацаваны ёю прынцып красіфікацыі раннеславянскай керамікі V—X стст. выкарыстоўваецца практычна ўсімі археолагамі-славістамі. Прапанаваная І. П. Русанавай класіфікацыя мае два ўзроўні. Папершае, на падставе лічбавых прапорцый, іх асноўных вымярэнняў і адпаведных графікаў вылучаюцца пэўныя тыпы і віды. У гэтым выпадку выкарыстоўваюцца толькі цэлыя экземпляры. На другім узроўні падзелу прааналізаваны верхнія часткі сасудаў і выдзелена іх 9 варыянтаў. У апошнія гады з прапановамі новай сістэматызацыі раннеславянскай керамікі V—VII стст. выступіў польскі даследчык М. Парчэўскі. Як асноўны прынцып падзелу прыняты прапорцыі будовы сесуда і іх памеры, а як спосаб дапаможны прыцягеаецца форма венчыкаў (перш за ўсё іх даўжыня і вугал адхілення) і прыдонных частак, а ў адносінах да місвк — выразнае адрозненне брушкаў. Даследчык вылучыў 12 тыпаў сасудаў, у тым ліку 8 — для гаршкоў, 3 — для прысадзістых міскападобных сасудаў, 1 — для латэльняў (ці, як ён іх называе, талерак). Гаршкі характарызуе вышыня роўная альбо большая за дыяметр найбольшага пашырэння тулава. Большасць тыпаў падзелена на віды (Parczewski, 1988a. S. 16).

Метады класіфікацыі, прапанаваная І. П. Русанавай і М. М. Парчэўскім, на сёняшні дзень з'яўляюцца найбольш прымальнымі і распрацаванымі і дазваляюць даць агульную характарыстыку керамічнага комплексу з помнікаў Беларускага Палесся, вызначыць яго рэгіянальныя асаблівасці і суадносіны з іншымі тэрыторыямі пражскай культуры. На падставе марфалагічнага аналізу верхніх частак посуду вылучана шэсць тыпаў пражскай керамікі на Беларускім Палессі.

Першы тып прадстаўлены гаршкамі без шыйкі, з загнутым унутр верхнім краем сасуда, са слаба вылучаным плячом. Гэты тып сустракаецца даволі рэдка і адзначаны на паселішчах Петрыкаў, Снядзін-1 і Снядзін-2 (мал. 99:4). Падобны тып гаршкоў адзначаны на Валыні, у Паднястроўі, на Сярэднім Дняпры, не тэрыторыі Славакіі, але таксама ў невялікай колькасці (Русанова, 1976. С. 21—40; Fysek, 1994. Tabl. XXVII:15). Другі тып прадстаўляюць гаршкі з прамой шыйкай, герызантальна эрэзаным венцам і вылучаным ў рознай ступені плечуком (мал. 98:2, 4). Даследчыкі адзначаюць, што слабапрафіляваныя гаршкі з кароткай прамой шыйкай і гарызантальна зрэзаным венцам належаць да самых старажытных формаў посуду пражскага тыпу. Яны прысутнічаюць у комплекса пачатку ранняга сярэднявечча на тэрыторыі Украіны (Русанова, 1973. Табл. 4:3; 5: 9; 6: 5 і інш. С. 21—32; Яна ж, 1987. С. 93—100;

Баран, 1972. Рис. 55), Малапольшчы (Parczewski, 1998a. S. 62—83) і, адцаль, адносяцца да V—VI стст. Падобнае датаванне пацвярджаецца матэрыяламі з паселішчаў Кадын-1 на рацэ Прут (Русанова, Тимощук, 1984. С. 11. Рис. 9). Невялікая колькасць падобнай керамікі выяўлена на тэрыторыі Славакіі (Bialekowa, 1962. Tabl. 5), Чэхіі (Zeman, 1976. Tabl. 10:4) і на Сярэдняй Эльбе (Русанова, 1976. С. 137—160). Гаршкі з кароткай прамой шыйкай знойдзены на паселішчах Востраў, Петрыкаў, Снядзін-2 і складаюць невялікую колькасць. Трэба падкрэсліць, што гэты тып посуду выяўлены на паселішчы Востраў у комплексе жытла 3, якое па знойдзеных там 14-граннай шкляной пацерцы і наканечніку дроціка датуецца рубяжом IV—V стст. — першай паловай V ст. (Егорейченко, 1991. С. 66). Але найбольш пашыраны на палескіх помніках посуд з больш доўгай прамой шыйкай, які таксама паўсюдна сустракаецца на ранніх помніках пражскай культуры на Украіне (Русанова, 1987. С. 99), у Польшчы (Parczewski, 1988. S. 61—62). Гэта самы колькасны тып керамікі ў Петрыкаве і Снядзіне-2. Адзначаецца ён і на ўсіх іншых помніках Беларускага Палесся. Трэці тып прадстаўлены сасудамі з адхіленай вонкі шыйкай і гарызантальна зрэзаным венцам (мал. 99:1), да чацвёртага тыпу належыць посуд з адагнутай вонкі шыйкай і коса зрэзаным венцам (мал. 100:13), да пятага — сасуды з прамой шыйкай і закругленым венцам (мал. 100:9) і да шостага — посуд з адхіленай вонкі шыйкай і закругленым венцам (мал. 100:5, 14).

Найбольш характэрным афармленнем дна для палескай керамікі з'яўляецца яго падразанне з вонкавых бакоў. Такі спосаб прадстаўлены на ўсіх помніках, дзе былі знойдзены донныя часткі посуду. Ён пашыраны і на астатняй тэрыторыі пражскай культуры і не можа служыць нейкай храналагічнай адзнакай. Тое ж датычыць і днішчаў, якія плаўна пад тупым вуглом пераходзяць у тулава. Толькі на трох помніках (Петрыкаў, Снядзін-1 і Струга-1) у адзінкавых экземплярах выяўлены фрагменты донных частак з невысокай кругавой ножкай. У вельмі абмежаванай колькасці яны выступаюць і на астатняй тэрыторыі пражскай культуры, прычым як у старэйшых комплексах, так і ў малодшых (Parczewski, 1988a. S. 65—86; Русанова, Тимощук, 1984. Табл. 14; 28; 32; 15; 22).

Апроч гаршкападобных і міскападобных сасудаў у пражска-карчакскіх комплексах Беларускага Палесся прысутнічаюць у невялікай колькасці маленькія сасудзікі. Знойдзены яны ў Кажан-Гарадку, Снядзіне-2, Струзе-1 (мал. 104:5—7). Таксама малалікія знаходкі патэльняў. Адзінкавыя экземпляры выяўлены ў Петрыкаве, Снядзіне-2, Струзе-1, Ніжнім Церабяжове. Прадстаўлены дзвюма варыяцыямі. У адных кароткі трохвугольны ў сячэнні борцік крыху намечаны, у другіх — добра вызначаны, адхілены вонкі і дасягае вышыні 1,5—2 см. Дыяметр патэльняў вагаецца ў межах 14—20 см (мал. 98:5—8).

Статыстычныя выкладкі паказваюць, што найбольшае пашырэнне ў пражскім комплексе Беларускага Палесся маюць другі, трэці і чацвёрты тыпы, радзей сустракаюцца пяты і шосты. Найбольш рэдкі першы тып. Шырока пашыраная група посуду прадстаўлена сасудамі з вертыкальнай шыйкай сярэдняй і большай даўжыні і гарызантальна зрэзаным венцам, сасудамі з адагнутай вонкі шыйкай сярэдняй даўжыні з гарызантальна зрэзаным венцам і сасудамі з доўгай шыйкай, адагнутай вонкі, і коса зрэзаным венцам. Мінімальна прадстаўлены посуд з загнутым унутр краем, з кароткай прамой шыйкай і гарызантальным або закругленым краем венца.

Як ужо адзначалася, на палескіх помніках знойдзена пакуль што невялікая колькасць цэлых або цалкам узноўленых формаў посуду. Выкарыстоўваючы гэты матэрыял, а таксама ўлічваючы вялікія фрагменты верхніх час-

так, можна зрабіць спробу ахарактарызаваць найбольш тыповыя альбо рэдкія формы пражскага посуду з помнікаў Беларускага Палесся. Да тыповых формаў можна аднесці высокія гаршкі з нешырокім горлам, з вузкім дном і з больш ці менш азначанымі плечыкамі (від А) (Русанова, 1987. С. 97). Найбольшае пашырэнне прыпадае на верхнюю трэць. Выяўлены на ўсіх помніках, найбольш ярка прадстаўлены ў Востраве (жытло 1), ніжнім слоі гарадзішча Хотамель, Снядзіне-1 і Снядзіне-2, Петрыкаве, Струзе-1. Да другога тыпу (від Б па І. П. Русанавай) адносяцца больш адкрытыя гаршкі з такім жа нешырокім дном (Хотамель, Снядзін-2). Відаць, характэрнымі для палескага комплексу з'яўляюцца высокія гаршкі з плаўнымі, нізка апушчанымі плячамі і найбольшым пашырэннам крыху вышэй сярэдзіны або на сярэдзіне тулава. Такі сасуд знойдзены ў жытле 3 на паселішчы Востраў, які ўдалося цалкам рэканструяваць. Выяўлены яны ў Камені-6, Снядзіне-2 і на іншых помніках. У ніжнім слоі гарадзішча Хотамель знойдзены невысокі міскападобны гаршчок з выпуклымі плячамі (від Е па І. П. Русанавай). У Камені-6, у жытле 1 рэканструяваны гаршчок з даволі шырокімі вусцем і дном (тып В па І. П. Русанавай), такі ж знойдзены і ў Кажан-Гарадку (Гурын, 1994. Мал. 2:1). Да нізкіх міскападобных сасудаў (а можа, часткова і місак) адносіцца посуд з шырокім вусцем, адагнутай вонкі шыйкай і слаба вылучанымі плечыкамі. Прычым дыяметр пашырэння ў плячах можа быць меншы за дыяметр вусця. Гэты тып посуду найбольш рэпрэзентатыўны ў Струзе-1, ён адзначаны як у культурным пласце, так і ў жытлах 1, 2, 3. Падобныя формы посуду сустракаюцца на паселішчах Кадын-2, Гарэча (Русанова, Тимощук, 1984. С. 68. Табл. 4:67), Рыпнеў-1 (Аулих, 1963. С. 376. Рис. 8:3), Рыпнеў-2 (Баран, 1963. С. 362. Рис. 9:2, 3), Гульск, Карчак-1, Букі (Русаноаа, 1973. С. 72. Табл. 20:4—6), на раннесярэдневяковых помніках Польшчы (Parczewski, 1988a. S. 58. Ryc. 15G). Нізкія прыземістыя гаршкі вядомы ў ранніх доўгіх курганах (Седов, 1982. Табл. XVII), не селішчы Гарадзішча з матэрыяламі тыпу верхняга слоя Банцараўшчыны (Митрофанов, 1978. С. 141. Рис. 49:13).

У Хотамелі і Струзе-1 выяўлена нязначная колькасць сасудаў цюльпанадобных і біканічных формаў, з найбольшым пашырэннем крыху вышэй альбо ў сярэдзіне тулава (мал. 100:1—2). Яны не з'яўляюцца характэрнымі для помнікаў пражскага тыпу, а нагадваюць посуд калочынскага, банцараўскага альбо пянькоўскага кола старажытнасцей. Аднак падобныя сасуды знойдзены на паселішчах Карчак, Падрыжжа (Русанова, 1976. С. 38—39), Рашкаў (Баран, 1988. С. 12—15. Рис. 6:3. Табл. XXXVIII, 2), на раннаславянскіх помніках Польшчы (Parczewski, 1988a. S. 55. Ryc. 12. C.f; S. 56. Ryc. 13. D.f). Біканічныя сасуды знойдзены таксама ў Прыкарпацці (Вакуленко, 1974. С. 249), па берагах рэк Цясмін (Беразовец, 1963. Рис. 5:4; 9:5; 21:11, 13), Паўднёвы Буг (Хавлюк, 1963. Рис. 5:8; Винокур, Приходнюк, 1974. С. 234—235).

На паселішчы Струга-1 знойдзены цэлы гаршчок з высока размешчаным рабром (Вяргей, 1994а. С. 67—68. Табл. VI:3). Па форме больш за ўсё ён нагадвае рабрыстыя гаршкі культуры штрыхаванай керамікі на познім этапе яе існавання (мал. 100:8). Аналагі гэтаму гаршку можна знайсці і ў Падзясенні на селішчы V—VIII стст. Хітцы (Горюнов, 1981. С. 127. Рис. 52:2) і на раннесярэдневяковых помніках Польшчы (Parczewski, 1988a. S. 44. Ryc. 10:10,2a). З культурнага слоя Стругі-1 удалося рэканструяваць невялікую місачку (мал. 100:4), упрыгожаную асіметрычным хвалістым арнаментам (Вяргей, 1994а. С. 67—88. Табл. VI:10). Яна мае кароткую прамую шыйку, адагнутую вонкі, і высокае выпуклае плячо. Ёсць ёй аналагі не паселішчы Букі (Русанова, 1973. С. 20. Рис. 9:3), на раннеславянскіх помніках Польшчы (Parczewski, 1988a.

S. 45. Rys. 11:10.4b. Tabl. LXXIII:4). На селішчы Кажан-Гарадок знойдзены цэлы маленькі сасудзік слоікавай формы (мал. 100:3) з маленькім крыху адхіленым вонкі венцам (Гурын, 1994. Мал. 2:10). Маленькія сасудзікі зрэдку сустракаюцца на помніках пражскай культуры іншых рэгіёнаў (Parczewski, 1988a. Rys. 11:11.6). Фрагмент невялікага міскападобнага свсудзіка знойдзены на селішчы Снядзін-1. Ён мае паўсферычную форму. Амаль уся пражская кераміка з тэрыторыі Беларускага Палесся неарнаментавана. У адзінкавых экземплярах сустракаюцца насечкі па краі венца. На двух паселішчах у Кажан-Гарадку і Хотамелі знойдзены гаршкі цюльпанападобнай формы, упрыгожаныя пад самым венцам валікам з касымі насечкамі па ім (мал. 99:2). Падобным чынам арнаментаваныя свсуды выяўлены на паселішчах Карчак-1, 7, 9, Цецераўка (Русанова, 1973. Табл. 27:1—4, 6—7).

Раннеславянская культура Беларускага Палесся, як і іншых рэгіёнаў яе пашырэння, вызначаецца беднасцю рэчавага інвентару.

Па-за посудам частай знаходкай з'яўляюцца прасліцы — невялікія грузікі на верацяно (мал. 101). На раннеславянскіх паселішчах Беларусі іх знойдзена каля 60 экземпляраў. Яны вырабляліся з гліны, толькі на паселішчы Снядзін-2 выяўлены 2 прасліцы, зробленыя з ружовага оўручскага сланцу. Яны невысокія, біканічнай формы. Гэтыя прасліцы маглі трапіць на паселішча ў заключнай фазе яго існавання.

Гліняныя прасліцы зроблены з добра перамешанай гліны, вельмі часта старанна загладжаныя, падглянцаваныя. Маюць колер амаль чорны, шэры, карычневы альбо плямістыя. Па форме яны дзеляцца на некалькі тыпаў: біканічныя, сферычныя, цыліндрычныя. Пераважаюць у розных варыянтах біканічныя: высокія і нізкія, з акруглымі бакамі альбо з вострым ці адцягнутым рабром. Вышыня іх вагаецца ў памерах 3—1,2 см, дыяметр найбольшага пашырэння 3,2—2 см, дыяметр адтуліны 1—0,6 см. На паселішчы Струга-1 знойдзена несіметрычна біканічнае прасліца, у якім адна аснова шырэй за другую (Вяргей, 1994a. Табл. III:19). Прасліца, выяўленае на паселішчы Блювінічы, мае адцягнутае рабро, што не характэрна для гэтай тэрыторыі (мал. 101:6). Аналагі яму можна знайсці на позніх паселішчах культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978. С. 27. Рис. 27:5, 9), на помніках тыпу другога пласта гарадзішча Тушамля (Третьяков, Шмидт, 1963. С. 57), у старажытнасцях банцараўскай культуры (Митрофанов, 1978. С. 56:31). Біканічныя прасліцы маюць шырокі храналагічны і тэрытарыяльны дыяпазон. У рымскі перыяд яны пераважаюць не помніках культур чарняхоўскай (Баран, 1981. С. 102—103), кіеўскай (Терпиловский, 1984. С. 33), пшэворскай (Godłowski, 1977. S. 110). Асабліва яны дамінуюць у кіеўскай культуры. У раннеславянскі час біканічныя прасліцы шырока распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі пражскай культуры і працягваюць сваё існаванне і ў больш позні час (Березовец, 1963. Рис. 12, 13; Хавлюк, 1963. Рис. 4; Ауліх, 1972. С. 77—81; Русанова, 1973. Табл. 33:1—7, 10—11; Zeman, 1976. S. 198; Parczewski, 1988a. S. 89—90) і інш.

Сферычныя прасліцы нешматлікія і па форме набліжаюцца да ўплошчанага шара (мал. 101:9). Дыяметр вагаецца ў межах 1,6—2,8 см, дыяметр адтулін 0,9—0,7 см. Гэтыя прасліцы таксама не маюць вартасці храналагічнага альбо культурнага індыкатара. У невялікай колькасці яны выступаюць у раннеславянскіх і аварскіх комплексах (Русанова, Тимощук, 1984. Рис. 16:5, 6; Zeman, 1976. Rys. 51:2—4; Parczewski, 1988a. Tabl. LIV:17; LXXXIV; 5). Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены цыліндрычныя акруглабокія прасліцы (Струга-1, Снядзін-2, Кажан-Гарадок). Таксама вельмі рэдка яны сустра-

каюцца і на іншых помніках пражскага арэала (Bialeková, 1962. Tabl. 30:11; Ауліх, 1972. С. 79. Табл. XVI:25; Parczewski, 1988a. Tabll. XXXI:4; LI:22).

У шэрагу выпадкаў паверхня прасліц упрыгожана кропкавым арнаментам, які згрупаваны ў лінію, трохкутнікі, ромбы, квадраты (мал. 101:1, 3—4, 11, 12). Падобныя арнаменты сустракаюцца на прасліцах шмат якіх раннесярэдневяковых паселішчаў Еўропы і больш характэрны для VI—VIII стст., чым для IX—X стст. (Петрашенко, 1988. С. 30). Адно біканічнае прасліца з Бпювініч упрыгожана нерэгулярнымі крэскамі, а на фрагменце прасліца з селішча Снядзін-2, магчыма, быў прачэрчаны крыжык.

Са слабаабпаленай гліны зроблены так званыя хлябцы — круглаватыя, крыху сплюшчаныя з аднаго ці абодвух бакоў вырабы (мал. 104:1—3). Яны знойдзены на паселішчах Кажан-Гарадок, Снядзін-2, Струга-1, Ліпляны-6 у асноўным у развалах печаў. Іх дыяметр вагаецца ў межах 9—5 см. Меншага дыяметра хлябец (4 см) выяўлены ў вялікай неглыбокай ямцы, якая можа быць рэшткамі гаспадарчай пабудовы, на селішчы Струга-1 (мал. 104:3). Хлябцы зроблены з рудой або чырвонай гліны з дамешкамі пяску, арганікі або дробнай жарствы ў цесце. Вырабы гэтыя не арнаментаваліся, толькі на паверхні аднаго хлябца з Кажан-Гарадка можна назіраць нейкія нерэгулярныя крэскі. Падобныя прадметы сустракаюцца і ў іншых рэгіёнах пражскай культуры. Але трэба адзначыць, што калі на палескіх селішчах яны выяўлены ў асноўным у жылых пабудовах, часцей за ўсё ў развалах печаў, то на Украіне іх знаходзяць пераважна ў культурным пласце. Як адзначае І. П. Русанава (Русанова, 1973. С. 17), на паселішчы Карчак скапленне з 10 цэлых і фрагментаваных хлябцоў знойдзена ў мацерыковай яме, адзін з іх быў упрыгожаны крыжам, перакрэсленым па сырой гліне пальцам. У Польшчы знаходкі хлябцоў на раннеславянскіх паселішчах даволі рэдкая з'ява, адзінкавыя экземпляры выяўлены ў Жуковіцах і Злотэй (Parczewski, 1989. S. 44). Выключэннем з'яўляецца паселішча ў Гродзіску Дольным, дзе знойдзены 131 цэлы і фрагментаваны хлябец пераважна ў развалах печаў (Podgórska-Czopek, 1991. S. 29—30). Функцыя хлябцоў пакуль застаецца не высветленай. У археалагічнай літаратуры (Русанова, 1976. С. 50; Седов, 1982. С. 16) звычайна надаюць ім нейкі культавы сэнс. Аднак іх знаходкі на Палессі і ў Польшчы ў печах прыводзяць да думкі аб нейкай канструкцыйнай ролі ў складзе печаў альбо сувязі з пэўнымі вераваннямі адносна месца печы ў структуры жылля. Гліняныя і каменныя грузілы ад рыбалоўных сетак знойдзены на паселішчах Снядзін-2 і Струга-1. Іх дыяметр 6—4,5 см. Цэлыя і фрагментаваныя тачыльныя камяні зафіксаваны на паселішчах Снядзін-2, Струга-1, Бпювінічы. Рабіліся яны з дробназярністага пясчаніка або крышталічнага сланцу шэрага, цёмна-шэрага ці зеленаватага колеру. Маюць розныя памеры і ў большасці прамавугольную форму, але ёсць і авальная. Падобныя рэчы распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі пражскай культуры. Фрагмент круглага каменнага тачыла дыяметрам 12 см знойдзены на селішчы Снядзін-2 (мал. 104:4). У яго цэнтры маецца адтуліна для стрыжня, на якім яно трымалася і паварочвалася. Падобнае, толькі крышку большае па памерах тачыла выяўлена на паселішчы Кадын-2 на Украіне (Русанова, Тимощук, 1984. С. 17).

З жалезных рэчаў найбольш часта сустракаюцца нажы, яны знойдзены на ўсіх даследаваных раскопкамі паселішчах, але ў большасці выпадкаў у фрагментах (мал. 102:1—2, 10). Калі разглядаць цэлыя формы, то можна заўважыць, што на пражскіх паселішчах нажы невялікія, іх даўжыня вагаецца ў межах 14—5 см. Чаранок аддзяляецца ад спінкі і ляза невялікімі ўступамі, спінка звычайна прамая. Ручкі, відаць, былі драўлянымі і не за-

хаваліся, толькі на селішчы Бпювінічы выяўлены фрагмент нажа з драўлянай ручкай, якая складалася з дзвюх частак, замацаваных бронзавымі або меднымі заклёпкамі. Праводзіўся металаграфічны аналіз толькі нажоў з паселішча Кажан-Гарадок (Гурын, 1994. С. 160—161). Адзначана, што два нажы выраблены з крычнага жалеза ферытавай структуры, адзін экземпляр выкананы з жалезнай нарыхтоўкі, папярэдне апрацаванай спосабам пакетавання зыходнай сыравіны. Гэты спосаб заснаваны на шматразовай пракоўцы, складванні і зварцы паўфабрыката, ад чаго атрымлівалася шматпалосная структура. Па аналагічнай тэхналогіі, але з сырцовай сталі зроблены яшчэ адзін нож. Сустрэты нож зроблены са сталі, але па тэхналогіі зваркі асобных кавалкаў. Як адзначае М. Ф. Гурын (Гурин, 1994. С. 161), прадметы з якаснымі зварнымі швамі і шматпалоснымі структурамі характэрны не толькі для Кажан-Гарадка, але і для паселішчаў пражскай культуры з тэрыторыі Малдовы, Польшчы, Украіны. Метал з аналагічнымі структурамі шырока выкарыстоўваўся на гарадзішчы Зімна ў Заходняй Валыні (Аулих, 1972) і на тэрыторыі Польшчы (Parczewski, 1988. S. 88). На раннеславянскім паселішчы Жуковіцы выяўлены нож, у якім на жалезную аснову было наварана стальное лязо (Parczewski, 1988. S. 88). Такая тэхналогія пакуль не зафіксавана на Беларускім Палессі, хаця гэты прыём знаёмы майстрам з Жуковіц (Parczewski, 1988a. S. 88) і з пражскіх помнікаў Украіны (Русанова, 1973. С. 17). На некаторых паселішчах (Кажан-Гарадок, Снядзін-2, Чэрнічы) у культурным пласце знойдзены фрагменты сякер, па якіх практычна нельга ўзнавіць іх форму. Як адзначыў М. Ф. Гурын (Гурын, 1994. С. 160), абломак ляза сякеры з Кажан-Гарадка зроблены з нізкавугляродзістай сталі. На паселішчы Камень выяўлены фрагмент жалезнай пілы і акоўка драўлянай лапаты. У гаспадарчай яме на паселішчы Камень-6 знойдзены серп. Ён мае крыху загнутае лязо з больш рэзкім выгінам у месцы пераходу ў чаранок. Даўжыня ляза 32 см, чаранка — 12 см. Пласцінкавыя трапецападобныя крэсівы з вушкам выяўлены на селішчах Снядзін-2 і хутар Бухлічы (мал. 102:3—4). Падобныя рэчы вядомыя ў старажытнасцях познадзякаўскай, кіеўскай, пшэворскай, ліпіцкай і іншых культур. Існуюць яны з пачатку і амаль да канца 1-га тысячагоддзя н. э. (Розенфельдт, 1982. С. 143—145). У іншых рэгіёнах пражскай культуры не сустракаюцца. Жалезныя шылы знойдзены пакуль толькі на селішчах Снядзін-2 і хутар Бухлічы. Уяўляюць сабою стрыжні даўжынёй 9—12 см (мал. 102:5—7). Рабочая частка круглая ў сячэнні і завострана, сярэдзіна мае каадратнае або прамавугольнае сячэнне. Край, на якім мацавалася ручка, уплашчаецца і нагадвае лапатачку. Амаль на кожным паселішчы сустракаюцца цвікі розных памераў. На селішчы Снядзін-2 знойдзены невялікі масіўны прабойнік і колца з прабоем — магчыма, ручка ад дзвярэй (мал. 102:8, 9).

Найбольш пашыраным відам зброі, якая выкарыстоўвалася на паляванні і на вайне, былі стрэлы, ад якіх захаваліся двухшыпавыя ўтулкавыя і чаранковыя жалезныя наканечнікі, знойдзеныя на селішчах Камень-6, Струга-1, Снядзін-2 (мал. 103:2—6). Двухшыпавыя ўтулкавыя наканечнікі стрэл распаўсюджаны на тэрыторыі Цэнтральнай Еўропы. Славяне запазычалі іх у германцаў. А. Ф. Мядзведзеў (Медведев, 1966. С. 56) лічыў, што на ўсходніх землях славян двухшыпавыя ўтулкавыя наканечнікі стрэл бытавалі ў VIII—XIII стст. Р. С. Мінасян (Минасян, 1978. С. 35—37) слушна зазначыў, што падобныя наканечнікі на захад ад Дняпра пранікаюць раней. Яны знойдзены на помніках з матэрыяламі VI—VII стст. у Семенках і Селіштэ і на сярэдневяковых помніках з больш шырокай датай: Зімна, Ханска, Луг-1, Рыпнеў, Ка-

лочын і інш. Плоскія двухшыпавыя тронкавыя наканечнікі стрэл маюць больш шырокі храналагічны дыяпазон — ад І да XIV ст. (Медведев, 1966. С. 61). У ніжнім гарызонце гарадзішча Хотамель знойдзены трохлопасцевы наканечнік стралы. Мяркуюць, што падобныя наканечнікі з'яўляюцца ў VII ст. (Медведев, 1966. С. 59—61). Зброя блізкага бою прадстаўлена жалезным утулкавым наканечнікам дроціка, выяўленым у комплексе жытла 3 на селішчы Востраў (мал. 103:1). Ён мае падоўжана-рамбічную форму пяра і сячэнне рамбічнай формы. Канец утулкі крыху абламаны. Агульная даўжыня 11 см. Суадносіны даўжыні пяра да ўтулкі складаюць 1,7:1. Поўныя аналагі наканечніка не знойдзены, але ён у пэўнай ступені нагадвае наканечнікі дроцікаў, якія існавалі ў насельніцтва пшэворскай культуры на заключным этапе яе развіцця (Егорейченко, 1991. С. 66).

Упрыгожанні і дэталі касцюма прадстаўлены фібуламі, спражкамі, кольцамі і пацеркамі. На селішчы Востраў (Егорейченко, 1991б. С. 70) знойдзена на паверхні культурнага пласта спінка прагнутай падвязной фібулы (мал. 103:13) варыянта 3 першай серыі па класіфікацыі А. К. Амброза (Амброз, 1966. С. 64. Табл. 11:12). Падобныя фібулы сустракаюцца на помніках IV—V стст. у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Е. Л. Гараховскі (Гороховский, 1988. С. 44—45) абмяжоўвае час існавання падобнага тыпу фібул апошняй чвэрцю IV ст. — першай чвэрцю V ст. Другая бронзаввя фібула знойдзена на паверхні паселішча хутара Бухлічы. Спружына і іголка адсутнічаюць (мал. 103:15). Даўжыня спінкі каля 3 см, упрыгожана гарызантальнымі баразёнкамі. Прыёмнік літы і складае адзінае цэлае са спінкаю. Асноўны рэгіён канцэнтрацыі падобных фібул — Правабярэжжа Ніжняга Дуная. Датуюць іх VI ст. (Горюнов, Казанский, 1983. С. 191—204). У культурным пласце паселішча Снядзін-2 выяўлена цэльналітая, выробленая з каляровага металу спражка візантыйскага тыпу (мал. 103:12). Найбольш блізкія па форме і стылістыцы спражкі знойдзены на славяна-аварскім могільніку Дэвінска Нова Весь, якія размешчаны каля Браціславы. Датуюцца яны VII ст., а магчыма, і больш вузка — другой паловай VII ст. (Varsik, 1992. S. 77—108). Жалезныя паясныя авальныя спражкі знойдзены на могільніку каля в. Хорск (мал. 103:14) і паселішчы каля в. Блювінічы (мал. 103:9). Яны падобныя па форме і памерах, адпаведна 3,3 × 2,2 см і 3 × 1,8 см. На пасяленні Снядзін-2 выяўлены два кальцы з разамкнутымі канцамі, зробленыя з круглага ў сячэнні дроту, колца з заходзячымі канцамі, выробленае з плоскай пласцінкі, і другое такое ж пласцінкавае колца, але адзін канец якога нагадвае спіральны штопар з трох віткоў, размешчаны перпендыкулярна плоскасці колца (мал. 103:7—8, 16—17).

Вырабы са шкла прадстаўлены разнастайнымі пацеркамі (мал. 104:8—19). На селішчы Струга-1 знойдзена 6 пацерак. У жытле 1 пры разборцы печы знойдзена 14-гранная паўпразрыстая пацерка сіняга кобальтавага колеру (мал. 104:9). Падобныя пацеркі з'яўляюцца на Паўночным Каўказе яшчэ ў IV—V стст. н. э. (Деопик, 1959. С. 55), а ў VI—IX стст. шырока вядомы на помніках Усходняй Еўропы ад Крыму да Старой Ладагі (Деопик, 1961. С. 218; Школьникова, 1978. С. 97—98; Розенфельдт, 1982. С. 62—63). Астатнія пацеркі знойдзены па-за комплексамі. Сярод іх чорная бочкападобная пацерка, арнаментаваная плоскімі плямкамі, хаатычна размешчанымі на яе паверхні (мал. 104:8). Плямкі жоўтыя і зялёныя з чырвонай тонкай аблямоўкай. Вышыня яе 1,02 см, дыяметр 1,4 см, дыяметр адтуліны 0,68 см. Дыяметр плямак вагаецца ад 0,2 да 0,5 см. Па тэхніцы вырабу і арнаментацыі блізкія вочкавым пацеркам, якія апісала В. Б. Дэопік (Деопик, 1961. С. 222—223). Тыповыя для крымскіх і паўночнакаўказскіх могільнікаў IV—V стст. Існуюць у

VI—IX стст. на поўдні Усходняй Еўропы. З глухога чорнага шкла выраблена бочкападобная пацерка, вышыня якой 1,5 см, дыяметр адтуліны 0,32 см, у аснове шасцівугольнік са стараной 0,3 см (мал. 104:12). У помніках VI—VII стст. Паўднёва-Усходняй Еўропы яны складаюць 3 % знаходак, у VIII—IX стст. — да 7% (Деопик, 1961. С. 219). У вельмі абмежаванай колькасці яны вядомы на другім Паломскім могільніку (Львова, 1973. С. 96), у Старой Ладазе (Львова, 1968. С. 90). Знойдзены таксама зонныя пацеркі. Адна ярказялёная з празрыстага шкла, яе вышыня 0,6 см, дыяметр 1 см, дыяметр адтуліны 0,4 см (мал. 104:17). Другая цёмна-сіняя з непразрыстага шкла, вышынёй 0,3 см, дыяметрам 0,6 см, дыяметр адтуліны 0,1 см (мал. 104:18). Подобныя пацеркі не з'яўляюцца рэдкасцю на помніках VI—IX стст. у Крыме, Прадкаўказзі і Падонні (Деопик, 1961. С. 215), у Скандынавіі і Старой Ладазе (Львова, 1968. С. 75—77). Акрамя цэлых пацерак знойдзены таксама невялікія кавалкі шклянога жужаля сіняга колеру.

На селішчы Снядзін-2 выяўлена пацерка ў форме куба са зрэзанымі краямі (мал. 104:10), выраблёная з сіняга паўпразрыстага кобальтавага шкла. Падобныя пацеркі з'яўляюцца на Паўночным Каўказе ў IV—V стст. (Деопик, 1959. С. 55) і шырока распаўсюджваюцца на тэрыторыі Усходняй Еўропы ў VI—IX стст. (Деопик, 1961. С. 218). У VI ст. яны вядомы ў Крыме, у VII—IX стст. іх многа на Дзмітраўскім могільніку салтаўскай культуры (Деопик, 1961. С. 218). Значны працэнт яны складаюць у Лядзінскім, Томнікаўскім і Паломскім могільніках (Львова, 1973. С. 95). Сустракаюцца ў ніжніх пластах Старой Ладагі (Львова, 1973. С. 95). У Бязводнінскім могільніку пацеркі гэтага тыпу знойдзены ў пахаванні 85. Яно датуецца V—VII стст. (Розенфельдт, 1982. С. 63). Аналагічныя пацеркі знойдзены таксама ў позніх (верхніх) пластах дзякаўскіх гарадзішчаў (Розенфельдт, 1982. С. 63). Такая ж сіняя пацерка, як і на паселішчы Снядзін-2, выяўлена на паверхні грунтавога могільніка, які займае ўзвышша паміж паселішчамі Снядзін-1, Снядзін-2 і Снядзін-3. У культурным пласце селішча Снядзін-2 адзначана таксама чатырохчасткавая шкляная пранізка сіне-бірузовага колеру (мал. 104:15). Выцягнутая са шкляной трубачкі, у сярэдзіне назіраецца тонкая металічная пракладка. Як храналагічны індыкатар можа быць выкарыстана 14-гранная сіняя шкляная пацерка (мал. 104:16), знойдзеная ў закрытым комплексе жытла 3 на селішчы Востраў (Егорайченко, 1991б. С. 61—82). Падобныя ўпрыгожанні ў вялікай колькасці сустракаюцца на помніках вельбарскай, чарняхоўскай, пшэворскай культур (Stawiarska, 1987) і датуюцца III—IV стст.

Храналогія пражскай культуры на тэрыторыі Беларусі распрацавана пакуль недастаткова. Гэта выклікана, з аднаго боку, невялікімі маштабамі даследаванняў, розным узроўнем публікацыі атрыманых матэрыялаў, а з другога — характарам матэрыяльнай культуры славянскіх помнікаў, на якіх пераважна знаходзяць рэшткі керамічных вырабаў і ў вельмі невялікай колькасці металічныя вырабы, прыдатныя для распрацоўкі храналагічнай шкалы. Агульныя даты культуры ў межах V—VII стст. вызначаюцца знаходкамі фібул, спражак, некаторых тыпаў пацерак і зброі, якія выяўлены ў жыллёвых комплексах і ў добра стратыфікаваных пластах, а таксама тыпалогіяй керамікі.

Пры вылучэнні найбольш старажытнай групы паселішчаў Беларускага Палесся важнае значэнне маюць матэрыялы, атрыманыя А. А. Егарэйчанкам (Егорейченко, 1991б. С. 61—82) на селішчы Востраў у Пінскім раёне. У комплексе жытла 3 названага помніка разам з фрагментамі ляпнога посуду выяўлены 14-гранная шкляная пацерка і наканечнік дроціка, якія даюць дату IV — пачатаку V ст. Да таго ж часу можна аднесці знойдзеную

на паверхні селішча прагнутую падвязную фібулу. На жаль, керамічны комплекс як самога жытла 3, так і паселішча Востраў-3 вельмі малалікі (каля 10 экземпляраў, прыдатных для аналізу), што ўскладняе яго параўнанне з іншымі помнікамі. Аднак, несумненна, формы посуду з Вострава суадносяцца з найбольш ранніми тыпамі пражскай керамікі, якія выяўлены ў іншых рэгіёнах культуры і датуюцца рэчамі, храналогія якіх абмежавана V ст. (Русанова, Тимощук, 1984; Parczewski, 1988). Ранняя дата селішча Петрыкаў (V—VI стст.) аргументавана І. А. Гаўрытухіным (Gavrituchin, 1991. С. 95—103) па аналагах з керамічных комплексаў селішча Абалонь у Кіеве. Такім чынам, не выключана, што славянскае насельніцтва, якое пакінула помнікі пражскага тыпу на Беларускім Палессі, з'явілася тут у першай палове V ст. н. э. На аснове параўнання керамічных комплексаў можна выказаць меркаванне, што ў VI—VII стст. функцыяніравалі паселішчы Снядзін-1 і Снядзін-2, Кажан-Гарадок, Блювінічы, хутар Бухлічы, Камень-6, Струга-1, Ліпляны-6. У VII ст. узводзяцца гарадзішчы каля вёсак Хотамель, Хільчыцы і Харомск. Верхні рубеж развіцця пражскай культуры на Беларусі датуецца канцом VII — пачаткам VIII ст. і абапіраецца на спалучэнне развітых формаў керамікі, на знаходку цэльналітай спражкі візантыйскага тыпу на селішчы Снядзін-2 і на выяўлены ў ніжнім гарызонце культурнага пласта Хотамельскага гарадзішча трохлопасцевы наканечнік стралы аварскага тыпу.

Археалагічныя матэрыялы даюць няшмат фактаў для рэканструкцыі гаспадарчай дзейнасці насельніцтва пражскай культуры на тэрыторыі Беларусі, таксама як і ў іншых яе рэгіёнах. Лакалізацыя паселішчаў каля рэк і азёр, дзе былі вольныя ад лясоў землі і добрыя пашы на паплавах, адбіткі зерня на гліняным посудзе і астэалагічны матэрыял, прадукты вытворчасці прыводзяць да высновы, што земляробства і жывёлагадоўля з'яўляліся важнейшымі галінамі гаспадаркі раннеславянскага грамадства. Гэты тэзіс пацвярджаецца таксама паведамленнямі візантыйскіх аўтараў VI—VII стст. Маўрыкій зазначаў, што плямёны склавінаў і антаў валодалі вялікай колькасцю разнастайнай жывёлы і прадуктаў земляробства, асабліва проса і пшаніцы, якія яны складвалі ў сцірты (Свод... 1991. С. 369).

Паводле Пракопія Кесарыйскага славяне размяшчаліся на значнай адлегласці адзін ад другога і часта мянялі месца жыхарства. Яны ахвяравалі богу бліскавіц валоў і іншых жывёл, у якасці ваеннай здабычы гналі на сваю тэрыторыю статкі жывёлы (Свод... 1991. С. 183).

Няма прамых сведчанняў аб асартыменце агракультур на Беларусі ў V—VII стст. Але зважаючы на уніфікаваны характар пражскай культуры па ўсёй тэрыторыі яе распаўсюджання, можна выкарыстаць адпаведныя матэрыялы з яе іншых рэгіёнаў. На падставе палеабатанічных даследаванняў устаноўлена, што славянскае насельніцтва вырошчвала проса, пшаніцу, ячмень. Першае месца па пасадках, відаць, займала проса, якое вызначаецца марозаўстойлівасцю, засухаўстойлівасцю і скараспеласцю. Добра прыстасоўваюцца да розных кліматычных умоў і прымітыўна апрацаванай глебы полба-двухзярноўка і ячмень. Вырошчвалі таксама жыта, авёс, гарох, сачавіцу, каноплі, лён і інш. З асартыменту сельскагаспадарчых прыладаў на раннесярэдневяковых славянскіх паселішчах часцей за ўсё сустракаюцца сярпы. Асіметрычны серп развітай формы выяўлены на паселішчы Камень-6 у гаспадарчай яме. Металічных наканечнікаў сельскагаспадарчых ворных прыладаў не выяўлена. Відаць, шырока выкарыстоўваліся драўляныя прылады: ралы, бароны-сукаваткі, нажныя і ручныя ступы і г. д. Этнаграфічныя дадзеныя і набор збожжавых культур, характэрныя для раннеславянскай сель-

скай гаспадаркі, сведчаць аб невысокім даволі прімітыўным узроўні апрацоўкі глебы, што забяспечвалася драўлянымі прыладамі працы пры ляднай або пералогавай сістэме земляробства.

Значнае месца ў гаспадарцы плямёнаў пражскай культуры займала жывёлагадоўля, характар якой раскрывае астэалагічны матэрыял, знойдзены на паселішчах. Але, на жаль, не заўсёды яго захаванасць добрая, а колькасць дастатковая для палеазаалагічных вызначэнняў. Найбольшая калекцыя касцей жывёл атрымана на паселішчы Снядзін-2. Па вызначэнні П. Каліноўскага і А. Разлуцкай, галоўнай крыніцай мясного харчавання для насельніцтва гэтага селішча былі свойскія жывёлы, рэшткі якіх склалі каля 88 працэнтаў вызначаемых костак. У склад свойскага статка ўваходзілі свінні, буйная і дробная рагатая жывёла. Па колькасці асобін нязначна пераважала свіння, на другой пазіцыі была буйная рагатая жывёла і на трэцяй — дробная. Падобная структура статка, калі ў ім пераважала свіння, не характэрна для помнікаў пражскай культуры. Астэалагічныя матэрыялы з раннеславянскіх комплексаў на тэрыторыі Украіны, Германіі, Румыніі сведчаць аб дамінаванні буйной рагатай жывёлы (Археология Украинской ССР, 1986. С. 150; Parczewski, 1988. S. 71). Візантыйскія пісьмовыя крыніцы VI—VII стст. таксама недвухсэнсоўна паказваюць на галоўнае месца ў структуры жывёлагадоўлі славянскага насельніцтва буйной рагатай жывёлы (Свод... 1991. С. 183). На паселішчы Снядзін-2 выяўлены косці свойскіх птушак — качкі і пеўня.

Істотную ролю ў гаспадарцы раннесярэдневяковага насельніцтва на Беларускім Палессі адыгрывалі паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Знойдзены косці зубра, бабра і куніцы. У гаспадарчых ямах нярэдка сустракаюцца выразныя пласты з пускі і касцей рыб. Па вызначэнні Э. Ляшкевіч, іхтыёфауна прадстаўлена шчупакамі, акунямі, карпамі, лячшамі, гусцярай і інш. Аб лоўлі рыбы з дапамогай сетак сведчаць знаходкі грузіл на селішчах Струга-1 і Снядзін-2.

Вялікае значэнне ў эканоміцы раннеславянскага грамадства мела металургія жалеза. Шырокая распаўсюджанасць балотных руд на Беларусі і адносна нескладаны спосаб атрымання з іх металу садзейнічалі пашырэнню навыкаў жалезаробства. Практычна на ўсіх паселішчах знойдзены металургічныя шлакі, якія часта выкарыстоўваліся для збудавання агменяў у жытлах. Значнае скапленне руды і шлакаў зафіксавана на паселішчах Снядзін-3 і Снядзін-2, а на апошнім адкрыты рэшткі металургічных печаў. Гэта асобны вытворчы ўчастак паселішча, на якім акрамя печаў выяўлена вялікая колькасць гаспедарчых ям з абпаленымі сценкамі і дном, адкрытыя агмені, выкладзеныя з камянёў і фрагментаў гліняцага посуду. Металургічныя печы ўяўлялі сабой хутчэй за ўсё гліняныя, круглыя ў плане шахты са злёгку паглыбленай асноваю. Яны маглі выкарыстоўвацца некалькі разоў, аб чым сведчаць сляды іх рэканструкцыі. Тут жа, побач з печамі, відавочна, адбываўся працэс узбагачэння руды і выпальвання драўнянага вугалю. Асартымент жалезных вырабаў не надта вялікі. Гэта нажы, шылы, прабойнік, крэсівы, спражкі, серп, цвікі і інш. Аб структуры і тэхналагічных асаблівасцях вытворчасці гэтых рэчаў пакуль няма дадзеных. З дапамогаю металаграфічных метадаў прааналізаваны толькі нажы з селішча Кажан-Гарадок (Гурын, 1994. С. 160—162). Яны вырабляліся з крычнага жалеза ферытавай структуры, з пакетаваных жалезных і сталёвых нарыхтовак. Кавалі з Кажан-Гарадка валодалі таксама тэхнікай зваркі.

Акрамя вырабаў з жалеза на паселішчах пражскай культуры выяўлены рэчы з каляровых металаў. Частка іх выраблялася на месцы, аб чым свед-

чаць знаходкі абломкаў ліцейных тыгляў, бронзавых жужаляў (вылівак) і нарыхтовак. Цікава, што кавалкі тыгляў і бронзавыя нарыхтоўкі знойдзены на селішчы Снядзін-2 на тым жа ўчастку, дзе адкрыты сырадутныя горны. Гэта, магчыма, сведчыць аб тым, што працэс вытворчасці жалеза, кавальства і апрацоўка каляровых металаў канцэнтраваліся ў адных руках. На месцы выраблялІся ўпрыгожанні простых нескладаных формаў. Сляды кавальскай і ліцейнай вытворчасці, рэшткі жалезаробчых горнаў выяўлены таксама на паселішчы Рыпнёў-2, якое размешчана на Украіне. Гэты факт паказвае, што спалучэнне металургічнай, кавальскай і ліцейнай справы — з'ява звычайная для славянскіх майстроў V—VII стст. (Баран, 1972. С. 75—76). Паколькі вытворчасць і апрацоўка металу патрабавала пэўнага ўмельства, сакрэты якога перадаваліся з пакалення ў пакаленне, яны хутчэй за ўсё былі сямейнай справай. Адбываўся працэс станаўлення вясковага рамястаа, якое забяспечвала патрэбы жыхароў селішча, а магчыма, і невялікай акругі ў метале і вырабах з яго. Рамеснікі працавалі «на замову» і прадукцыя іх працы яшчэ не мела пастаяннага і ўстойлівага рынку збыту, што вымушала іх займацца і сельскай гаспадаркай. Насельнікі паселішчаў пражскай культуры займаліся таксама будаўнічай справай, ганчарствам, прадзеннем і ткацтвам, аб чым сведчаць рэшткі пабудоў, фрагменты керамічнага посуду, шматлікія знаходкі прасліц. А на гарадзішчы Харомск былі выяўлены гліняныя грузілы ад вертыкальнага ткацкага стана (Залашко, 1981. С. 334—335).

Па-ранейшаму дыскусійнай застаецца праблема паходжання пражскай культуры. У сучаснай навуковай літаратуры вылучаецца некалькі напрамкаў пошукаў яе вытокаў. І. П. Русанава (Русанова, 1976) і В. В. Сядоў (Седов, 1982. С. 19; Ён жа, 1994. С. 292—293) распрацавалі канцэпцыю, згодна з якой носьбіты пражска-карчакскіх старажытнасцей з'яўляюцца нашчадкамі насельніцтва пшэворскай культуры. На іх думку станаўленне славянскага культурнага адзінства, якое адлюстравалася ў паступовым фарміраванні ўстойлівых домабудаўнічых традыцый (падквадратная ў плане паўзямлянка з ацяпляльным збудаваннем ў адным з куткоў) і саоеасаблівага керамічнага комплексу, адбывалася на аснове пшэворскай спадчыны. Прадстаўнікі іншага напрамку І. Вернер (Вернер, 1972. С. 102—115), К. Гадлоўскі (Godłowski, 1973; Ён жа, 1987. С. 143—154), М. Парчэўскі (Parczewski, 1988a. S. 105—108), М. Б. Шчукін (Щукин, 1994. С. 28—30) і іншыя аддаюць перавагу ўсходняму накірунку культурагенезу раннесярэдневяковага славянства. Яны бяруць за аснову параўнання структурную мадэль славянскай супольнасці і шукаюць вытокі яе культуры на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя, Падзясення і Беларусі, перш за ўсё ў межах пашырэння помнікаў кіеўскай культуры. Даследчыкі адзначаюць, што па ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця і культурных традыцыях славяне V—VI стст. бліжэй да насельніцтва лясной зоны Усходняй Еўропы II—IV стст., чым да лесастэпавых чарняхоўскай, пшэворскай і вельбарскай культур з іх даволі высокім узроўнем рамяства, сельскай гаспадаркі, гандлю і грамадскіх адносін.

Шырокі размах вывучэнне помнікаў 1-га тысячагоддзя н. э. набыло на тэрыторыі Украіны, што дало магчымасць украінскім археолагам не толькі значна пашырыць крыніцазнаўчую базу, але сфармуляваць сваю канцэпцыю славянскага этнагенезу. Яна базіруецца на пастулаце, што працэс фарміравання раннесярэдневяковай славянскай культуры быў складаным і шматэтапным. Яе афармленню папярэднічалі шматгранныя этнічныя і сацыяльныя працэсы, што адбываліся на тэрыторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у якіх ўдзельнічала як аўтахтоннае насельніцтва, так і мігранты (Баран,

Козак, Терпиловский, 1991. С. 26—27). У фарміраванні пражскай культуры прынялі ўдзел пэўныя групы насельніцтва кіеўскай, чарняхоўскай і пшэворскай культур. Характэрныя для гэтай культуры рысы пахавальнага абраду, домабудаўніцтва, керамічнага комплексу і інвентару ўзыходзяць да помнікаў названых культур. Аднак у сацыяльна-эканамічным развіцці насельніцтва пражскай культуры ў першую чаргу наследуе мадэль кіеўскай культуры, якая з'яўляецца больш простай і прымітыўнай у параўнанні з культурамі правінцыяльна-рымскай перыферыі (Баран, 1978. С. 5—39).

## Помнікі тыпу Лука-Райкавецкая на Беларусі

Наступны этап (VIII—X стст.) у развіцці славянскай культуры на Беларускім Палессі звязаны са старажытнасцямі тыпу Лука-Райкавецкая, якія сфармаваліся на аснове помнікаў тыпу Прага-Карчак і звязаны з імі генетычна. Сваю назву яны атрымалі ад паселішча Лука-Райкавецкая ў Жытомірскай вобласці на Украіне, якое даследавана ў 1946—1948 гг. экспедыцыяй Інстытута археалогіі АН Украіны пад кіраўніцтвам В. К. Ганчарова (Гончаров, 1963. С. 283—315). Помнікі тыпу Лука-Райкавецкая на Беларусі займаюць тую ж тэрыторыю, што і старажытнасці пражскай культуры, выходзячы за яе межы толькі на поўначы. Напрыклад, паселішча з матэрыяламі гэтай культуры зафіксавана каля в. Радагошча ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці (Зайкоўскі, 1996. С. 120—140). Старажытнасці тыпу Лука-Райкавецкая прадстаўлены селішчамі, гарадзішчамі і курганнымі могільнікамі з абрадам трупаспалення.

Першыя помнікі, якія потым былі аднесены да старажытнасцей тыпу Лука-Райкавецкая, абследаваны яшчэ ў першай палове XX ст. У 1927 г. А. Д. Каваленя і С. С. Шутаў выявілі і даследавалі шэраг перспектыўных помнікаў на Тураўшчыне, у тым ліку гарадзішча і курганны могільнік каля в. Хільчыцы (Каваленя, Шутаў, 1930. С. 356—364). Раннесярэдневяковае гарадзішча каля в. Гарадзішча ўпершыню згадана ў зводцы археалагічных помнікаў Піншчыны, якую апублікаваў Р. Гарашкевіч (Horoszkiewicz, 1928). Гарадзішча і селішча каля в. Хотамель сталі вядомымі дзякуючы інфармацыі Р. Якімовіча (ZOW, 1937. R. XII. S. 136). Значныя працы па даследаванню помнікаў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя былі праведзены ў 1950—1960-я гады. У 1954—1957 гг. пад кіраўніцтвам Ю. У. Кухарэнкі і ў 1964 г. пад кіраўніцтвам І. П. Русанавай праведзены раскопкі на гарадзішчы і селішчы Хотамель (Кухаренко, 1961а; Русанова, 1973), імі ж у 1962 і 1969 гг. даследаваны 3 насыпы на курганным могільніку VIII—X стст. каля в. Радасць на левым беразе ракі Лясная. З 1957 па 1969 г. Драўлянскі археалагічны атрад на чале з І. П. Русанавай правёў пошукі помнікаў па берагах рэк Заходні Буг, Лясная, Мухавец, Рыта, Піна, Ясельда, Стыр, Гарынь, Убарць, у выніку чаго на поўдні Беларусі былі адкрыты паселішчы канца 1-га тысячагоддзя н. э. каля вёсак Глінна, Моладава, Кусцічы, Дзям'янчыцы, Скорбічы (Дружба). На двух селішчах каля в.Скорбічы праведзены раскопкі (Русанова, 1973). У 60-я гады матэрыялы тыпу Лукі-Райкавецкай зафіксаваны В. Б. Нікіцінай-Караткевіч на шматслойных паселішчах каля вёсак Хмялі, Орля, Агароднікі на рацэ Лясная, Л. Д. Побалем — ў міжрэччы Сцвігі і Прыпяці (Поболь, 1969. С. 12—13). На працягу 1980—1990-х гадоў абследаванні на поўдні Беларусі праводзіў Цэнтральнапалескі археалагічны атрад пад кіраўніцтвам В. С. Вяргей. У выніку зафіксавана звыш двух дзесяткаў селішчаў і месцазнаходжанняў з ма-

тэрыяламі VIII—X стст. каля вёсак Несвіло, Кашылава, Астрамечава, Уладычыца на рацэ Лясной, Курадава, Крывічы, Азяраны, Перароў, Хлупін, Макарычы, Бяланавічы на рацэ Прыпяць, Ніжні і Верхні Церабяжоў, Лядзец, Вікаравічы, Варані, ст. Гарынь, г. Століна на рацэ Гарынь і інш. У 1980-я гады В. С. Вяргей пачала раскопкі на гарадзішчы і селішчы каля в. Гарадзішча ў Пінскім раёне, даследаванні якога працягнуў А. Іоў (Вяргей, Іоў, 1997. С. 2—6). Селішча з выразнымі матэрыяламі апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя раскопвалася каля в. Курадава (Вяргай, 1992. С. 13—24).

Як і ў папярэдні час, неўмацаваныя паселішчы лука-райкавецкай культуры размяшчаліся ў месцах, прыдатных для земляробства і жывёлагадоўлі, паблізу рэк і азёр, па краях тэрас і іх схілах, на поймавых узвышшах і пляцоўках карэннага берага. Плошча іх звычайна невялікая і дасягае 2—3 гектараў. Большыя памеры маюць селішчы, размешчаныя побач з гарадзішчамі каля вв. Хотамель Столінскага і Гарадзішча Пінскага раёнаў. Гарадзішчы з матэрыяламі VIII—X стст. на Беларускім Палессі не з'яўляліся месцамі сталага пражывання людзей, жытлы выяўлены толькі на паселішчах, якія прымыкалі да іх. Размяшчаліся яны на берагавых мысах (Гарадзішча) альбо на ўзвышшах (Хотамель, Хільчыцы). Пляцоўкі іх невялікія па памерах. Так, гарадзішча ў в. Гарадзішча мела пляцоўку плошчай 22 × 27 м. З напольнага боку было ўмацавана пясчаным валам, а па перыметру драўлянай сцяной, збудаванай з вертыкальных слупоў, размешчаных на адлегласці каля трох метраў адзін ад другога, і замацаваных у іх гарызантальных бярвёнаў. Паміж гарадзішчам і селішчам прасочаны роў глыбінёю каля трох метраў (Вяргей, Іоў, 1987. С. 3).

Апошняя чвэрць 1-га тысячагоддзя н. э. прадстаўлена ў Паўднёвай Беларусі большай колькасцю даследаваных жытлаў, чым для перыяду V—VII стст. У гэты час на адкрытых паселішчах узводзіліся розныя тыпы пабудоў. На селішчы, што прымыкала да гарадзішча ў в. Хотамель, ускрыта 16 жытлаў. З паўднёва-ўсходняга боку гарадзішча адкрыты два амаль паралельныя знешняму валу рады, якія складаюцца з 14 жытлаў. Паводле назіранняў І. П. Русанавай (Русанова, 1973. С. 24), жылыя пабудовы бліжэйшага да гарадзішча рада ўзведзены пазней. Пра іх разначасовасць сведчыць шчыльнасць забудовы, што ўяўлялася немагчымым пры аднaчасовым суіснаванні жылых комплексаў. Паселішча ў Хотамелі было забудавана ў асноўным паўзямлянкамі, паглыбленымі ў мацярык на 0,1—0,8 м. Форма іх звычайна прамавугольная ці блізкая да яе, плошча — 12—30 кв. м. Арыентаваны жытлы ў большасці выпадкаў па старанах свету. Толькі дзве пабудовы, выяўленыя на паўночны захад ад гарадзішча, арыентаваны з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Катлаваны паўзямлянак добра прасочваюцца ў мацерыковым грунце, часцей за ўсё маюць нахіленыя сценкі.

Канструкцыя сцен хотамельскіх жытлаў адрозніваецца ад канструкцый аднaчасовых жытлаў з тэрыторыі Украіны, якія мелі слупавую канструкцыю сцен з плятнёвым каркасам. Сцены тут рабілся з двайнога рада плятня, абмазанага глінай. Дробныя апорныя ямкі ад плятня адкрыты ў падлозе ці па знешнім перыметры жытлаў у мацерыку. Падлога ў жытлах была земляной, роўнай. Зрэдку тут прасочваюцца рэшткі слупоў, што служылі ўнутранай апорай сцен жытлаў, ці мелкія слупавыя ямкі ад драўлянага каркаса сцен альбо ад якой-небудзь мэблі тыпу сталоў, табурэтак. Унутры некаторых жытлаў заўважаюцца неглыбокія гаспадарчыя ямы, збудаваныя ў вуглах ці ў цэнтры. Відаць, яны перакрываліся насцілам э дошак. У шэрагу выпадкаў ямы выносіліся за межы жытлаў.

У чатырох даследаваных у Хотамелі жытлах відаць уваходы, збудаваныя ва ўсходняй ці заходняй сценках. У жытле 13 уваход уяўляў сабой мацерыковую прыступку памерам 0,8 × 0,4 м паўкруглай формы, са знешняга боку ён быў агароджаны слупамі (наземнай прыбудовай — тамбурам), ад якіх захаваліся ямкі ў мацерыку. Уваход у жытло 14 уяўляе сабой выцягнуты калідор-прыбудову з паступова заніжаным узроўнем падлогі. Некаторыя жытлы мелі невялікія знешнія прыбудовы, пра наяўнасць якіх сведчаць слупавыя ямы, якія агароджвалі пляцоўкі і прылягалі да жылых збудаванняў. Страха жылых пабудоў, відаць, была двухсхільнай.

Ацяпляліся жытлы глінабітнымі печамі. Будаваліся яны ў Хотамелі прама на падлозе, толькі ў адным выпадку (жытло 13) печ складзена на невысокім пясчаным астанцы. Папярэдне на месцы печы будаваўся каркас з тонкіх калоў і галінак, які затым згараў пры карыстанні печчу. Глінабітныя печы круглыя ў плане, дыяметр іх 0,6—1,5 м, таўшчыня глінабітных сценак дасягала 8—9 см, таўшчыня чарэні печы — 5—10 см. У жытле 14 прасочваецца вусце печы, якое мела ў шырыню 40 см. Асаблівасцю Хотамеля з'яўляецца тое, што некаторыя печы ўзводзіліся на месцы невялікіх агменяў, ад якіх захаваліся невялікія ямкі, запоўненыя попелам і вуголлем. Пры ўзвядзенні печы на ямку ад агменя клаліся невялікія бярвёны, якія перакрываліся слоем гліны таўшчынёй да 10 см. Гэты слой утвараў круглую пляцоўку, на якой і ўзводзілася печ (Кухаренко, 1961а. С. 24—26). Размяшчаліся печы ў адным з вуглоў ці каля сцяны. У адным выпадку (жытло 14) печ знаходзілася ў цэнтры жылой пабудовы.

Рэшткі шасці жытлаў поўнасцю ці часткова дасладаваны І. П. Русанавай (Русанова, 1973. С. 45—46) на паселішчы канца 1-га тысячагоддзя н. э. каля в. Дружба (Скорбічы) Брэсцкага раёна на рацэ Лясной. Тут выяўлены наземныя і паглыбленыя ў мацярык на 0,2—0,3 м пабудовы слупавой канструкцыі. Па перыметры ў паглыбленым жытле 6 захаваліся рэшткі каменнага падмурка, в ў наземным жытле 7 уздоўж сцен знойдзены асобныя камяні. У дзвюх жылых пабудовах захаваліся рэшткі глінабітнай падлогі, а астатнія, відаць, мелі пясчаную. Разнастайныя канструкцыі печаў. Жытло 5 ацяплялася размешчанай у заходняй частцы паўзямлянкі печчу-каменкай, канструкцыя якой аналагічная шматлікім печам, адкрытым на паселішчах другой паловы 1-га тысячагоддзя на Украіне. Глінабітная круглая печ на драўляным каркасе, узведзенвя на падлозе, адкрыта ў жытле 2. Астатнія печы былі ўзведзены над ямамі, выкапанымі ў падлозе жытлаў. Сценкі гэтых ям нахіленыя і маюць сляды ад слупоў, г.зн. рэшткі драўлянага каркаса, і запоўнены вялікай колькасцю кавалкаў абпаленай гліны, глінянай абмазкі, дробных камянёў. Відаць, глінабітныя печы ці зробленыя з гліны і камянёў узводзіліся над гэтымі ямамі. Аналагічныя наземныя жытлы з печамі, узведзенымі над ямамі, выяўлены на паселішчы, якое прымыкала да гарадзішча ў в. Гарадзішча Пінскага раёна.

Акрамя жытлаў на паселішчах канца 1-га тысячагоддзя н. э. знойдзены гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы, ямы. Гэтыя збудаванні наземныя, маюць невялікія памеры, меншыя за жытлы, і больш лёгкую канструкцыю сцен. Ямы звычайна акруглай формы, дыяметр іх вагаецца ад 1 да 3 м, глыбіня ад 0,4 да 1,2 м. Ямы за межамі пабудоў, магчыма, мелі лёгкую шалашападобную страху. Сцены зерневых ям абмазваліся глінай і абпальваліся. На паселішчы Хотамель выяўлена печ, якая стаяла асобна, пакрытая лёгкім навесам.

У канструкцыі жытлаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. на Беларускім Палессі прасочваюцца некаторыя храналагічныя змены. Жытлы на ранніх паселішчах з карчакскай керамікай (Петрыкаў, Кажан-Гарадок, Камень-6) належаць да аднаго тыпу — невялікія паўзямлянкавыя пабудовы квадратнай ці прамавугольнай формы, сярэдняя плошча якіх 7—16 кв. м. К канцу 1-га тысячагоддзя катлаван паўзямлянкавых жытлаў робіцца больш мелкім, з'яўляюцца наземныя тыпы збудаванняў. Плошча пабудоў павялічваецца да 12—19 кв. м. Больш разнастайнай робіцца і канструкцыя сцен. Разам са зрубнымі і слупавымі пабудовамі з'яўляюцца слупавыя з плятнёвым каркасам (Хотамель). Падлога ў жытлах была земляная, толькі ў жытлах 1 і 7 на паселішчы Дружба прасочаны рэшткі глінабітнай падлогі.

З цягам часу змяняецца і характар ацяпляльнай сістэмы. Калі ў пабудовах V—VI стст. н. э. на Беларускім Палессі знойдзены выключна агмені, складзеныя з камянёў (Камень-6) ці з камянёў, кавалкаў балотнай руды і металургічных жужаляў (Петрыкаў, Востраў, Кажан-Гарадок), то на больш позніх помніках выяўлены печы некалькіх канструкцый: каменкі, круглыя глінабітныя, што размяшчаліся на падлозе, на астанцы (Хотамель, Дружба) ці над агменем (Хотамель), глінабітныя ці складзеныя з камянёў і гліны, узведзеныя над ямай (Дружба). У больш ранніх жытлах агмені знаходзіліся ў адным з вуглоў жылой пабудовы і не прылягалі да сцен жытла. У жытлах VIII—X стст. размяшчэнне печаў не мае пэўнай сістэмы. Яны знойдзены ў вуглах жылых пабудоў, каля сцен і нават у цэнтры.

Пахаванні вядомыя па ўсёй тэрыторыі распаўсюджання помнікаў тыпу Лука-Райкавецкая. Аднак вывучаны яны значна менш за паселішчы і раскапаны адпаведна ў значна меншай ступені. Пахаванні прадстаўлены падкурганнымі трупаспаленнямі. На тэрыторыі Беларускага Палесся да цяперашняга часу вывучаны адзінкавыя помнікі гэтай катэгорыі. Тры курганы з трупаспаленнем раскапаныя І. П. Русенавай і Ю. У. Кухарэнкам на могільніку, размешчаным на левым беразе ракі Лясной каля в. Радасць. Курганы, насыпаныя з пяску, мелі кальцавыя ровікі, утрымлівалі ў сабе некалькі попельных праслоек. Трупаспаленні змяшчаліся ў насыпах курганоў на вогнішчах. У адным з курганоў перапаленыя косці знаходзіліся ў паўднёва-заходнім вугле драўлянага прамавугольніка, які быў арыентаваны па старанах свету і меў памеры 2,6 × 3 м. У насыпах, асабліва на вогнішчах, знойдзены абломкі грубых ляпных і ганчарных пасудзін. Усе яны маюць вострыя сколы і належаць розным пасудзінам. На ганчарных абломках сустракаюцца лінейны і прымітыўны хвалісты арнамент (Русанова, 1973. С. 45). Разглядаючы ў цэлым курганы з трупаспаленнем з тэрыторыі Беларускага Палесся, можна адзначыць, што падкурганныя пахаванні прадстаўлены двума тыпамі — спаленыя рэшткі памерлых змяшчалі на рытуальных вогнішчах на гарызонце або ў насыпу. Зафіксаваны канаўкі, што акружалі пахаванні, ці агароджы з гарызантальна ляжачых бярвёнаў. Інвентар складаецца з абломкаў ляпных і ганчарных пасудзін, жалезных нажоў і спражак.

Рэчавы матэрыял, сабраны на паселішчах і могільніках апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у Беларускім Палессі, складаецца з керамікі, вырабаў з металу, косці і каменю. Больш за ўсё знойдзена абломкаў ляпнога і ранneганчарнага посуду. Гэта асноўны матэрыял, які перадае спецыфіку славянскіх культур і садзейнічае адноснаму датаванню помнікаў. Менавіта ён пакладзены ў аснову храналагічнага члянення культуры насельніцтва Палесся на два перыяды: V—VII стст. з керамікай тыпу Карчак і VIII—X стст. з керамікай тыпу Лука-Райкавецкая. Абодва гэтыя тыпы генетычна звязаны

адзін з адным, а эвалюцыйнае развіццё праходзіла настолькі паступова, што мяжу паміж тыпамі можна вылучыць даволі ўмоўна.

Посуд культуры тыпу Лука-Райкавецкая адносіцца да таго ж тыпу, што і карчакская кераміка. Форма іх конусападобная ці акруглая, з'яўляюцца больш нізкія міскападобныя пасудзіны (мал. 105). Шыйка сасуда робіцца вышэйшай і больш адагнутай, плечыкі ўзнімаюцца больш крута. Самі пасудзіны грубейшыя зе карчакскія. Сценкі ў іх больш тоўстыя, асабліва масіўныя днішчы. Яны плоскія і без закраіны, зрэдку з адбіткамі круглай плоскай падстаўкі (Гарадзішча). У якасці прымешак у цеста для посуду дабаўляліся жарства, буйны пясок ці шамот. Зярняты дамешак выразна выступаюць на сценках пасудзін, ад гэтага яны маюць выгляд няроўных, узгаркаватых. Абпал слабы, колер посуду шэры, чорны ці карычневы з чорнымі плямамі. У адрозненне ад тэрыторыі Украіны венчыкі ў асноўным не арнаментаваныя, толькі ў рэдкіх выпадках можна адзначыць наяўнасць пальцавых уціскання ці насечак (Хотамель, Гарадзішча).

Частка гаршкоў, галоўным чынам тых, верхняя частка якіх ужо падпраўлялася на ганчарным коле, арнаментавана па плечыках радамі рэзкаламанай асіметрычнай хвалі ці хваляй у спалучэнні з лінейным арнаментам і ямкамі (Гарадзішча), неглыбокімі хвалістымі канаўкамі (Хотамель). У керамічным комплексе канца 1-га тысячагоддзя назіраецца паступовы пераход да раннеганчарнага посуду. На некаторых развітых відах ляпной керамікі прыкметная падпраўка на ганчарным коле.

Аналізуючы керамічны комплекс па тыпах і абапіраючыся на стратыграфічныя назіранні, можна заўважыць, што нейкі пэўны час на пасалішчах суіснавала ляпная і ганчарная кераміка. У выніку даследаванняў Хотамельскага гарадзішча і некаторых іншых паселішчаў адзначаецца, што пры ручным вырабе гаршкоў ім імкнуліся надаць форму больш дасканалых і прыгожых (Русанова, 1958. С. 34—41). Працэнтны склад ганчарнай керамікі ўзрастае, у прыватнасці на Хотамельскім паселішчы з 20 да 60. Такі ж працэс назіраецца на паселішчах у Гарадзішчы і Дружбе.

Ганчарны посуд прадстаўлены гаршкамі амаль з такімі ж формамі, што і ляпны. Лінейны ці хвалісты арнамент звычайна пакрываў усё тулава пасудзін ад горла да прыдоннай часткі. Посуд, як правіла, вырабляўся без кляйма. Толькі на адным фрагменце з гарадзішча ёсць знак у выглядзе крыжа ў коле. Па тэхналагічных уласцівасцях раннеганчарная караміка распадаецца на дзве групы. У першую ўваходзяць тоўстасценныя асіметрычныя пасудзіны з не зусім добрым абпальваннем. Да другой групы належаць сасуды, сценкі якіх роўныя, тонкія, лепш абпаленыя, венчык складанапрафіляваны. Часцей за ўсё яны маюць светла-шэры колер.

Акрамя глінянага посуду, на пасалішчах і могільніках канца 1-га тысячагоддзя н. э. сустракаецца не так ужо шмат рэчаў. Частымі знаходкамі з'яўляюцца гліняныя праслiцы. Яны маюць біканічную, зрэдку акруглую форму. Сустракаюцца праслiцы цыліндрычнай формы, вытачаныя са сценак гліняных пасудзін. Вышыня іх вагаецца ў межах 2,7—0,7 см, дыяметр ад 2,5 да 3,5 см. Адтуліны таксама амаль аднолькавыя — 0,6—1 см. Праслiцы ў асноўным неарнаментаваныя. Акрамя гліняных на паселішчах знойдзены ружовыя шыферныя праслiцы. У Хотамелі праслiца ўплошчана-біканічнае, у Гарадзішчы адно праслiца падобнае на плоскую шайбу, другое — нагадвае ўсечаны конус, г. зн. палавінку біканічнага праслiца.

На некаторых пасалішчах гэтага часу знойдзена даволі значная колькасць прыладаў працы, прадметаў побыту і ўпрыгожанняў, узбраення.

Глебаапрацоўчыя прылады — два сашнікі і чарэсла знойдзены на паселішчы Хотамель (мал. 106:9—10, 13). Даволі развітай формы сярпы з прамой доўгай ручкай выяўлены на селішчах Чэрнічы, Хотамель, на гарадзішчы ў в. Гарадзішча (мал. 106:11—12). Жалезныя нажы знойдзены на ўсіх паселішчах, больш за ўсё іх вызначана ў Хатомелі і Гарадзішчы (мал. 106:1—3, 8). Яны розных памераў, з прамой ці дугападобнай спінкай, адзін з нажоў з паселішча каля в. Гарадзішча, па вызначэнні М. Ф. Гурына, мае трохслойную структуру се стальной палоскай у сярэдзіне. З цягам часу з'яўляюцца нажы большых памераў. На гарадзішчы і селішчы ў в.Гарадзішча Пінскага раёна знойдзены нажы, якія дасягалі ў даўжыню 14,5 см і 16,2 см, але часцей сустракаліся экземпляры памерамі 11—13 см. Як па памерах, так і ў тыпалагічных адносінах нажы неаднолькавыя. Адны з іх маюць плаўны пераход ад чарашка да ляза і спінкі, другія — уступы пры пераходзе ў лязо і спінку, трэція — уступ толькі з боку ляза. Спінкі ў большасці экземпляраў прамыя, але некаторыя нажы маюць злёгку выгнутую спінку. Падобныя формы нажоў назіраюцца ў многіх сінхронных культурах, таму яны не могуць быць выкарыстаны ў якасці храналагічных або культурных паказчыкаў.

З рыбалоўствам звязаны знаходкі кручкоў, блясны, астрогаў, грузілаў. Па бародцы або яе адсутнасці і спосабу замацавання кручка з лёскай іх падраздзяляюць на некалькі тыпаў. На селішчы Гарадзішча знойдзена адзіная пакуль што на помніках канца 1-га тысячагоддзя блясна (мал. 107:9). Яе даўжыня 4,5 см, выраблена з цэлай жалезнай пласцінкі шырынёй 0,6 см. Адзін яе канец пераходзіць у безбародае джала, круглае ў сячэнні. Другі канец таксама востры і не мае адтуліны для лёскі. Магчыма, блясна не была самастойнай прыладай, а складала частку большага рыбалоўнага прыстасавання.

Зуб'і восцяў знойдзены на паселішчах Хотамель (4 экз.), Гарадзішча (2 экз.) і Скорбічы (1 экз.). Хотамельскія і гарадзішчанскія знаходкі ўяўляюць сабою дэталі складаных восцяў (мал. 106:4—7). Даўжыня цэлых экземпляраў дасягае 19,2 см (Гарадзішча) і 18,5 см (Хотамель). Верхні канец зуб'яў адагнуты пад прамым вуглом, на ніжнім маюцца бародкі. Біканічную форму мае рыбалоўнае грузіла з селішча Гарадзішча. Яго вышыня 4,1 см, найбольшы дыяметр — 3,2 см, дыяметр адтуліны — 0,9 см. Зроблена з гліны.

Адзін замок тыпу А, якія адносяць да IX—X стст. (Колчин, 1953. С. 155), выяўлены на селішчы Скорбічы (мал. 107:1). Мае трапецападобную форму. Вышыня корпуса 4 см. Даўжыня верхняй і ніжняй частак 3,4 і 4,5 см, таўшчыня 3 см. Там жа знойдзены і ключ да замка вышэйпамянёнага тыпу. Яго даўжыня 7,5 см, шырыня круглай галоўкі 2,2 см (мал. 107:3).

Жалезныя крэсівы знойдзены на паселішчах Хотамель, Чэрнічы, Скорбічы, Горнава. Хотамельскія крэсівы адносяцца да пласцінкавых трапецападобных (мал. 107:5—6). І. П. Русанава (Русанова, 1973. С. 19) лічыць, што яны з'яўляюцца на рубяжы VII—VIII стст. і існуюць да канца IX ст. Астатнія маюць калачападобную форму. Тачыльныя камяні знойдзены на селішчы каля в. Гарадзішча (мал. 107:7—8), жалезныя шылы — на помніках каля вёсак Скорбічы і Гарадзішча. Абломкі гліняных тыгляў выяўлены на селішчы Гарадзішча, там жа знойдзена і гліняная тыгель-льячка (мал. 107:11). Для апрацоўкі дрэва выкарыстоўваліся долаты, якія ў фрагментаваным выглядзе знойдзены ў Хотамелі.

Найбольш пашыраным відам зброі з'яўляюцца стрэлы, наканечнікі ад якіх адзначаны на паселішчах Хотамель, Гарадзішча, Чэрнічы. Уса яны знойдзены ў адзінкавых экземплярах, выключаючы гарадзішча Хотамель,

дзе выяўлена звыш трох дзесяткаў накенечнікаў стрэл, якія падзяляюцца на ўтулкавыя і чаранковыя аднашыпавыя, двухшыпавыя, ромбападобныя, вастралістыя, трохлопасцевыя і бранебойныя (мал. 109:1—16). Зброя блізкага бою прадстаўлена наканечнікамі дзідаў (мал. 109:17—19). Тры наканечнікі дзідаў выяўлены на гарадзішчы Хотамель (Кухаренко, 1961а. Табл. 8:14—16). Два з іх цэлыя і па класіфікацыі А. Н. Кірпічнікава (Кирпичников, 1966. С. 12—17) адносяцца да тыпу IIIА, якія датуецца VIII—X стст.

На тым жа помніку выяўлены тры жалезныя пласціны брані з адтулінамі для звязкі паміж сабою скуранымі раменьчыкамі (Кухаренко, 1961а. Табл. 8:22—24). Гэта найбольш старажытная знаходка металічных даспехаў на Беларусі (мал. 109:21). Пласцінкавы панцыр вынайдзены на Бліжнім Усходзе і пападае ў Еўропу ў VI—VII стст.

Прадметы рыштунку вершніка і каня прадстаўлены цуглямі, стрэмем, псаліямі, падпружнымі спражкамі, якія знойдзены ў Скорбічах, Хотамелі, Гарадзішчы і Чэрнічах. На селішчы Гарадзішча знойдзены бронзавы наканечнік пояса, упрыгожаны перакрэсленымі лініямі, якія нагадваюць спалучэнне каласка з чатырохліснікам. Падобныя рэчы зафіксаваны ў салтаўскім могільніку VIII—IX стст.

У верхнім гарызонце Хотамельскага гарадзішча знойдзены так званыя гітаравідныя і круглыя з загнутымі канцамі спражкі, звязаныя з рыштункам ваяра (мал. 108:9—10, 12). Яшчэ чатыры круглыя жалезныя спражкі з загнутымі канцамі выяўлены пры раскопках селішча Хотамель (Кухаренко, 1961а. С. 24. Табл. 8:11—12). Рамкі іх плоска-прамавугольныя ў сячэнні, дыяметр 6,5—5,2 см, язычкі даўжэйшыя зе дыяметр спражак. Падобныя спражкі маюць шырокія храналагічныя і тэрытарыяльныя рамкі і не могуць прыдацца для распрацоўкі больш вузкага абсалютнага датавання помнікаў (Русанова, 1973. С. 19). Прамавугольныя спражкі з увагнутымі доўгімі бакамі выяўлены ў доўгіх курганах і не сустракаюцца пазней за IX ст. (Русанова, 1973. С. 19). Падобныя спражкі зафіксаваны ў пахаваннях на славяна-аварскім могільніку VII—IX стст. Дэвінска Нова Весь (Eisner, 1952. Obr. 7:2; 15:9; 29:9; 74:16).

Да рэдкіх знаходак адносіцца жалезны скандынаўскі відэлец (мал. 107:4), выяўлены на селішчы Гарадзішча. Зроблены ён ў форме трохзубца з выгнутым пад прамым вуглом і завостраным чаранком, на які насаджвалася рукаятка. Канцы зуб'яў загнутыя, цэнтральны з іх на 1,5 см даўжэйшы за астатнія. Падобныя відэльцы, часта ўпрыгожаныя інкрустацыяй, добра вядомыя ў пахавальным інвентары ў курганах шведскіх вікінгаў VII—X стст. (Лебедев, 1985. С. 40—47. Рис. 10, 12). На тэрыторыі Усходняй Еўропы выяўлены толькі два падобныя відэльцы і абодва на Гнёздаўскім паселішчы пад Смаленскам (Пушкина, 1981. С. 286—289. Рис. 2:2, 3).

Упрыгожанні і дэталі строю знойдзены на шэрагу паселішчаў канца 1-га тысячагоддзя н. э. Беларускага Палесся. Яны прадстаўлены вырабамі з каляровых металаў і шкла. Пярсцёнкападобнае скроневае колца дыяметрам 2,4 см знойдзена на селішчы Гарадзішча. Зроблена з круглага ў сячэнні дроту, адзін з канцоў завостраны, другі — зрэзаны прама. Там жа выяўлена срэбнае колца, зробленае з круглага ў сячэнні дроту. Адзін канец сплюшчаны і закручаны пятлёю, другі — завостраны. Яго дыяметр 2 см. Аналагічныя ўпрыгожанні існавалі ў шырокім храналагічным і тэрытарыяльным дыяпазоне. З селішча Гарадзішча паходзіць таксама арыгінальнае літое скроневае колца дыяметрам 1,8 см, выраблєнае з бронзавай пласціны з завітком на канцы. Вонкавы бок пласціны ўпрыгожаны раслінным арнаментам.

Сяміпрамянёвае колца, з промнямі з «кропляй» на канцах выяўлена на гарадзішчы Хотамель (мал. 108:7). На шчытку, упрыгожаным несапраўднай зерню, каля асновы дужкі маюцца патаўшчэнні цыліндрычнай формы. Картаграфаванне прамянёвых кольцаў IX — першай паловы X ст. паказала, што яны сустракаюцца раўнамерна па ўсёй цэнтральнай частцы Усходняй Еўропы, прычым выключна на паселішчах (Шинаков, 1980. С. 123).

Тры пласцінкавыя пярсцёнкі знойдзены на селішчы Гарадзішча: «вусаты» і два шырокасярэдзінныя з завязанымі канцамі (мал. 108:3, 4, 6). Бронзавы вусаты пярсцёнак літы. Яго даўжыня 20,7 см, круглыя ў сячэнні «вусікі» завернуты вакол шчытка. Па перыметру шчыток арнаментаваны лініяй з выпуклых кропак. Падобная лінія перасякае шчыток па яго падоўжанай восі. Уздоўж яе размешчаны трохвугольнікі. Вусатыя пярсцёнкі лічаць характэрнай адзнакай фіна-угорскіх народаў. У канцы X — пачатку XIII ст. яны сустракаюцца ў Фінляндыі, Прыбалтыцы, на Наўгародчыне, у міжрэччы Акі і Волгі (Недошивина, 1967. С. 257—258). Зрэдку зафіксаваны ў курганах дрыгавічоў (Седов, 1982. С. 118). Срэбны і бронзавы шырокасярэдзінныя пярсцёнкі з завязанымі канцамі арнаментаваныя штрыхамі, кропкамі і трохвугольнікамі. Падобныя ўпрыгожанні шырока вядомыя ў Швецыі, Фінляндыі, на тэрыторыі Прыбалтыкі і паўночнага захаду Расіі. На Палессі выяўлены ўпершыню. Звычайна датуюцца ва Усходняй Еўропе XI ст., але гарадзішчанскія знаходкі магчыма датаваць і другой паловай X ст., калі жыццё тут было найбольш інтэнсіўным. Два фрагменты літых пласцінкавых бранзалетаў, выраблены з бронзы, паходзяць з селішча Гарадзішча (мал. 108:5, 13). Адзін з іх зроблены з плоскай пласціны, вузейшай ў цэнтры і пашыранай па краях. Арнаментаваны ў стылі «воўчы зуб». Падобныя ўпрыгожанні сустракаюцца на помніках лясной зоны Усходняй Еўропы і датуюцца X—XI стст. (Левашова, 1967. С. 236, 237). Другі бранзалет зроблены з пласціны, якая мае ў сячэнні сегмент. Арнаментаваны чатырма радамі трохвугольнікаў. Неарнаментаваныя бранзалеты знойдзены на гарадзішчах Хотамель і Гарадзішча. Гарадзішчанскі экземпляр выраблены з бронзавага дроту. Падобныя ўпрыгожанні сустракаюцца паўсюдна ў шырокім храналагічным дыяпазоне (Седова, 1981. С. 94). Хотамельскі бранзалет зроблены са срэбнага дроту, мае крыху патоўшчаныя канцы. Находзіць аналагі на помніках VII—IX стст. (Русанова, 1973. С. 19).

Трапецападобныя падвескі знойдзены толькі на селішчы Гарадзішча (мал. 108:1—2). Адна з іх з трох бакоў па перыметру ўпрыгожана штампаванай выпуклай лініяй, а ў ніжняй частцы дзевяцю вертыкальнымі паскамі з кропак. Ад другой падвескі захавалася верхняя частка, упрыгожаная штампаванай лініяй па баках і ў цэнтры. Падобныя падвескі шырока распаўсюджаны ў доўгіх курганах крывічоў на Беларусі і Смаленшчыне (Седов, 1974. С. 33; Шмидт, 1983. Рис. 5:4—6, 19; Енуков, 1990. С. 203; Штыхаў, 1992. Мал. 31:1—3). Аналагічная падвеска знойдзена ў комплексе з рэчамі X ст. у яме на селішчы каля старажытнага Лукомля (Штыхаў, 1978. С. 49—50). Трэцяя гарадзішчанская падвеска неарнаментаваная. Простыя формы трапецападобных падвесак з выбітым арнаментам з'явіліся ў зарубінецкай культуры (Поболь, 1983. Рис. 25:9; 28:6, 10; 32:7, 16), а таксама ў прыбалтыйскім арэале ў межах сучаснай Літвы. У III—V стст. іх насіла насельніцтва кіеўскай культуры (Терпиловский, 1984. С. 29—30. Рис. 10:1. Табл. 12:3; 17:4). У VI—VII стст. адбываецца выбух моды на трапецападобныя падвескі і тэрыторыя іх ўжывання дасягае басейна Дуная. Гэта з'ява мела міжкультурны характар, абдымаючы шмат якія этнічныя групы ад балтаў да фіна-ўграў (Розенфельдт, 1982. С. 23—

30. Рис. 5, 6), славян і іх суседзяў-качэўнікаў (Szymanski, 1968. S. 192—199; Приходнюк, 1980. С. 70; Ён жа, 1984). Ужыванне трапецападобных падвесак зафіксавана нават на тэрыторыі Германіі (Schmidt, 1976. S. 139. Tabl. 196:11) і Скандынавіі (Nerman, 1969. Tabl. 116).

З раннім сярэднявеччам на шматслойным паселішчы Курадава-1 можна звязаць находку трохчасткавай залачонай пранізкі, зробленай з заглушанага бруднавата-белага шкла з пракладкай са срэбнай фальгі. Яна была пакрыта светла-карычневым шкляным празрыстым слоем, з-за чаго пацерка выглядае не срэбнай, а залачонай. Падобныя пацеркі маюць шырокія аналагі на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы і далёка за яе межамі. Яны пачалі вырабляцца на Блізкім Усходзе яшчэ ў другой палове 1-га тысячагоддзя да н. э. У VIII—IX стст. гэтыя пацеркі ў значнай колькасці паступаюць у Заходнюю Еўропу і дасягаюць Паўночнай Еўропы (Львова, 1968. С. 64—94). Трэба адзначыць, што ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя якасць пацерак зніжаецца, залачоныя пранізкі былі заменены імітуючымі пазалоту сярэбранымі (Безбородов, 1969. С. 33, 225—233), што можна прасачыць і на экземпляры, выяўленым у Курадаве-1. Да апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя можна аднесці знойдзеныя на гэтым жа селішчы дзве шарападобныя ўплошчаныя пацеркі сіняга колеру з непразрыстага шкла і адну блакітную паўпразрыстую няправільна-сферычнай формы. У верхнім слоі гарадзішча Хотамель выяўлена невялікая чырвоная паставая пацерка з жоўтымі вочкамі.

Вялікай колькасцю пацерак на адзінку даследуемай плошчы вызначаецца селішча Гарадзішча. Тут знойдзена 23 шкляныя і 6 каменных пацерак. Гэта двайныя і трайныя пранізкі, падоўжана-паласатыя «лімонкі», зонныя і цыліндрычныя пацеркі і інш. Акрамя шкляных, сустракаюцца пацеркі з горнага крышталю, сардаліку, бурштыну (мал. 108:14—15).

Да ліку пашыраных у Еўропе упрыгожанняў належаць званочкі. На селішчы Курадава-1 знойдзены бронзавы конусападобны званочак (мал. 108:18). На вяршыні яго маецца скразная адтуліна, праз якую прапушчаны язычок, які з абодвух бакоў мае пяцелькі. Самыя блізкія аналагі званочкаў з селішча Курадава-1 назіраюцца на селішчы Дзядзілавічы ў жытле 47. А. Р. Мітрафанаў (Митрофанов, 1978. Рис. 56:33) лічыць, што падобныя званочкі найбольш характэрны для латгальскіх помнікаў VII—VIII стст. Выкарыстоўваліся яны ў складзе маністаў сумесна з іншымі ўпрыгожаннямі — спіралькамі, ланцужкамі, бляшкамі і г. д.

Да дэталяў касцюма належыць маленькая літая бронзавая бразготка з рыфлёнымі вертыкальнымі палоскамі на ніжняй частцы корпуса і шчылінападобнай адтулінай (мал. 108:17). Унутры змешчаны маленькі рухомы язычок у форме ляпёшкі. Падобныя ўпрыгожанні найбольш добра вядомы ў старажытнасцях салтава-маяцкай культуры (Плетнева, 1989. С. 109). Сустракаюцца яны на пасалішчах валынцаўскай, лукі-райкавецкай і роменскай культур (Славяне Юго-Восточной Европы... 1990. С. 296). Датуюцца VIII—X стст.

Вырабы з косці і рога нешматлікія. Дзве прымітыўныя праколкі з костак канечнасцей дробных жывёлін і адна добра апрацаваная, круглая ў сячэнні знойдзены на селішчы Гарадзішча. Там жа выяўлены костка з прасвідраванай ў цэнтры адтулінай (мал. 107:10), якая прызначалася, відаць, для гульні, і складаны аднабаковы грэбень (мал. 108:8). Яго бакавыя накладкі злучаны пяцю меднымі штыфтамі і ўпрыгожаны разным геаметрычным арнаментам у выглядзе ромбаў і перакрэсленых паралельных падвовных ліній па краях. На тэрыторыю Усходняй Еўропы яны пранікаюць з Паўночнай Еўропы і да-

туюцца IX—XI стст. (Давідан, 1962. С. 100). На думку М. В. Фехнер (Фехнер, 1963. С. 39—42), частка грабянцоў выраблялася ў майстэрнях Усходняй Еўропы. Абломак накладкі ад грэбеня, арнаментаваны ромбамі і падвойнымі лініямі, выяўлены на гарадзішчы Гарадзішча.

Значная колькасць металічных, касцяных і шкляных вырабаў (накаторыя з іх даюць вузкую дату) выяўлена на помніках апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Матэрыялы гарадзішча і селішча Хотамель апублікаваны ў шэрагу прац (Кухаренко, 1957; Ён жа, 1961а; Русанова, 1973). Яго датаванне абапіраецца на наступныя рэчы: сяміпрамянёвае скроневае колца (IX—X стст.), абломак срэбнага бранзалета з круглага дроту са злёгку патоўшчанымі канцамі (VIII—IX стст.), невялікія трапецападобныя крэсівы (VIII—IX стст.), прамавугольныя спражкі з увагнутымі падоўжанымі бакамі (не пазней за IX ст.), наканечнікі дзідаў з падоўжана-трохвугольным пяром і моцна скошанымі плячамі (тып IIIA па А. М. Кірпічнікаву — VIII—IX стст.), трохлопасцевыя аварскага тыпу стрэлы (VII—VIII стст.), кілепадобны наканечнік стралы (VIII—IX стст.). Пералічаныя прадметы і ўмовы іх залягання ў культурным пласце далі падставы І. П. Русанавай (Русанова, 1973. С. 19) датаваць ніжні слой гарадзішча Хотамель VII ст., верхні пласт і селішча VIII—X стст. Да апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. можна аднесці і селішча Курадава-1, размешчанае на левым беразе Прыпяці. У яго культурным пласце знойдзены конусепадобны званочак, які мае аналагі на латгальскіх і тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны помніках і датуецца VII—VIII стст. Да VIII—X стст. адносяцца маленькая бронзавая бразготка са шчылінападобнай прараззю і трохчасткавая пазалочанвя пацерка (Вяргей, 1992. С. 27).

Канцом 1-га тысячагоддзя н. э. датавала І. П. Русанава (Русанова, 1973. С. 45—46) даследаваныя ёю селішчы каля в. Дружба Брэсцкага раёна. У VIII—X стст. існавала славянскае паселішча і гарадзішча у в. Гарадзішча на рацэ Ясельда. Аб гэтым сведчаць склад раннеганчарнага посуду, прадстаўлены тыпамі гаршкоў, характэрных для позняй фазы культуры тыпу Лука-Райкавецкая, і сасудамі з манжэтападобнымі венцамі, лімонападобныя пацеркі (X ст.), бранебойны наканечнік стралы (X ст.), вочкавая рэльефная пацерка (X ст.), аднабаковы касцяны грэбень з геаметрычным арнаментам (IX—X ст.), трохзубы скандынаўскі відэлец (VII—X стст.) і шэраг упрыгожанняў (пярсцёнкі, бранзалеты), якія датуюцца X—XI стст. (Іоў, Вяргей, 1993. С. 117—134). На паселішчах апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя ляпная кераміка суіснуе з ганчарнай. Ляпная кераміка адносіцца да культуры тыпу Лука-Райкавецкая і генетычна звязана з ляпным посудам пражскай культуры. Яна часта сустракаецца ў закрытых комплексах (ямы, жытлы) сумесна з раннеганчарнай. У шэрагу выпадкаў мае на верхніх частках посуду сляды падпраўкі на ганчарным коле. Цяжка вызначыць, калі з'яўляецца на Палессі ганчарная кераміка. Найбольш вузка датуецца керамічны комплекс селішча і гарадзішча Франопаль (Иов, 1992. С. 117—134). Там на гарадзішчы выяўлена звыш 3000 фрагментаў раннеганчарнай керамікі, а рэчавы комплекс надзейна датуе гэты помнік другой паловай X ст. Гэта дае падставу меркаваць, што к сярэдзіне X ст. ляпны посуд знікае з ужытку на раннесярэдневяковых помніках Беларускага Палесся. Аналізуючы матэрыялы помнікаў IX—X стст. з Правабярэжжа Дняпра, І. П. Русанава (Русанова, 1973. С. 19—20) прыйшла да высновы, што ганчарная караміка з'яўляецца тут не раней IX ст., і не падтрымала спробы некаторых даследчыкаў (Аулих, 1963. С. 366—381) датаваць раннія ганчарныя комплексы з тэрыторыі Украіны VII—VIII стст. Аналіз матэрыялаў палескіх помнікаў VIII—X стст. (Хотамвль, Курадава-1, Гара-

дзішча, Скорбічы і інш.) сведчыць, што адбывалася суіснаванне ляпнога і ганчарнага посуду і апошні пачынае выкарыстоўвацца тут не пазней за IX ст. Пакуль няма надзейных вузкадатаваных комплексаў, на аснове якіх можна было б больш акрэслена прасачыць распаўсюджанне ганчарнага кола ў насельніцтва, якое жыло на Палессі ў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя. Уса даследаваныя ў гэтым рэгіёне помнікі лука-райкавецкай культуры маюць у складзе керамічнага комплексу ляпны і ганчарны посуд, таму немагчыма вылучыць ранні і позні этапы яе развіцця.

Археалагічныя матэрыялы адлюстроўваюць значныя змяненні ў параўнанні з папярэднім часам у сацыяльна-эканамічным становішчы славянскіх плямёнаў у канцы 1-га тысячагоддзя. Знойдзены пад час раскопак паселішчаў рэчавы інвентар саедчыць аб пэўных поспехах у развіцці сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю. Цэнтральнае месца ў эканоміцы належала земляробству і жывёлагадоўлі. Знаходкі жалезных сашнікоў і чарэсла гавораць аб удасканаленні глебаапрацоўчых прыладаў і існаванні розных сістэм земляробства — ворнага, ляднага і пералогу. Пры ўборцы ўраджаю выкарыстоўваліся больш якасныя сярпы з асіметрычным лязом і адагнутай рукаяткай. Наяўнасць вялікіх і багатых травамі паплавоў дазваляла абмяжоўваць памер свойскага статка толькі магчымасцямі загатоўкі кармоў на зімні перыяд. Дапаўняўся харчавы рацыён прадуктамі палявання, рыбалоўства, збіральніцтва і бортніцтва.

Даволі значная і разнастайная колькасць металічных вырабаў, выяўленых на помніках, сведчыць аб прагрэсе ў развіцці чорнай металургіі, апрацоўцы жалеза і каляровых металаў. Высокі ўзровень жалезаапрацоўкі дэманструюць разнастайныя прылады працы, зброя і побытавыя рэчы. Кавалі валодалі рознымі тэхналагічнымі прыёмамі вырабу рэчаў з жалеза і сталі, а таксама і тэхнікай інкрустацыі. Мяркуючы па знаходках тыгляў, льячак і металічных упрыгожанняў, мясцовыя майстры дасягнулі пэўных поспехаў у ювелірным рамястве. З'яўленне ганчарнага кола стымулявала пад'ём керамічнай вытворчасці і нараджэнне ганчарнага рамяства. Апрацоўка дрэва, косці, прадзенне і ткацтва развіваліся, відаць, у форме хатняга рамяства.

На фоне агульнага прагрэсіўнага развіцця ўсіх відаў гаспадарчай дзейнасці славянскага насельніцтва ў канцы 1-га тысячагоддзя адбываецца працэс адзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі. У асобныя формы працы вылучаюцца, відаць, тэхналагічна складаныя і развітыя віды, прадукцыя якіх карыстаецца нарастаючым попытам. Гэта металургія, кавальства і ювелірная справа. Выдзяленне рамяства пацягнула за сабою з'яўленне таварнай вытворчасці і абмену. Таксама пачынаюць развівацца і знешнія гандлёвыя сувязі, аб чым сведчаць шматлікія імпартныя вырабы, знойдзеныя на пасалішчах, размешчаных на водных шляхах міжнароднага гандлю.

Даволі выразна археалагічныя матэрыялы паказваюць на розны сацыяльны статус даследаваных паселішчаў. Акрамя адкрытых аграрных паселішчаў у гэты перыяд на Беларускім Палессі фіксуюцца племянныя цэнтры, якія ўзначалілі грамадскае, эканамічнае і палітычнае жыццё пэўнай акругі. Яны адрозніваюцца ад шэраговых сельскіх пасалішчаў наяўнасцю ўмацаванняў і разнастайным комплексам знаходак, звязаных з рамесніцкай дзейнасцю і ваеннай справай. Прыкладам падобнага цэнтра з'яўляюцца гарадзішча і селішча Хотамель. Да гэтага ж часу адносіцца і ўзнікненне адкрытых гандлёва-рамесніцкіх пасалішчаў або пратагарадоў, якія акумулявалі пэўныя адміністрацыйныя, вайсковыя, рамесніцкія і гандлёвыя функцыі. Іх істотнай рысай з'яўлялася прыналежнасць да міжнароднага гандлю. У тапа-

графічным плане яны звычайна складаліся з невялікага ўмацаванага цэнтра і значнага па плошчы селішча. Да такога тыпу паселішчаў адносіцца археалагічны комплекс у в. Гарадзішча, у культурным пласце якога выяўлена шмат рэчаў, звязаных не толькі з дзейнасцю мясцовых рамеснікаў, а таксама вырабы з Усходу, Міжземнамор'я, Візантыі, Прыбалтыкі, Паўночнай Еўропы. Гарадзішча займала спрыяльнае становішча на міжнародных гандлёвых магістралях, такіх, як Дняпроўска-Віслeнская і Дняпроўска-Нёманская, якія найбольш актыўна функцыяніравалі ў IX—XI стст. Не выключана, што падобны шлях сацыяльна-эканамічнага развіцця назіраўся і на гарадзішчы Хільчыцы.

Значныя змены адбываюцца ў сацыяльным развіцці славянскага грамадства. Вылучаюцца группы насельніцтва, якія займаюць рознае становішча ў грамадскім, эканамічным і палітычным жыцці, — свабодныя абшчыннікі-земляробы, племянная вярхушка, дружыннікі, рамеснікі, гандляры. Фарміруюцца моцныя ввенна-палітычныя групоўкі славянстаа, у сваім гістарычным жыцці яно набліжаецца да стварэння княстваў-дзяржаў.

## 2. КАЛОЧЫНСКАЯ КУЛЬТУРА

Старажытнасці трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. паўднёвай часткі лясной паласы Усходняй Еўропы, якія атрымалі назву калочынскіх, увайшлі ў навуковы абарот у пачатку 60-х гадоў пасля раскопак гарадзішча Калочын-1 на Дняпры і вывучэння помнікаў гэтага круга пад Трубчэўскам у Падзясенні. Спецыфіка калочынскіх старажытнасцей прыцягнула ўвагу ўжо першых даследчыкаў (Третьяков, 1966. С. 266—270; Седов, 1970. С. 48—53).

У літаратуры сустракаюцца розныя найменні разглядаемай групы помнікаў: банцараўская, банцараўска-тушамлянская, тыпу Калочын-Банцараўшчына-Тушамля, Калочын-Акатава і інш. Л. Д. Побаль называе яе быхаўскай ці быхаўска-калочынскай (Поболь, 1983. С. 48—49). Прызнанне даследчыкамі статуса старажытнасцей трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. паўднёвай часткі Верхняга Падняпроўя ў якасці самастойнай археалагічнай культуры садзейнічала замацаванню за ёю назвы калочынскай ці культуры калочынскага тыпу, якая ўжываецца большай часткай сучасных спецыялістаў (Горюнов, 1981. С. 42—46; Седов, 1982. С. 29—34; Этнокультурная карта, 1985. С. 93—98).

Згодна з сучаснымі ўяўленнямі, арэал распаўсюджання культуры ахоплівае Беларускае Падняпроўе, Пасожжа, ніжняе цячэнне Бярэзіны і частку левабярэжжа Прыпяці (мал. 111). Паўночная яе мяжа праходзіць у наваколлі Быхава, заходняя — па Пцічы, паўднёва-заходняя — па Прыпяці. Вялікі масіў калочынскіх помнікаў лакалізуецца ў міжрэччах Дзясны, Сейма, вярхоўях Сулы і Псла ў межах Украіны і Расіі (Перхавко, 1978а. С. 18—19; Седов, 1986. Карта 3; Третьяков, 1982. С. 42—44). Відаць, памянёная тэрыторыя характарызуе толькі ядро культуры, бо гэты арэал акрэсліваецца шырокімі «буфернымі» зонамі, помнікі якіх ужо валодаюць шэрагам рыс сумежных раннесярэдневяковых культур — пражскай, пянькоўскай, уласна банцараўскай, мошчынскай.

Першыя работы па раннесярэдневяковых помніках Паўднёва-Усходняй Беларусі, якія, аднак, не прыцягнулі ўвагі да разумення іх культурна-храналагічнай прыналежнасці, былі выкананы ў пачатку XX ст. Я. Р. Раманавым і І. А. Сербавым (Романов, 1903. С. 126; Ён жа, 1912. С. 37—40; Дубінскі, 1928. С. 258). На Навабыхаўскім могільніку пад Магілёвам тады было адкры-

та некалькі пахаванняў па абраду крэмацыі ў урнах, матэрыялы якіх апублікаваны Л. Д. Побалем (Поболь, 1974. С. 160—164).

Мэтанакіраванае вывучэнне калочынскіх старажытнасцей пачынаецца ў 60-х гадах. Даследаванне гэтых помнікаў у Падзясенні звязана з імёнамі В. А. Падзіна, Л. В. Арцішэўскай і П. М. Траццякова (Падин, 1960. С. 317—319; Ён жа, 1974. С. 132—135; Артишевская, 1963. С. 85—96; Третьяков, 1974. С. 40—118). У 60—70-х гадах раскопкі калочынскіх паселішчаў у наваколлі Ноўгарада-Северскага і ў Курскай вобласці правёў Э. А. Сымановіч (Сымонович, 1969. С. 64—68; Ён жа, 1974. С. 153—158). Плённымі былі таксама даследаванні Ю. А. Ліпкінга на могільніках трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у Курскім Пасам'і (Липкинг, 1974. С. 136—152). Маштабныя раскопкі і разведку раннесярэдневяковых помнікаў Падзясення і Сярэднедняпроўскага Левабярэжжа зрабіў Я. А. Гаруноў (Горюнов, 1974. С. 119—125; Ён жа, 1981. С. 5—35).

На тэрыторыі Беларусі вывучэнне калочынскіх старажытнасцей ажыццяўляецца на працягу чатырох дзесяцігоддзяў. У 1952 г. Ю. У. Кухарэнка працягваў даследаванне Навабыхаўскага могільніка (Кухаренко, 1954. С. 82). Раскапанае ў 1955—1960 гг. Э. А. Сымановічам гарадзішча Калочын-1 у Лоеўскім раёне Гомельскай вобласці працягеае заставацца найбольш поўна вывучаным помнікам падобнага роду, а яго матэрыялы — эталоннымі для культуры ў цэлым (Сымонович, 1963. С. 95—137).

З пачатку 60-х гадоў мэтанакіраванае даследаванне калочынскіх помнікаў сярэдняй часткі Беларускага Падняпроўя праводзіць Л. Д. Побаль (Поболь, 1969. С. 96—99; 108—109). Адкрыты дзесяткі паселішчаў, могільнікаў і гарадзішчаў з матэрыяламі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., на шмат якіх з іх вядуцца раскопкі. Значная колькасць дадзеных, што характарызуюць культуру разглядаемых помнікаў, атрымана Л. Д. Побалем на паселішчы Шчаткава ў Бабруйскім раёне, на могільніках Новы Быхаў і Ніжняя Тошчыца ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці (Поболь, 1969. С. 96—97; Ён жа, 1974. С. 160—180).

На пасалішчы і могільніку Тайманава пад Быхавам Л. Д. Побаль адкрыў 50 паглыбленых жытлаў і 202 пахаванні, датаваныя ім II—IX стст. (Поболь, 1973. С. 221—230; Ён жа, 1983. С. 45; Ён жа, 1988. С. 186). Багатыя матэрыялы Тайманава маглі б стаць пасля поўнага ўвядзення ў навуковы абарот ключавымі ў разуменні этнакультурных працэсаў, што праходзілі ў Верхнім Падняпроўі ў 1-м тысячагоддзі н. э.

У 1960 — пачатку 1970-х гадоў Г. Ф. Салаўёвай, якая вывучала старажытнарускія курганы ў паўднёвай частцы Верхняга Падняпроўя, былі даследаваны два могільнікі з трупаспаленнем трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. — Дзям'янкі і Вароніна, а на шматслойным паселішчы Хадасовічы сустрэты калочынскія матэрыялы (Соловьева, 1967. С. 187—198; Яна ж, 1970. С. 304—305). Асобныя калочынскія пахаванні выяўлены пры даследаванні курганоў У. У. Багамольнікавым і В. Н. Рабцэвічам (Богомольников, 1974; Рябцевич, 1984. С. 369).

Невялікія раскопкі калочынскіх паселішчаў на Прыпяці правёў у сярэдзіне 70-х гадоў В. Б. Пярхаўка (Перхавко, 1978б. С. 108—109). У 1981—1982 гг. А. Г. Калечыц на мезалітычным паселішчы каля в. Новыя Грамыкі на рацэ Беседзь на левабярэжжы Сажа даследавала жытло трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (Калечиц, 1981. С. 338). С. Я. Расадзіным у 1983 г. раскапана пляцоўка калочынскага гарадзішча Залатаміна ў правабярэжнай

частцы Сярэдняга Сажа (Рассадзін, 1985. С. 75—79). 3 1980 г. разведка і раскопкі раннесярэдневяковых помнікаў Ніжняга Пасожжа праводзяцца А. А. Макушнікавым, раскопкі ажыццёўлены на шасці паселішчах (Нісімкавічы-1, 3, 5, Насовічы, Гомель), дзе даследавана дзесяць пабудоў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. жылога гаспадарчага і вытворчага прызначэння, а таксама пахаванне па абраду трупаспалення (Макушников, 1985. С. 91—98; Ён жа, 1987; Ён жа, 1990. С. 58—59).

Асноўныя вынікі вывучэння калочынскіх помнікаў падведзены ў працах П. М. Траццякова, Я. А. Гарунова, В. В. Сядова, дысертацыі В. Б. Пярхаўкі і калектыўных працах археолагаў Украіны (Третьяков, 1974. С. 40—118; Перхавко, 1978б. С. 2—22; Седов, 1982. С. 29—34; Горюнов, 1981. С. 5—47, 83—93; Археология Украинской ССР, 1986. С. 167—174; Этнокультурная карта, 1985. С. 93—98). Вынікі даследаванняў старажытнасцей трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Беларускага Падняпроўя абагульнены Л. Д. Побалем (Поболь, 1970. С. 225—241).

Да цяперашняга часу вядома больш за 150 помнікаў калочынскай культуры, у тым ліку стацыянарныя раскопкі праводзіліся на 30 паселішчах і гарадзішчах, 15 могільніках, выяўлена больш за 50 жылых пабудоў і 400 пахаванняў. Большая частка помнікаў вывучалася на тэрыторыі Беларусі. Аблічча калочынскай матэрыяльнай культуры дастаткова аднастайнае па ўсім арэале яе распаўсюджання. Нязначныя лакальныя асаблівасці назіраюцца ў дэталях прафілёўкі пасудзін, элементах домабудаўніцтва і пахавальнага абраду.

Адзіным тыпам калочынскіх паселішчаў Беларускага Падняпроўя з'яўляюцца паселішчы. Па тапаграфіі і памерах яны падзяляюцца на дзве групы. Паселішчы першай групы прыкметна пераважаюць. Да іх адносяцца невялікія па памерах (як правіла, да 0,7 га) паселішчы, размешчаныя на паніжаных участках надпоймавых тэрас блізка ад вады, зрэдку — на астанцах у рачных поймах. Звычайна вышыня залягання культурных рэшткаў над вадой складае 3—5 м, слой амаль непрыкметны і выключна бедны на рэчавы матэрыял, які, як правіла, канцэнтруецца толькі паблізу запаўненняў паглыбленых збудаванняў. Прыкладамі служаць паселішчы Ніжняга Пасожжа — Насовічы (на рацэ Уць), Нісімкавічы-1, Нісімкавічы-3 (на рацэ Покаць).

Паселішчы другой групы сустракаюцца радзей. Іх адрозніваюць дастаткова вялікія памеры (плошча можа перавышаць 1,5—2,0 гв), размяшчэнне на значна большым узвышэнні над узроўнем вады (ад 5—7 да 20 м і больш). Магутнасць культурнага слоя дасягае 0,5—1,0 м, ён прасочваецца на адлегласці да некалькіх соцень метраў уздоўж краю берагавых тэрас. Да другой групы адносяцца паселішча Тайманава на Дняпры (раскопкі Л. Д. Побаля), Хальч на Сажы (разведка А. А. Макушнікава) і інш.

Невялікія памеры паселішчаў першай групы, на якіх магло размяшчацца ад аднаго да трох-пяці двароў гаспадарак, адсутнасць на іх прыкметнага культурнага слоя, безумоўна, сведчаць пра нядоўгачасовы характар гэтых паселішчаў. Дадзеная асаблівасць можа тлумачыцца патрэбнасцямі гаспадарчай дзейнасці калочынцаў — заняткамі лядным земляробствам, што выклікала частую змену месца пражывання (Горюнов, 1981. С. 34—35). Другая група паселішчаў можа маркіраваць месца абшчынна-племянных цэнтраў, якія існавалі на працягу некалькіх стагоддзяў. Так, на паселішчы Тайманава даследаваны дзесяткі жытлаў раннесярэдневяковага перыяду. 3 буйнымі паселішчамі звязаны, як правіла, гарадзішчы-сховішчы і свяцілішчы, вядо-

мыя па ўсім арэале распаўсюджання культуры, але даследаваныя толькі ў Беларускім Падняпроўі і сумежных раёнах.

Класічным прыкладам сховішча з'яўляецца гарадзішча Калочын-1, раскапанае Э. А. Сымановічам. Яно збудавана на падпрамавугольным мысе высокай карэннай тэрасы Дняпра. Пляцоўка памерам 42 × 36 м адрэзана з напольнага боку двума падковападобнымі валамі і равамі. Яшчэ адзін вал прасочваецца па яе перыметры. Частка абарончых збудаванняў узведзена ў раннім жалезным веку, але прарэзванне сведчыць пра іх умацаванне ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Па краях пляцоўкі размяшчалася доўгае наземнае жытло, у якім знойдзена шмат гліпянага посуду, іншыя прадметы ўжытку і ўзбраення. На гарадзішчы няма слядоў аселага жыцця, адсутнічаюць стацыянарныя жытлы, а магутнасць культурнага слоя ў цэнтры пляцоўкі не перавышае 0,25 м і ён практычна не ўтрымлівае знаходак. Інтэрпрэтацыя помніка, прапанаваная аўтарам раскопак, прызнаная ў навуцы.

Аналагічнае гарадзішча даследаваў у 1985 г. М. Б. Шчукін паблізу в. Машчонка Чарнігаўскай вобласці на правабярэжжы ракі Сноў. Паводле заключэння даследчыка, у калочынскі час на гарадзішчы былі ўзведзены валы і яно выкарыстоўвалася ў якасці сховішча (Щукин, 1989. С. 107—112). Матэрыялы калочынскай культуры выяўлены А. А. Макушнікавым на шэрагу гарадзішчаў Ніжняга Пасожжа. Мяркуючы па тапаграфіі, гэтыя помнікі аналагічныя Калочыну-1 і Машчонцы. Відаць, да групы сховішчаў трэба аднесці гарадзішчы, якія ўзводзіліся, як правіла, на месцы паселішчаў ранняга жалезнага веку. Яны займалі добра ўмацаваныя мысавыя ўчасткі тэрас плошчай да 0,7 га. Для іх характэрная канцэнтрацыя рэчавага матэрыялу паблізу валоў, па краях пляцовак (на месцы доўгіх жытлаў) і адсутнасць пастаянных жытлаў. Гарадзішчы тапаграфічна звязаны з вялікімі паселішчамі ці групамі малых.

Асобную катэгорыю помнікаў складаюць свяцілішчы. Адно з іх даследавалася С. Я. Расадзіным паблізу в. Залатаміна Кармянскага раёна Гомельскай вобласці на малым прытоку Сажа — рацэ Аўсянцы. Правільная ў плане акруглая пляцоўка (яе памеры крыху большыя за 200 кв.м), размешчаная на краі 7—8-метровай тэрасы, акружана кальцавым валам, з напольнага боку — падковападобнымі валамі і равамі.

Прыкметны культурны слой адсутнічае, знойдзена толькі некалькі чарапкоў і зерняцёрка. У цэнтры пляцоўкі расчышчана круглая ў плане яма з абломкамі калочынскіх пасудзін. Якія-небудзь збудаванні (акрамя некалькіх невялікіх ям) адсутнічаюць. Свяцілішча знаходзіцца побач з паселішчамі другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. На думку аўтара раскопак, Залатаміна выконвала функцыю гарадзішча-сховішча (Расадзін, 1985. С. 75—79). Разам з тым помнік прыкметна адрозніваецца ад гарадзішчаў-сховішчаў тыпу Калочына-1 і Машчонкі, але поўнасцю адпавядае прыкметам гарадзішчаў-свяцілішчаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. Смаленскага Падняпроўя і Паўночнай Букавіны, адзначаным П. М. Траццяковым, В. В. Сядовым і Б. А. Цімашчуком. Да такіх адносяцца: 1) невялікія памеры пляцоўкі і іх правільная, звычайна акруглая форма (дыяметрам 14—28 м, паводле В. В. Сядова); 2) наяўнасць кальцавых і паўкальцавых, як правіла, некалькіх валоў і равоў; 3) адсутнасць культурнага слоя; 4) размяшчэнне паблізу гарадзішчаў паселішчаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. (Седов, 1962. С. 57; Тимощук, 1976. С. 82—93).

Адкрытыя ў Залатаміна «слупавыя» ямы, магчыма, служылі асновамі драўляных ідалаў, а цэнтральная прызначалася для абрадавага біцця по-

суду. Цікавыя россыпы камянёў-валунчыкаў і адзначаныя па краях пляцоўкі свяцілішча попельныя праслойкі, якія можна звязаць са споўзшымі з вала рытуальнымі каменнымі пляцоўкамі, дзе падтрымліваўся «свяшчэнны» агонь (такія пляцоўкі адзначаны на букавінскіх сеяцілішчах). Аналагічныя свяцілішчы, якія маюць невялікія круглыя пляцоўкі без культурнага слоя, абследаваны А. А. Макушнікавым у Ніжнім Пасожжы каля вёсак Хальч (урочышча Чырвоная Гара) і Чамярня (урочышча Чортава Гара). Абодва помнікі займаюць пануючыя вышыні карэнных тэрас у акружэнні вялікіх паселішчаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. і старажытнарускіх курганных могільнікаў.

«Гнездавое» размяшчэнне калочынскіх паселішчаў, адзначанае ў Падзясенні (Горюнов, 1981. С. 12), характэрна і для помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Паўднёва-Усходняй Беларусі. Так, павышаная канцэнтрацыя паселішчаў назіраецца паблізу вёсак Шарсцін і Прысно Веткаўскага раёна на правым беразе Сажа, каля вёсак Дзям'янкі і Вылева пад Добрушам на Іпуці, каля Свяцілавічаў і Чамярні на Бесядзі і г. д. Слабая вывучанасць такіх «гнёздаў» і адсутнасць упэўненасці ў сінхроннасці ўваходзячых у іх помнікаў прымушаюць, аднак, устрымацца ад каментарыяў дадзенай з'явы.

Сабраныя матэрыялы дазваляюць дастаткова поўна ахарактарызаваць калочынскае домабудаўніцтва (мал. 112:1—4). Асноўным тыпам жытлаў была чатырохвугольная ў плане паўзямлянка, апушчаная ў зямлю на 0,3—1,0 м. Плошча паглыбленых частак жытлаў складае 6—24 кв. м. Канструкцыя сцен зрубавая і слупавая. Па дэталях інтэр'ера жылыя пабудовы падзяляюцца на некалькі груп. Так, жытлы, што маюць цэнтральны апорны слуп і ачаг, пануюць на помніках Падзясення, але вядомы і ў Беларускім Педняпроўі (паселішчы Калочын, Тайманава, Нісімкавічы-2 і Нісімкавічы-3, Насовічы). Для верхнедняпроўскага рэгіёна характэрны паўзямлянкі без апорных слупоў (Шчаткава, Тайманава, Новыя Грамыкі, Нісімкавічы і інш.). Ацяпляльныя сістэмы-ачвгі ў выглядзе невялікіх плямаў свжы на падлозе ці ў паглыбленні. Для жытлаў з цэнтральным апорным слупам характэрна размяшчэнне ачага ў цэнтры жытла. Для помнікаў Беларускага Падняпроўя тыповымі з'яўляюцца ачагі (зрэдку выкладзеныя каменем) каля адной са сцен пабудовы ці ў вугле.

У ходзе шматгадовых даследаванняў устаноўлена, што дастаткова распаўсюджаную групу паўзямлянкавых жытлаў у Паўднёва-Усходняй Беларусі складаюць пабудовы з печамі-каменкамі ў вугле (Шчаткава, Тайманава, Юрэвічы, Нісімкавічы-2, Прудок, Гомель) (Поболь, 1967. С. 233. Рис. 20—24; Ён жа, 1973. С. 233. Рис. 11; Ён жа, 1974. Рис. 1; Ён жа, 1981. С. 343; Ён жа, 1982. С. 11. Рис. 4; Макушников, 1986. С. 4—5; Дубицкая, 1987. С. 49—50).

Прыкладам зрубавай паўзямлянкі з печчу можа быць пабудова паселішча № 1 з Нісімкавічаў-2 (раскопкі А. А. Макушнікава 1985 г.). Паглыбленая ў мацярык частка жытла мае амаль квадратную форму памерам 3,4 × 3,5 м. Дно апушчана ў мацярык на 0,3 м. Уздоўж мацерыковых сцен ляжаць згарэлыя бярвёны дыяметрам да 15 см, якія захаваліся на вышыню двух вянцоў. Бярвёны злучаны без астатку ў «лапу». У паўночна-ўсходнім вугле знаходзіцца печ-каменка прамавугольнай формы, узведзеная на ўзроўні падлогі. Яе вышыня 0,4 м, памеры — 1,0—1,1 × 0,95—1,2 м. Чарэнь авальнай формы займае плошчу 0,5 × 0,7 м і ўяўляе сабой загартаваны слой пяску, попелу і вугалю. Месца ўваходу ў жытло вызначаецца па характэрным выступе каля заходняй сцяны. Жытло перакрывае больш раннюю калочынскую паўзямлянку з цэнтральным слупам і адкрытым ачагом.

Для гарадзішчаў-сховішчаў характэрны доўгія шматкамерныя наземныя жытлы (Калочын-1), якія, улічваючы функцыю разглядаемых помнікаў, не могуць лічыцца прыкладам традыцыйнага калочынскага жытла.

На паселішчах сустракаюцца таксама разнастайныя гаспадарчыя, а зрэдку і вытворчыя пабудовы. Да першых адносяцца ямы, апушчаныя ў мацярык і прызначаныя для захоўвання прыпасаў. Звычайна яны акруглыя ў плане, дыяметрам 0,5—1,5 м, глыбінёй — 0,4—1,0 м. Часта сустракаюцца ямы-скляпы звонападобнай у разрэзе формы. Прыкладам больш буйных пабудоў, прызначэнне якіх не зусім высветлена, з'яўляюцца дзве паглыбленыя пабудовы без слядоў ацяпляльных сістэм, адкрытыя на паселішчы Нісімкавічы-2. Канструкцыю апошніх вызначае няправільны план і пакатыя мацерыковыя сценкі. Памеры збудаванняў складаюць 23,5 кв. м (паб. 4) і 48,8 кв. м (паб. 3). На падлозе пабудовы 3 адзначана мноства ямак. Да рэшткаў вытворчых збудаванняў можна аднесці некалькі паглыбленую пабудову слупавой канструкцыі, раскапаную ў Гомелі ў 1987 г. Відаць, яна была звязана з металургічнай вытворчасцю, паколькі яе запаўненне складалася з буйных кавалкаў балотнай руды.

Пахавальны абрад калочынскага насельніцтва пададзены грунтавымі і курганнымі пахаваннямі па абраду трупаспалення (мал. 112:5, 6). Грунтавыя могільнікі вядомыя па ўсім арэале распаўсюджання калочынскай культуры (Алихова, 1963. С. 83—84; Кухаренко, 1954. С. 80—85; Поболь, 1973. С. 225—227; Ён жа, 1974. С. 159—180; Сымонович, 1974. С. 153—158; Липкинг, 1974. С. 136—152; Горюнов, 1981. С. 32—33), курганныя даследаваліся толькі на тэрыторыі Беларусі.

Як правіла, грунтавыя могільнікі размяшчаюцца на невялікай аддаленасці ад паселішчаў ці на іх ускраінах (Тайманава, Ніжняя Тошчыца, Новы Быхаў, Чыстыя Лужы і інш.). На могільніках знаходзяць звычайна некалькі пахаванняў (не больш за 10—15). Буйныя «палі пахаванняў», якія налічваюць вялікую колькасць пахаванняў, характэрны для вялікіх паселішчаў (Тайманава, Новы Быхаў). Трупаспаленні едбываліся на адлегласці, а іх рэшткі змяшчаліся ў невялікія грунтавыя ямкі круглай або авальнай формы ці ў гліняныя ўрны. Зрэдку кальцыніраваныя косці ці ўрна накрываліся перавернутай дагары пасудзінай. Косці ачышчаліся ад рэшткаў вогнішча ці ссыпаліся ў магілу з вугалём і попелам.

Для культуры канстатуецца рэзкая перавага ямных пахаванняў, аднак урнавыя складаюць значны працэнт на помніках Курскага Пасем'я. Для пахавальных комплексаў характэрна адсутнасць інвентару. Зрэдку сустракаюцца адзінкавыя чарапкі, прасліцы, наканечнікі стрэл, прадметы ўбору, большасць якіх мае сляды дзеяння агню.

Некаторыя даследчыкі лічаць, што для калочынскай культуры характэрны выключна грунтавыя могільнікі (Седов, 1982. С. 32). Пэўную ролю ва ўзнікненні падобных уяўленняў адыграў спрэчны, неадназначны характар трупаспаленняў у Дзям'янках і Кветуні, падкурганны абрад якіх пастаўлены пад сумненне (Седов, 1970. С. 134; Горюнов, 1981. С. 30—32), а таксама дрэнна дакументаваныя матэрыялы такіх верхнеднянроўскіх могільнікаў, як Дабужа, Бердыж, Лясная.

Аднак у разглядаемым рэгіёне ёсць такія могільнікі, як Колас і Вароніна, курганны характар якіх сумнення не выклікае. Абодва могільнікі размешчаны ў правабярэжнай частцы Дняпра: першы — у Жлобінскім раёне Гомельскай вобласці, другі — ў Быхаўскім Магілёўскай вобласці. Варонінскія курганы

вывучала Г. Ф. Салаўёва, кургвны ў Коласе — У. У. Багамольнікаў (Соловьева, 1970. С. 98—102; Богомольников, 1975. С. 382). Дыяметр курганоў, якія маюць паўсферычную форму і пясчаныя насыпы, вагаецца ў межах 8—12 м, вышыня складае 0,6—1,8 м.

Дэталі абраду блізкія да рытуалу грунтавых могільнікаў, бо і тут крэмацыя адбываецца па-за месцам пахавання, а памерлага спальваюць разам з небагатым інвентаром. Усе пахаванні бязурнавыя. Рэшткі спалення, а гэта кальцыніраваныя косці, попал і вуголле, а таксама асобныя прадметы пахавальнага інвентару, высыпаны на гарызонце і ўтвараюць невялікія сканцэнтраванні авальных абрысаў. Магчыма, і ў саміх насыпах зрэдку праводзіліся дадатковыя пахаванні (Вароніна, курган № 2). Характэрны ляпныя слабапрафіляваныя пасудзіны-прыстаўкі, знойдзеныя ва ўсіх курганах (на гарызонце ці ў насыпе). Знойдзены наступны інвентар: жалезны нож, пярсцёнак, абойміца ад кашалька, бронзавыя і шкляныя вырабы са слядамі дзеяння агню. У адрозненне ад варонінскіх курганоў, у якіх не знойдзена рэшткаў драўляных канструкцый, у кургане з Коласа вакол пахавання прасочана згарэлая кальцавая агароджа з вертыкальных слупкоў.

Масавым матэрыялам на калочынскіх паселішчах з'яўляецца ляпная кераміка. Агульная характарыстыка керамікі Паўднёва-Усходняй Беларусі дадзена Л. Д. Побалем, П. М. Траццяковым, В. В. Сядовым, В. Б. Пярхаўка (Поболь, 1970. С. 236; Перхавко, 1978. С. 12—15; Седов, 1982. С. 32; Третьяков, 1982. С. 74). Класіфікацыю верхнедняпроўскай керамікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. прапанавала І. П. Русанава (Русанова, 1976. С. 64—75). На жаль, па-за полем зроку даследчыкаў апынулася вялікая калекцыя керамічнага посуду з гарадзішча Калочын-1, якая захоўваецца ў музеях Рэчыцы і Гомеля. Яе вывучэнне паказвае, што керамічны комплекс калочынскай культуры не настолькі ўжо аднастайны, як гэта іншы раз уяўляецца.

Уся калочынская кераміка ляпная, пераважна грубая, глянцаванне сустракаецца выключна рэдка. Для керамікі Верхняга Падняпроўя характэрны буйныя неарганічныя прымешкі да цеста: жарства, рэдка шамот, пясок ці спалучэнне некалькіх кампанентаў. Па функцыянальным прызначэнні посуд падзяляецца на чатыры катэгорыі: 1) перавага ў комплексе кухонных гаршкоў; 2) буйныя пасудзіны для захавання прыпасаў — гаршкі, збаны; 3) сталовая кераміка — міскі; 4) гліняныя патэльні з нізкім борцікам і дыскі.

Аснову керамічнага комплексу помнікаў Паўднёва-Усходняй Беларусі складаюць гаршкі і вялікія збаны шасці тыпаў (мал. 110). Да першага тыпу аднесены слоікападобныя (слоіка-акруглабокія) гаршкі з максімальным пашырэннем тулава на сярэдзіне вышыні і звужанай гарлавінай. Дыяметр дна крыху саступае дыяметру па венчыку. У комплексе з Калочына-1 гаршкі першага тыпу прыкметна пераважаюць, яны з'яўляюцца і пераважнай формай на помніках Магілёўскага Падняпроўя (Новы Быхаў, Тайманава), а таксама Пасожжа.

Другі тып — гаршкі і вялікія збаны цюльпанападобнай формы, якія маюць шырокае горла і плаўна звужаюцца ад сярэдзіны вышыні да дна. Дыяметры пашырэнняў горла і тулава (на сярэдзіне вышыні пасудзіны) прыкладна роўныя. Па дэталях прафілёўкі пасудзіны другога тыпу ўтвараюць тры падтыпы. Цюльпанападобныя формы характарызуюць другую па колькасці групу гаршкоў і вялікіх збаноў гарадзішча Калочын.

Масавую серыю складаюць рабрыстыя гаршкі і вялікія збаны трэцяга тыпу. Яны маюць максімальнае пашырэнне на ўзроўні сярэдзіны вышыні ці

крыху вышэй, аформленае ў выглядзе рабрыстага выгіну сценак, і, як правіла, нявылучаны венчык. Рабрына мае выгляд вуглаватага пераломy профілю ці аформлена валікам. Адзінкавыя экземпляры аздоблены наляпным валікам з насечкай, размешчаным пад венчыкам. На Калочынскім гарадзішчы № 1 пасудзіны дадзенага тыпу складаюць трэцюю па колькасці групу гаршкоў і вялікіх збаноў.

Чацвёрты тып — гэта цыліндраканічныя гаршкі розных памераў, венчык і шыйка ў іх нявылучвныя. Як правіла, пераход ад верхняй (цыліндрычнай) часткі да ніжняй (канічнай) мае вострую ці згладжаную рабрыну. На Калочынскім гарадзішчы № 1 знойдзена ўсяго адна пасудзіна разглядаемага тыпу.

Да пятага тыпу адносяцца пасудзіны ўсечана-канічнай формы з нявылучанай ці крыху намечанай шыйкай. Сустракаецца валік на ўзроўні сярэдзіны вышыні пасудзіны, а таксама валік пад венчыкам, арнаментаваны касымі насечкамі. Гэта даволі рэдкі тып посуду. На Калочыне-1 знойдзена цэлая пасудзіна такой формы і адзін абломак.

Да шостага тыпу аднесены выцягнутыя гаршкі з максімальным пашырэннем на ўзроўні верхняй трэці вышыні, ледзь прыкметнымі плечыкамі, кароткай шыйкай і вузкім дном («пражскага» тыпу). На гаредзішчы Калочын-1 дадзеная форма прадстаўлена трыма абломкамі. На іншых помніках гаршкі шостага тыпу таксама нешматлікія.

Аналіз керамічнага комплексу помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Паўднёва-Усходняй Беларусі паказвае, што аблічча мясцовага посуду вызначаюць у першую чаргу слоікавыя ці слоіка-акруглабокія гаршкі. П. М. Траццякоў быў упэўнены, што «формы керамікі ў Верхнім Педняпроўі і Падзясенні былі разнастайнымі, і пераважала сярод іх зусім не цыліндрычнаканічная і цюльпанападобная, а звычайная слоікавая, з адагнутым вонкі венчыкам. выпуклым тулавам...» (Третьяков, 1982. С. 74).

Рэчавы комплекс калочынскіх помнікаў дастаткова аднастайны і бедны па складзе (мал. 111). Большасць прыладаў працы выраблена з чорнага металу (нажы, сякеры, лопаты, рыбалоўныя кручкі, пешня, косы, сярпы і інш.). Сустракаюцца жалезныя нвральнікі (Тайманава), посехападобныя шпількі, каменныя зерняцёркі і жорны. Шырока распаўсюджаны гліняныя ўсечана-біканічныя прасліцы. Прадметы ўзбраення рэдкія, ёсць наканечнікі стрэл, коп'яў, шпоры. На помніках Паўднёва-Усходняй Беларусі знаходкі бронзавых упрыгожанняў рэдкія: трапецападобныя падвескі (Тайманава), пальчатая фібула (Гомель) і інш.

Пытанні храналогіі калочынскіх помнікаў не распрацаваны ў дастатковай ступені. Даследчыкі прапануюць рознае датаванне культуры і яе асобных помнікаў. Так, Э. А. Сымановіч аднёс перыяд існавання гарадзішчв Калочын-1 да VI — рубяжа VII і VIII стст. (Сымонович, 1963. С. 133), П. М. Траццякоў — да V — пачатку VI ст. (Третьяков, 1982. С. 67). Большасць вучоных датуе культуру ў цэлым у рамках V—VIII стст. (Русанова, 1963. С. 143, 150; Седов, 1970. С. 42—53; Сымонович, 1975. С. 23; Перхавко, 1978. С. 17—18; Митрофанов, 1980. С. 108—109). Даследаванне помнікаў Педзясення прывяло Я. А. Гарунова да высновы, што калочынскую культуру дадзенага рэгіёна трэба датаваць у межах канца IV—VII ст. (Горюнов, 1981. С. 63). Р. В. Цярпілоўскі ўдакладніў апошняе датаванне і аднёс калочынскія старажытнасці Падзясення да сярэдзіны V—VII ст. (Этнокультурная карта, 1985. С. 93—98).

Трэба прызнаць, што найбольш абгрунтаванай з'яўляецца хранвлогія помнікаў Падзясення і Сярэднедняпроўскага Левабярэжжа, прапанаваная

украінскімі археолагамі. Менавіта тут знойдзены бранзалеты з патоўшчанымі канцамі позняй разнавіднасці, В-падобныя спражкі, якія датуюцца рамкамі V—VII стст., а таксама так званыя рэчы круга «старажытнасцей антаў» (накладкі геральдычнай формы і інш.), датаванне якіх ляжыць у межах сярэдзіны VI — сярэдзіны VII ст. (Этнокультурная карта, 1985. С. 96—97).

Больш складаным з'яўляецца пытанне храналогіі калочынскіх помнікаў Паўднёва-Усходняй Беларусі, якія характарызуюцца амаль поўнай адсутнасцю прадметаў з вузкім перыядам ужытку. У рэчавым наборы прысутнічаюць рэчы, храналагічны дыяпазон якіх ляжыць у межах 1-га тысячагоддзя н. э. ці яго другой паловы. Так, шпоры з вострым канічным шыпам, адагнутымі вонкі кручкамі і плоскай дужкай (Тайманава), а таксама аналагічныя шпоры з выгнутай дужкай (Шчаткава) датуюцца па прыбалтыйскіх аналагах III—VII стст. (Перхавко, 1979. С. 52).

Шырокі ўжытак маюць посахападобныя шпількі, што сустракаюцца на розных помніках 1-га тысячагоддзя н. э. Нажы волютападобнай формы падобныя да знойдзеных у Тайманаве, сустракаюцца часцей за ўсё ў заходнеславянскіх землях, датуюцца VII—X стст. (Минасян, 1978. С. 148—152). Не могуць быць дастаткова надзейным храналагічным індыкатарам і такія прадметы, як трохлопасцевыя чаранковыя наканечнікі стрэл (Дзям'янкі), якія маюць аналагі як у помніках «аварскага», так і «гунскага» перыядаў. Больш поўнай уяўляецца датаванне пальчатай фібулы з Гомеля, якая ў адпаведнасці з сучаснымі распрацоўкамі храналогіі крымскіх могільнікаў, што змяшчаюць пальчатыя фібулы дняпроўскага тыпу, вызначаецца ў рамках VII ці другой паловы VII ст. (Амброз, 1972. С. 116; Айбабин, 1988. С. 5—8).

Такім чынам, прымаючы ў цэлым датаванне калочынскіх помнікаў Беларусі, абмежаванае V—VIII стст., трэба чакаць яго ўдакладнення надзейна датаваным матэрыялам.

На пашырэнні верхняй храналагічнай мяжы калочынскай культуры да IX ст. уключна настойвае Л. Д. Побаль (Поболь, 1984. С. 42—55). Пры гэтым даследчык абапіраецца не на строга датаваныя комплексы, а на меркаванні аб перарастанні калочынскай культуры ў старажытнарускую. Л. Д. Побаль аб'ядноўвае ў адну культуру матэрыялы верхняга слоя гарадзішча Калочын-1 і яўна тыпалагічна адрозныя ед іх знаходкі тыпу выяўленых у жытле № 2 на Калочынскім паселішчы, якія характарызуюцца, у прыватнасці, керамікай «раменскага» аблічча (Поболь, 1970. С. 229—232). Відаць, кераміка, падобная на раменскую і сустрэтая на шэрагу помнікаў паўднёвай часткі Верхняга Падняпроўя (Вароніна, Хадосавічы, Чачэрск, Насовічы, Гомель і інш.), дыягнастуе больш позні, чым калочынскі, пласт старажытнасцей разглядаемага рэгіёна.

Слабая распрацоўка храналагічнага аспекту ў вывучэнні калочынскай культуры на тэрыторыі Паўднёва-Усходняй Беларусі не дазваляе ажыццявіць перыядызацыю яе помнікаў, намеціць дынаміку змяненняў матэрыяльнага комплексу і ў канчатковым выніку робіць малаабгрунтаванымі спробы этнічнай інтэрпрэтацыі яе носьбітаў.

Паходжанне калочынскіх помнікаў на базе папярэдніх ім храналагічна і тэрытарыяльна старажытнасцей рымскага перыяду, якія атрымалі назву кіеўскай (ці позназарубінецкай тыпу Абідні) культуры, не выклікае сумнення і прызнана большасцю даследчыкаў (Третьяков, 1965. С. 63—77; Ён жа, 1987. С. 23—91; Горюнов, 1981. С. 63; Терпиловский, 1980. С. 18; Поболь, 1970. С. 240—241; Ён жа, 1973. С. 221—230; Седов, 1970. С. 48—52). Калочынскія

і папярэднія ім кіеўскія помнікі звязаны паміж сабой не толькі агульнасцю арэалв распаўсюджання, але і педобнай сацыяльна-зканамічнай мадэллю грамедства, якое іх пакінула.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў калочынскай культуры пастаўлена з моманту адкрыцця яе першых помнікаў, але не вырашана канчаткова і ў цяперашні час. Агляд асноўных тзарэтычных пабудоў па гэтай праблеме паказвае, што даследчыкі калочынскай культуры разглядаюць яе зтнічны змест, знаходзячыся на дзвюх дыяметральна процілеглых, узаемавыключных пазіцыях. Адны з іх, прытрымліваючыся ў асноўным поглядаў П. М. Траццякова, адносяць калочынцаў да славян, другія — В. В. Сядоў, І. П. Русанава, А. Р. Мітрафанаў і іх паслядоўнікі — да балтаў.

Ключавое месца ў пабудове П. М. Траццякова займае высвятленне ролі зарубінецкай спадчыны ў станаўленні раннесярэдневяковых славянскіх культур. Зарубінецкая культура, распаўсюджаная на рубяжы эр у паўднёвай частцы Верхняга Падняпроўя, на Палессі і ў Кіеўскім Педняпроўі, пакінута, на яго думку, старажытнымі славянамі. Этнічную прыналежнасць зарубінецкай культуры П. М. Траццякоў абгрунтоўвае яе сувяззю з помнікамі другой і трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., распаўсюджанымі на той жа тзрыторыі, — позназарубінецкімі, кіеўскімі, калочынскімі (Третьяков, 1982. С. 53—60). Апошнія ж маюць усе рысы, уласцівыя ранняму сярэднявеччу (Третьяков, 1974. С. 49). Славянская прыналежнасць калочынцаў не выклікала ў П. М. Траццякова сумненняў, паколькі пакінутыя імі помнікі паказваюць яўную тыпалагічную блізкасць з верагодна славянскімі помнікамі пянькоўскай культуры (Третьяков, 1966. С. 259—264, 278).

Э. А. Сымановіч уключаў помнікі калочынскага тыпу ў склад славянскіх разам са старажытнасцямі тыпу Карчак, Пянькоўка, Тушамля-Акатава (Сымонович, 1966. С. 39—51) на падставе падабенства шэрагу формаў керамікі. Адрозненні паміж культурнымі групамі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. ён бачыў у розных іх падасновах латзнскага і рымскага перыядаў, а таксама ў асаблівасцях мясцовых прыродна-геаграфічных умоў.

Л. Д. Побаль падзяліў раннесярэдневяковыя помнікі Падняпроўя і Палесся на шэраг культур едзінай зоны «славянскіх помнікаў пражскага тыпу» (Поболь, 1982. С. 9—14). Найбольш важнае значэнне ў вырашэнні праблемы славянскага этнагенезу ён надае тыпам жытлаў. Лічачы асноўнай прыкметай славянскага домабудаўніцтва паўзямлянкавыя пабудовы, Л. Д. Побаль прасочвае іх развіццё ад мілаградскага перыяду да канца 1-га тысячагоддзя н. э. На гэтай падставе грунтуецца гіпотэза аб этнічнай пераемнасці насельніцтва на большай частцы тэрыторыі Беларусі ад эпохі ранняга жалеза да старажытнага часу.

Пабудовы П. М. Траццякова і яго прыхільнікаў былі падвергнуты крытыцы з боку В. В. Сядова і І. П. Русанавай (Седов, 1970. С. 48—62; Русанова, 1976. С. 56—84), якія лічаць, што галоўным крытэрыем для аднясення пэўных груп раннесярэдневяковых старажытнасцей да славянскіх павінна быць іх генетычная пераемнасць з больш познімі верагодна славянскімі помнікамі, што з'яўляюцца ў Верхнім Падняпроўі ў VIII ст. (культуры тыпу Лукі-Райкавецкай, раменскай і доўгіх курганоў). А паколькі такую сувязь прасачыць не ўдалося і ў наяўнасці адрозненні помнікаў трэцяй і апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., асабліва прыкметныя ў формах керамікі і тыповых жылых збудаванняў, то ёсць падставы гаварыць пра змену насельніцтва каля VIII ст. Спрэчным, на думку апанентаў П. М. Траццякова, з'яўляецца і

аднясенне «зарубінцаў» да славян (Седов, 1970. С. 38—48). На карысць балцкай прыналежнасці кола помнікаў тыпу Калочына, Банцараўшчыны і Тушамлі прыводзяцца абставіны накладвання іх арэала на зону распаўсюджання балцкай гідраніміі (Седов, 1970. С. 10—11).

Значнае месца ў дыскусіі пра этнічную прыналежнасць носьбітаў калочынскай культуры займае аналіз ступені падабенства і адрознення адносна помнікаў суседніх сінхронных культур — пражскай (карчакаўскай), пяньковскай і тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Пры гэтым адны даследчыкі, якія схіляюцца да славянскай атрыбуцыі калочынскіх старажытнасцей, акцэнтуюць сваю ўвагу на іх агульных рысах з больш паўднёвымі, верагодна, раннеславянскімі помнікамі і ў той жа час абсалютызуюць адрозненні першых ад старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі (Траццякоў, Гаруноў і інш.). Іншыя ўсяляк падкрэсліваюць элементы адрознення калочынскай культуры ад пражскай і пяньковскай, аб'ядноўваючы Калочын, Банцараўшчыну і Тушамлю ў адзіную культурную зону (Сядоў, Русанава, Мітрафанаў і інш.).

Трэба, аднак, прызнаць, што ўсе разгледжаныя раннесярэдневяковыя групоўкі лясной і лесастэпавай паласы маюць пры ўсіх асаблівасцях вельмі шмат агульнага. Апошняя акалічнасць дазволіла К. Гадлоўскаму гаварыць пра адзіную «мадэль раннесярздневяковай культуры» старажытнасцей тыпу Карчак, Пяньковка, Калочын, Банцараўшчына, Тушамля і іншыя, якая заснавана на занятках земляробствам і характарызуецца слабым узроўнем развіцця рамёстваў (Godłowski, 1979. S. 9). На думку польскага вучонага, рысы агульнасці прыкметныя ў паўсюднай распаўсюджанасці паўзямлянкавых жытлвў, панаванні паселішчаў, пахаванняў па абраду трупаспалення, грубай ляпной керамікі адзінага асартыменту. Пры ўсіх пунктах погляду на паходжанне і шляхі развіцця адзначаных вышэй груп старажытнасцей ігнараваць назіранні К. Гадлоўскага складана. Так, паўзямлянкі з печамі-каменкамі ў вугле, якія з'яўляюцца адзіным тыпам жытла ў Карчакаўскім арэале, пераважаюць на пяньковскіх паселішчах і складаюць значны працэнт як на помніках калочынскай культуры, так і на паселішчах банцараўска-тушамлянскага кола.

Адным з сур'ёзных аргументаў нв карысць славянскай прыналежнасці калочынскай культуры можа лічыцца факт яе паходжання ад мясцовых старажытнасцей кіеўскага (абідненскага) кола. Як пераканаўча паказалі шматгадовыя дасладаванні ленінградскіх і ўкраінскіх археолагаў у Падзясенні і Сярэднадняпроўскім Левабярэжжы, кіеўскае насельніцтва было асноўным субстратам ва ўзнікненні пяньковскай культуры (Приходнюк, 1980. С. 31—46; 117—121; Горюнов, 1981. С. 59—60; 111—127; Терпиловский, 1984. С. 78—85).

У славянскай прыналежнасці «пяньковцаў», культура якіх генетычна звязана з усходнеславянскімі старажытнасцямі канца 1-га тысячагоддзя н. э., сумнявацца цяжка. Таму думка пра тое, што ўдзел кіеўскага субстрату ў замацаванні галоўных рыс калочынскай і пяньковскай культур не дазваляе падзяляць этнас іх носьбітвў (Терпиловский, 1984. С. 85), заслугоўвае сур'ёзнай увагі.

Даследаванні апошніх гадоў, праведзеныя ў Сярэднедняпроўскім Левабярэжжы, выклікаюць сумненні ў базагаворачнасці тззіса пра адсутнасць якіх-небудзь сувязей паміж калочынскай і больш познімі славянскімі культурамі гэтага рэгіёна. Падставы для падобных сумненняў даюць, у прыватнасці, нанава вывучаныя і апублікаваныя М. А. Ціхаміравым матэрыялы Кня-

жынскага і Лебяжынскага могільнікаў у Курскім Пасейм'і (Тихомиров, 1990. С. 134—161).

Такім чынам, пытанне пра этнічны змест помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Паўднёва-Усходняй Беларусі можа быць вырашаным толькі пасля вылучэння і супастаўлення найбольш позніх калочынскіх комплексаў дадзенай тэрыторыі з найбольш раннімі старажытнарускімі (ці прамежкавым пластом помнікаў). У той жа час ні першыя, ні апошнія археалагічна не вылучаны. Параўнанне культур у цэлым наўрад ці будзе перспектыўным для вырашэння пастаўленай праблемы. Пытанне пра тое, балты ці славяне пакінулі раннесярэдневяковыя помнікі Верхняга Падняпроўя, застаецца адкрытым і яго высвятленне правамерна звязваць з далейшымі даследаваннямі.

## 3. БАНЦАРАЎСКАЯ КУЛЬТУРА

### Характарыстыка перыяду і крыніцы даследавання

У жыцці плямёнаў Сярэдняй і Паўночнай Беларусі ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з. намеціліся вельмі істотныя змены. Помнікі культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культуры да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя знікаюць, а іх месца займаюць помнікі, матэрыяльная культура якіх істотнымі рысамі адрозніваецца ад культур папярэдняга часу (мал. 96). У выніку ўнутраных і знешніх сацыяльна-эканамічных прычын большасць ранніх гарадзішчаў спыняе сваё існаванне, саступаючы месца неўмацаваным пасяленням — селішчам. Змены, якія адбываліся з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя, пакінулі свой адбітак і ў матэрыяльнай культуры. Прычым гэтыя змены былі настолькі вялікія, што дазваляюць гаварыць аб новай культурна-этнічнай супольнасці, якая атрымала назву культуры тыпу верхняга пласта гарадзішча Банцараўшчына (скарочана — банцараўская культура). Яна істотнымі рысамі адрознівалася ад культур папярэдняга часу (мела іншы тып пасяленняў, своеасаблівы характар жылля, іншыя рысы матэрыяльнай культуры і гаспадаркі, своеасаблівы абрад пахаванняў і г. д.). Прасліцы трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя з банцараўскага арэала маюць у асноўным біканічную форму і адносна вялікую адтуліну (мал. 122). Прамыя бакавыя сценкі характэрны больш для Заходняга рэгіёна. Упершыню старажытнасці трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. былі адкрыты па выпадковых знаходках яшчэ ў пачатку XX ст. Першыя раскопкі праводзілі С. А. Дубінскі, А. М. Ляўданскі, А. З. Каваленя, І. А. Сербаў, якія даследавалі ў 20—30-х гадах Банцараўскае гарадзішча каля Мінска, па назве якога большасць вучоных называюць культуру трэцяй чвэрці Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі (Дубінскі, 1927. С. 360—363; Лявданский, 1932. С. 54—61). Раскопваліся таксама селішчы Малое Стахава, Прыгань, Петрыкаў, Семурадцы, гарадзішчы Дабужжа, Лукомль, Старое Сяло, Хільчыцы і іншыя помнікі. У той час былі пачаты даследаванні пахавальных старажытнасцей у Падзвінні (Бачыха, Гаравыя, Лятохі, Старое Сяло і інш.) (Дубінскі, 1928. С. 276; Ляўданскі, 1930в. С. 103—104; Ён жа, 1930 г. С. 173—195). Даследаванні тых гадоў насілі ў асноўным разведачны характар і былі атрыманы толькі няпоўныя звесткі аб абліччы паселішчаў, жылых, гаспадарчых і абарончых збудаванняў, пахавальным абрадзе і рэчавым інвентары. Адкрытыя помнікі А. М. Ляўданскі папярэдне датаваў VI—VII стст. і аднёс іх да даславянскага насельніцтва (Лявданский, 1932. С. 54—61; Ляўданскі, 1932в. С. 215—218).

Планамерныя даследаванні помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з. Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі былі праведзены ў 50—70 гады А. Р. Мітрафанавым. Важныя вынікі былі атрыманы ім пры вывучэнні помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з., размешчаных у паўночна-заходняй частцы Дняпроўскага басейна і ў Верхнім Панямонні. Тут А. Р. Мітрафанавым было адкрыта некалькі дзесяткаў паселішчаў і праведзены вялікія раскопкі на селішчах каля вёсак Рэвячка Мядзельскага, Гуры Вілейскага, Дзядзілавічы Барысаўскага раёнаў, на селішчы і гарадзішчы-сховішчы каля в. Гарадзішча Мядзельскага раёна (Митрофанов, 1978. С. 7). На тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны А. Р. Мітрафанаў правёў шматгадовыя даследаванні помнікаў, што знаходзіліся на тэрыторыі былой Полацкай вобласці — у раёнах Полацкім, Верхнядзвінскім, Расонскім, Міёрскім, Пастаўскім, Лепельскім, Глыбоцкім. Ім быў адкрыты шэраг двухслойных гарадзішчаў, якія ўтрымлівалі матэрыялы трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з. (Урагава, Субачава і інш.). На некаторых з іх былі праведзены раскопкі (гарадзішчы Бароўна, Свіла-1, селішча Пруднікі).

Шэраг гарадзішчаў трэцяй чвэрці (Урагава, Загаваліна, Кастрыца) раскопваў К. П. Шут (Шут, 1966, 1969б). Да ліку важных трэба аднесці даследаванні Г. В. Штыхава ў Паўночнай Беларусі. Раскопкі на гарадзішчы каля в. Кастрыца Чашніцкага раёна, ніжніх слаёў гарадзішчаў у Лукомлі, Полацку і Віцебску, на паселішчах каля вёсак Варганы, Лукомлі, Дарахі, Бельчыцы значна пашырылі крыніцазнаўчую базу старажытнасцей трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з.

Акрамя вывучэння паселішчаў, Г. В. Штыхаў даследаваў курганы з трупаспаленнем і керамікай культуры тылу верхняга слоя Банцараўшчыны каля в. Дарахі, ва ўрочышчах Атокі, Паваліншына, каля в. Янковічы.

Матэрыялы трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя ў басейне Верхняга Панямоння атрыманы Я. Г. Звяругам пры раскопках паселішчаў каля вёсак Мікольцы, Сосенка, Засаір, Хведзевічы (Звяруга, 1989. С. 48—57). У рэгіёне Браслаўскага Паазер'я матэрыялы гэтага перыяду ў 80—90-я гады выявілі Л. У. Дучыц (Рацюнкі, Маскавічы), В. І. Шадыра (Тарылава), Г. М. Семянчук (Браслаў), А. А. Егарэйчанка (Зазоны). У Паўночнай Беларусі (Полацкае Падзвінне) старажытнасці другой паловы 1-га тысячагоддзя вывучае В. І. Шадыра (Цясты, Гарадок, Пруднікі, Свіла-1, Тарылава, Субаўшчына і інш.). У Магілёўскім Падняпроўі цікавыя матэрыялы гэтага перыяду выявіў на гарадзішчы Нікадзімава А. А. Седзін (Седин, 1995). У Аршанскім Падняпроўі В. М. Ляўко і Ю. У. Каласоўскім пры раскопках гарадзішчаў каля вёсак Стражава, Вежкі, Германы, Чаркасава, Кісялі выдзелены, на думку аўтараў, пласты як банцараўскай, так і калочынскай культур (Ляўко, Мяцельскі, Каласоўскі, 1997. С. 23—24).

## Паселішчы і жытлы

**Паселішчы.** Усе вядомыя сёння паселішчы VI—VIII стст. Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі падзяляюцца на дзве групы — адкрытыя паселішчы і ўмацаваныя гарадзішчы-сховішчы.

Ізаляваныя адно ад аднаго, замкнутыя патрыярхальна-абшчынныя асобныя гарадзішчы ці гнёзды-гарадзішчы, заселеныя крэўнымі родзічамі, ператварыліся ў перашкоду далейшаму сацыяльна-эканамічнаму прагрэсу. Яны абмяжоўвалі прыватную ініцыятыву найбольш прадпрымальных малых се-

м'яў і гэтым стрымлівалі індывідуалізацыю вытворчасці, перашкаджалі асваенню новых зямель, абцяжарвалі гандлёвы і культурны абмен паміж родамі і плямёнамі.

Усё гэта прыводзіла да таго, што старыя патрыярхальныя паселішчы-гарадзішчы сталі эканамічна нявыгаднымі і паступова насельніцтва пачало іх лакідаць, селячыся на неўмацаваных селішчах. Працэс змены гарадзішчаў селішчамі, які пачаўся, відаць, у IV ст. н. э., працягваўся даволі доўгі час. Пры гэтым адзначана, што на поўначы гэты працэс праходзіў больш марудна і насельніцтва яшчэ доўгі час выкарыстоўвала гарадзішчы, пра што сведчаць магутныя культурныя едкладанні на гэтых помніках (Урагава, Бароўна, Прудніхі, Цясты і інш.).

Доўгачасовае выкарыстанне гарадзішчаў на поўначы можна растлумачыць не ўмовамі рэльефу і не мясцовымі традыцыямі, а канкрэтнымі сацыяльна-эканамічнымі прычынамі і фактарам знешняй небяспекі. Пры гэтым уцалелыя гарадзішчы ў другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. не былі паселішчамі ва ўласным сэнсе слова, як у папярэднюю эпоху, а з'яўляліся гарадзішчамі-сховішчамі. Гарадзішчы, якія выкарыстоўваліся галоўным чынам у якасці часовых сховішчаў, найбольш характэрны для Паддзвіння, Цэнтральнай Беларусі і Смаленскага Падняпроўя. На больш паўднёвых тэрыторыях умацаваныя паселішчы-сховішчы не атрымалі шырокага распаўсюджання.

Сярод умацаваных паселішчаў вядомы гарадзішчы мысавага тыпу і ўзгоркавага. Вышыня ўзгоркаў і мысаў, на якіх узведзены гарадзішчы, вагаецца ад 5 да 25 м, у сярэднім не перавышае 8—15 м. Форма іх пляцоўкі звычайна авальная і мае не вельмі вялікія памеры: ад 25 × 20 да 40 × 35 м, а зрэдку і да 100—115 × 60—80 м (Свіла-1, Прудніхі). Адпаведна невялікая і плошча гарадзішчаў — ад 500 і да 2500 кв. м. Відавочна, што на такой абмежаванай прасторы не маглі жыць вялікія групы людзей. На многіх гарадзішчах сустракаюцца толькі знаходкі керамікі і рэчаў трэцяй чвэрці, а сам культурны пласт практычна не выяўлены.

На іншых паселішчах у цэнтральнай частцы пляцоўкі культурны слой нязначны (не больш за 0,2—0,4 м), а па краях ён павялічваецца да 1,2—2 м (Гарадок Полацкага, Свіла Глыбоцкага раёнаў і інш.). Культурны пласт гарадзішчаў уключае вуголле, абпаленыя камяні, рэшткі драўляных збудаванняў, фрагменты ляпной керамікі, розныя рэчавыя знаходкі.

Амаль усе гарадзішчы, па якіх былі знойдзены матэрыялы другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э., былі пабудаваны яшчэ ў лерыяд ранняга жалезнага веку плямёнамі штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур. У другой чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. ступень умацаванасці гэтых гарадзішчаў дасягнула свайго піка, калі вакол іх узвышалася некалькі магутных кальцавых валоў і равоў (Ткачоў, 1969а. С. 110—114; Ён жа, 1969б. С. 115—121). Гэта познія этапы існавання культур, калі гарадзішчы ўмацоўваюцца максімальным чынам, ператвараючыся ў паселішчы-крэпасці са складанай фартыфікацыйнай сістэмай (Митрофанов, 1978. С. 28; Шадыро, 1985. С. 17).

З цягам часу насельніцтва ўмацоўвае свае сховішчы-крэпасці дадатковымі валамі, падсыпаннем краёў пляцовак, узвядзеннем абарончых сцен і інш. Да ліку класічных паселішчаў-сховішчаў можна аднесці гарадзішчы каля вёсак Дзядзілавічы Барысаўскага, Мікольцы, Некасецк Мядзельскага, Буракова Гарадоцкага, Урагава Верхнядзвінскага, Свіла-1 Глыбоцкага раёнаў і інш. Насельніцтва выкарыстоўвае як старую сістэму земляных умацаванняў (Банцараўшчына), так і ў шэрагу выпадкаў перабудоўвае іх: пашырае пляцоўкі гарадзішчаў, узнімае схілы, узводзіць новыя валы з абарончымі сце-

намі і равы. Сляды такой перабудовы добра зафіксаваны на гарадзішчы каля в. Гарадзішча Мядзельскага раёна. У шэрагу выпадкаў, калі паблізу не было зручных гаредзішчаў папярэдняга перыяду, плямёны культуры тыпу Банцараўшчыны самі ўзводзілі новыя гарадзішчы-сховішчы (Свіла-1).

Спосабы ўмацавання гарадзішчаў залежалі ад іх тапаграфіі, вышыні пляцоўкі і стромкасці схілаў. Як і ў папярэдні перыяд, гарадзішчы мысавага тыпу, як правіла, умацоўваліся толькі з напольнага боку, а для гарадзішчаў узгоркавага тыпу (Замкавая Гара, Свіла-1 і інш.) характэрны валы канцэнтрычнай формы, якія ахоўвалі пляцоўку з усіх бакоў (Мітрафанаў, 1966. С. 221; Шадыро, 1985. С. 23). Да ліку найбольш умацаваных гарадзішчаў падобнага тыпу належыць гарадзішча Свіла-1, якое абкружана трыма магутнымі канцэнтрычнымі валамі і двума равамі. Акрамя знешніх валоў па краі пляцоўкі часта ўзводзіліся ўнутраныя валы. Вышыня іх вагаецца ад 1,5 да 5,0 м, а шырыня дасягае 5—15 м. Глыбіня равоў не перавышае 1,5—3,0, а шырыня — 5—8 м (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1975). У выніку прарэзак валоў некаторых гарадзішчаў выяўлена паслядоўнасць іх насыпання, а таксама рэшткі розных драўляных збудаванняў, якія ўваходзілі ў іх канструкцыю. На гарадзішчы каля в. Гарадзішча прасочваюцца рэшткі згарэлай сцяны з бярвёнаў у выглядзе агароджы, што праходзіла па грэбені вала, шэраг іншых элементаў фартыфікацыі (Митрофанов, 1978. С. 89).

Новыя і старыя ўмацаваныя паселішчы, ператвораныя ў сховішчы, не з'яўляліся асноўным тыпам паселішча насельнікаў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі. Гэту функцыю выконвалі адкрытыя паселішчы — селішчы. Трэба адзначыць, што калі на больш паўднёвых тэрыторыях селішчы былі тыповымі яшчэ ў зарубінецкую эпоху, то на разглядаемай тэрыторыі пераход насельніцтва ад старых родавых гнёздаў-гарадзішчаў да селішчаў меў месца ў IV—V стст. н. э. і быў звязаны з заняпадам мясцовых культур ранняга жалезнага веку (штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай) і фарміраваннем старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны.

Сацыяльна-эканамічныя прычыны гэтага працэсу і галоўным чынам інтэнсіфікацыя ляднага земляробства пацягнулі за сабой асваенне новых плошчаў і перамяшчэнне насельніцтва. Таму паселішчы, як правіла, маюць малы культурны пласт 0,2—0,4 м, і толькі на некаторых з іх, больш доўгачасовых (Пруднікі), ён дасягае 0,5—2,0 м. У асноўным пераважаюць невялікія паселішчы плошчай 0,6—1,0 га, але зрэдку сустракаюцца і такія, плошча якіх дасягае 5—7 га (Дзядзілавічы) (Мітрафанаў, 1966. С. 22).

Ступень вывучанасці паселішчаў у разглядаемых рэгіёнах рэспублікі застаецца ўсё яшчэ недастатковай. Акрамя параўнальна невялікіх раскопак паселішчаў паблізу вёсак Дзядзілавічы, Гарадзішча, Заронава, Некасецк, Буракова і іншых, можна назваць толькі два паселішчы, дзе даследавана даволі значная плошча (Равячка — 1292 м, Пруднікі — звыш 2000 м) (Мітрафанаў, 1973. С. 85; Шадыра, 1993).

Па характару размяшчэння ўсе яны падзяляюцца на дзве групы. У першую ўваходзяць тыя, што размешчаны побач з гарадзішчам, часам нават на яго схілах. Да ліку найбольш вядомых паселішчаў першай групы адносяцца паселішчы паблізу вёсак Дзядзілавічы, Гарадзішча, Некасецк на Міншчыне, Заронава, Пруднікі, Варганы — на Віцебшчыне. Трэба адзначыць, што колькасць такіх паселішчаў змяншаецца па меры руху на поўдзень і яны практычна невядомы на Палессі і ў Сярэднім Падняпроўі. Другую групу складаюць паселішчы, не звязаныя з гарадзішчамі і размешчаныя асобна ад іх,

зрэдку на значнай адлегласці. Такія паселішчы выяўлены як у паўночнай, так і ў паўднёвай частцы арэала помнікаў тыпу Банцараўшчыны. Звычайна яны размяшчаюцца па берагах рэк і азёр, на мысападобных узвышшах з пакатымі схіламі першай надпоплаўнай тэрасы. Значна радзей сустракаюцца паселішчы на другой надпоймавай тэрасе. Да другой групы паселішчаў можна аднесці Равячку, Малое Стахава, Мяніцу, Чарэшлю, Гуры і інш. (Митрофанов, 1978. С. 85—88).

Ступень вывучанасці паселішчаў першай і другой груп не аднолькавая. На паселішчах другой групы праводзіліся толькі невялікія раскопкі пошукавага характару (Чарэшля, Гуры і інш.). Выключэнне складае паселішча Васіліха паблізу в. Равячка Мядзельскага раёна, дзе А. Р. Мітрафанавым было ўскрыта звыш 1,0 тыс. м. Лепш вывучаны паселішчы першай групы паблізу вёсак Дзядзілавічы, Гарадзішча, Некасецк (даследаванні А. Р. Мітрафанава), Пруднікі (В. І. Шадыры). У басейне Верхняга Панямоння невялікія раскопкі паблізу в. Варганы праводзіў Г. В. Штыхаў.

На першай стадыі развіцця культуры банцараўскага аблічча яе носьбіты жылі, відаць, на паселішчах, размешчаных асобна ад гарадзішчаў (другая група). Гэта сведчыць пра параўнальна спакойнае знешняе становішча. Паселішчы гэтай групы размяшчаліся па берагах рэк і азёр. Часцей яны займалі пакатыя ўзгоркі-астанцы ў поймах рэк. Да ранніх адносяцца 4 паселішчы каля в. Курчына (левы бераг Сервечы) Мядзельскага, Воронеч (правы бераг Ушачы) Полацкага, Гуры (правы бераг Сервечы) і Сосенка (левы бераг Віліі) Вілейскага, Малое Стахава (левы бераг Бярэзіны) Барысаўскага, Равячка (правы бераг Сервечы) Мядзельскага раёнаў і інш.

Паселішчы другога храналагічнага перыяду ўзніклі ў непасрэднай блізкасці ад ранніх гарадзішчаў, занядбаных к таму часу. Перабудаваўшы гарадзішчы ў добра ўмацаваныя сховішчы, насельнікі выкарыстоўвалі іх для жыцця ў небяспечны час.

**Жытлы.** У працэсе археалагічных раскопак на селішчах і гарадзішчах знойдзены сляды пабудоў рознага характару, сярод якіх найбольш цікавыя рэшткі жылых збудаванняў. Даволі разнастайныя па форме жылыя пабудовы можна падзяліць на дзве вялікія групы: 1) наземныя і 2) паглыбленыя (паўзямлянкі) (мал. 115). А. Р. Мітрафанаў вылучыў яшчэ групу наземных жытлаў, урэзаных у схіл узвышанасці, на якой знаходзіцца паселішча (Митрофанов, 1978. С. 90). Практычна ўсе выяўленыя наземныя жытлы мелі слупавую канструкцыю, амаль квадратную форму з бакамі даўжынёй ад 4 да 5 м. На гарадзішчах сустракаюцца ў асноўным падоўжаныя слупавыя жытлы, а на селішчах часцей невялікія квадратныя жылыя збудаванні.

У Цэнтральнай Беларусі наземныя слупавыя, радзей зрубныя збудаванні вядомы на гарадзішчах (Барсукова Горка, Чырвоная Зорка) (Тарасенка, 1947. С. 103—104. Мал. 49; Побаль, 1972. С. 138—140). На некаторых паселішчах сустракаліся жытлы розных канструкцый (Гарадзішча, Дзядзілавічы) (Митрофанов, 1978. С. 90—98). Так, на паселішчы паблізу в. Гарадзішча выяўлены рэшткі 42 жытлаў, якія Мітрафанаў падзяляе на тры групы: да першай адносяцца наземныя жытлы, да другой — наземныя, урэзаныя ў схіл, і да трэцяй — паўзямлянкавыя. Сем наземных жытлаў, у асноўным слупавой канструкцыі, мелі трапецападобную форму са сценкамі 2,5 × 3,5—4 м з адкрытымі вогнішчамі круглай і авальнай формы. Дыяметр круглага вогнішча роўны 1,7 м, авальны па даўжыні роўны 2,4 м, па шырыні — 2,1 м. У паловы жытлаў ніжнія вянкі былі ўрэзаны ў схіл узвышанасці. Тут 5 жытлаў з

20 мелі слупавую, а астатнія — зрубную канструкцыю. Унутры большасці жытлаў знаходзіліся печы-каменкі, рэшткі якіх у выглядзе развалу моцна абпаленых камянёў змяшчаліся ў адным з вуглоў пабудовы. Сярэдняя плошча жытлаў вагалася ў межах 9—13 м і рэдка дасягала 19—29 м.

У 15 з 42 жытлаў ніжнія вянцы былі паглыблены ў зямлю з усіх бакоў. Усе паўзямлянкі, акрамя адной, мелі зрубную канструкцыю. Памеры іх невялікія, ад 6,5 да 15 м. Паглыбленні вянцоў у зямлю складалі ад 0,2—0,35 да 0,5—0,6 м у тых сцен, якія былі звернуты ў бок вяршыні ўзвышанасці. Аналагічныя жылыя пабудовы ўскрыты А. Р. Мітрафанавым на паселішчы Замкавая Гара паблізу в.Дзядзілавічы Барысаўскага раёна. Яны толькі размяшчаліся на больш крутых схілах узвышанасці і з гэтай прычыны ніжнія вянцы жытлаў на Замкавай Гары былі апушчаны ў зямлю на значна большую глыбіню. Улічваючы высокія і стромкія схілы, нвземных жытлаў на гэтым паселішчы не было (Митрофанов, 1978. С. 90—95). Усе жылыя пабудовы тут групуюцца па дзвюх прыкметах: 1) жытлы, у якіх ніжняя частка трох сцен знаходзілася ў зямлі, і 2) жытлы, ніжнія вянцы сцен якіх апушчаны ў зямлю з усіх бакоў, г. зн. тыповыя паўзямлянкі. Гэта група з'яўляецца асноўнай і звязана перш за ўсё з рэльефам мясцовасці. Памеры жытлаў першай і другой груп невялікія: плошча 25 жытлаў не перавышае 7,2—8,8 м, у 17 — ад 9 да 13 м, у астатніх роўная 14—17 м (Митрофанов, 1978. С. 98). Глыбіня залягання вянцоў у зямлі была абумоўлена ступенню стромкасці схілаў. Калі схілы былі стромкія, то вянцы сцен, звернутых да вяршыні, паглыбляліся ў зямлю на 1,1—1,8 м, а вянцы процілеглых сцен — на 0,5—0,9 м. Пры меншай стромкасці — адпаведна на 0,4—0,9 і 0,3—0,6 м (Митрофанов, 1978. С. 99). Калі ж паўзямлянкавыя жытлы будаваліся на больш ці менш роўным месцы, то адрозненні ў глыбіні залягання ніжніх вянкоў усіх сцен былі нязначныя.

Аналізуючы памеры жылых пабудоў, можна адзначыць, што пераважаюць паўзямлянкі невялікіх памераў плошчай каля 12 м. Жытлы такіх памераў былі даволі прыдатныя для жыцця асобнай невялікай сям'і, якая складалася з 4—5 чалавек. Адметнай рысай вывучаемага рэгіёна з'яўляецца той факт, што тут канстатаваны і вялікія па плошчы жылыя пабудовы — да 18—20 м, і гэта з'ява не характэрна для больш паўднёвых тэрыторый.

Такім чынам, вывучэнне жытлаў у Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі паказвае, што ўсе яны належаць да двух тыпаў — наземных жылых пабудоў слупавой і зрубнвй канструкцыі і паўзямлянкавых. Наземныя жытлы — адзіны пакуль тып жылых пабудоў на паселішчах Паўночнай Беларусі. Аснову канструкцыі наземных жытлаў складалі апорныя слупы, што стаялі па вуглах і па перыметры. На гарадзішчах былі распаўсюджаны доўгія слупавыя дамы, якія складаліся з некалькіх жылых секцый. Для ацяпляльных мэт у наземных жытлах выкарыстоўваліся ачагі простай канструкцыі ў выглядзе кучы камянёў. Насельнікі Сярэдняй і Паўночнай Беларусі пераймалі традыцыю збудавання слупавых наземных жытлаў ад плямёнаў культур днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі.

З'яўленне паўзямлянкавых жытлаў у гэтым рэгіёне звычайна звязваюць з уплывам зарубінецкіх плямёнаў і носьбітаў старажытнасцей тыпу Адаменскага селішча. Яны пасяліліся тут, відаць, у выніку пранікнення на гэту тэрыторыю насельніцтва нашчадкаў гэтай культуры, але яшчэ раней паўзямлянкі сустракаюцца на паселішчах мілаградскай культуры (Мальниковская, 1967. С. 35—38). Таму гэты тып жытлаў, распаўсюджаны ў Цэнтральнай Бе-

ларусі, часцей сустракаецца на больш паўднёвых тэрыторыях. Што датычыцца Паўночнай Беларусі, то, як ужо адзначалася, паўзямлянкавы тып жытлаў не атрымаў тут шырокага распаўсюджання. Звязана гэта перш за ўсё з прыглушаным характарам уплыву міграцыйных працэсаў, што адбываліся ў сувязі з рухам зарубінецкіх плямёнаў.

Гаворачы пра жытлы, трэба адзначыць наступную храналагічную дэталь. У едрозненне ад слупавых жытлаў, што былі ва ўжытку на ўсім працягу V—VIII стст., паўзямлянкі зрубнай канструкцыі атрымалі нязначнае распаўсюджанне толькі ў канцы існавання помнікаў тыпу Банцараўшчыны. У адзінкавых выпадках прасочаны (Гарадзішча, Дзядзілавічы) спосаб злучэння бярвёнаў у зрубе — «у абло». Зрубавым паўзямлянкам звычайна характэрны і печы-каменкі, што з'явіліся еднačасова з імі. Тут, відаць, прасочваецца ўплыў славянскіх старажытнасцей тыпу Карчак і Лукі-Райкавецкай ці раменска-боршаўскай культуры, хоць і не выключана, што гэта традыцыя магла ўзнікнуць у выніку самастойнага развіцця прыёмаў домабудаўніцтва мясцовага насельніцтва.

## Пахавальны абрад

Пахавальныя помнікі, што належаць носьбітам старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны, даследаваны горш, чым рэшткі паселішчаў. У Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі яны прадстаўлены нешматлікімі грунтавымі і курганнымі пахаваннямі з трупаспаленнем. Грунтавыя пахаванні вывучаліся А. Р. Мітрафанавым на селішчы паблізу в. Равячка. Гэта пакуль адзіны ў беларускім арэале банцараўскай культуры выпадак пахаванняў у выглядзе трупаспалення і змяшчэння рэшткаў памерлага ў грунтавых ямах. Пахаванні размяшчаліся на ўсходнім краі паселішча і былі перакрыты культурным слоем 0,2—0,25 м таўшчыні. Адно пахаванне зроблена ў урне, два іншых — ямныя.

Пахаванне 1 — урнавае. Частка спаленага разам з рэшткамі пахавальнага вогнішча ссыпана ў гліняную ўрну (пасудзіна ўсечана-канічнай формы), якая стаіць на пясчанай падсыпцы ў ямцы дыяметрам 0,25—0,3 м і глыбінёй 0,1—0,15 м. Зверху ўрна была накрытая перавернутай дагары пасудзінай, характэрнай для трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Пахаванне 2 — бязурнавае. Кальцыніраваныя косці, старанна ачышчаныя ад пахавальнага вогнішча, былі ссыпаны ў круглую ў плане ямку глыбінёй 0,15 м, дыяметрам 0,4 м. Побач у заходняй частцы знаходзілася гліняная пасудзіна трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Пахаванне 3 — бязурнавае. На дне авальнай ямы глыбінёй 0,55 м знаходзіліся дробныя, ачышчаныя ад вогнішча косці і рэшткі неабпаленага, але раздробненага на маленькія часткі чэрапа дарослага чалавека (Митрофанов, 1978. С. 118—119).

Па дэталях пахавальнага рытуалу ўсе тры пахаванні цалкам аналагічныя пахаванням трэцяй чвэрці ў паўночных і паўночна-заходніх раёнах Верхняга Падняпроўя, у Падзвінні і Панямонні (могільнікі Акатаўскі, Навабыхаўскі, Ніжнятошчыцкі і інш.). Больш таго, шэраг падобных рыс збліжае іх з падобнымі старажытнасцямі паўднёвай часткі Беларускага Падняпроўя (Тайманава) і Падзясення (Квятуньскі, Усохскі, Лебяжынскі і іншыя могільнікі). На думку П. М. Трацякова, яны складаюць адзіную групу адзінай культуры, якая мае толькі нязначныя лакальныя варыяцыі (Третьяков, 1966. С. 274,

278). Агульнасць пахавальнага абраду ўсіх гэтых могільнікаў заключаецца ў наступных рысах: 1) спаленне праводзілася ўбаку, як з рэчамі, так і без іх; 2) рэшткі ці ачышчаліся ад вогнішча ці не хавалася толькі частка спаленага; 3) рэшткі спаленага нябожчыка змяшчаліся ў грунтавыя ямы круглай (дыяметр 0,2—1,2 м), авальнай, радзей прамавугольнай (даўжыня 0,7—2,0 м, шырыня 0,3—1,1 м) формы, глыбінёй ад 0,15 да 0,7 м; 4) рэшткі памерлых знаходзіліся ў урнах ці ссыпаліся проста ў яму.

Канстатаваны змешаныя ямка-ўрнавыя пахаванні: адна частка касцей ссыпана ў яму, другая — у ўрну. Урнавыя ў сваю чаргу маюць разнавіднасці: а) урна з касцямі стаіць у нармальным становішчы, б) урна прыкрыта перавернутай пасудзінай, в) урна перавернута дагары, накрывае кучку касцей. Для могільнікаў міжрэчча Дняпра і Нёмана характэрны бедныя пахаванні, пахавальны інвентар у выглядзе рытуальна разбітага посуду ці адзінкавых прадметаў знаходзіцца не больш чым у 20—30% пахаванняў (Перхавко, 1978б. С. 9) (мал. 116).

Шэраг рыс пахавальнага абраду могільнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. мае адпаведнасць у пахавальных помніках больш ранніх культур жалезнага веку (зарубінецкай, кіеўскага тыпу, мілаградскай, паморскай, юхнаўскай). Аднак гаварыць пра поўнае супадзенне ўсіх прыкмет пакуль не прыходзіцца. Неабходна адзначыць, што апісаны абрад значна адрозніваецца і ад пахаванняў раннеславянскай культуры тыпу Карчак. Што датычыцца больш ранняй днепра-дзвінскай і культуры штрыхаванай керамікі, то, відаць, рэшткі трупаспаленняў у гэтых плямёнаў не хаваліся ў зямлю, а змяшчаліся на паверхні. Таму ў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі пахавальны абрад у выглядзе змяшчэння рэшткаў трупаспалення ў грунтавыя ямы тлумачыцца ўплывам звычаяў культуры кіеўскага тыпу, імпульсуючых з паўднёвых тэрыторый.

Некаторыя прыкметы пахавальнага абреду захаваліся і пасля таго, як культура тыпу Банцараўшчыны спыніла сваё існаванне. Падобныя рэмінісцэнцыі прыкметны і на помніках апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у Падзвінні. Месца старажытных доўгіх курганоў, што адносяцца да V—VII стст., у VIII—IX стст. заняла культура класічных доўгіх курганоў, якія блізкія ім па канструкцыі насыпу і дэталях пахавальнага абраду, але адрозніваюцца па кераміцы і інвентару. У курганах VIII—IX стст. у Падзвінні ў якасці перажытку працягвае існаваць звычай, калі рэшткі трупаспаленняў змяшчаюць у грунтавыя ямкі і пераварочваюць урны дагары (Баркі, Рудня, Варганы і інш.) (Штыхов, 1992. С. 41—61).

Пахаванні з перавернутымі ўрнамі сустракаюцца і пазней у старажытных курганах IX—X стст. Параўнальна хутка знікаюць грунтавыя могільнікі, хоць некаторыя з іх працягаалі існаваць яшчэ ў перыяд узнікнення класічных доўгіх курганоў VIII—IX стст. Падзвіння і Верхняга Падняпроўя. Пра гэта сведчаць бескурганныя пахаванні з керамікай тыпу доўгіх курганоў VIII—IX стст., выяўленыя на гарадзішчы Свіла-1 і ў Акатаве (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1974; Шмидт, 1962. С. 189—196). Калі правесці параўнанне з больш паўднёвай тэрыторыяй Беларускага Падняпроўя, то, мяркуючы па наяўных дадзеных, пахаванні ў грунтавых могільнікаў тут спыняюцца адразу. Замест іх з VIII—IX стст. пачалі распаўсюджвацца круглыя курганы з трупаспаленнем і ляпной раннеславянскай керамікай.

Такім чынам, перажыткі пахавальнага абраду, што фіксуюцца на больш позніх усходнеславянскіх помніках, безумоўна, сведчаць пра тое, што куль-

тура тыпу Банцараўшчыны не знікла бясследна і пэўная частка яе насельніцтва прыняла ўдзел у фарміраванні культуры ўсходніх славян эпохі ўзнікнення дзяржавы.

## Матэрыяльная культура, гаспадарка і грамадскія адносіны

Характарыстыка рэчавага комплексу трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з. з помнікаў Цэнтральнай Беларусі даволі падрабязна апісана ў манаграфіі А. Р. Мітрафанава (Митрофанов, 1978). Часткова асветлена ім гэтв пытанне і па поўначы Беларусі (Митрофанов, 1970б. С. 241—255; Ён жа, 1966. С. 218—235). Даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў дапаўняюць гэтыя звесткі новымі дадзенымі і даюць магчымасць правесці аналітычны разбор пэўных асаблівасцей матэрыяльнай культуры і ахарактарызаваць розныя аспекты сацыяльна-эканамічнага жыцця насельнікаў разглядаемай тэрыторыі Беларусі.

Археалагічныя раскопкі помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з. у Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі сведчаць пра тое, што культурны пласт селішчаў і гарадзішчаў VI—VIII стст., як правіла, бедны рэчавым матэрыялам. Знаходкі прыладаў працы і зброі выяўлены ў асноўным на селішчах. Галоўнае месца сярод прыладаў працы займаюць земляробчыя (жалезныя сярпы, рабочыя сякеры, каменныя жорны і зерняцёркі), прылады для рыбнай лоўлі і палявання (жалезныя кручкі і восці, гліняныя грузілы, наканечнікі стрэл), інструментарый для розных рамёстваў (гліняныя прасліцы, долаты і нажы, тыглі і льячкі). Форма прыладаў працы даволі статычныя, большасць тыпаў вядомы яшчз ў мясцовых культурах жалезнага веку (днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі).

Прадметы ўзбраення сустракаюцца значна радзей, чым прылады працы. Сярод іх трэба адзначыць утулкавыя і чаранковыя наканечнікі стрэл і дзідаў, сякеры. Рыштунак конніка і каня на помніках тыпу Банцараўшчыны пададзены знаходкамі шпораў і цугляў. Большасць тыпаў прыладаў працы і прадметаў узбраення вызначыць зтнічна не ўяўляецца магчымым. Форма іх у першую чаргу абумоўлена лакальнымі традыцыямі, тыпам гаспадаркі і ваеннай тэхнікай. Паколькі ўсе часткі арэала помнікаў тыпу Банцараўшчыны знаходзяцца прыблізна ў аднолькавых геаграфічных умовах, то і форма шмат якіх прыладаў працы універсальная. З'явіўшыся спачатку ў адным рэгіёне, шмат якія прылады ў выніку кантактаў і абмену ўспрымаліся і насельніцтвам іншых тэрыторый.

Толькі адзінкавыя тыпы прыладаў працы і прадметаў узбраення, што маюць сляды розных культурных традыцый, можна аднесці да ліку этнапаказальных злементаў. Сярод іх, напрыклад, рэчы (чаранковыя наканечнікі коп'яў, шпоры з адагнутымі вонкі кручкамі, своеасаблівыя сякеры), характзрныя для ўсходнелітоўскіх і латгальскіх старажытнасцей другой паловы 1-га тысячагоддзя н. з.

**Сярпы.** Сярод прылад працы пераважалі земляробчыя, і перш за ўсё сярпы (мал. 117). Жалезныя сярпы мелі даволі архаічную форму, якая характарызуецца слабай выгнутасцю рабочай часткі. Самая значная колькасць сярпоў такой формы з зусім нявылучаным чаранком выяўлена ў Цэнтральнай Беларусі і Паддзвінні і на поўдні Пскоўшчыны (ніжні слой Віцебска, паселішчы Гуры, Дзядзілавічы і інш.) (Митрофанов, 1978. С. 106. Рис. 58—8, 39—4; Штыхов, 1965. Рис. 3—1). Гэты тып сустракаецца на працягу ўсяго

1-га тысячагоддзя н. э. на гарадзішчах ранняга жалезнага веку, ва ўсходнелітоўскіх і латгальскіх старажытнасцях V—X стст. (Kulikauskas, Kulikauskienė, Tautavičius, 1961; Latvijas, 1974. Tabl. 16—3; Митрофанов, 1970а. Рис. 71—10, 11; Шадыро, 1985. С. 55. Рис. 32).

Падобныя сярпы, але з выразна пазначаным уступам сустракаюцца на разглядаемай і сумежнай тэрыторыях (гарадзішчы Кастрыца, Лукомль, Гарадок, паселішчы Некасецк, Узмень, Юрэвічы і інш.) (Митрофанов, 1970б. С. 248—250. Рис. 84—1; Штыхов, 1969. Рис. 8—2; Минасян, 1972. Рис. 3:5,9), яны былі ва ўжытку ў 1-м і пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. У лясной паласе Усходняй Еўропы іх звязваюць з балцкімі плямёнамі (Краснов, 1971. С. 73—74).

Зрэдку сустракаецца, галоўным чынам на Падзвінні, тып сярпа, вяршыня дугі клінка якога зрушана ў бок носа (гарадзішча Замошша, паселішча Пруднікі). Гэта так званы латгальскі тып, які распаўсюджаны галоўным чынам на гарадзішчах і могільніках Усходняй Латвіі, Паўднёвай Эстоніі, Паўночнай Літвы (Минасян, 1978. С. 77. Рис. 3—9, 10).

Ужываліся і сярпы з больш прадукцыйнымі тэхналагічнымі дадзенымі, прататыпамі якіх з'яўляюцца сярпы XI—XIII стст. (паселішчы Дзядзілавічы, Гарадзішча). Гэтыя сярпы вядуць сваё паходжанне з поўдня (Падзясенне, паўднёвая частка Верхняга Падняпроўя). Падобныя сярпы скіфскага паходжання, вядомыя яшчэ ў старажытнасцях зарубінецкай культуры і культуры кіеўскага тыпу II—IV стст., на думку Ю. А. Краснова, спыняюць сваё існаванне ў VII—VIII стст. (Краснов, 1966. С. 18—21). Такім чынам, у трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у сярэдняй і паўночнай частцы Беларусі былі ва ўжытку розныя тыпы сярпоў. Большая частка іх захоўвае архаічныя формы культур ранняга жалезнага веку, меншая — вядзе сваё паходжанне ці ад сярпоў, распаўсюджаных на больш паўднёвых тэрыторыях, ці ад характэрных для плямёнаў Прыбалтыкі.

**Нажы.** Безумоўна, адным з найбольш распаўсюджаных інструментаў лічацца нажы (мал. 118:1—8), якія можна таксама аднесці да некалькіх тыпаў (Митрофанов, 1978. С. 107—108). Да найбольш архаічных адносяцца нажы з выгнутай («гарбатай») спінкай (паселішчы Гарадзішча, Равячка). Яны тыповыя для старажытнасцей ранняга жалезнага веку лясной паласы Усходняй Еўропы, таму знаходкі такіх нажоў на помніках тыпу Банцараўшчыны нельга датаваць пазней за V—VI стст. н. э., пасля чаго яны знікаюць з ужывання, транфармуючыся ў тып з прамой спінкай. Гэта найбольш распаўсюджаная форма, якая мае розныя мадыфікацыі, звязаныя з адсутнасцю ці наяўнасцю ўступаў. Падобныя нажы распаўсюджаны паўсюдна. Ад іх прыкметна адрозніваюцца цэльнаметалічныя нажы даўжынёй 12—16 см з валютападобным завяршэннем ручкі (Равячка, Гарадзішча, Лукомль) (мал. 118:6—8). Знаходкі такіх нажоў на помніках тыпу Банцараўшчыны, а таксама на гарадзішчах раменска-боршаўскай культуры VIII—X стст. і раннеславянскіх паселішчах Малдавіі сведчаць пра заходнеславянскі ўплыў, бо ў першыню яны з'яўляюцца з VII ст. на тэрыторыі Польшчы (Szymański, 1964. S. 221—228). У нашым рэгіёне ўяўляецца магчымым датаваць падобныя знаходкі VIII ст., паколькі ў паўзямлянцы 27 на паселішчы Гарадзішча нож з валютамі канстатаваны разам са шпорамі з адагнутымі вонкі кручкамі, трапецападобнай прывескай з арнаментам, фрагментамі навостраных зверху на крузе пасудзін (Митрофанов, 1978. Мал. 52). На паселішчы Лукомль дадзенага тыпу нож таксама знойдзены ў адным слоі з падковападобнай фібулай, утулкавым двухшыпным наканечнікам стралы і арнаментаванымі трапецападоб-

ымі прывескамі, што пацвярджае прапанаванае датаванне (Штыхов, 1978. Мал. 18). Нажы такой формы хутчэй за ўсё выкарыстоўваліся ў рытуальных мэтах і з'яўляліся прывілеяй заможнай часткі насельніцтва, бо сустракаюцца ў пахаваннях з багатым інвентаром.

Такім чынам, храналагічныя рамкі суцэльнаметалічных нажоў расцягнуты ад рубяжа нашай эры да X—XIII стст. Аднак большая іх частка датуецца VI—IX стст. Значыць, яны найбольш характэрныя менавіта для трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

**Шпоры, цуглі.** Даволі кароткі храналагічны перыяд былі ва ўжытку простыя па канструкцыі жалезныя шпоры, якія мелі востры канічны шып і адагнутыя вонкі кручкі на канцах (мал. 119:11—16). Знойдзеныя на помніках банцараўскай культуры шпоры можна аднесці, па класіфікацыі В. Б. Пярхаўкі (Перхавко, 1978в. С. 122—123), да тыпу V (паселішчы Гарадзішча, Гарадок — варыянт А; гарадзішча Нікадзінава — варыянт Б). Дадзены тып шпораў быў распаўсюджаны ў балцкіх старажытнасцях III—VII стст., будучы вядомым яшчэ насельніцтву мясцовых культур ранняга жалезнага веку, ад якіх і запазычаны носьбітамі культуры тыпу Банцараўшчыны (Митрофанов, 1978. Рис. 25—1; Поболь, 1971. Рис. 66:10; Даниленко, 1976. Рис. 3—2).

Да прадметаў рыштунку конніка адносяцца і цуглі, што знойдзены ў Банцараўшчыне, у кургане № 1 каля в. Дарахі і ў іншых помніках (мал. 119:17). Яны належаць да аднаго тыпу двух састаўных кольчатых цугляў з рухомымі кольцамі на канцах, якія таксама сустракаюцца і на раннеславянскіх помніках VI—IX стст. і ва ўсходнеславянскіх курганах V—VIII стст., апе масавае распаўсюджанне ў лясной паласе атрымліваюць з IX—X стст. (Митрофанов, 1978. С. 111; Таутавачюс, 1959. С. 141; Третьяков, 1974. Рис. 10:4; Шмидт, 1976. Рис. 49:18; Штыхов, 1992. С. 30. Рис. 17:1; Кирпичников, 1973).

**Зброя.** На помніках тыпу Банцараўшчыны зброя прадстаўлена знаходкамі наканечнікаў дзідаў і стрэл, баявымі сякерамі і г. д. Трэба адзначыць, што гэта катэгорыя знаходак пераважае на гарадзішчах. Наканечнікі дзідаў падзяляюцца на чаранковыя і ўтулкавыя. Утулкавыя наканечнікі сустракаюцца часцей, хоць у параўнальных адносінах з тэрыторыяй Прыбалтыкі іх знаходкі вельмі нязначныя. Напрыклад, толькі на тэрыторыі Літвы іх выяўлена каля 1180 экз. (Казакявичюс, 1988. С. 22). Аналогіі некалькім экземплярам двухшыпавых дзідаў можна знайсці на паселішчах Верхняга Падняпроўя (Гнездава), на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі, ва ўсходнелітоўскіх курганах другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. (Митрофанов, 1968. С. 253. Рис. 2:1; Шмидт, 1970. С. 67. Рис. 3:2; Ён жа, 1974. Рис. 7:11; Шут, 1969. Рис. 6:28). У знойдзеных узорах (гарадзішча Казінава) (мал. 119:2) кароткае ромбападобнае лязо, якое не перавышае 1/3 агульнай даўжыні наканечніка дзіды. Падобныя наканечнікі шырока ўжываліся ў Літве, Латвіі, Эстоніі, Усходняй Прусіі ў VI—VIII стст. (Казакявичюс, 1988. С. 32—35; Мандель, Тамла, 1977. С. 163—164. Табл. V:1; Шноре, Цимермане, 1966. С. 178. Рис. 1:27; Stubavs, 1976. 6:19, 29 tabl.).

Гаворачы пра паходжанне наканечнікаў дзідаў з ромбападобнай формай пяра, трэба адзначыць, што для суседніх з балтамі германскіх, славянскіх, фіна-угорскіх плямёнаў наканечнікі дзідаў з пяром ромбападобнай формы не характэрны — для ўзбраення гэтыя плямёны скарыстоўвалі наканечнікі дзідаў з пяром акруглай і лістападобнай формы (Jahn, 1916. S. 49—99; Kivikoski, 1923; Salmo, 1938. S. 164—251). Улічваючы, што на тэрыторыі Прыбалтыкі наканечнікі з пяром ромбападобнай формы шырока распаў-

сюджваліся з першых вякоў, можна сцвярджаць, што і паходзяць яны з гэтай тэрыторыі (Казакявичюс, 1988. С. 36).

Падоўжна-трохвугольную форму баявой часткі маюць экземпляры з селішча Гарадзішча (мал. 119:1), анапогіі якім можна знайсці ва ўсходнелітоўскіх курганах, у Калочыне, у Княжынскім могільніку, у разанскіх могільніках (Кравченко, 1974. Рис. 18:5, 7; Липкинг, 1974. С. 139. Рис. 2:2; Митрофанов, 1978. Рис. 52:16; Сымонович, 1963. С. 74—76. Рис. 29:1; Таутавичюс, 1959. Рис. 8:2).

Разнастайныя па форме і наканечнікі стрэл, што падзяляюцца на чаранковыя і ўтулкавыя. Найбольш распаўсюджаны на разглядаемай тэрыторыі тып — двухшыпавыя ўтулкавыя наканечнікі (Пруднікі, Лукомль, Свіла-1) (мал. 119:5). Аналогіі па Беларусі маюцца на паселішчы Калочын, у кургане каля в. Бердыж на рацэ Сож і інш. (Сымонович, 1963. Рис. 26:11). Падобныя наканечнікі стрэл шырока вядомы на заходнеславянскіх помніках Польшчы, Чэхіі і Славакіі. Двухшыпавыя наканечнікі стрэл, запазычаныя ад заходніх славян, сустракаюцца ва ўсходнеславянскіх старажытнасцях VIII—XIII стст., у асноўным уздоўж мяжы з заходнімі славянамі (Медведев, 1966. С. 55—56; Минасян, 1978в. С. 35—37). На помніках тыпу Банцараўшчыны яны з'явіліся не раней за VIII ст. Іх знаходкі звязаны ў большасці выпадкаў са з'яўленнем прыкметна адрознага ад керамікі тыпу Банцараўшчыны ляпнога славянскага посуду з вылучанымі плечыкамі і адагнутым венчыкам, што адносіцца да керамікі тыпу Лукі-Райкавецкай ці раменска-боршаўскай. Чаранковыя наканечнікі стрэл (мал. 119:6—8) галоўным чынам з трохлопасцевым сячэннем сустракаюцца больш на ўсходзе і поўдні (Нікадзімава, Казінава). Яны былі характэрныя для паўднёвых плямёнаў і, як лічыць Я. А. Шміт, з'явіліся тут у выніку рабаўнічых набегаў з поўдня. Хаця не выключана, што ў разглядаемы перыяд іх вытворчасць была наладжана і ў мясцовых плямёнаў (Шмидт, 1995. С 108—109).

Рэдкімі для вывучаемага перыяду знаходкамі з'яўляюцца жалезныя сякеры, якія маюць сваё разнастайнасці: з правушынай (мал. 119:10) і без яе — сякера-кельт (мал. 119:9). Першыя часта сустракаюцца на поўначы Прыбалтыкі, «паўночнапрыбалтыйскі» тып; другія — на поўдні і адпаведна вызначаюцца як «паўднёвапрыбалтыйскі» тып. Улічваючы наяўнасць авальнай правушыны, сякера з Кастрыцы адносіцца да позніх варыянтаў. Яе агульная даўжыня 17,8 см, даўжыня правушыны па доўгай восі 4,1 см, па кароткай — 3 см, шырыня ляза — 7,3 см. Аналагічныя па форме і памерах сякеры даволі часта сустракаюцца ў помніках V—VIII стст. на поўдні Латвіі (Urtans, 1977. S. 145. 23 att.; Митрофанов, 1978. С. 110).

Да ліку даволі распаўсюджаных інструментаў, што былі ва ўжытку, адносяцца пласцінавыя крэсівы розных тыпаў. Даволі часта трапляюцца падоўжаныя крэсівы ў выглядзе раўнабедранага выцягнутага трохвугольніка з вострым канцом (мал. 118:9, 10). Выкарыстоўваліся яны і ў якасці шыльцаў. Аналагічныя крэсівы даўжынёй 13—22 см сустракаюцца ў ранніх доўгіх курганах Пскоўшчыны (Чернягин, 1941. Табл. III—8, IV—15). Крэсівы меншай даўжыні (5—10 см) маюць форму выцягнутай трапецыі (Гарадзішча) ці падтрохвугольныя, дзе востры канец заканчваецца пятлёй або спіральным завітком для падвешвання. Гэтыя вырабы не маюць цвёрдага датавання і характэрны для помнікаў тыпу Банцараўшчыны.

**Бытавыя прадметы і ўпрыгожанні** (мал. 120) з помнікаў банцараўскай культуры Беларусі па форме і арнаментальных матывах значна больш разнастайныя, чым прылады працы і зброя, таму аднесці іх да адзінай схемы

тыпаў, відаў і варыянтаў значна цяжэй. Гэтыя ўпрыгожанні і прадметы побыту ў асноўным паходзяць з селішчаў. З-за ўжывання абраду крэмацыі знаходкі такога роду ў пахаваннях нязначныя. Аналіз разглядаемых рэчаў дазваляе зрабіць вывад пра тое, што ў асяроддзі насельніцтва V—VIII стст. н. э. Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі склаўся ўстойлівы набор упрыгожанняў, бытавых прадметаў і ўбрання адзення, вельмі падобны да традыцыйнага комплексу ўпрыгожанняў усходнелітоўскіх плямёнаў разглядаемага перыяду, а таксама доўгіх курганоў VI—IX стст.

Упрыгожанні балцкай серыі, якія значна пераважаюць над прадметамі іншай культурнай прыналежнасці, пададзены знаходкамі званочкаў і бразготак, трапецападобных падвесак з арнаментам, падковападобных фібул, посахападобнымі шпількамі, спіральнымі пранізкамі, шыйнымі грыўнамі. Дарэчы, вылучаючы падвеску з Банцараўшчыны (мал. 120:10), І. О. Гаўрытухін указвае на сувязь з сярэднедняпроўскімі «скарбамі антаў» (Гавритухин, 1997. С. 48). Акрамя таго, трапляюцца нешматлікія прадметы фіна-угорскай прыналежнасці (бляшкі-шкарлупіны, арнаментаваныя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, пінцэты, трапецападобныя крэсівы з завітком на канцы), што характэрна для больш паўночных рэгіёнаў Беларусі. Ёсць таксама знаходкі, якія звязаны з паўднёвым уплывам, акрамя таго, адзінкавыя знаходкі заходнеславянскіх па паходжанні некаторых тыпаў скроневых колцаў. Прататыпы ўпрыгожанняў, якія былі ва ўжытку ў балцкім і фіна-угорскім асяроддзі, добра вядомы ў матэрыяле мясцовых культур ранняга жалезнага веку. Большасць тыпаў упрыгожанняў, зброі і прыладаў працы былі распаўсюджаны далёка за межамі тэрыторыі Беларусі, г. зн. ва ўсіх рэгіёнах міжрэчча Дняпра і Нёмана, але некаторыя прадметы былі ва ўжытку толькі ў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі (невялікія сярпы з выгнутай спінкай, сякеры прыбалтыйскага тыпу, чаранковыя наканечнікі коп'яў, арнаментаваныя трапецападобныя падвескі, шыйныя грыўны, званочкі, падковападобныя фібулы і інш.).

## Керамічны матэрыял

Гліняны посуд і яго рэшткі з'яўляюцца самым масавым і характэрным элементам на ўсіх паселішчах V—VIII стст. У манаграфіі А. Р. Мітрафанава даволі падрабязна дадзена характарыстыка керамічнаму комплексу культуры тыпу Банцараўшчыны Цэнтральнай Беларусі (Митрофанов, 1978. С. 101—105). Таму мы толькі акцэнтуем увагу на тых асаблівасцях, якія характэрны для цэнтральнага і паўночнага рэгіёна Беларусі.

Мяркуючы па наяўных дадзеных, кераміка трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Цэнтральнай Беларусі адрозніваецца сваёй аднастайнасцю. На паселішчах (Банцараўшчына, Бароўна, Гарадзішча, Гуры, Дзядзілавічы, Некасецк, Равячка і інш.) керамічны матэрыял пададзены цюльпанападобнымі і слоікападобнымі пасудзінамі (мал. 121). Для першых пераломам характэрны на ўзроўні сярэдзіны вышыні ці крыху вышэй. Памеры пасудзін гэтага тыпу разнастайныя: вышыня ад 10 да 35 см, а дыяметр адтуліны ад 6 да 36 см, дыяметр найбольшага пашырэння больш за дыяметр горла. Слоікападобныя пасудзіны амаль непрафіляваныя. Па форме яны набліжаюцца да цыліндра са злёгку выгнутым на ўзроўні сярэдзіны вышыні тулавам. Радзей у Цэнтральнай Беларусі сустракаюцца пасудзіны рабрыстай, цыліндрычнай і акруглабокай формы (Митрофанов, 1978. С. 103—104).

У матэрыялах помнікаў Падзвіння (Атокі, Бароўна, Бельчыцы, Дарахі, Павалішына, Пруднікі, ніжнія слаі Віцебска, Полацка, Лукомля) пануе амаль непрафіляваны посуд слоікавай і цыліндрычна-канічнай формы. Даволі частыя на Паддзвінні знаходкі керамікі з рабрыстым плечыкам (курган Дарахі, Віцебск, Бароңкі, Старое Краснве, Заронава, Пруднікі) (Штыхов, 1992. С. 245; Шадыра, 1993б. Мал. 2:16).

Гэты посуд біканічны, з выступам па плечыку, якое аддзяляе канічны верх ад ніжняй часткі гаршка. Можна меркаваць, што падобная кераміка з'яўляецца познім этапам развіцця штрыхаванай керамікі, г. зн. тым этапам, які ў іншых раёнах (рэгіёнах) ужо не пададзены.

Трэба яшчэ асабліва адзначыць паўночны ўсход Беларусі, г. зн. рэгіён басейна Дняпра (Аршаншчына) і басейна Віцебскага цячэння Заходняй Дзвіны. Тут можна заўважыць некаторае адрозненне ад керамікі больш заходніх абласцвй Падзвіння (селішчы Буракова, Казінава). Узоры гэтага посуду вельмі блізкія да керамікі тушамлянскага аблічча Смаленшчыны. Гэта тыя ж цюльпанападобныя пасудзіны, але з падоўжанымі прапорцыямі. На сярэдзіне фіксуецца акруглабокасць у выглядзе невялікага пашырэння, а звужаная гарлавіна мае злёгку адагнуты вонкі венчык. У гэтым рэгіёне (водападзел Дняпра і Заходняй Дзвіны) сустракаецца гладкасценная кераміка з выразнымі плечыкамі, у шэрагу выпадкаў арнаментаваная валікам з касымі насечкамі (селішча Гарадок — райцэнтр, гарадзішчы Кісялі, Чаркасава). Асаблівасці керамічнага матэрыялу тут сведчаць пра наяўнасць уплыву з Паўднёвага Падняпроўя. Падмацоўваюць гэту думку і знаходкі ў ніжніх слаях гэтых паселішчаў разам са штрыхаваным посудам керамікі з расчосамі (Левко, 1990. С. 36—38).

У Беларускім Падзвінні (Полацк, Рудня, Бельчыцы, Варганы, Кастрыца, Гарадок, Пруднікі і інш.) керамічны матэрыял трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. амаль падобны да керамікі Цэнтральнай Беларусі. Назіраецца толькі выразнае адрозненне ад больш паўднёвых тэрыторый. Тут адсутнічаюць дыскі, патэльні, міскі, а таксама іншыя распаўсюджаныя на поўдні тыпы гаршкоў. Формы керамікі Падзвіння знаходзяць аналогіі і ў пасудзінах з наўгародскіх сопак і старажытных доўгіх курганоў Пскоўшчыны і Наўгародчыны, у кераміцы рыугескага тыпу паселішчаў Паўднёва-Усходняй Эстоніі (Аун, 1976. Мал. 2; Седов, 1970. С. 20; Седов, 1974. С. 26. Табл. 19—20). Што датычыць асаблівасцей у керамічным комплексе, характэрных для заходняга рэгіёна Падзвіння, то яны назіраюцца яшчэ з ранняга жалезнага веку (Шадыро, 1985. С. 70—80). З рухам на захад характар керамічнага матэрыялу значна мяняецца. Вывучэнне керамічных калекцый з паселішчаў Браслаўскага, Міёрскага і Верхнядзвінскага раёнаў сведчыць пра тое, што ўплыў старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны тут вельмі прыглушаны. Нязначны працэнт прысутнасці гэтай керамікі не ўплывае на культурны фон дадзенага рэгіёна. З другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. пануючай тут становіцца гладкасценная і аблітая кераміка слоіка- і вядропадобных формаў (паселішчы Пруднікі, Тарылава, гарадзішчы Цясты, Барсукі), характэрная для помнікаў прыбалтыйскага кола старажытнасцей. Самым усходнім пунктам, дзе сустрэта аблітая кераміка, з'яўляецца гарадзішча Барсукі на правабярэжжы Заходняй Дзвіны ў раёне г. Дзісны. У керамічнай калекцыі з гарадзішча Урагава (Верхнядзвінскі раён) таксама выяўлена наяўнасць фрагментаў з аблітай паверхняй.

Такім чынам, на захад ад лініі воз. Асвея — г. Дзісна, левабярэжжа р. Дзісны, рэгіён распаўсюджання банцараўскай керамікі вельмі абмежаваны

(Шадыра, 1993. С. 86). Што датычыцца Цэнтральнай Беларусі, то бліжэй да літоўскага паўзмежжа ў Панямонні на шэрагу помнікаў: паселішча Засвір, Гальшаны, Селішча, Чарэшля назіраецца змешванне керамікі тыпу Банцараўшчыны з аблітым (шурпатым) посудам, у асноўным слоікавых формаў, якая належыць культуры ўсходнелітоўскіх курганоў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. з. (Гуревич, 1962. С. 17—19. Рис. 9; Зверуго, 1989; Медведев, 1996. С. 57—60). Слабая пакуль вывучанасць гэтых з'яў у дадзеным рэгіёне не дазваляе выразна правесці размежаванне старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны і прыбалтыйскага кола помнікаў з аблітай керамікай. Але аб тым, што падобная кераміка пранікла глыбока на тэрыторыю Беларусі, сведчыць факт яе выяўлення на селішчы Ізбішча ў Лагойскім раёне.

Калі разглядаць у цэлым керамічны матэрыял Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі V—VIII стст. (выключаючы перыферыю), то можна канстатаваць наступную заканамернасць. На ранняй стадыі больш прыкметны лакальныя асаблівасці ў размеркаванні розных тыпаў керамікі. Набор посуду з помнікаў тыпу Банцараўшчыны ў гэты час даволі разнастайны. Пазней, калі цэлы шэраг тыпаў адмірае, ён робіцца больш аднастайным і паступова да VIII ст. уніфікуецца з формамі, характэрнымі для керамікі тыпу Карчак і Лука-Райкавецкая. Узмацняюць гэтыя з'явы разнастайныя хвалі рассялення славянскіх плямёнаў на тэрыторыю гэтых рэгіёнаў.

## Паходжанне, рэгіянальныя асаблівасці і этнічная інтэрпрэтацыя

У першай палове 1-га тысячагоддзя н. з. у гісторыі плямёнаў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі адбываліся даволі прыкметныя змяненні, выкліканыя ўплывам больш паўднёвых суседзяў. У першых стагоддзях н. з. зарубінецкія плямёны, рухаючыся ў Верхняе Падняпроўе і асімілюючыся з мясцовымі плямёнамі, садзейнічаюць фарміраванню тут спецыфічных асаблівасцей, што адбілася на старажытнасцях тыпу Адаменскага паселішча (Кіеўская культура) і сярэдняга слоя Тушамлінскага гарадзішча.

На думку В. В. Сядова, помнікі гэтай культуры распаўсюдзіліся на поўначы да Смаленшчыны, на захадзе не выходзілі за межы Дняпра (Седов, 1970. С. 42—43). Як ужо адзначалася, керамічны матэрыял крайняга паўночнага ўсходу Беларусі (басейн віцебскага цячэння Заходняй Дзвіны) сведчыць пра тое, што гэтыя працэсы мелі месца і тут.

З цягам часу характэрныя для зарубінецкай культуры элементы паступова затухаюць і к IV ст. знікаюць зусім (напрыклад, посуд з расчосамі, які спарадычна зафіксаваны ва ўсходніх раёнах разглядаемага рэгіёна). З V ст. з'яўляецца і шырока распаўсюджваецца слабапрафіляваны і цюльпанападобны посуд. Нягледзячы на тое што прафілёўка пасудзін — паўднёвы ўплыў, мясцовае насельніцтва было да гэтага падрыхтавана. Так, у асяроддзі «штрыхавікоў» узніклі формы гладкасценных пасудзін, блізкіх да слабапрафіляваных (Митрофанов, 1978. С. 118). Падобнае адбывалася і ў асяроддзі «днепра-дзвінцаў» (Шмидт, 1966. С. 193). З'яўленню гэтых форм пасудзін садзейнічала і тое, што ў этнічных адносінах гэтыя плямёны былі роднаснымі.

Носьбіты культуры кіеўскага тыпу, рухаючыся на поўнач і паўночны захад, прынасілі з сабой акрамя прафіляванай керамікі і пахавальны абрад, паўзямлянкавы тып жытлаў, кераміку з расчосамі, цыліндрычныя пасудзіны,

біканічныя прасліцы і інш. У той час адны рысы культур ранняга жалезнага веку знікаюць (формы пасудзін, прасліцы, некаторыя тыпы прыладаў працы, упрыгожанняў і інш.), другія элементы (рабрыстасць пасудзін, уласцівая культуры штрыхаванай керамікі, некаторыя віды жалезных прыладаў працы і ўпрыгожанняў — сярпы, нажы, шыльцы, посахападобныя шпількі і інш.) уваходзяць у склад новай культуры, што тут распаўсюджваецца. Падобнае назіраецца і ў арэале днепра-дзвінскай культуры (Шмидт, 1972). Такім чынам, ёсць усе падставы меркаваць, што культура тыпу Бенцараўшчыны ў Верхнім Падняпроўі і Падзвінні ўзнікла на аснове мясцовых культур (днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі) пры актыўным удзеле культуры кіеўскага тыпу.

Нягледзячы на даволі аб'ёмныя даследаванні помнікаў другой паловы 1-га тысячагоддзя, існув яшчэ шмат праблематычных пытанняў. Сярод даследчыкаў не прыняты адзіны тэрмін для вызначэння гэтых старажытнасцей: тыпу верхняга слоя Банцараўскага гарадзішча (Митрофанов, 1978), тыпу Тушамлі-Калочына (Русанова, 1976. С. 56), тыпу Дзядзілавіч (Штыхов, 1972. С. 367), помнікаў капочынскага тыпу (Кравчвнко, Абашіна, Гороховський, 1975. С. 87—88; Даниленко, 1976. С. 87—91 і інш.), тыпу Банцараўшчыны-Калочына-Тушамлі (Загорульский, 1977. С. 70), культура тыпу Акатава-Калочын (Сымонович, 1975. С. 25). Іншыя ж даследчыкі выяўляюць не адну, а некалькі археалагічных культур пад назвай банцараўскай, быхаўскай, петрыкава-хотамельскай, тыпу Акатава, тыпу Аўдзеева (Поболь, 1973б).

Ізаляваны разгляд старажытнасцей трэцяй чвэрці Смаленскага Падняпроўя падвёў Я. А. Шміта да думкі пра існаванне тут асобнай так званай тушамлінскай культуры IV—VII стст., якая належапа ўсходнебалцкім плямёнам і сфарміравалася на базв днепра-дзвінскай культуры (Шмидт, 1976. С. 23—24).

Старажытнасці разглядавмага перыяду Смаленскага Падняпроўя і Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі маюць вельмі шмат агульнага, што дазваляе адносіць іх да аднаго культурна-этнічнага масіву тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Некаторыя асаблівасці і адрозненні звязаны з рознымі субстратнымі з'явамі і ступенямі знешніх уплываў. І на падставе адзінкавых адрозных рыс нельга адрываць іх ад агульнага падабанства. Трэба адзначыць, што ў вобласці арэала днепра-дзвінскай культуры сфарміраваліся не толькі помнікі тыпу Тушамлі, але і старажытныя доўгія курганы (Атокі, Дарахі, Svіла-1, Лятохі, Павалішына і інш.), а таксама звязаныя з імі паселішчы (Бельчыцы, Дарахі, Жабіна, Узмень і інш.) Паддзвіння і поўдня Пскоўшчыны (Штыхов, 1978; Ён жа, 1992; Минасян, 1972).

Спрэчкі выклікае этнічная інтэрпрэтацыя помнікаў тыпу Банцараўшчыны. Л. Д. Побаль вылучав ў Беларусі тры археалагічныя культуры славянскага характару для трэцяй чвэрці — банцараўскую, быхаўска-калочынскую і хотамельске-петрыкаўскую (Поболь, 1983. С. 47—54). Э. А. Сымановіч, даказваючы славянскую прыналежнасць старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны, аргументуе свае высновы: 1) адсутнасцю цесных сувязей з культурамі Латвіі і Літвы; 2) блізкасцю да карчакскай культуры (Сымонович, 1975. С. 25—28). Аднак адразу трэба заўважыць, што А. Р. Мітрафанаў устанавіў генетычную сувязь старажытнасцей тыпу ввохняга слоя Банцараўшчыны з культурай штрыхаванай керамікі і іх сувязі з усходнелітоўскімі і латгальскімі старажытнасцямі другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. (Митрофанов, 1972). Меркаванне пра блізкасць помнікаў тыпу Банцараўшчыны і карчакскіх помнікаў, пабудаванае на параўнанні квра-

мічных набораў, але не ўсіх элементаў культуры, малаабгрунтаванае (Симонович, 1972. С. 57—67). Згодна з даследаваннямі І. П. Русанавай, для абедзвюх культур характэрныя розныя формы посуду (Русанова, 1976. С. 67—68).

На думку Л. В. Аляксеева, у рамках у цэлым аднароднай па прыналежнасці культуры тыпу Банцараўшчыны маглі існаваць і асобныя лакальныя варыянты помнікаў, звязаныя з рознай мясцовай падасновай у выглядзе днепра-дзвінскай культуры, культуры штрыхаванай керамікі і інш. (Алексеев, 1975. С. 205—206).

М. І. Артамонаў меркаваў, што пераход зарубінецкай культуры, якая зліваецца з мясцовымі балцкімі культурамі жалезнага веку, у бясспрэчна славянскія нідзе не прасочваецца, значыць, і ўзнікшыя на іх аснове старажытнасці трэцяй чазрці 1-га тысячагоддзя н. э. у Верхнім Падняпроўі належаць таксама балтам, а не славянам (Артамонов, 1974. С. 247). М. І. Артамонаў, а таксама і І. І. Ляпушкін аднослі да балтаў і класічныя доўгія курганы VIII—IX стст. Усходнеславянскія плямёны, на іх думку, з'явіліся тут даволі позна, не раней за IX ст. Аднак тут трэба заўважыць, што ляпная кераміка VIII—IX стст. з доўгіх курганоў блізкая да керамікі тыпу Карчак і Лукі-Райкавецкай, а таксама раменска-боршаўскай культуры (Русанова, 1976. С. 200; Третьяков, 1969. С. 89). Толькі керамічныя наборы старажытных доўгіх курганоў V—VIII стст. у Паддзвінні і на поўдні Пскоўшчыны падобныя да посуду з помнікаў тыпу Банцараўшчыны (Штыхов, 1972. С. 19—22).

У апошні час Г. В. Штыхаў схільны лічыць, што помнікі банцараўскатушамлінскай культуры маюць дачыненне да славян. У якасці галоўных доказаў, на яго думку, служыць шэраг падабенстваў: керамічныя формы (банцараўскага і пражскага тыпаў), паўзямлянкавыя жытлы з печамі-каменкамі, пахавальны абрад, некаторыя прадметы матэрыяльнай культуры і інш. (Штыхов, 1992. С. 34—36). Але І. П. Русанава сцвярджала, што ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. на ўсёй тэрыторыі паміж Дняпром і Нёманам была распаўсюджана параўнальна аднародная культура з этнічна роднасным насельніцтвам. Яе выснова грунтуецца на наяўнасці значнага адрознення культуры тыпу Банцараўшчыны ад помнікаў тыпаў Карчак і Пяньkoўкі (Русанова, 1976. С. 56—84). Вылучэнне ёю лакальных абласцей культуры (Падзясенне, Смаленшчына і Беларусь) тлумачыцца традыцыямі мясцовых культур жалезнага веку, што не ўплывае на аднародны ў цэлым характар усёй культуры (Русанова, 1976. С. 82—84).

Дарэчы, паглыбляючы гэту думку і ўказваючы асаблівасці керамікі Паўночнай Беларусі, Г. В. Штыхаў выказаўся за наяўнасць лакальнага варыянта банцараўскай культуры ўнутры Беларусі (Очерки... 1972. С. 25—27). Згаджаючыся з І. П. Русанавай, А. Р. Мітрафанаў прапанаваў да вылучаных ёю раёнаў дадаць раён Сярэдняга і Верхняга Падзвіння, які адрозніваецца ад усіх астатніх своеасаблівасцю збудаванняў — падоўжных і доўгіх курганоў (Митрофанов, 1978. С. 122).

В. Б. Пярхаўка, займаючыся вывучэннем раннесярэдневяковых помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у міжрэччы Дняпра і Нёмана, развіў гэтыя думкі, вылучыўшы 4 лакальныя варыянты старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны: 1) калочынскі; 2) дзядзілавіцкі; 3) тушамлінскі; 4) атокінскі (Перхавко, 1978б). У аснове вылучэння ляжаць асаблівасці, што праяўляюцца ў распаўсюджанні шэрагу рыс домабудаўніцтва, дэталяў пахавальнага абраду, некаторых керамічных формаў і тыпаў упрыгожанняў, прыладаў

працы і прадметаў узбраення. Даследчык адзначае, што адрозненні ў матэрыяле помнікаў розных раёнаў выкліканы складаным працэсам фарміравання культуры на падставе некалькіх этнакультурных кампанентаў, мясцовымі традыцыямі, рознымі ўмовамі жыцця і сацыяльнага развіцця, а таксама знешнімі ўплывамі і запазычаннямі. Яны датычацца ў асноўным не агульных, а прыватных прыкмет культуры тыпу Банцараўшчыны, не агульных формаў керамікі і рэчаў, а іх разнастайнасцей. Калі не прымаць да ўвагі тыя лакальныя асаблівасці, якія выкліканіся геаграфічнымі ўмовамі, разнароднымі знешнімі ўплывамі і кантактамі, а таксама храналагічнымі адрозненнямі помнікаў, то агульныя аднародныя рысы банцараўскай культуры будуць выступаць яшчэ больш рэльефна (Перхавко, 1978б).

Тэрыторыя Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі адносіцца да дзядзілавіцкага і атокінскага варыянтаў. Аналізуючы назапашаныя дедзеныя па даследаванню жалезнага веку ў Паўночнай Беларусі (Шадыро, 1993а; Левко, Колосовский, 1990), адзначым, што ёсць усе падставы аднесці рэгіён віцебскага цячэння Заходняй Дзвіны да тушамлінскага варыянта старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны, паколькі тут выразна прасочваецца шматлікае падабенства са старажытнасцямі сярэдняга слоя Тушамлі (Віцебск, Чаркасава, Кісялі, Гарадок і інш.). Акрамя таго, гэты рэгіён яшчэ ў раннім жалезным веку знаходзіўся пад уплывам смалвнскага варыянта днепра-дзвінскай культуры (Шадыро, 1985. С. 111).

На паўночным захадзе Беларусі арэал помнікаў тыпу Банцараўшчыны абмежаваны распаўсюджваннем з V ст. помнікаў з гладкасценнай і аблітай керамікай, якая прыходзіць тут на змену штрыхаванай, а таксама днепра-дзвінскаму посуду.

Неабходна падкрэсліць, што некаторая своеасаблівасць культуры тыпу Банцараўшчыны на поўначы Беларусі (атокінскі варыянт, паводле В. Б. Пярхаўкі) звязана з уплывам фіна-угорскіх элементаў у канструкцыі пахавальных збудаванняў (доўгія курганы) і ў тыпах керамікі, упрыгожанняў, у гідранімічных назвах. Можна меркаваць пра пражыванне тут змешанага балта-фінскага насельніцтва. Гэты факт знаходзіць свой адбітак і ў своеасаблівасці культуры палачан, што фіксуюць раннія доўгія курганы Полацкага Падзвіння.

Аналізуючы палеміку даследчыкаў вакол этнічнай інтэрпрэтацыі помнікаў тыпу Банцараўшчыны, трэба адзначыць, што большасць вучоных схіляецца да думкі аб усходнебалцкай прыналежнасці плямёнаў Банцараўшчыны — Тушамлі. Вялікае значэнне мае тут высвятленне ўзроўню славянскіх уплываў у тым ці іншым рэгіёне гэтага велізарнага этнакультурнага масіву. Пасля заняпаду банцараўскай культуры, выкліканага шырокім рассяленнем славянскіх плямёнаў, заканчваецца апошні этап балцкага перыяду ў этнічнай гісторыі Беларусі. З гэтага часу пачынаецца актыўны працэс славянізацыі мясцовага насельніцтва, які доўжыўся даволі працяглы час і асабліва ў заходніх рэгіёнах Беларусі.

## 4. КУЛЬТУРА РАННІХ ДОЎГІХ КУРГАНОЎ (V—VII стст.)

### Абрад пахавання

Доўгія курганы — валападобныя насыпы з пахаваннямі па абраду трупаспалення другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. Тэрмін «доўгія курганы» быў уведзены ў навуку ў сярэдзіне XIX ст. (О древних могилах... 1851. С. 212—226).

Пазней было канстатавана, што доўгім курганам спадарожнічаюць падоўжаныя, авальныя, круглыя, радзей чатырохвугольныя і іншыя «фігурныя» ў плане насыпы. С. А. Тараканава доўгімі лічыла ўсе валападобныя насыпы, а квадратныя, чатырохвугольныя і авальныя адносіла да групы падоўжаных курганоў. Даследчыца прапанавала ўзяць за аснову падзела курганоў на доўгія і падоўжаныя не даўжыню курганоў, а іх форму (Тараканова, 1954. С. 83—86). І. І. Ляпушкін уключаў у паняцце «доўгія курганы» ўсе фігурныя насыпы, акрамя круглых, якія адносіў да помнікаў славян. На яго думку, фігурныя насыпы — курганы неславянскага насельніцтва (Ляпушкин, 1968. С. 20—22).

Смаленскі археолаг Я. А. Шміт лічыць магчымым называць доўгімі такія насыпы, даўжыня якіх значна большая за шырыню. Вучоны прапанаваў пашырыць паняцце «доўгія курганы» і распаўсюдзіць яго на археалагічную культуру доўгіх курганоў. Паводле высновы Я. А. Шміта, «доўгія курганы» Верхняга Падняпроўя — гэта пахавальныя помнікі VIII—IX стст., якія ўтрымліваюць адно ці некалькі трупаспаленняў з дакладна вызначаным абрадам і пахавальным інвентаром, які ўключае ўпрыгожанні балцкіх тыпаў. Пры гэтым форма кургана не з'яўляецца вызначальнай прыкмвтай. Яна можа быць круглай, авальнай ці вельмі доўгай (Шмидт, 1968. С. 224—229).

Я. А. Шміт бачыць шмат агульнага паміж курганамі Смаленшчыны і суседняй з ёй Віцебшчыны, пра што пісалі і іншыя даследчыкі. Адносна помнікаў VIII—X стст. гэта адпавядала сапраўднасці. Аднак у 60—70-я гады на Віцебшчыне Г. В. Штыхаў выявіў курганы сярэдзіны і трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. з керамікай тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Новыя дадзеныя істотна дапаўняюць уяўленне пра культуру доўгіх курганоў. Даследчык вылучыў тры стадыі ў культуры доўгіх курганоў Беларускага Падзвіння (Штыхаў, 1992. С. 107). Пра раннія доўгія курганы размова пойдзе ніжэй.

Курганы даследаваліся каля в.Янкавічы ва ўрочышчах Атокі і Павалішына, в. Рудня (Расонскі раён), в. Лятохі (Віцебскі раён). Выклікаюць цікавасць курганныя могільнікі ў наваколлі в. Дарахі Гарадоцкага раёна на паўднёвым беразе воз. Сенніца, паблізу якіх знойдзены сінхронныя селішчы. Тут усяго налічваецца каля 150 курганоў у 11 курганных могільніках. Сем невялікіх курганных могільнікаў адносяцца да трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (даследавана 26 курганоў), адзін — да VIII—IX стст. і самы вялікі могільнік — да X—XI стст. Могільнікі культуры ранніх доўгіх курганоў размяшчаюцца за 0,5—1,2 км ад сінхронных ім паселішчаў і прыкладна на такой жа аддаленасці ад берага ракі або возера. Могільнікі амаль заўсёды знаходзяцца на лясных сухапутных дарогах. Яны звычайна невялікія і налічваюць да двух дзясяткаў насыпаў.

Па абрысах насыпаў у могільніках курганы розныя: доўгія, падоўжаныя, круглыя. Доўгімі курганамі ўмоўна лічаць насыпы, даўжыня якіх перавышае шырыню ў 2 разы і больш. Абрысы насыпаў бываюць такімі, што іх можна назваць акруглымі, авальнымі і г. д. Названыя формы насыпаў звычайна прысутнічаюць у адным могільніку і з'яўляюцца амаль адначасовымі і аднакультурнымі. Напрыклад, у Дарахах у курганным могільніку з 13 курганоў адзін насып доўгі, 5 — падоўжаных, 7 — круглых у плане.

Доўгія курганы розныя па памерах, даўжыня вагаецца ад 14 да 110 м. Больш распаўсюджаны насыпы даўжынёй у некалькі дзесяткаў метраў. Самы доўгі курган, вядомы ў археалагічнай навуцы, даўжынёй 110 м, быў даследаваны паблізу в. Янкавічы ва ўрочышчы Атакі. Яго шырыня складала 9—10 м, вышыня 1—1,5 м. Насып быў аднародны — з пяску, прыкмет яго ўзвядзення ў некалькі этапаў не выяўлена.

Сярод насыпаў культуры доўгіх курганоў на Беларусі многа круглых у плане. Іх звычайная вышыня таксама, як доўгіх і падоўжаных курганоў, вагаецца ад 0,6 да 1,6 м. Усе курганныя насыпы земляныя, як правіла, з пяску. Ніякіх каменных збудаванняў у насыпах і вакол іх не выяўлена. Пясок для ўзвядзення насыпу браўся паблізу пляца, прызначанага для кургана.

Вакол значнай часткі курганоў прасочваюцца сляды былых раўкоў. Раўкі глыбінёй да 1 м адзначаны каля некаторых вялікіх насыпаў паблізу в. Рудня Расонскага раёна (мал. 123). Ля падножжа круглых курганоў раўкі падзяляюцца перамычкамі, якіх бывае ад дзвюх да чатырох. Пры даследаванні раўкоў зафіксаваны ў шэрагу выпадкаў прыкметы рытуальнага еогнішча. Аднак ёсць рвўкі, дзе прыкмет вогнішчаў не выяўлена.

У большасці выпадкаў доўгія курганы ўзводзіліся ў адзін прыём, некаторыя — у два. Каля падэшвы на ўсёй плошчы кургана часта прасочваецца моцны попельна-вугальны праслой, месцамі абпалены мацярык, як гэта было ў доўгім кургана Атокінскага могільніка. Бывае, што каля падножжа насыпу доўгіх, падоўжаных і круглых курганоў прасочваецца толькі праслой старажытнага гумусаванага пласта з асобнымі вугольчыкамі. У раскапаных курганах усе пахаванні — трупаспаленні. Звычайна спалвнне нябожчыка адбывалася па-за месцам пахавання, г. зн. у баку ад яго, і толькі зрэдку на месцы ўзвядзення насыпу.

Матэрыялы раскопак помнікаў культуры доўгіх курганоў V — пачатку VIII ст. у Віцебскай вобласці дазваляюць зрабіць абгрунтаваную класіфікацыю пахаванняў. Яны падзяляюцца на бязурнавыя і ўрнавыя, у якіх рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў пасудзіну-ўрну. Сярод бяэурнавых пахаванняў можна вылучыць шэсць тыпаў: 1) месцазнаходжанне пахавання пад насыпам кургана на мацерыку ці ў спецыяльна вырытай ямцы; 2) пахаванне ў ямцы ў сярэдзіне насыпу; 3) пахаванне россыпам на падсыпцы; 4) пахаванне на спецыяльна выраўнянай пляцоўцы, на якой зрэдку паліўся рытуальны агонь; 5) пахаванне ў ямцы пад дзірваном у круглых курганах звычайна на вышыні насыпу; 6) пахаванне россыпам пад дзірваном. Тры тыпы (3, 4, 6) характэрныя толькі для доўгіх ці падоўжаных курганоў. Рэшткі трупаспаленняў у бязурнавых пахаваннях бываюць ачышчаныя ад вугольчыкаў і нвачышчаныя.

Паводле ўліку месцазнаходжання ўрнаў вылучаюцца тры тыпы пахаванняў: 1) пахванні ў аснове кургана, урна стаіць на мацерыку ці на вугальнай праслойцы, гэты тып размяшчэння ўрнаў характэрны выключна для доўгіх курганоў; 2) пахаванні ў сярэдзіне насыпу; 3) пахаванні на паверхні курганнага насыпу (цяпер знаходзяцца адразу пад дзірваном).

Паводле спосабу пастаноўкі ўрнаў пахаванні падзяляюцца таксама на тры віды: 1) пахаванні з урнамі, пастаўленымі гарлавінай уверх; 2) пахаванні з урнамі, якія пастаўлены ўверх дном у перакуленым становішчы; 3) пахаванні ў урне, накрытай другой пасудзінай, якая пастаўлена дагары. Асобным спосабам пахавання з'яўляецца размяшчэнне крэмацыі ў ямцы ў сярэдзіне насыпу, над якой была разбітая ў якасці ахвярапрынашэння пасудзіна. Такое пахаванне выяўлена ў Дарахах-4 (курган 1).

Звычайна ў доўгіх і падоўжаных курганах V—VII стст. пахаванняў змешчана некалькі, бывае 7—8. У Дарахах у падоўжаным кургане 5 налічвалася 8 пахаванняў, з іх два — у ўрнах. У даследаваных курганах трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. часта сустракапася вялікая колькасць перапаленых касцей, вага якіх дасягае 1—3 кг і больш. У Дарахах-1 у доўгім кургане 9 зафіксавана сем пахаванняў, з якіх пахаванна 6, што знаходзілася ў ямцы,

змяшчала 8 кг капьцынірававаных касцей (калі яны высахлі, вага была 5 кг). У такіх пахаваннях, напэўна, знаходзіліся рэшткі крэмацыі некалькіх чалавек. Побач з касцямі людзей было шмат касцей жыеёл, якія адрозніваліся большай таўшчынёй і цёмным адценнем. У Дарахоўскім курганным могільніку косці жывёлы разам са спаленымі касцямі людзей знойдзены неаднаразова. Напрыклад, у могільніку Дарахі-4 (курган 5, пахаванне 1) выяўлены прапаленыя косці каня і быка, паводле вызначэння В. В. Шчагловай. Ахвярапрынашэнне хатняй жывёлы было распаўсюджана ў плямёнаў культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., таксама як у больш познія часы (IX—X стст.).

Сярод курганоў шмат насыпаў парожніх, магчыма, кенатафаў, якія не мелі пахаванняў і насыпаліся ў тых выпадках, калі памёршага па нейкіх прычынах нельга было пахаваць.

## Незвычайны курган Павалішынскага могільніка

Каля в. Янкавічы Расонскага раёна ў 1967 г. Г. В. Штыхавым быў выяўлены новы курганны могільнік Павалішына (назва ад былой вёскі), які ўключаў 11 насыпаў, у тым ліку адзін падоўжаны, астатнія круглыя. Як потым высветлілася, гэты падоўжаны курган (№ 3) адзін з самых старажытных сярод ранніх курганоў на Віцебшчыне. Курган быў даследаваны ў 1968 г. Ён насыпаны на невялікай натуральнай выспе, меў памеры 12 × 7 м пры вышыні 0,6—0,8 м. Вакол насыпу быў невялікі равок. Вывучэнне стратыграфіі пацвердзіла, што курган насыпаны ў два этапы. Больш старажытнай часткай была паўднёвая (мал. 124).

**Пахаванне 1** звязана з падсыпкай. Верагодна, яно было парнае, паколькі складалася з двух частак-комплексаў, размешчаных у 1 м адзін ад аднаго на адным узроўні, прыблізна ў цэнтры насыпу ніжэй яго паверхні (Штыхаў, 1992. С. 28. Мал. 15).

Комплекс 1А ўяўляў сабой урну (ніжняя частка ляпной пасудзіны), у якой было некалькі кавалкаў перапаленых трубчастых костак, накрытую перавернутай цэлай ляпной пасудзінай (мал. 125:13,14). Комплекс 1Б змяшчаў скапленне кавалкаў керамікі, сярод якіх знаходзіліся таксама кальцыніраваныя косці (150—200 г) і шэсць кавалкаў аплаўленага празрыстага блакітнага шкла ад пацерак. Фрагменты керамікі (мал. 125:15, 16) адносіліся да дзвюх пасудзін, якія, мяркуючы па месцу знаходжання фрагментаў керамікі, першапачаткова размяшчаліся таксама, як у комплексе 1А. Пад скапленнем керамікі выяўлена невялікая ямка. Уся кераміка з пахавання была аднатыповай: ляпная, грубая, слабапрафіляваная з прымессю жарствы.

Не выключана, што да пахавання 1 адносіцца і ямка (дыяметрам 20, глыбінёй 15 см), выяўленая на мацерыку на захад ад комплексу 1А і абазначаная тут як комплекс 1В. Яна ўтрымлівала некалькі капьцыніраваных костак, фрагменты чарвонага і шэрага гаршкоў, аплаўленае шкло — такое ж, як у комплексе 1Б.

Недалёка ад цэнтра ў паўночнай частцы было некалькі неглыбокіх парожніх ям.

Комплексы, якія звязаны з першапачатковым насыпам, пры раскопках атрымалі назву пахаванняў 2—4 (Штыхаў, 1992. С. 110—111). Пры выву-

чэнні матэрыялаў было даказана, што яны з'яўляюцца часткамі аднаго, верагодна, разбуранага, комплексу (усюды прысутнічалі фрагменты аднаго і таго ж гаршка-1). Пагэтаму тут усе аб'екты аднесены да пахвання 2 з дабаўленнем літар (кераміку вывучаў у 1996 г. М. В. Лапацін).

**Пахаванне 2** складаецца з пяці комплексаў.

У комплексе 2А пад дзірваном, на плошчы ў некалькі каадратных метраў, знаходзіліся рэшткі вогнішча (перапаленыя косці і вугольчыкі) і раскіданыя фрагменты ляпной карамікі, гладкасценнай і з расчосамі — усяго некалькі соцень.

Пры даследаванні комплексу 2Б у адным месцы была вызначана выразная чорная пляма. У ёй выяўлена каля 100 г. перапаленых касцей і частка разбітага гаршка з расчосамі.

Комплекс 2В знаходзіўся паміж 2Б і 1Б, уключаў невялікую колькасць перапаленых касцей і частку раструшчанага гаршка з расчосамі.

Наступны комплекс 2Г знаходзіўся на паўднёвым схіле вялікай ямы папярэчнікам 3 м, якая размяшчалася ў мацерыку каля паўночнага краю пахавання 2. Ён змяшчае невялікую колькасць перапаленых касцей і кавалкі пасудзін з расчосамі.

Вызначаны комплекс 2Д у ніжняй частцы той жа ямы — на мацерыку і на паўночным склоне. Тут былі часткі раструшчанай пасудзіны з расчосамі.

Дэталёвае вывучэнне карамікі з пахавання 2 эрабіў М. В. Лапацін. Усяго калекцыя налічвае 133 фрагменты карамікі, у тым ліку 22 венчыкі і два малыя фрагменты прыдонных частак. Тут вылучаюцца часткі трох ці чатырох пасудзін. Усе яны былі ляпныя слабапрафіляваныя, верагодна, гаршкападобныя, з крыху павужанай гарлавінай.

Пасудзіна 1 — буйны гаршчок дыяметрам па краю больш за 30 см (магчыма, нават да 40 см). Яго край амаль плоскі з невялікім адхіленнем. Знешняя паверхня пакрыта расчосамі, выкананымі грабеньчатым штампам (мал. 125:5, 6). Да расчэсвання паверхня была даволі акуратна загладжана. Часцінкі жарствы ў папярэчніку маюць 10 мм. На фрагментах бачны прыкметы канструявання стужкавым налепам. Пасудзіна распалася менавіта па месцах змацавання стужвк (мал. 125:5). Асноўны колер керамікі — шэры і шэразялёны, месцамі ён пераходзіць у шэра-карычневы, карычневы і чырвонакарычневы. Восем фрагментаў, якія адносяцца да пасудзіны 1, — венчыкі. Параўнанне расчосаў на розных фрагментах дазваляе зрабіць выснову, што ўсе расчосы нанесены адным і тым жа штампам-грэбенем, які меў не менш за 19 зубцоў. Першы зубец быў шырокім (4,4 мм), шосты быў вельмі вузкім (моцна завостраны) і трохі карацейшы за астатнія і г. д. Усе прыкметы штампа адпавядаюць касцяным грабяням рымскага часу, напрыклад тым, якія знойдзены на паселішчы Лепясоўка на Валыні. Фрагменты пасудзіны 1 знойдзены ва ўсіх частках пахавання 2, аднак найбольш буйныя і шматлікія — у комплексе 2Б.

Пасудзіна 2 была меншай па памерах (мал. 125:7, 8). Усе чарапкі дробныя, але ўдалося вызначыць дыяметр аднаго венчыка — каля 27 см. Колер сценак больш шэры, чым у пасудзіны 1. Жарства моцна выступае на паверхні. Найбольшая частка фрагментаў знаходзіцца ў комплексе 2А.

Пасудзіна 3 (мал. 125:11, 12) дыяметрам каля 15 см, прадстаўлена толькі трыма фрагментамі, якія адрозніваюцца завостранай формай краю венчыка і ружовым колерам часцінак жарствы — палевага шпату. Колер керамікі шэры і шэра-жоўты. Фактура паверхні падобная да фактуры пасудзіны 1.

Да пасудзіны 4 (мал. 125:9, 10) аднесены дробныя фрагменты, аналагічныя пасудзіне 1, якія, аднак, не маюць расчосаў. Большасць фрагментаў знаходзіцца ў комплексе 2А.

У кургане 3 найбольшую цікавасць уяўляе пахаванне, выяўленае адразу пад дзірваном, дзе было шмат фрагментаў ляпной керамікі з расчосамі, якія нанасіліся штампам-грэбенем. Гэта першае пахаванне з расчэсанай керамікай, якая служыць добрым культурна-храналагічным індыкатарам.

На селішчах такую кераміку знаходзілі неаднаразова. У 1928 г. кераміка з расчосамі была выяўлена А. М. Ляўданскім каля в. Бельчыца пад Полацкам. У 1965 г. тут пры раскопках кургана пад насыпам быў зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 0,5 м з карамікай як гладкасценнай, так і з расчосамі (мал. 126). Селішча пад Бельчыцай было тады датавана часам каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. (Штыхов, 1966. С. 244. Рис. 5:2, 5). Адлегласць ад Бельчыцы да Янкавіч і Павалішына складае 30 км. Фрагмент ляпной керамікі з расчосамі быў знойдзены на Верхнім замку ў Полацку (Штыхов, 1970. С. 30. Рис. 16:19). Л. Д. Побаль уважліва фіксаваў такую кераміку і склаў вялікі спіс паселішчаў, дзе яна знойдзена ў Беларусі.

Да нядаўняга часу дакладна былі вядомы помнікі з расчэсанай керамікай толькі на тэрыторыі Беларусі і Смаленшчыны. У выніку даследаванняў Паўночна-Заходняй археалагічнай экспедыцыі Эрмітажа адзінкавыя археалагічныя помнікі адкрыты на поўдні Пскоўскай вобласці і ў вярхоўях ракі Вялікай. Датаванне помнікаў вызначаецца ў межах ад III—IV стст. н. э. да V—VI стст. Унікальнасць пахавання ў кургане Павалішына тлумачыцца тым, што з'яўленне самаго курганнага абраду адбылося незадоўга да знікнення помнікаў з расчэсанай карамікай (Лопатин, Фурасьев, 1995. С. 136—138).

М. В. Лапацін і А. Г. Фурасьеў нанеслі на карту 15 помнікаў з расчэсанай керамікай у Падзвінні і 2 селішчы (Свінухі, Ястрабаў) у вярхоўях ракі Вялікай. Тут не ўлічана яшчэ 7 помнікаў у Беларусі: Лукомль, Загаваліна, Казінова, Кісялі, Хабаты, Бабінавічы, Слабодка (Чашніцкі раён). Такім чынам, трэба гаварыць аб 24 пунктах, большасць іх знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Звычайна кераміку з расчосамі археолагі знаходзяць толькі на паселішчах. Выключэннем з'яўляецца Казінова (Гарадоцкі раён), дзе яна выяўлена на гарадзішчы і на селішчы, размешчаным побач.

Важна адзначыць, што найбольшая колькасць селішч з такой керамікай зафіксавана ў Верхнім Падняпроўі на тэрыторыі Магілёўскай і Гомельскай абласцей. Па дадзеных Л. Д. Побаля, тут вядома да 30 помнікаў пераважна ў Быхаўскім і Слаўгарадскім раёнах. У Гомельскай вобласці амаль столькі ж помнікаў выяўлена ў Веткаўскім і Чачэрскім раёнах. На тэрыторыі Мінскай вобласці — каля 25 помнікаў. Больш густа яны размешчаны ў Бярэзінскім і Барысаўскім раёнах па цячэнню Бярэзіны, якая ўпадае ў Днепр (Поболь, 1983. С. 390—397 і інш.). Я. Г. Зверуга, зрабіўшы раскопкі каля в. Гарадок у Маладзечанскім раёне, прыводзіць статыстычныя дадзеныя аб ляпной кераміцы: грубаляпная кераміка складае 75—76%, глянцаваная 7—8, караміка з расчосамі 15—16% (Поболь, 1983. С. 369).

Помнікі з расчэсанай керамікай размешчаны нераўнамерна, скапленнямі пераважна па цячэнню рэк Сож, Днепр, Бярэзіна, г. зн. ва Усходняй Беларусі.

Кераміка з расчосамі паўночнабеларускай традыцыі знойдзена на Украіне на помніках раннярымскага часу, што саедчыць аб перасяленнях насельніцтва (Обломский, 1996. С. 27—29).

Паводле высновы В. В. Сядова, найбольш раннія доўгія курганы сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. былі на Пскоўшчыне і ў вярхоўях Заходняй Дзві-

ны, за межамі Беларусі, і толькі ў канцы VII—VIII ст. яны ўзнікаюць на Смаленшчыне і Полаччыне. У той час вынікі раскопак курганоў каля Янкавіч (Атокі, Павалішына) і ў Дарахах яшчэ не былі апублікаваны. У гэтых курганах, як было сказана вышэй, знойдзены якраз тыя рэчы, на падставе якіх В. В. Сядоў датуе найбольш старажытныя курганы на Пскоўшчыне. Ён надае выключна вялікае значэнне сцвярджэнням лінгвістаў, якія мяркуюць аб старажытнай блізкасці пскоўскіх гаворак да заходнеславянскіх моўных асаблівасцей. Адсюль вывад, што славяне-крывічы прыйшлі з захаду ад вянедскай групы ранняга славянстаа, гэта значыць з тэрыторыі паўночна-заходняй Польшчы. У VI ст. яны пасяліліся ў басейне ракі Вялікай і Пскоўскага возера, а потым, праз два стагоддзі, з'явіліся ў Смаленскім і Полацкім Падзвінні (Седов, 1970. С. 104, 107). З такім заключэннем была выказана нязгода ў рэцэнзіі на кнігу В. В. Сядова ў 1971 г. (Штыхаў, 1971. С. 241). Цяпер колькасць аргументаў для аспрэчвання выказанага погляду павялічылася.

## Рэчавы інвентар ранніх доўгіх курганоў

Пахавальны інвентар у курганах нешматлікі. Ён прадстаўлены бронзавымі бляшкамі-шкарлупінамі, шклянымі пацеркамі з сіняга празрыстага шкла, фрагментаванымі касцянымі вырабамі, жалезнымі спражкамі, кольчатымі цуглямі, вырабленымі з двух жалезных стрыжняў, невялікай шпорай з кручкамі (мал. 127:6) і ляпной карамікай. У большасці пахаванняў рэчы адсутнічаюць.

У доўгім кургане Атокінскага могільніка ў пахаванні 2 выяўлены 19 бронзавых бляшак-шкарлупін, якія служылі для папругі або галаўнога ўбору (мал. 128:1—19). Бляшкі-шкарлупіны сустракаюцца ў каменных могільніках Эстоніі, якія выкарыстоўваліся для пахаванняў у II—III стст., і выяўлены ў доўгіх курганах Пскоўшчыны (Светлыя Вешкі, Міхайлаўскае, Жарабяціна), дзе датуюцца V—VI стст. (Седов, 1974. С. 34). Доўгі курган Атокінскага могільніка паблізу в.Янкавічы ўзведзены не пазней за VI ст., і яго трэба аднесці прыблізна да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э.

У Дарахах у курганнай групе IV (курган 1, пахаванне 1) знойдзена жалезная шпора з вострым канічным шыпам і адагнутымі наверх кручкамі на канцах (мал. 127:6). Найбольш старажытныя ўзоры шпор такога тыпу са сплошчанай дужкай датуюцца III—IV стст. н. э. і дажываюць да VI—VII стст. (Перхавко, 1978). У курганнай групе I (курган 9) выяўлена жалезная спражка з рамкай круглай формы. У курганнай групе IV (курган 1) знойдзена спражка паўкруглай формы. Прамая частка рамкі служыла воссю для хобатападобнага язычка. Падобныя спражкі вядомы з Зімнаўскага гарадзішча (Аўліх, 1972. С. 57. Табл. XI:28—30) і іншых помнікаў VI—VII стст. Выяўлена 19 моцна аплаўленых пацерак з сіняга шкла, якія з'яўляюцца частай знаходкай у курганах трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

У Паўночнай Беларусі ў пахаваннях знойдзена 13 ляпных пасудзін, якія захаваліся цалкам і выкарыстоўваліся ў якасці ўрнаў або накрываючых пасудзін. Пасудзіны выраблены з гліны з дамешкам буйной жарствы. Паверхня гаршкоў шурпатая з прычыны таго, што жарства выступае з гліны. Яна выглядае бугрыстай, калі жарства загладжана. Усе пасудзіны характарызуюцца агульнымі прыкметамі — гэта гаршкі выцягнутых прапорцый, якія маюць найбольшае пашырэнне ў верхняй частцы тулава і звужаюцца каля днішча і горла. Вышыня пасудзін знаходзіцца ў межах ад 10,4 да 35 см (мал. 129:1—11).

У дзевяці пасудзін вышыня максімальнага пашырэння (Н1) складае 0,66—0,79 ад вышыні гаршка (Н). Паміж пасудзінамі ёсць некаторыя адрозненні ў профілі іх верхняй часткі. Адны маюць крыху намечаную шыйку і адагнуты край, другія без шыйкі са злёгку адагнутым краем, які часам бывае патоўшчаны. Некаторыя пасудзіны (мал. 129) характарызуюцца больш выцягнутымі прапорцыямі.

Адзінкавая па форме ўрна, знойдзеная ў кургане 4 (пахаванне 1) курганнага могільніка Дарахі-1. Гэта прысадзісты гаршчок з прамой высокай шыйкай. Плечыкі размешчаны нізка і пераходзяць у рабро. Максімальнае пашырэнне ў верхняй частцы пасудзіны.

У доўгім кургане каля в. Субаўшчына Полацкага раёна знойдзены гаршчок з наляпным валікам VII ст. Аналогіі яму вядомы ў Верхнім Падзвінні (Жабіна), на Пскоўшчыне (Безьва), у Латышскім Падзвінні (Шадыра, 1996. С. 207).

У ранніх доўгіх курганах Беларускага Падзвіння прадстаўлены не ўсе тыпы пасудзін, якія выяўлены ў іншых раёнах шырокага арэала помнікаў тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі-Калочына. У курганах няма конусападобных пасудзін з амаль прамымі, расшыранымі ўверх бакамі, вядомых на паўднёвым усходзе Беларусі ў Калочыне (Сымонович, 1963. С. 119, 122) і гарадзішчах-сховішчах Смаленшчыны (Шмидт, 1966. С. 200). У Беларускім Падзвінні не выяўлены цыліндрычна-канічныя пасудзіны з цыліндрычнай верхняй і ўсечана-канічнай ніжняй часткай, распаўсюджаныя ў Смаленскім Падняпроўі (Дзямідаўка), у сярэдняй і паўднёвай частках Беларусі (Банцараўшчына, Калочын, Новы Быхаў). У керамічным комплексе разгледжаных курганоў няма біканічных гаршкоў і рабрыстых місак, значная колькасць якіх выяўлена ў басейне Дзясны і на Дняпроўскім Левабярэжжы (Горюнов, 1961. С. 18), а таксама цыліндрычных па форме пасудзін, знойдзеных у доўгіх курганах на Пскоўшчыне (Седов, 1974. Табл. 19:2, 3; 20:2; 22:1).

Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што кераміка з курганоў Беларускага Падзвіння мае рысы, якія збліжаюць яе з посудам, распаўсюджаным на іншых помніках тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі-Калочына. Для ўсяго іх арэала характэрны слабапрафіляваныя гаршкі, якія складаюць большасць керамікі ў сінхронных курганах Беларускага Падзвіння. І. П. Русанава гаворыць аб адрозненні гэтай керамікі ад пасудзін славянскай пражскай культуры і характарызуе яе як балцкую (Русанова, 1976. С. 64—74).

Адметнай рысай керамікі паўночнай часткі Беларусі з'яўляюцца некаторыя асаблівасці яе прапорцый. Вышыня найбольшага пашырэння большасці гаршкоў прыпадае на верхнюю частку іх тулава (Штыхаў, 1992. С. 29—32). Улічваючы своеасаблівасць пахавальных помнікаў, якімі з'яўляюцца раннія доўгія курганы, і характэрную для іх ляпную кераміку, можна гаварыць пра лакальны (атокінскі) варыянт банцараўскай культуры ў Беларускім Падзвінні (Перхавко, 1978).

Вялікую цікавасць уяўляе кераміка з расчосамі, знойдзеная ў кургане 3 Павалішынскага могільніка, пра што падрабязна гаварылася вышэй. Яна пралівае святло не толькі на датаванне найбольш старажытных помнікаў культуры доўгіх курганоў, але і на праблему яе паходжання і распаўсюджання.

Напэўна, комплекс культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі ранняй стадыі мае мясцовыя карані ў помніках III—V стст., на якіх прысутнічае ў якасці індыкатара расчэсаная кераміка. Гэта культура доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі ранняй стадыі мае шэраг агульных рыс з пскоўскімі доўгімі курганамі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што адбываўся рух насельніцтва з

Пскоўшчыны на тэрыторыю Беларусі (Седов, 1995. С. 231). У святле новых дадзеных можна сцвярджаць: наадварот, адбываўся рух носьбітаў культуры доўгіх курганоў з Паўночнай Беларусі на Пскоўшчыну і Наўгародчыну.

## 5. КУЛЬТУРА ЎСХОДНЕЛІТОЎСКІХ КУРГАНОЎ

Тэрыторыю Усходняй Літвы і частку Беларусі (правабярэжжа Нёмана і частка басейна Віліі) у раннім сярэднявеччы займалі помнікі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Арэал іх распаўсюджання на захадзе абмежаваны сярэднім цячэннем Нёмана, на поўначы — да вярхоўеў ракі Швянтоіі, на ўсходзе дасягае воз. Свір, на поўдні ахоплівае басейн ракі Меркіс (LAA, 1977. P. 12—14. Žem. 2). Так, у Літве размешчана каля 230 груп, у складзе якіх налічваецца больш за 6000 насыпаў. На Беларусі курганы размешчаны ў вярхоўях Віліі і на правабярэжжы Нёмана каля мяжы з Літвой (Зверуго, 1989. С. 21) (каля 80 груп) (мал. 96).

### Гісторыя даследаванняў

Вывучэнне культуры ўсходнелітоўскіх курганоў пачалося ў 40-я гады XIX ст. і працягваецца па сённяшні час. Вялікая колькасць даследчыкаў займалася раскопкамі гэтых помнікаў, асабліва на тэрыторыі Усходняй Літвы (Е. Тышкевіч, Л. Кандратовіч-Сыракомля, П. С. Вільчыцкі, А. Кіркор, А. Плятэр, Э. Вальтэр, В. А. Шукевіч, Ф. В. Пакроўскі, П. С. Рыкаў, А. З. Таўтавічюс, О. Кунцене і інш. ) (Финно-угры... 1987. С. 390—392). Даследаванні на Беларусі пачаліся таксама яшчэ ў першай палове XIX ст. Адным з першых раскопкі праводзіў П. С. Вільчыцкі, які даследаваў курганны могільнік каля в. Клявіца Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці (Финно-угры... 1987. С. 390). Пазней, у 50-я гады XIX ст., даследаванні курганоў на Беларусі працягваў А. Кіркор. Ён раскапаў курганы каля в. Рэчкі Вілейскага павета (зараз у Вілейскім раёне Мінскай вобласці), а таксама каля в. Гарадзілава Ашмянскага павета (Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці). Каля Гарадзілава ім было вывучана 4 курганы, дзе былі выяўлены цікавыя знаходкі (Каханоўскі, 1984. С. 59—60). А. Кіркор склаў таксама спіс археалагічных помнікаў Віленскай губерні, у якім былі пададзены звесткі аб курганах (Киркор, 1858).

У канцы XIX ст. найбольш грунтоўна займаўся вывучэннем такіх помнікаў на Беларусі Ф. В. Пакроўскі. Так, у 1893 г. ім была выдадзена археалагічная карта Віленскай губерні, дзе былі сабраны ўсе вядомыя матэрыялы (Покровский, 1893). В 1892—1895 гг. ён правёў раскопкі больш за 150 курганоў у 20 могільніках, у тым ліку на сучаснай тэрыторыі Беларусі (Будраны, Гускі, Жэлядзь, Засвір, Лынтупы, Пільвіны, Паніззе, Рацкі Бор, Чорная Лужа і інш.) (Дучыц, 1991. С. 6; Финно-угры... 1987. С. 391). Матэрыялы даследанняў былі надрукаваны ў шэрагу артыкулаў (Покровский, 1893б; 1893в; 1895; 1897; 1899).

У 1913 г. П. С. Рыкаў правёў даследаванні на двух могільніках (Маркіняты і Смаргонь — зараз у Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці), дзе было вывучана 19 насыпаў (Рыков, 1913. С. 7—17; Финно-угры... 1987. С. 391).

У час паміж першай і другой сусветнымі войнамі даследаваннямі на тэрыторыі Панямоння, суседніх Дзісеніншчыны і Браслаўшчыны займаліся польскія археолагі. Так, імі былі працягнуты даследаванні могільніка каля в. Засвір (Jaskanis, 1962), раскапаны курганы (у тым ліку і з трупапалажэннямі)

каля в. Андрэеўцы (Hołubowicz, 1937). На жаль, матэрыялы большай часткі гэтых даследаванняў не ўведзены ў навуковы абарот (была апублікавана толькі археалагічная карта) (Голубович Е., Голубович В., 1945).

Пасля другой сусеетнай вайны даследаванні ўсходнелітоўскіх курганоў праводзіў Я. Г. Звяруга. Ім у 1973—1977 гг. быў раскапаны шэраг могільнікаў (Косаўшчына, Вайшкуны, Янава, Засвір, Сідарышкі, Лынтупы, Гарадок — усяго 47 насыпаў) (Белорусская археология, 1987. С. 109—110; Зверуго, 1989. С. 21—29). Ён жа першы пачаў на Беларусі даследаванні паселішчаў гэтай культуры (селішчы каля вёсак Засвір і Хведзевічы) (Зверуго, 1989. С. 54—57; Звяруга, Мядзведзеў, 1994). Матэрыялы часу культуры ўсходнелітоўскіх курганоў былі знойдзены Э. М. Зайкоўскім на селішчы каля в. Кемяны Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці (Зайкоўскі, 1994).

## Рассяленне. Паселішчы

У межах Беларусі помнікі ўсходнелітоўскіх курганоў сустракаюцца ў верхоўях Віліі і на правабярэжжы Нёмана ўздоўж мяжы з Літвой (мал. 96). Помнікі прадстаўлены перш за ўсё курганнымі могільнікамі. Яны размешчаны каля рэк і азёр. Колькасць насыпаў звычайна не была вялікай (да 20) і толькі ў некаторых выпадках складала больш за 100 (у канцы XIX ст. Лоша, Чорная Лужа — па 80, Засвір — каля 200, Лынтупы — зараз больш за 70) (Зверуго, 1989. С. 21). На Беларусі вывучана толькі тры неўмацаваныя паселішчы, якія адносяцца да гэтай культуры. Значныя даследаванні праводзіліся на селішчах каля вёсак Засвір і Хведзевічы. Абодва знаходзяцца на беразе возера Свір. Месцы, прыдатныя да жыцця, таму там пад час раскопак знаходзяць і крамянёвыя прылады працы. Лепей захавалася селішча каля в. Засвір (селішча Хведзевічы моцна пашкоджана могілкамі XV — XVIII стст.) (Зверуго, 1989. С. 54—57).

Селішча каля в. Засвір размяшчаецца на невялікім ўзвышшы сярод забалочанай нізіны. Побач знахозіцца вялікі могільнік (было да 200 насыпаў). Несумненна, жыхары селішча займаліся выплаўкай жалеза (знаходкі вялікай колькасці дзындры, а таксама абломкаў гліняных соплаў ад сырадутных горнаў).

Пад час раскопак межы жытлаў не ўдалося вызначыць. Аднак ў мацерыку выяўлена вялікая колькасць ям, у тым ліку слупавых. Таму можна сцвярджаць, што тут (як і на Хведзевічах) асноўным тыпам жытлаў былі наземныя слупавой канструкцыі. Знойдзены рэшткі трох чатырохвугольных ямы памерамі 1,5 × 2,4, 2 × 2 и 2 × 2,4 м пры глыбіні 0,3—0,5 м (верагодна, рэшткі майстэрань).

Былі знойдзены 5 печаў-каменак і 6 вогнішчаў. Печы мелі ў плане круглую форму дыяметрам 0,7—0,9 м. Рэшткі печаў-каменак былі выяўлены і на селішчы Хведзевічы. Вогнішчы выкладзены з пласта камянёў, якія ляжалі на праслойцы пяску магутнасцю 10—15см. Такія вогнішчы ёсць на гарадзішчах Літвы (Grigalavičiene, 1986. Pav. 7; Kulikauskas, 1982. Pav. 5) і Беларусі (гарадзішча каля г. п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна). Два вогнішчы захаваліся ў выглядзе гліняных пляцовак таўшчынёй 7—12 см круглай формы дыяметрам каля 1 м.

На селішчы Засвір было знойдзена каля паўсотні розных вырабаў з каменя, косці, металу і гліны (Зверуго, 1989. С. 55. Рис. 26) (мал. 130). Іх большасць падобна да знаходак з курганоў (абломак шыйнай грыўны, трапеца-

падобныя падвескі, пінцеты, нажы, абломак вузкалязовай сякеры, гліняныя праслiцы, 2 шкляныя пацеркі) (Звяруга, Мядзведзеў, 1994. С. 28—32. Мал. 1). Гэтыя рэчы дазваляюць дадаваць селішча ў межах IV—IX стст. (Звяруга, Мядзведзеў, 1994. С. 35). Знаходак з селішча Хведзевічы значна менш (жалезны серп, посахападобная шпілька, шылы, прясліцы і грузікі) (Зверуго, 1989. С. 57. Рис. 28).

Большую частку знаходак складае керамічны посуд. У комплексе селішча Засвір сустрэта шурпатая (аблітая), гладкасценная, штрыхаваная, пазногцевая і глянцаватая кераміка (мал. 131). Шурпаты посуд (гаршкі слоікавай формы) пераважае на паселішчы (51,7% усяго посуду). Сярод гладкасценнага посуду выдзяляюцца гаршкі прафіляванай формы, якія маюць аналогіі ў кераміцы славянскай культуры тыпу Лукі-Райкавецкай VIII—IX стст., а таксама посуд рабрыстай формы, якія мае аналогіі на позніх помніках культуры штрыхаванай керамікі Беларусі (IV—V стст.).

Штрыхаваны, пазногцевы (паверхня ўпрыгожвана пазногцевымі ўцісканнямі) посуд сустракаецца і на помніках Літвы.

Супастаўленне керамічнага комплексу з помнікамі суседніх тэрыторый больш ранняга часу дазваляе сцвярджаць, што насельніцтва, якое жыло на гэтых паселішчах, прыйшло сюды з захаду (з Літвы) (Звяруга, Мядзведзеў, 1994. С. 36). Носьбіты культуры штрыхаванай керамікі (папярэднікі на дадзенай тэрыторыі) у якасці субстрата увайшлі ў склад новай культуры ўсходнелітоўскіх курганоў.

## Пахавальны абрад

Насельніцтва хавала памерлых у курганах. Насыпы маюць у плане круглую форму дыяметрам 5—12 м і вышынёй 0,6—1,2 м (адзінкава сустракаюцца дыяметрам больш за 15 м і вышынёй звыш 1,5 м). Больш раннія курганы (IV—VIII стст.) маюць вянцы з камянёў рознай велічыні, якія ўкладаліся звычайна ў адзін рад (рэдка ў два). У некаторых выпадках камяні пакрываюць значную частку насыпу. У падножжа больш позніх насыпаў (IX—XII стст.) можна бачыць падоўжаныя (авальныя ці дугападобныя) ямы або неглыбокія равы (Зверуго, 1989. С. 21).

Для найбольш ранніх курганоў (IV—V стст.) характэрны пахаванні па абраду трупапалажэння. Памерлых клалі ў падкурганую яму. Адзіным могільнікам на Беларусі з пахаваннямі па гэтаму абраду з'яўляюцца Андрэеўцы (2 курганы з 16 даследаваных). Але, на жаль, гэтыя матэрыялы згублены.

У V ст. н. э. у культуры адбываецца змена пахавальнага абраду. На ўсёй тэрыторыі распаўсюджваецца звычай спалення памерлага (LAA, 1977. P. 177). Па знешняму выгляду гэтыя курганы не адрозніваюцца ад насыпаў з трупалажэннямі. На ўзроўні старажытнага гарызонту маецца праслойка чорнай зямлі з вугольчыкамі (ачышчэнне зямлі перад насыпаннем кургана) (Пільвіны, Паніззе, Рымшанцы, Чорная Лужа) (Покровский, 1899. С. 70—79, 100—125), прычым некаторыя насыпы мелі па дзве праслойкі (другая змяшчалася ў насыпы кургана) (Пільвіны, курган 13; Паніззе, курган 8). У кургане змяшчалі ад 1 да 3—5 пахаванняў. Памёршыя спальваліся ў другім месцы разам з пахавальным інвентаром. Потым спаленыя косці з рэшткамі інвентару змяшчаліся ў кургане як на ўзроўні старажытнага гарызонту (Засеір), так і ў ямах (Рымшанцы, Паніззе, курганы 4, 5; Чорная Лужа, курганы 1, 2, 5: пах. 2, 4—6, 10, 11). Ёсць выпадкі, калі пахаванні знаходзяцца ў насыпу (на другой

вугальнай праслойцы), ствараючы пахаванні ў два ярусы (Пільвіны, курганы 2, 3; Чорная Лужа, курганы 3, 6, 10). Пахаванні ў урнах на могільніках Беларусі не сустракаюцца.

Пры размяшчэнні на ўзроўні гарызонту пахаванні займалі плошчу ад 50 × 60 см да 100 × 120 см, для іх не характэрны каменныя канструкцыі (вымасткі) (выключэнне — Чорная Лужа, курган 6). Пры ямных пахаваннях рэшткі памерлых змяшчалі ў ямы памерамі 45 × 50, 45 × 55 см (Рымшанцы, курганы 1, 2, 4; Паніззе, курганы 4, 6; Чорная Лужа, курганы 1, 2). У такіх выпадках сустракаюцца канструкцыі ў выглядзе каменных скрынь (Чорная Лужа, курган 5: пах. 2, 4, 5), каменых вымастак ці асобныя камяні. Розныя тыпы пахаванняў сустракаюцца на адным могільніку і нават у адным кургане.

Курганныя могільнікі Беларусі ў нязначнай ступені адрозніваюцца ад астатніх помнікаў гэтай культуры. Так, для могільнікаў Усходняй Літвы характэрны пахаванні на ўзроўні старажытнага гарызонту. На Беларусі ж сустракаюцца ямныя пахаванні з каменнымі канструкцыямі ў выглядзе вымастак і скрынь. Гэтыя адметнасці (ямныя бязурнавыя пахаванні, каменныя канструкцыі) выяўлены ў каменных курганах Паўночна-Усходняй Польшчы (яцвягі другой паловы IV — першай паловы V ст. н. э.) (Медведев, 1996. С. 57).

## Пахавальны інвентар

Па набору рэчаў інвентар пахаванняў курганоў, як з трупапалажэннямі, так і з трупаспаленнямі, другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. амаль не адрозніваецца. У курганах з пахаваннямі па абраду трупаспалення рэчы пашкоджаны агнём. Частка рэчаў (наканечнікі дзідаў) пагнута, частка (бронзавыя рэчы, шкло) знішчана ў пахавальным вогнішчы. У склад пахавальнага інвентару ўваходзяць прадметы ўзбраення, прылады працы, упрыгожанні, рыштунак каня і вершніка.

У курганах з мужчынскімі пахаваннямі многа прадметаў ўзбраення. Амаль у кожным сустракаюцца наканечнікі дзідаў (1—2 ці нават 3). Гэта ў асноўным утулкавыя наканечнікі з лязом рамбавіднай, паўралістaвай (мал. 133:5, 15, 20), іваліставай, прафіляванай (Зверуго, 1989. Рис. 4:5, 15, 20; 7:1, 2, 5, 7; 8:6; 10:1), часам мечападобнай формы (Зверуго, 1989. С. 25. Рис. 6:7) (мал. 134:7), сустракаюцца двухшыпавыя (ОАБ, 1972. С. 49. Рис. 14:4) (тыпы I Г, II, III, IV Б, V, VII па В. Казакявічусу ) (Казакявичюс, 1988. С. 29—57), прычым наканечнікі з лязом мечападобнай формы і двухшыпавыя сустракаюцца толькі на помніках гэтай культуры (Казакявичюс, 1988. С. 41. Карта VII; С. 55—56. Карта XII).

Шырока былі распаўсюджаны і жалезныя правушныя вузкалязовыя сякеры (Зверуго, 1989. Рис. 4:2, 7,10, 12, 18; 6:5; 7:3; 10:8, 19) (мал. 133:2, 7, 10, 12, 18; 6:5). Форма іх паступова ўдасканальвалася (лязо рабілася шырэйшым, адтуліна для рукаяці — авальнай) (Зверуго, 1989. С. 25). Гэтыя сякеры маглі выкарыстоўвацца як ў якасці баявых, так і звычайных прылад працы. Да баявых, несумненна, адносяцца сякеры такой жа формы, але з арнаментацыяй (выразы па краях абуха і тулава) (сустракаюцца ў Літве) (Казакявичюс, 1986. С. 76—78). Баявымі лічацца сякеры са шчакавіцамі-выступамі з двух бакоў адтуліны (Будраны, курган 9; Смаргонь, курган 6, 8) (Казакявичюс, 1988. С. 79—60). Пазнай, у IX ст., распаўсюдзіліся сякеры з шырокім лязом (Зверуго, 1989. С. 27. Рис. 8:1).

Верагодна, у якасці зброі выкарыстоўвалі нажы(мал. 133:3, 8, 11, 13, 19; 6:6). Яны маюць звычайную форму, як і бытавыя, але адрозніваюцца боль-

шымі памерамі (даўжыня да 25 см). Іх часта знаходзяць у пахаваннях мужчын-воінаў (Зверуго, 1989. Рис. 4:3, 8, 13, 19; 6: 6). Выкарыстоўванне такіх нажоў у якасці баявых на Літве характэрна толькі для насельніцтва культуры ўсходнелітоўскіх курганоў (астатнія выкарыстоўваюць іншыя тыпы) (Казакявичюс, 1988. С. 82—92).

Толькі ў больш позні час (у канцы 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э.) на помніках Беларусі сустракаюцца знаходкі аднлязовых мячоў (Смаргонь і інш.) (Зверуго, 1989. С.26).

Комплексы знаходак з помнікаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў дазваляюць сцвярджаць аб стварэнні тут з V ст. н. э. асаблівага набору зброі (наканечнікі дзідаў, правушная сякера і баявы нож, які па форме нагадвае звычайны) (Мядзведзеў, 1996. С. 18) (мал. 133, 134). Гэта адрознівае яе носьбітаў ад астатняга насельніцтва Літвы, дзе шырока былі распаўсюджаны аднлязовыя мячы, баявыя нажы асаблівай формы і іншыя формы наканечнікаў дзідаў.

У некаторых пахаваннях знойдзены ўмбоны шчытоў з навершшамі як паўкруглай (Чорная Лужа, курган 10), так і цыліндрычна-канічнай формы (Засеір, курган 17, 1895 г.; курган 1, 1976 г.; Чорная Лужа, курган 6) (Зверуго, 1989. Рис. 4, 6—8, 10) (мал. 134:1). Такія формы таксама шырока распаўсюджаны ва Усходняй Літве (Казакявичюс, 1988. С. 119—129. Карта XVIII).

Рэчы рыштунку вершніка і каня прадстаўлены шпорамі, страмёнамі (для позняга часу), вудзіламі-псаліямі, вупражнымі кольцамі. Так, на могільніку Паніззе (курган 8) знойдзены дзве жалезныя шпоры, якія прымацоўваліся да абутку з дапамогай скураных раменьчыкаў. Самі раменьчыкі прымацоўваліся да шпоры з дапамогай пласцінкі і заклёпак з адваротнага боку дугі. На вяршыні дугі змяшчаўся канічны шып і адростак-кручок (мал. 132:8). Аналагічныя (па спосабу мацавання) шпоры знойдены ў «княжаскім» кургане на могільніку Таўрапіліс (Tautavičius, 1981. P. 26. Pav. 18) (Усходняя Літва) і каменным кургане Вільк'яўцініс (курган 6, пах. 3). Па знаходках у пахаваннях таксама і спряжак з В-падобнай рыфлёнай рамкай (Паніззе, Таўрапіліс) гэтыя шпоры можна датаваць часам да сярэдзіны V ст. н. э. (Бажан, Каргопольцев, 1989. С. 28).

Да рэчаў убору можна аднесці знаходкі ў пахаваннях рэштак ад паясоў, ад якіх захаваліся спражкі. Так, у курганах Беларускага Панямоння знойдзена многа жалезных спражак з В-падобнай рыфлёнай рамкай (9 экз. — Засвір, курган 2, пах. 1; 2 экз. курган 20; курган 1, пах. 2 (раскопкі 1976 г.); Піпьвіны, курган 5, пах. 1; Паніззе, курган 2, пах. 2; курган 8; Желядзь, курган 11; Чорная Лужа, курган 5, пах. 2) (мал. 132:5—7; 134:3). Вялікая колькасць такіх вырабаў была выяўлена як на могільніках культуры ўсходнелітоўскіх курганоў Літвы (15 экз.), так і на яцвяжскіх каменных курганах у Занямонні (Літва) (9 экз.) і Паўночна-Усходняй Польшчы (Сувалкія) (Медведев, 1996. С. 58).

Храналогія такіх спражак вывучана добра (Бажан, Каргопольцев, 1989. С. 28—35). Яны з'яўляюцца ў Цэнтральнай Еўропе ў час D (350—450 гг. н. э.) і выкарыстоўваюцца да пачатку VI ст. Па асаблівасцях формы, арнаменту вылучана 12 груп (I — XII) і вырабы з Беларусі адносяцца да групы V, якая датуецца V ст. н. э., і VIII (другая палова V ст. н. э.). Не выключана датаванне спражак з могільніка Засеір часам да сярэдзіны V ст. н. э. (Бажан, Каргопольцев, 1989. С. 29. Рис. 2:28, 29). Пазней, у VI—VII стст., маглі выкарыстоўвацца такія ж вырабы без рыфлення.

Больш спражак (26 экземпляраў з 33), выяўленых на могільніках культуры ўсходнелітоўскіх курганоў Літвы і Беларусі, знойдзены ў даволі багатых

пахаваннях разам з узбраеннем і рэчамі рыштунку вершніка (наканачнікі дзідаў, сякеры, баявыя нажы, шпоры). Маюцца і вельмі багатыя пахаванні (жалезны ўмбон шчыта, утулкавы наканечнік дзіды, правушная вузкалязовая сякера, баявы нож, спражка, два абломкі бронзавай спіралі) на могільніку Засвір (Зверуго, 1989. С. 25. Рис. 6) і ў «княжаскім» кургане (Таўрапіліс, курган 5) (Tautavičius, 1981. P. 18—31). Такім чынам, гэтыя вырабы можна лічыць як адну з дэталей касцюма мужчыны-воіна.

Акрамя таго, у больш позні час выкарыстоўвалі і спражкі другіх тыпаў (мал. 133:1, 6) (прамавугольнай з увагнутымі бакамі формаў) (Зверуго, 1989. Рис. 4:6; 10: 17, 18).

З найбольш характэрных упрыгожанняў адзначым бронзавыя шыйныя грыўны розных тыпаў (з седлападобнымі і плоскімі заходзячымі канцамі , вітыя з конусападобнымі), фібулы, бранзалеты з патоўшчанымі заканчэннямі, спіральныя пярсцёнкі, спіралькі, падвескі (у тым ліку трапецападобныя, бразготкі).

Вельмі важнымі для вызначэння храналогіі з'яўляюцца знаходкі арбалетных фібул розных тыпаў.

Так, на могільніку Жэлядзь знойдзены дзве бронзавыя фібулы з плоскай спінкай, якія можна датаваць другой паловай IV ст. н. э. (мал. 132:1—2) (Гороховский, 1988. С. 44). З могільніка Чорная Лужа (курган 3, пах. 2) паходзіць жалезная фібула, якая мае спінку з вузкай пласціны таўшчынёй 2 мм і шырынёй 8 мм (мал. 132:3). Такія вырабы знойдзены на могільніках гэтай жа культуры ў Літве (6 экз.) і ў пахаваннях каменных курганоў Паўночна-Усходняй Польшчы (11 экз.), дзе датуюцца ад мяжы IV—V стст. да пачатку VI ст. (Медведев, 1996а. С. 57—56). Адна такая фібула паходзіць з паселішча пражскай культуры ў с. Кадын на Валыні (Русанова, Тимощук, 1984. С. 21. Рис. 19:2).

Другі тып арбалетных фібул адрозніваецца тым, што яны маюць спінку з вітога стрыжня (Жэлядзь, курганы 7, 10, 11; Пільвіны, курган 2, пах. 2; Чорная Лужа, курган 2, пах. 1 — 5 экз.) (мал. 132:4). Такія ўпрыгожанні вядомы ў Літве і Паўночна-Усходняй Польшчы, а таксама на паселішчы Кадын-1 (1 экз.) (Русанова, Тимощук, 1984. С. 21. Рис. 19:1). Яны датуюцца V ст. н. э. (Медведев, 1996. С. 58).

Трэба адзначыць, што з 16 вядомых фібул 12 экземпляраў былі знойдзены ў багатых пахаваннях (разам са зброяй) могільнікаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў Літвы і Беларусі. Такім чынам, яны таксама належалі да адзнак мужчын-воінаў.

Прылады працы прадстаўлены жалезнымі сярпамі (часта так званага літоўскага тыпу з адагнутым уверх вастрыём) (ОАБ, 1972. С. 49. Рис. 14:16; LAA, 1978. P. 149. Žem. 67), нажамі, шыламі, а таксама гліnянымі прасліцамі. Зрэдку ў склад пахавальнага інвентару ўваходзіць кераміка (гаршкі і місы).

## Датаванне. Перыядызацыя

Большасць даследчыкаў датуе помнікі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў у межах IV—XII стст. (Зверуго, 1989. С. 24—25; Финно-угры... 1987. С. 392—393; LAA, 1977. P. 177). Выказана меркаванне аб тым, што пачатак культуры можна датаваць больш ранnім часам (C1a, ці III ст. н. э.). Так датуецца частка ранніх комплексаў (па манжэтападобных бранзалетах, падкованападобных фібулах з эмаллю) у Літве (Nowakowski, 1995. S. 77—78).

Па асаблівасцях пахавальнага абраду і знаходках рэчаў выдзяляюцца тры перыяды ў гісторыі дадзенай культуры. Для першага этапу (IV—V стст. н. э.) характэрны пахаванні па абраду трупапалажэння, зробленыя ў ямах пад насыпам кургана. У пахавальнам інвентары мужчын выяўлены жалезныя вырабы (нож, вузкалязовая правушная сякера, наканечнікі дзідаў, умбон шчыта, часам меч). Сустракаюцца жалезныя спражкі, зрэдку ўпрыгожанні (шыйная грыўна, бранзалеты, фібула). Ёсць выпадкі знаходак шпор і рытонаў для піцця. У жаночых пахаваннях сустракаецца больш упрыгожанняў. Рэдкія сярод іх упрыгожанні з выемчатай эмаллю (луніцы) (Зверуго, 1989. С. 21—22; LAA, 1977. P. 177). У курганах Літвы побач з нябожчыкам-мужчынам часам хавалі і каня. Помнікі гэтага перыяду на Беларусі амаль не вядомы. Тут акрамя вышэйзгаданых курганоў з трупапалажэннем каля в. Андрзеўцы трэба адзначыць знаходку манжэтападобнага бранзалета з в. Начы (Археалогія... 1993. С. 461). Гэты тып бранзалетаў характэрны для ранніх усходнелітоўскіх курганоў Літвы (LAA, 1978. P. 148. Žem. 53).

Для другога этапу (V—VIII стст.) характэрны пахаванні па абраду трупаспалення. Па знешняму выгляду яны не адрозніваюцца ад папярэдніх (наяўнасць каменнага вянца ў аснаванні кургана). У пахаваннях мужчын адзначаны знаходкі зброі, у жаночых — упрыгожанні і прылады працы (LAA, 1977. P. 177—178). Азначым звычай змяшчэнння ў курган пахаванняў каня. Асноўная частка курганоў гэтай культуры на Беларусі з'яўляецца толькі ў перыяд з мяжы IV—V стст. н. э., не выключна яе датаванне і апошняй чвэрцю IV ст. н. э. (Мядзведзеў, 1996. С. 17).

Для курганоў IX—XII стст. характэрны насыпы з раўкамі ў падэшвы. У гэты час скарачаецца ўжыванне звычаю класці ў курганы зброю (выключэнне — толькі багатыя пахаванні). На змену вузкалязовым сякерам прыйшлі шыроколязовыя. Памяншаецца колькасць пахавальнага інвентару. Звычай насыпаць курганы знікае ў XII ст. (магчыма, у пачатку XIII ст.) (LAA, 1977. P. 178).

## Паходжанне і гістарычны лёс. Этнічная прыналежнасць

У 1-м тысячагоддзі да н. э. і першай палове 1-га тысячагоддзя н. э. арэал культуры ўсходнелітоўскіх курганоў быў часткай вялікага абшару насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі. Таму пытанне паходжання культуры курганоў у многім звязана з пытаннем суадносін паміж гэтымі дзвюма культурамі.

У літаратуры выказана думка, што культура курганоў ўзнікла на выснове культуры штрыхаванай керамікі (Волкайте-Куликаускане, 1979). Думку аб удзеле носьбітаў гэтай культуры ў фарміраванні культуры курганоў падтрымліваюць таксама В. В. Сядоў (Седов, 1970. С. 22—23; Финно-угры... 1987. С. 395) і А. Таўтавічус (Таутавичюс, 1959. С. 144). Яны толькі выказваюць розныя меркаванні наконт тэрыторыі, адкуль прыйшло насельніцтва, якое мела звычай насыпаць курганы, і лічаць, што гэта магло быць насельніцтва з поўначы Літвы (Финно-угры... 1987. С. 395). Але А. Таўтавічус выказвае думку, што прычынай змены пахавальнага абраду мог быць уплыў з поўдня, ад яцвягаў (Таутавичюс, 1959. С. 135). Па В. В. Сядову, прычынай гэтай перамены былі ўплывы носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі, якія ў далейшым асімілявалі прышэльцаў (Финно-угры... 1987. С. 395).

У сваю чаргу Ф. Д. Гурэвіч сцвярджае, што культура курганоў узнікае на выснове старажытнасцей насельніцтва, якое прыйшло з Цэнтральнай і

Паўночнай Літвы, і носьбіты культуры штрыхаванай керамікі ў гэтым працэсе ўдзелу не прымалі (Гуревич, 1952. С. 36).

Усе вышэйзгаданыя меркаванні звязаны з тым, што раней пачатак культуры датаваўся IV ст. н. э. Але магчыма і больш ранняе датаванне (III ст.) з'яўлення першых курганоў на Літве (Nowakowski, 1995. S. 77—78). Такім чынам, нават на тэрыторыі Літвы назіралася суіснаванне дзвюх культур, паколькі культура штрыхаванай керамікі там знікае толькі ў IV ст. н. э. (LAA, 1975. P. 222). Несумненна, гэта датычыць і Беларусі, дзе помнікі культуры штрыхаванай керамікі існуюць нават да сярэдзіны V ст. н. э. (Медведев, 1996. С. 45—46).

А. Мядзведзеў лічыць, што асноўную ролю ў фарміраванні культуры адыгралі прышэльцы з паўднёвага захаду, яцвягі з тэрыторыі Паўночна-Усходняй Польшчы. Працэс знікнення культуры штрыхаванай керамікі і прыходу новага насельніцтва быў паступовы. Вызначана тры хвалі міграцыі насельніцтва. Першапачаткова (у IV, магчыма, III ст. н. э.) помнікі культуры (курганы з трупапапажэннямі) з'яўляюцца на захадзе, ва Усходняй Літве. Пад час другой хвалі (другая палова IV ст. н. э.) яе носьбіты пранікаюць на Беларусь (да ваколіц воз. Свір). Усё гэта звязана з падзеямі Вялікага перасялення народаў (Мядзведзеў, 1996. С. 16—18). Насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі ўвайшло у склад культуры курганоў у якасці субстрата.

Вызначэнне лёсу насельніцтва дадзенай культуры цесна пераплецена з пытаннем вызначэння іх этнічнай прыналежнасці. Так, большасць даследчыкаў лічаць носьбітаў гэтай культуры літоўцамі (Зверуго, 1989. С. 28—29), некаторыя адносяць іх да аўкштайтаў (Ф. Д. Гурэвіч, Р. Валкайтэ-Кулікаўскене, П. Кулікаўскас) ці ўсходніх аўкштайтаў (Валкайтэ-Кулікаўскене) (LAA, 1977. P. 178). Таму пераважае думка, што носьбіты гэтай культуры паклалі пачатак фарміравання літоўцаў, якія вядомы па пісьмовых крыніцах эпохі Старажытнай Русі. Не выключана, што група носьбітаў гэтай культуры, якая жыла на Беларускім Панямонні (басейн Віліі), склала падставу для фарміравання гістарычнай вобласці Нальшаны (Медведев, 1996. С. 59)

*Мал. 96. Карта помнікаў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. на тэрыторыі Беларусі. Умоўныя абазначэнні: 1 — гарадзішчы; 2 — даследаваныя гарадзішчы; 3 — селішчы; 4 — курганы; 5 — месцазнаходжанні; 6 — грунтавыя могільнікі*

*1 — г. Браслаў; 2 — Укля; 3 — Пруднікі; 4 — Кухцінцы; 5 — Язна; 6 — Урагава; 7 — Чапаеўскі; 8 — Межава; 9 — Амосенкі; 10 — г. Полацк; 10а — Барсукі; 10б — Гаравыя; 10в — Янкавічы; 11 — Пліса; 12 — Сеіла-1; 13 — Варганы; 14 — Азерцы; 15 — Ворань; 16 — Бароўна; 17 — Камень; 18 — Кастрыца; 19 — Куляшы; 20 — Бярозна; 21 — Бяскатава; 22 — Вышадкі; 23 — Казінава; 24 — Кісялі; 25 — Лужасна; 26 — Старое Сяло; 27 — г. Віцебск; 28 — Баронікі; 29 — Раніна; 30 — Езярышча; 30а — Дарахі; 31 — г. Сянно; 32 — Задраўе; 33 — Чаркасава; 34 — Дняпроўка; 35 — Гараны; 36 — Ляўкі; 37 — Лукомль; 37а — Мікольцы; 38 — Некасецк; 39 — Равячка; 40 — Равячка; 41 — Курчына-1; 42 — Курчына-2; 43 — Курчына-3; 44 — Гарадзішча; 45 — Речкі; 46 — Сосенка; 47 — Васількоўка; 48 — Старое Гарадзішча-1; 49 — Старое Гарадзішча-2; 50 — Дзядзілавічы; 51 — Крынічкі; 52 — Малы Стахаў; 53 — Дудзінка; 54 — Глівін; 55 — Чарнікоўшчына; 56 — Каменка; 57 — Гарадзішча; 58 — Царкавішча; 59 — Янава; 60 — Барклабава; 61 — Ніжняя Тошчыца; 62 — Лазарэвічы; 63 — Тайманава; 64 — Селец; 65 — Вілехаўка; 66 — Шчаткава; 67 — Сіманавічы; 68 — Шышова; 69 — Угляны; 70 — Уладычыца; 71 — Блювінічы; 72 — Спорава; 73 — Камень-6; 74 — Сошна; 75 — Лапацін; 76 — Востраў; 77 — Кажан-Гарадок; 78 — Лахва; 79 — Хорск; 80 — Лядзец; 81 — Харомск; 82 — Бережное; 83—85 — Хотамель; 86 — Атвержычы (хутар Лібліна); 87 — Столін; 88—90 — Вікаравічы; 91 — Ямнае; 92—93 — Струга; 94—95 — Верхні Церабяжоў; 96—97 — Ніжні Церабяжоў; 98 — хутар Бухлічы; 99 — Бухлічы; 100—101 — Вароніна; 102 — Доўгая Дуброва; 103 — Верасніца; 104 — Вароніна; 105 — Буразі; 106 — Хільчыцы; 107—108 — Чэрнічы; 109 — Семурадцы; 110 — Хлупін; 111—114 — Снядзін; 115 — Беляны; 116 — Турок; 117 — Макарычы; 118 — Петрыкаў; 119 — Бяланавічы; 120 — Навасёлкі; 121 — Шастовічы; 122 — Ліпляны; 123 — Шарэйкі; 124 — Града; 125 — Слабада; 126 — Юравічы; 127 — Калочын; 128 — Насовічы; 129 — Гомель; 130 — Калінаўка (Целяшы); 131 — Дзям'янкі; 132 — Новыя Грамыкі; 133 — Залатаміно; 134 — Прудок; 135 — Нісімкавічы; 136 — Колас; 137 — Хадосавічы; 138 — Каласы; 139 — Шчаткава; 140 — Ніжняя Тошчыца; 141 — Новы Быхаў; 142 — Вароніна; 143 — Тайманава; 144 — Майшулі; 145 — Ахрэмаўцы; 146 — Опса; 147 — Далёкія; 148 — Галбея; 149 — Пынтупы; 150 — Янава; 151 — Вайшкуны; 152 — Саранчыцы; 153 — Будраны; 154 — Жэлядзь; 155 — Падкасцёлак; 156 — Ядабор-1; 157 — Ядабор-2; 158 — Перавознікі; 159 — Савішкі; 160 — Сіранкі-1; 161 — Сіранкі-2; 162 — Пільвіны-1; 163 — Пільвіны-2; 164 — Сідарышкі; 165 — Алёшкі; 166 — Засвір; 167 — Засвір; 168 — Каценавічы; 169 — Мацкі; 170 — Паніззе; 171 — Хведзевічы; 172 — Выгаліенты; 173 — Чорная Лужа; 174 — Андрэеўцы; 175 — Поша-1; 176 — Поша-2; 177 — Палушы; 178 — Гускі; 179 — Смаргонь; 180 — Клявіца-1; 181 — Клявіца-2; 182 — Маркіняты; 183 — Скірдзімы; 184 — Мантацішкі; 185 — Косаўшчына; 186 — Крывічы*

*Помнікі банцараўскай культуры (1—56).*
*Помнікі тыпу Прага-Карчак (68—122).*
*Помнікі калочынскай культуры (123—143).*
*Помнікі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў (144—186).*
*Помнікі культуры ранніх доўгіх курганоў (10 б, 10 в, 30 а)*




*Мал. 97. Планы і разрэзы жытлаў (1—2) і металургічных печаў (3—5) з паселішчаў Струга-1 і Снядзін-2*




*Мал. 98. Ляпная кераміка пражскай культуры з пасепішчаў Востраў (1—2), Снядзін-2 (3—7), Петрыкаў (8) (па А. А. Егарэйчанку і В. С. Вяргей)*



*Мал. 99. Ляпная кераміка пражскай культуры з селішчаў Снядзін-2 (1, 3, 4, 6), Петрыкаў (5, 9), Востраў (7) і ніжняга пласта гарадзішча Хотамель (2, 8) (па В. С. Вяргей, А. А. Егарэйчанку, Ю. У. Кухарэнку)*




*Мал. 100. Ляпная кераміка пражскай культуры з гарадзішча Хотамель (1, 13—16), селішчаў Струга-1 (2, 6, 8), Петрыкаў (4, 11), Снядзін-2 (7, 10), Камень-6 (9, 12), Кажан-Гарадок (3, 5) (па Ю. У. Кухарэнку, В. С. Вяргей, У. Ф. Ісаенку, М. Ф. Гурыну)*




*Мал. 101. Гліняныя праслііцы з помнікаў пражскай культуры: Струга-1 (1, 2, 4, 5), Кажан-Гарадок (3, 12), Блювінічы (6), Снядзін-2 (7—11) (па В. С. Вяргей і М. Ф. Гурыну)*




*Мал. 102. Жалезныя вырабы з помнікаў пражскай культуры (Снядзін-2 (1, 2, 4—10). Бухліцкі хутар (3)): нажы (1—2, 10); крэсівы (3—4); шылы (5—7); прабойнік (8); колца (9)*




*Мал. 103. Рэчы з помнікаў пражскай культуры (Востраў (1, 13), Хотамель (2), Камень-6 (3), Струга-1 (4, 5), Снядзін-2 (6—8, 10—12, 16—17), Блювінічы (9), Хорск (14), Бухліцкі хутар (15)): наканечнік дроціка (1); наканечнікі стрэл (2—6); колцы (7, 8, 16, 17); спражкі (9—12, 14); фібулы (13, 15); язычок спражкі (11); накладка (10)*




*Мал. 104. Рэчы з помнікаў пражскай культуры (Снядзін-2 (1—2, 4—7, 10—11, 14—15, 19), Струга-1 (3, 6—9, 12—13, 17—18), Востраў (16), хлябцы (1—3)): тачыла (4); гліняныя сасудзікі (5—7); пацеркі (8—19)*




*Мал. 105. Ляпная кераміка з помнікаў культуры тыпу Лукі-Райкавецкай: гарадзішча (5, 16—16, 22—24) і селішча (1, 3—4, 6—13, 17, 19, 21, 25). Гарадзішча, селішча Курадава (2, 6, 14, 20)*




*Мал. 106. Жалезныя вырабы з помнікаў культуры тыпу Лукі-Райкавецка0 (Хотамель (4—7, 9—10, 13), Гарадзішча (1, 3, 6, 12), Скорбічы (2, 11)): нажы (1—3, 8); восці (4—7); сашнікі (9—10); сярпы (11—12); чарэслы (13)*




*Мал. 107. Рэчы з помнікаў культуры тыпу Лукі-Райкавецкай (Гарадзішча (2, 7, 8—11), Хотамель (5—6), Скорбічы (1, 3)): замок (1); ключ (3); вушка ад вядра (2); відэлец (4); крэсівы (5—6); тачыльныя камяні (7—8); блешня (9); тыгель-льячка (11)*




*Мал. 108. Рэчы з помнікаў культуры тыпу Лукі-Райкавецкай (Гарадзішча (1—6, 8, 10—11, 13, 14—15), Хотамель (7, 9, 12), Курадава (3—4, 16—18)): падвескі (1—3); пярсцёнак (6); бранзалеты (5, 13); скроневае копца (7); спражкі (9—12); пацеркі (4, 14—16); бразготка (17); званочак (18)*




*Мал. 109. Прадметы ўзбраення з помнікаў культуры тыпу Лукі-Райкавецкай (Хотамель (1—10, 13 ,16, 17—19, 20—21), Гарадзішча (11—12, 15), Чэрнічы (14)): наканечнікі стрэл (1—16); наканечнікі дзідаў (17—19); цуглі (20); пласціна ад панцыра (21)*




*Мал. 110. Класіфікацыя калочынскай керамікі Беларускага Падняпроўя: а — гаршкі і карчагі (рымскімі лічбамі пазначаны тыпы, арабскімі — падтыпы); б — міскі, в — патэльні і дыскі*




*Мал. 111. Інвентар калочынскіх помнікаў: 1, 3—6, 9, 10, 12, 13, 15 — гарадзішча Калочын-1; 2 — селішча Калочын; 7, 8 — Дзям'янкі; 11 — селішча Гомель; 14 — Насовічы (1—10, 12—13 — чорны метал, 11 — каляровы метал, 14 — гліна)*




*Мал. 112. Калочынскія жытпы (1—4), пахаванні (5—6) і ляпная кераміка з пахаванняў (7—9): 1 — Нісімкавічы-2, лаб. 1; 2 — Нісімкавічы-2, лаб. 2; 3 — Насовічы, лаб. 1; 4 — селішча Калочын, жыт. 1; 5 — Колас, кург. 1; 6 — Ніжняя Тошчыца, лах. 1, 7, 9; 7 — Дзям'янкі, грунтавое пахаванне пад кург. 14; 8 — Колс, кург. 1; 9 — Ніжняя Тошчыца, пах. 1 (а — вугаль, зала, абгарэлае дрэва, б — пляма ад агменя, в — камяні, г — спаленыя косці, д — фрагменты керамікі)*




*Мал. 113. План Банцараўскага гарадзішча (па Л. С. Клейну, 1946)*



*Мал. 114. Селішча Гарадзішча. Раскопкі жытла № 6*




*Мал. 115. Планы наземных (1—7 — селішча Гарадзішча) і паглыбленых (8—12 — селішча Дзядзілавічы) жытлаў (па А. Р. Мітрафанаву). Умоўныя абазначэнні: 1 — жоўты пясок; 2 — цёмна-жоўты пясок; 3 — чорны пласт; 4 — жоўты пясок з вуглямі; 5 — шэры і цёмна-шэры пясок; 6 — жоўта-карычневы пясок; 7 — жоўта-шэры пясок; 8 — цёмна-карычневы з вуглямі; 9 — жоўта-шэры з вуглямі; 10 — жоўты з чорнымі плямамі*




*Мал. 116. Тыпы пахаванняў у могільніках з трупаспаленнем культуры тыпу Банцараўшчыны (па В. Б. Перхаўку)*




*Мал. 117. Жалезныя сярпы 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.: 1—2 — селішча Гарадзішча; 3—12 — гарадзішча Гарадзішча; 13 — селішча Дзядзілавічы*



*Мал. 118. Вырабы з жалеза банцараўскай культуры: 1,5,8,10,12 — селішча Гарадзішча; 2,3,6,7 — селішча Равячка; 9,11,14—20 — гарадзішча Гарадзішча; 13 — селішча Дзядзілавічы*




*Мал. 119. Зброя і рыштунак вершніка банцараўскай культуры: 1, 14 — селішча Гарадзішча; 2, 8 — гарадзішча Казінава; 3, 4, 6, 7, 11 — гарадзішча Нікедзімава; 5 — гарадзішча Свіла-1; 9, 15, 16 — Кастрыца; 13 — гарадзішча Гарадок*



*Мал. 120. Дэталі вопраткі і ўпрыгожанні: 1, 2, 5, 6 — гарадзішча Нікадзімава; 3, 4, 8, 11 — селішча Мікольцы; 7, 10 — гарадзішча Банцараўшчына (верхні пласт); 9, 14—16 — селішча Гуры; 12, 13, 28 — селішча Дзядзілавічы; 17—20, 22—27 — селішча Гарадзішча; 21 — гаргдзішча Гарадзішча*




*Мал. 121. Гліняныя гаршкі банцараўскай культуры: 1, 6, 9, 12, 13 — селішча Дзядзілавічы; 2 — селішча Гарадзішча; 3 — з пгх. 1 селішча Равячка (па А. Р. Мітрафанаву); 4, 5, 7, 8, 10, 11, 14—17, 19, 20, 22—26 — гарадзішча Банцараўшчына (па А. М. Ляўданскаму)*



*Мал. 122. Гліняныя прасліцы банцараўскай культуры: 1—7 — гарадзішча Гарадзішча; 8—20, 35 — селішча Гарадзішча; 21—27 — селішча Дзядзілавічы; 28—34—36, 31 — селішча Гуры*




*Мал. 123. Курганны могільнік каля в. Рудня Расонскага раёна: 1—3 — даследаваныя курганы*




*Мал. 124. Янкавічы, Павалішынскі могільнік. План падоўжанага кургана 3: 1—4 — трупаспаленні*




*Мал. 125. Рэчы з раскопак курганоў Павалішынскага могільніка каля в. Янкавічы: 1—4 — з курагана 2; 5—16 — з кургана 3*



*Мал. 126. Бельчыца. Курган 11. Кераміка з расчосамі з культурнага пласта пад насыпам (фотаздым.)*




*Мал. 127. Дарахі. Рэчы з курганоў з трупапаленнем: 1—10 — знаходкі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н э.: 11—19 — інвентар курганоў канца VIII—IX ст. (1—3, 6, 8, 9, 10 — жалеза; 5, 11—14 — бронза; 4, 15 — шкло; 7 — косць; 19 — гліна)*



*Мал. 128. Янкавічы. Атокінскі могільнік. Знаходкі з кургана 1, пахавання 2 (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя н. э.): 1—22, 23 — бронза, 24—27 — косць, 28—29 — крэмень*




*Мал. 129. Ляпныя пасудзіны з курганоў Беларускага Падзвіння трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н .э.: 1 — Янкавічы (Атокі); 3—4 — Павапішына; 2, 5, 6—11 — Дарахі*




*Мал. 130. Знаходкі з селішча Засвір: 1 — шпілька, 2 — грыўна (фрагмент); 3 — трапецападобная падвеска; 4, 5 — спіралі; 6, 7 — пінцэты; 8, 9 — лыжкарэзы, 10 — блешня, 11, 12 — кручок; 13 — цуглі (фрагмент); 14—16 — нажы; 17—18 — крэсівы; 19 — абломак ляза сякеры; 20 — тыгель; 21—25 — праслiцы*




*Мал. 131. Керамічны посуд з селішча Засвір: 1 — штрыхаваны; 2 — шурпаты («аблітьі»); 3, 6 — гладкасценны; 4 — глянцаваты; 5 — з пазногцевым арнаментам*




*Мал. 132. Знаходкі з ранніх курганоў (IV—V стст. н. э.) (па Ф. У. Пакроўскаму): 1—4 — фібула; 5—7 — спражкі з В-падобная рыфлёная рамкай; 8 — шпора (1 — Желядзь, кург. 1; 2 — тамсама, кург. 4; 3 — Чорная Лужа, кург. 2, пах. 1; 4 — тамсама, кург. 2, пах.1; 5 — Засвір, кург.2. пах. 1; 6—7 — тамсама, кург. 20; 8 — Паніззе, кург. 8)*



*Мал. 133. Інвентар з курганоў каля в. Засвір (па Я. Г. Звяругу): 1, 6 — спражкі; 2, 7, 10, 12, 18 — сякеры; 3, 8, 11, 13, 19 — нажы; 4, 9, 14, 16, 17 — спіралькі; 5,1 5, 20 — наканечнікі дзід*




*Мал. 134. Рыштунак мужчыны-ваяра з могільніка Засвір (курган 1, пах. 2) (даследванні Я. Г. Зверугі 1976 г.): 1 — умбон шчыта; 2, 4 — спіралькі; 3 — спражка з В-падобнай рыфлёнай рамкай; 5 — вузкалязовая сякера; 6 — нож; 7 — наканечнік дзіды*

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Даследаванне археалагічных матэрыялаў жалезнага веку і ранняга сярэднявечча адлюстравала складанасць і шматграннасць этнакультурных і сацыяльна-эканамічных працэсаў, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў гэты перыяд. Яшчэ далёка не ўсе звёны гэтых працэсаў паддаюцца дастаткова здавальняючаму асвятленню, што абумоўлена ў адных выпадках недахопам надзейных крыніц, у іншых — складанасцямі іх інтэрпрэтацыі. Натуральна, шмат якія пытанні гістарычнага развіцця старажытнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі выклікаюць дыскусіі і супярэчлівыя погляды, што знайшло сваё адлюстраванне і на старонках гэтага тома. На сучасным узроўні ведаў схема этнакультурных з'яў у іх найбольш агульных рысах і храналагічнай паслядоўнасці выглядае наступным чынам.

У першай палове 1-га тысячагоддзя да н. э. тут склаліся тры ўстойлівыя группоўкі плямёнаў. У Падзвінні і Верхнім Падняпроўі рассяліліся плямёны днепра-дзвінскай культуры, Панямонне і Сярэднюю Беларусь заняло насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі, а поўдзень і паўднёвы ўсход краіны, Папрыпяцце, сярэдняя і ніжняя Бярэзіна, Гомельскае Педняпроўе, Пасожжа ўвайшлі ў арэал распаўсюджаання плямёнаў мілаградскай культуры. Усе названыя групоўкі плямёнаў мелі шмат агульных рыс у характары матэрыяльнай культуры, тэмпах развіцця, структуры сацыяльна-эканамічнай мадэлі. Асабліва гэта датычыць дзвюх паўночных культур, для насельніцтва якіх упасцівыя ўмацаваныя паселішчы з доўгімі, шматсекцыйнымі наземнымі дамамі па краях пляцоўкі, адсутнасць у пачатку іх развіцця жалезных рэчаў і шырокае выкарыстанне вырабаў з каменю, косці і рога жывёл. Культурнае размежаванне найбольш выразна адлюстравана ў кераміцы. У прадстаўнікоў днепра-дзвінскай культуры пераважаюць адносна невысокія слабапрафіляваныя сасуды, зрэдку ўпрыгожаныя арнаментам, а «штрыхавікі» выраблялі ў асноўным посуд баначнай альбо слабапрафіляванай формы са штрыхаванай паверхняй. Пахавальны абрад абедзвюх культур застаецца археалагічна няўлоўным. Для мілаградскай культуры характэрны не толькі гарадзішчы, але і селішчы, размешчаныя побач з умацаванымі паселішчамі альбо асобна ад іх. Выяўлены і мілаградскія пахаванні, выкананыя па абраду трупаспалення ў невялікіх грунтавых ямках, зрэдку трупапалажэнні пад курганнымі насыпамі. З сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. і пазней дынаміка культурных працэсаў ускладняецца. Плямёны культуры штрыхаванай керамікі пачынаюць пашыраць свой арэал у паўднёвым і паўднёва-ўсходнім накірунках і да канца 1-га тысячагоддзя займаюць вярхоўі паўночных прытокаў Прыпяці (рэкі Лань, Случ, Пціч), басейн Бярэзіны і ў раёне Рагачова выходзяць на ўзбярэжжа Дняпра. Насельніцтва мілаградскай культуры, якое жыло ў гэтых рэгіёнах, было пастулова асіміляванa «штрыхавікамі». У той

жа час у паўночна-заходні рэгіён культуры штрыхаванай керамікі (Паўночна-Заходняя Беларусь) пачынае прасочвацца іншакультурнае насельніцтва, прадстаўленае грунтавымі могільнікамі тыпу Нача. На Заходнім Палессі да р. Гарынь у VI — III/II стст. да н. э. рассяляюцца плямёны паморскай культуры, якая сфарміравалася ў VII ст. да н. э. на тэрыторыі Паўночна-Заходняй Польшчы. Яна прадстаўлена селішчамі і грунтавымі могільнікамі з абрадам трупаспалення. Нельга сказаць, што старажытныя плямёны Беларусі былі поўнасцю ізаляваны ад культурных цэнтраў тагачаснай Еўропы. Хоць і не ў вялікай колькасці ў археалагічных матэрыялах выяўлены рэчы імпартнага паходжання альбо выкананыя ў рэчышчы немясцовых традыцый. Напрыклад, у арэале «штрыхавікоў» і «днепра-дзвінцаў» выяўлены кельты меларскага тыпу, на тэрыторыі мілаградскай і днепра-дзвінскай культур знойдзены ўпрыгожанні і зброя, паходжанне якіх звязана з Прычарнамор'ем, Скіфіяй або латэнскімі культурамі Сярэдняй Еўропы.

Значныя змены ў культурным развіцці старажытнага насельніцтва Беларусі адбываюцца на рубяжы эр. Дасягаюць росквіту і працягваюць існаванне культуры штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і помнікі тыпу Начы, а на поўдні краіны сітуацыя карэнным чынам мяняецца. На рубяжы III—II стст. да н. э. з'яўляюцца помнікі зарубінецкай культуры, якія распаўсюджваюцца па ўсёй тэрыторыі, занятай да гэтага мілаградскімі плямёнамі, і выходзяць за яе межы ў паўночна-ўсходнім, паўночным і ўсходнім накірунках. Рассяленне прадстаўнікоў зарубінецкай культуры прывяло да парушэння стабільнасці, якая назіралася амаль на працягу шасці стагоддзяў. Даследчыкі адзначаюць вялікую ролю паморскай культуры ў фарміраванні зарубінецкіх старажытнасцей. Па ўсяму арэалу свайго распаўсюджвання зарубінецкая культура выступае як даволі аднастайны масіў. Але розныя субстратныя падасновы абумовілі яе пэўныя лакальныя асаблівасці. Так, на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі вылучаны палескі і верхнедняпроўскі варыянты зарубінецай культуры. Найбольш адчувальна мілаградскі субстрат прасочваецца ў культуры насельніцтва верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры. Сітуацыя ў гэтым рэгіёне ўскладнялася інфільтрацыяй з боку плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі, што прывяло да складвання ў Пасожжы своеасаблівай чачэрскай групы верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры. У 40—70-я гады у выніку розных прычын старажытнасці зарубінецкай культуры ахоплівае крызіс, што прыводзіць да масавых міграцый яе насельніцтва ў розных накірунках. Па-за межамі класічнай зарубінецкай культуры пры ўдзеле яе нашчадкаў ствараецца шэраг позназарубінецкіх супольнасцей, якія існуюць ў канцы I — II ст. н. э. Плямёны чачэрскай групы прынялі ўдзел у фарміраванні помнікаў тыпу Грыні-Ваўкі, якія зафіксаваны ў нізоўях р. Цецераў, на Дняпры пад г. Каневам, а таксама ў басейнах рэк Псёл, Ворскла і Сіверскі Данец. Іншыя групы верхнедняпроўскага насельніцтва зарубінецкай культуры спрычыніліся да фарміравання помнікаў тыпу Почап у Падзясенні. Сляды нашчадкаў палескага варыянта прасочаны непадалёк ад Ваўкавыска на р. Рось, а іншая частка іх мігрыравала на поўдзень, на Заходнюю Валынь, у басейны верхняга Днястра і Паўднёвага Буга. На рубяжы II—III стст. н. э. на змену помнікам позназарубінецкага тыпу прыходзяць старажытнасці кіеўскай культуры III—V стст. н. э., якія ўтвараюць чатыры лакальныя варыянты. Верхнедняпроўскі варыянт уключае беларускія тэрыторыі на Ніжняй Бярэзіне, Гомельскае Падняпроў'е і Пасожжа. Для кіеўскай культуры характэрныя без знешніх прыкметаў могільнікі з абрадам трупаспалення, у матэрыяльнай культуры прасочваецца правінцыяльна-рымскі імпарт.

